МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ГОМЕЛЬСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ

# СЛОЎНІК
## МОВЫ
## ЯНКІ КУПАЛЫ

У ВАСЬМІ ТАМАХ

## Том 8

**Кніга 2**
**С–Я**
**(ДАДАТАК)**

**Гомель**
**ГДУ імя Ф. Скарыны**
**2012**

# С

**С** (28) і **СО** (2) *прыназ. Руск.* з *Р.* і *Т.* Спалучэнне з прыназоўнікам "с" выражае:

**1.** Прасторавыя адносіны (4) з *Р. Тое, што* з *у* І *знач. Да багатай пани и афицера, каторые только што вышли с карэты, падашла дзеўчынка...* ПДз. // Ужываецца пры абазначэнні месца, дзе знаходзіцца прадмет. *Тая трэцяя* [літара]*, а з ёй і другая с чыну Прыгадзіцца мне на стол і на дамавіну.* $Ш_1$. // Ужываецца пры абазначэнні месца, з паверхні якога што-н. аддзяляецца. *А душа сама без хаты, Знаць, з вялікай мукі, То зрывае с сябе шаты, То ў крыж зложэ рукі..* Дз, 191. Т, 47.

**2.** Часавыя адносіны (2) з *Р. Тое, што* з *у 3 знач. Даўно ўжо, даўно ўжо с пары тэй былой Сталецьцяў мінула не мала..* ПН, 46.

**3.** Ужываецца ва ўстойлівым спалучэнні "со временем". [Усходні вучоны]: *Вашы* [Янкі] *землякі собіраются в будушчэм прыобрэсці себе морэ вместо утонувшего, чтобы со временем пробіць себе куда-нібудзь окошко – в Европу ілі Азію?* Т, 47.

**4.** з *Р. Тое, што* з *у 5 знач. ..Залатые думкі ткала* [матка] *С шчасьця і свабоды.* Дз, 188.

**5.** Акалічнасныя адносіны з Т. Тое, што з у 9 знач. Вось-жэ калі с толкам пажычаць будзе магазын гэта збожэ, то не адна сем'я запаснога будзе як сьлед накормлена. ВС.

**6.** Азначальныя адносіны з Т. Тое, што з у 13 знач. [Усходні вучоны]: Родной язык – обшчэрусскій, веліколепно усовершенствованный, но с большой прымесью непонятных слов. Т, 26.

**7.** Аб'ектныя адносіны з Т. Тое, што з у 19 знач. ..У бітвах верх браў [народ], боль сваю адалеў, Не страх быў змагацца с прыродай. ПН, 47.

**8.** з *Т. Тое, што* з *у 20 знач. Ён* [Грыцько] *узяў с сабою и дзеўчынку.* ПДз. *Быў жыць адзінока надзел бедакоў, Нішто*

*іх с сабой не лучыла.* ПН, 46.

**9.** з *Т.* Тое, што з у 21 знач. *Памагаймо тым, у каго німа каму выйсьці на поле с сяўнёю.* РКр. *Трэці* [сын] *ўсіх бы толькі мучыў – Склад меў быці катам, С паганякаю на ўзруччы К зьдзекам быў заўзятым.* Дз, 189.

**10.** з *Т. Тое, што* з *у 23 знач. Зьдзекі далей строіць* [сын] *дай-жэ, Ласку с сэрца выжыў..* Дз, 190. *Сотні лет песьцім днямі і ночай Госьця на шыі, Зьмея, што з пуняў скарбы валочэ, Скарбы чужые.* Чж, 147.

**11.** з *Р. Тое, што* з *у 24 знач. Простые налогі – гэта падаткі з зямлі, с фабрык..* ВН.

**12.** з *Р. Тое, што* з *у 28 знач. Падаходны налог.. выбіраецца с тых, хто болей зарабляе..* ВН. *..збіраюцца яны* [пабочныя налогі] *не с таго, хто штось мае, а с таго, што паступае на продаж..* Там жа. ВН; ВН (3); Дз, 188; ПН, 46; РКр.

**13.** Адносіны сумеснасці з Т. Тое, што з у 30 знач. [Поп]: Разверзіся врата адовы і сам анціхрыст со своім сонмом святой Русью завладоша, ежэлі созерцать всё творымое ныне. Т, 28. Гэй ты [літара] першая мая! Мы адно з табою.. $Ш_1$. Т, 51; ЧЧШ; $Ш_4$.

**[САБАЧЫ]**[4] (3) *прым.* **1.** *Разм., лаянк., перан.* Ганебны, агідны. *Смерць крывапійцам, раз'юшаным гадам, Вынішчыць след іх сабачы.* СЗГ, 252. *Ты* [лётчык] *будзеш глядзець самалёта, А бомбы кідаць буду я* [хлопчык], *І буду страляць з кулямёта Ў сабачыя сэрцы звяр'я.* ХЛВ, 316.

**2.** *Разм., лаянк.* У складзе некаторых зневажальных выразаў. [Спічыні]: *Як будзе: сабачая твая кроў?* [Мікіта]: *Пся крэў, затрацона душа.* Т, 49.

Адз. м. В. *сабачы*: СЗГ, 252. ж. Н. *сабачая*: Мн. Н. *сабачыя*: ХЛВ, 316.

**САБЕ**[1] *гл.* **СЯБЕ.**

**САБЕ**[2] (30) *часц. Разм.* Ужываецца пры дзеясловах або займенніках для падкрэслівання, што дзеянне адбываецца спакойна, незалежна, з задавальненнем. [Галінка]: *Пайшлі ў госці мама, тата, Голас свой панеслі, Ну, а я пільную хату, Сяджу сабе ў крэсле.* Вб, 236. [Мікіта]: *Эх, каб я быў, медждý протчым, царом! Завёў бы я ад Азіі да Аўстрыі, ад Афрыкі да Амэрыкі і ад Смаленску да Бэрліну адзін непадзельны рускі язык і жыў бы сабе тады прыпяваючы.* Т, 48. Параўн. *собе.*

◊ **Нічога сабе** *гл.* нішто. **Сам (сама) па сабе** *гл.* сам**. Сам (самі) сабе, сабе сам (самі)** *гл.* сам**. Сам (само) сабой (сабою)** *гл.* сам**. Так сабе** *гл.* так[1]**. Хай сабе – добра, хай будзе так**.

[Мікіта]: *..хай сабе ідуць* [немцы], *гэта мне пад руку..* Т, 24. **Як бы сабе там ні было** *гл.* быць.

БС (2); ВН; КЧ; МІ; 17; НДН, 18; Нз, 14, 15; Т, 20, 28, 35, 41, 42, 43, 44 (2), 46 (8), 48 (2), 51, 55 (3).

**[САБЛЯ]** *ж. Руск.* Шабля. [Мікіта]: *(..напявае). Гусар на саблю опіраясь, В глубокой горэсці стоял...* Т, 32.

Адз. В. *саблю:* Т, 32.

**[САБРАНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* сабраць. **1.** Сканцэнтраваны. *Нам новыя далі раскрыты сягоння, Вялікія сілы сабраны табой* [Сталіным].. ПБН.

**2.** Знесены (пра прадметы). *У беспарадку накідана ўсякіх хатніх рэчаў, як бы яны сабраны былі з некалькіх пакояў.* Т, 43.

Кар. мн. Н. *сабраны* (2): ПБН; Т, 43.

**САБРАЎШЫСЯ** *дзеепрысл. да* сабрацца. *Агульны сход пісьменнікаў і супрацоўнікаў праўлення ССП БССР, сабраўшыся на свой перадвыбарны сход, аднагалосна вылучыў сваім кандыдатам у Вярхоўны Савет Саюза ССР Вас, Нікалай Іванавіч..* НКУС.

**[САБРАЦЦА]** (4) *зак.* Сысціся, з'ехацца ў адно месца. *Ехаў* [Даніла] *поле і другое, Трэцце поле дасціг, Дзе сабраліся жаўнеры З сёл і вёсак усіх.* ПСД. [Мікіта]: (*да Ганулі*). *Меджду протчым, мамаша, прымыкуйце закуску, бо незадоўга і госці збяруцца.* Т, 21.

Абв. пр. адз. ж. *сабралася:* ПДз. Мн. *сабраліся* (2): ПСД; Х. Буд. мн. 3 ас. *збяруцца:* Т, 21.

**САБРАЦЬ** (5) *зак.* **1.** Запрасіць прыйсці, склікаць. *Гэй, паклічу сход Ды збяру народ Ды збяру жаўнераў, Хай ідуць вайной..*ВБ. // Арганізаваць, аб'яднаць у адно цэлае што-н. разрозненае. *Збяры* [прарок] *ў адну ўсю Беларусь сям'ю, Вазьмі з яе прысягу і зарок..* Пт.

**2.** Накапіць. *Навукова-Літаратурны Аддзел на чале з сваім кіраўніком С. Некрашэвічам сабраў і зрадагаваў да двухсот з лішнім друкарскіх аркушаў.* ВСп, 91.

**3.** *перан.* Унутрана мабілізаваць сябе для чаго-н. *Калісь.. О, не!.. Зусім нядаўна было гэта... І як сабраць тут думкі ў сумнай галаве!..* СК, 158.

Інф. *сабраць*: СК, 158. Абв. пр. адз. м. *сабраў:* ВСп, 91. Буд. адз. І ас. *збяру* (2): ВБ (2). Заг. адз. 2 ас. *збяры*. Пт.

**[САВА]** *ж.* Драпежная начная птушка атрада соў. *Каб гукалі совы Па-над вамі, псамі, Косці расцягалі Груганы з ваўкамі.* МПв, 220.

Мн. Н. *совы*: МПв, 220.

**[САВЕТ]**[1] *м. Руск.* Нарада. *Еўропа кліча ў госці вас*

[бальшавікоў]: *Пад рогат Пірравых пабед Саветы кліча на "савет".* ПВ.

Адз. В. *савет*: ПВ.

**САВЕТ²** (5) і **[СОВЕТ]** (4) *м.* **1.** *толькі мн.* Савецкі Саюз. *Будзеш векі жыці, Зямелька советаў, На радасць, на шчасце Працоўнаму свету.* МПв, 220. *Еўропа кліча ў госці вас* [бальшавікоў]: *Пад рогат Пірравых пабед Саветы кліча на "савет".* ПВ.

**2.** Назва некаторых органаў дзяржаўнага кіравання ў Савецкім Саюзе. *Пашлі саветы, камітэты, выбары, перавыбары і г.д. А ў рэзультаце што-ж?* БС. *Яны – трактарысткі, яны – брыгадзіры, З іх многа у нашых советах старшынь..* ПБН.

Адз. Н. *савет*: Ан, 19. Мн. Н. *саветы* (3): БС (3); Р. *советаў* (3): ДЖ; ЖН; МПв, 220. В. *саветы*: ПВ. М. *советах*:ПБН.

**САВЕЦКІ** (19) і **СОВЕЦКІ** (46) *прым.* **1.** Які мае адносіны да Савета, заснаваны на кіраванні Саветамі як органамі дзяржаўнай улады. *Але ўсё-ж такі ў гэтым напрамку я* [Купала] *зрабіў вельмі мала, не зважаючы на тыя магчымасьці, якія мне давала партыя і савецкая ўлада.* АЛ. *У сваім вялікім паходзе .. савецкая ўлада на працягу ўжо 11 год нідзе ні на адзін момант не затрымалася на паўдарозе.* ГНД.

**2.** Які мае адносіны да Краіны Саветаў, да СССР, належыць Краіне Саветаў. *Вялікае давер'е, аказанае партыяй да савецкіх пісьменнікаў, .. абавязвае іх адпраўляць гэта давер'е і тварыць рэчы, годныя нашае вялікае эпохі.* ДНСП. *Совецкіх людзей ён* [Сталін] *выводзіць у людзі..* СС, 303.

• **Совецкі народ (народ совецкі)** *гл.* народ**.**

Адз. м. Н. *совецкі* (7): ВГ; ДЖ; МПв, 220; ПЧ; Т, 41; ТП, 217; ШБСЯ; *савецкі* (3): Т, 41 (3). Р. *совецкага* (3): ВГ (2); СБ; *савецкага* (2): АЛ; ЦСБ. Д, *совецкім*: ПД, 289. В. *совецкі* (3): ЖН; МПв, 219; ПБН. Т. *совецкім* (2): ПДз, 83; ПЧ. М. *савецкім*: Т, 41. ж. Н. *совецкая* (3): АЛ; НКУС; ШБСЯ; *савецкая* (5): АЛ (2); ГНД; СНБ, 340; СЧ. Р. *совецкай* (9): АЛ (2); ВСп, 81; ЖН; НКУС; ГНД (2); СНБ, 339; ШБСЯ; *совецкае* (5): АЛ; ПЧ (4); *савецкае*: АЛ. Д. *совецкай* (2): А, 328; СА, 179. В. *совецкую* (2): ПЧ (2); *савецкую* (3): НК; СНБ, 339; ЦСБ. М. *совецкай*: ПЧ. Мн. Н. *совецкія*: ПЧ. Р. *совецкіх* (4): ДЖ; ЖН; ГНД; ПЧ; *савецкіх* (2): ДНСП; СС, 303. В. *савецкіх* (2): СБ; СС, 303; *совецкія*: ЖН. Т. *совецкімі*: ПЧ. М. *совецкіх*: НК.

**[САГНАЦЬ]** *зак. перан.* Пазбавіцца. *Паўстала радзіма, замок Няволі зламала навек, Надзела з пралесак вянок І слёзы сагнала з павек.* ТП, 214.

Абв. пр. адз. ж. *сагнала*: ТП, 214.

**[САГРЭТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* сагрэць. *перан.* Суцешаны, падтрыманы. *Раскажам табе* [Сталіну] *мы* [Савецкай краіны сыны] *праўдзіва быліны Аб тым, .. Як мы разагнулі прыгнутыя спіны, Сагрэтыя чулым прыглядам тваім.* ПБН.

Мн. Н. *сагрэтыя*: ПБН.

**[САД]** (6) *м.* **1.** Участак зямлі, засаджаны дрэвамі, кустамі, кветкамі. [С.Меч:] *Мой пісьмены стол стаяў каля акна, каторае выходзіла ў сад..* ХБ, 28. *Родзіць буйна наша поле, Сады нашы, агароды, Гудуць гулка з добрай волі Нашы фабрыкі, заводы.* СА, 182.

**2.** *Разм.* Выхаваўчая ўстанова для дзяцей дашкольнага ўзросту. *Мы сёння з гордасцю назіраем і адчуваем вялікія дасягненні ў галіне культуры. Зірнуць толькі .. на тысячы ясляй і дзіцячых садоў, дзе гадуецца новае радаснае пакаленне..* ШБСЯ.

Адз. Р. *саду*: ХБ, 29. В. *сад* (2): Ун, 73; ХБ, 28. Мн. Н. *сады*: СА, 182. Р. *садоў*: ШБСЯ. Т. *садамі*: ВВ, 263.

**[САДЗІЦЦА]** (4) *незак.* Прыняць сядзячае становішча. *Садзіцца княжна, князь, кругом Садзіцца вольная дружына..* Кц, 196. [Рэдактар:] *Ну вось, бачыш, сколькі, будзеш мець грошы, хлопец. Садзіся і пішы.* Ан, 19. *Параўн.* сядаць.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *садзіцца* (2): Кц, 196 (2). Мн. 3 ас. *садзяцца*: Т, 27. Заг. адз. 2 ас. *садзіся*: Ан, 19.

**САДЗІЦЬ** (3) *незак.* **1.** Запрашаць заняць якое-н. месца. [Мікіта]: *Хаця не ўздумайце* [Ануля] *яшчэ за стол іх* [Гарошку і Аленку] *садзіць.* Т, 25.

**2.** Зняволькваць, пазбаўляць волі. *Бальшавікі .. сваіх бальшавіцкіх беларускіх .. нацыяналістаў .. садзяць у вастрог..* СНБ, 339.

◊ **На казённы хлеб садзіць –** зняволькваць. [Мікіта]: .. *вашы* [Янкі] *сходкі ці там з'езды раскідаюцца, а саміх на казённы хлеб садзяць.* Т, 21.

Інф. *садзіць*: Т, 25. Абв. цяп. Мн. 3 ас. *садзяць* (2): СНБ, 339; Т, 21.

**[САДЖАЦЬ]** *незак.*: ◊ **На той свет без пары саджаць –** дачасна зводзіць у магілу. *За катам кат нашы гоні Прыходзіў, грабіў, знiстажаў, Людзей закованых палоніў, На той свет без пары саджаў.* ГП, 8.

Абв. пр. адз. м. *саджаў*: ГП, 8.

**[САДОВЫ]** *прым. Які адносіцца да* саду *ў 1 знач. Па пляцы колькі дрэў без лісцяў, некалькі садовых лавак.* Т, 33.

Мн. Р. *садовых:* Т, 33.

**[САЖА]** *ж.*: ◊ **Спапяліць на сажу** *гл.* спапяліць**.**
Адз. В. *сажу:* Ч, 324.
**САЖАЛКА** *ж.* Штучны вадаём. *Ліпа шуміць адзінока над хатай, Сажалка дрэме, заросшая цінай, Гул далятае здалёку гарматаў.* ВМ, 72.
Адз. Н. *сажалка*: ВМ, 72.
**[САКАВІК]** *м.* Трэці месяц каляндарнага года. *9 студзеня г.г. я* [Купала] *цяжка захварэў і 13-га студзеня ўжо быў у Земскай бальніцы, дзе пралежыў да 20 сакавіка.* ЛР.
Адз. Р. *сакавіка*: ЛР.
**[САКЛЯ]** *ж.* Жыллё каўказскіх горцаў. *У сваім ауле з гора не вылазіў* [Сулейман Стальскі], *У бядняцкай саклі шчасце не гасціла.* ПСС, 231.
Адз. М. *саклі*: ПСС, 231.
**САКОЛ** *гл.* **СОКАЛ.**
**САКОЛІК** *м. Нар.-паэт.* Ласкавая назва юнака, дзіцяці, мужчыны. [Ганулях]: *Не цягне яго* [Мікіту] *і туды, мой саколік, ой, не цягне!* Т, 20.
Адз. Н. саколік: Т, 20.
**САКРАТАР** *м. А*соба, якая вядзе справаводства. [Мікіта]: *А ў гэтым карапузіку важнейшыя дакументы: прафсаюзу, .. нашага № 157348 дамкому, у якім я паўнапраўны сакратар..* Т, 46.
Адз. Н. *сакратар:* Т, 46.
**[САКРУШАЮЧЫ]** *прым. Руск.* Знішчальны. *Гордасцю напоўнілася маё* [Купалы] *сэрца, калі я даведаўся, што байцы доблеснага Чырвонасцяжнага Далёкаўсходняга фронта далі сакрушаючы адпор зарваўшымся самураям.* ВГ.
Адз. м. В. *сакрушаючы*: ВГ.
**САКРЭТ** *м. Тое, што* тайна. *Нікому не сакрэт, што жыць на свеце беларусам было і ёсць найцяжэй, як усім іншым народам..* Нз, 14.
Адз. Н. *сакрэт*: Нз, 14.
**САЛА** (6) *н.* Прадукт, што атрымліваецца з тлушчавага рэчыва, які ўжываецца для харчавання. .. *не раз краў я* [Купала] *ў маці сала або сыр і нёс яму* [Пасляку] *ў узнагароду за казкі.* ПС. [Мікіта]: *..вось пападаецца па дарозе якая-небудзь контрабанда, іначай кажучы – рэчы, якія ўвозіць у Менск забаронена: мука, крупы, бульба, сала, масла..* Т, 45.
◊ **Як кот з салам** *гл.* кот.
Адз. Н. *сала*: Т, 21. В. *сала* (5): ВСп, 90; ПС; Т, 21, 45, 51. Т. *салам*: Т, 44.
**САЛАВЕЙ** (2) *м. Заал.* Пеўчая птушка атрада вераб'іных,

якая вылучаецца прыгожым спевам. [Мікіта]: [да Ганулі]: *Меджду протчым, мамаша, ці не далі б чаго закусіць нам, бо салавей аднымі песнямі сыт не бывае.* Т, 27. // *Вобразн. ..А песня ад шчасця, ад радасных дзён, Якая на крыллях ляціць салаўя За межы-граніцы ды будзіць там сон.* СС, 301.

Адз. Н. *салавей*: Т, 27. Р. *салаўя*: СС, 301.

**[САЛАМЯНЫ]** (2) *прым.* Накрыты саломай. *Хай-жа шчырая беларуская інтэлігенцыя, вышаўшая з-пад беларускай саламянай страхі.., хай яна скажэ сваё жалезнае слово.* З. *Стаиць* [слабода] *ў нейкім балоці; будынкі пападгнівалі, ў зямлю паўежджалі; стрэхі саламяные: мох на іх парос..* ХЛБ.

Адз. ж. Р. *саламянай*: З. Мн. Н. *саламяные*: ХЛБ.

**САЛАЎІНЫ** (2) *прым. перан.* Мілагучны. *І наўсцяж краінаю, Радасць услаўляючы, Песні салаўіныя Льюцца несціхаючы.* ПЛ.

• **Голас салаўіны** *гл.* голас.

Адз. м. Н. *салаўіны*: ПСС, 232. Мн. Н. *салаўіныя*: ПЛ.

**САЛДАТ** (8) *м.* Радавы ваеннаслужачы сухапутнага войска. [Немец]: *Ваша прэвасхадзіцельства! Я вас павінен, як верны нямецкі салдат, забраць у палон, бо вы рускі генэрал.* Т, 32. *Як пачалося атступленне рускаго войска, Следам за японскими салдатами набегли хунхузы и пачали палиць афицэрския кватэры.* ПДз.

Адз. Н. *салдат* (2): ПДз; Т, 32. Р. *салдата* (2): ПЧ; СНБ. Мн. Н. *салдаты*: ПДз. Р. *салдат* (2): ВН; РКП. Т. *салдатамі*: ПДз.

**[САЛДАЦКІ]** *прым.* Які мае адносіны да салдата. *"Хай жыве савет салдацкіх, работніцкіх, сялянскіх ды іншых дэпутатаў!..."* Ан, 19.

Мн. Р. *салдацкіх*: Ан, 19.

**САЛОДКІ** (2) і **[СОЛАДКІ]** (2) *прым.* **1.** Які мае прыемны смак. *Бярэ* [князь] *коўш соладка віны, Пье за дружыну маладую, І княжна с князем пье да дна..* Кц, 193.

**2.** *перан.* Прыемны, які прыносіць задавальненне, асалоду. *І так, і гэтак свой прыгон Распасьціраe царство ночы: Салодкі сон, магільны сон Сьмяецца сьвету ўсяму ў вочы.* Кц, 197. *Ах, салодкі ўспамін не адзін Шалясціць, як вяроўкаю кат... Столькі іх, гэтых мілых часін!* ЧС, 50–51. // Прыемны на ўспрыманне (пра голас). *..Грамавік на грудзёх яго* [чараўніка] *гібелі піша, Ведзьмы шэпчуць аб соладкіх рэчах.* Ч, 325.

Адз. м. Н. *салодкі* (2): Кц, 197; ЧС, 50-51. Мн. М. *соладкіх:* Ч, 325. Кар. адз. н. Р. *соладка:* Кц, 193.

**[САЛОДШЫ]** *прым. Разм. Пар. ст.* да салодкі. Лепшы.

*І сярэдні, і малодшы, Родные дзяціны, Як мая – пашлі к салодшай Ласцэ без прычыны.* Дз, 189.

Адз. ж. Д. *салодшай*: Дз, 189.

**[САЛОМЕННЫ]** *прым. Руск.* Саламяны. *Чэсць і слава табе, беларуская моладзь, паўстаючая з-пад беларускай саломеннай стрэхі!* МІ, 18.

**САМ** (120) *займ. азначальны.* **1.** Ужываецца пры назоўніках ці асабовых займенніках, каб паказаць, што іменна названая асоба непасрэдна ўдзельнічае ў дзеянні. *Я* [Кавалюк] *хрысціянін, не паганін, Стварыў вобчаства "Крестьянин". Сам Дубровінка-нябожа Пахваліцца гэткім можа.* ЛПК. [Гануля]: *..сам ён* [Спічыні] *кажа, што ён немец, людзі, кажуць, што італьянец..* Т, 31. // Ужываецца як замяшчальнік назоўніка або асабовага займенніка. *Я* [Габрусь] *ўсядзець ня мог у хаце, Сам пайшоў па добрай волі Паспытаць ваеннай долі.* ГЖУ. *Сама ведае* [бабуля], *што хвора.* Вб, 237. // Ужываецца ў зваротах, каб паказаць, што асоба занята сабою, сваімі справамі. *Кланяюцца* [Заходні і Усходні вучоныя] *самі сабе і прысутным.* Т, 47.

**2.** Ужываецца, каб падкрэсліць, што асоба выконвае дзеянне самастойна, без чыёй-н. дапамогі. *І сёння, пpаглядаючы разам з вамі свой жыццёвы і творчы шлях, за адны пераходы гэтага шляху я* [Купала] *радуюся, другія я з ахвотай закрэсліў-бы сам.* ЖН. *Дайце волю народам самім будаваць сваю долю.* Тж, 16.

**3.** Ужываецца, каб падкрэсліць важнасць, значнасць асобы. [Гарошка]: *Нагналі гібель казакаў, сам нават спраўнік з Менску прыехаў.* Т, 43. [Спраўнік]: *Кажуць, сам Брусілаў ідзе побач з нашымі новымі гаспадарамі..* Там жа, 57.

**4.** Ужываецца тады, калі трэба паказаць, што пра пэўны прадмет ці асобу ўжо гаварылася. *Цяпер, браты, .. ідзе наша беларуская моладзь! Сягоння ў нас творыцца армія, творыцца рукамі гэтай самай гарачай беларускай моладзі..* МІ, 17.

**Жыццё наша такое вясёлае, што песні самі на вусны просяцца.**

◊ **Самае меншае** *гл.* меншы. **Сам (сама) па сабе** (3) – адвольна, незалежна ні ад кога. *Такім чынам, двор сам па сабе як бы аддзяліўся ад вёскі.* Нз, 14. *Край наш сам па сабе багаты, толькі чужыя гаспадары яго знішчылі.* Там жа, 15. **Сам (самі) сабе, сабе сам (самі)** (3) – адзін, без нікога. [Гарошка]: *..цяпер тая* [Аленка] *ўжо, як папуга, паўтарае за ім* [Янкам]: *"Недачаканне іх! – кажа будзем самі сабе гаспадарамі!"* Т, 44. *Працай збірацí з зямлі будуць дары Самі сабе раскаваныя*

*людзі.* Ф. **Сам (само) сабой (сабою)** (6) – незалежна ні ад кога. *Ён* [стаханаўскі рух] *не з'явіўся сам сабою, бо само сабою нічога не бывае.* СТ. *Само сабою разумееццa, што кожны агітатар набірае сабе пэўны лік прыхільнікаў.* ДК.

Адз. м. Н. *сам* (45): АЛ; АПЖ (2); БС; Вб, 237; ГЖУ; ДК; ЖН; ЛПК (2); Нз, 14, 15; ПЛП; ПСД; Р; СНБ (2); СТ; СЧ; Т, 19, 20, 22 (2), 28 (2), 29, 31, 43, 44, 55, 56, 57, 60 (2), 61 (2); Ун, 73; Ч, 319, 323 (2), 324 (3); Ф; Х. Р. *самаго*: ВС. Д. *самому*: ОШМ. В. *самога*: Ч, 324. ж. Н. *сама* (13): Б, 18; БС; Вб, 236, 237; МІ, 17, 18; НДН, 19 (2); СНБ, 339; Т, 20, 30; УрП, 82, 83. Д. *самой* (2): Т, 19, 30. н. Н. *само* (10): АБ, 16; БВ, 16; ДК (2); ДНСП; НДН, 18; ПЛП; СБНГ; СТ; Т, 20. Р. *самай*: МІ, 17. Мн. Н. *самі* (32): АБ, 16; Ан, 18; БВ, 17; БС (3); БСУ (2); ВМР; ВН; ВС; Дз, 188 (2); ЖН (2); МПв, 220 (2); НДН, 18; ПВ; ПЛП (2); ССА, 294; Т, 28, 30, 35, 41, 43, 44, 47, 54, 58, 61; Ф. Д. *самім* (5): Бч, 9; Нз, 14; Тж, 16; Т, 33, 35. Т. *самімі*: БС. М. *саміх* (8): Бч, 10; Т, 21 (3), 32 (2); Ч, 321 (2).

**САМА** *часц. У спалучэнні з прыслоўем* гэтак *абазначае тое, што* таксама[1]. *Але і навука дзяцей па польску – гэтак сама зусім не справядліва.* ВР.

**САМААБАРОНА** *ж.* Абарона краіны сіламі і сродкамі самой краіны. *Само жыццё гэтага вымагае, вымагае гэтага самаабарона. Войска беларускае павінна быць, і яно будзе.* БВ, 16.

Адз. Н. *самаабарона*: БВ, 16.

**САМААЗНАЧЭННЕ** (5) *н. Разм.* Суверэнітэт. *"Хай жыве самаазначэнне народаў!"* Ан, 19. *А цяпер вы* [паны-гандляры] *ўсе .. кідаеце аблудны кліч на староны, што вы ваявалі за вызваленненя вольнікаў, за самаазначэнне народаў...* Тж, 16.

Адз. Н. *самаазначэнне* (2): Ан, 19; СНБ, 336. Р. *самаазначэння* (2): НДН, 18; СНБ, 336. В. *самаазначэнне*: Тж, 16.

**[САМАБЫТНАСЦЬ]** (4) і **[САМАБЫТНАСЬЦЬ]** (2) *ж.* Уласцівасць самабытнага. *..нават і пасля рэвалюцыі гэтага году .. душылася кожнае праяўленне беларускай нацыянальнай самабытнасці*: МІ, 17. *..усе* [народы] *вольна развіваюць сваю нацыянальную культуру і самабытнасць..* НДН, 19.

Адз. Р. *самабытнасці:*МІ, 17; *самабытнасьці*: АЛ. Р. *самабытнасць*: НДН, 19. М. *самабытнасці*: Т, 35; *самабытнасьці*: АЛ.

**САМАБЫТНЫ** (2) *прым.* Арыгінальны; своеасаблівы. *Беларускі народ самабытны – гэта прызнаюць ужо навет і нашы праціўнікі з польскага ці расійскага лагеру.* Нз, 14. *Стары правапіс, у якім не мала было засмечанасці, нацдэмаўскай*

*“самабытнай” архаічнасці, – трымаў беларускую мову ў палоне правінцыяналізма..* ШБСЯ.

Адз. м. Н. *самабытны*: Нз, 14. ж. Р. *самабытнай*: ШБСЯ.

**[САМАВІТЫ]** *прым.* Поўны хараства, прыгажосці. *І разгараецца ясьней Паходня радасьці забытай, І сьветазарнасцей сваёй Вясёлкі сее самавіты.* Кц, 196.

Кар. мн. В. *самавіты*: Кц, 196.

**САМАГОНКА** *ж.* Самаробная гарэлка. [Мікіта]: *..самая натуральная амброзія знамянітай тутэйшай фірмы – а ля самагонка, дастаўленая мне з вінных складаў “Піліп і К$^{O}$”.* Т, 28.

Адз. Н. *самагонка:* Т, 28.

**[САМАГУБА]** *ж. Разм.* Самазабойца. *Ці там вецер водзіць гулі Так па самагубе, - Бы сваё дзіцё матуля, Песьціць ды галубе?* Дз, 187.

Адз. М. *самагубе*: Дз, 187.

**САМАДЫСЦЫПЛІНА** (2) *ж.* Уменне кіраваць сабой, падпарадкоўваць свае дзеянні пэўным патрабаванням. [Мікіта]: *Рэволюцыйная самадысцыпліна... (рэволюцыйная самадысцыпліна...) гэта такая, меджду протчым, дысцыпліна, што мае два канцы – то яна ўсіх б’е, то яе ўсе б’юць..* Т, 40 (2).

Адз. Н. *самадысцыпліна* (2): Т, 40 (2).

**САМАДЗЕРЖАЦ** *м.* Манарх. *Табой* [рускім языком] *сам самадзержац цар Пісаў ланцужны свой закон..* АПЖ.

Адз. Н. *самадзержац*: АПЖ.

**[САМАДЗЯРЖАЎЕ]** *н.* Манархічная форма праўлення ў Расіі. *.. Калчак, Дэнікін і Юдэніч – царскія генералы, што яны хочуць адбудаваць у Расіі царскае самадзяржаўе..* Ан, 19. *Параўн.* самадзяржаўнасць.

Адз. В. *самадзяржаўе*: Ан, 19.

**[САМАДЗЯРЖАЎНАСЦЬ]** *ж. Разм. Тое, што* самадзяржаўе. [Мікіта]: *Беларускае асэсарства.. мае ў сабе яшчэ адзін вельмі ласы плюсік – гэта тое, што і па-беларуску .. можна праводзіць у тутэйшую сярмяжную шацію вялікія руска-ісціныя прынцыпы а ядынасці, непадзельнасці і самадзяржаўнасці Расійскай, меджду протчым, імпэрыі.* Т, 56.

Адз. М. *самадзяржаўнасці*: Т, 56.

**САМАЕ** *гл.* **САМЫ.**

**САМАКАТАМ** *прысл.* Пад дзеяннем сілы ўласнага цяжару. [Ануля]: *А сёлета, апрача ўсяго іншага, дык яшчэ і дровы з Ваньковічава лесу самакатам коцяць і коцяць* [мянчане] *на вяроўках.* Т, 55.

**[САМАЛЁТ]** (6) *м.* Цяжэйшы за паветра лятальны апарат з рухавіком. *З самалётам днём і ночай Мігаціцца* [камсамолец] *ў безграніччы..* СА, 180. *Тысячы Чкалавых, Грачовых, Кокінакі памчацца на сваіх быстракрылых самалётах на абарону мацеры-радзімы.* ВГ.

Δ **Арол-самалёт** *гл.* арол.

Адз. Р. *самалёта* (2): ХЛВ, 315 (2). Т. *самалётам*: СА, 180. Мн. Н. *самалёты*: СС, 300. В. *самалёты*: ЗЯЗ, 90. М. *самалётах*: ВГ.

**[САМАЛЮБСТВА]** *н.* Нястрыманая прага да славы. *Цёмныя людзі, .. п'яныя атрутай нажывы і самалюбствам, .. з усіх сіл стараюцца рабіць сваё грэшнае дзела.* ЗС, 17.

Адз. Т. *самалюбствам*: ЗС, 17.

**САМАПАНОШЫЦЦА** *незак. Наватв.* Існаваць. *Ці-ж і над вольным сьцягам паўстаючай Беларускай дзяржавы будзе так самапаношыцца гэты забабон?* З.

Інф. *самапаношыцца*: З.

**САМАПОМАЧ** (2) *ж. Разм.* Узаемадапамога паміж людзьмі. *Толькі разам усе* [беларусы] *да працы і самапомачы, бо грамада – вялікі чэлавек!* ВС.

**Вайна і самапомач.**

Адз. Н. *самапомач*: ВС. Р. *самапомачы:* ВС.

**[САМАСЕЙНЫ]** *прым. Вобразн.* Які існуе незалежна ад чаго-н. *Чуткі толькі ішлі, як туманы, і вялі У самасейным паходзе сталецьцяў, Што пранікнуць яна* [судзьбіна] *можа ў тайныя далі і адкрыць сьветы новыя ў сьвеце.* Ч, 322.

Адз. м. М. *самасейным*: Ч, 322.

**[САМАСТОЙНАСЦЬ]** *ж.* Незалежнасць, свабода. *Яшчэ ў годы грамадзянскай вайны Вы, Нікалай Іванавіч, нямала зрабілі для беларускага народа, адстойваючы яго самастойнасць ад нямецкіх і польскіх фашыстаў..* НКУС.

Адз. В. *самастойнасць*: НКУС.

**[САМАТКАНЫ]** *прым.* Вытканы ў хатніх умовах. *Дастае* [Аленка] *з торбы прыгожа вышытую кашулю і саматканы ўзорысты пояс і падае Янку..* Т, 30.

Адз. м. В. *саматканы*: Т, 30.

**[САМАТУЖНЫ]** (3) *прым.* **1.** Рамесны. *Там, дзе.. ў саматужнай майстэрні задыхаўся пролетарый-рабочы, - выраслі новыя буйныя фабрыкі..* ШБСЯ. *Ад саматужных майстэрняў да Сталінгрэса, да Гомсельмаша.. – вось вялікі і сладаны шлях Савецкай Беларусі.* ВГР.

**2.** *перан.* Адасоблены, ізаляваны. [Янка]: *Раўнапраўе то раўнапраўе, але хіба ж яно вам* [Мікіту] *не загадвае быць*

*штодзень за нейкага саматужнага вазюра?* Т, 45.

Адз. м. В. *саматужнага:* Т, 45. ж. М. *саматужнай*: ШБСЯ. Мн. Р. *саматужных:* ВГР.

**[САМАЎЛАДСТВА]** і **[САМАЎЛАДЗТВА]** *н.* Самаўладдзе. *Гераічная барацьба лепшых сыноў рабочага класа падарвала ўстоі самаўладства, устоі векавечнай цемры, няволі.* ДЖ. [Мікіта]: *Мы цвёрда стаялі на варце святога расійскага самаўладзтва..* Т, 21. *Параўн.* самаўласце.

Адз. Р. *самаўладства:* ДЖ; *самаўладзтва:* Т, 21.

**[САМАЎЛАСНЫ]** *прым. Разм.* Самаўладны. *Ідэя будаваньня свайго незалежнага жыцця паднявольнымі народамі, якая загарэлася вечным жывым агнём пасьля развалу Расійскай самаўласнай імпэрыі, .. – гэта ідэя сягодня ператвараецца ў жыцьцё..* БСУ.

Адз. ж. Р. *самаўласнай:* БСУ.

**[САМАЎЛАСЦЕ]** (2) і **[САМАЎЛАСЬЦЕ]** *н. Руск., разм. Тое, што* самаўладства. *Цяперашнія пабеды дзянікінцаў, калчакоў, юдэнічаў над бальшавікамі – гэта васкрашаючы труп расійскага самаўласця.* БВ, 17. *Успамінаюцца страшэнна цяжкія варункі працы на беларускай вызваленчай ніве ў часе панавання ў нашым краі расійска-царскага самаўласця.* МІ, 17.

Адз. Р. *самаўласця* (2): БВ, 17; МІ, 17; *самаўласьця*: З.

**[САМАЎРАД]** *м. Наватв.* Самакіраванне. *Ва ўсіх дзяржаўных і грамадскіх установах, пачынаючы ад дзяржаўнага сойму і нацыянальнага войска і канчаючы мясцовымі і валаснымі самаўрадамі, - павінны мець сваё месца і нацыянальныя меншасці..* НДН, 19.

Мн. Т. *самаўрадамі*: НДН, 19.

**САМАХОЦЬ** *прысл. Разм.* Мімаволі; ненаўмысна. [Гарошка]: *Самахоць за німашто асірацію* [Юрка] *мяне.* Т, 44.

**[САМАЧЫННАСЬЦЬ]** (2) *ж.* Самастойнасць. *Дык больш самачыннасьці, больш сьмеласьці к будаваньню свайго новага незалежнага жыцьця.* БС.

**Больш самачыннасьці.**

Адз. Р. *самачыннасьці* (2): БС (2).

**САМДЗЕЛЕ** (4) *прысл. Разм. Тое, што* сапраўды *ў 1 знач.* [Янка]: (*перабіваючы*). *..на Камароўцы козы пасвіць? І чаму б, самадзеле, не так?* Т, 36. [Янка]: *Але чаму б вам, колежскі рэгістратар Нікіцій Зносілов, не стацца тым, чым вы самадзеле ёсць..* Там жа, 48. Т, 26, 60.

**САМЛЕЛА** *прысл. Разм.* Знясілена. *Я змагаюся з ёй* [ноччу]**,** *ад сябе ганю проч, Дый самлела ўпадаю з сваёй барацьбой.* БН, 91.

**САМ-РАЗ** *прысл.* У самы раз, як раз. *Мой мілы таварыш, мой лётчык, Вазьмі мяне ўрэшце з сабой, Цяпер не малы я ўжо хлопчык – Сам-раз ляцець разам бой.* ХЛВ, 315.

**[САМУРАЙ]** (3) *м. Разм.* Прадстаўнік рэакцыйнай японскай ваеншчыны. *Сцеражыся, крывавы самурай!* ВГ. *..байцы доблеснага Чырвонасцяжнага Далёкаўсходняга фронта далі сакрушаючы адпор зарваўшымся самураям.* Там жа.

Адз. Н. *самурай*: ВГ. Мн. Р. *самураяў*: СС, 302. Д. *самураям*: ВГ.

**САМЫ** (56) *займ. азначальны.* **1.** Ужываецца пры ўказальных займенніках "гэты", "той" для іх удакладнення. *Далей гэты самы композытор напісаў музыку да верша Каганца: "О, Божа, спасе наш!" і так сама часта нашы сьпевакі называюць гэта гымнам.* СБНГ. *Як-жа можа беларускі народ хіліцца да Польшчы, калі ён бачыць у ёй таго самага пана, каторы праз вякі зьдзекаўся з яго..* ОШМ.

**2.** Пры назоўніках са значэннем месца, прасторы або часу ўдакладняе, узмацняе прасторавую або часавую мяжу дзеяння. *Ад самага пачатку беларускага вызваленчага руху ня было бадай у ніводным годзе столькі выкінута з-пад друкарскай машыны беларускіх кніг для школ..* ВСп, 89. *У самую гушчу Чэхаславацкага народу пранікла і глыбока ўмацавалася вера і надзея на Совецкі Саюз як на адзіны аплот міру.* ПЧ.

**3.** З назоўнікамі месца і часу выражае гранічна высокую ступень праяўлення ў іх якой-н. уласцівасці. *Прымерам гэтага можа служыць закрыццё Буцлаўскай гімназіі і інш., а пасьля візыты жандармаў у памяшканьне самой рады на Вострабрамскай вуліцы ў Вільні.* СНБ. *.. да самае смерці не складалі* [людзі] *аружжа барацьбы за беларускую незалежнасць.* МІ, 17.

**4.** У спалучэнні з якаснымі прыметнікамі служыць для ўтварэння найвышэйшай ступені. *Мінулы 1922 год быў самым ураджайным годам у справе росквіту беларускага друкаванага слова.* ВСп, 89. *Цэлы свет ведае, што самыя крывавыя бітвы, самае дзікае зніштажэнне людзей і іх дабра ў гэту вайну – было на Беларусі.* АБ, 16.

**5.** *Тое, што* сам *у 1 знач. Пара ўжо беларусам самім падаць свой голас!* ВР.

Адз. м. Н. *самы* (6): БС (2); СБНГ; Т, 43, 50 (2). Р. *самога* (2): БСУ; ДД; *самага*: ВСп, 89. В. *самага*: ОШМ; *самы* (3): АЛ; Кц, 194; Т, 33. Т. *самым* (2): АЛ; ВСп, 89. М. *самым* (2): Т, 52; ХЛВ, 316. ж. Н. *самая* (5): БВ, 16; ДК; ППС; Т, 28, 58. Р. *самай* (2): МІ, 17; Т, 48; *самой*: СНБ; *самае* (2): АЛ; МІ,

17. В. *самую* (2): ВР; ПЧ. Т. *самай* (2): МПв, 219; Т, 50. М. *самай*: Т, 60. н. Н. *самае* (5): АБ, 16; Т, 34, 41, 49; Тж, 15. Р. *самага*: Т, 39. В. *самае* (2): ДК; НДН, 18. Т. *самым*: АЛ. М. *самым:* Т, 42.Мн. Н. *самыя* (7): АБ, 16; Нз, 14; ПБН; СНБ, 336; Т, 25, 43, 54. Р. *самых* (3): ВСп, 89; Тж, 15; ХБ, 29. Д. *самым*: ВР. В. *самыя* (2): ОШМ; ШБСЯ. М. *самых*: ВСп, 91.

**[САНАВІТЫ]** *прым. Уст.* Які ўласцівы паважанаму з выгляду чалавеку. *Людзі ходзяць урачыста У святочных строях, – А з павагай, з санавітай Ходзяць як героі.* НК.

Адз. ж. Т. *санавітай*: НК.

**[САПОШНІ]** *прым. Разм.* Апошні. [Мікіта]: *..сапошні час заняты быў эвакуацыйнымі справамі..* Т, 55.

Адз. м. В. *сапошні*: Т, 55.

**САПРАЎДНЫ** (5) *прым.* **1.** Рэальны. *Сапраўдная мая* [Купалы] *творчая дзейнасць пачалася толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.* А, 328. .. [Пролетарская рэволюцыя] *адна несла сапраўднае соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне працоўным былой царскай Расіі, у тым ліку і Беларусі.* АЛ.

**2.** Бліскучы. *Наша* [савецкай дэлегацыі] *паездка ў Чэхаславакію была сапраўдным трыумфам совецкае культуры..* ПЧ.

Адз. м. Н. *сапраўдны*: ШБСЯ. Т. *сапраўдным*: ПЧ. ж. Н. *сапраўдная*: А, 328. н. В. *сапраўднае*: АЛ. Мн. Р. *сапраўдных*: ВМР.

**САПРАЎДЫ** (5) *прысл.* На самай справе. .. *я* [Купала] *з гордасцю выбіраю свой працоўны, сапраўды народны ўрад.* ГВУ. *Далі такія ў нас ясныя і прыгожыя, людзі такія ў нас, што сапраўды кожны з іх можа стаць героем у любы час, у любы міг..* ЖН. ВБЛ, 80; ВМР; ПЛП. *Параўн.* самдзеле.

**[САПСАВАЦЬ]** *зак.*: ◊ **Сапсаваць усю абедню** – парушыць каму-н. якія-н. справы. [Мікіта]: *Каб хаця не ўваліліся* [немцы] *на імяніны, а то сапсуюць усю абедню.* Т, 24.

Абв. буд. мн. 3 ас. *сапсуюць*: Т, 24.

**[САПЦІ]** *незак.. Разм., перан* Завываць. *Хай там бура, завіруха, Хай пурга сапе і плача, Зтуль тваё* [моладзі] *пачуе вуха, Камсамольскі гарт юначы.* СА, 178.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *сапе*: СА, 178.

**[САРДЭЧНЫ]** (2) *прым.* Які ідзе ад сэрца; шчыры. *Я* [Купала] *з вялікім задавальненьнем і радасцю прачытаў прынятае на сходзе нашых пісьменнікаў прывітанне мудраму правадыру, ..і рад шчыра далучыць свой подпіс да гэтага сардэчнага прывітання.* АЛ. *Я* [Купала] *вітаю сардэчнымі словамі паэта нашу магутную чырвоную армію..* ЖН.

Адз. н. Р. *сардэчнага*: ШБСЯ. Мн. Т. *сардэчнымі*: ЖН.

**САРОКА** (2) *ж. перан.* Пра балбатлівую шумлівую жанчыну. [Гарошка]: (*да Аленкі*). *А ты, сарока, калі ўжо адсакатала сваё, аддала б настаўніку тое, што прывезла.* Т, 30. [Гарошка]: *На табе* [Аленцы] *іх* [люлькі] *лічыць,сарока.* Там жа, 44.

Адз. Н. *сарока* (2): Т, 30, 40.

**[САРОМЕЦЦА]** *незак.* Адчуваць сорам. [Гарошка]: (*да Аленкі*). *А ты, сарока, .. аддала б настаўніку тое, што прывезла.* [Аленка]: *Калі я саромлюся.* Т, 30.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *саромлюся*: Т, 30.

**САРОМЛІВА** *прысл. Разм.* Сарамліва, збянтэжана. [Аленка]: (*як бы саромліва*). *Ды ў яго* [Гарошкі] *яшчэ ўнукаў і няма.* Т, 54.

**САРОМЯЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* саромецца. [Аленка]: (*як бы саромячыся, спускаючы вочы..*) Т, 30.

**[САРОЧКА]** *ж.* Мужчынская або жаночая кашуля. *Вецер блытаў валасы ночкай І нейкія словы сьпяваў, Палатнянай яго* [хлопчыка кадэта] *сарочкай Выцірала вочы трава.* ВБЛ, 81.

Адз. Т. *сарочкай*: ВБЛ, 81.

**[САСНА]** (4) *ж.* Вечназялёнае дрэва сямейства хваёвых. *.. роўныя сосны стаяць бы колёны гішпанскага храма.* ХБ, 29. *Натхненна гэтак пеў, заводзіў Рой чалавечы на свой лад, – Рака шуміць так у разводзьдзе, Так стогне ў буру сосен рад.* УрП, 49.

Мн. Н. *сосны*: ХБ, 29. Р. *сосен*: УрП, 49; *соснаў*: ХБ, 29. В. *сосны*: Ф.

**[САСНОВЫ]** *прым.* Які парос соснамі. [С. Меч:] *..ўсё маё жыцьцё любаваўся-б .. гэтымі махрастымі залаціста-жоўтымі бярэзінамі, што аж гараць на фоне сасновага бору..* ХБ, 29.

Адз. м. Р. *сасновага*: ХБ, 29.

**[САСОНКА]** (2) *ж. Памянш.-ласк. да* сасна; маладая сасна. *Нашы сасонкі шумнага бору Далі вам* [людзям чужым] *хаты..* Чж, 146. // *У параўн. Як дубы у полі чыстым, Як сасонкі ў боры, .. Так магучы, яснасьветны На пагляд былі ўсе* [сыночкі].. Дз, 189.

Мн. Н. *сасонкі* (2): Дз, 189; Чж, 146.

**[САТКАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* саткаць. Зроблены, створаны *З зор сатканы былі недасяжныя сьцены, Росы ўнізе ірдзелі яскрава..* Ч, 321.

Кар. мн. Н. *сатканы*: Ч, 321.

**САТРАП** (8) і *разм.* **САТРАПА** *м. Кніжн.* Дэспат, тыран. *Царскія сатрапы ўсяляк імкнуліся задушыць беларускае слова.* А, 328. *Я* [Купала] *пачаў пісаць у гады, .. калі сялянства*

*бунтавала па вёсках, і царскія сатрапы секлі яго бізунамі.* ЖН. *Савецкіх людзей ён* [Сталін] *выводзіць у людзі, Замежны сатрапа судоў не насудзіць*, СС, 303.

Адз. Н. *сатрап*: АПЖ; *сатрапа:* СС, 303. В. *сатрапа* (2): Бц; Ф. Мн. Н. *сатрапы* (3): А, 328; ГВУ; ЖН. Р. *сатрапаў* (3): ПН, 314; РС, 39 (2).

**[САЎБУРАЎСКІ]** *прым.* Які адносіцца да совбура. [Янка]: *..як гэта вы* [Мікіта] *з сваім апошнім саўбураўскім становішчам дапасуецеся да самай навейшай політычнай сытуацыі, што круціцца ўжо каля Пярэспы?* Т, 48.

Адз. н. Т. *саўбураўскім*: Т, 48.

**САЎСІМ** *прысл. Руск., разм. Тое, што* зусім *у 1 знач. Яны* [старыя багі] *прыціхлі, прытуліліся, але не памёрлі саўсім у душах свайго народу.* Кз, 17.

**[САЎХОЗ]** *м. Руск.* Савецкая гаспадарка (дзяржаўнае сельскагаспадарчае прадпрыемства). [Мікіта]: *Цяпер я, пане профэсар, маю шаснаццаць дзенных і восем вячэрніх, меджду протчым, пасадаў рэгістратара ў розных Менскіх Губэрскіх Саўхозах, Нархозах, Комхозах..* Т, 46.

Мн. М. *саўхозах*: Т, 46.

**САХА** (8) *ж.* Прымітыўная драўляная сельскагаспадарчая прылада для ворыва. *Можаце сабе ўявіць: чалавек ходзіць за сахой, а следам за ім, як варона хаджу я* [Купала] *і слухаю.* ПС. *Там, дзе на вялікіх абшарах Беларусі гнуўся "лапцюжнік" над "крывуляй" сахой, - важна пахаджваюць тысячы трактараў..* ШБСЯ.

Адз. Н. *саха:* ТС, 74. Р. *сахі:* ВГР. Т. *сахой* (2): ПС; ШБСЯ; *сахою:* ССА, 294. Мн. Н. *сахі:* ЗК, 42. Р. *сох* (2): Ф; ХБ, 28.

**[САЦЫЯЛІЗМ]** і **СОЦЫЯЛІЗМ** (7) *м.* Грамадскі лад, які ў выніку рэвалюцыі прыходзіць на змену капіталізму і характарызуецца грамадскай уласнасцю на сродкі вытворчасці, адсутнасцю эксплуатацыі чалавека чалавекам, палітычнай уладай працоўных мас пры кіруючай ролі рабочага класа на чале з марксісцка-ленінскай партыяй. *На месцы народнай цемры вырастаюць бязупынна ўсё новыя і новыя культурныя, навукоыя і навучальныя ўстановы. Будуецца соцыялізм.* АЛ. *Мы* [Беларусы] *зараз з усёй краінай будуем сацыялізм.* ВГР.

Адз. Н. *соцыялізм*: АЛ. Р. *соцыялізму* (4): АЛ (3); ДЖ; *соцыялізма*: ШБСЯ. В. *соцыялізм*: ШБСЯ; *сацыялізм*: ВГР.

**[САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ]** (6) і **[СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫ]** (18) *прым.* **1.** Заснаваны на прынцыпах сацыялізму. *У СССР .. рабочая кляса, у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі .. будуе*

*соцыялістычнае грамадзства.* АЛ.

**2.** Уласцівы грамадству, заснаванаму на прынцыпах сацыялізму. *Капіталістычны сьвет усё з большай і большай трывогай, азвярэньнем і нянавісьцю сочыць за гэтай соцыялістычнай будоўляй..* АЛ. *І ў апошнія гады я* [Купала] *ўсімі сіламі намагаўся далучыцца сваёй творчасьцю да вялікага сацыялістычнага будаўніцтва.* Там жа.

Адз. м. Р. *соцыялістычнага*: ЦСБ. ж. Н. *соцыялістычная* (2): АЛ; ЖН. Р. *соцыялістычнай* (4): АЛ; СНБ, 336; ЦСБ; ШБСЯ; *сацыялістычнай*: А, 328. Р. *соцыялістычную*: АЛ; *сацыялістычную*: ЦСБ. Т. *соцыялістычнай*: АЛ. н. Р. *соцыялістычнага* (2): ДНСП; ШБСЯ; *сацыялістычнага* (2): АЛ (2). Д. *соцыялістычнаму*: АЛ. В. *соцыялістычнае* (3): АЛ (2); ЖН; *сацылістычнае*: АЛ. Т. *соцыялістычным*: ЖН. М. *соцыялістычным*: ШБСЯ. Мн. Н. *соцыялістычныя*: АЛ.

**[САЦЫЯЛЬНЫ]** (3) і **[СОЦЫЯЛЬНЫ]** (15) *прым.* **1.** Які мае адносіны да грамадства, звязаны з жыццём і адносінамі ў грамадстве. *Сягоння-ж я* [Купала] *шчаслівы, што магу паіншаму, як вызвалены з нацыянальных і соцыяльных пут, складаць песні-гімны вызвалення.* ЖН. *..горка пакутвала* [брацтва і бядняцтва беларускае вёскі] *пад сацыяльным і нацыянальным гнётам крывавага царызму.* АЛ. // Які выклікаецца ўмовамі грамадства. [Дама]: *А я маю ўсе даныя на дармовую соцыяльную апеку.* Т, 58.

**2.** Які мае на мэце змену грамадскіх вытворчых адносін. *..соцыяльная і нацыянальная рэволюцыя мае сваіх прыхільнікаў, якія змагаюцца шчыра за свае ідэалы.* СНБ. *Чаму яны* [людзі] *так хутка забылі той жах, які перажывалі у час соцыяльнай рэволюцыі?* ДК.

Адз. м. Т. *соцыяльным*: АЛ. ж. Н. *соцыяльная* (4): ДЖ; СНБ (3). Р. *соцыяльнай:* ДК; *соцыяльнае:* АЛ; *сацыяльнай*: СНБ. В. *соцыяльную*: Т, 58; *сацыяльную*: ЗС, 18. н. Р. *сацыяльнага:* Т, 34. В. *соцыяльнае* (4): АЛ; ГВУ; ЖН; ШБСЯ. Мн. Н. *соцыяльные*: СНБ. Р. *соцыяльных* (2): ЖН (2).

**[САЮЗ]** (4) *м.* Цеснае аб'яднанне, сувязь дзвюх або некалькіх груп, таварыстваў, класаў. *У СССР.. у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі .. з нявіданым творчым энтузіязмам і запалам будуе соцыялістычнае грамадзтва.* АЛ. *Не вельмі даўно ў нас было следства па дзелу аб вучыцельскім саюзе.* ВД.

Адз. Р. *саюза*: ВД. М. *саюзе* (3): АЛ; ВД; ЖН.

**САЮЗНІК** *м.:* Δ **Саюзнік-госць:** *Аж тут к ім* [гругану і

ваўку] *саюзнік-госць: - Што вы нос спусцілі?* Пц.

Адз. Н. *саюзнік*: Пц.

**СВАБОДА** (25) *ж.* **1.** Адсутнасць палітычнага і эканамічнага прыгнёту, абмежаванне ў грамадска-палітычным жыцці, і дзейнасці якога-н. класа ці грамадства ў цэлым. *..Нелегальная літаратура, якую я* [Купала] *тады чытаў, была прасякнута нянавісцю да царызма і любоўю да свабоды і незалежнасці.* ПС. *І вось толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу.* Нз, 15.

**2.** Асабістая незалежнасць, самастойнасць. [Мікіта]: *Меджду протчым, змалку дзён мяне цягнула да свабоды і гандлю.* Т, 36. *Ці там, дзе на скалах вольнага Каўказа Днююць і начуюць арлы на свабодзе, .. Песня чутна ўсюды Ў бязмежным прасторы..* ПСД.

◊ **Вывесці на свабоду** *гл.* вывесці**.**

Адз. Н. *свабода* (4): СНБ, 336; СП; Т, 28, 45. Р. *свабоды* (10): Дз, 188; ДЖ (2); НК; ПН, 46; ПС; Пц; СНБ; СП; Т, 36. Д. *свабодзе* (3): БСУ; ПСД; Пп, 5. В. *свабоду* (3): ЖН; Нз,15; НК. Т. *свабодай* (2): ПН, 47; СС, 303. М. *свабодзе* (2): АПЖ; ТЗУ, 293. Мн. Р. *свабод:* БВ.

**СВАБОДНЫ** (36) *прым.* **1.** Які не ведае прыгнёту, эксплуатацыі, зняволення. *Ён ідзе ўжо ў сям'ю нашу, Наш народ свабодны, Да рэспублікаў совецкіх Як да сваіх родных.* ЗЯЗ, 90. *Думкаю-песняй тваё* [Сталіна] *імя славіць Народ беларускі свабодны За Беларускую нашу дзяржаву, Якую стварыў ты нам, родны!* СС, 302.

**2.** Які не з'яўляецца рабом, прыгонным. *І сейбіт выйдзе, свабодны без путаў. Трактарны ў рукі руль возьме з паклонам..* Мц, 75. *..свабодны беларус у сваёй незалежнай дзяржаве будзе куды прыхільней адносіцца да іх* [палякаў, расійцаў, жыдоў, украінцаў], *чымся беларус, падняволены чужынцам.* НДН, 19.

**3.** Бесперашкодны, неабмежаваны законам. [Мікіта]: *..змалку дзён мяне цягнула да свабоды і гандлю.* [Янка]: *Хіба да свабоднага гандлю сумленнем і гонарам.* Т, 36. [Мікіта]: *Гэта... гэта не гарэлка, а, меджду протчым, лікёр пазнанскі, ваша таварыскасць. На гандаль купіў, на свабодны гандаль, меджду протчым.* Там жа, 60.

**4.** Нікім, нічым не заняты. [Янка]: *Баюся, што гэта мудрасць дасць вам* [Мікіце] *чэк на свабоднае месца ў Менскім астрозе.* Т, 36. *Па ўсіх свабодных мясцох расклееены па сценах друкаваныя ўрадавыя пастановы, дэкрэты, лозунгі..* Там жа, 43.

◊ **Дыхнуць свабоднымі грудзямі** *гл.* дыхнуць**.**

Адз. м. Н. *свабодны* (7): БН, 92; ЗЯЗ, 90; Мц, 75; НДН, 19; ПН, 314; СС, 302; Т, 49. Р. *свабоднага* (2): Н; Т, 36. Д. *свабоднаму*: Г, 16. В. *свабодны*: Т, 60. Т. *свабодным*: Т, 36. М. *свабодным*: НДп, 230. ж. Н. *свабодная* (7): СД; Т, 36 (5), 55. Р. *свабоднай* (2): Г, 17; Т, 46. В. *свабодную* (3): Т, 36 (2), 55. М. *свабоднай* (3): Т, 33, 40 (2). н. В. *свабоднае*: Т, 36. Мн. Н. *свабодныя* (3): ВВ, 263; Т, 43; ТП, 213. Р. *свабодных* (3): Т, 38, 43, 46. Т. *свабоднымі*: РС, 40.

**[СВАРКА]** *ж. Тое, што* спрэчка. *Дзеле чаго-ж тагды гутарка аб згодзе, аб палітычнай лучнасьці з Польшчай, калі усе робіцца на задор, на сварку, на калатню і варажнечу.* ОШМ.

Адз. В. *сварку*: ОШМ.

**СВАТКА** *м. Разм. Тое, што* сваток. *...Ну, выбачай, сватка, гэтакай свабоды мне* [мужыку] *ешчэ не здарылася бачыць!...* ХЛБ.

Адз. Н. *сватка*: ХЛБ.

**СВАТОК** (4) *м. Ласк.* Сваяк, дальні родзіч. [Гануля]: *А нешта нейкае аб высяленні была ў цябе, сваток, гутарка напачатку.* Т, 43. [Гануля]: *Звычайная рэч, мой сваток.* Там жа, 44. *Параўн.* сватка.

Адз. Н. *сваток* (4): Т, 43, 44 (3).

**СВАЦЕЙКА** (2) *ж. Ласк.* Сваячка, дальняя родзічка. [Гарошка]: *Што вы, свацейка?! Я – і такія важныя асобы... яшчэ з лаўкі звалюся з перапуду.* Т, 27. [Гарошка]: *Але як, свацейка, пачалося?!.. Нагналі гібель казакаў, сам нават спраўнік з Менску прыехаў.* Там жа, 43.

Адз. Н. *свацейка* (2): Т, 27, 43.

**СВАЯК** (4) *м.* Той, хто знаходзіцца ў сваяцтве з кім-небудзь. *Сваякі – ўсе і суседзі – Ніхто дома з іх ня ўседзеў, Выйшлі ўсе з аднэю радай – Бараніцца ад нападу.* ГЖУ. [Гануля]: *Гэта ж мы блізкія сваякі: твой* [Гарошкі] *дзед і мая бабка былі родныя брат і сястра.* Т, 25.

**Сваякі.**

Адз. Н. *сваяк*: Ч, 321. Т, *сваяком*: УрП, 50. Мн. Н. *сваякі* (2): ГЖУ; Т, 25.

**СВАЯЦТВА** *н.* Роднасць па крыві. [Мікіта]: *..мамаша, выехалі з гэтым сваяцтвам, як з козамі на торг!* Т, 25.

Адз. Т. *сваяцтвам*: Т, 25.

**[СВАЯЧОК]** *м. Ласк., перан.* Той, хто навязвае сяброўства каму-н. *Беларус-жа ім* [маскалям і ляхам] *на тое*: *– Сваячкі мае вы: Смачны жолудзь вам на каву, Дый высока дрэва!* С, 209.

Мн. Н. *сваячкі*: С, 209.

**[СВЕДЕНІЕ]** *н. Руск.* Звестка. [Усходні вучоны]: *Необходзімо почэрпнуць от вас* [Янкі] *сведенія касацельно церрыторыяльных данных обласці, іменуемой вашым племенем – Беларусь.* Т, 38.

Мн. В. *сведенія*: Т, 38.

**[СВЕДКА]** (5) *м.* Відавочца. *Мы самі сведкамі таго, што кінутыя мазолістай рукой здаровыя зярняты заруйнеліся на нашых вачах буйнай квяцістай руняй..* ПЛП. *Мы* [дэлегаты] *былі сведкамі выпадку, калі адзін падлетак не ўлічыў сваіх грашовых магчымасцей і зрабіў перавыдатак..* ПЧ.

Адз. В. *сведку*: Т, 60. Т. *сведкай*: ДЖ. Мн. Н. *сведкі*: Бч, 9. Т. *сведкамі* (2): ПЛП; ПЧ.

**СВЕДЧЫЦЬ** (2) і **[СЬВЕДЧЫЦЬ]** *незак.* Быць сведчаннем чаго-н., пацвярджаць што-н. *Прыехаўшы ў Беларусь савецкую я* [Купала] *раскажу .. большэвіцкую праўду аб гэтым гераічным будаўніцтве, якое сведчыць аб непераможнай хадзе соцыялістычнага ладу..* ЦСБ. *Новы напрамак, які надае пастанова ленінскага ЦК літаратурна-мастацкай справе, сьведчыць аб тым, што і ў гэтай галіне мы таксама дасьцігнем нявіданых сусьветных посьпехаў.* ДНСП.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *сведчыць*: ЦСБ; *сьведчыць*:ДНСП. Мн. 3 ас. *сведчаць*: СНБ, 340.

**[СВЕЖЫ]** (4) і **[СЬВЕЖЫ]** *прым.* **1.** Чысты, халаднаваты. [Янка]: *Не адкладваючы справы ў доўгі мех, лахі пад пахі, ды яшчэ заўтра – марш на свежае паветра!* Т, 30.

**2.** *перан.* Нядаўна выйшаўшы з друку. *Перад ім* [рэдактарам] *ляжала сто і адна свежых газэт.* Ан, 19. *На падлозе валяецца сто і адна свежых газет.* Там жа, 19.

Адз. ж. В. *сьвежую*: ДД. н. В. *свежае*: Т, 30. Мн. Р. *свежых* (3): Ан, 19 (3).

**СВЕРКАЯ** *дзеепрысл. да* сверкаць. *Руск.* Сіяючы пералівчатым святлом. [Мікіта]: (*..напявае*). *Оруж'ем на солнцэ сверкая, Под звукі ліхіх трубачэй, По уліцам пыль подымая, Проходзіл полк гусар усачэй..* Т, 53.

**СВЕТ**[1] (63) і **СЬВЕТ** (54) *м.* **1.** Зямля з усім тым, што на ёй існуе. *Наперад па шчасьце! Хай злое ўсё дрогне, Весна ўжо на сьвеце, – Хрыстос уваскрос!* В. *А тым часам, наш край, адзін з прыгажэйшых краёў у свеце.* ХБ, 27. *Параўн.* вселенная, сусвет, сьветагляд. // Грамадства, людзі. *Забабон жыве і на Беларусі, а уладаньне яго тут, бадай, магутнейшае, цяжэйшае і нікчамнейшае на цэлым сьвеце.* З. *..І самыя мудрыя ў свеце законы Напісаны смела тваёю* [Сталіным] *рукой.* ПБН.

**2.** Чалавечае грамадства, аб'яднанне пэўным грамадскім ладам, культурнымі і сацыяльна-гістарычнымі адзнакамі. *Капіталістычны сьвет усё з большай і большай трывогай, азьвярэньнем і нянавісьцю сочыць за гэтай соцыялістычнай будоўляй..* АЛ. *Урэшце, забабон у наш XX-ты век апляваў паскуднай сьлінай увесь культурны сьвет, кінуўшы яму ў вочы процэс Бэйліса.* З. // *перан.* Лад жыцця. [Трактарыстка:] *Мы ідзём з табою* [трактарам] *Ў новы свет і людзі, Новы шлях цярэбяць Твае, мае грудзі.* ПТ, 206. *З-пад пушчаў Палесся, з-пад Нёмана, Сожа, З-пад Пцічы, Дняпра і Заходняй Дзвіны, З-пад стыку са светам чужым і варожым Прыйшлі мы, Совецкай краіны сыны.* ПБН.

**3.** Жыццё. *Нікому не сакрэт, што жыць на свеце беларусам было і ёсць найцяжэй, як усім іншым народам..* Нз, 14. [Судзьбіна:] *Вызнай, кім цябе* [брата другога] *бацька на сьвеце пакінуў, - Станься тым, ды йдзі к меншаму брату...* Ч, 323.

◊ **Бел-свет, (бел-сьвет), белы сьвет –** зямля, зямны шар; чалавечае грамадства. *Засядзе народ у Крэмлі Кліч кінуць на цэлы бел-свет, Пацвердзіць для роднай зямлі Свой сталінскі вечны завет.* ТП, 217. *Трох сыноў чараўнік на сьвет белы выводзіў, Трох сыноў, што хаваў узаперці..* Ч, 319.

◊ **З кійком жабрачым брысці, паўзці ў свет** *гл.* брысці**. Выйсці ў свет (сьвет)** *гл.* выйсці**. Выправіць у свет** *гл.* выправіць**. Далёкі свет –** вельмі далёка**.** *Дэспатычная Расія царскага ўрада адрывала нашых дзецюкоў ад родных хат, ад родных матак і гнала ў далёкі свет, у чужыну..* БВ, 16. **Збяёдаць з гэтага свету** *гл.* збяёдаць**. З сьвету зысці** *гл.* зысці**. Зьявіцца на сьвет божы** *гл.* з'явіцца**. Ісці на той сьвет** *гл.* ісці**. На край свету** *гл.* край**. На той свет без пары саджаць** *гл.* саджаць**. На чым свет** (3) – моцна, з вялікімі намаганнямі. [Гарошка]: *Вылез* [Юрка] *на вуліцу і давай з іншымі на чым свет шумець, і крычаць: "Зямлі і волі!"* Т, 44. [Ганула]: *Як толькі немцы вышлі, то ён* [Мікіта] *ужо на другі дзень палез на Трэку недзе на вышкі і давай, на чым свет, падбухторваць людзей.* Там жа, 46. **Пабачыць свет** *гл.* пабачыць**. Пайсці ў свет** *гл.* пайсці**. Саджаць на той свет** *гл.* саджаць**. Убачыць свет** *гл.* убачыць**. Ускрэсці з таго сьвету** *гл.* ускрэсці**.**

Адз. Н. *свет* (6): АБ, ЁЯ; ПСД, 252; Пп, 6; ПЧ; СС, 303; *сьвет* (9): АЛ; ВБЛ, 81; Дз, 189; Кц, 197 (2); З; М, 20; РКр; $Ш_3$. Р. *свету* (8): ЖН; Кз, 17; МІ, 220; НДН, 19; ПТ, 207; СС, 301; Т, 44, 54; *сьвету* (4): Ж; ЛР; УПУВ; Ч, 323. Д. *свету* (8): ЖН; МП (3); ПЛП; РКр; СД; Ф; *сьвету* (5): ГЖУ; ДНСП; Кц, 197; СНБ; УрП, 48. В. *свет* (15): БВ, 16; Бч, 9 (2); ГП, 8;

ДПЛС; ЁЯ; М, 20; Н; НДп, 229; ПТ, 206; СД; СК, 158; Т, 40, 44, 46; *сьвет* (14): БС; ВСп, 89, 91; Г, 17; Дз, 189; ЁЯ (2); СБНГ; ТС, 74; УрП, 50, 52; Ч, 319, 321, 324; *сьвету* (2): ВР; Дз, 190. Т. *светам* (6): А, 328; НК; ПБН; Пп, 5; СС, 302; СА; *сьветам*: См, 91. М. *свеце* (20): БрБ, 6; Бц, 74; ВВ, 263; ГВУ; ДПЛС; ЗН, (2); НДН, 18, 19 (2); Нз, 14; ПБН; ПЛП; ПСД; СС, 302 (2); Т, 36, 44; ТП, 214; ХБ, 29; *сьвеце* (15): АЛ; БС; В (2); ВС; Ж; З (2); Кр, 17; СНБГ; ХБ, 29; Ч, 319, 321, 322, 323; *сьвеці* (2): Дз, 189; РКр. Мн. В. *сьветы* (2): Тр; Ч, 322.

**[СВЕТ[2]]** *м. Тое, што* святло *ў 1 знач. ..калі бацька пасылаў мяне* [Купалу] *з сястрой на начлег пасвіць коней, я браў з сабой кнігі і пры свеце кастра або месяца чытаў.* ПС.

Адз. М. *свеце:* ПС.

**СВЕТАГЛЯД** (3) *м. Разм. Тое, што* светапогляд. [Янка]: *Гэта свабодная профэсія для вашага рэгістратарскага светагляду.* [Мікіта]: *Не разумею, пры чым тут мой, меджду протчым, светагляд?* Т, 26.

Адз. Н. *светагляд* (2): Т, 36, 41. Р. *светагляду*: Т, 36.

**[СВЕТАЗАРНЫ]** *прым.* Велічны. *Можа дакоціцца й мой* [маці] *голас ціхі, Выслухаюць там, у Крэмлі светазарным.* Мц, 74.

Адз. м. М. *светазарным*: Мц, 74.

**[СВЕТАПОГЛЯД]** (2) *м.* Сістэма поглядаў на жыццё, прыроду і грамадства. [Спічыні]: *Аб гэтым у вас* [Мікіты] *павінен быць ясны, дужа ясны светапогляд, адным словам – пад арэх.* Т, 41. [Мікіта]: *Усё гэта тутэйшыя грата-пэрсоны, меджду протчым, людзі аднолькавага са мной светапогляду.* Там жа, 22. *Параўн.* светагляд.

Адз. Н. *светапогляд*: Т, 41. Р. *светапогляду*: Т, 22.

**СВЕТАЧ** і **СЬВЕТАЧ** (5) *м.* **1.** *Паэт.* Агонь. *А першы* [ганец] *гэткі сьветлы быў, Як небам сланные прамені: Ў руцэ меў сьветач, што на зьдзіў Усе усюдах зводзіў цені.* Кц, 194. // *У параўн. ..Законы-ж твае* [правадыра], *нібы светач нязгаслы, Шляхі асвятляць будуць светлым імкненням, Знішчаць рабаўласніцтва трухлыя праслы.* ТП, 216.

**2.** *перан.* Тое, што з’уляецца носьбітам праўды, свабоды. *Ваш* [жыдоў] *ясны сьветач там, дзе Палестына, Наш* [беларусаў] *ясны сьветач – Маці-Беларусь адна..* Ж. *Зможам нядолю, зможам няволю, Сьветач запалім шчасьця свайго.* ПТ. *Параўн.* сьветыч *у 2 знач.*

ῑ **Блудны сьветач** – зара. *Дзе хмары чэзьлі, то зноў вісьлі, З-пад зор, з-пад блудных сьветачоў Ні вокам людзкім ані мысьляй Нязгадны цень ка мне зышоў.* УрП, 46.

Адз. Н. *светач*: ТП, 216; *сьветач* (3): Ж(2); РКр. В. *сьветач*: ПТ. Мн. Р. *сьветачоў*: УрП,46.

**СВЕТЛА** *прысл. да* светлы *ў 2 знач. Гэй, ты, моладзь, наша змена, Камсамольцы, камсамолкі, як-жа светла, як адменна свеціш колерам вясёлкі!* СА, 178.

**СВЕТЛАБРОВЫ** *прым.* Са светлымі бровамі. *З табою* [трактарам] *паедзе Стаханавец новы, Гэткі ўдалы, стройны, светлабровы.* ПТ, 208.

Адз. м. Н. *светлабровы*: ПТ, 208.

**СВЕТЛЫ** (16) і **СЬВЕТЛЫ** (10) *прым.* **1.** *перан.* Нічым не азмрочаны; шчаслівы. *Праміне віхор, патухнуць пажары, замрэ свіст меча, і настане светлы радасны дзень змучанага абрабленага нашага народу.* ПЛП. *77 год была Вільня сіратою, уздыхаючы па тых сьветлых часінах, калі яе універсітэт кіпеў мудрым жыцьцём..* УПУВ. // Азораны ўнутраным святлом, пачуццём радасці. *Яго* [Варашылава] *ўжо мы выбіралі мінулага году, А дні выбараў былі нам Светлай асалодай.* НК. // Прасякнуты аптымізмам, узнёслы. *..Законы-ж твае* [правадыра], *нібы светач нязгасны, Шляхі асвятляць будуць светлым імкненням, Знішчаць рабаўласніцтва трухлыя праслы.* ТП. *Песні рвуцца з трывожных, бунтарскіх грудзей, Поўны мараў ружовых і сьветлых надзей..* АР.

**2.** Высакародны. *Забабон спаліў бязлітасна на кастры вялікага сьветлага Гуса.* З. *..мэсыянізм, які быў прывіты польскаму народу, .. павінен быў выгадаваць у гэтым народзе штосьці светлае, разумнае, што магло-бы служыць прымерам і для другіх быўшых у паднявольлі народаў.* СБНГ.

**3.** *перан.* Добры. *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня ад сонца; ад зор залатых, Якую пяе уся наша зямля, Аб сейбіту светлы разносячы слых.* СС, 300. *Не магу не сказаць* [Купала] *пра вельмі светлае ўражанне ад сяброўскага яднання з членамі нашай дэлегацыі..* ПЧ.

**4.** *перан.* Прыгожы. *..там, дзе ў саматужнай майстэрні задыхаўся пролетарый-рабочы, – выраслі новыя буйныя фабрыкі, узняліся на былых пустырах светлыя гіганты-заводы.* ШБСЯ.

Адз. м. Н. *светлы*: ПЛП; *сьветлы*: Кц, 194. Р. *сьветлага*: З. В. *светлы*: СС, 300. ж. Н. *сьветлая*: УПУВ. В. *сьветлую*: З. Т. *светлай*: НК. н. Р. *светлага* (2): ВГР; ШБСЯ; *сьветлага* (3): АЛ; ВСп, 91; СНБ, 337. В. *светлае* (6): ГП, 8 (2); ЖН; МІ, 17 (2); ПЧ; *сьветлае*: СНБГ. Т. *светлым*: ВНЗ. Мн. Н. *светлыя:* ШБСЯ. Р. *сьветлых*: АР. Д. *светлым*: ТП, 216. В. *светлыя*: СС, 302; *сьветлые:* СНБГ. М. *сьветлых*: УПУВ.

**[СВЕТСКІЙ]** *прым. Руск.* Свецкі; не духоўны, грамадзянскі. [Поп]: *Понежэ есць в Мінске духовная семінарыя, то воісціну ізлішне обрэтаць універсіцет, гдзе будзет провозглашацься грэховное светское вучэніе.* Т, 27.

Адз. н. В. *светское*: Т, 27.

**СВЕЧКА** (2) і **[СЬВЕЧКА]** (2) *ж.* Палачка з тлушчавага рэчыва з кнотам у сярэдзіне, якая служыць для асвятлення. *Шоў* [унук] *цераз сад, дзе валялася ўволю На зямлі яблык. Іх бачыў без свечкі.* Ун, 73. // *У параўн. Як стаяла яна* [дзяўчына] *над гэтым – Над пасьцельлю з чырвані тэй! Быў з ёй добрым вясёлы ветрык – Загасіў, як сьвечку яе.* ВБЛ, 82.

Δ **Сьвечка-зара**: *..Як у небе абадзістым Тые сьвечкі-зоры, – Так магучы, яснасьветны На пагляд былі ўсе* [сыночкі].. Дз, 189.

◊ **Ні богу свечка, ні чорту качарга** – пра чалавека, які не вызначаецца адметнымі здольнасцямі. [Гануля]: *..мой Мікітка вучыўся, але мабыць, - не давучыўся, і выйшла з яго ні богу свечка, ні чорту качарга.* Т, 57.

Адз. Н. *свечка*: Т, 57. Р. *свечкі*: Ун, 73. В. *сьвечку*: ВБЛ, 82. Мн. Н. *сьвечкі*: Дз, 189.

**[СВІННЯ]** (3) і **[СЬВІННЯ]** *ж.* Парнакапытная млекакормячая жывёліна, свойскі від якой разводзяць для атрымання сала, мяса, скуры, шчаціння; самка гэтай жывёліны. [Янка]: *Бачыў бог, што не даў свінні рог, а рэгістратару панавання.* Т, 48. // У параўн. *Па-мойму ж не варта, Панкі, так лезць з жылаў... Як свінням – не глянуць Вам дальш свайго рыла.* Х.

◊ **Як сьвіньні на сьметнік** – хутка. *Сабраліся* [хаўрусьнікі] *хэўрай, Як сьвіньні на сьметнік. Ды ну-ж гаманіці, .. Як лепш атуманіць мазгі беларусам.* Х. **Як свінні ў чужым агародзе –** бесцырымонна. [Гануля]: *На гэтых* [вучоных] *дык няма ніякага ўпынку! Шнырацъ і шнырацъ, як свінні ў чужым агародзе.* Т, 39.

Адз. Д. *свінні*: Т, 48. Мн. Н. *свінні*: Т, 39; *сьвіньні*: Х. Д. *свінням*: Х.

**СВІСТ** (2) і **[СЬВІСТ]** *м.* **1.** Рэзкі, высокі гук, які ўтвараецца моцным выдыханнем паветра праз сціснутыя губы і зубы. *Пад звоны зброі, путаў звоны, Пад свіст раз'юшаных прыблудаў Брыдзеш* [Новы год] *з няведамых старонаў, Як здань няведамага цуду.* НГд, 8.

**2.** Гук, які утварае прадмет пры хуткім рассяканні паветра. *Людзкое помсты дух узьняўся, Ста віхраў сьвісты ніпачым, Суд і расправа пачалася Над тым пракорам прыблудным.* УрП, 52.

**3.** Гук пры хуткім рассяканні паветра. *Праміне віхор, патухнуць пажары, замрэ свіст меча, і настане светлы радасны дзень змучанага аграбленага нашага народу.* ПЛП.

Адз. Н. *свіст:* ПЛП. В. *свіст:*НГд, 8. Мн. В. *сьвісты*: УрП, 52.

**СВІСТАЦЬ** (12) і **[СЬВІСТАЦЬ]** *незак.* **1.** Утвараць свіст (*у 1 знач.*). *Як ён* [вецер] *сьвішча і як гамоніць, У гэтым страшны, значны год!* ВБЛ, 81.

**2.** Утвараць свіст (*у 2 знач.*) *Будзь здаровы, бацька, маці, – Мы пайшлі ужо ваяваці. Свішча куля, – йай-ха-ха! Каля вуха дзяцюка.* БЗ.

**3.** *перан.* Абыякава адносіцца да чаго-н. [Мікіта]: *У гэтым партфэльчыку .. дакуманты на права .. мець сабе жонак і дзяцей і не мець сабе жонак і дзяцей, свістаць, меджду протчым, на ...* Т, 46.

**4.** *Вобразн.* Пранізваць. *А на магілах крыўда свішча Ды кроў гарачая цячэ.* ГП, 8.

Інф. *свістаць*: Т, 46. Абв. цяп. адз. 3 ас. *свішча* (11): БЗ (10); ГП, 8; *сьвішча*: ВБЛ, 81.

**[СВОЕАСАБЛІВЫ]** *прым.* Адметны, незвычайны. *Бацям мае своеасабліваю сістэму, якая вельмі нагадвае амэрыканскага Форда.* ПЧ.

Адз. ж. В. *своеасабліваю*: ПЧ.

**СВОЕЧАСОВА** *прысл. да* своечасовы. *І абавязак паэта .. своечасова і высокамастацкімі творамі адгуквацца на ўсе гэтыя падзеі.* МП.

**[СВОЕЧАСОВЫ]** *прым.* Які выконваецца ў патрэбны момант. *Рэформа правапіса .. з'яўляецца велізарным правільным і своечасовым актам барацьбы за культуру беларускай мовы.* ШБСЯ.

Адз. м. Т. *своечасовым*: ШБСЯ.

**СВОЙ** (574) *займ., прыналежны.* **1.** Які належыць сабе, уласцівы сабе, які мае адносіны да сабе. *Пара ўжо беларусам самім падаць свой голас!* ВР. *Ясьне-вельможны пан рэдактар ясьневельможнай газэты "Kurjer Wilenski" сядзеў у сваім пакоі на пуховай пярыні і горка, горка плакаў.* ЧЧШ. // Які з'яўляецца асабістай маёмасцю, набыткам. *..Бацям закабальвае рабочых і сістэмай сваіх сталовых, магазінаў, рабочых кватэр.* ПЧ. *Мала-памалу заморскія госці сталі прывозіць з сваімі заморскімі скарбамі і думкі іншыя..* Кз, 17.

**2.** *У знач. наз.* Тое, што належыць сабе, а не каму іншаму, з'яўляецца уласцівым сабе, асабістае. *Калі гэтаго дружна зажадаюць два мільёны беларусоў-каталікоў, яны могуць*

*дабіцца свайго..* ВР. *Беларускае баярства .. начало выракацца свайго роднага, беларускага..* Нз, 14.

**3.** Уласцівы толькі адзначанаму прадмету; своеасаблівы. *І сёння, праглядаючы разам з вамі свой жыццёвы і творчы шлях, за адны пераходы гэтага шляху я* [Купала] *радуюся, другія я з ахвотай закрэсліў-бы сам.* ЖН. *Беларуская дзяржаўнасць таксама мае сваю гісторыю – маю* [Купала] *тут на ўвазе Вялікае Літоўска-Беларускае княства.* Нз, 14. // Не чужы, родны. *..”Практычныя граматыкі” Я.Лёсіка ужо зрабіліся незамененымі падручнікамі для кожнага беларускага грамадзяніна, які захоча акуратна пазнаць і вывучыць сваю мову.* ВСп, 89. *Мы сёння з гордасцю назіраем і адчуваем вялікія дасягненні ў галіне культуры. Зірнуць толькі на дзесяткі тысяч школ, дзе беларускія дзеці пазнаюць веды ў сваёй роднай мове..* ШБСЯ.

**4.** Прызначаны для каго-, чаго-н., адпаведны, належны. *Беларускае в-ва за граніцай на чале з т. Жылуновічам (Цішка Гартны) выпаўніла сваё заданьне як найлепей.* ВСп, 91. *Ва ўсіх дзяржаўных і грамадскіх установах .. павінны мець сваё месца і нацыянальныя меншасці .. прапарцыянальна беларускай большасці.* НДН, 19.

**5.** Які знаходзіцца ў сваяцкіх, сяброўскіх або іншых блізкіх адносінах, звязаны з месцам жыхарства, сумеснай працай і пад. *Ці-ж ён* [беларускі народ], *вякі ваюючы для славы і магутнасьці сваіх суседзяў, ня варты быў таго, каб адваяваць хоць крыху гэтай славы і магутнасьці для самаго сябе, для свайго краю?* ДД. *Вось-жэ усе тые, што асталіся дома, што не маюць магчымасьці дзяліць долю і нядолю са сваімі роднымі на полі бітвы, павінны.. дружна ісьці да працы на сваіх загонах ..* РКр. // *У знач. наз.* Той, хто знаходзіцца ў якіх-н. блізкіх адносінах. [Судзьбіна:] *.. І сваіх, і чужых расьпінаў на крыжы ты* [першы брат]*; Крыўдай праўдзе сьмяяўся у вочы.* Ч, 322.

**Я з гордасцю выбіраю свой народны урад.**

◊ **Адбудаваць сваімі рукамі** *гл.* адбудаваць. **Аддаць свой голас** *гл.* аддаць. **Аддаць сваю руку** *гл.* аддаць. **Браць у свае рукі** *гл.* браць. **Вынесены на сваёй скуры** *гл.* вынесены. **Вынесці на сваіх плячах** *гл.* вынесці. **Жыць сваім адумам** *гл.* жыць. **Загубіць сваю скуру** *гл.* загубіць. **На сваю галаву** *гл.* галава. **На свой капыл** *гл.* капыл. **На сваё ліха** *гл.* ліха. **На свой лад** *гл.* лад. **Падараваць сваю абымальную руку і сваё трапятлівае сэрца** *гл.* падараваць. **Падаць свой голас** *гл.* падаць. **Прыбіраць у свае рукі** *гл.* прыбіраць. **Рабіць сваё**

**грэшнае дзела** *гл.* рабіць**. Сваё правіць** *гл.* правіць**. Сваім парадкам** *гл.* парадак**. Сваім чарадом** *гл.* чарод. **Свой чалавек** *гл.* чалавек**. Сеяць свае спрацаваныя косці** *гл.* сеяць**. Сказавць сваё апошняе слова** *гл.* сказаць**. Таптаць свой след** *гл.* таптаць**. Трымаць свой сцяг** *гл.* трымаць**. Трымаць у сваіх руках** *гл.* трымаць**. У сваім часе** *гл.* час**. Уткнуць свае грошы** гл. уткнуць**. Хлеб свой ад'есці** *гл.* ад'есці**.**

Адз. м. Н. *свой* (4): ЁЯ; МД; Ч, 323; ЧЧШ. Р. *свайго* (28): БС; Бч, 9; ВМР (2); ВН; ДД; Дз, 190; З; Кз, 17; МП; НДп, 229; ПЧ; РКП; СБНГ; СНБ, 337, 339; СНБ; Т, 19, 20, 56, 60; УрП, 51, 52; Х; ХЛВ, 315; Ч, 320; ШБСЯ (2). Д. *свайму* (8): ВМР; Кз, 17 (2); НДН, 18; Т, 20, 44; УрП, 47; Ч, 323. В. *свайго* (2): ЁЯ; Н; *свой* (83): АК; Ал; Ан, 18; АПЖ (3); Б, 18 (2); БрБ, 6; БСУ; Вб, 236 (2), 237 (2); ВВ, 263 (2); ВБЛ, 81 (3); ВМР (2); ВС; ВР; ГВУ (5); ДЖ; ДК; ЁЯ; ЖН; ЗК, 43; ЗС, 18; К; Кц, 197; КЧ; М, 20 (2); МД, 117; Нз, 14 (2); НКУС; ПД, 83; ПЛП; ПСД; Пт (2); Пц; РКр; РС, 40 (2); СМ; ССА, 294; СБНГ (2); СНБ; СП; СЧ, 432 (2); Т, 22, 24, 25, 39, 40, 48 (2); 49 (2), 50, 57; ТП, 217 (2); ТС, 74; УрП, 49 (2); 52; Ф; Ч, 319, 320 (2); 323 (2); ШБСЯ. Т. *сваім*: (21): БВ, 17; БС; ВС; 3; ЛР; НКУС; ПЛП (2); СНБ, 336; СНБ; Т, 21, 23, 53; УрП, 20, 48, 50, 51, 52; ХБ, 27; ЧЧШ; *своім*: Т, 28. М. *сваім* (24): АЛ; БВ, 17; БС; ВН (2); ВР; ВС; ВСп, 89, 91; ДЖ (2); МД; НДН, 18; ОШМ; ПСД, 231; Пп, 5; СНБ (3); Т, 35 (2); Тр (2); Тж, 16; ЧЧШ. ж. Н. *свая* (2): АБ, 16; УрП, 50. Р. *сваёй* (25): А, 328; АЛ; БрБ, 6; ВСп, 91; Дз, 187; Ж; К; Кз, 17; М, 19; МІ, 17; МПв, 220; Нз, 14, 15; ПЛП; СНБ, 337, 339; Т, 23, 30, 34, 38, 47, 53 (2); Ч, 319; ШБСЯ; *сваей* (9): БС; БСУ; ВМР; ВС; З; Кц, 196; ПН, 47; ПЧ; СНБ; *свае* (4): БСУ; ВМР; МІ, 17; ПЛП. Д. *сваей*: ТС, 74. В. *сваю* (72): БВ, 16 (3); БрБ, 6; БС; БСУ (5); ВСп, 89; ЖН; З; ЗС, 18; МІ, 17; НДН, 18 (2), 19; Нз, 14 (3); НКУС; ОШМ; ПБН; ПВ; ПЛП (3); ПН, 47; Пт; Пц; ПСД; ПЧ; РКП (3); СБ; См, 91; СНБ, 340; СНБ (6); СП; Т, 23 (2), 27, 35 (2), 37, 38, 39, 40, 42 (2), 44, 46, 49 (2), 50, 51, 54; Тж, 16; ТП, 217; ТС, 74; ХБ, 29; Ч, 320; ЧЧШ; *свон*: Т, 26. Т. *сваёй* (21): АЛ; АПЖ; БН, 91; БСУ; ВСп, 89; ГВУ; МІ, 17; СА, 178; См, 90; СНБ, 339; СНБ; Т, 29, 32, 35, 38, 53; УрП, 49, 52; Ч, 322; ШБСЯ (2); *сваей*: ТС, 74; *сваёю* (2): МСП, 187; ПВ; *сваею* (4): ВМР; Н; УрП, 48, 49. М. *сваёй* (28): АБ, 16; АЛ (4); ВР; Дз, 188, 191; ЖН; Кз, 17; Кц, 196; НДН, 18 (2), 19 (3); Нз, 14, 15; ПЧ; СБНГ; СНБ; Т, 30, 35, 36, 40, 43, 46; Тж, 16. н. Р. *свайго* (25): БВ, 16 (2); БС; БСУ; Бч, 9; ВМР; ВР; ГП, 8; ЖН; З; МІ, 17; Нз, 14; ОШМ (2); ПБН; ПЛП; ПТ; ПЧ; СА, 179; См, 90; СНБ, 336;

СНБ (3); Т, 41; УрП, 50. Д. *свайму* (2): АЛ; Ч, 323. В. *сваё* (45): Б, 18; БВ, 16 (2); ВБЛ, 81; ВГР; ВН (2); ВСп, 91; ГВУ; ГП, 8; ДЖ; Дз, 187; ДК; З (2); ЗС, 17; М, 19; МІ, 17 (2); Мц, 75; Н; НГд, 8; НДН, 18 (2); 19; Нз, 14; ПН, 47; ПЧ; РКр (3); СНБ; Т, 26, 27, 30, 35 (3), 37, 42, 46, 52; Тж, 16; ХБ, 30; Ч, 324; *свое*: Т, 51. Т. *сваім* (9): ВС; ЗК; 42; ЗС, 17; ЗЯЗ, 89; НДН, 18; СНБ; Т, 35, 48, 53. М. *сваім* (3): СНБ, 336; Т, 35; ЧС, 51. Мн. Н. *свае* (3): БрБ, 7; РС, 39; СНБ, 336. Р. *сваіх* (46): АБ, 16 (2); АЛ; БВ, 16; БС (3); В; ВН; ВР; ВСп, 90; ДД; Кз, 17 (3); З; ЗК, 42; ЗЯЗ, 90; М, 90 (2); МІ, 17; Нз, 14; ПЧ (4); СА, 179; СБНГ (2); СНБ, 339; СНБ (3); Т, 25, 27, 31, 37 (2), 39, 41, 42, 43; Тж, 16; УрП, 52; ХБ, 29; Ч, 321; *своіх*: Т, 47. Д. *сваім* (4): ЗЯЗ, 89; МІ, 18; Т, 22; УрП, 47. В. *сваіх* (3): Т, 36, 52; Ч, 322; *свае* (60): АЛ (3); БВ, 16 (2); 17; БН, 91; БС (2); Бц, 74; ВБЛ, 81 (2); ВГР; ВМР (6); ВС; Г, 17; ЖН (2); З; Кр, 78; МІ, 18; МП (2); НГ; НДН, 18; ПБН; РКр (2); СНБ, 337 (2); СНБ (4); Т, 23, 35, 37, 38, 39 (2), 41, 45, 49 (2), 50, 54, 55, 61; Тж, 15; УПУВ; УрП, 48; Х; Ч, 321, 325. Т. *сваімі* (20): АЛ; БрБ, 6; ВСп, 90; ДЖ; З; ЗС, 17; Ж; Кз, 17; ЛР; МІ, 18; Нз, 14; ПЛП; РКр (2); СНБ, 336; Т, 22, 23, 30, 55; ЦСБ; *сваймі*: ЛР. М. *сваіх* (13): АЛ (2); АБ, 16; БВ, 16; ВГ; ВС; ЖН; Н; НДН, 18; РКр; См, 91; Т, 38; Тж, 16; *своіх*: Т, 38.

**[СВОЙСКІ]** *прым.* Не куплёны, хатняга вырабу. *Жалейкі, дуды красавалі – Прылады свойскія музык, – Цапы і вілы ў высь сягалі, Як быў абшар далёк, вялік.* УрП, 47.

Мн. Н. *свойскія*: УрП, 47.

**СВЯДОМА** *прысл. да* сьвядомы. *Закрэсліў-бы я* [Купала] *тыя творы, у якіх свядома ці несвядома вырываліся ноты, не сугучныя тварымай партыяй і пролетарыятам эпосе.* ЖН.

**[СВЯДОМАСЦЬ]** і **[СЬВЯДОМАСЬЦЬ]** *ж.* Усведамленне. *Яна* [беларуская моладзь] *інстынктыўна, обмацкам даходзіла да тэй свядомасці аб патрэбе свайго беларускага войска.* БВ, 16. *Сеньня, пранікнуты ясна сьвядомасьцю поэта і грамадзяніна, я* [Купала] *рашуча і раз назаўсёды .. парываю з беларускім нацыянал-дэмократызмам ва ўсіх яго праяўленьнях.* АЛ.

Адз. Р. *свядомасці*: БВ, 16. Т. *сьвядомасьцю*: АЛ.

**[СВЯНЦІЦЬ]** *незак. Польск.* Выконваць царкоўны абрад асвячэння. [Янка]: *Зялёны бор шлюб нам* [з Аленкай] *даваў, зоркі дружкамі былі, а расіца срабрыстая шлюбныя персцені свянціла.* Т, 53.

Абв. пр. адз. ж. *свянціла*: Т, 53.

**СВЯТА** (2), **СЬВЯТА** (7) і **СВЯТО** *н.* **1.** Урачысты дзень у гонар або у памяць якой-н. выдатнай падзеі, даты.

*Як песня, жыве яго* [Сталіна] *імя ў народзе, У кожным здарэньні, у кожнай прыгодзе, Ці майскае свята ў жывым карагодзе, Ці свята Кастрычніка ў хаты прыходзіць..* СС, 302.

**2.** Урачыстасць, наладжаная з якой-н. нагоды. *Было знаць неякае сьвята Няшлюбных з новізнай людзей – Шарсьцелі сьвітачныя шаты, Лаза ўхмылялася з лапцей.* УрП, 47.

**3.** Шчаслівы, радасны дзень, азнаменаваны якой-н. прыемнай падзеяй, а таксама сама гэта падзея. *Вялікая сталася ў свеце прыгода Пад Сталінскім сцягам удалым: Заззяла ўрачыстае свята народаў, Якога ў вяках не бывала.* ВВ, 263. *Скіне з тваіх* [Фінляндыі] *плеч ярмо плутакратаў, Здрайцаў прадажных нікчэмную зграю, Святкаваць будзеш вялікае свята Волі народнай ад края да края.* Ф.

**4.** *перан.* Пачуццё радасці, узнёсласці з прычыны якой-н. падзеі. *Людзі ходзяць, весяляцца Ў думках іхніх свята, А на вуснах іх імёны Слаўных кандыдатаў.* НК.

Адз. Н. *свята* (4): ВВ, 263 (2); СС, 302 (2); *сьвята* (2): УрП, 47; Ч, 320; *сьвято*: УПУВ. Р. *свята*: ТП, 215. В. *свята* (6): Бц, 74; ГП, 8 (2); НК; ПЛП; Ф; *свята* (2): Дз, 188; ХБ, 28. М. *сьвяце*: Ч, 320. Мн. Н. *сьвяты*: В. Р. *сьвятаў*: В.

**СВЯТКАВАЦЬ** (2) *незак.* Адзначаць, спраўляць свята, падзею, знамянальны дзень. *Скіне з тваіх* [Фінляндыі] *плеч ярмо плутакратаў, Здрайцаў прадажных нікчэмную зграю, Святкаваць будзеш вялікае свята Волі народнай ад края да края.* Ф. *..пойдзем далей сваім хоць цярністым, але святляным шляхам, .. і будзе на Беларусі не такое свята, якое мы цяпер святкуем.* ПЛП.

Інф. *святкаваць*: Ф. Абв. цяп. мн. 1 ас. *святкуем*: ПЛП.

**[СВЯТЛЕЙШЫ]** і **[СЬВЯТЛЕЙШЫ]** (2) *прым.* Пар. ст. *да* светлы. *перан.* Шчаслівейшы, лепшы. *Адны вас* [жыдоў] *Беларусы шанавалі; як блізкіх родных – да сьвятлейшае пары.* Ж. *Ты* [беларуская моладзь] *сама сваімі рукамі адбудуеш сабе і сваім патомкам лепшую і святлейшую будучыну.* МІ, 18.

Адз. ж. Р. *сьвятлейшае*: Ж. В. *святлейшую*: МІ, 18. Мн. Н. *сьвятлейшыя*: СНБГ.

**[СВЯТЛІЦА]** (2) і **[СЬВЯТЛІЦА]** (2) *ж. Уст.* Светлы, чысты пакой у хаце, прызначаны для прыёму гасцей. *Закончыў князь, махнуў рукой; Уходзяць тры ганцы ў святліцу..* Кц, 194. *Фінляндыя, чараў краіна! Шчасцем напоўняцца хатаў святліцы, Воляй акрыляцца горы, даліны.* Ф.

Адз. В. *святліцу*: Кц, 194. Мн. Н. *святліцы*: Ф; *сьвятліцы*: Кц, 192. М. *сьвятліцах*: ЗК, 42.

**СВЯТЛО** (4) і **[СЬВЯТЛО]** (6) *н.* **1.** Асвятленне,

характэрнае для якой-н. часткі сутак. *Іскрыстым, блескатным сьвятлом Заліты княжскія сьвятліцы..* Кц, 192.

**2.** Агонь. [Першы ганец:] *А як ішоў між іх* [людзей] *з сьвятлом, Яны пачулі, ах пачулі: Сьляпым заморэные сном, Худые рукі ў высь цягнулі.* Кц, 19.

**3.** *перан.* Тое, што дае пачатак чаму-н. шчасліваму, новаму. *З году у год мы* [беарусы] *жылі, як жывёла, З году да году чакалі сьвятла...* Г, 16. *І ў апошнія гады перад сусветнай вайной гэта рэакцыя здавалася задушыла ў народах падняволеных расійскім царом ўсё, што было лепшага ў думках, усё што імкнулася да свабоды, да святла.* ДЖ. // Сімвал навукі, прагрэсу. *Сьвятло, якім прамянілася гэта вучэльня, захоплівало сабой ня толькі край Польска-Літоўска-Беларускі, .. але праменьні яго дасягалі аж да Масквы і Харкава...* УПУВ.

**4.** *Вобразн.* Поспехі ў якой-н. дзейнасці. *Бачыш* [першы брат] *зоры, сонца вясёлае бачыш? З імі рвіся ўсім сэрцам зраўняцца, А як сьлед свой зарнічным сьвятлом абазначыш, – За табой кінуць зморы ганяцца.* Ч, 323.

◊ **Разводзіць святло** *гл.* разводзіць**.**

Адз. Н. *святло*: УПУВ. Р. *святла*: ДЖ; *сьвятла* (2): Г, 16; Ж. В. *святло*: ГП, 8; *сьвятло*: БСУ. Т. *святлом*: Кц, 196; *сьвятлом* (3): Кц, 192, 194; Ч, 323.

**[СВЯТЛЯНЫ]** (2) і **[СЬВЯТЛЯНЫ]** *прым. Польск.* Светлы. [Трактарыстка:] *Сонца нам* [з трактарам] *смяецца Нібы строіць жарты, Месячык святляны Служыць нам за варту.* ПТ, 206. // *перан.* Ясны. *Між небам блакітым і чорнай зямлёй Сьвятляная думка лунала.* КП, 170. // *перан.* Азораны добрымі імкненнямі. *Дык не зважайма на здраду, а пойдзем далей сваім хоць цярністым, але святляным шляхам, па якім ішлі..* ПЛП.

Адз. м. Н. *святляны*: ПТ, 206. Т. *святляным*: ПЛП. ж. Н. *сьвятляная***:** КП, 170.

**[СВЯТОЧНЫ]** (2) і **[СЬВЯТОЧНЫ]** *прым.* **1.** Прызначаны для свята. *Людзі ходзяць урачыста У святочных строях, – А з павагай, з санавітай Ходзяць, як героі.* НК.

**2.** *перан.* Уласцівы шчасліваму чалавеку. *Кароценькая вестка.. павінна збудзіць у кожнага беларуса і наагул у кожнага грамадзяніна, жывучага вечна у нашым краю, вялікае здаволеньне і сьвяточную радасьць.* БСУ.

**3.** *перан.* Які прыносіць задавальненне. *Так, знясільваючая праца бурлакоў робіцца проста святочнай, калі бурлакам падаруюць гумавыя бацявы боты..* ПЧ.

Адз. ж. В. *сьвяточную*: БСУ. Т. *святочнай*: ПЧ. Мн. М. *святочных*: НК.

**[СВЯТЫ]** (6) і **[СЬВЯТЫ]** (13) *прым.* **1.** *Рэл.* Чалавек, які ўсё жыццё служыў богу ў царкве, а пасьля смерці прызнаны нябесным заступнікам веруючых. [Ануля]: *Бацюшка духавы, святы ўгоднік!* [Мікіта]: *Медждy протчым, мамаша, не святы ўгоднік, а ацец духоўны...* Т, 28. // *У знач. наз. А уся – жаночэ іме, Кожны знойдзе між сьвятымі.* $Ш_4$.

**2.** *Высок.* Высакародны, чысты. *І гэтыя людзі мучыліся, працавалі, аддавалі ўсё сваё найлепшае задароўе, жыццё за беларускае вольнае слова, за беларускую святую справу.* МІ, 17. *Памерлі яны* [М. Багдановіч, Цётка, Іван Луцкевіч..], *палаючы да апошніх скону хвілін святой ідэяй.* Там жа, 17.

**3.** *перан.* Якім даражаць. *Вучыць па-расейску – гэта дрэнная і шкодная выдумка ўселякіх Солоневічаў, бо яна толькі мацней прывязывае цёмнаго беларуса да польскай мовы, каторую ён лічыць "сьвятой", "касьцёльнай" мовай.* ВР. *Дакуль свайго не здрадзіць слова Свая народная рука, Датуль з галін сьвятой дубровы Чужняк не сьцягне і лістка.* УрП, 50.

◊ **Праўданька сьвятая** *гл.* праўданька**.**

Адз. м. В. *сьвяты*: РКр. Т. *сьвятым*: ЛР; *святым*: ПЛП. ж. Н. *сьвятая*: РКр; *святая*: ВГ. Р. *сьвятой*: УрП, 50. В. *сьвятую*: Дз, 191; *святую*: МІ, 17. Т. *сьвятой* (2): ВР; УрП, 52; *сьвятою*: З; *святой* (2): МІ, 17; Т, 28. н. Р. *святога*: Т, 21. В. *сьвятое*: З. Т. *сьвятым*: РКр. Мн. Р. *сьвятых* (2): Г, 16; МД. В. *сьвятыя*: УрП, 48.

**[СВЯТЫНЯ]** *ж.:* ĩ **Святыня небажычная** – царква. *Не было, праўда, узнесеных на хвалу божу ні з камення, ні з дрэва святыняў небажычных і аўтараў, золатам набіваных, – былі толькі запаведныя лясы і гаі цяністыя, дзе складаліся ахвяры багам прамудрым.* Кз, 17.

Мн. Р. *святыняў*: Кз, 17.

**СВЯЦІЦІ** *гл.* **СВЯЦІЦЬ.**

**[СВЯЦІЦЦА]** *незак.* Выпраменьваць святло. *Свяціся-ж ты, сонца, ў маё век аконца! Вітаю цябе я і соллю, і хлебам!* ТП, 213.

Заг. адз. 2 ас. *свяціся*: ТП, 213.

**[СВЯЦІЦЬ]** (8) і *разм.* **СВЯЦІЦІ, [СВЯЦІЦЬ]** (3) *незак.* **1.** Выпраменьваць святло. *Не аб сонцы, што нам свеціць І зімой, і летам, Не аб зорках, што міргаюць Ночкамі над светам, .. Мая песня сёння будзе.. Аб любімых кандыдатах У Совет Вярхоўны.* НК. *Зноў аднолькова свеціць нам сонца, Толькі ў вас з намі межаў не будзе. Жыці шчаслівай доляй бясконца Будзеце знамі, З Захаду людзі.* ССА, 294. // *перан.* Прыносіць радасць, шчасце. *Гэй, ты, моладзь, наша змена, Камсамольцы, камсамолкі, Як-жа светла, як адменна свеціш*

*колерам вясёлкі!* СА, 178. *Са Сталіным лёгка жывецца на свеце, Як яснае сонейка, гэтак нам свеціць..* СС, 302.

**2.** *перан.* Віднецца. *Пакуль-жа блісьне шчасьце, хоць душу нягодну Зьвярні да гор лясістых, шырокіх пракосаў, Што дыванамі пры Нёмне сьвецяць з-пад нябёсаў..* ХБ, 28. *..На ўзгорку невялікім, у бярозавым гаі, Сьвяціў шляхецкі хорам, кругом дзеравяны Ды на падмураваньні, – увесь пабяляны..* Там жа, 28.

**3.** *перан.* Заставацца неўміручым, вечным. *Спі, буравеснік, усмерчаны Горкі Хеўрай прадажніцкіх юдаў. Дум тваіх радасных ясныя зоркі Векі свяціці нам будуць.* СЗГ, 252.

**Сонца свяціла нам аднанькова.**

Інф. *свяціці*: СЗГ, 252. Абв. цяп. адз. 2 ас. *свеціш*: СА, 178. 3 ас. *свеціць* (4): НК; СС, 302; ССА, 294; Т, 57. Мн. 3 ас. *свецяць*: ТП, 215; *сьвецяць*: ХБ, 28. Пр. адз. м. *сьвяціў*: ХБ, 28. н. *свяціла* (2): ССА, 294 (2). Заг. мн. 2 ас. *сьвяціце*: Кц, 196.

**[СВЯШЧЭННЫ]** (3) *прым.* **1.** Які вядзецца з вызваленчай мэтай (пра вайну). *У нашай свяшчэннай барацьбе з заклятым ворагам – нямецкім фашызмам – ваюе кожны дом, кожнае дрэва, кожны ўзгорак.* РКП.

**2.** Недатыкальны, непарушны. *Нашы бясстрашныя байцы-пагранічнікі .. мужна адстойваюць кожную пядзь свяшчэннай зямлі.* ВГ. *З пачуццём найвялікшага гневу я* [Купала] *прачытаў паведамленні аб разбойнічым нападзе на свяшчэнныя граніцы нашай радзімы.* Там жа.

Адз. ж. Р. *свяшчэннай*: ВГ. М. *свяшчэннай*: РКП. Мн. В. *свяшчэнныя:* ВГ.

**СЕБЯ** *займ. Руск. Тое, што* сябе. [Поп]: *Навождзяху оне на себя возмездзіе необозрымое.* Т, 37. [Усходні вучоны]: *Вашы* [Янкі] *землякі не собіраются в будушчэм прыобрэсці себе морэ вместо утонувшего, чтобы со временем пробіць себе окошко куда-нібудзь – в Европу іл Азію?* Т, 47.

Адз. Д. *себе* (2): Т, 47 (2). В. *себя*: Т, 37. М. *себе* (2): Т, 39 (2).

**[СЕВАЛКА]** *ж. Разм.* Сеялка. *Цяперака час жытняй сяўбы. Дык жыва за плуг і севалку!* РКр.

Адз. В. *севалку*: РКр.

**СЕГОДНЯШНІЙ** *гл.* **СЯГОДНЯШНІ.**

**СЕДЗЯЧЫ** *дзеепрысл. да* сядзець *у 2 знач. Хі-хі! насьмяхаецца польскі пан-абшарнік, седзячы на беларускай зямлі.* З.

**СЕЕЦЬ** гл. **СЕЯЦЬ.**

**СЕЗОННЫ** *прым.* Які мае адносіны да пэўнага сезону. [Ганулі]: *Гарэлка... пісталеты... зусім не сезонны тавар у гэты час.* Т, 58.

Адз. м. Н. *сезонны*: Т, 58.

**[СЕЙ]** (8) *займ. Руск., уст. Тое, што* гэты *ў* 1 *знач.* [Поп]: *Мір очагу сему!* Т, 51. [Поп]: *Чады моі, остановіцесь. В сію обіцель градзе большэвік.* Там жа, 52.

◊ **Быть по сему** *гл.* быць**.**

Адз. м. Д. *сему* (2): НДН, 18; Т, 51. ж. В. *сію*: Т, 52; *сего*: Т, 39. Мн. Н. *сіі*: Т, 51; *сія*: Ч, 322. Р. *сіх*: Т, 38. Д. *сіім*: Т, 28.

**СЕЙБІТ** (7) *м.* Той, хто сее зерне, засявае зямлю. *І сейбіт выйдзе, свабодны, без путаў. Трактарны ў рукі руль возьме з паклонам, – Сейбіту праца не будзе атрутай, Вольная праца на вольных загонах.* Мц, 75. // *перан.* Стваральнік новага жыцця. *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня ад сонца, ад зор залатых, Якую пяе уся наша зямля, Аб сейбіту светлы разносячы слых.* СС, 300. *Праўн.* сявец.

**Аб Сталіну-сейбіту.**

Δ **Сталін-сейбіт** *гл.* Сталін.

Адз. Н. *сейбіт*: Мц, 75. Д. *сейбіту: Мц, 75. М.* сейбіту (5): СС, 300 (2), 301 (3).

**[СЕКУНДА]** *ж.*: ◊ **Секунда-другая** – некаторы час. *Мікіта хапае ў Дамы рэвальверы ў абедзве рукі за рулькі, секунду-другую бегае па хаце, пасля меціцца бегчы з настаўленымі рэвальверамі ў дзверы..* Т, 59.

Адз. В. *секунду*: Т, 59.

**[СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫ]** *прым.* Які адносіцца да сельскай гаспадаркі. *..ў галіне індустрыяльнага і сельскагаспадарчага соцыялістычнага будаўніцтва краіна Саветаў пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі дасьцігла нябывалых і нячуваных посьпехаў..* ДНСП.

Адз. н. Р. *сельскагаспадарчага*: ДНСП.

**[СЕЛЬСКІ]** (4) *прым.* Які адносіцца да сяла. *Сельская гаспадарка ў Чэхаславакіі вядзецца прымітыўна – аруць валамі, найчасцей каровамі.* ПЧ. *Значна кантрастуе з сельскай гаспадаркай чэхаславацкая прамысловасць..* Там жа.

Адз. ж. Н. *сельская*: ПЧ. Р. *сельскай*: ПЧ. М. *сельскай* (2): ВСп, 90 (2).

**[СЕЛЯДЗЕЦ]** (3) і **[СЯЛЯДЗЕЦ]** *м.* Марская рыба ў салёным выглядзе. *– так і так, – кажу, – пане рэдактар: боты падзерліся, табакі няма, селядцы дарагія, дык вось патрабую пільна зарабіць якую дытку.* Ан, 18. [Мікіта]: *Вось тут селядцы, во, цыбуля да іх, а вот сала..* Т, 21.

Мн. Н. *селядцы* (2): Ан, 18; Т, 21. В. *селядцы*: Т, 45; *сялядцы*: Т, 46.

**СЕЛЯНІН** (17) *м.* Вясковец. *Калісь у гэтым часе, выходзіў*

*селянін ў поле і кідаў зерне ў сьвежую ральлю, трывожачыся аб заўтрашнім дні.* ДД. *Беларускі пан зрабіўся чужым для беларускага селяніна.* Нз, 14.

Δ **Беларус-селянін** *гл.* беларус**. Селянін-беларус:** *..сяляне-беларусы не забылі ўсяго свайго роднага. У іх цяпер наладжаны беларускі прасветны гурток, які працуе над усведамленнем сваіх аднасельцаў..* МІ, 17. **Селянін-бядняк** (2): *Учора паднявольны згорблены рабочы і селянін-бядняк, сёння з высока паднятай галавой вольны грамадзянін і будаўнік Совецкага Саюза.* ШБСЯ. *Лёзунгу аб'яднаньня рабочых і сялян-беднякоў і серадНякоў розных нацыянальнасцяй Савецкага Саюзу пад ленінскім сьцягам .. супроцьставілі* [група контр-рэволюцыйных нацыянал-дэмократычных інтэлігентаў] *лёзунг самабытнасьці беларускай нацыі..* АЛ. **Селянін-католік:** *Але і навука дзяцей па польску – гэтак сама зусім несправядліва: родная мова нашых сялян-каталікоў не польская, а беларуская.* ВР.

Адз. Н. *селянін* (3): ДД; Т, 19; ШБСЯ. Р. *селяніна* (2): Нз, 14 (2). В. *селяніна*: Нз, 14. М. *селяніне*: Нз, 14. Мн. Н. *сяляне* (3): ВР; МІ, 17; ПЧ; *селяне*: ВС. Р. *сялян* (2): АЛ; Т, 20; *селян*: ВР. Д. *селянам* (2): ВС (2). Т. *сялянамі*: З.

**СЕЛЯНСКІ** *гл.* **СЯЛЯНСКІ.**

**[СЕМ]** (6) *ліч.* Колькасць, якая абазначаецца лічбай 7. [Янка]: *Пэўна люлек з тузін змарнаваў* [Гарошка] *за гэты час.* [Аленка]: *Тузін – не тузін, а штук з сем пэўна ж татка выпыкаў.* Т, 44. [Мікіта]: *Далей ідуць мае за месяц чэрвень,.. пайкі: сем фунтаў адборнай атрубянай мукі, паўтара фунта з аьсмушкай круп.* Там жа, 46.

Адз. Р. *сямі*: ВБЛ, 81. В. *сем* (3): Т, 44, 46 (2). Т. *сямю*: Вб, 238. М. *сямі*: Вб, 238.

**[СЕМЕЧКІ]** *мн. Руск.* Семкі. [Наста]: *Узяць хоць бы тое; хто калі да рэволюцыі ў Менску лузаў семечкі? – ніхто!* Т, 28.

Мн. В. *семечкі*: Т, 28.

**СЕМІНАРЫЯ** *ж.* Сярэдняя духоўная навучальная ўстанова. [Поп]: *Понежэ есць в Мінске духовная семінарыя, то воісціну ізлішне обрэтаць універсіцет, гдзе будзет провозглашацься грэховное оветское учэніе.* Т, 27.

Адз. Н. *семінарыя*: Т, 27.

**СЕМНАДЦАТЫ** *ліч. Руск.* Семнаццаты. *Але вышаў им* [Пурышкевичам, Дубровинцам] *ды з памяци Акцябра дзянёк семнадцаты: Той вялики манифэст, – Ды што ў турмах нима мест!* ВЧ.

Аз. м. Н. *семнадцаты*: ВЧ.

**СЕМ'Я** *гл.* **СЯМ'Я.**

**[СЕМ’ЯНІН]** *м. Разм.* Член сям’і. *Хай бяруць з магазынаў толькі тые, хто папраўдзе не мае за што купіць, а сем’яніны яго на ваеннай службе.* ВС.

Мн. Н. *сем’яніны*: ВС.

**[СЕНА]** *н.* Скошаная і высушаная трава. *Відна што ніўка – маці тутка чалавеку! Відна з густых коп сена, што на сенажатцы Зьвездачкамі мігаюць..* ХБ, 28.

**[СЕНАЖАТКА]** *ж. Разм. Тое, што* сенажаць. *Відна што ніўка – маці тутка чалавеку! Відна з густых коп сена, што на сенажатцы Зьвездачкамі мігаюць..* ХБ, 28.

Адз. М. *сенажатцы*: ХБ, 28.

**СЕНАЖАЦЬ** (3) *ж.* Месца, дзе расце трава на сена; луг. *Чые звоняць звонка косы На мурожнай сенажаці?* СА, 180. *С панад яе* [вайны] *пажарнаго і крывавага дыму выгляне добрае, прыветлівае сонцэ і ажывіць сваімі праменямі нашы загоны і сенажаці.* РКр. *Параўн.* сенажатка.

Адз. Н. *сенажаць*: Б, 18. М. *сенажаці*: СА, 180. Мн. В. *сенажаці*:РКр.

**[СЕНІ]** *мн. Вобразн.* Пра нешта нязначнае, другараднае. *..вы беларусы – ісконі-рускіе людзі з сваім неразьвітым языком, можаце і нашай* [рускай] *культурай карміцца, але калі так хочаце – можна і вам даць правы, але толькі у ... сенях.* З.

Мн. М. *сенях*: З.

**[СЕРАДНЯК]** *м.* Селянін-аднаасобнік, які па свайму маёмаснаму становішчу знаходзіцца паміж бедняком і кулаком. *Лёзунгу аб’яднання рабочых і сялян-беднякоў і сераднякоў розных нацыянальнасцяй Савецкага Саюзу пад ленінскім сьцягам, .. супроцьставілі* [група контррэволюцыйных нацыянал-дэмакратычных інтэлігентаў] *лёзунг самобытнасьці беларускай нацыі..* АЛ.

Мн. Р. *сераднякоў*: АЛ.

**[СЕРМЯГА]** *ж.*: ◊ **Уздзець сермягі** *гл.* уздзець**.**

Мн. В. *сермягі*: Чж, 147.

**[СЕРП]** (2) *м.* Сельскагаспадарчая ручная прылада. *Шасцяць у калоссі сярпы, Сцяною дабро залягло, Кладуцца снапы у снапы, – Такога жніва не было. Звініць песня ў полі, звініць, Уторыць сярпу і касе..* ТП, 213–214.

Адз. Д. *сярпу*: ТП, 214. Мн. Н. *сярпы*: ТП, 213.

**СЕСІЯ** *ж.* Пасяджэнні розных прадстаўнічых органаў, якія адбываюцца перыядычна. *..12 лістапада была адкрыта сесія Рады Б.П.Р.* СНБ.

Адз. Н. *сесія*: СНБ.

**СЕСЦІ** (9) *зак.* **1.** Прыняць сядзячае становішча; заняць

месца. *Сеў Данілка, выразае Коніка з бярозкі, Адно бліскаюць у вочках Радасныя слёзкі.* Вб, 238. [Гануля]: *Пане настаўнік, папрасіце* [гасцей], *каб селі.* Т, 25.

**2.** Пачаць якую-н. справу, якая звязана са знаходжаннем у сядзячым становішчы. *Я, каб доўга не гаварыць, сеў і напісаў некалькі радкоў.* Ан, 18.

**3.** *перан.* Трапіць у турму. *Нават жыду – ў доўг як просе – "Гутэ-моргэн!" – буркне ў носе. Калі-ж сядзе у катузку, Ўсіх кляне пабеларуску.* УР.

◊ **За стол жалобны сесці –** гаварыць, смуткаваць. *Народ спраўляць памінкі будзе – На свята светлае вясны, – За стол жалобны сядуць людзі Там, дзе крыжы, дзе курганы!* ГП, 8. **Сесці на шыю –** паставіць у поўную залежнасць ад сябе. *Прайшлі яго* [шлях], *скідаючы з дарогі ўсіх і ўсялякіх ворагаў: кулакоў, нэпманаў, .. і ўсе падонкі класавага ворага, каторыя сядзелі ці хацелі сесці на шыю працоўных.* ВГР. **У хорам сесці –** запанаваць. *Слепа зракліся* [людзі чужыя] *сораму, ўвагі, Ў хорамы селі, Брацціям жа ўздзелі лапці, сярмягі, Торбы надзелі...* Чж, 147.

Інф. *сесці*: ВГР. Абв. буд. адз. 3 ас. *сядзе*: УР; Мн. 2 ас. *сядзеце:* Т, 59. 3 ас. *сядуць*: ГП, 8. Пр. адз. м. *сеў* (2): Ан, 18; Вб, 238. Мн. *селі* (3): ВМ, 72; Т, 25; Чж, 147.

**[СЕЎ]** (2) *м. Руск. Тое, што* сяўба *ў* 1 *знач. Так гаспадарым мы і дома і за домам, Усё ждучы пацехі з севу і жніва, Ждучы дарма, як летам жджэ расы трава.* НГ.

◊ **Сеў засеваць** *гл.* засеваць**.**

Адз. Р. *севу*: НГ. В. *сеў*: Чж, 146.

**СЕЎШЫ** *дзеепрысл. зал. да* сесці *ў* 1 *знач.* [Аленка:] (*сеўшы на лаўку, пасля паўзы*). *Як вы заўсёды, дзядзька настаўнік, мудра вельмі разважаеце..* Т, 35.

**[СЕЦЬ]** (4) *ж. Вобразн.* Пра што-н. няяснае, неакрэсленае. [Князь]: "*А чарку першую ўзнясём За цень мінуўшчыны у сеці, Другой к цяпершчыне прапьём, Праславім будучыну трэцяй"*. Кц, 196.

◊ **Распасьціраць павучыные, неразблытные сеці** *гл.* распасьціраць**. Строіць сеці; строіць петлі і сеці** *гл.* строіць**.**

Адз. М. *сеці*: Кц, 196. Мн. В. *сеці* (3): З; Кр, 77; Ч, 321.

**СЕЯЦІ** *гл.* **СЕЯЦЬ.**

**[СЕЯЦЬ]** (15) і *разм.* **СЕЕЦЬ, СЕЯЦІ** *незак.* **1.** Засяваць. *Зярняты свабодныя сявец З сяўні сее ў пульхны загон.* ТП, 213. *Сталінец-трактар нам без прынукаў Поле араў і сеяў зярняты..* ССА, 294.

**2.** *перан.* Распаўсюджваць. *Стогнуць ветрам калыханы*

*Ліпы ды бярозы, А ноч сее скрозь туманы Золь, слату, як сьлёзы.* Дз, 191. *Не каханак чорнавокіх, Што скрозь сеюць дзіўны чар, – Я – пясьняр снапоў шырокіх Краю вольнага пясьняр!* КЧ.

◊ **Сеець шчасьце –** рабіць шчаслівымі. *Ды ўзяўся* [сын] *шчыра, міла Сеець шчасьце, гнаць бяду, Стаў адважна словам, сілай За свой край і грамаду.* М, 20. **Сеяць вясёласць** – уздымаць настрой. *Новая доля, шчаслівая доля Яна з Усходу квяцістай дарогай Сходзіць ад пушчы, на рэкі, на поле, Сее вясёласць, зганяе, трывогу.* Мц, 75. **Сеяць спрацаваныя косці** – гінуць. *Ішлі беларускія сыны на Урал, на фінскія балоты, .. складалі свае буйныя галовы пад чужым пяском. Сеялі свае спрацаваныя косці на полі чужацкім.* БВ, 16. **Сеяці цьму** – прыносіць няшчасце. *Эй, гуляйце, чорнасотники, На благое ўсё ахвотники: Ня век сеяци вам цьму, Весна зменіць нам зиму!* ВЧ.

Інф. *сеець*: М, 20; *сеяци*: ВЧ. Абв. цяп. адз. 3 ас. *сее* (6): ДД; Дз, 191; Кц, 196; Мц, 75; СТ; ТП, 213. Мн. 1 ас. *сеем*: НГ. 3 ас. *сеюць* (3): Кц, 192; КЧ; ПЧ; *сеяць* (2): ВСп, 90; ТЗУ, 293. Пр. адз. м. *сеяў* (2): ССА, 294; Ч, 324. Мн. *сеялі*: БВ, 16.

**СЁДНЯ** *прысл. Тое, што* сягодня *ў* 1 *знач. ..ня хоча* [Беларусь] *ніякіх плебісцытаў, накіданых ей сёдня аднымі, а заўтра другімі.* ДК.

**СЕЙ** (3) *займ. Разм.:* ◊ **Ні той ні сёй** *гл.* той**. Той ці сёй** *гл.* той**.**

Адз. м. Н. *сёй* (2): Т, 20, 54. н. Н. *сёе*: Т, 40.

**СЁЕ-ТОЕ** *займ. неазн. н. Разм.* Некаторыя (нешматлікія) прадметы. [Гарошка]: *І гэтага, свацейка, не трэба. Калі пазволіш, то ў мяне ёсць сёе-тое ў торбе, вот мы і закусім.* Т, 27.

Адз. Н. *сёе-тое*: Т, 27.

**СЁЛЕТА** (6) *прысл.* У гэтым годзе. *Вы, другі верные, ганцы, Як летась, сёлета, на лета Ўсё пагранічные капцы Абходзьце зноў з маім прыветам.* Кц, 196. [Ануля]: *Гэтыя рэчы Мікітка мой сёлета на тавараабмен прагандляваў.* Т, 45. РКр; ПЛ; Пп, 5; Т, 55.

**[СЁЛЕТНІ]** *прым.* Сяголетні, гэтага года. .. *23 кастрычніка сёлетняга году Польшча падпісала дэкрэт аб фармаваньні Беларускага нацыянальнага войска..* БСУ.

Адз. м. Р. *сёлетняга*: БСУ.

**[СЁМУХА]** *ж.* Адно са свят праваслаўнай царквы. *Як вымераны ўтоптаныя сьцежкі! Бо дарага яйцо к хрыстосаваму дню, Бліны к калядам, к сёмусе адзежка, Ды тое, што хаціна ўстала на краю.* ВБЛ, 81.

Адз. Д. *сёмусе*: ВБЛ, 81.

**[СЁМЫ]** *ліч. парадк. да* сем. [Спраўнік]: *“Акалодачны надзірацель сёмай часці места Менску”, гаспадзін, таварыш.* Т, 61. *Параўн.* сёдмы.

Адз. ж. Р. *сёмай*: Т, 61.

**СЁННЯ** *гл.* **СЯГОННЯ.**

**СЁНЬНЯ** *гл.* **СЯГОННЯ.**

**[СІБІРСКІ]** *прым.* Які адносіцца да Сібіры. [Янка]: *У лапці абувалі, з торбамі пушчалі ды ў сібірскія катаргі вывозілі.* Т, 21.

Мн. В. *сібірскія*: Т, 21.

**[СІВЕР]** *м. Разм.* Халодны паўночны пранізлівы вецер. *На ўзгорку невялікім, у бярозавым гаі, Сьвяціў шляхецкі храм кругом дзеравяны Ды на падмураваньні, – увесь пабяляны; Тым бялейшы, што топаль сьпераду і збоку Сьцерагла ад сіверу восень глыбоку.* ХБ, 28.

Адз. Р. *сіверу*: ХБ, 28.

**СІЛА** (66) *ж.* **1.** Здольнасць жывых істот напружаннем мышц рабіць фізічныя рухі, дзеянні; фізічная энергія чалавека. *Парабкам пану служыў я* [бацька] *з дзён малку, Розум і сілы свае абязвечыў..* Бц, 74. // Жыццяздольнасць. *Эй, годзе ўжо песень маркотных, пясьняр! Дай волю парывам гарачым, .. Каб кожны пачуў сваю сілу ў плячох, Каб кожны забыў аб нядолі!* Пр.

**2.** Здольнасць чалавека да духоўнай дзейнасці, праяўлення сваіх разумовых ці душэўных уласцівасцей. *Ах, салодкі ўспамін не адзін Шалясціць, як вяроўкаю кат... Столькі іх, гэтых мілых часін. А забыці іх сілы няхват.* ЧС, 50–51. *У хлебе восць, у горле косць. Сабою самі ўстаць з руін Вам* [саветам] *не хапае смагі, сіл, І вось к вам вылез цень з магіл..* ПВ. // *звыч. мн.* Здольнасць, магчымасць дзейнічаць, рабіць што-н. *Вашы* [паноў-гандляроў] *словы аб вызваленні другіх – гэта насмешка з нявольнікаў бяссільных, што ніякай сілы ў сабе не маюць.* Тж, 16. *І ў апошнія гады я* [Купала] *ўсімі сіламі намагаўся далучыцца сваёй творчасцю да вялікага сацыялістычнага будаўніцтва..* АЛ.

**3.** Правамоцтва. *І хаця ў аснове закону ляжыць справядлівы наказ, але ў жыцьці ён сілы ніякай не мае..* ВР.

**4.** Улада, магутнасць. *..только тое государство зможэ не дацца у крыўду або і перамагчы свайго праціўніка, каторае ня толькі выставіць вялікую лічбу добра абучэных ваеннаму дзелу салдат, але калі яно побач з гэтым мае за сабою сілу экономічную.* ВН. *Годзе нам сілу прыблудаў вялічыць Дзецьмі, багацьцем радзімай зямлі! Нашы загоны даўно ўжо нас клічуць, Нашы загоны, што зельлем зраслі.* Г, 17.

**5.** Частка грамадства. *Ёсць яшчэ трэцьця сіла у нашым месьце. Гэта – жыдоўство.* ВМР. *За беларускаю сілай пайдуць тые, хто, наогул, ідзе уперад і рухае жыцьцё.* СНБГ. // Людзі наогул. *А за вёскай, дзе магілы, Дзе ляглі, заснулі сілы, Пахіліўся крыж да крыжа – Гэты вышай, гэты ніжай.* ЗН, 253.

**6.** Росквіт, уздым чаго-н. *Растуць і буйнеюць у сіле, у цвеце – Калгасы, соўгасы і гарады.* ПБН.

Δ **Дзіва-сіла** *гл.* дзіва**.**

• **Ваенна-паветраныя сілы** – род войска. *..нас* [дэлегатаў] *сустрэў начальнік ваенна-паветраных сіл Чэхаславакіі генерал Файфр і дзе нам лётчыкі паказалі майстэрства пілатажа.* ПЧ.

◊ **Вышэйшая моц небных сіл** *гл.* моц. **З усіх сіл –** з найбольшым напружаннем. *Цёмныя людзі, пазбаўленыя гонару і сумлення, .. з усіх сіл стараюцца рабіць сваё грэшнае дзела.* ЗС, 17. **Нячыстая сіла** – чорт, д'ябал. [Спічыні]: *Як будзе: згінь ты прападзі, нячыстая сіла?* [Мікіта]: *Ідзь пан до сту д'яблув за Буг.* Т, 49. **Па меры сіл** гл. **мера. Па сіле магчымасьці –** адпаведна з сіламі, магчымасцямі. *Гаспадарка цэлага краю, ці аддзельных людзей павінна па сіле магчымасьці не спыняцца, а ісьці далей і шырэй..* ВС. **Усімі сіламі** - прыкладваючы усё намаганне. *І ў апошнія гады я* [Купала] *ўсімі сіламі намагаўся далучыцца сваёй творчасьцю да вялікага соцыялістычнага будаўніцтва.* АЛ. **Цёмная сіла** – пра тое, што прычыняе зло, шкоду. *Калі мы выйдзем у гэтым змаганьні пабеднікамі, калі вольнага народнага духу не апануе цёмная сіла і ён будзе далей сягаць па арлінаму, то і справа вызваленьня Беларусі сягне на такую вышыню, на якую наша бацькаўшчына заслужыла сваім векавечным паднявольлем.* СНБ.

Адз. Н. *сіла* (14): ВМР (8); ДК; Дз, 188; ЁЯ; НДН, 18; СБНГ; Т, 49. Р. *сілы* (5): ВР; Дз, 73; Тж, 16; ЦСБ; ЧС, 50-51. Д. *сіле*: АК. В. *сілу* (9): БСУ; ВМР; ВН; Г, 17; Н; Дз, 73; Пр; РКП; СНБГ. Т. *сілай* (5): ВМР; М, 20; НДН, 18; Пп, 5; СНБГ. М. *сіле* (2): ВС; ПБН. Мн. Н. *сілы* (7): АЛ; Б, 18; ВМР (2); ЗН; СНБГ; ТС, 74. Р. *сіл* (8): АЛ; ЖН (2); ЗК, 43; ЗС, 17; ПВ; ПЧ; УрП, 49; *сілаў*: Тр. В. *сілы* (9): АЛ (3); БН, 91; Бц, 74; БС; ВМР; ВС; ПБН. Т. *сіламі* (5): АЛ (2); ВСп, 91; ПЛП; СНБГ.

**СІЛЬНЕЙ** *прысл. Руск.* Мацней. *У 1905 годзе пачаў і я* [Купала] *падаваць сільней свой голас ад імя многапакутнага беларускага працоўнага народа.* ДЖ.

**[СІЛЬНЕЙШЫ]** *прысл. Пар. ст. да* сільны *ў* 1 *знач.* Значны (па велічыні). *Для эндэкаў нічога не знача прымер царскай Расіі, .. якая рухнула, як падгніўшы слуп, пры першым*

*сільнейшым подмуху вольнага ветру.* СНБ.

Адз. м. М. *сільнейшым*: СНБ.

**СІЛЬНЫ** (3) *прым. Руск.* **1.** Які валодае моцнай фізічнай сілай. *Народ зьдзівіўся, як заглездзеў, Заварушыўся, зашумеў: Вы так ня рушыцесь, мядзьведзі, Ты так ня страшны, сільны леў!* УрП, 51.

**2.** Значны, моцны. *Як сільным, магучым праз песьню стаў ён* [народ], *– Зноў пошэсць есць стала памалу; Папробуе песьню – йшчэ звоне, як звон, Але ўжо не так, як бывала.* ПН, 47. // *У знач. наз. Пасля, Жыды, вы зрэкліся народу, Які вам шчыра даў багацьце і прыпын; Пайшлі прыдбаць сабе вы чэсьць, выгоду Ды сільных тых, хто даў вам вісельню і чын!* Ж.

Адз. м. Н. *сільны*: УрП, 51. Т. *сільным*: ПН, 47. Мн. Р. *сільных*: Ж.

**СІМПАТЫЯ** (3) *ж.* Прыхільнасць да каго-н. *Гэтая сімпатыя выказвалася нам* [дэлегатам] *і шматлікай публікай, якая падхоплівала прывітанні, прымала нас як любых гасцей сваей краіны.* ПЧ. *З першых-жа крокаў у Чэхаславакіі, наша дэлегацыя апынулася ў атмасферы надзвычай шчырай прыязні і сімпатыі да нас, да нашае бацькаўшчыны.* Там жа.

Адз. Н. *сімпатыя* (2): ПЧ (2). Р. *сімпатыі*: ПЧ.

**[СІНІ]** (4) *прым.* Які мае афарбоўку аднаго з асноўных колераў спектра – сярэдняга паміж блакітным і фіялетавым. *..неба было ўсё сіняе без ніводнае плямачкі; цёплы паўднявы ветрык чуць шастаў лісьцём яблын..* ХБ, 29. *І пакуль шукалі* [сінявокага хлопчыка] *ў трупярні Паміж штабеляў сініх цел, .. У прамежак ад сьмерці к спальні Скіфскі вецер з сьмехам ляцеў.* ВБЛ, 81.

Адз. ж. Н. *сіняя*: УрП, 82. н. Н. *сіняе*: ХБ, 29. Мн. Н. *сінія*: Н. Р. *сініх*: ВБЛ, 81.

**СІНЬ** *ж.* Сіні колер. *А другі* [хлопчык] *– ты прыпамінаеш? Над брывёю шрам услонь, І ў вачох яго сінь такая-ж, І сухая таксама скронь.* ВБЛ, 81.

Адз. Н. *сінь*: ВБЛ, 81.

**СІНЬЁРА** (8) *ж.:* Δ **Мадам-сіньёра** *гл.* мадам**.**

Адз. Н. *сіньёра* (7): Т, 22, 28 (2), 34, 51 (2), 52. Р. *сіньёры*: Т, 37.

**[СІНЬЁРЫСТЫ]** *прым. Наватв.* Які мае адносіны да сіньёры. [Мікіта]: *Толькі прымеце мяне, жыватворнакрынічная мамзэль Наста, у пакорныя і вечныя слугі вашага, меджду протчым, сіньёрыстага сэрца.* Т, 42.

Адз. н. Р. *сіньёрыстага*: Т, 42.

**СІНЯВОКІ** *прым.* З сінімі вачыма. *У кажусе ў куртцы новай сінявокі хлопчык кадэт Ў канаве злажыў пад*

*Растовам За цара свае дзевяць лет.* ВБЛ, 81.

Адз. м. Н. *сінявокі*: ВБЛ, 81.

**[СІРАТА]** (7) *м.* і *ж.* **1.** Дзіця, падлетак, які застаўся без бацькоў. *Над курганамі галасілі Сіроты, ўдовы, жабракі, Над імі ж у крывавым пыле Луналі груганы-крукі.* ГП, 8.

**2.** *перан.* Абмежаваны знешнімі кантактамі. *77 год была Вільня сіратою, уздыхаючы па тых сьветлых часінах, калі яе унівэрсытэт кіпеў мудрым жыцьцём..* УПУВ.

**3.** *перан.* Гаротнае становішча. *Хто-ж маўчыць, чый край бяз волі Стогне ў горы сіратой, – Той благое зельле ў полі, Між людзьмі скаціна той!* КЧ. *Атплацілі роднай матцэ Княжэняты-дзеці: Відмай кінулі бадяца, Сіратой гібеці.* Дз, 191.

**4.** *перан.* Той, хто страціў радзіму. *На крыжах сава якотам Гаманіць адказ сіротам Ды пытаннем страшным страша: "Га! дзе ж Бацькаўшчына ваша?"* ЗН.

Δ **Край-сірата** *гл.* край.

Адз. Т. *сіратой* (3): Дз, 191; КЧ; РС; *сіратою*: УПУВ. Мн. Н. *сіроты* (2): ГП, 8; ЗН. Д. *сіротам*: ЗН.

**СІРОТКА** *м.* і *ж. Ласк. да* сірата *ў* 1 *знач. Ці над бацькавай магілай Жаліцца сіротка, Ці сваёй шукае мілай Хлопецадзінотка?* Дз, 187.

Адз. Н. *сіротка*: Дз, 187.

**СІРОЧЫ** (2) *прым., перан.* Гаротны, бяздольны. *Так лунае ўдзень і ўночы Той за жалем жаль сірочы..* ЗН. *Ён* [Сталін] *слёзы ўцірае нядолі сірочай, Ён новую долю бяздольным прароча, – Глядзяць і ўсе бачаць яго зоры-вочы.* СС, 302.

Адз. м. Н. *сірочы*: ЗН. ж. Р. *сірочай*: СС, 302.

**[СІРЫ]** *прым., руск., уст. Перан.* Адзінокі, бедны. [Поп]: *Акі пастыр, я должэн остацься пры агнцах своіх, я толькі провожаю сірых сіх, дабы іх напутствоваць на пуць неведомый.* Т, 38.

Мн. В. *сірых*: Т, 38.

**[СІСТЭМА]** (4) *ж.* **1.** Парадак, звычайнасць. *Становішча прамысловасці Чэхаславакіі, яе сістэму лепш за ўсё характарызуе "абутковы горад" Баці ў Зліне.* ПЧ. *..Баця закабальвае рабочых і сістэмай сваіх сталовых, магазінаў, рабочых кватэр.* Там жа.

**2.** Форма арганізацыі, будова чаго-н. *Наша Беларуская Совецкая Социялістычная Рэспубліка, як бы фарпост на рубяжы двух социяльных сістэм – развілася эканамічна і культурна да нечуваных размераў.* ЖН.

Адз. В. *сістэму* (2): ПЧ (2). Т. *сістэмай*: ПЧ. Мн. Р. *сістэм*: ЖН.

**СІСТЭМАТЫЗАВАЦЬ** *зак.* Прывесці ў сітэму *ў 1 знач. Я* [Купала] *яшчэ не паспеў сістэматызаваць усяго матэрыялу, таму толькі з большага раскажу пра бачанае, чутае.* ПЧ.

Інф. *сістэматызаваць*: ПЧ.

**СКАВАНЫ** (3) *дзеепрым. зал. пр. да* скаваць. Заняволены. *Брат скаваны не згіне і так: Ён другіх пашукае братоў.* ЧС, 50–51. *Сваёй забранай старане, Скаванай мучаніцы-княжне, Ўзнясуць пасад на кургане На панаваньне недасяжне.* Кц, 196.

Адз. м. Н. *скаваны*: ЧС, 50–51. ж. Д. *скаванай*: Кц, 196. Кар. адз. ж. Н. *скавана*: Дз, 187.

**[СКАВАЦЬ]** (2) *зак., перан.* Узнавіць. *Былых не выклічаш вякоў, І ты, Масквы кароннай гразь, Парваных не скуеш акоў, З якой брахнёю не вылазь!* АПЖ.

◊ **У ланцугі скаваць** – заняволіць. *Шлі дні. І вас* [жыдоў] *у ланцугі скавалі Бязбожны каралі і дэспаты-цары.* Ж.

Абв. буд. адз. 2 ас. *скуеш*: АПЖ. Пр. мн. *скавалі*: Ж.

**[СКАВЫТ]** *м.*: Δ **Сьмех-скавыт** гл. сьмех**.**

Адз. Т. *скавытам*: См, 91.

**[СКАЗ]** (9) *м.* **1.** Граматычна і інтанацыйна аформленае спалучэнне слоў, якое выражае закончаную думку. *Я шчаслівы, што я родам Пяю песні з камсамолам, Пяём песні складным сказам Ажно рэхі йдуць вакола.* СА, 182. *Тваіх, правадыр мой, законаў асновы, Тваёй Канстытуцыі мудрыя сказы Змятуць асляпленне, пакрышаць аковы..* ТП, 216.

**2.** Апавяданне, расказ. *Другі* [ганец] *за першым князю сказ І княжне скажэ міласьцівай: Я абышоў іх тройчы раз І відзеў, што яны ўсе жывы.* Кц, 194.

Δ **Сказ-абурэньне:** *О, абываталь, белая за каўняром ты гніда! Як страшны аб табе сказ-абурэньне..* ВБЛ, 81.

◊ **Нагайкай сказ даваць** *гл.* даваць**.**

Адз. В. *сказ* (6): ВБЛ, 81; Кц, 194 (2), 195; НД; УрП, 47. Т. *сказам* (2): СА, 182; $Ш_2$. Мн. Н. *сказы*: ТП, 216.

**[СКАЗАНЫ]** (5) *дзеепрым. зал. пр. да* сказаць. Напісаны. *У адным з псалмаў біблейскіх сказана: "стануў Бог у зграмаджэнні Багоў і паміж Багамі суды судзіць.* ПЛП. [Мікіта]: *Вось у гэтых портфэлях зусім іншае аба мне сказана.* Т, 62.

Адз. н. В. *сказанае* (2): ВСп, 92; СБНГ. Кар. адз. н. Н. *сказана* (3): ПЛП; Т, 35, 62.

**СКАЗАЎШЫ** (4) *дзеепрысл. да* сказаць *у* 1 *знач. Сказаўшы так, маўчаць ганцы, Маўчыць і князь крыху часіны..* Кц, 195. *Міліцэйскіураднік просьбы не прыняў, сказаўшы, што просьбы да ураду павінны пісацца па-польску.* ОШМ. Т, 58 (2).

**СКАЗАЦЬ** (71) і *разм.* **СКАЗАЦІ** *зак.* **1.** Вымавіць, паведаміць. *Трэба ешчэ тут сказаць, што праект закону аб падаходным налогу быў даўно унесены на разгляд Гасударственнай Думы..* ВН. [Ганулям]: *Я так і падумала, але не сказала..* Т, 54.

**2.** Загадаць. *Але няхай скажа партыя, няхай скажа совецкі ўрад, няхай скажа таварыш Сталін – і нашы байцы насцігнуць зарваўшагася ворага і разгромяць яго на ўласнай яго зямлі.* ВГ.

**3.** Падумаць; зрабіць вывад. *Што значыць – над чым я* [Купала] *працую? Задаць такое пытанне паэту – рызыкоўна. Можна атрымаць адказ – "ні над чым", але можна і сказаць – "над усім".* МП. [Гарошка]: *Тады ўсе мужчыны і ўсе кабеты, найболей старэйшыя, пакладіся ўпоперак вуліцы: "Хай высяляюць!" – сказалі сабе гэтак: "Хай праз нашы галовы ўвойдуць у нашы родныя хаты!"* Т, 43.

◊ **Лепш сказаць** (*у знач. пабочн.*) – дакладней, праўдзівей кажучы. *Але на гэты раз нас цікавяць ня так самыя выпадкі нарушэньня дробнымі ураднікамі распаражэньняў свайго вышэйшага начальства як гэтых выпадкаў афарбоўка, або лепш сказаць, апраўданьні.* ОШМ. **Праўду сказаць** (2) – тое, што па праўдзе кажучы. *Праўду сказаць, я* [Купала] *і да гэтага не быў вельмі рэлігійным..* А, 328. – *Ну, а як яна* [слабода] *выглядае? – Не самавита, – кали табе* [мужыку] *праўду сказаць.* ХЛБ. **Сказаць сваё апошняе (жалезнае) слова –** праявіць сабе ў чым-н. *Яны* [інтэрнацыяналісты і нацыяналісты] *яе* [Беларусь] *дзялілі і будуць дзяліць паміж сабой пакуль сам беларускі народ ня скажа свайго апошняга слова.* СНБГ. *Хай-жа наша шчырая беларуская інтэлігенцыя .. хай яна скажа сваё жалезнае слова. І забабон згіне.* З. **Сказаць у вочы** – сказаць адкрыта, прама. *Чалавек ён* [Молатаў] *гаспадарны Скажам смела ў вочы..* НК. **Як вам сказаць** (*у знач. пабочн.*) – выкарыстоўваецца, каб паказаць ваганне, няўпэўненасць у чым-н. [Мікіта]: *Бачыце, пане прафэсар, як вам сказаць, меджду протчым, я ўжо махнуў рукой на ўсе свабодныя профэсіі..* Т, 46. **Як сказаці слова** – хутка. *Пройдзе зімка, пройдзе лета, Як сказаці слова, Дачакаюся я* [Галя] *гэтак І выбараў новых.* Вб, 236.

Інф. *сказаць* (20): А, 328; Бч, 9; БСУ; ВМР; ВН; ВС; ЖН; МП; ОШМ; ПЧ; Р; Т, 23, 40, 43, 46, 54 (2), 55; УрП, 49; ХЛБ; *сказаці*: Вб, 236. Абв. пр. адз. м. *сказаў* (13): А, 328; Ан, 18, 19; ЖН; НДН, 18; СБНГ; СНБ; Т, 26, 54 (2); УрП, 46, 51; Ч, 320. ж. *сказала*: Т, 54. Мн. *сказалі* (8): ВМР; Т, 25, 35, 43, 58, 60; Тж, 15; Ч, 322. Буд. адз. 1 ас. *скажу* (2): ДЖ; ЖН. 3 ас.

*скажа* (11): ВГ (3); ВМР; ДК; З; Кц, 194 (2), 195; СНБ; ХЛВ, 316. Буд. мн. 1 ас. *скажам* (3): НК (2); УПУВ. 2 ас. *скажаце* (2): Ан, 18; Т, 30; *скажэце* (4): ДК; Тж, 16; Т, 21, 60. 3 ас. *скажуць* (3): ВМР; Т, 57; Тж, 16. Заг. адз. 2 ас. *скажы* (4): МІ, 17; Т, 36; УрП, 51 (2).

**СКАКАЦЬ** (2) *незак.* **1.** Танцаваць. *Так, знясільваючая праца бурлакоў робіцца проста святочнай... бурлакі пачынаюць спяваць і скакаць.* ПЧ.

**2.** *Разм., перан.* Мітусіцца, імкнучыся дагадзіць. [Гануля]: *А хай бы лепей не складалі* [візіты госці]*, а то скачы перад імі няведама як.* Т, 22.

Інф. *скакаць:* ПЧ. Заг. адз. 2 ас. *скачы*: Т, 22.

**[СКАЛА]** (9) *ж.* Каменная глыба. *Вецер свабодны гуляе па скалах, Скалы абнялі арлы, арляняты.* СД. *Скалы і долы над Фінскай затокай, Прыстані, выспы Балтыцкага мора Вораг заморскі пражорлівым вокам Больш не пасмее трымаць у пакоры.* Ф.

Адз. Р. *скалы*: ПСД, 231. В. *скалу*: ШБСЯ. Мн. Р. *скал*: ТП, 215; *скалаў*: СТ. В. *скалы* (3): СА, 180; СД; Ф. М. *скалах* (2): ПСД, 231; СД.

**[СКАЛІЦЬ]** *незак.*: ◊ **Скаліць зубы** – назіраць за чым-н. з затоенай злосцю. [Груган:] *Лепш мне быў той час стары, Мой ты воўча любы.* [Воўк:] *І мне так жа: з-за гары Я ўжо скалю зубы.* Пц.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *скалю*: Пц.

**[СКАМ'Я]** *прым. Руск.:* ◊ **Пападаючы на "скам'ю падсудзімых"** *гл.* пападаючы**.**

Адз. В. *скам'ю*: ВН.

**[СКАМЯНЕЛЫ]** *прым., перан.* Які стаў абыякавым да ўсяго. *Таўкуцца душы скамянелы, Крывавы пот цячэ са шчок, А ўсьлед над імі і за імі Імчацца гібелі наўскок.* РС, 40.

Кар. мн. Н. *скамянелы*: РС, 40.

**СКАНАЦЬ** *зак.* Памерці. *Нідзе ні ладу, ані праўды, Званы хаўтурныя зьвіняць... О Божа! Ты хоць заступіся І ня дай да рэшты нам* [душам] *сканаць!* РС, 40.

Інф. *сканаць*: РС, 40.

**[СКАНАННЕ]** (2) *н.* Смерць. *Ты, дзяўчына чужая, закрый Па сканanні мне зрэнкі мае..* ЧС, 50–51.

◊ **Да сканання** – да смерці, да апошніх дзён жыцця. *У плуг запрог* [старэйшы брат] *свайго браточка На век, да сканання..* Дз, 190. *Параўн.* скон.

Адз. Р. *сканання*: Дз, 190. М. *сканaнні*: ЧС, 50–51.

**СКАРАНІЦІ** *зак. Разм.* Звесці, убраць. *Гэй, Дубровін,*

*Чарнасоцкі, Пурышкевіч, Замыслоўскі, Дайце раду, што чыніці, Як крамолу скараніці.* ЛПК.

Інф. *скараніці*: ЛПК.

**СКАРАННЕ** *н. Разм.* Пакаранне. *Пачуеш* [змарнелы чалавек], *як шмат лет таму Тваё было тут панаванне; Паслушна голасу твайму, Цябе не кратала скаранне.* БрБ, 6.

Адз. Н. *скаранне:* БрБ, 6.

**СКАРБ** (8) *м.* **1.** Каштоўнасці. *..прыязджалі па моры і па сушы багатыя госці з багатымі таварамі – шоўкам, бісерам, янтаром ды драгацэннымі скарбамі.* Кц, 17. *Мала-памалу заморскія госці сталі прывозіць з сваімі заморскімі скарбамі і думкі іншыя..* Там жа, 17. // Багацці прыроды. *А нашы балоты! Клялі іх калісьці. Сягоння – наш скарб яны, spраўджаны сон.* ПБН. *З ім* [стаханаўцам] *ты* [трактар] *будзеш скарбы Здабываць з зямелькі..* ПТ, 208.

**2.** *мн.* Духоўныя каштоўнасці. *Сотні лет песцілі днямі і ночай Госця на шыі – Змея, што з пуняў скарбы валоча, Скарбы чужыя.* Чж, 147.

Адз. Н. *скарб*: ПБН. В. *скарб*: БрБ, 6. Мн. В. *скарбы* (4): Н; ПТ, 208; Чж, 147 (2). Т. *скарбамі* (2): Кз, 17 (2).

**[СКАРГА]** (2) *ж.* **1.** Жальба. *.. І сення там* [па той бок граніцы] *слёзы, нуда, безрабоцце, Ды горкія песні, ды скаргі адны.* ПБН.

**2.** Афіцыйная заява аб незаконным дзеянні каго-н. *Аб гэтым* [непрызнанні права беларускага народа на яго родную мову] *штодня ідуць скаргі, жальбы, протэсты..* ОШМ.

Мн. Н. *скаргі* (2): ОШМ; ПБН.

**СКАРЫСТАННЕ** *н.* Дзеянне па дзеяслову скарыстаць. [Мікіта]: *..такое ўмелае скарыстанне перамен палітычных сытуацый – надта лёгкі спосаб.* Т, 55.

Адз. Н. *скарыстанне*: Т, 55.

**СКАРЫСТАЎШЫСЯ** *дзеепрысл. зак. пр. да* скарыстацца. Выкарыстаўшы ў сваіх мэтах. *..прыняў* [Купала] *самы блізкі ўдзел у контррэволюцыйнай рабоце віднейшых беларускіх нацыянал-дэмократаў, якія .. скарыстаўшыся давер'ем, якое аказана было ім з боку совецкай улады, .. праводзілі свае шкодніцкія нацыянал-дэмократычныя ідэі на культурным фронце.* АЛ.

**[СКАРЫСТАЦЬ]** *зак.* Выкарыстаць, знайсці прымяненне. *Хай час ідзе, хістаючыся ў дыме, І хай ляжыць стары ў абломках сьвет, – Ў грызьні за іх і з гэтымі і з тымі Ты* [абываталь] *скарыстаеш іх на свой клёзет.* ВБЛ, 81.

Абв. буд. адз. 2 ас. *скарыстаеш*: ВБЛ, 81.

**СКАРЭЙ** (2) *прысл. Руск. Пар. ст. да* скора. Хутчэй. *Ах, скарэй-бы дзень вечны, ці вечная цьма! Яна згубіць мяне, бессанлівая ноч!* БН, 93. *..да васеньняга акорду пачуваньняў пастаянна далучаліся сумныя ноткі, але гэты сум такі ціхі, такі нячутна далікатны, што скарэй прыемны, як балючы.* ХБ, 29.

**СКАСАВАЦЬ** (3) *зак.* Ліквідаваць, адмяніць. *..Антанта прызнала Пятлюру, Ульманіса, Тарыбу, навет беларускую раду і загадала ім усім скасаваць Калчака, Дэнікіна, Юдэніча, Леніна, Троцкага і Калмановіча.* Ан, 19. [Гануля]: *..скасавалі чыноўніцтва, застаўся* [Мікіта] *без службы і хоць бы што..* Т, 20.

Інф. *скасаваць*: Ан, 19. Абв. пр. адз. м. *скасаваў*: СНБ, 326. Мн. *скасавалі*: Т, 20.

**[СКАСІЦЬ]** *зак.:* ◊ **Смерць скасіла** *гл.* смерць**.**

Абв. пр. адз. ж. *скасіла*: СК, 158.

**СКАЦІНА** (2) *ж. Лаянк., перан.* **1.** Пра грубага, бяздушнага чалавека. *Паніч вырас дубінай, Звычай з ім вырас нягодніцкі, панскі. Быў, як бацькі, азвярэлай скацінай, Катаваў, гвалціў дзяўчат парабчанскіх.* Мц, 74.

**2.** Нікчэмны чалавек. *Хто-ж маўчыць, чый край без волі Стогне ў горы сіратой, – Той благое зельле ў полі, Між людзьмі скаціна той!* КЧ. *Параўн.* скот.

Адз. Н. *скаціна*: КЧ. Т. *скацінай*: Мц, 74.

**[СКВЕР]** *м.* Невялікі грамадскі сад у горадзе. [Спічыні]: *..я сам, стоячы на скверы, каля вадакачкі бачыў, як вы* [Мікіта] *з іншымі цягалі рухомую маёмасць з кватэры таварышча Боршчыка.* Т, 60.

Адз. М. *скверы*: Т, 60.

**[СКВОЗНЯК]** *м. Руск., перан.* Бедства. [Усходні вучоны]: *О Дарданелах, о Індзійскіх морях, і о какіх-лібо окошках не помышляют* [белорусы] *і помышляць не жэлают, ібо, по іх жэ словам, і без того імеют гдзе топіться, когда повеет сквознякамі із Запада.* Т, 47.

Мн. Т. *сквознякамі*: Т, 47.

**[СКЕМІЦЬ]** (2) *зак. Разм.* Зразумець, усвядоміць. *Вашу* [паноў] *карысць нам і вашы заслугі Добра ўжо скеміў таптаны народ..* Г, 17. *Можэ з іншаго хто краю Скеміў-бы сумленне, Што яна* [душа] *там вычварае З жалю і цярпення.* Дз, 191.

Абв. пр. адз. м. *скеміў* (2): Г, 17; Дз, 191.

**[СКІБА]** (3) *ж.* Пласт зямлі. *Ўзніме чорную скібу саха працавітая, Ляжа ўсходнае зерне ў пахань сырую..* ТС, 74. *Чыя кірка ў падзямеллі Першай пласт вугля цярэбіць І чый*

*трактар першым сцеле Скібы на калгаснай глебе?* СА, 180.

Адз. В. *скібу*: ТС, 74. Мн. В. *скібы* (2): Дз, 190; СА, 180.

**СКІДАЦЬ** (3) *незак.* **1.** Кідаць уніз. [Хлопчык]: *Ты* [лётчык] *будзеш глядзець самалёта, А бомбы скідаць буду я..* ХЛВ, 315.

**2.** *Разм.* Знімаць (адзенне). [Мікіта]: *А цяпер далоў совбурскую форму!* (*Хоча скідаць куртку*). Т, 50.

**3.** *Разм., перан.* Пазбаўляць чаго-н. *Патрасала* [судзьбіна] *пасады, скідала кароны..* Ч, 322.

Інф. *скідаць* (2): Т, 50; ХЛВ, 315. Абв. пр. адз. ж. *скідала*: Ч, 322.

**СКІДАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* скідаць.: ◊ **Скідаючы з дарогі** – перамагаючы, зніштажаючы. *Прайшлі яго* [шлях], *скідаючы з дарогі ўсіх і ўсялякіх ворагаў..* ВГР.

**СКІНУТЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* скінуць *у* 2 *знач. Ён, гэты скінуты сатрап, Не знае, што ў свабодзе жыць...* АПЖ.

Адз. м. Н. *скінуты*: АПЖ.

**[СКІНУЦЬ]** (7) *зак.* **1.** *Зак. да* скінуць *у* 1 *знач. Даляту да зорак, Вольная дзяўчына, Стуль табе, мой мілы, Адну зорку скіну.* ПТ, 207.

**2.** *Зак. да* скінуць *у* 2 *знач.* [Мікіта]: *Прыходзяць немцы, пачнуцца балі, рауты, маскарады, а ў мяне во і гатоў маскарадны касцюм. Але, выбачайце, найяснейшыя госці, - пайду ўжо скіну, меджду протчым.* Т, 25. // *перан.* Пазбавіцца, вызваліцца ад чаго-н. *Арлiным узмахам агняцветнай думкі аб нашай волі мы скінулі і патапталі даўгавечную брахню, - брахню, што Беларусі не было і няма.* ПЛП. [Аленка]: *Скіне сваю дрымоту і душа. Абы толькі гэтыя адзінкі, што ўжо змагаюцца, больш ясных паходняў распалілі і асвяцілі сцежкі ўсе для паўстаючай грамады.* Т, 35.

◊ **Скінуць з плеч –** ***ліквідаваць.*** *Скіне* [народная армія] *з тваіх* [Фінляндыі] *плеч ярмо плутакратаў, Здрайцаў прадажных нікчэмную зграю..* Ф.

Абв. пр. мн. *скінулі*: ПЛП. Буд. адз. 1 ас. *скіну* (2): ПТ, 207; Т, 25. 3 ас. *скіне* (2): Т, 35; Ф. Мн. 1 ас. *скінем*: ХЛВ, 316. Заг. адз. 2 ас. *скінь*: Пт.

**[СКІРАВАЦЬ]** *зак.* Накіравацца куды-н. [Мікіта]: *Куды ж гэта, калі можна спытацца, мадам-сіньёра і мусье, свае, меджду протчым. пэрсоны скіравалі?* Т, 37.

Абв. пр. мн. *скіравалі*: Т, 37.

**СКІФСКІ** (2) *прым. Вобразн.* Свабодны, вольны. *Дзе-ж, ой, матулькі, вашы дзеці? Рукі слабы, вецер – дуж ён, – Bідаць, зьдзьмуў іх вясёлы вецер, Скіфскі вецер з сямі старон.* ВБЛ, 81. *І пакуль шукалі* [сінявокага хлопчыка] *ў трупярні Паміж*

*штабеляў сініх цел, - У прамежак ад сьмерці к спальні Скіфскі вецер з сьмехам ляцеў.* Там жа, 81.

Адз. м. Н. *скіфскі* (2): ВБЛ, 81 (2).

**[СКЛАД[1]]** (3) *м.* Памяшканне для захавання чаго-н. [Мікіта]: *Добрыя людзі адчынілі склад з ёю* [гарэлкай] *на Нізкім рынку і – бяры хто хочаш і колькі хочаш.* Т, 54. [Мікіта]: *Мадам-сіньёра, вы згадалі! Так яно і ёсць: самая натуральная амброзія знамянітай тутэйшай фірмы – а ля самагонка, дастаўленая мне з вінных складаў "Пiлiп і К°".* Там жа, 28.

Адз. В. *склад*: Т, 54. Мн. Р. *складаў* (2): Т, 28, 60.

**СКЛАД[2]** (7) *м.* **1.** Адзінства чаго-н. *Гамані: давайце мне Чацьвёртае з раду. І другога побач з ім, Бо ня будзе складу.* $Ш_2$.

**2.** Састаў. *Увесь склад трупы тэатра перад пачаткам спектакля выйшаў на сцэну і горача вітаў совецкіх пісьменнікаў і журналістаў.* ПЧ. *Цяпер на мейсцы "Адраджэньня" беларускую выдавецкую справу ў складзе тых самых супрацоўнікаў і з такім-жа посьпехам вядзе В-ва "Савецкая Беларусь".* ВСп, 91.

**3.** Асаблівасць думак, характару. *Працавітаго быў першы* [сын] *Складу і нагібу, Так, здаецца, што й памершы, Ўсё араў, касіў-бы.* Дз, 189. *Трэці* [сын] *ўсіх-бы толькі мучыў – Склад меў быці катам, С паганякаю на ўзруччы К зьдзекам быў заўзятым.* Там жа, 189.

◊ **Ніякага ладу ні складу** – ніякага толку, парадку. [Гарошка]: *"Пакуль, кажа* [Янка], *не зробімся самі сабе гаспадарамі, датуль ніякага ладу ні складу ў нас не будзе".* Т, 44.

Адз. Н. *склад*: ПЧ. Р. *складу* (4): Дз, 189 (2); Т, 44; $Ш_2$. В. *склад*: Дз, 189. М. *слкадзе*: ВСп, 91.

**СКЛАДАНЫ** *прым.* Цяжкі для ажыццяўлення. *..ад кулацкага і памешчыцкага зняволення да светлага заможнага культурнага калгаснага жыцця – вось вялікі і складаны шлях Совецкае Беларусі.* ВГР.

Адз. м. Н. *складаны*: ВГР.

**[СКЛАДАЦЦА]** (3) *незак.* **1.** Збірацца ў адно месца (пра прадметы). *..былі толькі запаведныя лясы і гаі цяністыя, дзе складаліся ахвяры багам прамудрым.* Кз, 17.

**2.** Адбывацца, атрымлівацца. [Пан]: *Надта ўсё добра складаецца для вас, пане рэгістратар.* Т, 52.

**3.** Стварацца. *Армія гэта* [беларуская] *складалася з беларусаў, але ваяваць ёй загадвалі не за Беларусь, а за Расію.* БВ, 16.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *складаецца*: Т, 52. Пр. адз. ж. *складалася*: БВ, 16. Мн. *складаліся*: Кз, 17.

**СКЛАДАЦЬ** (13) *незак.* **1.** Пакласці разам у адно месца (прадметы). *Чорны груган клюе панскія косці З трупаў гербоўных складае запасы.* Мц, 75. [Мікіта]: *Мамзэль Наста была ў тэй самай кампаніі, дзе выпівалі, і бачыла, што я начальнікавы рэчы ўсе там складаў.* Т, 60.

**2.** Пісаць які-н. тэкст. *Сягоння-ж я* [Купала] *шчаслівы, што магу па-іншаму, як вызвалены з нацыянальных і сацыяльных пут, складаць песні-гімны вызвалення.* ЖН. *Будзеш Суомі йсці яснай дарогай, Новага будзеш складаць Калевалу З рунаў красы, барацьбы, перамогаў.* Ф.

**3.** Рабіць, наладжваць. [Мікіта]: *..цяперака, ..вось яны, гэтыя мае госці, і складаюць нам першым візыту.* Т, 22.

**4.** Утвараць што-н. *..агулам надрукавана 268. 050 кніг у ліку 2. 036. 527 друк. аркушаў. Гэта складае 2120 рэзаў (стоп) паперы..* ВСп, 91.

◊ **Складаць аружжа** (2) – адмаўляцца ад барацьбы. *..да самае смерці не складалі* [людзі] *аружжа барацьбы за беларускую незалежнасць.* МІ, 17. [Мікіта]: (*..да Чырвонаармейца*). *Складай аружжа! Вывешывай белы флаг!* Т, 52. **Складаць галаву –** гінуць. *Ішлі беларускія сыны на Урал, ішлі ў фінскія балоты, ішлі пад Царград у Турэччыну і пралівалі там рэкамі сваю бязвінную кроў, складалі свае буйныя галовы пад чужым пяском.* БВ, 16. **Складаць дары –** услаўляць што-н. *Духі мінуўшчыны куцьцю На старасьвецкі лад спраўляюць. Даўно бываламу жыцьцю Дары належныя складаюць.* Кц, 193.

Інф. *складаць* (3): ЖН; ТЗУ, 293; Ф. Абв. цяп. адз. 3 ас. *складае* (2): ВСп, 91; Мц, 75. Мн. 1 ас. *складаем*: СС, 301. 3 ас. *складаюць*: Кц, 193. Пр. адз. м. *складаў* (2): БрБ, 6; Т, 60. ж. *складала:* МІ, 17. Мн. *складалі* (2): Т, 22; Чж, 146. Заг. адз. 2 ас. *складай*: Т, 52.

**СКЛАДВАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* складваць. Збіраючы што-н. [Гануля]: (*складваючы манаткі*). *Толькі пільнуйся, сынок, каб ён* [немец] *не ўздумаў цягнуць цябе ў палон..* Т, 34.

**СКЛАДНА** *прысл.* Звязна. *Эх, памыйся, мой дружок, Мылам ды вадою, А так складна, як у нас Першае* [слова] *другое.* $Ш_2$.

**[СКЛА́ДНЫ]** *прым. Разм.* Рыфмаваны. *Я шчаслівы, што я разам. Пяю песні з камсамолам, Пяём песні складным сказам, Ажно рэхі йдуць вакола.* СА, 182.

Адз. м. Т. *складным*: СА, 182.

**СКЛНКАЦЬ** *зак. да* склікаць *у* 2 *знач. Па нейкім часе удалося там* [у Вільнюсе] *склікаць Раду Віленшчыны і Горадзеншчыны.* СНБ.

Інф. *склікаць*: СНБ.

**[СКЛІКБЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Клікаць, запрашаць, збіраць. *Калі трэба, напрыклад, адчыніць школу, дык склікаюць бацькоў і ставяць ім пытаньне: якое яны хочуць школу – расійскую, польскую ці беларускую?* ДК.

**2.** Збіраць удзельнікаў з'езда, сходу, нарады. *Дарма "истинен" "Крестьянин", Штось чураюцца хрысціяне. Часта, густа з'езд склікаю, Дый нішто не памагае.* ЛПК.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *склікаю*: ЛПК. Мн. 3 ас. *склікаюць*: ДК.

**СКНЭРА** *м. Польск.* Скнара, скупы чалавек. [Мікіта]: *Як чуць што зблышыў, дык і пачнуцца ўсялякія суды і перасуды: адзін будзе казаць, што па службе атрымаў паніжэнне, другі – што ў карты прагуляўся, а трэці – што скнэра, – а гэта – найгорш.* Т, 21.

Адз. Н. *скнэра*: Т, 21.

**СКОВЫ** *толькі мн. перан. Тое, што* скавана, замарожана. *Тае сьнег, таюць сковы Зімы ледзяністые, Сонцэ з ласкай ажыўчай гуляе ў прывольлі..* ТС, 74.

Н. *сковы*: ТС, 74.

**СКОЛЬКІ** (4) *прысл. Руск., разм.* Колькі. *Ах! як страшна мне гэта бязсонная ноч! Сколькі мукі, цярпеньня прыносіць з сабой!* БН, 91. *Цяпер другі кліч вынырнуў з балота паўстаючай рэакцыі, кліч "Дзяры, з каго можаш і сколькі можаш, душы слабейшага, пакуль яму звязаны рукі і ногі!"* ЗС, 17. Ан, 19; СНБ.

**[СКОН]** *м.*: ◊ **Да апошніх скону хвілін** – да смерці, да апошніх дзён жыцця. *Памерлі яны* [М. Багдановіч, Цётка, Іван Луцкевіч і інш.], *палаючы да апошніх скону хвілін вялікай святой ідэяй.* МІ, 17.

Адз. Р. *скону*: МІ,17.

**[СКОНЧАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* скончыць *у* 1 *знач.* [Начальнік]: *А цяпер, калі рэвізія скончана, прашу ўсіх ісці са мной.* Т, 62.

Кар. адз. ж. Н. *скончана*: Т, 62.

**СКОНЧЫЎШЫ** (4) *дзеепрысл.* да скончыць у 1 знач. [Усходні вучоны]: (*скончыўшы пісаць*). *Благодару покорно!* [Заходні вучоны]: (*скончыўшы пісаць*). *Дзенькуем упшэйме!* Т, 39 (2). Т, 47 (2).

**[СКОНЧЫЦЦА]** (3) *зак.* Закончыцца. *Хай кожны беларус цьвёрда верыць, што завяруха ваенная так ці сяк скончыцца, і што для яго самаго і для бацькаўшчыны прыдзе лепшая доля..* ВС. **Скончыцца вайна.** РКр.

Абв. буд. адз. 3 ас. *скончыцца* (3): ВС (2); РКр.

**[СКОНЧЫЦЬ]** (4) *зак.* **1.** Завяршыць якую-н. справу. [Дама]: (*як скончылі танец, да Мікіты*). *Вы, мусье рэгістратар, праўдзівы артыста ў вальцы.* Т, 29.

**2.** Закончыць гаворку, прамову. *Так гаварыў прыблуднік ночы, Народ і слухаў і маўчаў, Але як скончыў, люд ня змоўчыў: Разгамагіўся, закрычаў..* УрП, 52.

**3.** Закончыць навучанне. *Пазней, гадоў 15–16 я* [Купала] *скончыў за адну зіму Беларуцкае народнае вучылішча.* А, 328. [Мікіта]: *Калі і выходзіць у мяне такое-сякое, меджду протчым, "па", то мушу быць удзячным нашаму з Юраўскай вуліцы танц-клясісту Грачаніну. У яго я скончыў курс гэтых навук.* Т, 29.

Абв. пр. адз. м. *скончыў* (3): А. 328; Т, 29; УрП, 52. Мн. *скончылі:* Т, 29.

**СКОРА** (4) *прысл. да* скоры. Хутка. [Янка]: *..я вам* [Мікіту] *нічога не памагу – сягоння яшчэ выязджаю з Аленкай з Менску. Мабыць, і не скора пабачымся.* Т, 56. *Адлогам лягуць скора нівы, Узьняты нашаю рукой, Крыніц жывыя пералівы Закалатушацца крывёй.* УрП, 48. Н; Т, 54.

**[СКОРАСЦЬ]** *ж.:* ◊ **У скорасць** – у бліжэйшы час. [Янка]: *..я ў скорасці зусім выязджаю з Менску на вёску.* Т, 21.

Адз. М. *скорасці*: Т, 21.

**[СКОРЫ]** (2) *прым.:* ◊ **У скорым часе** *гл.* час.

Адз. м. М. *скорым* (2): ВН; ЖН.

**СКОСА** *прысл.* Недружалюбна, з пагардай. *І адны* [палякі], *і другія* [рускія] *глядзелі скоса на Беларусь, глядзелі то як на "крэсы", то як на "окраину", і больш нічога.* Нз, 15.

**[СКОТ]** *м. Тое, што* скаціна *ў* 2 *знач. Маскоўскі чыноўнік, таксама як польскі пан, глядзеў на беларуса як на "скот" (той – як на "быдло").* Нз, 14.

Адз. В. *скот*: Нз, 14.

**[СКОШАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* скасіць. *перан.* Знішчаны. *Спрадвеку ходзім пад панамі і пад царам На недруга й на бліжняга свайго вайной, Хоць нам за нашу кроў падзякаю адной – Крыжы і хаты скошаны пажарамі.* НГ.

Кар. мн. Н. *скошаны*: НГ.

**[СКРАНУЦЦА]** *зак.* Зрушыцца (з месца). *А як чапнуў* [другі ганец] *стралой аб лук, Яны* [людзі] *скрануліся ў прасонні..* Кц, 195.

Абв. пр. мн. *скрануліся*: Кц, 195.

**[СКРОГАТ]** *м. Разм., перан.* Адчай. *Сьмейся сьмехамсычэньнем праз скрогат Перад сьмертны зубоў і расьсейся Ў гразь жыцьця, ў пекла Дантава рогат!* См, 90.

Адз. В. *скрогат*: См, 90.

**СКРОЗЬ[1]** (12) *прысл.* Усюды, кругом. *І дрогнула Крыўды ўсяўлада, Разьлёгся скрозь кліч пяруновы..* Кр, 77. *Чаму скрозь*

*на Беларусі польскіеураднікі не спаўняюць загадаў свайго начальства?* ОШМ. АПЖ; Бч, 9; ГП, 8 (2); КЧ; ПЛ; СМ (2); ХБ, 30; ЧС, 50–51.

**СКРОЗЬ²** (6) *прыназ.* Праз, цераз. *Стогнуць ветрам калыханы Ліпы ды бярозы, а ноч сее скрозь туманы Золь, слату, як слёзы.* Дз, 191. *Сьмейся сьмехам-хрыпеньнем быдляці З перарэзаным горлам і грэйся Ў гэтым храпе скрозь стогн і праклацьце..* См, 91. СС, 302 (2); Т, 33, 61.

**СКРОМНА** (3) *прысл. да* скромны *ў 2 знач.* [Гануля]: *..паночкі, як бачу, дажыліся: зусім скромна выглядаеце ў гэтым бядацкім адзенні.* [Дама і Спраўнік]: *Занадта скромна!* Т, 57 (2). Т, 19.

**СКРОМНЫ** (5) *прым.* **1.** Не ганарысты. [Дама]: *..вы самі, мусье Зносілов, вельмі скромны.* Т, 28.

**2.** Які нічым не вызначаецца, звычайны. [Мікіта]: *Я мушу ў вас, меджду протчым, мадамы і мусьі, папрасіць прабачэння за скромную, вельмі скромную вячэру.* Т, 28.

Адз. м. Н. *скромны*: Т, 28. ж. Н. *скромная* (2): Т, 28 (2). В. *скромную* (2): Т, 28 (2).

**СКРОНЬ** *ж.* Бакавая частка чэрапа ад вуха да лобнай косці. *А другі* [хлопчык] – *ты прыпамінаеш? Над брывёю шрам услонь, І ў вачох яго сінь такая-ж, І сухая таксама скронь.* ВБЛ, 81.

Адз. Н. *скронь*: ВБЛ, 81.

**[СКРУТ]** (3) *м.* **1.** Прадмет, звіты, скручаны колцам. *Каб таго скруціла Гадзінавым скрутам І прастала потым Сухажыльным прутам. Хто круціў нам сьцежкі да жыцьця і славы.* К.

**2.** Пра тое, што звязвае чалавека, пазбаўляе яго волі, свабоды. *Здавалася, ноч ня пройдзе, Іржа ня згрызе вечных путаў – Аж бліснуў пажар на ўсходзе, І дрогнулі рабскія скруты.* Кр, 77. *Быў жыць адзінока надзел бедакоў, Нішто іх с сабой не лучыла – Ні крыльлі свабоды, ні скруты акоў... Адна толькі матка-магіла.* ПН, 46.

Адз. Т. *скрутам*: К. Мн. В. *скруты* (2): Кр, 77; ПН, 46.

**[СКРУЦІЦЬ]** (2) *зак.* **1.** Звязаць. *Каб таго скруціла Гадзінавым скрутам І прастала потым Сухажыльным прутам, – Хто скруціў нам сьцежкі Да жыцьця і славы..* К.

**2.** *перан.* Зглуміць, сапсаваць. *..Хто скруціў нам сьцежкі Да жыцьця і славы, Засцілаўшы вочы Туманом крывавым.* К.

Абв. пр. адз. м. *скруціў*: К. н. *скруціла*: К.

**[СКРЫГАТАЦЬ]** *незак., перан.* Выказваць нездавальненне, злосць. *А сваяк і чужак строіць петлі і сеці, Аплятае ўсё віднае ночай; Зварухнуцца ня сьмее ў заплесьнеўшай клеці, На*

*браточкаў зубамі скрыгоча.* Ч, 321.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *скрыгоча*: Ч, 321.

**[СКРЫЖАЛЬ]** *м. Кніжн., перан.* Кірунак, напрамак развіцця. *Той, хто з няволі рабочы люд вывеў, Новыя вызначыў свету скрыжалі, Той, хто народ абудзіў, ашчаслівіў, У домiку гэтым убачыў свет Сталін.* СД.

Мн. В. *скрыжалі*: СД.

**[СКРЫНКА]** *ж.* Прадмет для захоўвання чаго-н. *Дастае* [Мікіта] *з скрынкі вопратку і выходзіць.* Т, 50.

Адз. Р. *скрынкі*: Т, 50.

**[СКРЫПКА]** *ж.* Музычны струнны інструмент. *Наведзены струны ў скрыпках па-свойску Чужая зрывае рука.* ЗК, 43.

Мн. М. *скрыпках*: ЗК, 43.

**СКРЫТА** *прысл.* Тайна. *І кожнаму* [чалавеку] *хочацца яўна і скрыта Аддаць свой за Сталіна голас.* ВВ, 263.

**СКУЛЬ (7)** *прысл. Разм. Тое, што* адкуль *у 2 знач. Па аднэй* [дарожаньцы] *пайсці – Не пашэнціцца. Гэй, гэй, гэй, не пашэнціцца! Завядзе на ўсход, Скуль не вернецца. Гэй, гэй, гэй, скуль не вернецца.* ББ (2). БН, 92; ВСп, 89; Дз, 191; УрП, 51; Ч, 323.

**[СКУПАЦЦА]** *зак.:* ◊ **Скупацца ў крывавай рэчцы** – стаць забойцам. *"А як пойдзе хто першай* [пуцінай], *– ён* [чараўнік] *кажа ім* [сынам] *гэтак, – Што на ўсход шляхам чорным кладзецца, – Напаткаці чужацкі крывавы палетак, І ў крывавай скупаецца рэчцы.* Ч, 319.

Абв. буд. адз. 3 ас. *скупаецца*: Ч, 319.

**[СКУПЫ]** *прым., перан.* Недастатковы ў якіх-н. адносінах. [Мікіта]: *Меджду протчым, ідэя – вельмі скупая пані: ні шэлега сваім слугам не плаціць – хоча, каб на яе ўсе дарма працавалі.* Т, 22.

Адз. ж. Н. *скупая*: Т, 22.

**[СКУРА]** (6) *ж.* **1.** Выробленая шкура жывёлы. [Мікіта]: *..на Зыбіцкай вуліцы спаткалі мяне два, мабыць, апошнія ўцякаючыя паны, папрасілі мяне пастаяць, самі знялі куртачку, сказаўшы, што гэта з іхняга сукна, потым папрасілі пасядзець і таксама самі знялі боты, сказаўшы, што гэта з іхняй скуры.* Т, 58.

◊ **Вынесены на сваёй скуры** *гл.* вынесены**. Дрыжыкі па скуры** *гл.* дрыжыкі. **Загубіць сваю скуру** *гл.* загубіць. **Лезці ў чужацкую скуру** *гл.* лезці**. Напяці гладзейшую скуру** *гл.* напяці.

Адз. Р. *скуры:* Т, 58. В. *скуру* (3): Н; Ч, 320, 323. М. *скуры* (2): Ан, 19; Нз, 15.

**[СКУРАНЫ]** *прым.* Зроблены са скуры. [Ганулля]: *Той пакой, дзе жылі вы* [Янка], *аддалі нейкаму ў скураной жакетцы..* Т, 45.

Адз. ж. М. *скураной*: Т, 45.

**[СЛАБАДЖАНІН]** *м.* Жыхар слабады. *..пад той час, як я* [мужык] *быў, наехали там "госци" и па-свойму слабаджанаў абучали нагайками..* ХЛБ.

Мн. В. *слабаджанаў*: ХЛБ.

**СЛАБАСЦЬ** і **[СЛАБАСЬЦЬ]** *ж.* **1.** Адсутнасць цвёрдай волі. *Вось-жэ усе тые, што .. не маюць магчымасьці дзяліць долю і нядолю са сваімі роднымі на полі бітвы, павінны аткінуць ат сябе усякую слабасьць душы і цела, .. ды дружна ісьці да працы на сваіх загонах..* РКр.

**2.** Пра таго, хто выклікае да сябе чыю-н. сімпатыю. [Мікіта]: *..яна* [Наста] *першая ды, мабыць, апошняя слабасць майго сэрца.* Т, 23.

Адз. Н. *слабасць*: Т, 23. В. *слабасьць*: РКр.

**[СЛАБЕЙШЫ]** (8) *прым. Пар. ст. да* слабы. Які не можа аказаць вялікага уплыву на што-н. *Слабейшыя народы .. змагаюцца толькі за тое, каб жыць, каб адстаяць сваю незалежнасць..* СНБ. *Мацнейшыя народы хочуць павялічыць сваю тэрыторыяльную і збройную сілу коштам слабейшых.* Там жа. // *У знач. наз. Цяпер другі кліч вынырнуў з балота паўстаючай рэакцыі, кліч "Дзяры, з каго можаш і сколькі можаш, душы слабейшага, пакуль яму звязаны рукі і ногі!"* ЗС, 17. *Прымерам такога здзеку, такога зневажання дужэйшым слабейшага можа служыць, добра ўсім нам знаёмая, царская Расія.* НДН, 18.

Адз. м. Р. *слабейшага* (2): ЗС, 17; НДН, 18. Мн. Н. *слабейшыя*: СНБ. Р. *слабейшых* (3): НДН, 18; Нз, 14; СНБ. В. *слабейшыя* (2): НДН, 18 (2).

**[СЛАБОДА]** (4) *ж. Разм. Тое, што* свабода. – *Аб якой ты гэты вярзеш слабодзе? – Ну, аб Слабодзе, Нагайкаўскай валасьци, Усмирыцельскаго вуезду, што недалёка ад Прыгонава и Висельнева.* ХЛБ.

Адз. Р. *слабоды*: ХЛБ. В. *слабоду*: ХЛБ. М. *слабодзе* (2): ХЛБ (2).

**[СЛАБЫ]** (6) *прым.* **1.** Недастаткова дужы фізічна. *"Ідзеце* [людзі за намі [беларусамі], *каб не сказалі вам потым: чаму не памаглі нам, як мы былі слабые, чаму не накармілі нас, як мы былі галодные?* ВМР. *А трэйці* [ганец] *быў і раб, і цар, І слаб, і дуж ва ўсякім дзеле, Як вечнасьць, молад быў і стар; Меў гусьлі – на грудзях віселі.* Кц, 194. // Пра мышцы рук. *Дзе-ж, ой, матулькі, вашы дзеці? Рукі слабы, вецер – дуж ён, – Відаць, зьдзьмуў іх вясёлы вецер, Скіфскі вецер з сямі старон.* ВБЛ, 81. // З аслабленым успрыманнем (пра слых). [Дзед]: *..Сёння ўжо стар я і мне не да плачу, Вушы хоць слабы,*

*а ўловяць іх* [вызваліцеляў] *імя.* Д, 72.

**2.** Кволы (пра расліны). *..Звярнуся к сонцу, сонцу без канца й пачатку, Хай спаліць мне душу, як ствол разбіты граба, Хай вочы высмаліць, як кветку ў лільі слабай, Але і крыж мой спапяліць хай папарадку!* СМ.

**3.** Пазбаўлены стойкасці, цвёрдасці. *Слабые душою і целам апускаюць рукі, і як вол доўбні чэкаюць нечага негаданага, благога, наводзючы гэтым і на іншых сум ды трывогу.* РКр.

Адз. ж. Р. *слабай*: СМ, 268. Мн. Н. *слабые* (2): ВМР; РКр. Кар. адз. м. Н. *слаб*: Кц, 194. Мн. Н. *слабы* (2): ВБЛ, 81; Д, 72.

**СЛАВА** (56) *ж.* **1.** Ганаровая вядомасць, усеагульнае прызнанне заслуг. *Слава іх* [бясстрашных сыноў] *радуе сэрцы мільёнаў і заклікае да такога-ж гераізму.. на карысць усяго чалавецтва.* СБ. *І вось толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу.* Нз, 15.

**2.** *Разм.* Маральная годнасць. *Вы ўжо забылі, людзі здарэння, Дзе ваш прыпынак, – Вывелі ў гандаль славу, сумленне – Праўду на рынак.* Чж, 147.

**3.** Вядомасць. *Край свой ачысціць* [народная армія] *ад хэўры драпежнай, Ад гандляроў, п'яных славай крывавай.* Ф.

**4.** Хвала, пашана. *Чэсць і слава табе, беларуская моладзь, паўстаючая з-пад беларускай саломеннай стрэхі!* МІ, 18. *Слава сокалу, што родам З-пад Каўказскіх скалаў, Што з Крамля праменні сее З юнацкім запалам.* СТ.

**5.** *Разм.* Чутка, пагалоска. *Год мінуў, як ваяваці Шоў Даніла з сяла, А ўжо слава па ўсім свеце Аб ім громка ішла.* ПСД. *Слава аб іх* [бясстрашных сынах] *пройдзе ва ўсе годы і вякі і будзе служыць прыкладам для жыцця пакаленняў.* СБ.

• **Слава бясстаршным. Слава творцу новага шчаслівага жыцця.**

Адз. Н. *слава* (25): ВНЗ; ВС; Ж; Кр, 77 (3); МІ, 18; Н (2); НК (2); ПЛП; Пп, 5; ПСД; СБ (6); СТ (3); ТП, 214; УрП, 50. Р. *славы* (19): БрБ, 6; ДД (2); Дз, 188; К; Кц, 195, 196; Т, 42 (2). В. *славу* (13): БСУ; ЖН (3); Кз, 17; Кц, 195 (2); Нз, 15; ПСД, 232; ПЛП; СС, 301; Тр; Чж, 147. Т. *славай* (6): БСУ; Пп, 5; СА, 178; Т, 35; Ф; Ч, 324; *славаю*: ДПЛС. М. *славе* (2): Дз, 189; Ч, 320.

**СЛАВАЦКІЕ** *мн. аульн. да* Славацкі. *Пэўная часьць польскага грамадзянства, так званая "народова-дэмокрацыя" .. сышла з тэй дарогі, якую паляком намецілі сьвятлейшые іх грамадзяне Міцкевічы, Красінскіе, Славацкіе і інш.* СНБ.

Н. *Славацкіе*: СНБ.

**[СЛАВІЦЦА]** *незак.* Мець шырокую вядомасць. *Літва і Беларусь спрадвеку славяцца багацьцем пахучага мёду.* ХБ, 30.

Абв. цяп. мн. 3 ас. славяцца: ХБ, 30.

**[СЛАВІЦЬ]** (3) *незак.* Праслаўляць каго-н. *А ты, змарнелы чалавек, Нікчэмны пасынак былога, Сваю пушчаеш песню ў здзек, Чужою славіш нават Бога!* БрБ, 6. *Думкаю-песняй тваё* [Сталіна] *імя славіць Народ беларускі свабодны За беларускую нашу дзяржаву, Якую стварыў ты нам родны!* СС, 302.

Абв. цяп. адз. 2 ас. *славіш*: БрБ, 6. 3 ас. *славіць* (2): ПБН; СС, 302.

**СЛАВУТЫ** (4) *прым.* **1.** Агульнавядомы. *Сеюць* [сяляне] *пераважна хмель і ячмень для вырабу славутага пільзенскага піва.* ПЧ.

**2.** Папулярны (пра чалавека). *Нашым Молатаў славуты Дэпутатам будзе, Бо дзе лепшага мы знойдзем, – Падумайце людзі.* НК.

• **Славуты домік.**

Адз. м. Н. *славуты* (3): НК; СД (2). н. Р. *славутага*: ПЧ.

**[СЛАВЯНЕ]** *мн.* Група роднасных па паходжанню і блізкіх па мове і культуры народаў, якія жывуць у Еўропе і Азіі. *Гэтак Расія падняволіла сабе агнём і жалезам слабейшыя суседнія народы, пачынаючы ад манголаў, каўказцаў, фінаў, літвінаў і канчаючы славянамі – палякамі, украінцамі, беларусамі і інш.* НДН, 18.

◊ **Брацi-славяне** *гл.* брат**.**

Д. *славянам*: Пп, 161. Т. *славянамі*: НДН, 18.

**[СЛАВЯНІН]** *м.* Прадстаўнік славянскага народа. *Забабон старадаўнаму славяніну загадваў, каб жонка ішла з мужам разам у магілу..* З.

Адз. Д. *славяніну*: З.

**[СЛАВЯНСКІ]** (2) *прым.* **1.** Які ўласцівы славянам. *Верны славянскім спадкам, браточна У госцях вас* [людзей чужых] *мелі, І шанавалі людска, сваточна Ў будні, ў нядзелю.* Чж, 146.

**2.** Напісаны на царкоўнаславянскай мове. – *Ух-ці! – выйшаў на царкоўны дзядзінец дзяк "расійскай культуры" напханы за кліpасам славянскімі псалмамі Давідавымі.* З.

Мн. Д. *славянскім*: Чж, 146. Т. *славянскімі*: З.

**[СЛАННЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* слаць *у* 1 *знач. А першы* [ганец] *гэткі сьветлы быў, Як небам сланные праменні: Ў руцэ меў сьветач, што на зьдзіў Усе усюдах зводзіў цені.* Кц, 194.

Мн. Н. *сланные*: Кц, 194.

**СЛАТА** (2) *ж.* **1.** Вільгаць, макрэча. *Стогнуць ветрам калыханы Ліпы ды бярозы, А ноч сее скрозь туманы Золь,*

*слату, як сьлёзы.* Дз, 191.

**2.** *перан.* Цяжкае жыццё. *Гэта было цяжкае галоднае прадвесьне, як і кожнае прадвесьне у гаспадара-беларуса. Не вясна, а вясеньняя слата была.* БСУ.

Адз. Н. *слата*: БСУ. В. *слату*: Дз, 191.

**СЛАЎНА** *прысл.* Добра, выдатна. – *Слаўна мы жылі ўдваём, Сыта дні праходзяць, Так сабе груган з ваўком Гутарку разводзяць.* Пц.

**СЛАЎНЫ** (20) *прым.* **1.** Славуты. *Сёння мы напярэдадні вялікіх урачыстасцяй – XV гадавіны БССР і XV з'езда нашай слаўнай пераможнай комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі.* ШБСЯ. *Паглядзіце, азірніцеся, таварышы, на нашу моладзь, на нашу слаўную Чырвоную армію, якая стаіць на стражы нашых граніц.* ДЖ.

**2.** Які выклікае прыхільнасць; сімпатычны. *Трактар, мілы трактар, "Сталінец" мой* [трактарысткі] *слаўны, Пахавалі гора Мы з табой нядаўна.* ПТ, 207. *Людзі ходзяць, весяляцца, Ў думках іхніх свята, а на вуснах іх імёны Слаўных кандыдатаў.* НК.

**3.** *Разм.* Які дае задавальненне; добры. *А ў тых песнях гоман зямлі нашай чуўся, І рэха ляцела дарогаю слаўнай, Ажно з-пад Эльбруса і да Беларусі.* ПСД, 232. *..Выцерла* [Беларусь] *слёзы, пайшла ў свет дарогаю Побачкі з сонцам, дарогаю слаўнаю.* ДПЛС.

Адз. м. Н. *слаўны* (6): НК; ПБН; ПТ 206, 207 (3). Т. *слаўным* (2): Н; ЦСБ. ж. В. *слаўную*: ДЖ. Т. *слаўнай* (3): НДп, 229; ПСС, 232; ШБСЯ; *слаўнаю*: ДПЛС. н. Р. *слаўнага*: ЖН. Мн. Р. *слаўных* (4): НК; СК, 158; УПУВ; ЦСБ. Кар. адз. м. Н. *славен*: АПЖ. ж. Н. *слаўна*: $Ш_4$.

**[СЛАЦЦА]** *незак.* Падаць. [Янка]: *Тут калісь, – як сказана ў нашай песні аб паходзе Ігара, – продкаў нашых галовы снапамі на таку слаліся, душу ім ад цела веялі, а чырвоныя берагі Нямігі не зернем былі пасеяны, а касцямі гэных жа продкаў нашых.* Т, 35.

Абв. пр. мн. *слаліся*: Т, 35.

**[СЛАЦЬ]**[1] (2) *незак.* **1.** Пасылаць, адпраўляць куды-н. *Ён* [першы сын] *і рад і ня рад, а пуцьця меней штодзень На тэй выбранай сьцежцы, і ные; Ўжо адны ў вочы кідаюць – здраднік, звыродзень, На пагібель, на звод шлюць другія.* Ч, 320.

**2.** Пры звароце да каго-н. выказваць свае адносіны на пісьме. *Першым чынам нізкі паклон і дзякуй ад сэрца шлю* [Купала] *д-ру Казубоўскаму і д-ру Маліноўскаму..* ЛР.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *шлю*: ЛР. Мн. 3 ас. *шлюць*: Ч, 320.

**[СЛАЦЬ]**[2] *незак.* Пракладваць барозны. *Чыя кірка ў падзямеллі Першай пласт вугля цярэбіць І чый трактар першым сцеле Скібы на калгаснай глебе?* СА, 180.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *сцеле*: СА, 180.

**СЛЕД** (10) і **СЬЛЕД** (8) *м.* **1.** Дарога, шлях. *Мы, згартаваныя сталінскай воляй, Смерцю сатром людаедаў, Пойдзем, як йшлі мы, у сонечнай далі Ленінска-сталінскім следам.* СЗГ, 252. *Ня зыходзіць са шляху свайго і другі сын – Чуць ня йдзе сьледам першага брата..* Ч, 320.

**2.** *перан.* Тое, што, застаўшыся пасля каго-н., з'яўляецца яго прыкметай. *Ці апомняцца сыночкі У сваёй правіне? Ці загінуць сярод ночкі, Што і сьлед загіне?...* Дз, 191. *Гэтакай подласці, гэтакай здрады Свет і не чуў і не бачыў. Смерць крывапійцам, раз'юшаным гадам, Вынішчыць след іх сабачы.* СЗГ, 252.

**3.** Адзнака чаго-н. *Загоены раны, сляды ліхалецця, Руінаў, пагромаў, пажарышч сляды.* ПБН. *З вачэй не зняты йшчэ павязкі, Ці йдуць* [людзі] *у перад, ці назад, Відны сляды цямрычнай ласкі.* Кц, 194.

◊ **Вадзіць вечным следам** *гл.* вадзіць**. І след прастыў** – пра знікненне каго-н. *Я хацеў заікнуцца аб задатку, але рэдактара і след прастыў.* Ан, 19. **І след загінуў** – бясследна прапасці. [Аленка]: *Татку ж майго йзноў у абоз пагналі. Але так пагналі, што і след загінуў.* Т, 54. **Як сьлед** – як трэба, як мае быць. *Вось-жэ калі с толкам пажычаць будзе магазын гэта збожа, то не адна сем'я запаснога будзе як сьлед накормлена.* ВС. *Параўн.* як следна (сьледна). **Таптаць свой след** *гл.* таптаць**.**

Адз. Н. *след* (2): Ан, 19; Т, 54; *сьлед* (2): Дз, 191; ВС. Р. *следу*: ПЛП; *сьледу*: Ч, 322. В. *след* (4): Кц, 194; ПБН (2); СЗГ, 252; *сьлед* (4): Г, 17; Кц, 195; УрП, 50; Ч, 323. Т. *следам* (2): ВБ; СЗГ, 252; *сьледам*: Ч, 320. М. *слядох*: Т, 35.

**СЛЕДАМ** (2) і **СЬЛЕДАМ** (2) *прысл.* Услед за кім-н., не адстаючы. *Можаце сабе ўявіць: чалавек ходзіць за сахой, а следам за ім, як варона, хаджу я* [Купала] *і слухаю.* ПС. *Гэткай рдзее душой чараўнік-сьлепаводнік. Што сыноў навучаў трох калісьці, А за ім сучыць сьледам, цянюючы, зводнік.* Ч, 326. ПДз; $Ш_3$.

**СЛЕДНА** (4) і **СЬЛЕДНА** *прысл.*: ◊ **Як следна (сьледна)** – *тое, што* як сьлед. *Нават "здрастуце" ня можаце, як сьледна, выгаварыць, а яшчэ ... расійцы!* З. *Слава нашаму Ежову, З Ленінграда родам, Што расправіўся, як следна, З дыверсанцкім збродам!* НК. Дз, 73; СНБ, 337, 339.

**СЛЕДСТВА** *н.* Дазнанне. *Не вельмі даўно у нас было следства па дзелу аб вучыцельскім саюзе.* ВД.

Адз. Н. *следства*: ВД.

**СЛЕДУЮЧЫ** *дзеепрысл. да* следаваць. *Руск.* Кіруючыся чым-н. *Нашы бясстрашныя байцы-пагранічнікі, следуючы волі совецкага народа і яго жаданню захаваць мір, змагаюцца не праходзячы на тэрыторыю ворага..* ВГ.

**СЛЕСАР** і *разм.* **[СЬЛЁСАР]** *м.* Рабочы, спецыяліст па апрацоўцы металічных вырабаў. *Наш слесар луганскі, Нарком Абароны, Засядзе ў Вярхоўным Совеце ад нас.* НДп, 229. *За "плебісцыт" паліцыя пры помачы сьлёсара улезла у рэдакцыю беларускай газэты і забрала усе канторскіе і рэдакцыйные матэрыялы.* СНБ.

Адз. Н. *слесар*: НДп, 229. Р. *сьлёсара*: СНБ.

**[СЛЁЗКА]** і **[СЬЛЁЗКА]** *ж. Памянш.-ласк. да* сляза *ў* 1 *знач. Сеў Данілка, выразае коніка з бярозкі, Адно бліскаюць у вочках Радасныя слёзкі.* Вб, 238.

◊ **Крывавы сьлёзкі раняць** *гл.* раняць**.**

Мн. Н. *слёзкі*: Вб, 238. В. *сьлёзкі*: ХБ, 28.

**[СЛІВЕНЬ]** і **[СЬЛІВЕНЬ]** *м. Заал.* Род яшчаркі. *У параўн. Акоў паломаных жандарм, Сліўнём зарыўшыся ў нару, Сядзіць расійскі чынадрал "Слуга ацечаству, цару".* АПЖ. *Вылазе з цемры бледны звод. Глядзіць сьліўнём на долы, горы І тут і там пускае ў ход Свае нямыя загаворы.* Кц, 192.

Адз. Т. *сліўнём*: АПЖ; *сьліўнём*: Кц, 192.

**[СЛІЗГАЦЬ]** і **[СЬЛІЗГАЦЬ]** *незак.* Перамяшчацца. *Путы звонка бразджаць і ўгары, і ўнізу, Жутка вісельні граюць, сьлізгоча пятля..* БН, 92.

◊ **Чорнай п'яўкай слізгаць –** турбаваць, непакоіць. *Усё, што чахне, не меў долі ў чым, Чорнай п'яўкай слізгоча ў душы... Аб жыцці беспраглядным сваім Разважаю я ў гэтай цішы.* ЧС, 50–51

Абв. цяп. адз. 3 ас. *слізгоча*: ЧС, 50–51; *сьлізгоча*: БН, 92.

**[СЛІЗКІ]** *прым.*: ◊ **Коўзацца па слізкіх і небяспечных пуцявінах** *гл.* коўзацца**.**

Мн. М. *слізкіх*: Т, 36.

**[СЛОВА]** (62) *н.* **1.** Моўная адзінка. *Мы памятаем, як польская соймавая камісія была вельмі незадаволена, калі адзін беларускі дзеяч у размове з ёю ужыў слова окупацыя.* ОШМ. *Мы ніколі не заяўлялі, каб нашым дзецям выкладалі рэлігію простымі словамі роднай гутаркі беларускай.* ВР.

**2.** Мова. *Царскія сатрапы ўсяляк імкнуліся задушыць беларускае слова.* А, 328. *Простым мы словам з сьветам*

*гаворым, Песьні аб цяжкай творым нягодзі, З думкамі рвёмся к сонцу і зорам.* Пп, 5.

**3.** Фраза, выказванне. *Цяпер некалькі слоў аб нашых выдавецтвах.* ВСп, 90. *Словы вялікага Леніна, аб тым, што кожная кухарка павінна ўмець кіраваць дзяржавай, – здзяйсняюцца.* ГВУ.

**4.** Рашэнне, думка. *Цяпер за вамі* [жыдамі] *слова ў буру гэту: Пайсьці ці не, з народам нашым да сьвятла?* Ж. *Дайце волю народам самім будаваць сваю долю. А тады гэтыя народы скажуць сваё шчырае слова аб вашай культурнасці – ці то заходняй, ці то ўсходняй.* Тж, 16.

**5.** Прамова. *З пакорай зьвесіўшы галовы Стаіць народ, маўчыць народ: Сказаць аўтарнік мусіць слова, Ня дарма з неба вядзе род.* УрП, 49.

**6.** Літаратурны тэкст вакальнага твора. *Пачатак гэтага зрабіў кампазытар Рагоўскі, які стварыў музыку да слоў верша Янкі Купалы: "А хто там ідзе?" і назваў гэта гымнам.* СБНГ.

• **Друкаванае слова** (3) – тое, што надрукавана. *Мінулы 1922 год быў самым ураджайным годам у справе росквіту беларускага друкаванага слова.* ВСп, 89. *.. выдаўцы ня прытрымліваліся, каб друкаваць або толькі школьныя кнігі, або прыгожае пісьменства, але наадварот: не забыліся аб усіх галінах друкаванага слова.* Там жа, 89.

◊ **Адным словам** (3) – карацей кажучы. *Ну, адным словам, кожны нешта кажа, а ніхто аб гэтым нічога добра не ведае.* Ан, 18. [Мікіта]: *Адным словам, я надумаўся дабівацца беларускага асэсарства.* Т, 55. **Жывое слова** – якое існуе, ужываецца. *..праца гэтых людзей* [М. Багдановіч, Цётка, Іван Луцкевіч і інш.] *праца ў страшэнна пякельных варунках, калі кожнае жывое беларускае слова расійскі урад лічыў праступствам ..гэта праца лепшых беларускіх людзей над падняццем свае роднае культуры не была дарэмнай.* МІ, 17. **Даць слова** *гл.* даць. **На словах** – толькі ў размове. *Чаму на словах нам абяцаюць ласку, прыхільнасць і дапамогу, а на дзеле – зьдзек і паняверку?* ОШМ. **Ні слова** (2) – зусім нічога. *..выпусьціў* [Беларускі Дзяржаўны Універсітэт] *за мінулы год два ёмкія сшыткі сваіх "Трудов", але пабеларуску ў іх ні слова.* ВСП, 90. [Мікіта]:*..ці ён* [немец] *нямы, што ні слова не адказаў на маё пытанне?* Т, 42. **Слова залатое** – пра надта разумныя, дзельныя словы, парады. *Канстытуцыі векапомнай Слова залатое Напісаў* [Сталін] *нам добрым сэрцам, Дбалаю рукою.* НК. **Успомніць добрым словам** *гл.* успомніць. **Як сказаці слова** *гл.* сказаці.

Адз. Р. *слова* (7): ВСп, 89 (2), 90; СБНГ; Т, 42; УрП, 50, 51. Д. *слову* (2): ВСп, 91; Н. В. *слова* (15): А, 328; Ан, 19; В; Вб, 236; Ж; З; МІ, 17 (2); НК; ОШМ; ПБН; СП; Т, 29; Тж, 16; УрП, 49. Т. *словам* (12): Ан, 18; ЖН; ЛР (2); М, 20; Пп, 5; Пт; Т, 22, 41, 47, 55; УрП, 49. М. *слове*: СНБ, 339. Мн.Н. *словы* (3): ВБЛ, 81; ГВУ; Тж, 16. Р. *слоў* (3): ВСп, 90; ЛР; СБНГ; *слов*: Т, 26; *слув*: Т, 38. В. *словы* (8): А, 328; Вб, 237; ВБЛ, 81; ДК; Кз, 17; ПСп; Т, 35; Ч, 320. Т. *словамі* (4): ЖН (2); НДН, 18 (2); *славамі*: ВР. М. *словах* (4): ОШМ; Т, 22, 35, 62.

**[СЛОЎНІК]** (8) *м.* Кніга, у якой сабраны і размешчаны ў пэўным парадку словы з тлумачэннем або перакладам на іншую мову. [Мікіта]: (*паклаўшы на стол некалькі тоўстых слоўнікаў*). *Медждy протчым, я гатоў, мусье профэсар.* Т, 31. [Мікіта]: (*выкладаючы слоўнікі*). *Зусім справядліва, мусье профэсар.* Там жа, 49.

Адз. Р. *слоўніка*: ВСп, 89. Д. *слоўніку*: Т, 32. Мн. Р. *слоўнікаў*: Т, 31. В. *слоўнікі* (3): Т, 32 (2), 49. Т. *слоўнікамі*: Т, 32. М. *слоўніках*: Т, 32.

**СЛУГА** (8) *м.* **1.** Парабак. *Выходзяць на поле плугі, Ўзнімаюць плугі дзірваны. Ні пана няма, ні слугі, Не гоняць народ бізуны.* ТП, 213. *Бай* [маці] *яму* [сыну] *даўнейшы казкі Аб бацькох сваёй зямлі, Як жылі бяз чужай ласкі, Як слугамі ня былі.* М, 20. *Параўн.* служка.

**2.** *перан.*Той, хто адданы чаму-н. *Акоў паломаных жандарм, Сліўнём зарыўшыся ў нару, Сядзіць расійскі чынадрал “Слуга ацечаству, цару”.* АПЖ.

Адз. Н. *слуга*: АПЖ. Р. *слугі*: ТП, 213. Т. *слугой*: Кц, 196. Мн. Н. *слугі*: Т, 42. Р. *слуг*: Кц, 195. Д. *слугам*: Т, 22. Т. *слугамі* (2): Кз, 17; М, 19.

**СЛУЖКА** (2) *м.* і *ж. Тое, што* слуга *ў* 1 *знач. Служка польскага пана, твой брат і мой брат, З бізуном над табою, як кат той стаіць...* БН, 92. // *перан.* Пра прадметы. *У сваясях Налівайка З вернай служкаю нагайкай Сказ даюць сялянскай браці, Як чын чына пачытаці.* НД.

Адз. Н. *служка*: БН, 92. Т. *служкаю*: НД.

**СЛУЖБА** (13) *ж.* **1.** Работа ці месца работы служачага. [Ганулся]: *..скасавалі чыноўніцтва, застаўся* [Мікіта] *без службы і хоць бы што, ні на грош таей сталасці.* Т, 20. [Мікіта]: *У нашым чыноўніцкім становішчы іначай няможна. Як чуць што зблышыў, дык і пачнуцца ўсялякія суды ды перасуды: адзін будзе казаць, што па службе атрымаў паніжэнне, другі – што ў карты прагуляўся, а трэці – што скнэра..* Там жа, 21.

**2.** Знаходжанне ў радах арміі. *Хай бяруць з магазыноў толькі тые, хто папраўдзе не мае за што купіць, а сем’яніны яго на ваен-*

*най службе.* ВС.

Адз. Н. *служба*: Т, 62. Р. *службы* (5): Т, 20 (2), 45 (3). В. *службу* (3): Т, 45, 46 (2). М. *службе* (4): ВС; Т, 21; ТЗУ, 293; Ч, 321.

**[СЛУЖБОВЫ]** *прым. Які адносіцца да* службы *ў* 1 *знач.* [Мікіта]: *Гэта, пане профэсар, ёсць вынік майго апошняга, меджду протчым, службовага становішча.* Т, 48.

Адз. н. Р. *службовага*: Т, 48.

**[СЛУЖЫЦЕЛЬ]** *м.* Духоўная асоба. *Намыліліся старцы мудрыя: па іх касцях закрасаваў новы ўсемагутны Бог, сталі легіёны аўтарных служыцеляў хвіміямы яму курыць..* Кз, 17.

Мн. Р. *служыцеляў*: Кз, 17.

**СЛУЖЫЦЬ** (25) і *разм.* **СЛУЖЫЦІ** *незак.* **1.** *Уст.* Працаваць у сферы, звязанай з абслугоўваннем каго-н. [Ануля]: *Служыў* [Мікіта] *у камісарыяце паліцыі нейкім там разношчыкам.* Т, 57. [Мікіта:] *Увесь Менск ведае, што я служыў разношчыкам, а не даношчыкам.* Там жа, 61.

**2.** Прыслужваць, выконваць абавязкі слугі. *У 1883 г. ён* [бацька] *служыў у маёнтку Юзэфава ў памешчыка Багдановіча..* А, 327. *Мамкай служыла я* [маці] *на сваё ліха Некалі ў пані, так, з ласкі, задарма.* М, 75.

**3.** Працаваць, рабіць што-н. у імя чаго-н. *Табе* [Расіі] *такой служыць па гроб Не кіну я, і расцярзаць Не дам дзяржаўнасці "аплот"..* АПЖ. *Луцкевічы, Станкевічы і т.д. служаць адзінай мэце адарваць Совецкую Беларусь ад Совецкага Саюза і кінуць яе ў падняволле..* ШБСЯ.

**4.** Выконваць сваё прызначэнне. *Рад* [Купала] *таму, .. што песні і думы мае служаць узмацненню дружбы народаў, усіх працоўных усяго свету.* ЖН.

**5.** Быць, з'яўляцца чым-н. *Слава аб іх* [сынах] *пройдзе ва ўсе годы і вякі і будзе служыць прыкладам для жыцця пакаленняў.* СБ. *Прымерам гэтага можа служыць закрыццё Буцлаўскай гімназіі і інш.* ..СНБГ.

Інф. *служыць* (6): АПЖ; БВ, 16; НДН, 18; СБ; СНБГ (2); *служыці*: Ч, 320. Абв. цяп. адз. 1 ас. *служу*: Т, 22. 3 ас. *служыць* (2): ПТ, 206; Т, 61. Мн. 1 ас. *служым*: Т, 22. 3 ас. *служыць* (3): ЖН; Т, 55; ШБСЯ. Пр. адз. м. *служыў* (8): А, 327; Бц, 74; Ун, 73; ПС; Т, 20, 44, 57, 61. ж. *служыла*: Мц, 75. Мн. *служылі* (2): БС; Нз, 14. Заг. адз. 2 ас. *служы*: Т, 61.

**СЛУП** (8) *м.* Бервяно, умацаванае вертыкальна. *Там, за мяжою, за пагранічнымі слупамі.. – голад, здзекі, катаванне працоўнага народу..* ЖН. *Я* [Купала] *пачаў пісаць у гады, калі царат вешаў на слупох рэвалюцыйных рабочых..* Там жа.

Адз. Н. *слуп*: СНБГ. Мн. В. *слупы* (3): АБ, 16; БВ, 17; СНБ, 336. Т. *слупамі* (2): ДЖ; ЖН. М. *слупах*: ЖН; *слупох*: Т, 32.

**СЛУХАЦЬ** (17) *незак.* **1.** Накіроўваць увагу, чуць гукі. *Можаце сабе ўявіць: чалавек ходзіць за сахой, а следам за ім, як варона хаджу я* [Купала] *і слухаю.* ПС. *І слухаюць вушы гул песень юначых, І цешыцца сэрца з вялікага свята.* ТП, 215. // Быць слухачом якога-н. выступлення. *Так гаварыў прыблуднік ночы, Народ і слухаў і маўчаў..* УрП, 52.

**2.** Выконваць чыю-н. волю. *З вольнай дружынаю князь на пасадзе Вольнаму люду законы пісаў; Слухалі князя, а князь што не ўладзіў – Слухаў , што веча яму звон казаў.* Н.

Інф. *слухаць* (4): ВМР; Дз, 187; Т, 41; УрП, 50. Абв. цяп. адз. 1 ас. *слухаю*: ПС. 2 ас. *слухаеш*: Н. 3 ас. *слухае*: ВМР. Мн. 1 ас. *слухаем*: Бч, 9. 3 ас. *слухаюць*: ТП, 215. Пр. адз. м. *слухаў* (4): Н; СК; ПС; УрП, 52. Мн. *слухалі*: Н. Заг. адз. 2 ас. *слухай*: СП; *слухаймо*: РКр; Мн. 2 ас. *слухайце*: Т, 53.

**СЛУХАЮЧЫ** (2) *дзеепрысл. да* слухаць *у* 1 *знач. А вось загаварыце вы аб беларускай незалежнасці... Тут вам цэлую кучу нагаворaць перашкод, недарэчнасцяў, што аж вушы вянуць слухаючы.* Нз, 14. [Янка]: (*не слухаючы*). *Зірні, Аленка, на Менск!* Т, 35.

**[СЛУХМЯНЫ]** (2) *прым.* Паслухмяны, пакорлівы. *Табе* [рускаму языку] *слухмян быў мал, вялік, Быў славен ты сваёй кляцьбой.* АПЖ. *Яму* [цудадзею] *слухмяны былі хмары, Народу сказ даваў свайму: Якія мільшыя ахвяры Багам панятлівым яму.* УрП, 47.

Кар. адз. м. Н. *слухмян*: АПЖ. Мн. Н. *слухмяны*: УрП, 47.

**СЛЫХ** (2) *м.* Вестка, чутка. *Слых адно праходзе Калі-нікалі У жывым народзе На жывой зямлі.* МД. *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня ад сонца, ад зор залатых, Якую пяе уся наша зямля, Аб сейбіту светлы разносячы слых.* СС, 300.

Адз. Н. *слых*: МД. В. *слых*: СС, 300.

**[СЛЯЗА]** (9) і **[СЬЛЯЗА]** (12) *ж.* Вадкасць, якая выдзяляецца залозамі вачэй пры моцных перажываннях. *Той абліўся крывёй, той сьцірае сьлязу... Што за людзі – зьвяр'ё?! Ах, якая сям'я!* БН, 91. *Гэта дэмакратычная камэдыя, каторая толькі выклікае ня смех, а горкія слёзы, бо чыніцца над жывым, змучаным, абяздоленым народам..* ДК. // *У параўн. Стогнуць ветрам калыханы Ліпы ды бярозы, А ноч сее скрозь туманы Золь, слату, як сьлёзы.* Дз, 191.

◊ **Выцерці слязу** *гл.* выцерці**. Кракадылевы сьлёзы** – пра няшчырае, прытворнае шкадаванне, спачуванне. *І паліліся ізноў па віленскім каркаломным бруку гаротные сьлёзы, сьлё-*

*зы кракадылевы.* ЧЧШ. **Паліваць слязамі (сьлязьмі)** *гл.* паліваць**. Уціраць з павек слёзы** *гл.* уціраць**.**

Адз. В. *сьлязу* (2): БН, 92; УрП, 49. Т. *сьлязою* (2): Кц, 195; ТС, 74. Мн. Н. *слёзы*: ЧС, 50–51; *сьлёзы* (4): Дз, 191; ЧЧШ (3). Р. *слёз*: В. В. *сьлёзы* (2): ДК; З; *слёзы* (5): ДПЛС; ПБН; СС, 302; ССА, 294; ТП, 214. Т. *сьлязьмі* (2): ПТ; ЧС, 50–51; *слязамі*: БрБ, 6. М. *слёзах*: Д, 73.

**[СЛЯЗІНА]** *ж. Тое, што* сляза *ў* 1 *знач. Так паехаў сын Даніла Сам сабой на вайну, Азірнууўся на хаціну Ды змахнуў слязіну.* ПСД.

Адз. В. *слязіну*: ПСД.

**СЛЯПІЦЬ** *незак.* Рабіць сляпым. *Вада з крыніц жывых хай зверам-людарэзам Атрутай будзе і сляпіць крывавыя іх вочы.* ПНд, 314.

Інф. *сляпіць*: ПНд, 314.

**[СЛЯПЫ]** (2) і **СЬЛЯПЫ** (10) *прым.* **1.** Пазбаўлены зроку. [Унук]: *Я падняў яблык. Тут пан як наскочыў, Крыкнуў ды гікнуў, і выстрал раздаўся. Я паваліўся, падняўся. Ах, вочы... Вочы пан выбіў, сляпым я застаўся.* Ун, 73. *Гібелі зноў людзі у сьпеку, ў мароз, Як чэрві сьляпые у плесьні, – Аж страшная кара дасьцігла з нябес, Забыўся народ сваей песьні.* ПН, 47. // *У знач. наз. У параўн. Заціснуты, задушаны, як мышы Пад жорсткім венікам, з усіх бакоў, Шукаем, як сляпые, не згубіўшы Таго свайго, што наша ад вякоў.* Бч, 9. // *Разм.* Са слабым зрокам. *Над пакаленьнем неакрэпшым, Над бедным краем-сіратой Груган з начніцаю сьляпою Банкет спраўляюць чорны свой.* РС, 40.

**2.** *перан.* Цёмны, неадукаваны. *Сьляпы зьнемагаецца бацька ў цямніцы; На стражы пастаўлен сынок; У поўных калісьці ад шчасьця сьвятліцах Чужак зневажае дачок.* ЗК, 42. // *У знач. наз. У тысячы сьветычаў сонц залатых Яна* [думка] *разлілася між імі; Разсеела цемру, ўзлячыла сьляпых, – Сваё, іх праславіла іме.* ПН, 47.

**3.** *перан.* Які не мае разумных падстаў. *Той шлях трэці і трэцяя рэчка сьляпою Ласкай-крыўдай апутаюць грудзі...* Ч, 319.

**4.** *перан.* Невыразны. *Як шум асеньняга вятрыска, Лунаўся розгалас сьляпы...* УрП, 52.

**5.** *перан.* Непраглядны. *Брат другі шоў на нетры сьляпыя аблавай, Воблік крадзены кідаў загубам..* Ч, 324.

**6.** *перан.* Беспрасветны. *Спадзе ланцуг ваш* [жыдоў] *у сьляпым загіну. Спадзе ланцуг наш і зазьяе ўсім вясна!* Ж.

Адз. м. Н. *сьляпы* (2): ЗК, 42; УрП, 52. Т. *сляпым*: У, 73. М. *сьляпым*: Ж. ж. Р. *сьляпой*: См, 90. Т. *сьляпою* (2): РС, 40;

Ч, 319. Мн. Н. *сляпыя*: Бч, 9; *сьляпые*: ПН, 47. Р. *сьляпых* (2): РС, 39; ПН, 47. В. *сьляпыя*: Ч, 324.

**[СМАГА]** (2) *ж.* **1.** Жаданне піць. *Глыток вады, а за яго вазьмеце Вось гэты шаль – цяпер ўжо ўсё адно... І чэрпае* [абываталь], *пакуль не гляне дно, І ўсё ня можа смагі адалеці.* ВБЛ, 80.

**2.** *Разм., перан.* Моцнае імкненне да чаго-н. *Сабою самі ўстаць з руін Вам* [бальшавікам] *не хапіла смагі, сіл, І вось к вам вылез цень з магіл..* ПВ.

Адз. Р. *смагі* (2): ВБЛ, 80; ПВ.

**[СМАК]** (3) *м. перан.* Задавальненне, ахвота. *Наш мужык беларус не пазнаў ешчэ смаку у чытанню газэт, книг..* УП. // Сутнасць, сэнс чаго-н. *Будучы дагэтуль паднявольнымі і паспытаўшы, што за смак гэтае падняволле, само сабой разумееццa, нам і ў думку не прыйдзе запрагаць каго б то ні было жывучага на нашых загонах, у паднявольнае ярмо.* НДН, 18.

◊ **Знаць смак у чым-н.** *гл.* знаць**.**

Адз. Р. *смаку*: УП. В. *смак* (2): НДН, 18; УП.

**[СМАКТАЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Карміцца мацярынскім малаком (пра дзіця). *Грудзі смактаў мне* [маці] *паніч недапечны, Высахла там я на шчэпку, як мара, Сынам, як кажуць, маім быў ён млечным..* Мц, 75.

◊ **Смактаць кроў** – мучыць, прыгнятаць. .. *Як днём начніцы, разбегліся госці, Што з беларуса смакталі кроў ласа.* Мц, 75.

Абв. пр. адз. м. *смактаў*: Мц, 75. Мн. *смакталі*: Мц, 75.

**[СМАЛЕНЕЦ]** *м.* Жыхар Смаленска. .. *арганізавалі* [бальшавікі] *так званую Западную вобласць.. Смаленцы крыху гэтаму працівіліся.* СНБ, 337.

Мн. Н. *смаленцы*: СНБ, 337.

**СМАЛЕНСКІ** (3) *прым.* Які адносіцца да г. Смаленска. *..змагаліся смаленскія абласныя камісары з усялякімі .. праявамі беларушчыны.* СНБ, 338. *..незалежную беларускую рэспубліку стварылі смаленскія і маскоўскія "беларусы" па загаду з Масквы.* Там жа, 338.

Адз. м. Н. *смаленскі*: СНБ, 338. Мн. Н. *смаленскія* (2): СНБ, 338 (2).

**СМАЧНА** *прысл. да* смачны *ў* 1 *знач.* [Мікіта]: *Новая ўлада гарэлку забараняе, а што забаронена, тое смачна і дорага каштуе.* Т, 58.

**СМАЧНЫ** (2) *прым.* **1.** Прыемны на смак. *Беларус-жа ім* [Маскалю і Ляху] *на тое: – Сваячкі мае вы: Смачны жолудзь вам на каву, Дый высока дрэва!* С, 209.

**2.** *перан.* Які падабаецца, па душы. *Бальшавікі павялі свае*

*парадкі і гаспадарку, ня гледзячы на тое, ці смачна нам гэта ці ня смачна.* БС.

Адз. м. Н. *смачны*: С, 209. Кар. адз. н. Н. *смачна*: БС.

**СМЕЛА** (9) і **СЬМЕЛА** (5) *прысл.* **1.** *Прысл. да* смелы. *Буйным жыццём ўсё чыста кіпела, Слава далёка за мора ішла, Ворага кожны за плечы браў смела, Цемра чужынцаў не страшнай была.* Н. *І пайшлі яны* [жаўнеры] *паходам, Дружна смела пайшлі, Каб вон злыбяду прагнаці З беларускай зямлі.* ПСД.

**2.** Не баючыся цяжкасцей; рашуча. *Глянь сьмела, глянь вольна, шчасьліў, нешчасьлівы, І далей, к жыцьцю с паніжэньня і сна!* В. *Багата ўраджаем Зямля расквітнела. У будучнасць людзі Ўзіраюцца смела.* СС, 300.

**3.** *Разм.* Несумненна; з поўнай абгрунтаванасцю. *..кінутыя мазолістай рукой здаровыя зярняты заруйнеліся на нашых вачох буйнай квяцістай руняй, ад якой можна смела чакаць ураджайнага жніва.* ПЛП. БЗ; Бч, 9; Г, 17; НК; ПБН; РКр; Т, 35; ТС, 74; Ур, 215.

**[СМЕЛЫ]** *прым.* Храбры, адважны. *На мой кліч, на сход Гмін народу йшло, Шоў ваяк з ваякам, - Кожны смел, ахвоч, Б'е адвага з воч, Поле ўслалі макам.* ВБ.

Кар. адз. м. Н. *смел*: ВБ.

**СМЕРЦІЦЬ** *незак. Наватв.* Знішчаць. [Хлопчык]: *Так будзем ляцець з табой* [лётчыкам] *разам – Адважныя ўсюды ў баю, – Фашысцкую смерціць заразу За мамку й сястрычку маю.* ХЛВ, 316.

Інф. *смерціць*: ХЛВ, 316.

**СМЕРЦЬ** (22) і **СЬМЕРЦЬ** (4) *ж.* **1.** Спыненне існавання. *Маці з дзецьмі пасля смерці бацькі пераязджае на арандаваную зямлю памешчыцы Стржалковай.* А, 328. *.. да самае смерці не складалі* [людзі] *аружжа барацьбы за беларускую незалежнасць.* МІ, 17. // *У параўн. Не па нутру, як смерць, яму* [сатрапу], *Што беларускае дзіцё Бяжыць у сцюжную зіму У школку пазнаваць жыццё.* АПЖ. // *перан.* Гібель, знішчэнне. *У нас* [на Беларусі] *усё спіць, ніхто не падае голасу, ніхто не дамагаецца ад народаў, што наш край здраталі ні за што ні пра што, каб хоць у часткі прыйшлі з падмогай дзеля яго адбудавання, дзеля яго ратавання ад галоднай і халоднай смерці.* АБ, 16.

**2.** *У знач. вык. Смерць вам, жывыя нябожчыкі – трупы, Смерць за пісьменніка-генія!* СЗГ, 252.

• **На смерць таварыша Кірава. Смерць забойцам А.М. Горкага.**

• **Палітычная смерць** – немагчымасць працягваць палітычную дзейнасць. *Уміраю* [Купала], *прымаючы тое, што лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная.* СЧ, 433.

◊ **Пад смерць стаць** *гл.* стаць**. Смерць скасіла –** памерці. *...Не стала Кірава... Без часу смерць скасіла...* СК, 158.

Адз. Н. *смерць* (6): АПЖ; НГд, 8; СК, 158; СЧ (3); *сьмерць*: Ч, 321. Р. *смерці* (5): А, 328; АБ, 16; МІ, 17; Пц (2). В. *смерць* (9): АЛ; ПБН; СК, 158 (3); СЗГ, 252 (4); *сьмерць* (2): БН, 91; УрП, 47. Т. *смерцю* (2): СЗГ, 252; СК, 158; *сьмерцю*: УрП, 52.

**[СМЕРЧ]** *м.* Моцны віхор. *Ніпачым ім* [камсамольцам] *рыфы, скалы, Ані смерчы, ні бураны, – З маладым плывуць запалам Цераз моры-акіяны.* СА, 180.

Мн. Н. *смерчы*: СА, 180.

**СМЕХ** (6) і **СЬМЕХ** (6) *м.* **1.** Перарывістыя гукі як праяўленне радасці, весялосці. *Гэта дэмократычная камэдыя, каторая толькі выклікае ня сьмех, а горкія сьлёзы, бо чыніцца над жывым, змучаным, абяздоленым народам..* ДК.

**2.** Спеў, гоман (птушак). *Замерла песьня. Грозна рэхі Пашлі па пушчах, па лясох, Аж сьціхлі птушчыныя сьмехі, Аж вецер сьцішыцца ня мог.* УрП, 49.

Δ **Сьмех-скавыт**: *Сьмейся сьмехам-скавытам вядзьмачым, У віхровым пасьвісьце разьвейся..* См, 91. **Сьмех-сычэньне:** *Сьмейся сьмехам-сычэньнем праз скрогат Перад сьмертны зубоў і расьсейся Ў гразь жыцьця, ў пекла Дантава рогат!* См, 90. **Сьмех-хрыпеньне**: *Сьмейся сьмехам-хрыпеньнем быдляці З перарэзаным горлам і грэйся Ў гэтым храпе стогн і праклацьце..* См, 91.

• **Чырвоны смех –** бальшавіцкі тэрор. *Стагнала ўся "руская" зямля, шалёна п'яная, разбушаваная, захліпаючыся "чырвоным смехам"..* НДН, 18.

◊ **Пырснуўшы смехам** *гл.* пырснуўшы**. Пырскаць смехам** *гл.* пырскаць**. Хоць на смех** – проста так, без мэты. [Мікіта]: *Каб хто хоць на смех запытаўся аб марках.* Т, 34.

Адз. В. *смех*: Т, 34; *сьмех*: ДК. Т. *смехам* (5): НДН, 18; Т, 29, 33, 43, 52; *сьмехам* (4): См, 90, 91 (3). Мн. Н. *сьмехі*: УрП, 49.

**СМЕЦЦЕ** *н. Разм., перан.* Нешта нязначнае, нікчэмнае. [Янка]: *Для вас* [Мікіты] .. *яна* [інтэлігенцыя], *можа й чыстая, але для мяне – "Варшавске смецце, гразь Масквы", як сказаў вешчы Шаўчэнка.* Т, 38.

Адз. Н. *смецце*: Т, 38.

**[СМЕЦЬ]** і **[СЬМЕЦЬ]** (3) *незак.* **1.** Адважвацца на штон. *Нявольніцтва й жабрацтва так нас не з'ела І так нам*

*высмактала з сэрца сок, Што нат у вочы глянуць, плюнуць смела Не смеем, стоптаныя на пясок.* Бч, 9. *Можаш сэрца рваць, выці і клікаць, – Можаш з сэрца свайго молат выкуць, Толькі ўдарыць ня сьмей ім, а сьмейся!* См, 90.

**2.** Мець права на што-н. – *Як сьмееш* [чараўнік] *зьдзекавацца гэтак Ад свайго бога-павука!* УрП, 52.

Абв. цяп. адз. 2 ас. *сьмееш*: УрП, 52. 3 ас. *сьмее*: Ч, 321. Мн. 1 ас. *смеем*: Бч. 9. Заг. адз. 2 ас. *сьмей*: См, 90.

**СМЕШНА** *прысл. да* смешны. *Смешна і стыдна робіцца за гэтых паноў гандляроў сягодняшняй культурай, культурай заходняй, еўрапейскай.* Тж, 15.

**[СМЕШНЫ]** (4) *прым.* Пацешны, забаўны; які выклікае смех. [Мікіта]: *Мяне толькі што спаткала ў дарозе смешная прыгода.* Т, 58. [Аленка]: *Хоць яны і вучоныя і тутэйшыя, а ўсё ж такі надта смешныя.* Там жа, 48. // *У знач. наз.* [Мікіта]: *Меджду протчым, нічога тут смешнага.* Т, 36.

Адз. ж. В. *смешная*: Т, 58. н. Р. *смешнага*: Т, 36. Мн. В. *смешныя* (2): Т, 48 (2).

**[СМОЎЖ]** (2) *м.* **1.** Слімак, слізняк. *У параўн. Трэці* [сын], *смоўжам прыліпшы да трэцяй пуціны Чэзьне чэрвем на службе ў напасьці..* УрП, 321. *Шчаслівы наблізіцца век, І над чалавекам ужо Не будзе стаяць чалавек Гадзюкаю, п'яўкай, смаўжом.* ТП, 216.

Адз. Т. *смоўжам*: УрП, 321; *смаўжом*: ТП, 216.

**СМУТАК** (5) *м.* Пачуццё суму, маркоты, жалю. *..незабыўнае гора, голад і смутак паланілі сэрца шматпакутнага народу.* ЖН. [Аленка]: (*З удаваным смуткам*). *Толькі ж, я не мамзэль, а ўжо мадама.* Т, 54.

Адз. Н. *смутак* (2): ЖН; ТП, 213. Р. *смутку*: ЖН. Т. *смуткам* (2): Т, 29, 54.

**[СМУТНЫ]** (3) *прым.* **1.** Які адчувае смутак, маркоту, непакой. *Там* [у Заходняй Беларусі] *не чутно песень вясёлых, адно толькі смутныя вочы ў людзей глядзяць у наш бок – на Усход, чакаючы вызвалення.* ЖН. // Поўны смутку, журбы. *..”Лірнік”, безумоўна, хутка разойдзецца па Беларусі са сваімі й смутнымі й вясёлымі песьнямі.* ВСп, 90.

**2.** Непрыемны. [Наста]: *Смутную вам* [Ганулі і Мікіту] *прыношу навіну. З пэўных крыніц я напэўна даведалася, што йдуць да вас трэсці.* Т, 59.

Адз. ж. В. *смутную*: Т, 59. Мн. Н. *смутныя*: ЖН. Т. *смутнымі*: ВСп, 90.

**[СМЯРДЗЮЧЫ]** (2) *прым.* **1.** Агідны, брыдкі. *Давіць мы* [хлопчык і лётчык] *іх* [гітлераўцаў] *будзем, як вошаў, Як гадкіх смярдзю-*

*чых клапоў..* ХЛВ, 315.

**2.** *перан.* Нікчэмны. *Ці-ж можна маўчаць, калі радыё разносіць па ўсяму свету паведамленне Пракуратуры Саюза ССР аб жудасных, кашмарных злачынствах фашысцкай банды шпіёнаў, дыверсантаў, забойцаў, агентаў царскай ахранкі, аб'яднаных у адной смярдзючай кучцы "права-тракцісцкага блока"?* МП.

Адз. ж. М. *смярдзючай*: МП. Мн. Р. *смярдзючых*: ХЛВ, 315.

**СМЯРОТНА** *прысл.* На смерць, смяртэльна. [Хлопчык]: *Лічыць з табой* [лётчыкам] *будзем не зоры, Галовы мы станем лічыць, Галовы нямчур-людажораў, Што будзем смяротна глушыць.* ХЛВ, 315.

**СМЯЯЦЦА** (5) і **[СЬМЯЯЦЦА]** (13) *незак.* **1.** Выражаць радасць, весялосць. [Гарошка]: *Кажу свайму настаўніку, што во да чаго шум і крык такі даводзіць, а ён смяецца..* Т, 44.

**2.** Насміхацца. *Дасяг ён* [беларускі народ] *ня шмат: пару сотак "інтэлігентаў", з каторых сьмяюцца і Бог і добрые людзі.* ДК. [Ганулля]: *Спачатку ўсе* [людзі] *здзівіўшыся глядзелі, смяяліся, а пасля давай шпурляць у яго* [Мікіту] *чым хто папала.* Т, 46.

• **Сьмейся.**

◊ **Сьмяяцца ў вочы –** адкрыта. *І сваіх, і чужых расьпінаў на крыжы ты* [першы брат] ; *Крыўдай праўдзе сьмяяўся ў вочы.* Ч, 322.

Інф. *смяяцца*: БрБ, 6. Абв. цяп. адз .3 ас. *смяецца* (3): СА, 180; ПТ, 206; Т, 44; *сьмяецца*: Кц, 197. Мн. 3 ас. *сьмяюцца*: ДК. Пр. адз. м. *сьмяяўся*: Ч, 322. Мн. *смяяліся*: Т, 46. Заг. адз. 2 ас. *сьмейся* (10): См, 90 (4), 91 (6).

**[СНАВАЦЦА]** *незак., перан.* Не знаходзіць душэўнага спакою, акрэсленасці ў жыцці. *Пакрыўленыя колісь нашы душы Дагэтуль выпрастаць не ў моцы йшчэ; Снуёмся, ў думках зводных затануўшы, А хтось, а штось і мучыць і пячэ.* Бч, 9.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *снуёмся*: Бч, 9.

**[СНАВАЦЬ]** (2) *незак.* Рухацца ў розных кірунках. [Мікіта]: *..глядзеце* [мамаша] *вось лепей, ці не снуе хто няпэўны каля вакон.* Т, 58. // Пра думкі. *Думы цяжкія роем снуюць, Капашацца чмяльмі ў галаве, Сноў спазнаць залатых не даюць, Кожна мучыць, к загубе заве.* ЧС, 50–51.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *снуе*: Т, 58. Мн. 3 ас. *снуюць*: ЧС, 50.

**[СНАЙПЕР]** *м.* Майстар меткай стральбы. *Ніхто не ўратуецца ад трапнай кулі савецкага снайпера.* ВГ.

Адз. Р. *снайпера*: ВГ.

**[СНЕЖАНЬ]** (3) *м.* Дванаццаты месяц каляндарнага года. *Тады маскоўскія беларусы-бальшавікі .. прыехалі ў асобным*

*вагоне ў Смаленск з мэтай стварыць новы беларускі бальшавіцкі ўрад. Гэта было ў снежні 1918 г.* СНБ, 338. *1-я дзея адбываецца ў лютым 1918 г., 2-я – у снежні 1918 г., 3-я – у ліпні 1919 г. ..* Т, 19.

Адз. Р. *снежня*: ЖН. М. *снежні* (2): СНБ, 338; Т, 19.

**СНІЦЦА** (3) і **СЬНІЦЦА** *незак.* Бачыцца ў сне, мроіццаю *Не аб снах, у якіх сніцца Доля, шчасце людзям, .. Мая песня сёння будзе .. Аб любімых кандыдатах У Совет Вярхоўны.* НК. *І цяпер ў гарадзкой бальніцы, Грудзі прабіты штыком – І яму* [хлопчыку] *нічога не сніцца – Ані ты* [маці], *ні бацька, ні дом.* ВБЛ, 82.

◊ **Не снілася ні Фараону, ні Салямону –** пра нешта незвычайнае. [Мікіта]: *Савецкі лад ... гэта ... гэта такая чырвоная паводка.., аб якой не снілася ні Фараону, ні Салямону...* Т, 41.

Інф. *сніцца*: НК; *сьніцца*: ВБЛ, 82. Абв. цяп. мн. 3 ас. *сняцца*: ВМ, 72. Пр. адз. н. *снілася*: Т, 41.

**СНІЦЬ** (12) *незак.* **1.** Бачыць сон, бачыць у сне. *Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў, Што я буду вольны, што буду шчаслівы.* ТП, 214. *Ўнук тое убача, што прадзеды, дзеды ў снах толькі снілі, – і свету раскажа.* Ф.

**2.** *перан.* Марыць аб чымсьці, спадзявацца. *У Савецкай Беларусі росквіт культуры такі магутны, пра які* [Купала] *і не мог сніць у дарэвалюцыйныя часы.* А, 328. *Аб гэтай цане ані снім мы сягоння: Станела усё – душы і цуды.* Р.

Інф. *сніць*: А, 328. Абв. цяп. адз. 3 ас. *сніць* (2): АПЖ (2). Мн. 1 ас. *снім*: Р. Пр. адз. м. *сніў* (6): ГП, 8; ТП, 213, 214, 215, 216, 217. ж. *сніла*: ПТ, 208. Мн. *снілі*: Ф.

**[СНОП]** (3) *м.* Звязаныя ў пук сцёблы збажыны і іншых раслін. *Шасцяць у калоссі сярпы, Сцяною дабро залягло, Кладуцца снапы ў снапы, - Такога жніва не было.* ТП, 213. // У *параўн.* [Янка]: *Тут* [у Менску] *калісь, – як сказана ў нашай песні аб паходзе Ігара, – продкаў нашых галовы снапамі на таку слаліся, душу ім ад цела веялі, а чырвоныя берагі Нямігі не зернем былі пасеяны, а касцямі гэных жа продкаў нашых.* Т, 35.

Мн. Н. *снапы*: ТП, 213. В. *снапы*: ТП, 213. Т. *снапамі*: Т, 35.

**[СОБЕ]** (2) *займ. Польск. Тое, што* сябе. [Заходні вучоны]: *О росшэжэню своіх граніц од можа до можа не мажон і мажыць собе не жычон, поневаж, як самі твердзон, маён гдзе топіць сень і без можа, гды повеён пшэцёнгі зэ Всуду.* Т, 47. [Заходні вучоны]*: Можэ шановны пан поінформуе цось о пшыродзе так званэй по вашэму Бялэй Русі і цось о тэм, яко собе закрэсляце граніцэ політычнэ.* Там жа, 47.

Д. *собе* (2): Т, 47 (2).

**СОБЕСЕДНІК** *м. Руск.* Суразмоўца. [Усходні вучоны]: *На вопрос, как далеко распространяется оное “далей”, мой собеседнік із племені белоруссов об’ясніл на местном обшчэруском говорэ, что для посціжэнія сего “далей” у наукі вообшчэ і в частносці ў Западной наукі короткі пяткі.* Т, 39.

Адз. Н. *собеседнік*: Т, 39.

**[СОБІРАТЬСЯ]** *незак. Руск. Тое, што* збірацца *ў* 2 *знач.* [Усходні вучоны]: .. *Вашы* [Янкі] *землякі не собіраются в будушчэм прыобрэсці себе морэ вместо утонувшего, чтобы со временем пробіць себе куда-нібудзь окошко – в Европу ілі Азію?* Т, 47.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *собіраются*: Т, 47.

**[СОБСТВЕННЫЙ]** *прым. Руск. Тое, што* ўласны *ў* 1 *знач.* [Усходні вучоны]: *Прырода в Русском Северо-Западном крае веліка і обільна – есть суша і водныя басейны, дажэ морэ собственное імелось..* Т, 47.

Адз. н. Н. *собственное*: Т, 47.

**[СОВАЦЬ]** *незак.* Даць што-н. спяшаючыся. [Мікіта]: *Оей! Оей! Куды тут што падзець. (Совае рэвальверы асадкамі ў адну і другую руку Даме).* Т, 59.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *совае*: Т, 59.

**СОВБУР** *м. Скар.* Савецкі буржуа. [Янка]: *Такія сур’ёзныя* [вучоныя], *пане совбур, як і сягонешні выгляд вашай хаты..* Т, 48.

Адз. Н. *совбур*: Т, 48.

**[СОВБУРСКІ]** (2) *прым.* Які адносіцца да совбура. [Мікіта]: *А цяпер далоў совбурскую форму!* (*Хоча скідаць куртку*). Т, 50. [Янка]: *А як зноў унеспадзеўкі тыцне ў Менск ваша* [Мікіты] *совбурскае начальства?* Там жа, 50.

Адз. ж. В. *совбурскую*: Т, 50. н. Н. *совбурскае*: Т, 50.

**[СОВБУРСТВА]** *н.* Пасада совбура. [Янка]: *Не ўдасца вам* [Мікіту] *гэта асэсарства, дадуць вам совбурства..* Т, 56.

Адз. В. *совбурства*: Т, 56.

**[СОВЕСЬЦЬ]** *ж. Руск. Тое, што* сумленне. *..супрацоўнікамі в-ва зьявіліся тыя людзі, якія .. працавалі не за страх, а за совесьць.* ВСп, 91.

Адз. В. *совесьць*: ВСп, 91.

**СОВЕТ** гл. **САВЕТ**[2].

**СОВЕЦКІ** *гл.* **САВЕЦКІ.**

**[СОЗЕРЦАНІЕ]** *н. Руск.* Сузіранне. [Поп]: *Душа мая возрадавалася пры созерцаніі, како агнцы сіі возвращяшэся в стадо свое.* Т, 51.

Адз. М. *созерцаніі*: Т, 51.

**СОЗЕРЦАТЬ** *незак. Руск.* Сузіраць. [Поп]: *Разверзіся врата адовы і сам анціхрыст со своім сонмом святой Русью*

*завладоша, ежэлі созерцать всё творымое ныне.* Т, 28.

Інф. *созерцать*: Т, 28.

**СОЙМ** (4) *м. Гіст., разм.* **1.** Саслоўна-прадстаўнічы орган у феадальнай Польшчы. *..польскі сойм выказаўся проці прыватнай вялікай уласнасці на зямлю..* ЗС, 17. *Польскіе эндэкі .. накінулі нам* [беларусам] *"плебісцыт", прынятую соймам "рэволюцыю", якая недвузначна прылучае незалежную Беларусь да Польшчы.* СНБ.

**2.** З'езд. *..калі збярэцца ўсебеларускі Устаноўчы сойм, то зямельную рэформу ён правядзе, і правядзе яе напэўна не на карысць паноў-абшарнікаў.* ЗС, 18.

Адз. Н. *сойм* (2): ЗС, 17, 18. Р. *сойму*: НДН, 19. Т. *соймам*: СНБ.

**[СОЙМАВЫ]** *прым.* Які адносіцца да сойму ў 1 знач. *..польская соймавая камісія была вельмі незадаволена, калі адзін беларускі дзеяч у размове з ёю ужыў слова окупацыя.* ОШМ.

Адз. ж. Н. *соймавая*: ОШМ.

**[СОК]** *м.*: ◊ **Высмактаць з сэрца сок** *гл.* высмактаць**.**

Адз. В. *сок*: Бч, 9.

**СОКАЛ** (5) і *разм.* **[САКОЛ]** (3) *м.* **1.** Птушка з моцнай дзюбай і доўгімі вострымі крыламі. *У параўн. Ляглі нязгледжаныя далі (Як сокал бачыць мог я ўсё), Пустыні вецьвем замахалі, Паляны множылі жыцьцё.* УрП, 46.

**2.** *перан. Высок.* Пра лётчыкаў, маракоў. *Іскрыцца пад молатам сталь, А молат не біў так калісь. А гордыя сокалы ўдаль! А гордыя сокалы ўвысь!..* ТП, 306. *Лунай жа, саколе, У гэтых міражах, Пакуль цябе Доля К зямлі не прывяжа.* АК.

**3.** *перан.* Пра смелага, прыгожага юнака, мужчыну, звычайна каханага. *..Дзякуй за прэмію Сталіна роднага, Дзякую Сталіну, сокалу яснаму!* ДПЛС. *Слава сокалу, што родам З-пад Каўказскіх скалаў, Што з Крамля праменні сее З юнацкім запалам.* СТ.

Адз. Н. *сокал*: УрП, 46. Д. *сокалу* (2): ДПЛС; СТ. Кл. *саколе:* (2): АК; Н. Мн. Н. *сокалы* (2): ТП, 215 (2). Р. *саколаў:* Дз, 188.

**СОЛАДКІ** *гл.* **САЛОДКІ.**

**СОЛОНЕВІЧЫ** (2) *мн. агульн. да* ўласнага Солоневіч. *Тутака пачалася благая камэдыя: Солоневічы, Кавалюкі, Тепловы і ўся іх "хаўрузія" крычаць аб "распалячэньні" Беларусі.* ВР. *Вучыць па расейску – гэта дрэнная і шкодная выдумка ўселякіх Солоневічоў..* Там жа.

Н. *Солоневічы*: ВР. Р. *Солоневічоў*: ВР.

**[СОЛЬ]** (6) *ж.* Крышталічнае рэчыва са спецыфічным смакам для прыправы ежы. [Мікіта]: *Далей ідуць .. мае пайкі:*

*.. паўтара фунта з асьмушкай круп, .. не ведаю колькі газы, паўчвэрці фунта і два лоты солі..* Т, 46. *Жыцьцё за камізэльку аддаеш ты* [абываталь] *без агіды, на соль мяняючы сваё сумленьне.* ВБЛ, 81.

◊ **Хлеб-соль** *гл.* хлеб.

◊ **Вітаць і соллю, і хлебам (хлебам-соляй)** *гл.* вітаць**. Прыняць хлебам і соляй** *гл.* прыняць**. Соллю ўваччу (у воку) –** назаляць, не даваць спакою. *Наша незалежнасьць соллю ўваччу для незалежнасці нашых суседак – Польшчы і Расіі..* Нз, 14. *Мушу вам, сябры, прызнацца, што гэта Антанта сядзіць ужо ў мяне соляй у воку, косткай у горле, калоццем у баку.* Ан, 18.

Адз. Р. *солі*: Т, 46. В. *соль*: ВБЛ, 81. Т. *соллю* (2): Нз, 14; ТП, 213; *соляй* (2): Ан, 18; Чж, 146.

**СОН**[1] (26) *м.* **1.** Стан спакою. [Першы ганец]: *"А як ішоў між іх* [людзей] *з сьвятлом, Яны пачулі, ах пачулі: Сьляпым заморэные сном, Худые рукі ў высь цягнулі.* Кц, 194. // *перан.* Пра пасіўнае існаванне каго-н. *Глянь сьмела, глянь вольна, шчасьліў, нешчасьлівы, І, далей к жыцьцю с паніжэньня і сна!* В. *Ой, чалавеча, змярцьвелы у сне! .. Доўга йшчэ будзеш глухім ты, саколе?..* Н.

**2.** Тое, што сніцца. *І пачатку няма і канца ім няма! .. Ці тут ява, ці сон?.. Проч вы, здраднікі, проч!* БН, 93. *Ніхто гэтакіх паходаў Не чуў і не бачыў, – Гэта ў казках знойдзеш толькі, Або ў снах дзіцячых.* ЗЯЗ, 90. // *У параўн. Але гэты чад, як сон кашмарны мінуў.* АЛ. // *перан.* Пра мару, летуценне. *А нашы* [беларускія] *балоты! Кялі іх калісьці. Сягоння – наш скарб яны, спраўджаны сон.* ПБН. *Сонца ўзышло над гаротнаю ніваю, Сны аб яснейшых днях сталі яваю; Вольныя людзі, як пчолы руплівыя, Твораць быт новы, абвеяны славаю.* ДПЛС.

• **Што было сном, тое стала яваю.**

Адз. Н. *сон* (6): АЛ; Кц, 197 (2); ПБН; ТП, 217; Ч, 321. Р. *сну*: ВР; *сна*: Ф. В. *сон* (4): АПЖ; БН, 93; БрБ, 6; СС, 301. Т. *сном* (4): Кц, 194, 196; ШБСЯ (2). М. *сне*: Н. Мн. Н. *сны*: ДПЛС. Р. *сноў* (2): СС, 301; ЧС, 50-51. В. *сны*: ПТ, 208. М. *снах* (5): ЗЯЗ, 90; НК; РС, 40; Тр; Ф.

**[СОН-ТРАВА]** *ж. Бат.* Травяністая расліна. *Трэці брат ад судзьбіны наказ пераслухаў. – Сну-траве ты занадта даў веры, І ў сябе шанаваць чалавечага духу Не патрапіў наўчыць брата-зьвера.* Ч, 323.

Адз. Д. *сну-траве:* Ч, 323.

**СОНЕЙКА** (13) *н. Ласк. да* сонца *ў* 1 *знач. А сонейка будзе усходзіць, заходзіць, Плысці будуць рэкі, шумець будзе бор.*

НДп, 230. *Цвіце, каласіцца мой край. Ці сонейка захад, ці ўсход, Спявай, маё шчасце, спявай! Спявай, беларускі народ!* ТП, 215. // *У параўн. Са Сталіным лёгка жывецца на свеце, Як яснае сонейка, гэтак нам свеціць..* СС, 302.

Адз. Н. *сонейка* (4): НДп, 230; Пр; СС, 301, 302. Р. *сонейка* (7): ТП, 213 (2), 214, 215, 216, 217 (2). Т. *сонейкам* (2): МСП, 187; ЧС, 50-51.

**СОНЕЧНА** *прысл. да* сонечны. Ярка, як сонца. *..там, дзе дымілася дапатопная лучына, зіхаціць сонечна электрычная лампа..* ШБСЯ.

**[СОНЕЧНА-СЬВЕТЛЫ]** *прым. Вобразн.* Чысты. *Гэты* [нівы] *шум, з пераблраў махрыстых вятроў, Апалымвае сонечна-сьветлую кроў. Песьні рвуцца з трывожных, бунтарных грудзей..* АР.

Адз. ж. В. *сонечна-сьветлую*: АР.

**[СОНЕЧНЫ]** (6) *прым., перан.* Радасны, светлы, шчаслівы. *Слава іх* [бясстрашных сыноў] *..заклікае .. да такой-жа барацьбы са стыхіяй на карысць нашай неперможнай сонечнай радзімы..* СБ. *З кваністымі сонечнымі думкамі, з нязломнай верай у лепшую долю і волю пойдзем усё наперад і наперад пад святым сцягам вольнай Беларусі.* ПЛП.

Адз. м. Т. *сонечным*: ДЖ. М. *сонечным*: ШБСЯ. ж. Р. *сонечнай*: СБ. М. *сонечнай*: СЗГ, 252. Мн. Р. *сонечных*: ДЖ. Т. *сонечнымі*: ПЛП.

**[СОНМ]** *м. Руск., уст., высок.* Скапленне, мноства каго-н. [Поп]: *Разверзіся врата адовы і сам анціхрыст со своім сонмом святой Русью завладоша, ежэлі созерцать всё творымое ныне.* Т, 28.

Адз. Т. *сонмом*: Т, 28.

**СОНЦА** (73) і *разм.* **СОНЦЭ** *н.* **1.** Нябеснае свяціла. *Песня чутна ўсюды Ў бязмежным прасторы, Ці то дзень, ці ночка, Ці сонца, ці зоры.* ПДС, 231. [С. Меч]: *Ніколі ніякая музыка на сьвеце, ніякая кніга .. не давалі мне гэтулькі асалоды і прыемнасьці, як постаць гэтых дрэў, аблітых прашчальным блескам заходзячага восеньскага сонца.* ХБ, 29. // *У параўн. Маладой юнацкай славай, Ці то ўзімку, ці то летам, Нібы сонца, цуднай з'явай Прамянееш ты* [моладзь] *у сусветах.* СА, 178.

**2.** Святло, цяпло, якое вылучае гэта свяціла. *Тае сьнег, таюць сковы зімы ледзяністай, Сонцэ з ласкай ажыўчай гуляе ў прывольлі..* ТС, 74. *Як той лес, жаўнер Ля жаўнера стаў, Зброя ў сонцы йграе..* ВБ.

**3.** *перан.* Тое, што з'яўляецца крыніцай жыцця. *Сонца ўзышло над гаротнаю нівою, Сны аб яснейшых днях сталіся*

*яваю..* ДПЛС. *Простым мы словам з светам гаворым, Песні аб цяжкай творым нягодзе, З думкамі рвёмся к сонцу і зорам. Рвёмся к свабодзе.* Пп, 5. // Пра таго, хто з'яўляецца прадметам пакланення, захаплення. – *Скажы: скуль ты? якому сонцу Твая паклон б'е старана? – Зьвярнуўся так да незнаёмца Прыбочнік верны Пяруна.* УрП, 51. *Свой за Сталіна, за сонца Голас панясём мы.* Вб, 236.

• **Маё мне сонца правадыр... Сонца свяціла нам аднолькова.**

◊ **Даляцець да сонца** *гл.* даляцець**. Хавацца ад сонца** *гл.* хавацца**.**

Адз. Н. *сонца* (20): БЗ; Бц, 74 (2); Г, 17; ДПЛС; ЗЯЗ, 90; ПДС; ПТ, 206; СА, 178; ССА, 294 (3); СС, 301; Т, 57; ТП, 213 (2), 214; УрП, 47; Ч, 319, 324; *сонцэ* (2): РКр; ТС, 74. Р. *сонца* (18): ВВ, 263; Г, 16; Дз, 188; ДЖ; ДПЛС; Кз, 17; Кц, 195; ПТ, 207 (2); СС, 300, 301 (2); Тр (2); ТП, 217; ХБ, 29 (2); ХХ, 128. Д. *сонцу* (9): Пп, 5; ПЛП; РС, 40; СА, 180; СМ, (2); УрП, 51; ХХ, 128; Ч, 324. В. *сонца* (9): Вб, 236; ВГ; МПв, 218; МСП, 187 (3); ПЛП; Ч, 322, 323; *сонцэ*: Кц, 194. Т. *сонцам* (9): БЗ; ДПЛС; ЗЯЗ, 89; МПв, 220 (2); НК; СС, 303; Ф; Ч, 322. М. *сонцы* (6): ВБ; НК; ПДС, 232; ТП, 217 (3). Мн. Р. *сонц*: ПН, 47. В. *сонцы*: Ч, 324.

**СОРАК** *ліч. колькасны.* Колькасць прадметаў лікам 40. *У хаце было сорак градусаў холаду..* Ан, 19.

Н. *сорак*: Ан, 19.

**СОРАМ** (3) *м.* **1.** Ганьба. *Яшчэ вісеў на блізкім ліхтары Яўрэй апошні, й азьвярэлыя вятры Ад жудасьці, ад сораму і дыму яшчэ зрывалі тэлеграму з тыну..* ВБЛ, 80. *Вывелі* [людзі чужыя] *ў гандаль славу, сумленне – Праўду на рынак. Слепа зракліся сораму, ўвагі. Ў хорамы селі..* Чж, 147.

**2.** *У знач. вык. з інф.* Сорамна, ганебна. [Гануля]: *..ўчора ў такую кашу ўлез* [Мікіта], *ажно сорам казаць.* Т, 57.

Адз. Н. *сорам*: Т, 57. Р. *сораму* (2): ВБЛ, 80; Чж, 147.

**[СОТКА]** (3) *ж. Разм. Тое, што* сто *ў 1 знач. Дасяг ён* [беларускі народ] *ня шмат: пару сотак "інтэлігентаў", з каторых сьмяюцца і Бог і добрые людзі.* ДК. *..беларушчына цэлымі соткамі год ганьбілася і выганялася адусюль, адкуль можна было.* Там жа.

Мн. Р. *сотак* (2): ДК (2). Т. *соткамі*: ДК.

**СОТНЯ** (15) *ж.* **1.** Адзінка ліку, роўная ста (пра аднолькавыя прадметы). *Рынкам жывога тавару няслава Край ўвесь зрабіла, загнала на ўбой, Дзе ўжо лет сотні Масква і Варшава Торг груганов\u044b вядуць між сабой.* Н. *Мае* [Купалы] *кнігі*

*разыходзяцца ў дзесятках і сотнях тысяч экземпляраў, песні мае спяваюцца ва ўсіх кутках вялікага Савецкага Саюза.* А, 328. *Параўн.* сотка.

**2.** *Разм.* Вялікая колькасць, мноства чаго-, каго-н. *Ды і сотні такіх прыкладаў паказуе, як гэта наша моладзь пачынае сама па сабе, не раз абмацкам, нацянькі будаваць сваё роднае, светлае, народнае жыццё.* МІ, 17. *І мірныя людзі – іх сотні імёнаў – Вартуюць нядрэнна свае рубяжы.* ПБН.

• **Чорная сотня** – прыхільнікі чарнасоценнага руху. *І расійскіе націоналісты, і ўся чорная сотня прызналі ў вадзін голас: лепей ніхай палякі з'ядуць зусім каталікоў-беларусаў, чым беларускаму народу пазволіць развівацца ў сваім національным духу.* ВР.

Адз. Н. *сотня* (2): АПЖ; ВР. В. *сотню* (2): Т, 20; УПУВ. Мн. Н. *сотні* (4): ВСп, 91; ЗС, 18; МІ, 17; ПБН. Р. *сотняў*: СНБ, 340. В. *сотні* (5): АБ, 16; Б, 18; Н; НГд, 8; Чж, 147. М. *сотнях*: А, 328.

**[СОТЫ]** *толькі мн. перан.* Ячэйкі з воску, дзе пчолы захоўваюць мёд і адкладваюць яйкі. *..яшчэ астаўлялі* [нашы прашчуры] *ў хатах пад абрусамі бохана хлеба пшанічнага і дубовыя дзежы сотаў пчаліных – гэта каб госць меў чым з дарогі пажывіцца.* Кз, 17.

Мн. Р. *сотаў*: Кз, 17.

**[СОЎГАС]** *м.* Савецкая гаспадарка (дзяржаўнае сельскагаспадарчае прадпрыемства). *Растуць і буйнеюць у сіле, у цвеце – Калгасы, соўгасы і гарады.* ПБН. *Параўн.* саўхоз.

Мн. Н. *соўгасы*: ПБН.

**[СОХНУЦЬ]** *незак. Разм., перан.* Худзець, марнець (ад нястачы). *Пад царамі, пад панамі Мучыліся людзі, - У нядолі, у няволі Чахлі, сохлі грудзі.* ЗЯЗ, 89.

Абв. пр. мн. *сохлі*: ЗЯЗ, 89.

**СОЦЫЯЛІЗМ** *гл.* **САЦЫЯЛІЗМ.**

**[СОЦЫЯЛІСТ]** *м.* Прыхільнік сацыялізму. *Мы* [беларусы], *так сама, людзі ня кепскія, - хоць і дэмократы ды яшчэ й соцыялісты.* ДК.

Мн. Н. *соцыялісты:* ДК.

**СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫ** *гл.* **САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ.**

**СОЦЫЯЛЬНА** *прысл. да* сацыяльны ў 1 *знач.* *І мне* [Купалу] *тут .. хочацца прывітаць тых, якія многа сіл і працы прылажылі да таго, каб Беларусь жабрацкая ў царскія часы стала Беларуссю вольнай нацыянальна і сацыяльна.* ЖН.

**[СОЦЫЯЛЬНА-СВЯДОМЫ]** *прым.* Якому ўласціва сацыяльная свядомасць. *Ён* [Баця], *вядома, не хоча рыхтаваць*

*адукаваных, социяльна-свядомых людзей..* ПЧ.

Мн. В. *социяльна-свядомых*: ПЧ.

**СОЦЫЯЛЬНЫ** *гл.* **САЦЫЯЛЬНЫ.**

**[СПАВІВАЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Загортваць, укручваць дзіця. *Ты гадуй сынка, матуля, У пялёнкі спавівай..* М, 19.

**2.** *перан.* Ахутваць, ахінаць. *Глуш абнялася с цішынёй І спавівае ўсё у чары, Паўзуць і сеюць шорах свой Старым парадкам цені-мары.* Кц, 192.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *спавівае*: Кц, 192. Заг. адз. 2 ас. *спавівай*: М, 19.

**СПАВІТЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* спавіць. **1.** *перан.* Ахутаны. *Я ведаю, знаю старонку такую, Спавітую ў вечны туман..* ЗК, 42. // *Вобразн.* Услаўлены. *Бягуць, не спыняюцца думкі-саколкі К табе, правадыр мой, у сонцы спавіты!* ТП, 217.

**2.** *перан.* Апанаваны. *Паўстань з народу нашага, прарок, Праяваў бураломных варажбіт, І мудрым словам скінь з народу ўрок, Якім быў век праз ворагаў спавіт!* Пт.

Адз. м. Н. *спавіты*: ТП, 217. ж. В. *спавітую*: ЗК, 42. Кар. адз. м. Н. *спавіт*: Пт.

**[СПАВІЦЬ]** *зак. да* спавіваць. *перан.* Захапіць. *І там здань і тут здань, закружыліся ў круг, Кругам труцень у бляшках бліскучых спавіў, Усіх іх у жалены ржавелы ланцуг, Сэрцы рве і грызе, шнурам шыі здавіў.* БН, 9.

Абв. пр. адз. м. *спавіў*: БН, 9.

**[СПАГАДА]** *ж.* Літасць, спачуванне. *Няхай-жа ў зямлі вам* [трацкістам-дыверсантам] *Не будзе спагады За ваша зладзейства, За вашыя здрады.* МПв, 219.

Адз. Р. *спагады*: МПв, 219.

**[СПАГАДНЕЙШЫ]** *прым. Пар. ст. да* спагадны. Лепшы, больш прымальны. *Зноў паўтараем: голы разбою не баіцца, і беларусы прымушаны будуць шукаць іншага, спагаднейшага выхаду.* ОШМ.

Адз. м. Р. *спагаднейшага*: ОШМ.

**[СПАГАНІЦЬ]** *зак.* Апаганіць. *Мала іх* [трацкістаў-дыверсантаў] *павесіць На сухой асіне, Бо нават асіна Ад сябе адкіне, Дзерава адкіне, Дзерава сухое, Сябе не спаганіць Поскуддзю такою.* МПв, 218.

Абв. буд. адз. 3 ас. *спаганіць*: МПв, 218.

**С-ПАД** *гл.* **З-ПАД.**

**[СПАДАБАЦЦА]** (2) *зак.* Прыйсціся па густу. *Спадабалася першаму* [сыну ] *першая сьцежка, А другая – другому сыночку..* Ч, 320. // Пакінуць добрае ўражанне. [Янка]: (*да Аленкі і Гарошкі*). *Як жа вам спадабаліся гэтыя, не пры люд-*

*зёх кажучы, вучоныя.* Т, 27.

Абв. пр. адз. ж. *спадабалася*: Ч, 320. Мн. *спадабаліся*: Т, 27.

**[СПАДАБАЦЬ]** *зак.* Прыйсці да густу. *Рэдактар паглядзеў, пакруціў галавой і нічога не сказаў. Відаць, спадабаў.* Ан, 18.

Абв. пр. адз. м. *спадабаў*: Ан, 18.

**[СПАДЗЕЯЦЦА]** *незак. Разм. Тое, што* спадзявацца. *Будзь весел, кінь хныкаць, Ўпіцца кроўю не спадзейся!* См, 90.

Заг. Адз. 2 ас. *спадзейся*: См, 90.

**[СПАДЗЯВАЦЦА]** (2) *незак.* Мець надзею; разлічваць на што-н. *Хто з нас думаў, спадзяваўся, Мой ты родны браце, Што такіх мы кандыдатаў Будзем выбіраці.* НК. *Начальніка Польскай дзяржавы віталі шчыра і спадзяваліся, што справа незалежнасьці Беларусі цяпер стане на цьвёрдым грунце..* СНБ. *Параўн.* спадзеяцца.

Абв. пр. адз. м. *спадзяваўся*: НК. Мн. *спадзяваліся*: СНБ.

**[СПАДКІ]** (2) *толькі мн. Разм.* Запавет, спадчына. *Верны славянскім спадкам, браточна У госцях вас* [людзей чужых] *мелі, І шанавалі людска, святочна Ў будні, ў нядзелі.* Чж, 146.

◊ **Спадкі-цень:** *Так сказаў чараўнік, і казаў доўга жыці – Спадкі-цень свой на памяць аставіў...* Ч, 320.

В. *спадкі*: Ч, 320. Д. *спадкам*: Чж, 146.

**СПАДНІЦА** (6) *ж.* **1.** Жаночае адзенне ад пояса к нізу. *Немцы пад прыкрыццём спадніц думалі наладзіць ДЗОТ..* ПСп. *..фрыцы, падабраўшы спадніцы, задалі такога драпака, што і ўявіць цяжка.* Там жа.

**2.** *перан.* Чалавек аапрнуты ў спадніцу. *Хутка ўсе убачылі, як каля нямецкага ДЗОТа капашыліся спадніцы.* ПСп. *Параўн.* спаднічнік.

• **Пад прыкрыццём спадніц.**

Адз. Н. *спадніца*: ПСп. Мн. Н. *спадніцы*: ПСп. Р. *спадніц* (2): ПСп (2). В. *спадніцы* (2): ПСп; Т, 57.

**[СПАДНІЧНІК]** *м. Тое, што* спадніца *ў 2 знач. А большасць спаднічнікаў асталіся ляжаць на месцы.* ПСп.

Мн. Р. *спаднічнікаў*: ПСп.

**[СПАДНІЧНЫ]** (2) *прым. Які мае адносіны да* спадніцы. *Бліскуча распрацаваная немцамі спаднічная аперацыя бліскуча праваліласяя.* ПСп. *Сцяпан падаў каманду: - Па спаднічнаму войску – агонь!* Там жа.

Адз. ж. Н. *спаднічная*: ПСп. н. Д. *спаднічнаму*: ПСп.

**СПАДЦІШКА** *прысл.* Скрытна, ціха, непрыкметна. *..контррэвалюцыйныя нацыянал-дэмакраты спадцішка, але няўхільна, падточвалі соцыялістычныя элементы совецкае дзяржаўнасьці..* АЛ.

**[СПАДЧЫНА]** (2) *ж.* Здабыткі побыту мінулых часоў. *З кашмарамі спадчыны няўдачнага мінулага паўзе у пары паганы забабон і хіхікае з-за вугла ў вочы..* З. *Яны* [паны-абшарнікі] *не чакаюць варункаў нармальных, варункаў грамадзянска-палітычнага жыцця у краю, калі закон і права народныя вырашаць усе балючыя пытанні, пакінутыя нам у спадчыну маскоўскім царызмам і ўсясветнай вайной..* ЗС, 17.

Адз. Р. *спадыны*: З. В. *спадчыну*: ЗС, 17.

**[СПАДЧЫННЫ]** *прым. Які адносіцца да* спадчыны. *Яны* [дэнікінскія дывізіі] *з абозам на усход цяклі, Сузор'ямі апошні мерачы свой шлях, У прадчуванні, але йшчэ ня верачы ані, Што гэта ўжо сапраўдны эпілёг дасяг, Што ўжо няма каму тут спадчынныя іскі Цяпер чыніць..* ВБЛ, 80.

Мн. В. *спадчынныя*: ВБЛ, 80.

**СПАЗНАЦЬ** *зак., перан.* Убачыць, адкрыць для сябе што-н.. *Думы цяжкія роем снуюць, Капашацца чмяльмі ў галаве, Сноў спазнаць залатых не даюць, Кожна мучыць, к загубе заве.* ЧС, 50–51. *Параўн.* вызнаць *у 2 знач.*

Інф. *спазнаць*: ЧС, 50–51.

**[СПАІЦЬ]** *зак. перан.* Адурманіць. *Той шлях першы і першая рэчка атрутай Спояць так і за хатай і ў хаце..* Ч, 319.

Абв. буд. мн. 3 ас. *спояць*: Ч, 319.

**[СПАКАВАНЫ]** (3) *дзеепрым. зал. пр. да* спакаваць. Укладзены, увязаны. *Апускаецца* [Гануля] *з ціхім плачам на спакаваныя манаткі.* Т, 62. *Гануля сядзіць на спакаваных вузлох і робіць панчоху.* Там жа, 53.

Мн. В. *спакаваныя*: Т, 62. М. *спакаваных*: Т, 53. Кар. мн. Н. *спакаваны*: Т, 56.

**СПАКОЙ** (2) *м.* Ураўнаважанасць, душэўнае супакаенне. *Тут далёка, ў чужой старане, Усякі раз, як збліжаецца ноч, Сэрца боллю сціскаецца мне, І спакой недзе коціцца проч.* ЧС, 50–51.

◊ **Не даваць спакою** *гл.* **даваць.**

Адз. н. *спакой*: ЧС, 50–51. Р. *спакою*: ПС.

**СПАКОЙНА** (4) *прысл.* **1.** *Прысл да* спакоўны *ў* 1 *знач.* [Мікіта]: *..мадам-сіньёра і вашародзіе, сядзеце або стойце спакойна: вы мае госці і вам волас з галавы не спадзе.* Т, 59. [Спічыні]: *Усякі стук мяне нэрвуе: не магу спакойна выкладаць лекцый.* Там жа, 32. ЗК, 42.

**2.** *перан.* Без хваляванняў, турбот. [Янка]: *Гэтыя новыя акупанты ды ішныя згрызоты не даюць табе* [Аленцы] *спакойна працаваць у Менску.* Т, 30.

**СПАКОЙНЫ** (3) *прым.* **1.** Які не выяўляе трывогі, хва-

лявання, з унутраным спакоем. *О, стыдна, рускі “гражданін”! Язык твой царскі ён* [хлапчук у лапцёх] *Не выража, спакойны будзь!* АПЖ.

**2.** Мірны, лагодны. *А жыцьцё не глядзіць: яно мусіць ісьці далей сваім чарадом, хоць і адменным, як у час спакойны.* ВС.

**3.** Прыемны для вока. [С. Меч]*..ўсё маё жыцьцё любаваўся-б .. гэтымі махрастымі залаціста-жоўтымі бярэзінамі, што .. стаяць непарушна, бы заварожаныя спакойнаю ўрачыстасьцю заходу сонца.* ХБ, 29.

Адз. м. Н. *спакойны* (2): АПЖ; ВС. ж. Т. *спакойнаю*: ХБ, 29.

**СПАКОН** *У выразе*: ◊ **Спакон веку** *гл.* век.

**[СПАКРЫЎДЖАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* спакрыўдзіць. Змучаны, прыгнечаны. *Яшчэ і цяпер старыя людзі вам раскажуць аб тых спакрыўджаных і спакутаваных старцах, якія ўсё жыццё сваё загубілі пад вечнымі палкамі палачнага цара Мікалая 1.* БВ, 16.

Мн. М. *спакрыўджаных*: БВ, 16.

**[СПАКУТАВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* спакутаваць. Змучаны. *Яшчэ і цяпер старыя людзі вам раскажуць аб тых спакрыўджаных і спакутаваных старцах, якія ўсё жыццё сваё загубілі пад вечнымі палкамі палачнага цара Мікалая 1.* БВ, 16.

Мн. М. *спакутаваных*: БВ, 16.

**[СПАЛАТНІЦЬ]** *зак. Разм.* Забраць. [Гануля]: *Ды яго* [Гізульскага] *йшчэ пераезду сюды нашы крэслы недзе ў іншае месца спалатнілі.* Т, 45.

Абв. пр. мн. *спалатнілі*: Т, 45.

**[СПАЛЕНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* спаліць. *.. спаленую хату беларускі мазоль адбудуе, а сваю сяўбу ён сам будзе жаць.* ПЛП. *Плача горка ўдоўка, Плача горка маці Па забітым мужу, Спаленым дзіцяці.* МПв, 219.

Адз. ж. В. *спаленую*: ПЛ. н. М. *спаленым*: МПв, 219.

**СПАЛІЦЬ** (7) *зак.* Знішчыць агнём, загубіць у агні. *Забабон спаліў бязлітасна на кастры вялікага сьветлага Гуса.* З. *Мне* [хлопчыку] *мамку зарэзалі немцы, Сястрычку спалілі жыўём..* ХЛВ, 315.

◊ **Каб яго (іх) (калядны) пярун спаліў –** праклён. [Мікіта]: *Каб іх пярун спаліў такія слоўнікі.* Т, 32. [Мікіта]: *Во ён гэты, меджду протчым, дакумэнт.* (*Набок*). *Каб яго калядны пярун спаліў!* Там жа, 61.

Абв. пр. адз. м. *спаліў* (4): З; Т, 32, 61; Ч, 324. Мн. *спалілі*: ХЛВ, 315. Буд. адз. 3 ас. *спаліць* (2): ДД; СМ.

**[СПАЛОСКАНЫ]** *дзеепрым. зал пр. да* спаласкаць. Знішчаны. *Хай Вас* [братоў беларусаў] *не палохае, што*

*рвуць нашу зямлю на часці, што хаты нашы спалосканы пажарам..* ПЛП.

Мн. Н. *спалосканы*: ПЛП.

**[СПАЛОХАЦЦА]** *зак.* Раптоўна адчуць страх, боязь. [Гарошка]: *Тады ўсе мужчыны і ўсе кабеты, найболей старэйшыя, падаліся ўпоперак вуліцы: "Хай высяляюць!". ..Ну, разумеецца, казакі не спалохаліся гэтага.* Т, 43.

Абв. пр. мн. *спалохаліся*: Т, 43.

**СПАЛУЧЫЦЬ** *зак.* Сумясціць. *Людзі, якія стварылі Дом Чырвонай Арміі, змаглі гарманічна спалучыць высокую змястоўнасць будучай работы дома з мастацкім густам.* ПГ.

Інф. *спалучыць*: ПГ.

**СПАЛЬНЯ** (2) *ж.* Пакой для спання. [Гануля]: *..а з таго боку, дзе была мая спальня і Мікітавы габінэт, абодва гэныя пакоі заняў нейкі іхні рэдактар, па прозвішчы Гізульскі.* Т, 45.

**2.** *перан.* Кватэра. [Гануля]: *Пайшоў* [Мікіта] *паглядзець на Захараўскую вуліцу, як там паны турбуюць жыдоўскія крамы й спальні.*

Адз. н. *спальня*: Т, 45. Мн. В. *спальні*: Т, 57.

**СПАМІНАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* спамінаць. *Разм.* Успамінаючы. *Гаворачы слова "свабода", дадавай заўсягды "ня тут спаминаючы"..* СП.

**[СПАНАВАЦЬ]** *зак. Разм.* Апанаваць, ахапіць (пра пачуцці). [Князь:] *"Гусьлямі, лукам і сьвятлом Будзіце* [ганцы] *клічце і сьвяціце, І так спануйце іхнім* [людзей] *сном, Каб сон іх счэз і ўсталі жыці.* Кц, 196.

Заг. мн. 2 ас. *спануйце*: Кц, 196.

**[СПАПЯЛІЦЬ]** (2) *зак., перан.* Знішчожыць, знішчыць. *..Звярнуся к сонцу, сонцу без канца й пачатку, Хай спаліць мне душу, як ствол разбіты граба, .. Але і крыж мой спапяліць хай папарадку!* СМ.

◊ **Спапяліць на сажу** – зрабіць жорсткім, бессардэчным. *..Сонца сэрца яго* [чараўніка] *растапіла, як льдзінку, А душу спапяліла на сажу.* Ч, 324.

Абв. пр. адз. н. *спапяліла*: Ч, 324. Буд. адз. 3 ас. *спапяліць*: СМ,

**[СПАРАДЗІЦЬ]** (2) *зак., перан.* З'явіцца прычынай узнікнення чаго-н.. *Яго* [стаханаўскі рух] *спарадзіла мудрая палітыка партыі рабочага класа, стварыўшая новае радаснае жыццё, яго спарадзіла геніяльнае прадбачанне правадыра ўсіх працоўных – мудрага Сталіна..* СТ.

Абв. пр. адз. ж. *спарадзіла:* СТ. н. *спарадзіла*: СТ.

**[СПАРТЫЎНЫ]** *прым.* Які звязаны са спортам. *У Празе мы* [дэлегаты] *наведалі "дабрачынны камбінат" імя Масары-*

*ка, дом спартыўнай чэшскай арганізацыі “Сокал”..* ПЧ.

Адз. ж. Р. *спартыўнай*: ПЧ,

**[СПАСЦІ]** (4) *зак., перан.* Знікнуць. *І дрогнула Крыўды ўсяўлада, Разьлёгся скрозь кліч пяруновы; Апалі кароны, пасады, З нявольнікаў спалі аковы.* Кр, 77. *..Спадзе ланцуг ваш* [Жыдоў] *сьляпым загіну. Спадзе ланцуг наш* [беларусаў] *і зазьзяе ўсім вясна!* Ж.

◊ **Волас з галавы не спадзе** *гл.* волас.

Абв. пр. мн. *спалі*: Кр, 77. Буд. адз. 3 ас. *спадзе* (3): Ж (2); Т, 59.

**СПАТКАННЕ** (6) *н.* Сутрэча. [Янка]: *Во, неспадзяванае спатканне. Як маецеся, пане рэгістратар?* Т, 35. [Мікіта]: *Каго я бачу, меджду протчым? Якое мілае, неспадзяванае спатканне!* Там жа, 37.

◊ **Да спаткання** – да сустрэчы. [Мікіта]: (*услед Спічыні*). *Да мілага спаткання.* Т, 32.

Адз. Н. *спатканне* (3): Т, 35, 37, 45. Р. *спаткання*: Т, 32. В. *спатканне*: Т, 32. М. *спатканні*: ПЧ.

**СПАТКАЎШЫ** (4) *дзеепрысл. да* спаткаць *ў 3 знач.* [Спічыні]: *Як вы* [Мікіта] *прывітаеце, спаткаўшы немца?* Т, 31. [Спічыні]: *Як вы* [Мікіта] *прывітаеце, спаткаўшы вось такое.. (паказвае) малое немчанё?* Там жа. Т, 31, 59.

**[СПАТКАЦЦА]** (3) *зак.* Сустрэцца, сысціся разам на пэўны час. [Наста]: *.. з гасцямі спаткацца прыдзецца, дык чаму ж крыху і не паднядзеліцца?* Т, 24. [Мікіта]: *Як я рад, як я рад, што з вамі* [Спічыні] *спаткаўся.* Там жа, 54.

Інф. *спаткацца*: Т, 24. Абв. пр. м. *спаткаўся*: Т, 54. Буд. мн. 3 ас. *спаткацца*: Т, 54.

**СПАТКАЦЬ** (8) *зак.* **1.** *Зак. да* спаткаць *у* 1 *знач.* [Мікіта]: *Калі бег я па гэтыя, меджду протчым, пакупкі, на Зыбіцкай вуліцы спаткалі мяне два, мабыць, апошнія ўцякаючыя паны..* Т, 58. // *перан.* Знайсці каго-н., сутыкнуцца з кім-н. [Дама]: *Тут у Менску так трудна спаткаць праўдзівага вучонага.* Т, 27. [Мікіта]: *Калі спаткаеце* [Гануля] *профэсара гэр Спічыні, то напомніце яму, што я ўжо чакаю на практычную лекцыю аратарскага мастацтва..* Там жа, 34. // *перан.* Апынуцца ў якім-н. становішчы. [Мікіта]: *Мяне толькі што спаткала ў дарозе смешная прыгода.* Т, 58. // *перан.* Убачыць што-н. [Дама]: *Цяпер такую закуску можна спаткаць толькі ў надта высокіх асоб.* Т, 28. *Параўн.* стрэнуць.

**2.** *Зак. да* спаткаць *у* 2 *знач.* [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, завесьце чым-небудзь вокны, можа – коўдрамі .. а я пабягу спаткаю* [гасцей]. Т, 24. *А вернемся* [хлопчык і лёт-

чык] *стуль, дзе лятали, Дзе ворагі трупам ляглі, Спаткае таварыш наш Сталін Прыветліва ў самым Крэмлі.* ХЛВ, 316.

Інф. *спаткаць* (3): Т, 24, 27, 28. Абв. пр. адз. ж. *спаткала*: Т, 58. Мн. *спаткалі* (2): Т, 58; Ч, 322. Буд. адз. 3 ас. *спаткае*: ХЛВ, 316. Мн. 2 ас. *спаткаеце*: Т, 34.

**СПАТЫКАЦЦА** (3) *незак.* Пападацца, сустракацца на шляху. [Спічыні]: *А я страшэнна не люблю спатыкацца з ворагам, калі ён наступае і калі адступае.* [Мікіта]: *О так! Асабліва страшна з ім спатыкацца, меджду протчым, калі ён наступае.* Т, 41.

Інф. *спатыкацца* (2): Т, 41 (2). Абв. цяп. мн. 3 ас. *спатыкаюцца*: Т, 59.

**СПАТЫКАЦЬ** (4) і *разм.* **СПАТЫКАЦІ** *незак.* **1.** Сустракаць на шляху каго-н. *Янка і Аленка выходзяць і спатыкаюць на парозе ў напаўбасяцкім абарваным адзенні Даму і Спраўніка, з якімі раскланьваюцца.* Т, 57. // *перан.* Сутыкацца з чым-н. *..пры тых перашкодах і няміласцях, якія прыходзілася й прыходзіцца спатыкаць беларускаму друкаванаму слову з боку яго няпрыхільнікаў, – такі вынік кароткай выдавецкай чыннасьці “Адраджэньня” быў проста гэраічным.* ВСп, 91.

**2.** Выходзіць сустракаць, вітаць; прымаць каго-н. [Аленка]: *Трэба ж было, татачка, прыгледзецца, як рыхтуюцца менчукі спатыкаць новых акупантаў.* Т, 44.

**3.** Чакаць пачатку, наступлення, з’яўлення. *Спадабалася першаму першая сцежка, А другая – другому сыночку, Ўзяўся трэці на трэцяй, як грыб-сыравежка, Спатыкаці, праводзіці ночку.* Ч, 320.

Інф. *спатыкаць* (2): ВСп, 91; Т, 44; *спатыкаці*: Ч, 320. Абв. цяп. мн. 3 ас. *спатыкаюць* (2): ЗЯЗ, 90; Т, 57.

**[СПАЎНЯЦЬ]** (2) *незак.* Выконваць. *Чаму скрозь на Беларусі польскіе ураднікі не спаўняюць загаду свайго начальства?* ОШМ. *І калі гэта высокая вучэльня ня пойдзе шырокай дарогай толеранцыі і роўных правоў для усяго насяленьня нашага краю, – яна не споуніць таго культурнага назначэньня, якое ей сягодня суліць гісторыя.* УПУВ.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *спауняюць*: ОШМ, Буд. адз. 3 ас. *споўніць*: УПУВ.

**СПАЦЬ** (24) *незак.* **1.** Быць, знаходзіцца ў стане сну. *Сьпім на узьмежку пад ігрушкай, Дожджык моча, сонца суша.* БЗ. *За другім* [сынам] *была ахвота К лежні, к панаваньню; За чужой-бы жыў работай, Спаў-бы да зьмерканьня.* Дз, 189. // *перан.* Спачываць, быць пахаваным (пра памёршых). *Спі, пясняр наш родны! Ты жыццё прыгожыў, Аб табе так-*

*сама Народ песні зложа.* ПДС, 232. *Спіце вы, нявінна Згінуўшы, ахвяры! Пакараем катаў Самай лютай карай!* МПв, 219. // *Вобразн. Агонь аўтарны разлажыце* [дванаццаць выбраных], *Ахвяру небу аддадзім, Няпраўды толькі ня будзіце, - Хай сьпіць пад полагам сваім.* УрП, 50.

**2.** *перан.* Быць пасіўным, бяздзейнічаць. [Спраўнік]: *Вораг не спіць і ўжо блізка: можа адрэзаць нам усе ходы для адступлення.* Т, 39.

◊ **Спаць у шапку; у шапку спаць** (5) – бяздзейнічаць, не праяўляць руплівасці. *І мы ў шапку спаць не будзем, І пакажам сьвету, людзям, Як баронім межы родны Ад напасьці, ад нягоднай..* ГЖУ. [Аленка]: *Як выехалі вы* [Янка] *з Дуброўкі, я ў шапку не спала і паехала ў Вільню!* Т, 30.

Інф. *спаць* (4): ВСп, 90; ВР; ГЖУ; Т, 40. Абв. цяп. адз. 3 ас. *спіць* (3): АБ, 16; Т, 38, 40; *сьпіць* (4): Кц, 192; КЧ; УрП, 49, 50; *спиць*: СП. Мн. 1 ас. *сьпім*: БЗ. Пр. адз. м. *спаў* (2): Б, 18; Дз, 189. *ж. спала* (3): Б, 18 (2); Т, 30. Мн. *спалі* (2): СБНГ; РКр. Заг. адз. 2 ас. *спі* (2): СЗГ, 252; ПДС, 232. Мн. 2 ас. *спіце*: МПв, 219; *сьпіце*: БН, 92.

**СПАУШЫЙ** *дзеепрым. незал. пр. да* спаць *у* 2 *знач. ..рукою яе* [Польшчы] *цяперашняга Гаспадара Язэпа Пілсудзкага вырвана ад маскалеу Вільня і збуджаны к жыцьцю, спаушый доўгіе годы Батораўскі Унівэрсытэт.* УПУВ.

Адз. м. Н. *спаушый*: УПУВ.

**СПАЧАТКУ** (14) *прысл.* У першы момант. *Хацеў я спачатку павесіцца, утапіцца, застрэліцца, але ўзяў ды напісаў гэты не зусім "маленькі фельетон".* Ан, 19. *Уваходзяць адначасова з абаіх дзвярэй Усходні вучоны і Заходні вучоны, разглядаючыся: Усходні – праз падзорную палявую трубу, Заходні – праз бінокль, не заўважыўшы спачатку адзін аднаго,* Т, 25. // Напачатку чаго-н. *Не хацелі спачатку прынімаць новай веры дрэговічы і крывічы, ды палачане ад іх не адставалі..* Кз, 17. [Ануля]: *Тады мы ўзялі і пайшлі сюды* [Менск] *шукаць службы. Спачатку было вельмі цяжка, а пасля нічога сабе.* Т, 20. // Перш за ўсё, папярэдне, раней. *.. мы спачатку памяшчаем падробную табліцу ўсяго надрукаванага за гэты час, а пасьля, па магчымасьці, пяройдзем да характарыстыкі паасобных кніг і выдавецтваў.* ВСп, 89. [Янка]: *А я спачатку меркаваў іначай.* Т, 20. Параўн. спярша. ДЖ; СНБ, 336, 338, 339, 340; Т, 20, 40, 46.

**СПАЧУВАННЕ** *н.* Выражэнне пачуцця спагады, жалю ў сувязі з чыямсьці горам, няшчасцем. *Наш* [дэлегатаў] *адказ, наша спачуванне да маці, страціўшай сына, наша пашана да*

*памяці паэта-комуніста як найлепей выказаны былі т. Кальцовым..* ПЧ.

Адз. В. *спачуванне*: ПЧ.

**[СПАЧУВАЦЬ]** *незак.* Падтрымліваць якую-н. дзейнасць. *..яны* [бальшавікі] *змушаны былі хоць фікцыйна ствараць ільлюзіі, што яны так сама спачуваюць нацыянальным тэндэнцыям падняволіваных імі народаў..* СНБ.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *спачуваюць*: СНБ.

**[СПЕКТАКЛЬ]** і **СПЭКТАКЛЬ** (2) *м.* Пастаноўка, паказ п’есы. [С. Меч]: *Ніколі ніякая музыка, на сьвеце, ніякая кніга, ніякі малюнак, ніякі спэктакль не давалі мне гэтулькі асалоды і прыёмнасьці, як постаць гэтых дрэў, аблітых прашчальным блескам заходзячага васеньняга сонца.* ХБ, 29. *Увесь склад трупы тэатра перад пачаткам спектакля выйшаў на сцэну і горача вітаў совецкіх пісьменнікаў і журналістаў.* ПЧ.

Адз. Н. *спэктакль* (2): СБНГ; ХБ, 29. Р. *спектакля*: ПЧ.

**[СПЕКУЛЯНТ]** (2) *м.* Той, хто займаецца спекуляцыяй. *Купляюць спекулянты з мэтай перапрадаць яшчэ даражэй другому спекулянту..* ЗС, 18.

Адз. Д. *спекулянту*: ЗС, 18. Мн. Н. *спекулянты*: ЗС, 18.

**[СПЕКУЛЯЦЫЙНЫ]** *прым.* Які адносіцца да спекуляцыі. *Прадаецца ўсё гэта па спекуляцыйных цэнах.* ЗС, 18.

Мн. М. *спекуляцыйных*: ЗС, 18.

**СПЕКУЛЯЦЫЯ** (5) *ж.* Фінансавая аперацыя, якая заключаецца ў скупцы і перапрадажы чаго-н. з мэтай узбагачэння. *Зямельная спекуляцыя небяспечна цяпер для ўсіх – і для тых, што прадаюць, і для тых, што купляюць..* ЗС, 18. *Зямельнае пытанне, каторае і дагэтуль было так запутаным у нашым краю, яшчэ больш запутываецца зямельнай спекуляцыяй у нашыя дні.* Там жа.

• **Зямельная спекуляцыя.**

Адз. Н. *спекуляцыя* (2): ЗС, 17, 18. Р. *спекуляцыі* (2): Тж, 16(2). Т. *спекуляцыяй*: ЗС, 18.

**[СПЕЛЫ]** (2) *прым., перан.* Ураджайны. *Шчаслівых перамог, свабодны мой народзе! Шчаслівай долі на загонах тваіх родных, спелых!* ПНд, 314 (2).

Мн. М. *спелых* (2): ПНд, 314 (2).

**[СПЁКА]** (2) і **[СЬПЁКА]** *ж.* Спякота, гарачыня. *У зімнюю сцюжу, у летнюю спёку, Як дні, так і ночы наш слаўны дазор Не зводзіць з граніцы арлінага вока, Не ўтояць шпіёна ні дзебры, ні бор.* ПБН. *Гібелі зноў людзі ў сьпеку, ў мароз, Як чэрві сьляпые у плесьні..* ПНд, 47.

Адз. В. *спёку*: ПБН; *сьпёку*: ПНд, 47. Мн. Н. *спекі*: Д, 73.

**[СПІНА]** *жс.*: ◊ **Разгарнуць прыгнутыя спіны** *гл.* разгарнуць**.**

Мн. В. *спіны*: ПБН.

**[СПІЦА]** *жс.:* ◊ **Уставіць спіцы** *гл.* уставіць**.**

Мн. Р. *спіц:* Т, 48.

**[СПЛАДЗІЦЬ]** *зак., перан.* Пасадзейнічаць з'яўленню чаго-н. *Тыя* [паны], *ў дагонцы за блескам часовым, Брацьцяў запрэглі ў нявольнічы плуг, Тыя, таргуючы імем Хрыстовым, Цемру і здраду спладзілі ўвакруг.* Г, 16.

Абв. пр. мн. *спладзілі*: Г, 16.

**СПЛАЦІЦЬ** і **СПЛАЦІЦІ** *зак. Разм.*: ◊ **Сплаціць доўг** – кампенсаваць што-н. *Калі тыя, што нас аграбілі, што нашы загоны зрылі на акопы-магілы, не ідуць к нам з дапамогай, каб сплаціць хоць частку таго доўгу, які яны доўжны Беларусі, то павінны мы самі за гэта ўзяцца, і ўзяцца як найхутчэй.* АБ, 16. **Сплаціці доўг –** адплаціць тым жа самым; не застацца ў даўгу перад кім-н. *Пара, Жыды, паны ўсёга сьвету, Сплаціці доўг, які вам Беларусь дала!* Ж.

Інф. *сплаціць*: АБ, 16; *сплаціці*: Ж.

**СПОЛКУ** *прысл. Польск.* Разам, у кампаніі. *Ідзеш* [Новы Год] *у край, дзе пажарышча Яшчэ дымецьне перастала, Дзе смерць спраўляе сваё ігрышча, У сполку з чэрняй адзічалай.* НГд, 8.

**СПОСАБ** (8) *м.* Прыём, метад ажыццяўлення. [Мікіта]: *..такое ўмелае скарыстанне перамен палітычных сытуацый – надта лёгкі спосаб.* Т, 55. *Яны* [паны абшарнікі] *чуюць сваім абшарніцкім пачуццём, што раней ці пазней і тым ці іншым спосабам, але ўся зямля пяройдзе да тых, хто яе сваімі рукаі арэ і засявае.* ЗС, 17.

Адз. Н. *спосаб* (2): Т, 48, 55. Т. *спосабам* (4): ЗС, 17; Т, 48, 55; ВС. Мн. Н. *спосабы*: ВН. В. *спосабы*: ВН.

**[СПОТШЭГА СЕНЬ]** *незак. Польск. Тое, што* прымечаться. [Заходні вучоны]: *Еднак, спостшэга сень донжэне розшэжыць овэ граніцэ на Всхуд.* Т, 47.

Абв. цяп. 3 ас. *спостшэга сень*: Т, 47.

**[СПОЎНІЦЬ]** *зак.* Здзейсніць, ажыццявіць; выканаць. *Такім ладам мы споўнім сьвяты свой абавязак перад бацькаўшчынай і перад яе сынамі на вайне.* РКр.

Абв. буд. мн. 1 ас. *споўнім*: РКр.

**СПРАВА**[1] (52) *жс.* **1.** Работа; тое, чым заняты. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, пакіньце гэту справу на маю галаву, глядзеце вось лепей, ці не снуе хто няпэўны каля вакон.* Т, 58. [Спічыні]: *Справы затрымалі. Але мы затое паз-*

*ней пазаймаемся.* Там жа, 31. // У складзе назваў пасад устаноў, ведамстваў. *Агульны сход пісьменнікаў і супрацоўнікаў праўлення ССП БССР.. аднагалосна вылучыў сваім кандыдатам у Вярхоўны Совет Саюза ССР Вас, Нікалай Іванавіч, .. як бясстрашнага наркома ўнутраных спраў.* НКУС. *Гэтую прыязнь да совецкае культуры, да нашае краіны .. мы* [дэлегаты] *з хваляваннем адчувалі .. на спатканні з міністрам замежных спраў п. Бенешам..* ПЧ, // Ідэя. *І гэтыя людзі мучыліся, працавалі, аддавалі ўсё сваё найлепшае здароўе, жыццё за беларускае вольнае слова, за беларускую святую справу.* МІ, 17. *Параўн.* дзела *ў* 1 *знач.*

**2.** Дзейнасць, актыўнасць. *Мы не будзем забягаць наперад у будучыну і варажыць, якімі шляхамі пойдзе гэта справа.* БВ, 17. *Новы напрамак, які надае пастанова ленінскага ЦК літаратурна-мастацкай справе, сьведчыць аб тым, што і ў гэтай галіне мы таксама дасьцігнем нявіданых сусьветных посьпехаў.* ДНСП. *Параўн.* дзела *ў* 2 *знач.*

**3.** Пытанні, якія патрабуюць вырашэння. *Справа гэта вельмі важная і трэба канечна, каб наша ідэёвая інтэлігенцыя – поэты і композыторы заняліся ёй паважна.* СБНГ. *Справа незалежнасці Беларусі зводзіцца гэтымі панамі на няма нішто.* СНБ.

**4.** Падзея, здарэнне. *Справа канчаецца тым, што школа не адчыняецца, бо трэ' было адчыніць адну, а тут дамагаюцца трох.* ДК. [Спраўнік]: *Наколькі я разумею стратэгію, то здаецца, справа абыйдзецца без крывапраліцця.* Т, 52.

**5.** Становішча, стан каго-н., абставіны. *З беларускай марсэльезай справа стаіць якбы лепей: маемо "Адвеку мы спалі" і іншых вершаў з музыкай..* СБНГ. [Янка]: *..мабыць, цяжкія вашы* [Мікіты] *справы, што так цяжка вам час плыве: месяцы ў цэлыя леты і зімы замяніліся?* Т, 45.

**• Выдавецкая справа ў Савецкай Беларусі за 1922 год. Народнаму камісару унутраных спраў тав. Ежову. Справа беларускага Нацыянальнага гымну. Справа незалежнасьці Беларусі за мінулы год.**

◊ **Не адкладаючы справы ў доўгі мех** *гл.* адкладаючы. **Справа ў тым** – галоўнае (сутнасць) у тым. [Мікіта:] *Справа ў тым: я пастанавіў перайсці ў вашу* [Янкі], *меджду протчым, партыю.* Т, 55. **У чым справа** (2) – што здарылася? *Чырвонаармеец палажыў набок абломак стрэльбы і паглядае, не разумеючы, у чым справа.* Т, 52.

Адз. Н. *справа* (21): БВ, 17; ВСп, 89, 90; ДК; МІ, 17; СБНГ (4); СНБ, 336 (2), 337, 338; СНБ (4); Т, 33, 52 (2), 55. Р. *спра-*

*вы* (3): СБНГ; Т, 30, 56. Д. *справе*: ДНСП. В. *справу* (7) : В; ВСп, 91; ЗС, 18; МІ, 17; СБНГ; Т, 23, 58. М. *справе* (5): ВСп, 89, 91 (2); ПЧ; Т, 44. Мн. Н. *справы* (4): ЖН; Т, 31, 45; ТП, 215. Р. *спраў* (4): НКУС (2); ПЧ; Тж, 15. В. *справы*: МП. Т. *справамі*: Т, 55. М. *справах* (5): ЖН; Кз, 17 (2); СБНГ; Т, 34.

**СПРАВА²** (4) *прысл.* З правага боку, па правай руцэ. *Справа ў належным месцы стол, у іншых мясцох – пара малых столікаў..* Т, 19. *Хапае* [Спічыні] *шапку і знікае ў дзвярох справа.* Там жа, 32. Т, 33, 34.

**[СПРАВАВАЦЬ]** *незак.* Панаваць, вяршэнстваваць. *Дружнымі, згоднымі радамі няхай ідуць яны* [беларусы] *да адзінай мэты: адваяваць свой горад ад засільля чужынцаў і уваскрасіць стары Менск, калі панавалі тут продкі нашы. Калі прыгожа зычэла мова наша і справавало беларускае права.* ВМР.

Абв. пр. адз. н. *справавало*: ВМР.

**[СПРАВАЗДАЧА]** *ж.*: ◊ **Здаць справаздачу** *гл.* здаць**.**

Адз. В. *справаздачу*: Ун, 73.

**[СПРАВАКАВАЦЬ]** *зак.* Правакацыйнымі дзеяннямі выклікаць якое-н. здарэнне. [Купала:] *Верш мой справакавалі: І. Лёсік, надрукаваўшы яго побач з артыкулам, прысвечаным Пілсудскаму..* СЧ.

Абв. пр. мн. *справакавалі*: СЧ.

**[СПРАВІЦЬ]** *зак.* Адправіць (набажэнства). *Не свята светлае спраўляці Сягоння будзе наша народ. А трызну па айчыне-маці Ён справе ў гэты цяжкі год.* ГП, 8.

Абв. буд. адз. 3 ас. *справе*: ГП, 8.

**СПРАВЯДЛІВА** (2) *прысл. да* справядлівы *ў* 1 *знач.* [Мікіта]: *(выкладаючы слоўнікі). Зусім справядліва, мусье профэсар!* Т, 49. [Спраўнік]: (*вылезшы з іншымі з укрыцця*). *Зусім справядліва! Забірайце яго* [Мікіту] *ў палон!* Там жа, 52.

**СПРАВЯДЛІВАСЦЬ** (4) і **СПРАВЯДЛІВАСЬЦЬ** (3) *ж.* **1.** Пра аб'ектыўныя, справядлівыя адносіны да каго-, чагон. *..мы верым, што польскі урад мае дзяржаўны розум і парупіцца зрабіць усё, што вымагае ад яго дзяржаўная мудрасьць, справядлівасьць і яго уласны інтэрас..* ОШМ. *Беларускі земляроб верыць і чакае, што панская зямля пяройдзе раней ці пазней у яго рукі і што гэтай зямлі для яго хопіць, абы толькі падзяліць яе па справядлівасці, як прыстала на добры лад і парадак у дзяржаве.* ЗС, 18.

**2.** Адпаведнасць чалавечых адносін, дзеянняў патрабаванням маралі і права. *Дык не зважайма на здраду, а пойдзем далей сваім хоць цярністым, але святляным шля-*

*хам, па якім дагэтуль ішлі; з верай і надзеяй к таму вечнаму сонцу праўды і справядлівасці для ўсіх і для кожнага паасобку..* ПЛП. *Які тут дэмакратызм і якая тут можа быць справядлівасьць?* ДК.

Адз. Н. *справядлівасць*: ВР; *справядлівасьць*: ДК. В. *справядлівасці*: ПЛП. Д. *справядлівасці*: СНБ, 339. В. *справядлівасьць*: ОШМ. М. *справядлівасці*: ЗС, 18; *справядлівасьці*: ВН.

**СПРАВЯДЛІВЫ** (4) *прым.* **1.** Які дзейнічае адпаведна з праўдай, праўдзівы. *Кожны мала-веле справядлівы чэлавек заплачэ над гэткай нямецкай несправядлівасьцю.* ЧЧШ. // Які грунтуецца на правільных, аб'ектыўных адносінах да кагон. *І хаця ў аснове закону ляжыць справядлівы наказ, але ў жыцьці ён сілы ніякай не мае..* ВР.

**2.** Абгрунтаваны, законны. *Крыніцы жыцця пацякуць сваім спрадвеку вызначаным сравядлівым парадкам.* СНБ.

**3.** Які адпавядае праўдзе, аб'ектыўным фактам. *Капіталістычны сьвет .. добра ведае і адчувае, што справядлівай гісторыяй ужо палічаны апошнія гадзіны яго існаваньня.* АЛ.

Адз. м. Н. *справядлівы* (2): ВР; ЧЧШ. Т. *справядлівым*: СНБ. ж. Т, *справядлівай*: АЛ,

**СПРАДВЕКУ** (4) *прысл.* З незапамятных часоў, здаўна, заўсёды. *Крыніцы жыцьця пацякуць сваім спрадвеку вызначаным справядлівым парадкам.* СНБ. *Літва і Беларусь спрадвеку славяцца багаццем пахучага мёду.* ХБ, 30. НГ (2).

**СПРАЎДЖАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* спраўдзіць. Здзейснены. *А нашы балоты! Клялі іх калісьці. Сягоння – наш скарб яны, спраўджаны сон.* ПБН.

Адз. м. Н. *спраўджаны*: ПБН.

**[СПРАЎКА]** *ж. Руск.* Даведка. *Прывяду* [Купала] *рэзультат маленькай цыфравой спраўкі.* ВСп, 91.

Адз. Р. *спраўкі*: ВСп, 91.

**СПРАЎЛЯЦЬ** (6) і *разм.* **СПРАЎЛЯЦІ** *незак.* Святкаваць, адзначаць. *Нашы мінуліся дні беспрасветныя. Леглі ад сонца на свеце праталіны, Будзем спраўляць перамогу ўсясветную.* ДПЛС. *Не свята светлае спраўляці Сягоння будзе наш народ. А трызну па айчызне-маці Ён справе ў гэты цяжкі год.* ГП, 8.

Інф. *спраўляць* (2): ГП, 8; ДПЛС; *спраўляці*: ГП, 8. Абв. цяп. адз. 3 ас. *спраўляе*: НГд, 8. Мн. 3 ас. *спраўляюць* (2): Кц. 192; РС, 40. Пр. мн. *спраўлялі*: Дз, 191.

**СПРАЎНІК** (48) *м.* Начальнік павятовай паліцыі ў царскай Расіі. [Мікіта]: *З-паміж іншых гасцей будуць у мяне сягоння: адна мадам, поп, спраўнік і пан.* Т, 22. [Гарошка]: *На-*

*гналі гібель казакаў, сам нават спраўнік з Менску прыехаў.* Там жа, 43.

Адз. Н. *спраўнік* (42): Т, 19, 24, 25, 27, 28 (2), 29 (2), 32 (2), 37 (3), 38 (2), 43, 50, 51 (5), 52 (2), 53 (2), 57 (8), 58 (4), 59, 61 (3). Р. *спраўніка* (3): Т, 61 (3). Д. *спраўніку*: Т, 63. В. *спраўніка*: Т, 57. Т. *спраўнікам*: Т, 22.

**[СПРАЎНІЦКІ]** *прым.* Які належыць спраўніку. [Спраўнік]: *Спраўніцкія пагоны, гаспадзін таварыш: памятка былога вялічча.* Т, 61.

Мн. Н. *спраўніцкія*: Т, 61.

**[СПРАЦАВАНЫ]** *прым.*: ◊ **Сеяць спрацаваныя косці** *гл.* сеяць**.**

Мн. В. *спрацаваныя*: БВ, 16.

**[СПРАЧАЦЦА]** *незак.* Весці спрэчкі, даказваць што-н. *Спрачаліся* ["Gazeta Godziena" і "Виленский Вестник"], *Як край наш раскрасьці, Дый сьпеліся ўрэшце...* Х.

Абв. пр. мн. *спрачаліся*: Х.

**[СПРОБА]** *ж.* Намаганне зрабіць, ажыццявіць што-н. *Былі спробы тады стварыць і беларускую армію.* БВ, 16.

Мн. Н. *спробы*: БВ, 16.

**СПРЫТНА** *прысл. да* спрытны. [Начальнік]: *Помніце* [Мікіта], *як летась вялі мяне ў палон, а я ад вас так спрытна ўцёк.* Т, 60.

**[СПРЫТНЫ]** (3) *прым.* Спраўны, зграбны. [Мікіта]: *Зменяцца палітычныя сытуацыі, атрымаю ад начальства асэсарскую рангу, і мамзэль Наста будзе маёй, бо асоба, як бачыце, спрытная.* [Янка]: *Спрытная, спрытная!* Т, 23.

Адз. ж. Н. *спрытная*: Т, 23 (3).

**СПРЫЯЦЬ** *незак., перан.* Садзейнічаць, дапамагаць. *..кожная такая дзяржава, якая на рахунак чужых зямель хоча пашырыць сваё панаванне, ніколі не будзе спрыяць для народа гэтых забраных зямель.* НДН, 18.

Інф. *спрыяць*: НДН, 18.

**СПРЭЧКА** (5) *ж.* Абмеркаванне чаго-н. дзвюма або некалькімі асобамі, у часе якога кожная з іх адстойвае сваю пазіцыю. [Спраўнік]: *..бяру сабе слова і ўношу пропозыцыю пакінуць спрэчкі і без рэзолюцыі пайсці дамоў.* Т, 29. [Ануля]: *Гэтымі сваімі спрэчкамі людзям толькі кроў псуеш* [Мікіта]. Там жа, 29. // Палеміка ў друку. *..М. Кудзелька даў паэму "Босыя на вогнішчы", зьвярнуўшую на сябе ўвагу розных крытыкаў, якія падзяліліся на прыхільнікаў і няпрыхільнікаў паэмы – адны хваляць, а другія ганяць. Гэта спрэчка і цяпер яшчэ не спыняецца.* ВСп, 89. // Пярэчанне. *..незалежнасць гэтых дзяржа-*

*ваў* [Польшчы, Літвы, Украіны, Латвіі] *не выклікае ніякіх вялікіх спрэчак.* Нз, 14.

Адз. Н. *спрэчка*: ВСп, 89. Т. *спрэчкай*: Т, 49. Мн. Р. *спрэчак*: Нз, 14. В. *спрэчкі*: Т, 29. Т. *спрэчкамі*: Т, 22.

**СПРЭЧНЫ** *прым.* Які з’яўляецца прадметам аспрэчвання правоў на валоданне чаго-н. *Мы ведалі, што Вільня – гэта спрэчны горад, на каторы тры дзяржавы заяўляюць свае правы – гэта Польшча, Літва і Беларусь.* УПУВ.

Адз. м. Н. *спрэчны*: УПУВ.

**[СПУДЗІЦЦА]** *зак. Разм. Тое, што* спужацца. *Яны* [польскіе і расейскіе націоналісты], *як тые груганы, прывыклі ўжо клеваць бытцам-то мёртвае цела нашаго народу і убачыўшы, што гэты народ ажывае, спудзіліся, што ім пажывы не хваце!* ВР.

Абв. пр. мн. *спудзіліся*: ВР.

**[СПУДЖАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* спудзіць. Перапалоханы, напужаны. *О, так, як цьмы, як спуджаны вароны! .. І слухаем і нюхаем тут, там: Які павеяў вецер на загоны, - Заходні, ўсходні, й ці ад нас, ці к нам?* Бч, 9.

Кар. мн. Н. *спуджаны*: Бч, 9.

**[СПУЖАЦЦА]** *зак.* Напалохацца. *Спужаўся, што хлапчук у лапцёх, Напоўадзеты вёскі сын, У роднай мове ўчыцца змог?.. О, стыдна, рускі “гражданін”!* АПЖ. *Параўн.* спудзіцца.

Абв. пр. адз. м. *спужаўся:* АПЖ.

**СПУСКАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* спускаць. *Перан.* Скіроўваючы ўніз (позірк). [Аленка]: *(як бы саромячыся, спускаючы вочы, сціха). Але толькі – беларускіх, дзядзька настаўнік!* Т, 30.

**СПУСТОШЫЦЬ** *зак. Разм.* Знішчыць, звесці са свету. *І свае і чужыя выцягвае* [чараўнік] *звадай, Жылы белыя чорным патрэбам, .. Каб спустошыць, абнетрыць труп’ём чалавека Даць папас на магільным папасе..* Ч, 325.

Інф. *спустошыць*: Ч, 325.

**[СПУСЦІЦЬ]** (2) *зак., перан.*Скіраваць уніз (позірк). [Янка]: *Ой, нешта, мабыць, блазноцкае падумалі, цётачка, бо аж вочы спусцілі.* Т, 54.

◊ **Нос спусціць** – засумаваць, зажурыцца. *Аж тут к ім* [гругану і ваўку] *саюзнік-госць: - Што вы нос спусцілі? Яшчэ кара смерці ёсць, Мы вас не забылі.* Пц.

Абв. пр. мн. *спусцілі* (2): Пц; Т. 54.

**[СПУСЬЦІЦЦА]** *зак. Вобразн.* Прыйсці. *І шкода зрабілася думцэ людзей. Спусьцілася з высі нябеснай І ў душах пакорных зямелькі дзяцей Зьмянілася вольнаю песьняй.* ПНд, 47.

Абв. пр. адз. ж. *спусьцілася*: ПНд, 47.

**[СПЫНЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* спыніць. *Цяперака, калі спынена продаж на гарэлку, урад павінен дастаць грошы на гасударственные расходы, .. але ешчэ павінен дастаць іх і на ваенные расходы.* ВН.

Кар. адз. ж. Н. *спынена*: ВН.

**СПЫНІЦЬ** (3) *зак.* **1.** Закончыць што-н. [Спічыні]: *Выбачайце, мусье Зносілов, але мы на сягоння лекцыю спынім.* Т, 50. // Затрымаць натуральныя працэсы развіцця. [С. Меч:] *А потым настаў ціхі, залаты вечар, такі вечар, што каб я мог, я спыніў-бы яго ды зрабіў яго бясконцым..* ХБ, 29.

**2.** Пакласці канец чаму-н. *Зямельная спекуляцыя небяспечна цяпер для ўсіх – і для тых, што прадаюць, і для тых, што купляюць, а навет і для тых, што могуць спыніць гэта злачынства.* ЗС, 18. *Параўн.* супыніць.

Інф. *спыніць*: ЗС, 18. Абв. пр. адз. м. *спыніў*: ХБ, 29. Буд. мн. 1 ас. *спынім*: Т, 50.

**СПЫНЯЦЦА** (4) *незак.* **1.** Часова размяшчацца дзе-н., прыехаўшы куды-н. *Будынкі ўстаноў, гасцініц, дзе мы* [дэлегаты] *спыняліся, былі ўпрыгожаны совецкімі сцягамі.* ПЧ.

**2.** Перапыняцца (пра развіццё, ход). *Гаспадарка цэлага краю, ці аддзельных людзей павінна па сіле магчымасьці не спыняцца, а ісьці далей і шырэй, каб, як скончыцца вайна не асталіся мы быццам пасьля пажараў..* ВС. *Гэта спрэчка яшчэ не спыняецца.* ВСп, 89.

**3.** Затрымлівацца (пра думкі). *Бягуць, не спыняюцца думкі-саколкі К табе, правадыр мой, у сонцы спавіты!* ТП, 217 (2).

Інф. *спыняцца*: ВС. Абв. цяп. адз. 3 ас. *спыняецца*: ВСп, 89. Мн. 3 ас. *спыняюцца* (2): ТП, 217 (2). Пр. мн. *спыняліся*: ПЧ.

**[СПЫНЯЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Пераставаць рабіць што-н. *Не спыняймо працы дома і за домам, якая ішла да вайны, і якая павінна далей ісьці.* РКр.

**2.** Затрымліваць чыю-н. дзейнасць. [Мікіта]: *..новая, па ліку трэцяя, політычная сытуацыя спыняе на няведамы час гэту маю рэгістратарска-совбурскую кар'еру.* Т, 47.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *спыняе*: Т, 47. Заг. мн. 1 ас. *спыняймо*: РКр.

**СПЫТАЦЦА** (2) *зак. Разм. Тое, што* спытаць. [Мікіта]: *Куды ж гэта, калі можна спытацца, мадам-сіньёра і мусье, свае, меджду протчым, пэрсоны скіравалі?* Т, 37. [Мікіта]: *А ці не ведаеце, мамзэль Наста, можа яму* [Немцу] *на дарогу маркі патрэбны, бо я маю да прыдання?* [Наста]: *Спытайцеся.* Там жа, 42.

Інф. *спытацца*: Т, 37. Заг. мн. 2 ас. *спытайцеся*: Т, 42.

**СПЫТАЦЬ** (2) *зак.* Задаваць пытанне, звярнуцца з пы-

таннем. *Забыліся толькі Хаўрусьнікі ночы Спытаць беларуса, Чым сам ён быць хоча.* Х. *Пройдуць годы, падрастуць сыны і унукі нашы і спытаюць тады нас: "Што зрабілі вы ў той бурны і векапомны час для сваіх патомкаў, для свайго краю?"* БС. *Параўн.* спытацца.

Інф. *спытаць*: Х. Абв. буд. мн. 3 ас. *спытаюць*: БС.

**СПЭКТАКЛЬ** *гл.* **СПЕКТАКЛЬ.**

**СПЭЦ** (3) *м. Разм.* Вельмі дасведчаны ў чым-н. чалавек. [Мікіта]: *..ён* [Спічыні] *толькі спэц адбеларушчываць.* Т, 56. [Наста]: *У іх* [немцаў], *як мне з пэўных крыніц вядома, ёсць спэцы ад усялякіх языкоў, ну вы* [Мікіта] *і нарваліся на гэткага спэца.* Там жа, 42.

Адз. Н. *спэц*: Т, 56. В. *спэца*: Т, 42. Мн. Н. *спэцы*: Т, 42.

**СПЭЦЫЯЛЬНА** (2) *прысл.* **1.** Выключна, толькі. [Наста]: *Яны* [немцы] *цяпер заняты спэцыяльна хапаннем сваіх жа ўласных генэралаў.* Т, 41.

**2.** Знарок; з пэўнай мэтай. [Дама]: *Ах, мусье! але вы фарсун: у вас мундзір са шліфамі!* [Мікіта]: *А гэта зроблена спэцыяльна для маіх, меджду протчым, найславуцейшых гасцей..* Т, 25.

**[СПЯВАЦЦА]** (2) *незак.* **1.** Гучаць. *Мае* [Купалы] *кнігі разыходзяцца ў дзесятках і сотнях тысяч экземпляраў, песні мае спяваюцца ва ўсіх кутках вялікага Савецкага Саюза.* А. 328.

**2.** Быць зместам песні. *Гэта папраўдзе, як і ў песні спяваецца: "А ў Слуцку, на рыначку сталася праява!"* МІ, 17.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *спяваецца*: МІ, 17. Мн. 3 ас. *спяваюцца*: А, 328.

**СПЯВАЦЬ** (18) і **[СЬПЯВАЦЬ]** *незак.* **1.** Пець. *Так, зняс-ільваючая праца бурлакоў робіцца проста святочнай, – бурлакі пачынаюць спяваць і скакаць.* ПЧ. *У Оломоуце сустракаўшая нас* [дэлегатаў] *на вакзале публіка спявала "Інтэрнацыянал"..* Там жа.

**2.** Выражаць радасць, усхваляванасць, захапленне. *Цвіце, каласіцца мой край, Ці сонейка захад, ці усход, Спявай, маё шчасце, спявай!* ТП, 215.

**3.** Услаўляць у песнях каго-н. *Я Сталіну мудраму песню спяваю, А песня ад сэрца, з-пад сэрца, такая, Крылата лунае над полем, над гаем, Са светам гамоніць ад краю да краю...* СС, 302. *Аб Сталіне песні спявай! Спявай, беларускі народ!* ТП, 216.

Інф. *спяваць*: ПЧ. Абв. цяп. адз. 1 ас. *спяваю* (2): СС, 302 (2). Мн. 1 ас. *спяваем*: АЧ. Пр. адз. м. *сьпяваў*: ВБЛ, 81. ж. *спявала*: ПЧ. Буд. адз. 3 ас. *спяе*: ЧС, 50-51. Заг. адз. 2 ас.

*спявай* (12): ТП, 214 (3), 215 (3), 216 (2), 217 (4).

**СПЯРША** *прысл. Разм. Тое, што* спачатку. [Гануля]: *..народу ўсялякага прыходзіць* [у суд] *шмат, ды пакуль там хто дойдзе да вышэйшага начальства, пачынаць мусіў спярша ад ніжэйшага.* Т, 20.

**[СПЯЧЫ]** (3) і **[СЬПЯЧЫ]** (2) *дзеепрым. незал. цяп. да* спаць *у* 2 *знач. Сьмейся сьмехам-скавытам вядзьмачым, У віхровым пасьвісьце разьвейся, І над сьветам разьюшаным, сьпячым, .. Ты лунай, вочы рві сабе... ўсьмейся!* См, 91. *Гудзі* [прарок] *над Беларусяй з краю ў край, У сэрцах спячых распалі пажар..* Пт. // *У знач. наз. Эй, годзе ўжо песень маркотных, пясьняр! Дай волю парывам гарачым, Вясёлым, прывабным, як сонейка жар, каб бліснула яснасьць і сьпячым!* Пр.

Адз. м. Т. *сьпячым*: См, 91. Мн. Р. *спячых* (2): ЁЯ; СМ. Д. *сьпячым*: Пр. М. *спячых*: Пт.

**[СПЯШАЦЦА]** і **[СЬПЯШАЦЦА]** *незак.* Імкнуцца хутчэй трапіць куды-небудзь. *І яны* [паны-абшарнікі] *спяшацца прадаваць...* ЗС, 18. *Князі, накліканыя намі, Разьлікі між сабой вядуць, Лукі з атрутнымі страламі Проць нас сьпяшацца нацягнуць.* УрП, 48. *Параўн.* спяшаць, сьпяшыць.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *спяшаюцца*: ЗС, 18; *сьпяшацца*: УрП, 48.

**[СПЯШАЦЬ]** *незак.* Тое, што спяшацца. *..ўжо паны-абшарнікі стараюцца як мага перагнаць загоны малых і вялікіх двароў на царскія рублі. Яны не чакаюць, яны спяшаюць.* ЗС, 17.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *спяшаюць*: ЗС, 17.

**[СРАБРЫСТЫ]** *прым. Разм.* Тое, што серабрысты. [Янка]: *Зялёны бор шлюб нам* [з Аленкай] *даваў, зоркі дружкамі былі, а расіца срабрыстая шлюбныя персцені свянціла.* Т, 53. *Параўн.* срыбны.

Адз. ж. Н. *срабрыстая*: Т, 53.

**[СРОДАК]** (6) *м.* **1.** Прыём, захад для ажыццяўлення дасягнення мэты. *Буржуазія, як замежная, так і ўнутраная, не перабірае ніякімі мэтодамі і сродкамі барацьбы супроць СССР.* АЛ. *Баця тчэ павуціну ўсімі сродкамі.* ПЧ.

**2.** *толькі мн.* Грошы, капітал, матэрыяльная каштоўнасць. *Толькі недахват сродкаў ня даў магчымасьці Цішку Гартнаму надрукаваць увесь матэр'ял, які павёз быў з сабой у Нямеччыну.* ВСп, 91. *Навукова-Літаратурны Аддзел на чале з сваім кіраўнікам С.Некрашэвічам .. выхлапатаў матар'яльныя сродкі і зарганізаваў выданьне беларускіх кніг за граніцай.* Там жа, 91.

Мн. Р. *сродкаў* (2): ВСп, 91; ШБСЯ. В. *сродкі* (2): ВСп, 91; ПЧ. Т. *сродкамі* (2): АЛ; ПЧ.

**[СРОЛІК]** *м.*: Δ **Гэрцум-сролік** *гл.* гэрцум**.**

Мн. В. *сролікі*: Т, 45.

**СРЫБНЫ** *прым. Разм. Тое, што* срэбны. *На небе зоры ўжо мігцяць, На полі срыбны сьнег іскрыцца..* Кц, 192.

Адз. м. Н. *срыбны*: Кц, 192.

**[СРЭБНІК]** *м.*: ◊ **Срэбнікаў з трыццаць узяць (за што-н.)** *гл.* узяць**.**

Мн. Р. *срэбнікаў*: Р.

**[СРЭБНЫ]** *прым.* Які адбівае срэбрам. *Ён* [Данілка] *вязе ўсім падарункі: Маці срэбны абраз, А сваёй дзяўчыне мілай Доўгі пацерак звяз.* ПСД. *Параўн.* срабрысты, срыбны.

Адз. м. В. *срэбны*: ПСД.

**[СРЭДНЯВЯКОЎЕ]** *н. Руск., разм.* Сярэднявечча. *Асьлепленые часовымі пабедамі, забываюцца* [соцыяльные рэволюцыянеры], *што жывуць не ў срэднявякоўі, калі сіла кулака панавала над сілай права.* СНБ.

Адз. М. *срэднявякоўі*: СНБ.

**[ССАЦЬ]** *незак.*: ◊ **Кроў ссаць** – мучыць, прыгнятаць каго-н. *Усе вы, панове, аднакай натуры: З сэрца чужога кроў ссалі-б да дна.* Г, 16.

Абв. пр. мн. *ссалі*: Г, 16.

**[СТАВАЦЬ]** *незак.* Хапаць чаго-н. *Дзе другога-трэцяга* [складу] *Не стае, ня любіць, - Там жыцьцё не важнае, Людзі шчасьце губюць.* $Ш_3$.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *стае*: $Ш_3$.

**[СТАВІЦЬ]** (6) *незак.* **1.** Умацоўваць што-н. вертыкальна. *Крыж пастаўце, як ставіце ўсім, – Мае путы павесці на ім..* ЧС, 50–51.

**2.** Размяшчаць якім-небудзь чынам. *Хай ставяць* [людзі] *цьвёрдыя запоры Перад навалаю чужой, Глядзяць і моляцца на зоры Усёй раднёй, усёй сям'ёй.* УрП, 50.

**3.** *перан.* Прыводзіць у якое-н. становішча. *Такая пастаноўка гэтай справы .. няраз ставіць публіку у прыкрае палажэньне, як і было гэта ня вельмі даўно.* СБНГ.

**4.** Вызначаць, акрэсліваць. *Мэта, якую ставіў я* [Купала] *перад сваёй поэтыцкай творчасьцю, гэта было паказаць у мастацкай форме ўсю беднату, цемнату, нядолю і паднявольле батрацтва і бядняцтва беларускае вёскі..* АЛ.

**5.** Выстаўляць (для разгляду). *Калі трэба, напрыклад, адчыніць школу, дык склікаюць бацькоў і ставяць ім пытаньне: якую яны хочуць школу – расійскую, польскую ці беларускую.* ДК.

◊ **Ставіць стражы і запоры –** пазбаўляць волі. *Над старэйшым братам ставіў* [меншы брат] *Стражы і запоры, Цела*

*ранамі крывавіў, Зьдзекаваўся ў гары.* Дз, 190.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *ставіць*: СБНГ. Мн. 2 ас. *ставіце*: ЧС, 50–51. 3 ас. *ставяць* (2): ДК; УрП, 50. Пр. адз. м. *ставіў* (2): АЛ; Дз, 190.

**[СТАГНАЦЬ]** (12) *незак.* **1.** Жаласна енчыць (ад гора, адчаю). *Габруся ў жаўнерку ўзялі, Ад дамоўства адарвалі, Зажурыўся стары татка, Цяжка стогне, плача матка.* ГЖУ.

**2.** *перан.* Гусці. *Натхненна гэтак пеў, заводзіў Рой чалавечы на свой лад, – Рака шуміць так у разводзьдзе, Так стогне ў буру сосен рад.* УрП, 49. *Стогнуць ветрам калыханы Ліпы ды бярозы, А ноч сее скрозь туманы Золь, слату, як сьлёзы.* Дз, 191.

**3.** *перан.* Быць, пакутаваць пад прыгнётам. *І адны* [палякі], *і другія* [расіяне] *глядзелі скоса на Беларусь, глядзелі то як на "крэсы", то як на "окраину", і больш нічога, А беларус стагнаў і стагнаў.* Нз, 15.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *стогне* (5): ГЖУ; Дз, 187; КЧ; Тж, 16; УрП, 49. Мн. 1 ас. *стогнем*: В. 3 ас. *стогнуць*: Дз, 191. Пр. адз. м. *стагнаў* (3): Нз, 15(2); НДН, 18; ж. *стагнала*: НДН, 18; Мн. *стагналі*: БС.

**[СТАГОДДЗЕ]** (5) *н.* **1.** Вялікі, неакрэслены прамежак часу ў мінулым, будучым. *Нашу дзівосную Совецкую Беларусь, расквітнеўшую пасля доўгіх стагоддзяў рабства і нацыянальнага прыгнечання, трацкіскія вырадкі хацелі ператварыць у калонію нямецкага фашызма.* ВНП. *Параўн.* сталецьце *ў 2 знач.*

**2.** *перан.* Будучае пакаленне. *Сонейка, зоркі цябе* [Сталіна] *ўзгадавалі На радасць людзей і стагоддзяў.* СС, 301. *Ён* [Сталін] *піша законы стагоддзям, народам, Што йдуць і што прыдуць, навек, назаўсёды.* Там жа, 303.

Мн. Р. *стагоддзяў* (2): ВНЗ; СС, 301. Д. *стагоддзям* (2): СС, 303 (2). М. *стагоддзях*: ПНд, 314.

**[СТАДО]** *м. Руск.*: ◊ **В стадо –** дадому, да сваіх блізкіх. [Поп]: *Душа мая возрадавалася пры созерцаніі, како агнцы сіі возрацяшэся в стадо свае.* Т, 51.

Адз. В. *стадо*: Т, 51.

**[СТАЖОК]** *м. Памянш.* Невялікая капа сена, саломы. *Пры ім* [гумне] *стажкі ўжатку, Ня стоўпілісь ў гарудах, - пабачыш з намеку.* ХБ, 28.

Мн. Н. *стажкі*: ХБ, 28.

**СТАЛА** *прысл.* Грунтоўна. [Спічыні]: *Учора мы* [з Мікітам] *збольшага прайшлі аддзел прывітанняў, сягоння павінны іх паўтарыць болей стала.* Т, 31.

**[СТАЛАСЦЬ]** *ж.* Самастойнасць, сур'ёзнасць. [Гануля]: *..скасавалі чыноўніцтва, застаўся* [Мікіта] *без службы і хоць*

*бы што, ні на грош таей сталасці.* Т, 20.

Адз. Р. *сталасці:* Т, 20.

**[СТАЛЕЦЦЕ]** (2) і **[СТАЛЕЦЬЦЕ]** (4) *н. Руск., разм.* **1.** Прамежак часу ў сто гадоў; век. *Але ішлі дні, месяцы, сталеццi. Усё змянілася.* Тж, 15. *..праістнаваў ён* [Віленскі універсітэт] *з лішнім два з паловай сталецьці – да 1842 году..* УПУВ.

**2.** *Тое, што* стагоддзе *ў* 1 *знач. Сама натура, сама яго* [народа] *гісторыя сталеццямі гэтакім ужо выгадавала.* НДН, 19.

Мн. Н. *сталецці*: Тж, 15. Р. *сталеццяў* (3): КП, 170; ПН, 46; Ч, 322. В. *сталецьці*: УПУВ. Т. *сталеццямі*: НДН, 19.

**[СТАЛЁВЫ]** (3) *прым.* **1.** *Тое, што* стальны *ў* 1 *знач. Разам будзем* [ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі] *араць поле Трактарам сталёвым..* ТЗУ, 293. *..Не пачуюць кос пакосы, – Ржа паесць сталёвы косы.* ЗН.

**2.** *перан.* Стойкі, непахісны. *Я* [Купала] *вітаю сардэчнымі словамі паэта нашу магутную Чырвоную армію, якая надзейна і пільна сталёвай аховай вартуе совецкія граніцы..* ЖН.

Адз. м. Т. *сталёвым*: ТЗУ, 293. ж. Т. *сталёвай*: ЖН. Кар. мн. В. *сталёвы*: ЗН.

**СТАЛІНЕЦ** (2) *м.* Паслядоўнік сталінізма. *Беларускі народ не першы год ведае доблеснага сталінца, вернага сына нашай партыі т. Ежова.* НКУС.

Δ **Сталінец-трактар:** *Сталінец-трактар нам без прынукаў Поле араў і сеяў зярняты..* ССА, 294.

Адз. Н. *сталінец*: ССА, 294. В. *сталінца*: НКУС.

**СТАЛІНСКІ** (19) прым. **1.** Які належыць Сталіну. *Засядзе народ у Крэмлі Кліч кінуць на цэлы бел-свет, Пацвердзіць для роднай зямлі Свой сталінскі вечны завет* ТП, 217. // Уласцівы Сталіну. *Радасна жыць пад Крэмлёўскімі зорамі Сталінскай цешыцца ўвагаю, ласкаю.* ДПЛС. *Мы, згартаваныя сталінскай воляй, Смерцю сатром людаедаў..* СЗГ, 252. // Названы ў гонар Сталіна. *Далей, вышай у прасторы Па ураджай з сяўбы багаты Камсамольцы-вярнігоры, Сталінскія арляняты!* СА, 179.

**2.** Створаны Сталіным. *Яны* [трацкісты] *хацелі разграміць нашы фабрыкі і цудоўныя калгасы, якія зажылі светлым, радасным сталінскім жыццём.* ВНЗ.

• **Сталінскія арляняты.**

• **Салінскія арляняты** *гл.* арляняты.

Адз. м. Н. *сталінскі* (2): ВМ, 72; Мц, 75. Р. *сталінскага*: АЧ. В. *сталінскі*: ТП. 217. Т. *сталінскім*: ВВ, 263. ж. Т. *сталінскай* (3): ГВУ; ДПЛС; СЗГ, 252. М. *сталінскай*: ТЗУ, 293. н. Н. *сталінскае*: ЗЯЗ, 90. Т. *сталінскім*: ВНЗ. Мн. Н.

*сталінскія* (8): СА, 178, 179 (3), 180 (2), 181 (2).

**СТАЛІЦА** (3) *ж.* Галоўны горад дзяржавы, дзе знаходзяцца ўрад і ўрадавыя ўстановы. *Дні 10, 11, 12 кастрычніка г.г. астануцца на векі зацертымі ў памяці насяленьня Літоўска-Беларускай сталіцы – Вільні.* УПУВ. // *перан.* Прыгожы горад. *Залацісты пасад красаваўся ў сталіцы, Зіхацела ў ім кожна часьціна, – На пасадзе сядзела цьвет-ночка – царыца... Звалі тыя і сія судзбінай.* Ч, 321-322.

Δ **Хорам-сталіца** *гл.* хорам.

Адз. Н. *сталіца*: Ч, 321. Р. *сталіцы*: УПУВ. М. *сталіцы*: Ч, 321.

**[СТАЛОВАЯ]** *ж.* Прадпрыемства грамадскага харчавання. *..Баця закабальвае рабочых і сістэмай сваіх сталовых, магазінаў, рабочых кватэр.* ПЧ.

Мн. Р. *сталовых*: ПЧ.

**СТАЛЬ** (4) *ж.* **1.** Цвёрды метал серабрыста-шэрага колеру. *Іскрыцца пад молатам сталь, а молат не біў так калісь.* ТП, 215. // У *параўн. Яны* [зоры] *агністымі іскрамі Ў душы распаляцца, як сталь..* СС, 300.

**2.** *перан.* Узбраенне. *..шмат малых народаў ваявалі ці то словам, ці сталлю.* НДН, 18.

Адз. Н. *сталь* (3): БрБ, 6; СС, 300; ТП, 215. Т. *сталлю*: НДН, 18.

**[СТАЛЬНЫ]** (2) *прым.* **1.** Зроблены са сталі. *Цярэбіць стальнаю сякерай Прыблуднік нашыя лясы, Ў свае цянёты вабіць зьвера, Сьвятыя топча верасы.* УрП, 48. *Параўн.* сталёвы *ў* 1 *знач.*

**2.** *перан.* Магутны. *А быў другі* [сын] *і з ног, і з рук, Як гром з жывымі пярунамі. Ў руцэ меў стрэл жалезных пук, І лук стальны меў за плечамі.* Кц, 194.

Адз. м. В. *стальны*: Кц, 194. ж. Т. *стальнаю*: УрП, 48.

**[СТАН]**[1] (5) *м.* **1.** Адведзенае для чаго-н. месца. *А ўся* [разгадка] – *знаёмая: Мае панаваньне У посьце прад Вялікаднем У селянскім стане.* $Ш_3$.

**2.** *Разм., перан.* Кампанія. [Наста]: *Без усякае цэрэмоніі нашаму дзявоцкаму стану канкурэнцыю робіце* [Мікіта]: – *як кокетка, фліртуеце з люстэркам.* Т, 24.

**3.** *Разм.* Саслоўе, сацыяльны слой. *Масы, народ земляробны, асталіся беларусамі, а іх баярства, вышэйшыя станы сталіся палякамі.* Нз, 14. *Вышэйшыя, багацейшыя станы грамадзянства за бліск золата ідуць к дужым, пакідаючы сваіх брацяў слабейшых на здзек і паняверку.* Там жа.

Адз. Д. *стану*: Т, 24. М. *стане*: $Ш_3$. Мн. Н. *станы* (3): Нз,

14 (3).

**[СТАН]²** (2) *м.* Становішча. [Пан]: *Ваша* [Мікіты] *гасціннасць у тыя, цяжкія для нашага стану, часы абавязвала мяне як найхутчэй прывітаць вас ад сябе і ад маіх...* Т, 51. *Беларушчына апынулася ў стане забароненага.* СНБ.

Адз. Р. *стану*: Т, 51. М. *стане*: СНБ.

**[СТАНАВІЦЦА]** (7) *незак.* **1.** Узнімацца на што-н., стаяць на чым-н. *Мікіта становіцца на лаўцы.* Т, 40. *..выцягвае* [Мікіта] *з кішэні чырвоную хустачку, прывязвае да парасона, становіцца на лаўку, .. махае каля галавы парасонам з хусткай і крычыць.* Там жа, 43.

**2.** Занімаць пэўнае становішча. *Становіцца* [Мікіта] *ў позу і напявае..* Т, 32. *..Мікіта прыходзіць да немца, становіцца на адно калена і падае грошы.* Там жа, 33.

**3.**Ператварацца, набываць новыя якасці. *Ідэя будаваньня свайго незалежнага жыцьця паднявольнымі народамі .. сягодня ператвараецца ў жыцьцё, становіцца жывым дзелам, цвёрдым фактам.* БСУ.

◊ **Станавіцца жорсткім комам** – пра спазмы ў горле пры адчуванні моцнай крыўды. *Чужы і свой хлеб становіцца жорсткім комам І душыць кліч: ці будзе нам заломам Варшава панская і царская Масква.* НГ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *становіцца* (7): БСУ; НГ; Т, 32, 33, 40, 42, 43.

**[СТАНЕЦЬ]** *зак. Польск. перан.* Абясцэніцца. *Штось срэбнікаў з трыццаць – як піша ў законе – Узяў за Хрыста калісь Юда... Аб гэтай цане ані снім мы сягоння: Станела ўсё – душы і цуды.* Р.

Абв. пр. адз. н. *станела*: Р.

**СТАНКЕВІЧЫ** *мн.* Прыхільнікі Станкевіча. *Луцкевічы, Станкевічы і т.д. служаць адзінай мэце адарваць Савецкую Беларусь ад Савецкага Саюза і кінуць яе ў паднявольле..* ШБСЯ.

Н. *Станкевічы*: ШБСЯ.

**СТАНОВІШЧА** (11) *н.* **1.** Абставіны, выкліканыя якімі-н. умовамі. *Становішча прамысловасці Чэхаславакіі, яе сістэму лепш за ўсё характарызуе "абутковы горад" Баці ў Зліне.* ПЧ. [Мікіта]: *Становішча, меджду протчым, пане мой, абавязвае.* Т, 21.

**2.** Абставіны грамадскага жыцця. [Мікіта]: *Пры сучасным палітычным і эканамічным становішчы Расійскай, меджду протчы, імпэрыі няможна йначай.* Т, 45.

**3.** Месца ў грамадстве. [Мікіта]: *..у вас* [Ганулі] *няма гандлярскай жылкі, У вас не хапае нават чуткай кемнасці ў ган-*

*длёва-прамысловых справах, дзе вымагаецца ад прадаўца пэўнай веды ў пазнаванні душы купляючага і яго грамадзянскага і соцыяльнага становішча.* Т, 34. [Янка]: *Цікава толькі, як гэта вы* [Мікіта] *з сваім апошнім саўбураўскім становішчам дапасуецеся да самай навейшай палітычнай сытуацыі, што круціцца ўжо каля Пярэспы?* Там жа, 48. // Роля ў якой-н. галіне дзейнасці. [Мікіта]: *Гэта, пане профэсар, ёсць вынік майго апошняга, меджду протчым, службовага становішча і апошняй палітычнай сытуацыі..* Т, 48. *У 1890 г. ён* [бацька] *развітваецца часова са становішчам найміта ў маёнтках і пераязджае ў Мінск..* А, 328.

Адз. Н. *становішча* (3): Т, 21 (3). Р. *становішча* (3): Т, 34 (2), 48. В. *становішча*: ПЧ. Т. *становішчам* (2): А, 328; Т, 49. М. *становішчы* (2): Т, 21, 45.

**СТАНОК** *м.* Машына для апрацоўкі ці вырабу чаго-н. *Заместа прыбітых балесных жанок Стаханаўкі выраслі ў нашай краіне, Іх ведае поле, рабочы станок.* ПБН.

Адз. Н. *станок*: ПБН.

**СТАНОЎЧА** *прысл.* Дадатна, добра. *..мы чакаем таго, каб яна* [польская ўлада] *станоўча зазначыла сваю палітыку на Беларусі..* ОШМ.

**СТАНУЦЬ** (2) *незак. Польск.* **1.** Прадстаць. *У адным з псалмаў біблейскіх сказана: “стануў Бог у зграмаджэнні Багоў і паміж Багамі суды судзіць”.* ПЛП.

**2.** *Тое, што* стаць *у* 4 *знач.* [Мікіта]: *Уся бяда была ў тым, што я не ўгадаў, на якую, меджду протчым, стануць пляцформу..* Т, 46.

Інф. *стануць*: Т, 46. Абв. пр. адз. м. *стануў*: ПЛП.

**[СТАНЦЫЯ]** *ж.* Месца прыпынку паяздоў і іншых транспартных сродкаў. *..калеі на такіх буйных станцыях, як Слонім, Беласток, пазарасталі травой.* ПЧ.

Мн. Н. *станцыях*: ПЧ.

**[СТАПА]** (2) *ж.* Адзінка падліку пісчай паперы, роўная 1000 лістоў. *.. агулам надрукавана 268.050 кніг у ліку 2.036. 527 друк. аркушаў. Гэта складае 2120 рэзаў (стоп) паперы; лічачы ў сярэднім па 50 фунт. стану, атрымаем 2650 пуд. ..* ВСп, 91.

Адз. В. *стапу*: ВСП, 91. Мн. Р. *стоп*: ВСп, 91.

**[СТАРАДАЎНЫ]** *прым.* Які вельмі даўно мінуў. *Забабон старадаўнаму славяніну загадваў, каб жонка ішла з мужам разам у магілу..* З.

Адз. м. Д. *старадаўнаму*: З.

**СТАРАНА** (20) *ж.* **1.** Краіна. *Сваёй забранай старане, Скаванай мучаніцы-княжне, Ўзнясуць пасад на кургане На па-*

*наваньне недасяжне.* Кц, 196. *Гэй, паехаў сын Даніла Ваявацъ на вайну, Ад нападу, ад няволі Бараніць старану.* ПСД. // Мясціна, край. *Выпраўляй* [маці] *яго* [сына] *у людзі, На дарогу блаславі, Разам з крыжам дай на грудзі Роднай вузельчык зямлі: Каб ня даўся ў крыўду зьдзекам, Не забыў сваіх старон..* М, 20. *На сход, незвычайны свой сход, Да новых нявіданых дзён Ідзе наш савецкі народ З далёкіх і блізкіх старон.* ТП, 217.

**2.** *перан.* Становішча па-за развіццём чаго-н. *Не старайся зямли, хаця-бы и купиць, бо са стараны часам могуць падумаць, што дамагаешся "зямли и свабоды"..* СП.

**3.** Група людзей, якая супрацьстаіць другой групе. *Беларускае баярства, за панскія шляхоцкія значкі і цёплыя каля трона месцы, пачало выракацца свайго роднага, беларускага і перакульвацца на старану чужую, польскую.* Нз, 14. *..мы павінны..моцна трымаць сьцяг змаганьня за свае вызваленьне, за незалежнасьць сваёй бацькаўшчыны Беларусі. І пабеда будзе на нашай старане.* СНБ.

**4.** Якія-н. рысы, уласцівасці, асаблівасці. *Гэтые дзьве рэволюцыі* [соцыяльная і нацыянальная] .. *найболей праявілі свае добрые і благіе староны, як гэта ня дзіўна – на беларускай зямлі.* СНБ.

• **У чужой старане.**

◊ **Кідаць кліч на староны** *гл.* кідаць. **На ўсе чатыры стараны** – паўсюдна. *Трутнёў ня будзеце забавай, Краіны вольнае сыны, Прамчыцца бурна ваша слава На ўсе чатыры стараны.* УрП, 50. **Са стараны** – адкуль-н., не з дадзенага месца. *На помач са стараны малая надзея, калі ідзе на цэлым сьвеце крывавае змаганьне за істнаваньне цэлых народаў, цэлых гасударстваў.* ВС.

Адз. Н. *старана* (2): УрП, 51, 52. Р. *стараны* (3): ВС; Нз, 14; СП. Д. *старане*: Кц, 196. В. *старану* (2): Нз, 14; ПСД. Т. *стараной*: УрП, 48. М. *старане* (3): СНБ; ЧС, 50-51 (2). Мн. Р. *старон* (4): ВБЛ, 81; Кз, 17; М, 20; ТП, 217; *старонаў*: НГд, 8. В. *стараны*: Урп, 50; *староны* (2): СНБ; Тж, 16.

**СТАРАННА** *прысл.* Дбайна, рупліва. *..абрабляюць глебу сяляне старанна: за баронамі ідуць з адмысловымі даўбежкамі, разбіваючы імі ўсе груды.* ПЧ.

**[СТАРАНЬНЕ]** *н.* Стараннасць, руплівасць у якой-н. справе. *Што мы сваім стараньнем зробім – тое толькі будзе мець для нас вагу і цану.* ВС.

Адз. Т. *стараньнем*: ВС.

**СТАРАСЦЬ** (4) *ж.* Перыяд жыцця пасля сталасці, калі паступова адбываецца аслабленне дзейнасці арганізма. [Га-

нуля]: *А мне ўжо старасць на носе.* Т, 20. [Гануля]: *Дзе там тое шчасце пры маёй старасці?* Там жа, 57.

◊ **На старасці** – у пажылым узросце, у старыя гады. [Бацька:] *Выгнаў на старасці з хаты сатрапа, Выгнаў бадзяцца галоднаму ў горы..* Бц, 74.

Адз. Н. *старасць*: Т, 20. В. *старасць*: Т, 54. М. *старасці* (2): Бц, 74; Т, 57.

**[СТАРАСЬВЕЦКІ]** (3) *прым.* **1.** Не сучасны па спосабу жыцця, звычках. *З кашмарамі спадчыны няудачнага мінулага паузе у пары паганы забабон і хіхікае з-за вугла ў вочы, строіць жарты, – над кім? Над жывым старасьвецкім народам...* З.

**2.** Які адпавядаў патрабаванням свайго часу. *Духі мінуўшчыны куцьцю На старасьвецкі лад спраўляюць.* Кц, 193. *..скрозь каля поля .. стаяць вялікія цяжкія калоды. Гэта – старасьвецкай будовы вульлі для пчол.* ХБ, 30.

Адз. м. В. *старасьвецкі*: Кц, 193. Т. *старасьвецкім:* З. ж. Р. *старасьвецкай*: ХБ, 30.

**СТАРАЦ** (7) *м.* **1.** Стары чалавек. *Яшчэ і цяпер старыя людзі вам раскажуць аб тых спакрыўджаных і спакутаваных старцах, якія ўсё жыццё сваё загубілі пад вечнымі палкамі палачнага цара Мікалая 1.* БВ, 16.

**2.** Манах, духоўны настаўнік веруючых. *Аўтарнымі слугамі багоў гэтых* [Сонца, Пяруна, Каляды і інш.] *былі варажбіты-вешчуны – старцы мудрыя: і ў справах божых кемкасць маючыя.* Кз, 17. *Намыліліся старцы мудрыя: па іх касцях закрасаваў новы ўсемагутны Бог, сталі легіёны аўтарных служыцеляў хвіміямы яму курыць..* Там жа, 17.

Адз. Н. *старац*: УрП, 51. Мн. Н. *старцы* (4): Кз, 17 (3); УрП, 50. В. *старцаў*: Кз, 17. М. *старцах*: БВ, 16.

**[СТАРАЦЦА]** (16) *незак.* **1.** Праяўляць стараннасць, руплівасць у якой-н. справе. [Мікіта]: *Вы толькі, меджду протчым, мамаша, адказвайце, як я вас вучыў, .. А важней за ўсё старайцеся як найгусцей у нос.* Т, 22.

**2.** *з інф.* Імкнуцца дасягнуць, дабіцца чаго-н.; прыкладаць намаганне да чаго-н. *..паны-абшарнікі стараюцца як мага перагнаць загоны малых і вялікіх двароў на царскія рублі.* ЗС, 17. *І тые і гэтые* [соцыяльныя і нацыянальныя рэволюцыянеры] *ў сваім мілітарна-імпэрыялістычным паходзе стараюцца сьцерці па дарозе ўсё, што ім стаіць на перашкодзе дзеле дасьціжэньня сваіх мэт.* СНБ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *стараецца* (2): СНБ; Т, 19. Мн. 3 ас. *стараюцца* (9): ВМР (2); ВР; ДК; ЗС, 17 (2); СНБ (3). Пр. адз.

м. *стараўся*: ЛР. Мн. *стараліся*: БС. Заг. адз. 2 ас. *старайся*: СП. Мн. 2 ас. *старайцеся* (2): Т, 22 (2).

**СТАРАЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* старацца *ў* 2 *знач. Пранікаючы і стараючыся паступова прыбіраць у свае рукі найадказьнейшыя вучасткі Савецкага дзяржаўнага апарату.., контррэвалюцыйныя нацыянал-дэмократы спадцішка, але няўхільна, падточвалі соцыялістычныя элементы совецкае дзяржаўнасьці, падменьваючы іх нацыяльна-буржуазнымі.* АЛ.

**[СТАРОНКА]**[1] (2) *ж.* Адзін з двух бакоў ліста (у кніжцы). *У шасьці надрукаваных за мінулы год выпусках "Вестник" удзяліў 186 старонак для беларускага пісьменства.* ВСп, 90. *Але ўсё-ж такі дзякуй і за гэтыя старонкі, якія так адважна друкуе ў сябе тутэйшы "Вестник".* Там жа, 90. *Параўн.* страніца.

Мн. Р. *старонак*: ВСп, 90. В. *старонкі*: ВСп, 90.

**СТАРОНКА**[2] (4) *ж. Ласк. да* старана *ў* 1 *знач. Нас гадавалі віхры і ночкі, Крыўдай паілі нас ад пялёнкі – Толькі-ж паппросту мы не йшлі ў прочкі з роднай старонкі.* Пп, 5. *Я ведаю, знаю старонку такую, Спавітую ў вечны туман, Пад цёмнымі зорамі днюе, начуе, Ляжыць на кургане курган.* ЗК, 42.

Адз. Н. *старонка* (2): Т, 56; ХБ, 28. Р. *старонкі*: Пп, 5. В. *старонку*: ЗК, 42.

**СТАРШЫ** *прым. У знач. наз.* Больш стары па ўзросту. *Аставаўся толькі старшы* [сын] *Гаспадарыць дома, Бо ат тых* [меншых сыноў] *быў гаспадаршы, Хоць быў ў іх за лома.* Дз, 190.

Адз. м. Н. *старшы*: Дз, 190.

**СТАРШЫНЯ** (8) *м.* **1.** Кіраўнік некаторых органаў. [Мікіта]: *Ужо нават едзе і старшыня Беларускага Рэўкому Чарвякоў – толькі затрымаўся недзе за Менскам на папаску.* Т, 55. *Яны – трактарысткі, яны – брыгадзіры, З іх многа у нашых советах старшынь.* ПБН.

**2.** *Тое, што* старшы *ў* 2 *знач. Работніцы перадалі старшыні дэлегацыі т. Кальцову букет чырвоных кветак.* ПЧ. *Не магу не сказаць* [Купала] *пра вельмі светлае ўражанне ад сяброўскага яднання з членамі нашай дэлегацыі, асабліва з старшынёй дэлегацыі, т. Кальцовым..* Там жа.

**3.** У саставе афіцыйнай назвы кіраўніка вышэйшых дзяржаўных органаў. *Я* [Купала] .. *вітаю старшыню Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Советаў – Аляксандра Грыгор'евіча Чарвякова.* ЖН.

• **Старшыні ЦВК СССР і БССР т. Чарвякову.**

Адз. Н. *старшыня* (2): СЧ; Т, 55. Д. *старшыні* (2): ПЧ; СЧ.

В. *старшыню*: ЖН. Т. *старшынёй* (2): ПЧ; СНБ, 338. Мн. Р. *старшынь*: ПБН.

**СТАРЫ** (50) *прым.* **1.** Які пражыў шмат год, дасягнуў старасці. .. *нязначны час вучыўся* [Купала] *ў Менску ў прыватнай падрыхтоўчай школе: нейкі стары чалавек падрыхтоўваў групу вучняў у навучальныя ўстановы.* А, 328. // *У знач. наз.* [Гануля]: *А бадай вы пакіслі, мае дзеткі! І старую ў грэх ведзіцё.* Т, 54. *Паважна старыя вітаюць наркома, Падносяць хлеб-соль, караваі і мёд.* НДп, 229. *Параўн.* старык. // Які налічвае шмат гадоў (пра дрэвы). *Часамі яны* [калоды] *стаяць на зямлі, часамі ўмацованы на дрэве; іншы стары дуб бывае абвешаны гэтымі калодамі...* ХБ, 30.

**2.** Які даўно ўзнік, існуе доўгі час. *Пры гэтым вышуківаюцца спосабы аткуль і як дабываць грошы на гэтые расходы. Спосабы ёсьць два: або пажычыць у суседоў, або падвышыць старые ці прыдумаць новые налогі.* ВН. // Даўно вядомы. *Аўтары тут – нашы старыя знаёмыя: Багушэвіч Францішак, Бядуля Зьмітрок, Гартны Цішка..* ВСп, 89. [Начальнік]: (*да Спраўніка і Дамы*). *І вы, здаецца, мае старыя знаёмыя?* Т, 61. // Адвечны. *Закалосіцца поле слязой, потам злітае, Зашуміць сваю думу старую.* ТС, 74.

**3.** Які стаў несапраўдным пасля пэўнага тэрміну. [Начальнік]: *Вашы* [Мікіты] *дакумэнты!* [Мікіта]: *Якія – старыя ці новыя? Старыя во дзе – у гэтых портфэльчыках.* Т, 60.

**4.** Даўно мінулы (пра час). [Груган:] *Лепш мне быў той час стары, Мой ты воўча любы.* Пц.

**5.** Пра прайшоўшы год. *На Беларусь ідзеш, Год Новы, На змену йдзеш Старому Году..* НГд, 8.

**6.** Уласцівы ранейшаму ладу, рэжыму. *Стары правапіс .. трымаў беларускую мову ў палоне правінцыяналізма, у рамках нацыялістычнай абмежаванасці.* ШБСЯ. // *У знач. наз.* *У нашу векапомную эпоху гэроічнага змаганьня пролетарыяту за вызваленьне працоўных з-пад няволі капіталізму, калі пролетарыят усё старое ніштожыць і на руінах гэтага старога будуе новае соцыялістычнае існаваньне, – праступна ўваскрашаць мінулае..* АЛ.

**7.** Зроблены даўней і які захаваўся да гэтага часу. *Досыць зірнуць толькі вокам на старую лінію нямецка-расійскіх акопаў, каб пабачыць, якога жудаснага разбурэньня на сотні квадратных міль даканала чалавечая рука..* АБ, 16.

• **Стары стыль** *гл.* стыль. **Стары сьвет** *гл.* сьвет.

◊ **Стары і малы (стар і мал)** – усе. *Каб хлынула полымя праўды з грудзей, Што ў думках здаўна мы гадуем: Старым

*і малым такой песьняй запей, – Хоць раз хай аб шчасьці пачуем!* Пр. *А йшчэ скажам: як што прыдзе, Як нам зробяць шкоду, – Стар і мал, усе з ім разам Пойдзем у паходы.* НК.
**Старым парадкам** *гл.* парадак**.**

Адз. м. Н. *стары* (12): А. 328; ВБЛ, 81; ГЖУ; Ж; НГд,8; Пц; СНБ, 336, 337; Т, 20, 39; ХБ, 30; ШБСЯ. Р. *старога* (2): А, 327; СТ. Д. *старому*: НГд, 8. В. *стары*: ВМР. Т. *старым*: Кц, 198. ж. Р. *старой*: Т, 58. В. *старую* (3): АБ, 16; Т, 54; ТС, 74. н. Н. *старое* (2): Г, 17; Кц, 194. Р. *старога* (3): АЛ; ДК; Кц, 198. В. *старое*: АЛ. Мн. Н. *старыя* (8): БВ, 16; ВСп, 89; Кз, 17; НДп, 229; СС, 302; Т, 60 (2), 61; *старые*: ЗК, 42. Р. *старых* (4): Д, 73; ВН; Кз, 17 (2). Д. *старым*: Пр. В. *старых*: УрП, 52; *старыя* (3): Г, 17; Т, 60; Ч, 322; *старые* (2): ВМР; ВН. Кар. адз. м. Н. *стар* (3): Д; Кц, 194; НК.

**[СТАРЫК]** *м. Руск. Тое, што* стары *ў* 1 *знач. У гэтыя грозныя дні, калі п'яныя дзікуны .. забіваюць старыкоў, жанчын і дзяцей, я* [Купала] *ўсю сваю мужнасць аддаю вам, сыны нашага вялікага народа!"* РКп.

Мн. В. *старыкоў*: РКП.

**СТАРЭЙШЫ** (4) *прым.* Той, якому больш гадоў у параўнанні з кім-н., самы дарослы сярод каго-н. *Над старэйшым братам ставіў* [меншы брат] *Стражы і запоры, Цела ранамі крывавіў, Зьдзекаваўся ў горы.* Дз, 190. [Гарошка]: *Тады ўсе мужчыны і ўсе кабеты, найболей старэйшыя, паклаліся ўпоперак вуліцы: "Хай высяляюць! – сказалі сабе гэтак..* Т, 43.

Адз. м. Н. *старэйшы*: УрП, 49. Т. *старэйшым*: Дз, 190. н. Н. *старэйшае*: ВГР. Мн. Н. *старэйшыя*: Т, 43.

**СТАСОЎНА** *прысл.* Адпаведна. *Так сама маніцца урад зрабіць новую пераацэнку зямлі і падвышыць, стасоўна да яе вартасьці, гасударственны пазямельны налог.* ВН.

**[СТАТАК]** *м.* Жывёлы, якія пасуцца гуртам. *Спрадвеку мы у родным краю гаспадарым, – Свае загоны сеем, пасцім статак свой..* НГ.

Адз. В. *статак*: НГ.

**[СТАЎЛЯЦЬ]** (3) *незак. Разм.* Змяшчаць дзе-н. *Вымае* [Мікіта] *з кошыка, то стаўляе назад бутэлькі.* Т, 58. [Мікіта]: (*..да Ганулі*). *Кідайце сюды ў павозку бялізну, а наверх стаўляйце начоўкі..* Там жа, 50.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *стаўляе* (2): Т, 21, 58. Заг. мн. 2 ас. *стаўляйце*: Т, 50.

**СТАЎЛЯЮЧЫ** *дзеепрысл. да* стаўляць. [Мікіта]: (*стаўляючы кошык з пакупкамі і кладучы на стале рэвальверы..*) Т, 58.

**СТАЎШЫ** (2) *дзеепрысл.* **1.** *Дзеепрысл. да* стаць *ў* 1 *знач.* [Мікіта]: (*стаўшы перад немцам на калені*). *Оей! Гэр гэрманіш, кіндар фатэрлянд!* Т. 33.

**2.** *Дзеепрысл. да* стаць *у* 6 *знач. Стаўшы самі нарауне паміж усіх народаў, мы* [беларусы] *зможам ім сказаць: ідзём з вамі "як роўна з роўным".* БСУ.

**СТАХАНАВЕЦ** (2) *м.* Перадавы працаўнік у СССР у 30–40 г.г. *З табою* [трактарам] *паедзе Стаханавец новы, Гэткі ўдалы, стройны, Стройны, светлабровы.* ПТ, 208. *Ад казахскага чабана да прафесара, ад беларускага пастуха да стаханаўца – усё насельніцтва будзе ўдзельнічаць у адзіна дэмакратычных у свеце выбарах.* ГВУ.

Адз. Н. *стаханавец*: ПТ, 208. Р. *стаханаўца*: ГВУ.

**[СТАХАНАЎКА]** *ж. Жан. да* стаханавец. *Заместа прыбітых балесных жанок Стаханаўкі выраслі ў нашай краіне, Іх ведае поле, рабочы станок.* ПБН.

Мн. Н. *стаханаўкі*: ПБН.

**СТАХАНАЎСКІ** *прым.* Звязаны з масавым рухам стаханаўцаў. *Магутнай ракой перакідваючыся з завода на завод, з фабрыкі на фабрыку, з калгаса ў калгас пацёк-разліўся стаханаўскі рух на нашай радзіме.* СТ,

Адз. м. Н. *стаханаўскі*: СТ.

**СТАЦЦА** (10) *зак.* Адбыцца, здарыцца. *Гэта папраўдзе, як і ў песні спяваецца: "А ў Слуцку на рыначку сталася праява!"* МІ, 17. *Вялікая сталася ў свеце прыгода Пад Сталінскім сцягам удалым: Заззяла ўрачыстае свята народаў, Якога ў вяках не бывала.* ВВ, 263. // *Разм.* Зрабіцца. *Тут з гэтых кніг павінны мы адмеціць "Методыку арытметыкі" Лукашэвіча і Валасковіча, якая павінна стацца незамененай падручнай кніжкай кожнага настаўніка..* ВСп, 89. *Масы, народ земляродны, асталіся беларусамі, а іх баярства, вышэйшыя станы сталіся палякамі.* Нз, 14.

Інф. *стацца* (2): ВСп, 89; Т, 48. Абв. пр. адз. ж. *сталася* (3): ВВ, 263; МІ, 17; Нз, 14. Мн. *сталіся* (3): ДПЛС; Нз, 14; СС, 301. Буд. адз. 3 ас. *станецца*: ТП, 217. Заг. адз. 2 ас. *станься*: Ч, 323.

**СТАЦЦЯ** (8) і **[СТАЦЬЦЯ]** (4) *ж.* **1.** Артыкул. *І я пачаў пісаць стацці, пісаць аб Антанце.* Ан, 19. *Прошлы раз я* [Купала] *ўжо выясьніў, на сколькі гэта магчыма было ў кароткай газэтнай стацьці, як бальшавікі то тварылі, то касавалі незалежную Беларусь...* СНБ.

**2.** Самастойны раздзел, параграф у юрыдычным дакуменце. *Абвиняюць* [вучыцелёў] *па 126 ст.<ацьці> па першай*

*часьци.* ВД. *Усе гэтые новые налогі і падвышэньне старых урад праводзіць па 87 стацьці асноўных законаў.* ВН.

**3.** *Разм.* Справа, занятак. [Мікіта]: *Бо гэта будзе самая цяпер даходная стацця.* Т, 58. [Мікіта]: *Гэта* [качарэжкі] *таксама даходная стацця, прытым яны мне нічога не каштуюць..* Там жа, 58.

Адз. Н. *стацця* (2): Т, 58 (2). Р. *стацці*: Ан, 19. В. *стаццю* (2): Ан, 19 (2); *стацьцю*: ЧЧШ. Т. *стаццёй*: Ан, 19. М. *стацьці* (2): ВН; СНБ; *ст.<ацьці>*: ВД. Мн. В. *стацці* (2): Ан, 18, 19.

**СТАЦЬ** (65) *зак.* **1.** Ступіўшы на якое-н. месца, спыніцца. *Як той лес, жаўнер Ля жаўнера стаў, Зброя ў сонцы йграе..* ВБ. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, я залезу сюды, а вы станьце так, каб мяне заланіць.* Т, 52.

**2.** Запыніцца, спыніць рух (пра чалавека). [Начальнік патруля]: *Стаць! Ні з месца! Рукі ўверх!* Т, 59.

**3.** *перан.* Падняцца для барацьбы з кім-н. , на абарону чаго-н. *Станем к змаганьню мы з ведзьмаю-крыўдай Дружна, адважна, плячо ў плячо..* Г, 17.

**4.** *перан.* Заняць якую-н. пазіцыю ў адносінах да каго-, чаго-н. *Ідзеш* [Новы Год] *у край, які бязбожна Жыўцом парэзалі на часці, А брат проць брата стаў варожна І памагае край раскрасці.* НГд, 8.

**5.** Узнікнуць, з’явіцца. *Яны – трактарысткі, яны – брыгадзіры, З іх многа у нашых советах старшынь. Іх тысяча стала, адданых і шчырых На працы на кожнай, дзе вокам ні кінь.* ПБН. *І вось сягоньня стане трэцяя армія на гэтых* [беларускіх] *гонях – армія беларуская.* БСУ.

**6.** Зрабіцца. *Цяпер бабія ў разьвяз вузелкі, Ўсе з вайной у расходзе мужыкі; На бязмужжы і дурань муж, Ды і дораг стаў дурань к таму-ж.* ВБЛ, *83.* І ўсё вы [бальшавікі] *ўзялі, ўсё як ёсць: Фабрычны дым, сяўбы загон І панскі двор, і царскі трон... Ды стала ўсё вам гэта ў злосць...* ПВ. // *у безас. ужыв. І стала так, як старац гэты Сказаў пакорнай грамадзе, – Аўтар заняўся перасьветам, Ад песьні розгалас ідзе.* УрП, 51.

**7.** *безас., каго-чаго* (*толькі з адмоўм*). Перастаць існаваць, памерці. *Было двое іх* [дзяцей] *– двое – помніш* [матуля]*? А ня стала ні аднаго.* ВБЛ, 81. *...Не стала Кірава ... Без часу смерць скасіла... Герой загінуў ад варожай здрадніцкай рукі...* СК, 158. // Знікнуць. *Не стане тых меж і граніц, Што дзеляць народы сабой, Заціхнуць гарматы байніц, Не ўгнояцца нівы крывёй.* ТП, 216.

**8.** Ужываецца ў саставе выказніка ў значэнні: зрабіцца кім-, чым-н. *..людзі такія ў нас, што сапраўды кожны з іх*

*можа стаць героем у любы час, у любы міг..* ЖН. *Хай жа гэтая* [беларуская] *армія стане абаронай свае Айчыны!* БСУ.

**9.** Выкарыстоўваецца ў саставе дзеяслоўнага выказніка ў значэнні дзеяслова пачаць. *Даўно было – мо тысячу год назад, а мо яшчэ болей, - як сталі жыць, размнажацца і ў славу расці ўдалыя прашчуры нашы – дрэговічы, крывічы і палачане.* Кз. 17. *Мала-памалу заморскія госці сталі прывозіць з сваімі заморскімі скарбамі і думкі іншыя..* Там жа, 17.

• **Што было сном, тое стала явай.**

◊ **Пад сьмерць стаць –** загінуць. *Чагось чакалі грамадзяне, Ў вачох палаў надзеі жар, – Пад сьмерць, здаецца, кожны стане, Адвагай мятусіўся твар.* УрП, 47. **Стаць на грунт** (3) – акрэсліцца ў сваіх планах, справах. [Мікіта]: *Меджду протчым, вы напамыкаеце, сябра беларус, каб я стаў не на свой, а на ваш – беларускі, хэ-хэ-хэ! грунт.* Т, 48. *..справа назалежнасьці Беларусі цяпер стане на цьвёрдым грунце..* СНБ.

Інф. *стаць* (6): ЖН; Нз, 14; ПВ; Пп, 5; Т, 59; ШБСЯ. Абв. пр. адз. м. *стаў* (14): АЛ; ББ; БрБ, 6; ВБ; ВБЛ, 80; М, 20; НГд, 8; ПБН; ПДз; ПНд, 47; СНБ, 339; Т, 48; УрП, 47; Ч, 323. ж. *стала* (10): БВ, 16; ВБЛ, 81; ПБН (2); ПВ; СК, 158; УрП, 51; ШБСЯ (3). н. *стала* (6): ДПЛС; ЖН; ПБН; ПДз; ПНд, 47; ШБСЯ. Мн. *сталі* (9): БВ, 17; ВР; Дз, 190; Кз, 17 (3); МПв, 220; ПБН; Ч, 320. Буд. адз. 1 ас. *стану* (2): Вб, 236; СМ. 3 ас. *стане* (11): БСУ (2); М, 20; СМ; СНБ, 339; СНБ; ТП, 216; УрП, 47, 50; Ч, 319, 323. Мн. 1 ас. *станем* (2): Г, 17; ХЛВ, 315. 3 ас. *станцуць*: Дз, 192. Заг. адз. 2 ас. *стань* (3): БрБ, 6; ПЛП; ПТ. Мн. 2 ас. *станьце: Т, 52.*

**СТАЦЬЦЯ** *гл.* **СТАЦЦЯ.**

**[СТАЯЦЬ]** (44) *незак.* **1.** Знаходзіцца на нагах, не рухаючыся з месца (пра чалавека, жывёлу). [Гануля]: *А чаго ж мы стаім?* Т, 25. *Так хваляваўся гмін народны, Пад высяй, дзе я стаяў, Дзень варажыўся быць лагодным, Вей-вецер воблачкі зганяў.* УрП, 82. // Апынуўшыся перад кім-н., знаходзіцца ў пэўным стане. *Я стаю каля парога і трасуся.* Ан, 19. // Пра мэблю. [С.Меч]: *Мой пісьменны стол стаяў каля акна, каторае выходзіла ў сад..* ХБ, 29.

**2.** Быць нерухомым (пра транспартныя сродкі). *Дзе-нідзе на іх* [станцыях] *стаіць пара-другая вагонаў.* ПЧ.

**3.** Быць адзначаным, надрукаваным. *..на расійскай палавіне слоўніка стаіць: Абсциса, Факториал, на беларускай – Абсцыса, Фактарыял.* ВСп, 89.

**4.** Займаць баявую пазіцыю. *Дзьве вялікіе, ня нашые арміі стаяць адна проці другой на беларускіх гонях.* БСУ.

**5.** Быць, знаходзіцца на якой-н. ступені, узроўню па свайму становішчу, значэнню. *Дзеля гэтага вось права нацыянальнай меншасці павінна стаяць у нас нараўне (прапарцыянальна) з правам нашай беларускай большасці.* НДН, 19. [Мікіта]: *..хачу я, каб яны* [госці] *ведалі, што і радня мая не ніжэй стаіць ад іхняй радні.* Т, 22.

**6.** *перан.* Быць перакананым у чым-н., прытрымлівацца чаго-н. *..гэту рэформу зацвердзіў совецкі ўрад, за гэту рэформу стаяла наша большэвіцкая партыя..* ШБСЯ.

**7.** *перан.* Адстойваць якую-н. пазіцыю. *..мы – "рускіе дэмократы" заўсёды стаялі і стаім за раўнапраўе ўсіх народаў.* З.

**8.** Знаходзіцца, размяшчацца дзе-н. *..на краёх лесу, каля лугоў, што заліваюцца ў разводзьдзе, стаяць вялікія цяжкія калоды.* ХБ, 30.

**9.** Мець патрэбу ў разглядзе, вырашэнні. *На першай чародзе стаіць у нас пытаньне, як забяспечыцца перад магчымай нестачай харчоў для сябе і для жывёлы.* ВС.

**10.** *перан.* Трымацца на якім-н. узроўні. [Мікіта]: *..схаджу на мінутку на Койданаўскую вуліцу паслухаць, як там стаіць курс на валюту.* Т, 34.

**11.** Займаць пэўнае становішча ў якой-н. сферы дзейнасці. *Вялікае давер'е, аказанае партыяй да савецкіх пісьменнікаў, якія стаялі па-за пралетарскімі пісьменніцкімі організацыямі, само сабой абавязвае іх апраўдаць гэта давер'е і тварыць рэчы, годныя нашае вялікае эпохі.* ДНСП.

**12.** *Разм., перан.* Патрабаванне перастаць гаварыць, дзейнічаць. [Мікіта]: *Меджду протчым, мадам-сіньёра і вашародзіе, сядзеце або стойце спакойна: вы мае госці і вам волас з галавы не спадзе.* Т, 59.

◊ **Стаяць на варце** (2) – адстойваць, абараняць што-н. [Мікіта]: *Як істы рускі патрыот, я змушаны пакуль што стаяць тут на варце сваіх рангавых і рускаісціных інтарэсаў.* Т, 37. [Мікіта]: *Мы цвёрда стаялі на варце святога расійскага самаўладзтва і баранілі тутэйшую рускую народнасць ад "інародчаскага засілля".* Там жа, 21. **Стаяць на цвёрдым грунце** – прытрымлівацца якіх-н. прынцыпаў. *А зроблена гэта з тактычных мэтаў, назадзёр беларускай "буржуазіі", якая стаіць на грунце незалежнасці свайго краю.* СНБ, 339. **Чорнае на белым стаіць (чорнае па беламу стаіць)** *гл.* чорны.

Інф. *стаяць* (6): НДН, 19; Нз, 14; ТП, 216; Т, 37, 40, 44. Абв. цяп. адз. 1 ас. *стаю* (2): Ан, 19; Т, 42. 3 ас. *стаіць* (17): БН, 92; ВС; ВСп, 89; ДЖ; Кц, 192; ПЧ; СБНГ; СНБ, 338; СНБ;

Т, 21, 22, 34, 40, 61 (2); УрП, 49; ХЛБ. Мн. 1 ас. *стаім* (3): Бч, 9; З; Т, 25. 3 ас. *стаяць* (6): БСУ; ХБ, 29 (2), 30 (2); ШБСЯ. Пр. адз. м. *стаяў* (4): СНБ, 338; ТП, 215; УрП, 47; ХБ, 29; *стаял*: Т, 32. ж. *стаяла* (3): Ан, 19; ВБЛ, 80; ШБСЯ. Мн. *стаялі* (4): ДНСП; З; Т, 21 (2). Заг. мн. 2 ас. *стойце:* Т, 59.

**СТВАРАЦЬ** (4) *незак.* **1.** Утвараць, фарміраваць. *..праводзіцца* [нацыянальна-культурная палітыка] *недалёка ад нас – за пагранічнымі слупамі, дзе ня толькі не ствараюць акадэмій, а разбураюць нават беларускія школы..* ГНД. *Гэтые* [расійскія бальшавікі] *заўзятые праціўнікі найменшага праяўлення нацыянальнага будаўніцтва .. стваралі “незалежные” рэспублікі, як напр. Беларускую, Украінскую.* СНБ.

Інф. *ствараць*: СНБ. Абв. цяп. мн. 3 ас. *ствараюць* (2): ГНД; СНБ, 339. Пр. мн. *стваралі*: СНБ.

**[СТВАРЫЎШЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* стварыць *у 1 знач. Яго* [стаханаўскі рух] *спарадзіла мудрая палітыка рабочага класа, стварыўшая новае радаснае жыццё..* СТ.

Адз. ж. Н. *стварыўшая*: СТ.

**СТВАРЫЦЬ** (13) *зак.* **1.** Зрабіць існуючым. *Думкаю-песняй твaё* [Сталіна] *імя славіць Народ беларускі свабодны За беларускую нашу дзяржаву, Якую стварыў ты нам, родны!* СС, 302. // Пакласці пачатак чаму-н. *Стварылася ў той час польская армія, узышоўшы на землю польскую, стварыла пакладзівы для цяперашняй польскай арміі.* БВ, 16. *Вы* [Усход і Захад] *стварылі ўсясветную вайну за свае кішанёвыя інтарэсы.* Тж, 15. // Напісаць, скласці (музычны твор). *..стварыў* [Рагоўскі] *музыку да слоў верша Янкі Купалы: “А хто там ідзе?”..* СБНГ. // Пабудаваць. *Людзі, якія стварылі Дом Чырвонай Арміі, змаглі гарманічна спалучыць высокую змястоўнасць будучай работы дома з мастацкім густам.* ПГ.

**2.** Арганізаваць. *Трэба стварыць камісію, каторая б аб’ехала і абследавала найболей зніштожаныя месцы, падлічыла ўсе страты і падала рахунак.* АБ, 16. *Я* [пан Кавалюк] *хрысціянін, не паганін, Стварыў вобчаства “Крестьянин”.* ЛПК.

**3.** Сфарміраваць, надаўшы адпаведныя рысы. *Забабон стварыў для гішпанскай інквізіцыі крыважаднага ката Тарквомаду.* З.

Інф. *стварыць* (3): АБ, 16; БВ, 16; СНБ, 338. Абв. пр. адз. м. *стварыў* (5): З; ЛПК; СБНГ; СС, 300, 302. ж. *стварыла*: БВ, 16. Мн. *стварылі* (3): ПГ; СНБ, 338; Тж, 15. Буд. мн. 1 ас. *створым*: Г, 17.

**[СТВАРЭННЕ]** *н.* Ажыццяўленне. [Мікіта]: *..я для стварэння сабе новай кар’еры пакінуў чыноўніцтва і перайшоў на*

*свабодную профэсію.* Т, 36.

Адз. Р. *стварэння*: Т, 36.

**[СТВОЛ]** *м.* Надземная частка дрэва ад каранёў да верхавіны. *У параўн. Звярнуся к сонцу, сонцу без канца й пачатку, Хай спаліць мне душу, як ствол разбіты граба..* СМ.

Адз. В. *ствол*: СМ.

**СТВОРАНЫ** (3) *дзеепрым. зал. пр. да* стварыць. **1.** *Дзеепрым. да* стварыць *у* 1 *знач. Я* [Купала] *вельмі і вельмі шчаслівы, што дажыў да тэй пары, калі здолеў убачыць сваімі вачыма вялікі Беламорска-Балтыйскі водны шлях, гэта нябачнае цуда, створанае рукамі большэвікоў чэкістаў..* ЦСБ.

**2.** *Дзеепрым. да* стварыць *у* 2 *знач. Пры ўрадзе быў створаны камісарыят нацыянальных меншасцей..* СНБ, 337.

• **Цуда, створанае бальшавікамі**

Адз. м. Н. *створаны*: СНБ, 337. н. Н. *створанае* (2): ЦСБ (2).

**СТО** (2) *ліч. кольк.* **1.** Колькасць, якая абазначаецца лічбай 100. *Як і сто лет таму назад, стогне пад ярмом Беларусь, Украіна, Арменія, Індыя і дзесяткі дзяржаваў і народаў.* Тж, 16.

**2.** *перан.* Мноства, шмат. *Людзкое помсты дух узьняўся, Ста віхраў сьвісты ніпачым, Суд і расправа пачалася Над тым прарокам прыблудным.* УрП, 52. *З-пад ног, з утоптанай нары Паўзе ўжо збэшчаны павук І ў сто, у сто кагцістых рук Хапае вас рабы-цары, – Як бы ўжо вы не ўладары...* УрП, 52.

◊ **Ісці да сту д'яблув** *гл.* ісці**. На сто процантаў** *гл.* процант**. Сто і адзін** – шмат, вялікая колькасць. *На падлозе валяецца сто і адна свежых газет.* Ан, 19. *Прыходжу я, а рэдактар падсоўвае мне сто і адну свежых газэт.* Там жа, 19.

Н. *сто* (3): Ан, 19 (2); Тж, 16. Р. *ста*: УрП, 52. В. *сто* (6): Ан, 19 (3); ПВ (2); Т, 52; *сту*: Т, 49.

**СТОГН** (5) *м.* **1.** Жаласны енк; выражэнне пакуты, адчаю. *Цень пры цені, пад ценьмі той крыж у крыві. Чорны крыж, як-бы змора лунае ў высі, Як-бы змора вісіць... Стогн адно: не даві!* БН, 93. *Сьмейся сьмехам-хрыпеньнем быдляці З перарэзаным горлам і грэйся Ў гэтым храпе скрозь стогн і пракляцьце..* См, 91.

**2.** *перан.* Скарга, нараканне. *Аж прадзедаў косці не ўлежаць пад крыжам, – Што ночы выходзяць з магіл. Выходзяць, ідуць ад парогу к парогу; На стогн жывых грозна глядзяць..* ЗК, 43. *Ад хаты да хаты пайшла* [крыўда] *з хваляй, Ўзьвялічвала троны, кароны; Нявольнікам путы кавала, Пладзіла сусьветныя стогны.* Кр, 77.

Адз. Н. *стогн*: БН, 93. В. *стогн* (2): ЗК, 43; См, 91. Мн. В. *стогны* (2): Кр, 77; РС, 40.

**[СТОГРАМОВЫ]** *прым.* Ёмістасцю ў сто грамаў. *Уваходзіць Мікіта ў вынашанай і палатанай "зашчытнага" колеру вопратцы, цягнучы за сабой каламажку, у якой: тры тоўстыя вялізныя партфелі, а чацвёрты – меншы; пад імі: два селядцы, звязаныя лыкам, тры воблы, нанізаныя на аборку, невялічкая стограмовая пляшка з газай..* Т, 45.

Адз. ж. Н. *стограмовая*: Т, 45.

**[СТОІК]** *м. перан.* Стойкі і мужны чалавек, які пераносіць усе жыццёвыя выпрабаванні. [Дама]: *Мусье беларус, вы, як я ўважаю, напоўнены павевамі новага часу і належыце, мабыць, да новай партыі стоікаў, якія не паддаюцца эвакуацыі і застаюцца на месцы?* Т, 37.

Мн. Р. *стоікаў*: Т, 37.

**СТОЙКА** (2) *прысл. перан.* Цвёрда, паслядоўна. [Мікіта]: *Хоць, можа, я гэтак рызыкую нават сваёй, меджду протчым, пэрсонай, але місію сваю мушу стойка выпаўняць.* Т, 37. // Мужна, непахісна. *Гэтыя арміі ўжо змагаюцца за незалежнасць сваіх дзяржаваў, змагаюца стойка і з верай у лепшую будучыну.* БВ, 16.

**[СТОЙКІ]** *прым.* Надзейны, устойлівы. [Спічыні]: *.. вы* [Мікіта] *павінны выбраць сабе стойкую пляцформу і толькі адну, а не дзве або тры..* Т, 41.

Адз. ж. В. *стойкую*: Т, 41.

**СТОЛ** (23) *м.* **1.** Прадмет мэблі ў выглядзе шырокай гарызантальнай дошкі на высокіх падпорках, на які кладуць, ставяць што-н. [С. Меч]: *Мой пісьменны стол стаяў каля акна, каторае выходзіла ў сад..* ХБ, 28. *Справа ў належным месцы стол, у іншых мясцох – пара малых столікаў..* Т, 19.

**2.** Прадмет мэблі разам з ежаю, што стаіць на ім. *Госці садзяцця за стол.* Т, 27. *Садзіцца княжна, князь, кругом Садзіцца вольная дружына; Шуміць бяседа за сталом, Плыве часіна за часінай.* Кц, 196.

◊ **Засесці за стол** *гл.* засесці**. За стол жалобны сесці** *гл.* сесці**. Накрываць на стол** *гл.* накрываць. **Хлеб на стале** *гл.* хлеб**.**

Адз. Н. *стол* (2): Т, 19; ХБ, 28. Р. *стала* (2): Кц, 196; Т, 28. В. *стол* (12): Бч, 9; ГП, 8; Т, 22, 25, 27 (2), 31 (3), 60, 61; $Ш_1$. Т. *сталом*: Кц, 196. М. *стале* (4): РКр; Т, 22, 24, 58. Мн. Р. *сталоў* (2): Кц, 192 (2).

**[СТОЛІК]** (2) *м. Памянш. да* стол *у* 1 *знач. Гарошка дастае з торбы сваю закуску і раскладае на століку.* Т, 27. *Справа ў належным месцы стол, у іншых мясцох – пара малых столікаў..* Там жа, 19.

Адз. М. *століку*: Т, 27. Мн. Р. *столікаў*: Т, 19.

**СТОЛЬКІ[1]** (9) *ліч.* Абазначае ўказаную вышэй колькасць чаго-н. [Цудадзей:] *Цяпер прашу вас адабраццa Ў вянок адборных галасоў: Дзяўчат дванаццаць па дванаццаць І столькі сама дзяцюкоў.* УрП, 50.

**2.** Абазначае вялікую колькасць чаго-н. [Другі ганец:] *А як чапнуў стралой аб лук, Яны* [людзі] *скрануліся ў прасоньні, І столькі, столькі крэпкіх рук К маёй паціснулася броні.* Кц, 195. *Ах, салодкі ўспамін не адзін Шалясціць, як вяроўкаю кат... Столькі іх, гэтых мілых часін! А забыці іх сілы нягват.* ЧС, 50–51.

Н. *столькі* (9): ВСп, 89; Кц, 195 (2); СНБ; Т, 20, 27, 46; УрП, 50; ЧС, 50–51.

**СТОЛЬКІ[2]** *прысл. указальнае.* Названая, назначаная колькасць. [Мікіта]: *На якую ж халеру пацеў я столькі над шпрэхэндэйчам, калі яны па-нашаму лепей ад нас саміх шпрэхаюць?* Т, 32. *Параўн.* гэтулькі.

**[СТОПТАНЫ]** (3) *дзеепрым. зал. пр. да* стаптаць 1. Вытаптаны хадой. *Крыві расіцы заблішчэлі На чорнай стоптанай зямлі..* УрП, 52.

**2.** Утоптаны, зложаны (пра сена). [Князь:] *Прашу паклікаці ганцоў І мейсцэ даці ім па чэсці: Ад нашых стоптаных капцоў Якіе нам прыносюць весьці?..* Кц, 194.

◊ **Стоптаны на пясок** – прыніжаны, зняважаны. *Нявольніцтва й жабрацтва так нас з'ела І так нам высмактала з сэрца сок, Што нат у вочы глянуць, плюнуць смела Не смеем, стоптаныя на пясок.* Бч, 9.

Адз. ж. М. *стоптанай*: УрП, 52. Мн. Н. *стоптаныя*: Бч, 9. Р. *стоптаных*: Кц, 194.

**[СТОЎПІЦЦА]** *зак.* Размясціцца блізка адзін каля аднаго. *Зато гумно – важна! Пры ім стажкі, ўжатку, Ня стоўпілісь ў гарудах, – пабачыш з намеку.* ХБ, 28.

Абв. пр. мн. *стоўпілісь*: ХБ, 28.

**СТОЯЧЫ** (2) *дзеепрысл. да* стаяць *у* 1 *знач. Некалькі былых паняў, стоячы радам, прадаюць усялякія хатнія манаткі.* Т, 33. [Спічыні]: *.. я сам, стоячы на скверы, каля вадакачкі, бачыў, як вы* [Мікіта] з *іншымі цягалі рухомую маемасць з кватэры таварышча Боршчыка.* Там жа, 60.

**СТРАВА** (6) *ж.* **1.** *перан.* Ежа. *..На беларускім полі вашы* [жыдоў] *грудзі Навек знайшлі дняваньне, страву і начлег.* Ж. *Параўн.* блюдо, яство.

**2.** *перан.* З'ява, рэч. [Мікіта]: *А гэта, меджду протчым, што за такая страва?* [Янка]: *Не страва, мой пане, а такая*

*маленькая камэдыя ў вялікай трагікамедыі.* Т, 27.

◊ **Хлёбаць з адной міскі страву** *гл.* хлёбаць**.**

Адз. Н. *страва* (2): Т, 27 (2). В. *страву* (4): Ж; МПв, 218 (3).

**[СТРАЖ]** (2) *м.* Ахоўнік, абаронца. *Мелі страж гранічны вехі..* Дз, 188.

◊ **Ставіць стражы і запоры** *гл.* ставіць**.**

Мн. В. *страж*: Дз, 188; *стражы*: Дз, 190.

**СТРАЖАК** *м. Разм.* Прыхільнік чаго-н. *Зрабіць, раскідаць мог ён* [чараўнік] *дзівы, Накінуць чары сяк і так; Быў гэта верны і праўдзівы Паганскіх мольбішак стражак.* УрП, 47.

Адз. Н. *стражак*: УрП, 47.

**СТРАЖНІК** (2) *м.* Ніжэйшы паліцэйскі чын у сельскай мясцовасці. *Быў маскоўскі цар, былі у нас* [на Беларусі] *насланые ім усялякіе чыны: земскі, вураднік, стражнік.* БС. *Кали маеш брата, ци дарослаго сына, абходзься з ими ласкава, бо як высьвеньцицца часам каторы на стражника, то аддасьць за лычка рэменьчыкам.* СП.

Адз. Н. *стражнік*: БС. В. *стражника*: СП.

**[СТРАЖНІЦА]** *ж.* Пагранічны пост; застава. *На фарпостах, на граніцах Безгранічных нашых земляў З карабінам ля стражніцаў Камсамолец не задрэмле.* СА, 181.

Мн. Р. *стражніцаў*: СА, 181.

**[СТРАЛА]** (4) *ж.* Тонкі прут з вострым вострым наканечнікам для стральбы з лука. *А як чапнуў* [другі ганец] *стралой аб лук, Яны* [людзі] *скрануліся ў прасоньні, І столькі, столькі крэпкіх рук К маёй паціснулася броні.* Кц, 195. *А быў другі* [ганец] *і з ног, і з рук, Як гром з жывымі пярунамі, Ў руцэ меў стрэл жалезных пук, І лук стальны меў за плечамі.* Там жа, 194. // *У параўн. А нашы дарогі! Праз немарач, нетры, На радасць людскую, як стрэлы, ляглі.* ПБН.

Адз. Т. *стралой*: Кц, 195. Мн. Н. *стрэлы*: ПБН. Р. *стрэл*: Кц, 194. Т. *страламі*: УрП, 48.

**СТРАЛЯНІНА** *ж. Разм.* Стральба. *..калі .. пачне даносіцца да вуха жыхароў страляніна, то гэтым нападае на ўсіх жудасць і паніка.* СНБ, 340.

Адз. Н. *страляніна*: СНБ, 340.

**СТРАЛЯЦЬ** (2) *незак.* Рабіць выстралы з агнястрэльнай зброі. *Ты* [лётчык] *будзеш глядзець самалёта, А бомбы скідаць буду я* [хлопчык], *І буду страляць з кулямёта, Ў сабачыя сэрцы звяр'я.* ХЛВ, 315.

◊ **Хадзіць і варон страляць** *гл.* хадзіць**.**

Інф. *страляць*: ХЛВ, 315. Абв. цяп. мн. 3 ас. *страляюць*: Т, 41.

**СТРАМІЦЦА** *незак. Руск., разм.* Імкнуцца да чаго-н. *Нацыянальная рэволюцыя не страміцца к аднаму богу на зямлі, і не зьбівае ў вадну кучу ўсіх народаў пад адзін сьцяг.* СНБ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *страміцца*: СНБ.

**[СТРАНА]** *ж. Руск. Тое, што* дзяржава. [Поп]: (*ідучы ўслед за адходзячымі, паказваючы на іх рукой*). *Акі птіцы небесныя, отлетающчы на зімнее время в жаркія страны.* Т, 38.

Мн. В. *страны*: Т, 38.

**[СТРАНІЦА]** (6) *ж. Руск. Тое, што* старонка. *Кнігі па сельскай гаспадарцы.* №12. *Усяго адна кніжка і тая маленькая, усяго 16 страніц малога разьмеру.* ВСп, 90. *..ў працягу некалькіх месяцаў вышла ў сьвет 15 кніг, лікам страніц 1950 (121 друк. арк.)* Там жа, 91.

Адз. М. *страніц*: ХБ, 28. Мн. Р. *страніц* (5): ВСп, 89 (3), 90, 91.

**[СТРАНСТВІЕ]** *н. Руск., кніжн.* Падарожжа, вандраванне. [Поп]: (*ідучы ўслед за адходзячымі, паказваючы на іх рукой*): *Да храніт іх в странствіі мацер неопалімыя купіны і мацер крупіцкая!* Т, 38.

Адз. М. *странствіі*: Т, 38.

**[СТРАСЯНУЦЬ]** *зак., перан.* Парушыць, пахіснуць. *Рэволюцыя 1905 года страсянула царызм..* ЖН.

Абв. пр. адз. ж. *страсянула:* ЖН.

**[СТРАТА]** *ж.* Тое, што страчана ў час ваенных дзеняння́ў. *Трэба стварыць камісію, каторая б .. падлічыла ўсе страты і падала рахунак.* АБ, 16.

Мн. В. *страты*: АБ, 16.

**[СТРАТАСФЕРА]** *ж.* Верхні слой атмасферы, які знаходзіцца над трапасферай. *За ім* [правадыром] *ляцеў-бы я ў прастор, Туды – у высь, у стратасферу, Пабыць гасцём у ясных зор,* МСП, 187.

Адз. В. *стратасферу*: МСП, 187.

**[СТРАТЭГІЯ]** *ж. перан.* Абставіны, развіццё падзей. [Спраўнік]: *Наколькі я разумею стратэгію, то здаецца, справа абыйдзецца без крывапраліцця.* Т, 42.

Адз. В. *стратэгію*: Т, 42.

**СТРАХ** (9) *м.* Пачуццё і стан вельмі моцнага спалоху; боязь. *У бітвах верх браў* [народ], *боль сваю адалеў, Не страх быў змагацца с прыродай.* ПНд, 47. [Мікіта]: *..па дарозе адзін мой знаёмы пёрся з імі* [качарэжкамі] *недзе ў чыстае поле і са страху сунуў іх мне, меджду протчым, дарма.* Т, 58.

**2.** *У знач. вык. Разм.* Страшна. *За ім* [азіятам] *Еўропы жыхары Шлі к вам* [бальшавікам] *праз морскія віры.. І не*

*дайшлі – зышлі на час Праз белы й чорны морскі шлях. А вам не страх, а вам не страхі..* ПВ.

◊ **Страх бярэ** – становішча неспакою. [Аленка]: *Як вы заўсёды, дзядзька настаўнік, мудра вельмі разважаеце, ажно мяне часам страх бярэ!* Т, 35.

Адз. Н. *страх* (4): ПВ (2); ПНд, 47; Т, 35. Р. *страху* (2): Т, 27, 58. В. *страх* (2): ВСп, 91; ДНСП. М. *страху:*Бч, 9.

**[СТРАХА]** (4) *і разм.* **[СТРЭХА]** *ж.* **1.** Верхняя частка будынка, якая пакрывае яго. *Стаиць* [слабода] *ў нейким балоци; будынки пападгнивали, ў зямлю паўежджали; стрэхи саламяные: мох на их парос..* ХЛБ. *Між гор шапталіся крыніцы, Ляпіўся мох да стрэх з драніц, Тарчэлі хвойныя каплііцы, Цьвілі магілкі ля капліц.* УрП, 47. // *перан.* Вёска. *Хай-жа наша шчырая беларуская інтэлігенцыя, вышаушая з-пад беларускай саламянай страхі .. скажа сваё жалезнае слово.* З. *Чэсць і слава табе, беларуская моладзь, паўстаючая з-пад беларускай саломеннай стрэхі!* МІ, 18.

**2.** *перан.* Пра дом (жыллё), прытулак. *..ніхто і не падумае аб тым, як жывуць, што ядуць, якую маюць страху над галавой людзі нашых вёсак, нашых сёлаў.* АБ, 16.

Адз. Р. *страхі*: З; *стрэхі*: МІ, 18. В. *страху*: АБ, 16. Мн. Н. *стрэхи:* ХЛБ. Р. *стрэх*: УрП, 47.

**СТРАЦІЎШЫ**[1] *дзеепрысл. да* страціць: ◊ **Страціўшы прытомнасць –** згубіўшы пачуццё рэальнасці. *Чаму яны з такой упартасьцю дражняць народ і даводзяць яго да варьяцтва, калі ён, страціўшы прытомнасць, хватае кій і пачынае біць усіх і кожнага, не разьбіраючы?* ДК.

**[СТРАЦІЎШЫ]**[2] *дзеепрым. незал. пр. да* страціць. Пахаваўшы каго-н. *..наша* [дэлегатаў] *спачуванне да маці, страціўшай сына, наша пашана да памяці паэта-комуніста як найлепей выказаны былі т. Кальцовым, які перадаў ёй букет кветак з просьбай ускласці на магілу сына.* ПЧ.

Адз. ж. Р. *страціўшай*: ПЧ.

**СТРАЦІЦЬ** *зак.* Зрасходаваць (пра грошы). *..на газэту и книгу ён* [мужык] *пазирае, як на пустую забавку, страциць лішні грош на гэтые рэчы нашаму беларусу и ў галаву не прыходзиць.* УП.

Інф. *страциць*: УП.

**[СТРАЧАЦЬ]** *незак.* Сутыкацца з кім-н. у жыцці. *Ўспомні* [трэці брат], *выклічы родныя ўсе загаворы, І зводзь імі прыблудаў заломы, Што ляглі на твае крывасейна разоры, Што страчаеш за домам і дома.* Ч, 323.

Абв. цяп. адз. 2 ас. *страчаеш*: Ч, 323.

**СТРАШНА** (2) *прысл.* **1.** *Прысл. да* страшны *ў* 1 *знач. Яна* [пані] *ўдруг страшна закрычала и кинулася да дзеўчынки*, ПДз.

**2.** *у безас. знач.* Пра пачуццё страху, якое зведаў хто-н. [Мікіта]: *Асабліва страшна з ім* [ворагам] *спатыкацца, меджду протчым, калі ён наступае.* Т, 41.

**СТРАШНЫ** (12) *прым.* **1.** Які выклікае пачуццё страху. *У чужаземецкім уборы Брыдзе-йдзе нейкі чараўнік. З-пад сьвіткі чорнай, даўгаполай Блішчэла бляха накасяк, Пры боку меч матаўся голы, На сьвітцы – нейкі страшны знак.* УрП, 51. *Ах, як страшна мне гэта бязсонная ноч. Сколькі мукі, цярпеньня прыносіць з сабой!* БН, 91. // Які выклікае пачуццё страху сваёй небяспечнасцю. *Народ зьдзівіўся, як загледзеў* [чараўніка], *Заварушыўся, зашумеў: Вы так ня рушыцесь мядзьведзі, Ты так ня страшны, сільны леў!* УрП, 51. *Агні, аганькі, дзе зірнеш, – Не страшны канавы і вір... То свецяць, не знаючы меж, Паходні твае, правадыр...* ТП, 215. // Адзначаны падзеямі, якія наганяюць страх (пра час). *Як ён* [вецер] *сьвішча і як гамоніць Ў гэты страшны, значны год!* ВБЛ, 81.

**2.** *Разм.* Вельмі моцны па сіле, інтэнсіўнасці праяўлення. *О, абыватаь, белая за каўняром ты гніда! Як страшны аб табе сказ-абурэнне..* ВБЛ, 81. *Гібелі зноў людзі ў сьпёку, ў мароз, Як чэрві сьляпые у плесьні, - Аж страшная кара дасьцігла з нябёс; Забыўся народ сваёй песьні.* ПНд, 47.

Адз. м. Н. *страшны* (3): ВБЛ, 81; УрП, 51 (2). В. *страшны*: ВБЛ, 81. ж. Н. *страшная*: ПНд, 47. Р. *страшнай*: Н. М. *страшнай*: ПДз. Кар. адз. ж. Н. *страшна* (2): БН, 91; Нз, 14. Мн. Н. *страшны* (2): СС, 303; ТП, 215.

**СТРАШЭННА** (6) *прысл.* **1.** *Прысл. да* страшэнны *ў* 1 *знач. Маладыя гады мае* [Купалы] *прайшлі страшэнна пагана.* А, 328. [Спічыні]: *А я страшэнна не люблю спатыкацца з ворагам, калі ён наступае і калі ён адступае.* Т, 41. А, 328; МІ, 17 (2). *Параўн.* страшэнне.

**2.** *перан.* Вельмі, надта. [Мікіта]: *Страшэнна, меджду протчым, адпаведная хвіліна, каб паўтарыць мамзэль Насце адвечную пропозыцыю.* Т, 42.

**СТРАШЭННЕ** *прысл. Разм. Тое, што* страшэнна *ў* 2 *знач. ..апалячываньне беларусоў страшэнне пашыраецца..* ВР.

**[СТРАШЭННЫ]** *прым.* Вельмі страшны; жудасны. *Тая вялікая разруха і тое страшэннае зніштажэнне, выкліканыя вайной, найцяжэй адбіліся на нашай бацькаўшчыне..* АБ, 16.

Адз. н. Н. *страшэннае*: АБ, 16.

**СТРОІЦЬ** (7) *і разм.* **СТРОІЦІ** *незак., перан.* Ствараць. Ты [Беларушчына] – *як спала – ускрасла, твае дзеці прачнуліся,*

*Твой народ, ты сама і сталі новае строіць жыцьцё.* Т, 18. *І круцілі цябе* [Беларушчыну], *як каму падабалася, Кожны строіў, наводзіў цябе на свой строй, на свой лад..* Там жа, 18.

◊ **Строіць жарты** (2) – жартаваць, насміхацца. *З кашмарамі спадчыны няудачнага мінулага паузе у пары паганы забабон і хіхікае з-за вугла і ў вочы строіць жарты, – над кім?* З. *Сонца нам* [трактару і трактарыстцы] *смяецца, Нібы строіць жарты..* ПТ, 206. **Строіць зьдзекі** – здзекавацца. *Зьдзекі далей строіць* [малодшы брат] *дай-жэ, Ласку с сэрца выжыў..* Дз, 190. **Строіць (вечныя) петлі і сеці (путы) –** адурманьваць, запалоньваць. *А сваяк і чужак строіць петлі і сеці, Аплятае ўсё віднае ночай..* Ч, 321. *Цягалася крыўда па сьвеце, Ад хаты да хаты блудзіла; Тым строіла вечныя сеці, Тых гнала бяз часу ў магілы.* Кр, 47.

Інф. *строіць*: Б, 18; *строіці*: Ч, 319. Абв. цяп. адз. 3 ас. *строіць* (4): Дз, 190; З; ПТ, 206; Ч, 321. Пр. адз. м. *строіў*: Б, 18. ж. *строіла*: Кр, 47.

**[СТРОЙ]**[1] *м.* Спосаб, лад. *І круцілі цябе* [Беларушчыну], *як каму падабалася, Кожны строіў, наводзіў цябе на свой строй, на свой лад..* Б, 18.

Адз. В. *строй*: Б, 18.

**[СТРОЙ]**[2] (2) *м. Польск.* Убор, адзенне. *Заходні вучоны носіць польскі строй – кунтуш і "конфедэратку", барада голеная, вусы завесістыя.* Т, 19. *Людзі ходзяць урачыста Ў святочных строях – А з павагай, з санавітай, Ходзяць, як героі.* НК.

Адз. В. *строй*: Т, 19. Мн. М. *строях*: НК.

**СТРОЙНЫ** (2) *прым.* Які мае прыгожую і прапарцыянальна складзеную фігуру. *З табою* [трактарам] *паедзе Стахановец новы, Гэткі ўдалы, стройны, Стройны, светлабровы.* ПТ, 208.

Адз. м. Н. *стройны* (2): ПТ, 208 (2).

**СТРУНА** 3) *ж.* Пругкая ніць у музычных інструментах, якая пры вібрацыі звініць. *А як я* [трэці ганец] *ўдарыў па струне, Заметушыліся* [людзі] *як пчолы..* КЦ, 195. *Наведзены струны ў скрыпках па-свойску Чужая зрывае рука.* ЗК, 43.

◊ **Струна нацягваецца** – адносіны абвастраюцца. *..час не чакае, нездавальненьне расьце з кожным днём, струна нацягваецца да апошняй магчымасьці.* ОШМ.

Адз. Н. *струна*: ОШМ. М. *струне*: Кц, 195. Мн. Н. *струны*: ЗК, 43.

**[СТРУХЛЕЎШЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* струхлець. Спарахнеўшы, сатлеўшы. *Ён* [чараўнік] *ідзе... Сям і*

*там набіваецца ў госьці, Упіваецца ў сэрцы нямыя, І сьціблрае на путы струхлеўшыя косьці, І пляцёнкі з асьлепленых шые.* Ч, 325.

Мн. В. *струхлеўшыя*: Ч, 325.

**[СТРЫГЧЫ]** *незак.* Зразаць (шэрсць). *Аб "Думе" можэш думаць, колькі ўлезе, але гаварыць голасна асьцерагайся: гэта ня ўсих па шэрсьци гладзиць; авечку стрыгуць, а цякун* (*баран*) *дрыжыць.* СП.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *стрыгуць*: СП.

**[СТРЫМАЦЬ]** (2) *зак.* Спыніць. *Хто стрымае хвалі Мораакіяна, Хто стрымае голас Песні раскаванай.* ПДС, 231.

Абв. буд. адз. 3 ас. *стрымае* (2): ПДС, 231 (2).

**[СТРЫМЛІВАЦЬ]** *незак.* Процістаяць націску каго-н. *Немцы стрымлівалі пазіцыі і вялі агонь з ДЗОТа.* ППС.

Абв. пр. мн. *стрымлівалі*: ППС.

**СТРЫНАТКА** *ж. Абл.* Дробная птушка. *У параўн. Маленькая рэч, – як матыль ці стрынатка... Ўсёй куплі душа беларуса.* Р.

Адз. Н. *стрынатка*: Р,

**[СТРЭЛ]** (2) *м.* Выбух зарада ў канале ствала агнястрэльнай зброі, у выніку якога вылятае куля або снарад на пэўную адлегласць.. *гарматныя стрэлы змялі з вобліку зямлі хаты, зніштожылі межы і гранічныя слупы.* АБ, 16. *Але вось пачуліся першыя гарматныя.. стрэлы.* СНБ, 340.

Мн. Н. *стрэлы* (2): АБ, 16; СНБ, 340.

**[СТРЭЛЬБА]** (6) *ж.* Ручная агнястрэльная зброя з доўгім ствалом. *Уваходзіць Чырвонаармеец з абломкам стрэльбы.* Т, 52. [Мікіта]: *(з абломкам стрэльбы на рамі, напявае).* Там жа, 53.

Адз. Р. *стрэльбы* (3): Т, 52 (2), 53. В. *стрэльбу*: ДК. М. *стрэльбе*: ВБЛ, 82. Мн. В. *стрэльбы*: ЗЯЗ, 90.

**СТРЭМЛЕНІЕ** *н. Руск.* Імкненне, намер. [Усходні вучоны]: *Всё жэ прымечается стрэмленіе расшырыць эці граніцы на Запад.* Т .47. *Параўн.* донжэне.

Адз. Н. *стрэмленіе*: Т, 47.

**[СТРЭНУЦЬ]** *зак. Разм. Тое, што* спаткаць *у* 1 *знач. Ці то сушы, ці то моры, Ці то высі паднябесся, Усюды стрэнеш непакораў – Камсамольцаў нашых з песьняй.* СА, 179.

Абв. буд. адз. 2 ас. *стрэнеш*: СА, 179.

**СТРЭХА** *гл.* **СТРАХА.**

**[СТУДЗЕНЬ]** (3) *м.* Першы месяц каляндарнага года. *9 студзеня г.г. я* [Купала] *цяжка захварэў і 13 студзеня я ўжо быў у Земскай бальніцы, дзе пралежаў да 20 сакавіка.* ЛР. *..1*

*студзеня (?) была абвешчана “Незалежная Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка” ў федэральнай сувязі з Маскоўшчынай.* СНБ, 338.

Адз. Р. *студзеня* (3): ЛР (2); СНБ, 338.

**[СТУДНЯ]** (2) *ж.:* ◊ **Папасціся як мурза ў студню** *гл.* папасціся**. Як баран над студняй** *гл.* баран**.**

Адз. В. *студню*: Т, 32. Т. *студняй*: Т, 48.

**[СТУДЭНСТВА]** *н.,* зб. Студэнты. *Мы сёння з гордасцю пазіраем і адчуваем вялікія дасягненні ў галіне кульуры. Зірнуць толькі.. на дзесяткі вышэйшых навучальных установў, дзе тысячы пролетарскага студэнства пасягаюць самыя навейшыя здабыткі сусветнай навукі..* ШБСЯ.

Адз. Р. *студэнства*: ШБСЯ.

**[СТУДЭНТ]** *м.* Навучэнец вышэйшай навучальнай установы. [Спраўнік]: *Па-мойму, таксама універсытэт непатрэбен, бо завядуцца студэнты, а з імі заўсёды столькі для паліцыі клопату.* Т, 27.

Мн. Н. *студэнты*: Т, 27.

**СТУЖКА** *гл.* **ІСТУЖКА.**

**СТУК** (5) *м.* Кароткі адрывісты гук ад удару. *..чуваць стук у дзверы з левага боку..* Т, 19. *Мацнейшы стук у дзверы.* Там жа, 59.

Адз. Н. *стук* (4): Т, 31, 32, 59 (2). В. *стук*: Т, 19.

**[СТУКАЦЬ]** (6) *незак.* Рабіць стук, шум пры ўдарах. [Гануля]: (*Стукае ў Янкавы дзверы*). *Пане настаўнік! Да вас госці прыйшлі.* Т, 25. [Гануля]: *Толькі не стукайце* [Янка] *там папанску ў дзверы..* Там жа, 19.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *стукае* (5): Т, 25, 32 (3), 33. Заг. мн. 2 ас. *стукайце*: Т, 19.

**СТУКАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* стукаць. Робячы стук пры ўдарах. [Мікіта]: (*стукаючы кулаком па стале*). *Меджду протчым ... меджду протчым ... вы мяне абражаеце.* Т, 22.

**СТУКНУЎШЫСЯ** (3) *дзеепрысл. да* стукнуцца. Наткнуўшыся на каго-н. [Усходні вучоны:] (*стукнуўшыся з Заходнім*). *Чорт подзеры!* Т, 26. [Заходні вучоны]: (*стукнуўшыся з Усходнім*). *Пся крэв!* Там жа, 47. Т, 38.

**СТУЛЬ** (3) *прысл. Разм. Тое, што* адтуль. *Даляту да зорак, Вольная дзяўчына, Стуль табе, мой мілы, Адну зорку скіну.* ПТ, 207. *А вернемся* [хлопчык і лётчык] *стуль, дзе ляталі, Дзе ворагі трупам ляглі, Спаткае таварыш наш Сталін Прыветліва ў самым Крэмлі.* ХЛВ, 316. Ч. 321.

**СТУЛЬНА** *прысл. Польск.* Скурчана. *Дома дрэме* [трэці сын] , *сціскаецца стульна, як Б’е падданчы паклон за паро-*

*гам злодзей..* Ч, 321.

**[СТУПА]** *ж.* Хада, крок. *Уходзяць тры ганцы ў святліцу. Ідуць суважнаю ступой І князю, й княжне пакланіцца.* Кц, 194.

Адз. Т. *ступой*: Кц, 194.

**СТУПЕНЬ** (2) *ж. перан.* Этап у развіцці, здзяйсненні чаго-н. *Пераіменаванне Інстытуту Беларускае Культуры ў Беларускую Акадэмію Навук – далейшая ступень творчага размаху нашае ўлады ў нацыянальна-культурнай галіне.* ГНД. *Высокая ступень культуры ўласціва ўсім ім* [дзеячам мастацтва], *шмат хто з іх ведае 3–4 мовы.* ПЧ.

Адз. Н. *ступень* (2): ГНД; ПЧ.

**[СТУПІЦЬ]** (2) *зак.* **1.** Зрабіць крок. *..Дзе ні ступіць* [першы сын] *– згібаюцца краскі і травы, І прakляцьце шуміць бескарысна.* Ч, 320.

**2.** Трапіць куды-н., апынуцца дзе-н. *Дзе толькі ступіце* [дваццаць выбраных], *зьнямее Нямая чорная напасьць, Ніхто чапіць вас не пасьмее, Усякі вам дарогу дасьць.* УрП, 50.

Абв. буд. адз. 3 ас. *ступіць*: Ч, 320. Мн. 2 ас. *ступіце*: УрП. 50.

**СТЫДНА** (2) *прысл. Руск.* Сорамна, няёмка. *Спужаўся, што хлапчук ў лапцёх, Напаўадзеты вёскі сын, У роднай мове ўчыцца змог? О, стыдна, рускі "гражданін"!* АПЖ. *Смешна і стыдна робіцца за гэтых паноў гандляроў сягодняшняй культурай, культурай заходняй, еўрапейскай.* Тж, 15.

**[СТЫК]** *м.* Месца сутыкнення дзвюх частак чаго-н. *З-пад пушчаў Палесся, з-пад Нёмана, Сожа, з-пад Пцічы, Дняпра і Заходняй Дзвіны, З-пад стыку са светам чужым і варожым Прыйшлі мы, Савецкай краіны сыны.* ПБН.

Адз. Р. *стыку*: ПБН.

**[СТЫЛЬ]** *м.*: • **Стары стыль –** сістэма летазлічэння па юліянскаму календару. *Нарадзіўся я* [Купала] *25 чэрвеня (старога стылю) 1882 г. непадалёк ад Радашковіч, былога Вілейскага павета, у фальварку Вязынка.* А, 327.

Адз. Р. *стылю*: А, 327.

**[СТЫЧКА]** *ж. Руск.* Узброенае сутыкненне. *Потым ў стычцы пабилися часць хунхузоў, другие кинулися ўцекаць..* ПДз.

Адз. М. *стычцы*: ПДз.

**[СТЫХІЯ]** *ж.* Магутныя сілы прыроды, якія не падпарадкоўваюцца чалавеку. *Слава іх* [бясстрашных сыноў] *радуе*

*сэрцы мільёнаў і заклікае да такога-ж гераізму, да такой-жа барацьбы са стыхіяй на карысць нашай непераможнай сонечнай радзімы, на карысць усяго чалавецтва.* СБ.

Адз. Т. *стыхіяй*: СБ.

**СУВАЖНА** (3) *прысл. да* суважны. *За імі* [князем і княжной] *слуг пачэсны рад Стаіць задумчыва, суважна.* Кц, 193. *Гаспадар той суважна свой шнур па-святочнаму Абыходзіці будзе, красой любавацца..* ТС, 74. Ч, 323.

**[СУВАЖНЫ]** *прым.* Важны, велічны. *Уходзяць тры ганцы ў святліцу, Ідуць суважнаю ступой І князю, й княжне пакланіцца.* Кц, 194.

Адз. ж. Т. *суважнаю*: Кц, 194.

**[СУВЯЗЬ]** (2) *ж.* Сродкі, пры дапамозе якіх ажыццяўляецца прыём і перадача інфармацыі. *..наша* [дэлегатаў] *знаёмства з культурнымі дзеячамі Чэхаславакіі з'яўляецца пачаткам цеснай культурнай сувязі абодвух краін.* ПЧ. *..1 студзеня (?) была абвешчана "Незалежная Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка" ў федэратыўнай сувязі з Маскоўшчынай.* СНБ, 338.

Адз. Р. *сувязі*: ПЧ. М. *сувязі*: СНБ, 338.

**[СУГУЧНЫ]** (2) *прым., перан.* Які адпавядае чаму-н. *Закрэсліў-бы я* [Купала] *тыя творы, у якіх свядома ці несвядома вырываліся ноты, не сугучныя тварымай партыяй і пралетарыятам эпосе.* ЖН. *..і калі мае* [Купалы] *вершы зараз сугучны нашаму вялікаму часу, .. – дазвольце мне радавацца разам з вамі..* Там жа.

Мн. Н. *сугучныя*: ЖН. Кар. мн. Н. *сугучны:* ЖН.

**СУД** (16) *м.* **1.** Дзяржаўны орган, які разглядае і вырашае грамадзянскія спрэчкі і крымінальныя справы. [Ануля]: *..ён* [Мікіта]: *прыстроіўся ў акружным судзе, быў там пры вешалках і кур'ерам. А вядома, у судзе: народу ўсялякага прыходзіць шмат..* Т, 20.

**2.** Судовы працэс. *Абвіняюць* [вучыцелёў] *па 126 ст. па першай часьци. ..У летку, як видаць, будзе суд.* ВД. [Гарошка]: *..як нашы* [сяляне] *гэткім чынам апошні суд з князем прайгралі, пачалося тое высяленне.* Т, 43. // Пакаранне. *Людзкое помсты дух узьняўся, Ста віхраў сьвісты ніпачым, Суд і расправа пачалася Над тым прарокам прыблудным.* УрП, 52. *Багі другія верх бяруць, Суды вядуць над нашым краем..* Кц, 193.

• **Таварыскі суд –** грамадскі суд, утвораны на прадпрыемствах для разгляду спраў, звязаных з парушэннем працоўнай дысцыпліны. *Мы* [дэлегаты] *былі сведкамі выпадку, калі адзін падлетак не ўлічыў сваіх грашовых магчымасцей, зрабіў*

*перавыдатак і яму пагражала камедыя “таварыскага суда”, выдаленне з інтэрната, з Бацяўскага “фабзавуча”.* ПЧ.

◊ **Насудзіць судоў** *гл.* насудзіць**. Суды перасуды –** перамовы, абгаворы. [Мікіта]: *Як чуць што зблышыў, дык і пачнуцца ўсялякія суды ды перасуды: адзін будзе казаць, што па службе атрымаў паніжэнне, другі – што ў карты прагуляўся..* Т, 21. **Суд (суды) судзіць** *гл.* судзіць**.**

Адз. Н. *суд*: УрП, 52. Р. *суда*: ПЧ. Д. *суду*: Чж, 147. В. *суд* (6): А, 328; БС; ВД; Дз, 190, 191; Т, 43. М. *судзе* (2): Т, 20 (2). Мн. Н. *суды*: Т, 21. Р. *судоў*: СС, 303. В. *суды* (3): Кц, 193; ПЛП (2).

**СУДАР** (3) *м. Руск., уст.* Форма пачцівага звароту. [Усходні вучоны]: *(стукнуўшыся з Заходнім). Чорт подзеры!* [Заходні вучоны]: *Пся крэв!* [Усходні вучоны]: *Ізвініце, судар!* Т, 26.

Адз. Н. *судар* (3): Т, 26, 38, 47.

**[СУДДЗЯ]** *м. перан.* Чалавек, які выказвае якое-н. суджэнне, думку, вывад пра што-н. або дае ацэнку каму-, чаму-н. *Ну, а людзі? Сябры-суседзі тут, там? Вы – непадкупныя суддзі, Што ж яшчэ хочацца вам?!* ЁЯ.

Мн. Н. *суддзі*: ЁЯ.

**СУДЗІЦЬ** (5) *незак.* **1.** Меркаваць пра што-н. [Мікіта]: *Вось хоць бы судзіць з таго, што калі я перайшоў на яе* [свабодную профэсію], *то пачуўся, як птушка тая, зусім свабодным.* Т, 36.

**2.** Разглядаць чыю-н. правіннасць, злачынства ў судовым парадку. *Загнаны ў падполле там* [за мяжой] *лепшыя людзі, На “крэсах” усходніх лютуе жандар. За вольнае слова катуюць і судзяць, Астрогі там поўны нявінных ахвяр.* ПБН.

◊ **Суды (суд) судзіць** (3) – а) праводзіць разбор. *У адным з псалмаў біблейскіх сказана: “стануў Бог у зграмаджэнні Багоў і паміж Багамі суды судзіць”*. ПЛП; б) меркаваць, лічыць. *Зьдзекі далей строіць* [меншы брат] *дай-жэ, Ласку с сэрца выжыў: Суд судзіў, што я, не я ўжо, І расьпяў на крыжу.* Дз, 190.

Інф. *судзіць* (3): ПЛП (2); Т, 36. Абв. цяп. адз. 3 ас. *судзіць*: ПЛП. Мн. 3 ас. *судзяць*: ПБН. Пр. адз. м. *судзіў*: Дз, 190.

**СУДЗЬБІНА** (5) *ж. Руск.* **1.** Лёс. [Маці]: *Трох сыноў дала судзьбіна Да майго парога..* Дз, 188.

**2.** *вобразн.* Уладарка чалавечых лёсаў. *Тры браты, што пуці чараўнік тры адмерыў, Захацелі знаць, хто ім што зрэпіў, – Захацелі ў судзьбіны даведацца меры, Як жыць далей, памерці як лепей.* Ч, 322. *Залацісты пасад красаваўся ў*

*сталiцы, Зiхацела ў iм кожна часьцiна, - На пасадзе сядзела цьвет-ночка – царыца... Звалi тыя i сiя судзьбiнай.* Там жа, 321–322.

Адз. Н. *судзьбiна*: Дз, 188. Р. *судзьбiны* (3): Ч, 322 (2), 323. Т. *судзьбiнай*: Ч, 322.

**[СУЕЦIЦЦА]** *незак. Руск.* Хваляваццa аб кiм-н. [Поп]: *Не суецiцеся обо мне, сын мой! Моi облачэнiя зашчытой мне от всякiх зол земных.* Т, 52.

Заг. мн. 2 ас. *суецiцеся*: Т. 52.

**[СУЗОР'Е]** *н.* Участак зорнага неба, група зорак, аб'яднаных агульнай назвай. *Яны* [дэнiкiнскiя дывiзii] *з абозам на усход цяклi, Сузор'ямi апошнi мерачы свой шлях..* ВБЛ, 80.

Мн. Т. *сузор'ямi*: ВБЛ, 80.

**[СУК]** *м.*: ◊ **Падсякаць сук, на каторым сядзiш** *гл.* падсякаць.

Адз. В. *сук*: ОШМ.

**[СУКА]** *ж.* Самка сабакi. *У параўн. Больш на нас не рыне банда Ашалелай сукай, З-за вугла нас не падсочыць Подлая гадзюка.* НК.

Адз. Т. *сукай*: НК.

**[СУКНО]** (2) *н.* Шарсцяная або паўшарсцяная тканiна з гладкiм ворсам. *На шапцы ў яго* [Мiкiты] *вялiкi значок з белым арлом – брыль абабiты бляхай, фрэнч i галiфэ новыя, з цёмна-жоўтага сукна, боты жоўтыя.* Т, 54. [Мiкiта]: *..паппрасiлi* [паны] *мяне пастаяць, самi знялi куртачку, сказаўшы, што гэта з iхняга сукна..* Там жа, 58.

Адз. Р. *сукна* (2): Т, 54, 58.

**[СУЛIЦЬ]** *незак. Руск.* Прадказваць. *..яна* [вучэльня] *ня споўнiць таго культурнага назначэньня, якое ёй сягодня сулiць гiсторыя.* УПУВ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *сулiць*: УПУВ.

**СУМ** (3) *м.* **1.** Пачуццё смутку, душэўнай трывогi, горычы; *..да васеньняга акорду пачуваньняў пастаянна далучалiся сумныя ноткi, але гэты сум такi цiхi, такi нячутна далiкатны, што скарэй прыемны, як балючы.* ХБ, 29. *..кiдае* [забабон] *балотам на давечнае цярпеньне, на крывавые сьлёзы, на сум бяскрыўдны, на радасьць пявучую вялiкага i добрага Беларускага Народу.* З.

**2.** Пакутлiвая маркота; нуда. *Слабые душою i целам апускаюць рукi, i, як вол доўбнi чэкаюць нечага негаданага, благога, наводзючы гэтым i на iншых сум ды трывогу.* РКр.

Адз. Н. *сум*: ХБ, 29. В. *сум* (2): З; РКр.

**СУМАЗБРОДЗЕНЬ** *м. Разм.* Шаленец, вар'ят. [Мацi:] *Пайшла ў ягады, Раптам Рынуўся знекуль панiч сумазброд-*

*зень, Высыпаў ягады, збіў, клікнуў варту, Хустачку здзёр мне і кофтачку, злодзей.* Мц, 75.

Адз. Н. *сумазбродзень*: Мц, 75.

**[СУМЛЕННАСЦЬ]** *ж.* Сумленныя адносіны да чаго-н. *На жаль, польскім дэпутатам у Думе ня йдзе аб справядлівасьць, аб сумленнасць: кс. Мацеевіч і яго таварышы .. будуць дамагацца для беларусоў-каталікоў ня роднай іх, беларускай мовы, а чужой – польскай!* ВР.

Адз. В. *сумленнасць*: ВР.

**[СУМЛЕННЕ]** (6) і **[СУМЛЕНЬНЕ]** (4) *н.* Усведамленне і пачуццё маральнай адказнасці за свае паводзіны і ўчынкі. *Цёмныя людзі, пазбаўленыя гонару і сумлення, .. з усіх сіл стараюцца рабіць сваё грэшнае дзела.* ЗС, 17. *А забабон далей ідзе і распасьцірае свае павучыные, неразблытные сеці, у якіх душыць і вольнага духа, і сьветлую праўду, і сумленьне людзкое.* З. *Параўн.* совесьць.

Адз. Р. *сумлення*: ЗС, 17. В. *сумленне* (4): Дз, 191; Кз, 17; Т, 37; Чж, 147; *сумленьне* (4): ВБЛ, 81; ДК; З; Ч, 324. Т. *сумленнем*: Т, 36.

**СУМЛЕННЫ** (4) *прым.* Які вызначаецца многімі маральнымі якасцямі. *..кожны сумленны грамадзянін БССР з захапленьнем прывітае новую кветку ў бясьмертным вянку культурнага будаўніцтва ў БССР – Беларускую Акадэмію Навук.* НПБ. *Прыехаўшы ў Беларусь Савецкую я* [Купала] *раскажу.. большэвіцкую праўду аб .. соцыялістычнай перакоўцы людзей – былога злачынца ў сумленнага савецкага грамадзяніна.* ЦСБ. // Уласцівы чалавеку з такімі якасцямі. *Шчаслівы сягоння той, хто можа глядзець адкрытымі сумленнымі вачыма ў вясёлыя вочы нашай будучыні.* ЖН.

Адз. м. Н. *сумленны*: НПБ. Р. *сумленнага*: ЦСБ. Мн. Р. *сумленных*: ДК. Т. *сумленнымі*: ЖН.

**СУМЛЕНЬНЕ** *гл.* **СУМЛЕННЕ.**

**СУМНА** (2) *прысл.* Маркотна, тужліва. *Сумна мне, сумна, што ўсё тут іначай Некалі бераг мой бачыў і знаў.* Н.

**[СУМНЫ]** (5) *прым.* **1.** Які выражае сум, смутак. *..дзяцей беларускай зямлі гналі за трыдзесяць зямель служыць царам і іх генералам. І беларус маўчаў, пазіраў сумным вокам і чакаў...* БВ, 16. *Але на высшую вучэльню у Вільне зьвернуты цяпер вочы ня толькі польскага народа, - на гэту зьмясціну навукі і мастацтва пазіраць цяпер і сумные вочы літвіноу і беларусау.* УПУВ.

**2.** Які выклікае, навявае сум, тугу. *..да васеньняга акорду пачуваньняў пастаянна далучаліся сумныя ноткі, але гэты*

*сум такі ціхі, такі нячутна далікатны, што скарэй прыемны, як балючы.* ХБ, 29.

Адз. ж. М. *сумнай*: СК, 158. н. Т. *сумным* (2): БВ, 16; ЗС, 18. Мн. Н. *сумныя*: ХБ, 29; *сумные*: УПУВ.

**[СУМНЯВАЦЦА]** (2) *незак.* Адчуваць сумненне, няўпэўненасць у сапраўднасці чаго-н. *Стаў, глядзіць жаўнер, Сумняваецца. Гэй, гэй, гэй, сумнявацца Па якой* [дарожаньцы] *пайсці Надумляецца!* ББ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *сумняваецца* (2): ББ (2).

**СУМЫСЛЯ** і **СУМЫСЬЛЯ** *прысл.* Знарок, наўмысна. [Янка]: *А мы вось з Аленкай сумысля зайшліся, цётачка, да вас, каб пахваліцца перад вамі сваім шчасцем.* Т, 53. *I потым, адыходзячы ў глухую ночку, Назад сумысьля азірнецца ён* [абываталь] *у мгле, Але яго сьвідруюць праз "цапочку" Палохлівыя шэранькія вочы...* ВБЛ, 80.

**[СУНУЦЬ]** *зак.* Навязаць што-н. [Мікіта]: *..па дарозе адзін мой знаёмы пёрся з імі* [рэвальверамі] *ў чыстым полі і са страху сунуў іх мне, меджду протчым, дарма.* Т, 58.

Абв. пр. адз. м. *сунуў*: Т, 58.

**[СУПАКОЙ]** *м.* Лагода; мірнае жыццё. *Шэсць год вайны, вайны цяжкай, бязупыннай, выбілі ў думках беларуса-хлебароба і яго супакой – гэткі зьмірны, лагодны, - і яго шчырую веру ў лепшую долю.* ДД.

Адз. В. *супакой*: ДД.

**СУПОЛЬНА** *прысл.* Сумесна, разам. *Гэй, гэй, на спатканне вялікіх двух сьвятаў! Сьпяшыце супольна, хто ў путах ня згінуў!* В.

**[СУПОЛЬНЫ]** (3) *прым.* **1.** Агульны для ўсіх. *Хай-же гэта прыказка і тут сябе пакажэ, каб супольнай згодзе забяспечыць сябе ад голаду і холаду.* ВС.

**2.** *У знач. наз.* Аднолькавы. *Тыя самыя людзі, толькі багацейшыя і бяднейшыя, пачалі гаварыць рознымі языкамі і сягоння яны паміж сабой нічога супольнага не маюць.* Нз, 14.

◊ **Найці супольную мову** *гл.* найці**.**

Адз. ж. В. *супольную*: СНБ. М. *супольнай*: ВС. н. Р. *супольнага*: Нз, 14.

**СУПРАЦІЎЛЕНЬНЕ** *н.* Супрацьдзейнасць уздзеянню чаго-н. *Адгэтуль нязвычайнае абвастрэньне клясавай барацьбы, адгэтуль шалёнае супраціўленьне капіталістычных элементаў усім пачынаньням і мерапрыемствам совецкай улады.* АЛ.

Адз. Н. *супраціўленьне*: АЛ.

**СУПРАЦІЎНЫ** *прым.* Процілеглы. *Роднай песні вясёлы напеў Не ўзлунаў над калыскай маёй; Супраціўны скрозь му-*

*чыць павеў, Як за хлебам пашоў да людзей.* ЧС, 50-51.

Адз. м. Н. *супраціўны*: ЧС, 50-51.

**[СУПРАЦОЎНІК]** (6) *м.* **1.** Той, хто займаецца з кім-н. сумеснай дзейнасцю. *Агульны сход пісьменнікаў і супрацоўнікаў праўлення ССП БССР .. аднагалосна вылучыў сваім кандыдатам у Вярхоўны Совет Саюза ССР Вас, Нікалай Іванавіч..* НКУС. // *перан.* Аднадумец. *..што тычыцца беларусаў, то – голы разбою не баіцца: калі ня можна ім працаваць з палякамі, дык яны прымушаны будуць пашукаць іншага выхаду, іншых супрацоўнікаў.* ОШМ.

**2.** Той, хто працуе ў якой-н. установе; служачы. *..супрацоўнікамі в-ва з'явіліся тыя людзі, якія, казаў той, працавалі не за страх, а за совесць.* ВСп, 91. *Цяпер на мейсцы "Адраджэньня" беларускую выдавецкую справу ў складзе тых самых супрацоўнікаў і з такім-жа посьпехам вядзе В-ва "Савецкая Беларусь".* Там жа, 91. // Асоба, якая прымае ўдзел як аўтар у рабоце перыядычнага выдання. *Супрацоўнікі прыціснуліся к сцяне і штось нібы вельмі пільна пішуць.* Ан, 19. *Супрацоўнікі зірнулі на мяне з нейкай літасцяй, як бы хацелі даць мне капейку на хлеб.* Там жа, 19.

Мн. Н. *супрацоўнікі* (2): Ан, 19 (2). Р. *супрацоўнікаў* (3): ВСп, 91; НКУС; ОШМ. Т. *супрацоўнікамі*: ВСп, 91.

**[СУПРАЦОЎНІЦТВА]** *н.* Сумесная дзейнасць. *Наша* [беларускай дэлегацыі] *паездка ў Чэхаславакію была сапраўдным трыумфам .. супрацоўніцтва Чэхасоавакіі і СССР у справе барацьбы за мір, у справе абароны агульначалавечай культуры.* ПЧ.

Адз. Р. *супрацоўніцтва*: ПЧ.

**СУПРОЦЬ** (6) *прыназ.* з Р. *Разм.* Ужываецца пры ўказанні прадмета, з'явы, асобы, для барацьбы з якімі ці для пазбаўлення ад якіх удываюцца адпаведныя захады, прымяняюцца які-н. сродкі. *Буржуазія, як замежная, так і ўнутраная, не перабівае ніякімі мэтодамі і сродкамі барацьбы супроць СССР.* АЛ. *..разам з беднатой беларускай вёскі я* [Купала] *горача пратэставаў супроць паноў і царата..* ЖН. ГВУ; НДп, 229; ПНд, 314; ШБСЯ.

**[СУПРОЦЬСТАВІЦЬ]** *незак.* Проціпастаўляць што-н. *Лёзунгу аб'яднаньня рабочых і сялян-беднякоў і серадянкоў розных нацыянальнасцяй Савецкага Саюзу пад ленінскім сьцягам, контр-рэволюцыйныя беларускія нацыянал-дэмократы супроцьставілі лёзунг самобытнасьці беларускай нацыі, сепаратысцкага разьяднаньня, нацыянальнага антагонізму..* АЛ.

Абв. пр. мн. *супроцьставілі*: АЛ.

**[СУПЫНІЦЬ]** *зак. Разм.* Спыніць, затрымаць што-н. *Мы пішам гэта дзеле таго, каб польская улада паклапацілася выясьніць палажэньне, каб яна супыніла сваіх неразумных ураднікаў, каторые падсякаюць той сук, на каторым сядзяць..* ОШМ.

Абв. пр. адз. ж. *супыніла*: ОШМ.

**СУР'ЁЗНА** *прысл.* Не жартуючы, без смеху. [Аленка]: (*Дастае з торбы прыгожа вышытую кашулю і саматканы ўзорысты пояс і падае Янку, сур'ёзна кажучы*). *Прымеце, калі ласка, дзядзька настаўнік, гэту драбніцу ад сваёй шчыра вам удзячнай і адданай вучаніцы.* Т, 30.

**[СУР'ЁЗНЫ]** (3) *прым.* Які вызначаецца грунтоўнасцю, станоўчасцю ў адносінах да жыцця. [Янка]: *Ого! Мы нават сур'ёзнымі зрабіліся.* Т, 30. // Які добра ведае сваю справу. [Мікіта]: *Для асоб з глухой вёскі, мамзэль, можа, яны* [вучоныя] *і смешныя, але для Менскай рускай, меджду протчым, інтэлігенцыі яны зусім сур'ёзныя вучоныя.* [Янка]: *Такія сур'ёзныя, пане совбур, як і сягоняшні выгляд..* Т, 48.

Мн. Н. *сур'ёзныя* (2): Т, 48 (2). Т. *сур'ёзнымі*: Т, 30.

**[СУРМА]** *ж.* Старажытны сігнальны ўкраінскі народны музычны інструмент у выглядзе доўгай драўлянай трубы. *Сурмы зайгралі. Чырвонае войска Горда ідзе, разбівае кайданы.* Мц, 75.

Мн. Н. *сурмы*: Мц, 75.

**[СУРОВЫ]** *прым.* Вельмі строгі. *Рэшта яго* [падлетка] *грошай, што хаваецца ў Бацяўскай "ашчадкасе" – пад суровым кантролем.* ПЧ.

Адз. м. Т. *суровым*: ПЧ.

**[СУСВЕТ]** *м. Тое, што* свет[1] *у* 1 *знач. Маладой юнацкай славай, Ці то ўзімку, ці то летам, Нібы сонца, цуднай з'явай Прамянееш ты* [моладзь]*ў сусветах.* СА, 178.

Мн. М. *сусветах*: СА, 178.

**[СУСВЕТНЫ]** (7) і **[СУСЬВЕТНЫ]** (6) *прым.* Які ахоплівае зямны шар, усе народы зямлі. *Але ва ўмовах нашай рэспублікі .. ролю застрэльшчыка сусьветнага капіталізму узяў на сябе беларускі нацыянал-дэмократызм..* АЛ. *І ў апошнія гады перад сусветнай вайной гэта* [царская] *рэакцыя здавалася задушыла ў народах падняволеных расійскім царом ўсе, што было лепшага ў думках, усё што імкнулася да свабоды, да святла.* ДЖ. // Які мае значэнне для людзей усяго свету. *.. справы такія ў нас пайшлі, што ў кожным куточку Саюза Советаў, у любым калгасе, на любым заводзе можна заваяваць*

*сабе сусветную славу.* ЖН. *Новы напрамак, які надае пастанова ленінскага ЦК літаратурна-мастацкай справе, сьведчыць аб тым, што і ў гэтай галіне мы таксама дасьцігнем нявіданых сусьветных посьпехаў.* ДНСП. *Параўн.* усясветны.

• **Дасьцігнем нявіданных сусьветных посьпехаў.**

Адз. м. Р. *сусьветнага* (2): АЛ (2). ж. Н. *сусветная*: СНБ, 336. Р. *сусветнай* (3): АБ, 16; СНБ, 336; ШБСЯ. В. *сусветную*: ЖН. Т. *сусветнай*: ДЖ. н. Р. *сусветнага*: МП. В. *сусьветнае*: ДНСП. Мн. Р. *сусьветных* (2): ДНСП (2). В. *сусьветныя*: Кр, 77.

**СУСЕД** (15) *м.* **1.** Чалавек, які жыве паблізу каго-н. *Перш , чым што зрабіць, абыватаель любіць распытацца у людзей і параіцца з суседам; людзі-ж яму скажуць, а сусед падцьвердзіць, што Беларусі няма, есьць толькі Польшча і Расія...* ВМР.

**2.** Дзяржава, якая мяжуецца з іншай дзяржавай, а таксама насельніцтва яею *А Беларусь .. даб'ецца раней ці пазней гэтага права стаць роўнай і вольнай дзяржавай паміж сваімі суседзямі.* Нз, 14. *Яшчэ далятае да нас грознае і жуткае водгулле крывавага змагання на беларускім полі паміж нашымі суседзямі – палякамі ды маскалямі..* ЗС, 17.

◊ **Сябар-сусед** *гл.* сябар**.**

Адз. Н. *сусед*: ВМР. Т. *суседам* (2): ВМР; Ф. Мн. Н. *суседзі* (2): ГЖУ; ПЛП. Р. *суседзяў* (4): ВМР; ДД; Нз, 14; СБНГ; *суседоў*: ВН. В. *суседзяў*: ССА, 294. Т. *суседзямі* (4): ЗС, 17; Кз, 17; Нз, 14; ПЛП.

**[СУСЕДКА]** *ж. Жан. да* сусед *у* 2 *знач. Наша* [Беларусі] *незалежнасць соллю ўваччу для незалежнасці нашых суседак – Польшчы і Расіі..* Нз, 14.

Мн. Р. *суседак*: Нз, 14.

**[СУСЕДНІ]** (4) *прым.* Які размешчаны па суседству. *Мы бачым, што нашы* [Беларусі] *суседнія дзяржавы, як Украіна, Літва, Латвія, Эстонія і іншыя, маюць ужо сваю армію.* БВ, 16. *Польшча .. і цяпер кажа суседнім народам, што хоча з імі жыць "як вольны з вольным, роўны з роўным"..* Там жа, 17.

Мн. Н. *суседнія*: БВ, 16. Р. *суседніх*: Нз, 14. Д. *суседнім*: БВ, 17. В. *суседнія*: НДН, 18.

**СУСІМ** *прысл. Тое, што* зусім *у* 1 *знач. Гаспадарка цэлага краю, ці аддзельных людзей павінна па сіле магчымасьці не спыняцца, а ісьці далей і шырэй, каб, як скончыцца вайна не асталіся мы* [беларусы] *быццам пасьля пажару: сусім знішчожэны і па духу і на целі.* ВС.

**[СУСТРАКАЎШЫ]** *дзеепрым. незал пр. да* сустракаць. *У Оломоуце сустракаўшая нас* [дэлегатаў] *на вакзале публі-*

*ка спявала "Інтэрнацыянал"..* ПЧ.

Адз. ж. Н. *сустракаўшая*: ПЧ.

**[СУСТРАКАЦЦА]** *незак.* Сутыкацца з чым-н. *Гоняць, гналі, дзе гнаці маглі, Як шалёных ганяюць сабак; На сваёй, ах, на роднай зямлі Сустракаўся я з сонейкам так.* ЧС, 50–51.

Абв. пр. адз. м. *сустракаўся*: ЧС, 50-51.

**[СУСТРАКАЦЬ]** *незак.* Выходзіць спаткаць, вітаць каго-н. *На мяжы і на Пражскім вакзале нас* [дэлегатаў] *сустракалі і бурна віталі лепшыя людзі.* ПЧ.

Абв. пр. мн. *сустракалі*: ПЧ.

**[СУСТРАКНУЦЬ]** *зак. Разм. Тое, што* сустрэць *у* 2 *знач.* [Аўтарнік:] *Дык вось жалейкі вы* [дванаццаць выбраных] *бярэце, Ў дванаццаць мейсц кладзеце сьлед; Дванаццаць ветраў сустракнеце, Дванаццаць выправіце ў сьвет!* УрП, 50.

Абв. буд. мн. 2 ас. *сустракнеце*: УрП, 50.

**[СУСТРАЧАЦЬ]** *незак. Разм.* Сустракаць, чакаць з'яўлення чаго-н. *Спрадвеку мы у родным краю гаспадарым, - Свае загоны сеем, пасцім статак свой; З надзеяй сустрачаем выраі вясной, З надзеяй увосень іх праводзім над папарам.* НГ.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *сустрачаем*: НГ.

**[СУСТРЭЦЬ]** (4) *зак.* **1.** *Зак. да* сустракаць. *У Прасценаве нас* [дэлегатаў] *ля будынку ратушы сустрэў тысячны натоўп рабочых воклічамі ў гонар СССР..* ПЧ. [Трактарыстка:] *З табою* [трактарам] *аб'едзем Навакола света, Людзі нас сустрэнуць з вясёлым прыветам.* ПТ, 207.

**2.** Спаткаць, прывітаць каго-н. [Мікіта]: *Сустрэў іх* [вучоных] *надовечы на Губарнатарскай вуліцы, дзе шукалі праўдзівых тыпаў беларускіх.* Т, 26. *Параўн.* сустракнуць.

Абв. пр. адз. м. *сустрэў* (3): ПЧ (2); Т, 26. Буд. мн. 3 ас. *сустрэнуць*: ПТ, 207.

**СУСТРЭЧА** (3) *ж.* Урачыстасць з прычыны прыбыцця каго-н. *Цёплай і прыемнай была сустрэча ў Чэхаславакіі з т. Александроўскім.* ПЧ. *Гэтыя сустрэчы яшчэ больш павялічваюць прыемнае ўражанне ад мае* [Купалы] *паездкі.* Там жа.

Адз. Н. *сустрэча* (2): ПЧ (2). Мн. Н. *сустрэчы*: ПЧ.

**СУСЬВЕТНЫ** *гл.* **СУСВЕТНЫ.**

**[СУТАНА]** *ж.* Верхняе адзенне каталіцкага духавенства. *Поп апускае падоткнутыя сутаны.* Т, 24.

Адз. Р. *сутаны*: Т, 24.

**[СУТАРЭННЕ]** *н.* Памяшканне пад першым паверхам будынка, ніжэй узроўню зямлі; падзямелле. *Заглянула сонца Да хат, сутарэнь, Праклятых дзён прошлых Развеяўся цень.* СС, 301.

Мн. Р. *сутарэнь*: СС, 301.

**СУТНАСЦЬ** (2) і **[СУТНАСЬЦЬ]** *ж.* Самае галоўнае ў чым-н. *У размаху і велічы соцыялістычнага будаўніцтва ўся грандыёзная ленінская сутнасць нацыянальнай палітыкі нашай партыі.* ШБСЯ. *..я* [Купала] *.. захапіўся гэтымі адраджэнцкімі ідэямі нацыянал-дэмократычнай дзяржаўнасьці і пачаў іх адбіваць у сваёй далейшай творчасьці, апяваючы, як нешта цэлае пазаклясавае беларускі "народ", ідэалагізуючы ў некаторых сваіх творах гісторычнае мінулае, значыцца, фэодальна-паншчыннае Беларусі, зацямняючы гэтым самым клясавую сутнасьць соцыяльнае і нацыянальнае барацьбы за вызваленьне..* АЛ.

◊ **Па сутнасці** (*у знач. пабочн.*) – у сапраўднасці. *Вось над чым, па сутнасці, я* [Купала] *і працую.* МП.

Адз. Н. *сутнасць*: ШБСЯ. В. *сутнасьць*: АЛ. М. *сутнасці*: МП.

**[СУХАВЕЙ]** *м.* Сухі гарачы вецер, які нясе з сабой працяглую засуху. *Ходзюць, гонюць сухавеі Праўданьку сьвятую; Брата брат не разумее, Брата брат катуе.* Дз, 191.

Мн. Н. *сухавеі*: Дз, 191.

**[СУХАЖЫЛЬНЫ]** *прым.* Які зроблены з сухажылляў. *Каб таго скруціла Гадзінавым скрутам І прастала потым Сухажыльным прутам, - Хто круціў нам сьцежкі Да жыцьця і славы, Засьцілаўшы вочы Туманом крывавым.* К.

Адз. м. Т. *сухажыльным*: К.

**[СУХІ]** (4) *прым.* **1.** Пазбаўлены спажыўных сокаў, засохлы (пра расліны). *Мала іх* [тракцістаў-дыверсантаў] *павесіць На сухой асіне, Бо нават асіна Ад сябе адкіне.* МПв, 218. *..Ён* [Сталін] *перарэжа горла людаеду, ўбіўцу, Ён Гітлера павесіць на сухой асіне.* ПНд, 314.

**2.** Сухарлявы. *А другі* [хлопчык] *– ты прыпамінаеш? Над брывёю шрам услонь, І ў вачох яго сінь такая-ж, І сухая таксама скронь.* ВБЛ, 81.

Адз. ж. Н. *сухая*: ВБЛ, 81. М. *сухой* (2): МПв, 218; ПНд, 314. н. Н. *сухое*: МПв, 218.

**[СУХОТЫ]** *толькі мн. Разм.* Туберкулёз. *Жылі* [людзі] *– як і дзе папала ў падвалах, халодныя і галодныя, нажывалі сабе сухоты і іншыя галодныя-халодныя хваробы..* МІ, 17.

В. *сухоты*: МІ, 17.

**[СУЧАСНАСЬЦЬ]** *ж.* Сучасная рэчаіснасць. *..забабон у наш XX-ты век апляваў паскуднай сьлінай увесь культурны сьвет, кінуўшы яму у вочы процэс Бэйліса. Закалыхалося тады магутнае балото расійскай непрагляднай сучаснасьці, закалыхалося і ... прыціхло.* З.

Адз. Р. *сучаснасьці*: З.

**[СУЧАСНЫ]** (4) *прым.* **1.** Які адносіцца да сваёй эпохі. *Няхай жыве культура, зьмест і форма якое выпісаны на ленінскім сьцягу найвялікшым сучасным правадыром пралетарыяту т. Сталіным..* АЛ.

**2.** Цяперашні. [Мікіта]: *Сучаснае рэволюцыйнае забурэнне, выклікаўшае часовы ўпадак рангаў і клясаў, падкасіла і экономічныя падваліны дабрабыту рускай інтэлігенцыі.* Т, 28. [Мікіта]: *Пры сучасным палітычным і экономічным становішчы Расійскай, меджду протчым, імпэрыі няможна йначай.* Там жа, 45.

Адз. м. В. *сучасны*: Т, 29. Т. *сучасным*: АЛ. н. Н. *сучаснае*: Т, 28. М. *сучасным*: Т, 45.

**[СУЧОК]** *м.* Кавалак дрэва. *Уваходзіць Мікіта.., цягнучы за сабой каламажку, у якой: тры тоўстыя вялізныя партфэлі, а чацвёрты – меншы; .. некалькі сучкоў дроў, букетнік для кветак, тры чаркі.* Т, 45.

Мн. Р. *сучкоў*: Т, 45.

**[СУЧЫЦЬ]** *незак. Разм.* Ісці, кіраваць куды-н. *Гэткай рдзее душой чараўнік-сьлепаводнік, Што сыноў навучыў трох калісьці, А за ім сучыць сьледам, цянюючы, зводнік І гайдае зялёнае лісьце.* Ч, 324.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *сучыць*: Ч, 324.

**СУША** (3) *ж.*Зямля ў процілегласць воднай прасторы. *..прыязджалі па моры і па сушы багатыя госці з багатымі таварамі – шоўкам, бісерам, янтаром ды драгацэннымі скарбамі.* Кз, 17. *Ці то сушы, ці то моры, Ці то высі паднябесся, Усюды стрэнеш непакораў – Камсамольцаў нашых з песняй.* СА, 179. *Параўн.* лёнд.

Адз. Н. *суша*: Т, 47. М. *сушы*: Кз, 17. Мн. Н. *сушы*: СА, 179.

**СУШЫЦЬ** (3) *незак.* **1.** Выдаляць (вільгаць). *Сьпім* [жаўнеры] *на узьмежку пад ігрушай, Дожджык моча, сонца суша.* БЗ.

**2.** *Разм., перан.* Мучыць. *Каб таму па локаць Адсушыла рукі, І аб сьценку біўся Ад балеснай мукі, - Хто сушыў у няволі Люд наш працавіты, Задаваў вужача Раны непазбыты.* К.

◊ **Сушыць мазгі** – вывучыць што-н. [Мікіта]: *..вы* [Янка] *хацелі б заставіць нас, руска-ісцінуую тутэйшую, меджду протчым, інтэлігенцыю, сушыць над ім* [беларускім языком] *свае апошнія мазгі.* Т, 49.

Інф. *сушыць*: Т, 49. Абв. цяп. адз. 3 ас. *суша*: БЗ. Пр. адз. м. *сушыў*: К.

**СХАВАЦЦА** (2) *зак.* **1.** Замаскіравацца дзе-н., каб нельга было убачыць. [Наста]: *Ці нямножна ад гэтых паноў дзе на*

*хвіліну мне схавацца?..* Т, 23.

**2.** *перан.* Пазбегнуць чаго-н. *Мы сабе самі збожжа збіралі І частавалі мёдам суседзяў, Вас бізуном паны частавалі, Ад бед схавацца вам было недзе.* ССА, 294.

Інф. *схавацца* (2): ССА, 294; Т, 23.

**[СХАВАЦЬ]** (2) *зак.* Змясціць ў патаемным месцы. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, кіньце абразы і прыце хутчэй па портфэлі, што летась схавалі.* Т, 59. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, схавайце гэтыя портфэлі – можа, дзе пад комін ці куды іх падсунеце.* Там жа, 50.

Абв. пр. мн. *схавалі*: Т, 59. Заг. мн. 2 ас. *схавайце*: Т, 50.

**[СХАВАЦЬ-РАСХВАТАЦЬ]** (3) *зак.* Адабраць. [Першы ганец:] *За мною ўьцяж, і тут, і там Іх* [людзей] *вусны бледные шэпталі: Аддайце сонцэ нашэ нам! На што схавалі-расхваталі?* Кц, 194.

Абв. пр. мн. *схавалі-расхваталі* (3): Кц, 194, 195 (2).

**[СХАДЗІЦЬ]** (2) *зак.* Пайсці куды-н; вярнуцца назад. [Мікіта]: *..толькі схаджу на мінутку на Койданаўскую вуліцу паслухаць, як там стаіць курс на валюту.* Т, 34. *Адно кажа мамка міла: – Ты йшчэ сходзіш* [на выбары]*, Галя.* Вб, 236. *Параўн.* сцягацца.

Абв. буд. адз. 1 ас. *схаджу*: Т, 34. 2 ас. *сходзіш*: Вб, 236.

**[СХАПІЦЬ]** (4) *зак.* **1.** Узяць хуткім, рэзкім рухам рук. *Тут рэдактар схапіў адну з падлогі газэту, кінуў мне проста ў вочы..* Ан, 19. *Я, не ўдаючыся ў далейшую гутарку, схапіў газэты і папёрся дамоў.* Там жа, 19.

**2.** *Разм.* Сілай затрымаць. [Гануля]: *.. ідзі* [Мікіта] *асцярожна, каб цябе ў палон не схапілі..* Т, 56.

◊ **Хапун не схопіць** *гл.* хапун**.**

Абв. пр. адз. м. *схапіў* (2): Ан, 19 (2). Мн. *схапілі*: Т, 56. Буд. адз. 3 ас. *схопіць*: Т, 42.

**СХІЛЯЦЬ** (2) *незак.:* ◊ **Схіляць галаву** (2) – адносіцца з пашанай да каго-н. [Мікіта]: *Я заўсёды схіляю перад імі* [вучонымі] *сваю, меджду протчым, галаву.* [Янка]: *Асабліва перад гэтымі вы павінны як найніжэй схіляць.* Т, 39.

Інф. *схіляць*: Т, 39. Абв. цяп. адз. 1 ас. *схіляю*: Т, 39.

**[СХОВА]** (2) *ж.* **1.** Патаемнае месца. *Схову новую ладзь* [трэці брат]*, больш твае скуль прыпасы-б Не валок зводны зьмей і начніцы..* Ч, 323.

**2.** *перан.* Абарона. *Так, так. Мой дружа, іначай бывала, – Не называўся забытым мой край; "Поўнач" не раз у ім схову шукала, "Захад" знаў сілу яго неўнарай.* Н.

Адз. В. *схову* (2): Н; Ч, 323.

**СХОД** (2) *м.* **1.** Сумеснае пасяджэнне членаў якой-н. арганізацыі. *Я* [Купала] *з вылікім задавальненнем і радасцю прачытаў прынятае на сходзе нашых пісьменнікаў прывітанне мудраму правадыру..* ШБСЯ. // Удзельнікі сходу. *Агульны сход пісьменнікаў і супрацоўнікаў ССП БССР .. аднагалосна вылучыў сваім кандыдатам у Вярхоўны Совет Саюза ССР Вас, Нікалай Іванавіч..* НКУС. *Па даручэнню агульнага схода – народны паэт рэспублікі Янка Купала.* Там жа.

**2.** Збор каго-н. з якой-н. мэтай. *На мой кліч, на сход Гмін народу йшло, Шоў ваяк з ваякам, – Кожны смел, ахвоч..* ВБ. *На сход, незвычайны свой сход, Да новых нявіданных дзён Ідзе наш совецкі народ З далёкіх і блізкіх старон.* ТП, 217.

Адз. Н. *сход*: НКУС. Р. *схода*: НКУС. В. *сход* (6): ВБ (2); М, 20; НКУС; ТП, 217 (2). М. *сходзе* (2): ТП, 217; ШБСЯ. Мн. Н. *сходы*: ДК.

**[СХОДЗІЦЬ]** *незак. Вобразн.* Наступаць, распаўсюджвацца. *Новая доля, шчаслівая доля Ясна з Усходу квяцістай дарогай Сходзіць ад пушчы, на рэкі, на поле, Сее вясёласць, зганяе трывогу.* Мц, 75.

Абв. цяп. адз. 3 ас. сходзіць: Мц, 75.

**[СХОДКА]** *ж.* Збор людзей з якой-н. мэтай. [Мікіта]: *..вашы* [Янкі] *сходкі ці там з'езды раскідаюцца, а саміх на казённы хлеб садзяць.* Т, 21.

Мн. Н. *сходкі*: Т, 21.

**[СЦЕЖАНЬКА]** (2) *ж. Разм. Ласк. да* сцежка. Дарога, шлях. *Выбіраў жаўнер Трэццю сцежаньку. Гэй, гэй, гэй, трэццю сцежаньку!* ББ.

Адз. В. *сцежаньку* (2): ББ (2).

**СЦЕЖКА** (5) і **СЬЦЕЖКА** (10) *ж. перан.* Жыццёвы шлях. *Тры паказываў ім* [сынам] *ён* [чараўнік] *на сьвеце дарогі, Тры пуціны іх долі-нядолі, .. Спадабалася першаму першая сьцежка, А другая – другому сыночку..* Ч, 319–320. *Ён* [першы сын] *і рад, і ня рад, а пуцьця меней штодзень На тэй выбранай сьцежцы..* Там жа, 320. // Кірунак да чаго-н. *Маё мне сонца правадыр, Мне сцежкі знача безупынна..* МСП, 187.

Δ **Дарога-сцежка** *гл.* дарога**.**

Адз. Н. *сьцежка*: Ч, 320. Р. *сьцежкі*: Г, 17. В. *сьцежку* (5): БН, 93; Г, 17 (3); Дз, 187. Т. *сьцежкаю*: ВМР. М. *сьцежцы*: Ч, 320. Мн. В. *сцежкі* (5): К; МСП, 187 (2); Т, 35; ТП, 217; *сьцежкі*: ВБЛ, 81.

**[СЦЕНКА]** (2) *ж. Тое, што* сцяна *ў* 1 *знач. Каб таму па локаць Адсушыла рукі І аб сценку біўся Ад балеснай мукі, - Хто сушыў у няволі Люд наш працавіты..* К. [Мікіта]: *А ця-*

*пер займемся адсабураваць сценкі.* Т, 50.

Адз. В. *сценку*: К. Мн. В. *сценкі*: Т, 50.

**[СЦЕРАГЧЫСЯ]** (4) *незак.* Быць асцярожным. *З ім* [камсамольцам] *не жарты, з ім не гулі, – Сцеражыся подлы вораг!* СА, 181. [Янка]: *О, гэта ўжо правакатарскімі прынцыпамі запахла ад вас* [Мікіты]! *Але сцеражыцеся, пане рэгістратар.* Т, 56.

Заг. адз. 2 ас. *сцеражыся* (2): ВГ; СА, 181. Мн. 2 ас. *сцеражыцеся* (2): БЗ; Т, 56.

**[СЦЕРВА]** *м. Разм., лаянк.* Подлы чалавек. [Хлопчык]: *І зробім чуць-чуць астаноўку, Каб сцерве папасці ў папад: Для Гітлера скінем вяроўку, Хутчэй каб павесіўся кат.* ХЛВ, 316.

Адз. Д. *сцерве*: ХЛВ, 316.

**[СЦЕРЦІ]** (2) і **СЬЦЕРЦІ** *зак. да* сціраць *у* 2 *знач. І тые* [соцыяльные рэволюцыянеры з усходу] *і гэтые* [нацыянальные "рэволюцыянеры" з захаду] *ў сваім мілітарна-імпэрыялістычным паходзе стараюцца сьцерці па дарозе ўсё, што ім стаіць на перашкодзе..* СНБ. *Мы, згартаваныя сталінскай воляй, Смерцю сатром людаедаў..* СЗГ, 252.

◊ **Сцерці на порах** – вынішчыць. *Гэй, выходзь, бяда, Гэй, выходзь, хто нам – Непрыяцель-вораг; Пачастуем так, Што папомніш век, Ды сатром на порах.* ВБ.

Інф. *сьцерці*: СНБ. Абв. буд. мн. 1 ас. *сатром* (2): ВБ; СЗГ, 252.

**[СЦІРАЦЬ]** і **[СЬЦІРАЦЬ]** *незак.* **1.** Выціраць. *Путы звонка бражджаць і ўгары, і ўнізу, Жутка вісельні граюць, сьлізгоча пятля; Той абліўся крывёй, той сьцірае сьлязу...* БН, 91.

**2.** *перан.* Знішчаць, ліквідаваць. *Вы* [паны-гандляры] *ў сваім паходзе імперыялістычным і мілітарным ішлі і сціралі ўсё і ўсіх на сваёй дарозе..* Тж, 16.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *сьцірае*: БН, 91. Пр. мн. *сціралі*: Тж, 16.

**[СЦІСКАЦЦА]** і **[СЬЦІСКАЦЦА]** *незак.* **1.** Скурчвацца. *Дома дрэме* [чараўнік], *сьціскаецца стульна, як злодзей, Б'е падданчы паклон за парогам злодзей..* Ч, 321.

**2.** *перан.* Адчуваць унутраны цяжар, боль пад уплывам якога-н. пачуцця (пра сэрца). *Тут далёка, ў чужой старане, Усякі раз, як зближаецца ноч, Сэрца боллю сціскаецца мне, І спакой недзе коціцца проч.* ЧС, 50-51.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *сціскаецца*: ЧС, 50-51; *сьціскаецца*: Ч, 321.

**СЦІХА** *прысл. Абл.* Ціха, нягучна. [Аленка]: *Але і кніжак з сабой набяром?* [Янка]: *Абавязкова!* [Аленка]: (*як бы саромячыся, спускаючы вочы, сціха*). *Але толькі – беларускіх, дзядзька настаўнік!* Т, 30.

**[СЦІХНУЦЬ]** (2) і **[СЬЦІХНУЦЬ]** (2) *зак.* **1.** Заціхнуць.

*Чую, ах чую цяпер яшчэ ясна Той неўгамонны, расходзісты звон... Сціх, занямеў, аглушылі напрасна; Ці адазвецца калі болей ён?..* Н. // Замоўкнуць. *Замерла песьня. Грозна рэхі Пайшлі па пушчах, па лясох, Аж сьціхлі птушчыныя сьмехі, Аж вецер сьцішыцца ня мог.* УрП, 49.

**2.** Прыглушыцца (пра пачуцці). *Гэтакі ў часе глухой непагоды Чуецца з Нёмнавай гутарцы жаль. Сціхне, і плаўна зноў коцяцца воды Вольнага Нёману ў цёмную даль.* Н.

Абв. пр. адз. м. *сціх*: Н. Мн. *сьціхлі*: УрП, 49. Буд. адз. 3 ас. *сціхне*: Мн.. 3 ас. *сьціхнуць*: Б, 18.

**СЦІХШЫ** *дзеепрым. незал. пр. да* сціхнуць. Які стаў другарадным па значэнню. *Кліч "Зямля і воля працоўнаму люду!", сціхшы сягодня ў нашым краю праз варункі ваеннай завірухі, як бы адышоў на другі план, на апошні закутак.* ЗС, 17.

Адз. м. Н. *сціхшы*: ЗС, 17.

**[СЦЭНА]** (3) *ж.* Спецыяльная пляцоўка ў тэатры, на якой адбываюцца спектаклі; тэатральныя падмосткі. *Увесь склад трупы тэатра перад пачаткам спектакля выйшаў на сцэну і горача вітаў совецкіх пісьменнікаў і журналістаў.* ПЧ. *Колькі хвілін Янка і Наста застаюцца на сцэне моўчкі, не ведаючы, што з сабой рабіць.* Т, 50. // Тэатральная дзейнасць. *Можна для прыкладу паказаць хоць-бы на тое, што А.Талстой разам з Францам Кубкам будзе працаваць над перакладам пастаноўкі на совецкай сцэне оперы Смятаны "Прададаная нявеста" – чаго не ўдалося зрабіць у часы царызму.* ПЧ.

Адз. В. *сцэну*: ПЧ. М. *сцэне* (2): ПЧ; Т, 50.

**СЦЮДЗЁНА** *прысл. безас. У знач. вык. Разм.* Холадна. *Позняя восень. Сцюдзёна. Пад вечар.* Т, 33.

**[СЦЮЖА]** і **СЬЦЮЖА** (2) *ж. Разм.* Моцны холад. *Верасень – мой* [С.Меча] *любімы месяц, але ў нас (у Расеі) звычайна псуюць яго дажджы, што ліюцца цэлыя тыдні, вецер і сьцюжа.* ХБ, 29. *У зімнюю сцюжу, у летнюю спёку, Як дні, так і ночы наш слаўны дазор Не зводзіць з граніцы арлінага вока, Не ўтояць шпіёна ні дзебры, ні бор.* ПБН.

Адз. Н. *сьцюжа*: ХБ, 29. В. *сьцюжу*: Ч, 324; *сцюжу*: ПБН.

**[СЦЮЖНЫ]** і **[СЬЦЮЖНЫ]** *прым. Разм.* Халодны. *Ой, ты сіняя, ты сьцюжная зіма, Сярод лета прышла к дзеваньцы сама.* ВБЛ, 82. *Не па нутру, як смерць, яму* [сатрапу], *Што беларускае дзіцё Бяжыць у сцюжную зіму У школку пазнаваць жыццё.* АПЖ.

Адз. ж. Н. *сьцюжная*: ВБЛ, 82. В. *сцюжную*: АПЖ.

**СЦЯГ** (22) і **СЬЦЯГ** (16) *м.* **1.** Палотнішча як эмблема дзяржавы, арганізацыі ці вайсковай цасці. *Як той лес, жаў-*

*нер Ля жаўнера стаў, Зброя ў сонцы йграе; Зварухнуўся полк, А за ім – другі, Толькі сцяг міргае.* ВБ. [Наста]: *Вывешвайце* [Мікіта і Ануля] *хутчэй праз вакно чырвоны сцяг.* Т, 59.

**2.** *перан.* Ідэя, светапогляд. *Нацыянальная рэвалюцыя не страміцца к аднаму богу на зямлі, і не зьбівае ў вадну кучу ўсіх народаў пад адзін сьцяг.* СНБ. *..ролю застрэльшчыка сусьветнага капіталізму ўзяў на сябе беларускі нацыянал-дэмократызм, выступаючы пад сьцягам ліквідацыі ўсіх заваяваньняў Кастрычнікавай рэволюцыі, пад сьцягам рэстаўрацыі буржуазнага ладу..* АЛ.

**Беларускі сьцяг уваскрос!**

◊ **Падняць сцяг** *гл.* падняць**. Трымаць (высока) (свой) сцяг (і)** *гл.* трымаць**. Сцяг уздымаць** *гл.* уздымаць**.**

Адз. Н. *сцяг* (2): ВБ; ДЖ; *сьцяг* (4): БСУ (2); Ж; ЗК, 42. В. *сцяг* (8): АК; Нз, 14; ПВ; СК, 158; СНБ, 336; Т, 49 (2), 59; *сьцяг* (6): БСУ (3); Пт; СНБ (2). Т. *сцягам* (7): БВ, 17; ВВ, 263; ВГР; ПЛП; СА, 178; Т, 43; ШБСЯ; *сьцягам* (5): АЛ (4); З. М. *сцягу* (2): Т, 35 (2); *сьцягу*: АЛ. Мн. Р. *сцягаў*: Ф. В. *сцягі*: Т, 49. Т. *сцягамі*: ПЧ.

**[СЦЯГАЦЦА]** *зак. Разм.* Схадзіць, ці з’ездзіць куды-н. [Мікіта]: *Дарма толькі на вакзал з рэчамі сцягаўся.* Т, 55.

Абв. пр. адз. м. *сцягаўся*: Т, 55.

**[СЦЯГВАЦЬ]** *незак.* Сабіраць у адным месцы. *Гэтым Баця сцягвае патрэбныя яму абаротныя сродкі..* ПЧ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *сцягвае*: ПЧ.

**[СЦЯГНО]** *н.* Бядровая частка тушы жывёлы. [Воўк:] *Я з ваўчыцай рву сцягно, Мяса тнём па клоку.* Пц.

Адз. В. *сцягно:* Пц.

**[СЦЯГНУЦЬ]** (3) і **[СЬЦЯГНУЦЬ]** *зак.* **1.** Цягнучы, зняць каго-н. адкуль-н. [Ануля]: *Сцягнулі* [людзі Мікіту] *гвалтам з вышак і немаведама куды б зацягнулі.* Т, 46.

**2.** *Разм.* Украсці. [Мікіта]: (*Мацаецца па кішэнях*). *Сцягнуў нехта! Апошнія грошыкі сцягнуў, меджду протчым, і рускія і нямецкія.* Т, 43. *Дакуль свайго не здрадзіць слова Свая народная рука, Датуль з галін сьвятой дубровы Чужняк не сьцягне і лістка.* УрП, 50.

Абв. пр. адз. м. *сцягнуў* (2): Т, 43 (2). Мн. *сцягнулі*: Т, 46. Буд. адз. 3 ас. *сьцягне*: УрП, 50.

**[СЦЯМНЕЦЬ]** *зак. безас.* Пра надыход цемнаты, змроку, прыцемку. [Чырвонаармеец]: *Ці няможна ў вас, таварышы, перасядзець, пакуль сцямнее?* Т, 52.

Абв. буд. адз. 3 ас. *сцямнее*: Т, 52.

**[СЦЯНА]** (10) і **[СЬЦЯНА]** (3) *ж.* **1.** Вертыкальная частка будынка. *На сценах у рамах колькі тандэтных абразоў –*

*партрэтаў высокапастаўленых асоб..* Т, 19. *Па ўсіх свабодных мясцох расклеены па сценах друкаваныя ўрадавыя пастановы, дэкрэты, лозунгі, загалоўкі тагачасных газет, плакаты.* Там жа, 43.

**2.** *перан.* Пра непасрэдную блізкасць да якога-н. паселішча. [Янка]: *З гэтага мы бачым, што яны* [продкі] *за нешта змагаліся, калі пад сценамі роднага гнязда косці свае пасеялі...* Т, 35.

**3.** *перан. У знач. прысл.* Густа. *Шасцяць у калоссі сярпы, Сцяною дабро залягло, Кладуцца снапы у снапы, – Такога жніва не было.* ТП, 213.

◊ **Узносіць новы сьцены** *гл.* узносіць**.**

Адз. Р. *сцяны* (2): Т, 24, 43. Д. *сцяне*: Ан, 19. В. *сцяну*: Ан, 19. Т. *сцяною*: ТП, 213. Мн. Н. *сцены*: МД; *сьцены*: Ч, 321. Р. *сьцен*: Кц, 193. В. *сцены*: СНБ, 337; *сьцены*: Ч, 323. Т. *сценамі*: Т, 35. М. *сценах* (2): Т, 19, 43.

**СЧЭЗНУЦІ** *зак. Разм., перан.* Зачахнуць, заняпасці. *А ўспомні-прыпомні, шчасьліў, несчасьлівы, Аб тых, што ў сьвітаньні на век адыйшлі, - Усе костачкі тые на гонях папарных, – Жывых, што ў бязпуцьці акуцьцем зьвіняць... Прыпомні, дай слова ня счэзнуці марна, Пачатую справу шырыць расшыраць!* В.

Інф. *счэзнуці*: В.

**[СШЫТАК]** *м.* Асобны выпуск перыядычнага выдання або друкаванага твора, які выходзіць па частках. *..выпусьціў* [Беларускі Дзяржаўны Універсітэт] *за мінулы год два ёмкія сшыткі сваіх “Трудов”, але па беларуску ў іх ні слова.* ВСп, 90.

Мн. В. *сшыткі*: ВСп, 90.

**СЫГРАЦЬ** (4) *зак.* Выканаць што-н. на музычным інструменце. [Гануля]: *..на балалайцы, сынок, сыграй: голас у ёй ціхі.* Т, 29. [Дама]: *Мусье беларус, не адмоўцеся, сыграйце нам вальца!* Там жа, 52.

Інф. *сыграць*: Т, 52. Абв. пр. адз. м. *сыграў*: Т, 52. Заг. адз. 2 ас. *сыграй*: Т, 29. Мн. 2 ас. *сыграйце*: Т, 52.

**СЫЙСЦІ** *гл.* **СЫСЦІ.**

**[СЫМПАТЫЧНЫ]** *прым.* Прывабны (пра чалавека). [Янка]: *Праўдзівая Пабягунская. Хто яна такая?* [Мікіта]: *Так сабе – надта мілая і сымпатычная, меджду протчым, мамзэль.* Т, 23.

Адз. ж. Н. *сымпатычная*: Т, 23.

**СЫН** (54) *м.* **1.** Асоба мужчынскага полу ў адносінах да сваіх бацькоў. *Займаўся са мной* [Купалам] *сын дырэктара*

*Мінскага рэальнага вучылішча Самойла.* А, 328. *..на абедзе ў Прасценаўскай ратушы выступіла адна жанчына з хвалюючай прамовай. Яе сын – паэт-камуніст.* ПЧ.

**2.** Бліжэйшыя патомкі, маладое пакаленне. *Пройдуць гады, падрастуць сыны і ўнукі нашы і спытаюць тады нас: “Што зрабілі вы ў той бурны і векапомны час для сваіх патомкаў, для свайго краю?”* БС. *Цяпер, браты, ідуць сыны беларускіх мужыкоў, ідзе наша беларуская моладзь!* МІ, 17.

**3.** *Уст.* Асоба мужчынскага полу, якая належыць да пэўнага грамадскага саслоўя. [Поп]: *Не суеціцеся обо мне, сын мой!* Т, 52.

**4.** *Кніжн.* Чалавек як ураджэнец якой-н. мясцовасці або прадстаўнік якой-н. нацыянальнасці. *Трутнёў ня будзеце забавай, Краіны вольнае сыны, Прамчыцца бурна ваша слава На ўсе чатыры стараны.* УрП, 50. *Ішлі беларускія сыны за Урал, ішлі ў фінскія балоты, ішлі пад Царград у Турэччыну і пралівалі там рэкамі сваю бязвінную кроў..* БВ, 16. // Чалавек, цесна звязаны з чым-н. *Беларускі народ не першы год ведае доблеснага сталінца, вернага сына нашай партыі т. Ежова.* НКУС. *Гераічная барацьба лепшых сыноў рабочага класа падарвала устоі векавечнай цемры, няволі.* ДЖ.

**Гэй, паехаў сын Даніла...**

Адз. Н. *сын* (18): А, 328; АПЖ; В; Дз, 188, 190; Мц, 74; Н; НГд, 8; ПСД (3); ПЧ; Т, 20, 44, 48, 52, 57; Ч, 320. Р. *сына* (4): ПЧ (2); Ч, 320, 323. В. *сына* (5): Дз, 188; НКУС; ПСД; ПЧ; СП. Т. *сынам*: Мц, 74. Мн. Н. *сыны* (14): БС; БВ, 16, 17; БСУ; ВБЛ, 83; ЗК, 42; МІ, 17; ПБН; РКП; РКр; СБ; УрП, 50, 52; Ч, 320. Р. *сыноў* (7): ДЖ; Дз, 188; НКУС; ПЛП; Ч, 319 (2), 321. Д. *сынам*: Ч, 319. В. *сыноў* (3): ВН; НДН, 18; Ч, 326. Т. *сынамі*: РКр.

**СЫНОК** (10) *м. Ласк. да* сын *у* 1 *знач.* [Гануля]: *Толькі пільнуйся, сынок, каб не ўздумаў цягнуць* [немец] *цябе ў палон і пры адступленні, як тады – пры наступленні.* Т, 34. [Гануля]: *Купі, сынок, купі, толькі, можа, чаго з яды знойдзеш.* Там жа, 56.

Адз. Н. *сынок* (7): ЗК, 42; Мц, 20; Т, 20, 29, 34, 56, 59. В. *сынка*: Мц, 19. Мн. Н. *сынкі* (2): Дз, 189, 190.

**[СЫНОЎНІ]** *прым. Разм. Які адносіцца да* сына *ў* 3 *знач.* [Мікіта]: *Айцу духоўнаму мае сыноўняе ўпакарэнне!* Т, 37.

Адз. н. Н. *сыноўняе*: Т, 37.

**СЫНОЧАК** (6) *м. Ласк. да* сын *у* 1 *знач.* [Гануля]: *А мой жа ты сыночак!* Т, 58. *Скора сын бацьку, а бацька сыночка*

*Не распазнаюць адзін аднаго..* Н.

Адз. Н. *сыночак* (2): Мц, 19; Т, 58. Д. *сыночку*: Ч, 320. В. *сыночка*: Н. Мн. Н. *сыночкі* (2): Кц, 189, 191.

**[СЫПАЦЬ]** *незак. Разм., перан.* Імкліва ісці. *З неадступнаю нагайкай Едзе, сыпе Налівайка..* НД.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *сыпе*: НД.

**СЫР** (2) *м.* Харчовы прадукт, які робіцца з малака. *Каб яго* [Пасляка] *падбадзёрыць, не раз краў я* [Купала] *ў мацi сала або сыр і нёс яму ў узнагароду за казкі.* ПС.

◊ **Купацца як сыр у масле** *гл.* купацца**.**

Адз. Н. *сыр*: Т, 36. В. *сыр*: ПС.

**СЫРАВЕЖКА** *ж.:* ◊ **Грыб-сыравежка** *гл.* грыб**.**

Адз. Н. *сыравежка*: Ч, 320.

**[СЫРЫ]** *прым.* Вільготны. *Ўзніме чорную скібу саха працавітая, Ляжа ўсходнае зерне ў пахань сырую..* ТС, 74.

Адз. ж. В. *сырую*: ТС, 74.

**[СЫСЦІ]** і **СЫЙСЦІ** *зак. Разм., перан.* Адмовіцца ад чаго-н. *Пэўная часьць польскага грамадзянства .. сышла з тэй дарогі, якую паляком намецілі сьвятлейшые іх грамадзяне Міцкевічы, Красінскіе, Славацкіе і інш.* СНБ.

◊ **Сыйсці ў магілу** – памерці. [Дзед:] *І перад тым, як сыйсці мне ў магілу, Колькі мне сілы і дум старых хваце, Я пракляну іх* [паноў] *праклятую сілу, Каб і ў магіле іх грызла пракляцце.* Д, 73.

Інф. *сыйсці*: Д, 73. Абв. пр. адз. ж. *сышла*: СНБ.

**[СЫСЦІСЯ]** *зак. Разм.* Сустрэцца. *Два дружкі – груган з ваўком Неяк раз сышліся, Важнай гутарцы ўдваём Важна аддаліся.* Пц.

Абв. пр. мн. *сышліся*: Пц.

**СЫТА** *прысл. да* сыты. – *Слаўна мы жылі ўдваём, Сыта дні праходзяць, – Так сабе груган з ваўком Гутарку разводзяць.* Пц.

**[СЫТНЫ]** *прым., перан.* Багаты. *А хтось далёкі ці хтось, можа, блізкі Засеў за наш бяседны, сытны стол..* БЧ, 9.

Адз. м. В. *сытны*: Бч, 9.

**СЫТУАЦЫЯ** (22) *ж.* Сукупнасць абставін, у якіх што-н. адбываецца. [Мікіта]: *..такое ўмелае скарыстанне перамен палітычных сытуацый – надта лёгкі спосаб.* Т, 55. [Наста]: *Вывешвайце* [Мікіта] *хутчэй праз акно чырвоны сцяг. У падобных несамавітых сытуацыях такое часам памагае.* Там жа, 59.

Адз. Н. *сытуацыя* (9): Т 22, 36 (3), 40, 47, 48, 51, 55. Р. *сытуацыі* (4): Т, 48 (3), 57. Т. *сытуацыяй* (2): Т, 48, 50. М.

*сытуацыі* (3): Т, 40, 55, 56. Мн. Н. *сытуацыі*: Т, 23. Р. *сытуацый*: Т, 55. М. *сытуацыях* (2): Т, 23, 59.

**СЫТЫ** (5) *пры.* Які не адчувае голаду. [Мікіта]: *..мамаша, ці не далі б чаго закусіць нам, бо салавей аднымі песнямі сыт не бывае.* Т, 27. [Галасы]: *Сыты!.. вельмі сыты! .. дзякуем! .. дзякуем!..* Там жа, 28. // *перан.* Поўнасцю задаволены чым-н. *Што-ж? – разгулівай, сыты чужак, Між забраных крыжоў, курганоў, Брат скаваны не згіне і так: Ён другіх пашукае братоў.* ЧС, 50–51.

Адз. м. Н. *сыты*: ЧС, 50–51. Кар. адз. м. Н. *сыт*: Т, 27. н. Н. *сыта*: Т, 35. Мн. Н. *сыты* (2): Т, 28 (2).

**[СЫЧЭНЬНЕ]** *н.:* Δ **Сьмех-сычэньне** *гл.* сьмех**.**

Адз. Т. *сычэньнем*: См, 90.

**СЬВЕДЧЫЦЬ** *гл.* **СВЕДЧЫЦЬ.**

**СЬВЕЖЫ** *гл.* **СВЕЖЫ.**

**СЬВЕТ** *гл.* **СВЕТ.**

**[СЬВЕТАГЛЯД]** *м. Наватв. Тое, што* свет[1] *у* 1 *знач. І свае і чужыя выцягвае звадай Жылы белыя чорным патрэбам, Каб заместа усіх і ўсяго ў сьветагляду Быць усім – і зямлёю, і небам.* Ч, 325.

Адз. М. *сьветагляду*: Ч, 325.

**[СЬВЕТАЗАРНАСЦЬ]** *ж. Наватв.* Прамяністасць. *І разгараецца ясьней Паходня радасьці забытай І сьветазарнасьцей сваей Вясёлкі сее самавіты.* Кц, 196.

Адз. Т. *сьветазарнасьцей*: Кц, 196.

**СЬВЕТАЧ** *гл.* **СВЕТАЧ.**

**[СЬВЕТЛАРУСЫ]** *прым.* Светла-карычневага колеру. *Сьветларусая гладзь расхвалёваных ніў Уліла мне ў душу адчуваньняў разьліў.* АР.

Адз. ж. Н. *сьветларусая*: АР.

**СЬВЕТЛЫ** *гл.* **СВЕТЛЫ.**

**СЬВЕТЫЧ** (2) *м.* **1.** Іскра, прамень. *У тысячы сьветычаў сонц залатых Яна* [думка] *разлілася між імі* [людзьмі].. ПНд, 47.

**2.** *Тое, што* светач *у* 2 *знач. О, богі рэк, лясоў і ніваў! Дажбог, багамі сьвету дан, Пярун блыскотны і грымлівы, І ты, Купала, сьветыч тайн. Зірніце міласьцяй сваёю..* УрП, 48.

Адз. Н. *сьветыч*: УрП, 48. Мн. Р. *сьветычаў*: ПНд, 47.

**СЬВЕЧКА** *гл.* **СВЕЧКА.**

**[СЬВІДРАВАЦЬ]** *незак., перан.* Пільна ўглядацца ў каго-н. *І потым, адыходзячы ў глухую ночку, Назад сумысьля азірнецца ён* [абываталь] *ў мгле, Але яго сьвідруюць праз "цапочку" Палохлівыя шэранькія вочы...* ВБЛ, 80.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *сьвідруюць*: ВБЛ, 80.

**СЬВІННЯ** *гл.* **СВІННЯ.**

**СЬВІРЭПКА** *ж.* Пустазелле, палявая шматгадовая расліна. *Пакуль-жа блісьне шчасьце, хоць душу нягодну Зьвярні .. Да ніў родных, калосьсем ярка маляваных, Залочаных пшаніцай, жытам пасрабраных, Дзе жоўтая сьвірэпка, гдзе грэчка бяленька.* ХБ, 28.

Адз. Н. *сьвірэпка*: ХБ, 28.

**СЬВІСТ** *гл.* **СВІСТ.**

**СЬВІСТАЦЬ** *гл.* **СВІСТАЦЬ.**

**[СЬВІТАНЬНЕ]** *н. перан.* Малады ўзрост. *Забыў не адзін з нас недаўніе дні, А ўспомні-прыпомні, шчасьліў, несчасьлівы, Аб тых, што ў сьвітанньні на век адыйшлі..* В.

Адз. М. *сьвітаньні*: В.

**[СЬВІТАЧНЫ]** *прым. Які адносіцца да* сьвіткі *ў* 1 *знач. Было знаць неякае сьвята Няшлюбных з навізнай людзей, – Шарсьцелі сьвітачныя шаты, Лаза ўхмылялася з лапцей.* УрП, 47.

Мн. Н. *сьвітачныя*: УрП, 47.

**[СЬВІТКА]** (3) *ж.* **1.** Доўгая сялянская вопратка з сукна. *З-пад сьвіткі чорнай, даўгаполай Блішчэла бляха накасяк, Пры боку меч матаўся голы, На сьвітцы – нейкі страшны знак.* УрП, 51. *Забабон гэты – насьмешка і зьдзек над усім тым, што наша – беларускае: над нашай сьвіткай, над нашай хатай..* З.

Адз. Р. *сьвіткі*: УрП, 51. Т. *сьвіткай*: З. М. *сьвітцы*: УрП, 51.

**СЬВЯДОМАСЬЦЬ** *гл.* **СВЯДОМАСЦЬ.**

**[СВЯДОМЫ]** *прым.* Асэнсаваны. *Парываючы сам* [Купала] *катэгорычна і беспаваротна ідэйна і організацыйна з беларускім нацыянал-дэмократызмам, як з нейкай хвароблівай зданьню, якая палоніла мяне на працягу доўгіх год майго сьвядомага жыцьця, я шчыра жадаю, каб гэты мой горкі вопыт паслужыў навукай для тэй часткі беларускай інтэлігенцыі, якая яшчэ ня зусім вызвалілася ад нацыянал-дэмократычнага шалупіньня..* АЛ.

Адз. н. Р. *сьвядомага*: АЛ.

**СЬВЯТА** *гл.* **СВЯТА.**

**СЬВЯТЛЕЙШЫ** *гл.* **СВЯТЛЕЙШЫ.**

**СЬВЯТЛІЦА** *гл.* **СВЯТЛІЦА.**

**СЬВЯТЛО** *гл.* **СВЯТЛО.**

**СЬВЯТЛЯНЫ** *гл.* **СВЯТЛЯНЫ.**

**СЬВЯТО** *гл.* **СВЯТА.**

**СЬВЯТОЧНА** *прысл.* Урачыста. *Верны славянскім спадкам, браточна Ў госьцях вас* [людзей чужых] *мелі, І ша-*

*навалі людзка, сьвяточна Ў будні, у нядзелю.* Чж, 16.

**СЬВЯТОЧНЫ** *гл.* **СВЯТОЧНЫ.**

**СЬВЯТЫ** *гл.* **СВЯТЫ.**

**СЬВЯЦІЦЬ** *гл.* **СВЯЦІЦЬ.**

**СЬКІБА** *гл.* **СКІБА.**

**СЬЛЕД** *гл.* **СЛЕД.**

**СЬЛЕДАМ** *гл.* **СЛЕДАМ.**

**СЬЛЕДНА** *гл.* **СЛЕДНА.**

**СЬЛЕПА** (2) *прысл., перан.* Не ўсведамляючы сваіх учынкаў. *Я* [Купала] *так сьлепа, так упарта на працягу раду год ідэолёгічнымі памылкамі ў сваёй творчасьці.. не дапамагаў .. ажыцьцяўленьню соцыялізму.* АЛ. *Сьлепа зракліся* [людзі чужыя]*сораму, ўвагі, Ў хорамы селі, - Брацьцям-жэ ўзьдзелі лапці, сермягі, Торбы надзелі...* Чж, 147.

**СЬЛЁЗКА** *гл.* **СЛЁЗКА.**

**СЬЛЁСАР** *гл.* **СЛЕСАР.**

**СЬЛІВЕНЬ** *гл.* **СЛІВЕНЬ.**

**СЬЛІЗГАЦЬ** *гл.* **СЛІЗГАЦЬ.**

**[СЬЛІНА]** *ж.*: ◊ **Апляваць сьлінай** *гл.* апляваць**.**

Адз. Т. *сьлінай*: З.

**СЬЛЯЗА** *гл.* **СЛЯЗА.**

**СЬЛЯПЫ** *гл.* **СЛЯПЫ.**

**СЬМЕЛА** *гл.* **СМЕЛА.**

**[СЬМЕЛАСЬЦЬ]** (2) *ж.* Рашучасць. *Дык больш самачыннасці, больш сьмеласьці к будаваньню свайго новага незалежнага жыцьця.* БС. *Абсциса, Факториал, на беларускай – Абсцыса, Факторыял. А ня шкодзіла-б ужыць крыху сьмеласці й замяніць гэтыя чужатворы..* ВСп, 89.

Адз. Р. *сьмеласьці* (2): БС; ВСп, 89.

**СЬМЕРЦЬ** *гл.* **СМЕРЦЬ.**

**[СЬМЕТНІК]** *м.*: ◊ **Як сьвіньні на сьметнік** *гл.* сьвіння**.**

Адз. В. *сьметнік*: Х.

**СЬМЕХ** *гл.* **СМЕХ.**

**СЬМЕЦЬ** *гл.* **СМЕЦЬ.**

**СЬМЯГНУЦЬ** *незак.* Мучыцца ад смагі. *А як пойдзе хто трэцяй сьцяжынай-пуцінай, Што сваёй ня мінае граніцы, Будзе чэзнуць і вянуць націнай, паўцінай, Сьмягнуць будзе над роднай крыніцай.* Ч, 319.

Інф. *сьмягнуць*: Ч, 319.

**СЬМЯЯЦЦА** *гл.* **СМЯЯЦЦА.**

**СЬНЕГ** (4) *м.* Атмасферныя ападкі. *На небе зоры ўжо мігцяць, На полі срэбны сьнег іскрыцца..* Кц, 192. *Тае сьнег, таюць сковы зімы ледзяністые..* ТС, 74.

• **Тае сьнег...**

Адз. Н. *сьнег* (3): Кц, 192; ТС, 74 (2). Р. *сьнегу*: ХБ, 29.

**СЬНІЦЦА** *гл.* **СНІЦЦА.**

**СЬПЁКА** *гл.* **СПЁКА.**

**СЬПЕНЬ** *м. Польск. Тое, што* спеў. *І ты, брат, не бядуй, рвіся к сонцу душой, Яшчэ раз не засні! Болей крыжам адным – гэта сьень прад зарой, а там лепшыя, новыя дні!* ХХ.

Адз. Н. *сьпень*: ХХ.

**СЬПЕРАДУ** *прысл.* З пярэдняга боку. *На ўзгорку невялікім, у бярозавым гаі, Сьвяціў шляхецкі хорам, кругом дзеравяны Ды на падмураваньні, - увесь пабяляны; Тым бялейшы, што топаль сьпераду і боку Сьцерагла ад сіверу восень глыбоку.* ХБ, 28.

**[СЬПЕЎ]** *м.* Спяванне. *Вясна пачынаецца рана і ўся зьвініць ад гоману і сьпеваў птушак самых разнастайных парод..* ХБ, 29. *Параўн.* сьпень.

Адз. Р. *сьпеваў*: ХБ, 29.

**СЬПЕЎНІК** (2) *м.* Зборнік твораў для спеваў. *№28. Гэта – сьпеўнік Тэрраўскага "Лірнік"..* ВСп, 90. *Усе, надрукаваныя ўперад сьпеўнікі з нотамі разышліся, а запатрабаваньне на іх вялікае..* Там жа, 90.

Адз. Н. *сьпеўнік*: ВСп, 90. Мн. Н. *сьпеўнікі*: ВСп, 90.

**[СЬПЕЦЦА]** *зак. Разм., перан.* Дасягнуць поўнай узгодненасці ў чым-н. *Спрачаліся* ["Gazeta" і "Вестнік"] *доўга, Як край наш раскрасьці, Дый сьпеліся ўрэшце...* Х.

Абв. пр. мн. *сьпеліся*: Х.

**[СЬПЕЦЬ]** *зак.* Праспяваць. [Аўтарнік:] *І песьню сьпейце* [людзі] *на прашчаньне, – Мы, старцы, будзем слухаць вас..* УрП, 50.

Заг. мн. 2 ас. *сьпейце*: УрП, 50.

**[СЬПІС]** (3) *м.* Пісьмовы пералік чаго-н. *Бяру* [Купала] *нумары паводле сьпісу: 1, 2, 3, 4..* ВСп, 89. *Разглядаючы гэты сьпіс (табліцу), мы першым чынам заўважаем, што леташняя выдавецкая справа ня была аднабокай..* Там жа, 89.

Адз. Р. *сьпісу*: ВСп, 89. Д. *сьпісу*: ВСп, 89. В. *сьпіс*: ВСп, 89.

**[СЬПЯВАК]** *м.* Той, для каго спевы з'яўляюцца прафесіяй. *Далей гэты самы композытар напісаў музыку да верша Каганца: О, Божа, спасе наш!" і так сама часта нашы сьпевакі называюць гэта гымнам.* СБНГ.

Мн. Н. *сьпевакі*: СБНГ.

**СЬПЯВАЦЬ** *гл.* **СПЯВАЦЬ.**

**[СЬПЯКОТА]** *ж. Разм.* Спёка, гарачыня. *Ценем тулілі вас* [людзей чужых] *у сьпякоту Нашы чарэсьні..* Чж, 146.

Адз. В. *сьпякоту*: Чж, 146.

**СЬПЯЧЫ** *гл.* **СПЯЧЫ.**

**СЬПЯШАЦЦА** *гл.* **СПЯШАЦЦА.**

**[СЬПЯШЫЦЬ]** *незак. Разм. Тое, што* спяшацца. *Гэй, гэй, на спатканне вялікіх двух сьвятаў! Сьпяшыце супольна, хто ў путах ня згніў!* В.

Заг. мн. 2 ас. *сьпяшыце*: В.

**СЬЦЕЖКА** *гл.* **СЦЕЖКА.**

**[СЬЦЕРАГЧЫ]** *незак. Разм.* Захоўваць ад чаго-н. *На ўзгорку невялікім, у бярозавым гаі, Сьвяціў шляхецкі хорам, кругом дзеравяны Ды на падмураваньні, – увесь пабяляны; Тым бялейшы, што топаль сьпераду і збоку Сьцерагла ад сіверу восень глыбоку.* ХБ, 28.

Абв. пр. адз. ж. *сьцерагла*: ХБ, 28.

**[СЬЦІБРАЦЬ]** *незак. Разм.* Страсаць, скідаць. *Ён* [чараўнік] *ідзе... Сам і там набіваецца ў госьці, Упіваецца ў сэрцы нямыя, І сьцібрае на путы струхлеўшыя косьці, І пляцёнкі з асьлепленых шые.* Ч, 325.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *сьцібрае*: Ч, 325.

**СЬЦІРАЦЬ** *гл.* **СЦІРАЦЬ.**

**СЬЦІСКАЦЦА** *гл.* **СЦІСКАЦЦА.**

**[СЬЦІСНУЦЬ]** *зак.* Авалодаць. *Захапіў яго* [сына першага] *пахмур лядачны, крывавы, Жалязянымі клешчамі сьціснуў..* Ч, 320.

Абв. пр. адз. м. *сьціснуў*: Ч, 320.

**СЬЦІХНУЦЬ** *гл.* **СЦІХНУЦЬ.**

**СЬЦІШНЫ** *прым. Абл.* Ціхі, прыціхлы. *Адны* [людзі] *ў руках трымалі дары Сваім прыбліжаным багам, Другія ўспаміналі чары, Шоў гоман сьціўшны сям і там.* УрП, 47.

Адз. м. Н. *сьцішны*: УрП, 47.

**[СЬЦІШЫЦЦА]** *зак.* Змоўкнуць. *Замерла песьня. Грозна рэхі Пашлі па пушчах, па лясох, Аж сьціхлі птушчыныя сьмехі; Аж вецер сьцішыцца ня мог.* УрП, 49.

Інф. *сьцішыцца*: УрП, 49.

**[СЬЦЮДЗЁНЫ]** (2) *прым. Разм.* Суровы. *..на сьцюдзёных галодных раунінах неабнятай тундры набожны шаман муштрue бажкоў сваіх..* З. // *Вобразн. За табою валочыць* [чараўнік] *патухшыя душы, Разбаўляе дрыгву імі ў пушчы; Кроўю цёплай сьцюдзёныя вогнішчы тушыць, Сэрцы лёдам аблітыя лушчыць.* Ч, 325.

Мн. В. *сьцюдзёныя*: Ч, 325. М. *сьцюдзёных*: З.

**СЬЦЮЖА** *гл.* **СЦЮЖА.**

**СЬЦЯГ** *гл.* **СЦЯГ.**

**СЬЦЯГНУЦЬ** *гл.* **СЦЯГНУЦЬ.**

**[СЬЦЯЖЫНА]** *ж.*: Δ **Сьцяжына-пуціна:** [Чараўнік]: *А як пойдзе хто трэцяй сьцяжынай-пуцінай, Што сваёй ня мінае граніцы, Будзе чэзнуць і вянуць націнай, паўцінай, Сьмягнуць будзе над роднай крыніцай.* Ч, 319.

Адз. Т. *сьцяжынай*: Ч, 319.

**[СЬЦЯЛІЦЦА]** *незак. Руск., разм.* Слацца. *Аколіца-аселіца Пад ногі сонцам сьцеліцца...* Бз.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *сьцеліцца*: Бз.

**СЬЦЯНА** *гл.* **СЦЯНА.**

**СЭАНС** *м.* Выкананнне чаго-н. ва ўстаноўлены прамежак часу. [Мікіта]: *Што, мусьі вучоныя, сэанс ужо ўвесь, меджду протчым?* Т, 27.

Адз. Н. *сэанс*: Т, 27.

**СЭНС** (2) *м.* Значэнне. *Разумееццa, свае паступкі ён* [абываталь] *будзе тлумачыць па своему, але сэнс у гэтым, і з гэтага карыстаюць усе старые, вядомые і прывычные для яго сілы.* ВМР. *Верш мой* [Купалы] *справакавалі*: .. *2. Шыла, які асвятляў Дзям'яну Беднаму гэты верш у правакацыйным сэнсе.* СЧ.

Адз. Н. *сэнс*: ВМР. М. *сэнсе*: СЧ.

**[СЭПАРАТЫСЦКІ]** *прым.* Адасоблены. *Лёзунгу аб'яднаньня рабочых і сялян-беднякоў і серадцякоў розных нацыянальнасцяй Савецкага Саюзу пад ленінскім сьцягам, контррэволюцыйныя беларускія нацыянал-дэмократы супрорсьставілі лёзунг самобытнасьці беларускай нацыі, сэпаратысцкага разьяднаньня..* АЛ.

Адз. н. Р. *сэпаратысцкага*: АЛ.

**СЭРЦА** (76) *н.* **1.** Цэнтральны орган кровазвароту, які мае выгляд мускульнага мяшка і знаходзіцца ў левым баку грудной поласці. [Груган:] *Я дзецям нясу ў гняздо Сэрца або вока.* Пц. [Хлопчык:] *Ты* [лётчык] *будзеш глядзець самалёта, А бомбы скідаць буду я, І буду страляць з кулямёта Ў сабачыя сэрцы звяр'я.* ХЛВ, 315.

**2.** *перан.* Гэты орган як сімвал перажыванняў, настрояў, пачуццяў. *Гордасцю напоўнілася маё* [Купалы] *сэрца, калі я даведаўся, што байцы доблеснага Чырвонасцяжнага Далёкаўсходняга фронта далі сакрушаючы адпор зарваўшымся самураям.* ВГ. // Сімвал сардэчнасці, шчырасці. *Табе, правадыр, мае песні і думы, І шчырыя шчырага сэрца парывы!* ТП, 217. // Сімвал любоўнай схільнасці, любоўных пачуццяў. [Мікіта]: *Меджду протчым, павінен вам* [Янку] *сказаць, што яна* [Наста] *першая ды, мабыць, апошняя слабасць май-*

*го сэрца.* Т, 23. // Душэўны свет чалавека. *Аплятае* [забабон] *зьмяіным ланцугом і душы і сэрцы людзкіе.* З. *Вашым* [людзей чужых] *патомкам нашыя маткі Казкі складалі: Ў сэрцах дзіцячых праўдаў пачаткі Сеў засявалі.* Чж, 146. // *з азначэннем.* Душэўныя якасці, характар чалавека. *Заморскія госці ведалі, што народ, да якога ім дарога ляжала, быў сэрцам мяккага, рупны гасцінаю і багацтвам асаблівым адзначаўся...* Кз, 17. / / *з азначэннем.* Чалавек як носьбіт пэўных душэўных якасцей. *Сэрца, вялікае сэрца заўсёды Вялікія творыць праявы.* СС, 301. [Князь:] *Сьвяцільні-ж нашы не замруць, Што ў сэрцах вольных рассьветляем.* Кз, 193. *Параўн.* арганізм.

◊ **Ад (усяго) сэрца** (6) – шчыра, чыстасардэчна. [Мікіта]: *..мне ад сэрца, меджду протчым, хацелася б дастойна пачаставаць і павесяліць высокіх пэрсон.* Т, 51. *Дарагія грамадзянкі і грамадзяне зямлі беларускай! Вітаю* [Купала] *Вас і дзякую Вам ад усяго сэрца за тую памяць, якую Вы захацелі аказаць у сягоняшні дзень мне і маёй пятнаццацігадовай працы на ніве беларускай.* ПЛП. **Ад шчырага сэрца –** шчыра, чыстасардэчна. [Аленка]: *А сама я ўласнымі рукамі ад шчырага сэрца для вас* [Янкі] *выткала і вышыла.* Т, 30. **Высмактаць з сэрца сок** *гл.* высмактаць**. Высушыць сэрца** *гл.* высушыць**. Да сэрца ўздыхаць** *гл.* уздыхаць**. Да сэрца ўзяць** *гл.* узяць**. З-пад сэрца –** шчыра, чыстасардэчна. *Я Сталіну мудраму песню спяваю, А песня ад сэрца, з-пад сэрца..* С, 302. **Нож пад сэрца тачыць** *гл.* тачыць**. Падараваць абымальную руку (трапятлівае сэрца)** *гл.* падараваць**. Палягчэць на сэрцы** *гл.* палягчэць**. Сэрца боллю сціскаецца –** каму-н. невыносна цяжка ад душэўнага болю. *Тут далёка, ў чужой старане, Усякі раз, як зближаецца ноч, Сэрца боллю сціскаецца мне, І спакой недзе коціцца проч.* ЧС, 50–51. **Сэрца ляжыць** (4) **–** а) мець сімпатыю да каго-н. [Аленка]: *Не ляжыць у таткі сэрца да іх* [гасцей], *ой, не ляжыць.* Т, 29. [Янка]: *Цікава, да каго ж у цябе, Аленка, сэрца ляжыць?..* Там жа, 29; б) мець схільнасць да чаго-н. [Аленка]: *Вучыцца і навучаць, навучаць і вучыцца. Вось да чаго маё сэрца ляжыць.* Т, 29. **Сэрца рваць** *гл.* рваць**. Узяць да сэрца** *гл.* узяць**. Усім сэрцам** (4) – шчыра, чыстасардэчна. *Я* [Купала] *вітаю ўсім сэрцам комуністычную партыю і наш совецкі ўрад.* ЖН. *Народ усім сэрцам, як роднага брата, Шануе і любіць яго* [дэпутата] *па-над свет.* НДп, 229.

Адз. Н. *сэрца* (10): ВГ; ДЖ; ЁЯ; СС, 301 (2); Т, 29 (2), 41; ТП, 215; ЧС, 50-51. Р. *сэрца* (26): Бч, 9; ВГР; Г, 16; Дз, 190; Кз, 17; КЧ; ЛР; ПЛП; СА, 179; См, 90, 91; СС, 300, 302 (2); Т, 23, 30, 41 (2), 42, 51, 55; ТП, 213, 214, 215, 216, 217. Д. *сэр-*

*цу* (4): ВСп, 89; НКУС; ПСД; Т, 37. В. *сэрца* (13): АК; БН, 91; ЖН; НДп, 229; ПБН; Пц (2); СЗГ, 252; См, 90; Т, 29, 42 (2); Ч, 324. Т. *сэрцам* (11): Вб, 237; ВБЛ, 82; ЖН (2); К; Кц, 196; НДп, 229; НК; СА, 179; СС, 301; Тр. М. *сэрцы*: Т, 20. Мн. В. *сэрцы* (7): З; БН, 92; НДН, 19; СБ; ХЛВ, 315; Ч, 325 (2). М. *сэрцах* (4): Кц, 193; ПДС, 232; Пт; Чж. 146.

**[СЮДМЫ]** *ліч. парадкавы. Польск. Тое, што* сёмы. [Спічыні]: *У гэтым* [дакуменце] *напісана: "рэвіровы сюдмэго рэвіру мяста Мінска".* Т, 61.

Адз. м. Р. *сюдмэго*: Т, 61.

**СЮДЫ** (20) *прысл.* У гэта месца, у гэты бок, у гэту мясцовасць. *Маўчаць урачыста лясы і курганы, Хаваючы былі пад шатамі хвой.* ПБН. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, я залезу сюды, а вы станьце так, каб мяне засланіць.* Т, 52.

◊ **То туды, то сюды; то сюды, то туды** *гл.* туды**.**

БН, 92; З; Т, 20, 27, 33, 35, 37, 41, 45, 50, 51 (2), 52 (3), 58, 59 (2).

**[СЯБАР]** (3) *м.* Зварот да прыязнай асобы. *Мушу вам, сябры, прызнацца, што гэта Антанта сядзіць ужо ў мяне соляй у воку, косткай у горле, калоццем у баку.* Ан, 18. *Гэта папраўдзе, як і ў песьні спяваецца*: *"А ў Слуцку на рыначку сталася праява!" Так, сябры, гэта вялікая праява!* МІ, 17. *Параўн.* сябра.

∆ **Сябар-сусед**: *Ёсць жа яшчэ... Ну, а людзі? Сябры-суседзі тут, там? Вы – непадкупныя суддзі, Што ж яшчэ хочацца вам?!* ЁЯ.

Мн. Н. *сябры* (3): Ан, 18; ЁЯ; МІ, 17.

**СЯБЕ** (145) *займ. зваротны.* Указвае на адносіны дзеяння да таго, хто яго ўтварае, адпавядаючы па сэнсу асабовым займеннікам любой асобы. *А душа сама – без хаты, Знаць, з вялікай мукі, То зрывае с сябе шаты, То ў крыж зложэ рукі..* Дз, 191. *Палякі, як і бальшавікі, калі верыць адозьве начальніка Польскай дзяржаве, нясьлі з сабой вызваленьне Беларусі з адвечнага ярма.* СНБ. *Параўн.* себя, собе.

• **Паэт аб сабе.**

◊ **Выдаць сябе** *гл.* выдаць**. Зьвярнуўшы на сябе ўвагу** гл. зьвярнуўшы**. Можаце сабе ўявіць** *гл.* уявіць**. Прадаваць сябе** *гл.* прадаваць**. Пры сабе** – у наяўнасці. *Я прыкінуўся, што не чую, бо якраз дробных пры сабе тады не меў і вылецеў гарматняй куляй з рэдакцыі.* Ан, 19. **Сам (самі) сабе, сабе сам (самі)** *гл.* сам. **Сам (само) сабой (сабою)** *гл.* сам**. Узяць на сябе** *гл.* узяць**. У сябе** – у сваім краі, краіне. *Годзе нам есьці аб'едкі і косьці, Злыбядзе ўсякай паклоны дарыць! Гаспадары*

*мы ў сябе, а ня госьці, Час к панаваньню нам церабіць!* Г, 17.

Р. *сябе* (16): БН, 91; БС; ВС; ВСп, 90; Г, 17; ДД; Дз, 191; МПв, 218; ПЧ; См, 91; Т, 33, 36, 51, 54; РКр; Ч, 323. Д. *сабе* (37): Ан, 19; БЧ, 9; Вб, 237; ВН; Г, 17; ДК (2); Ж; ЖН; МІ, 17, 18; НДН, 18; Пц; См, 91; СС, 300; ССА, 294; СТ; Т, 21, 29, 36, 39, 40 (4), 41, 44, 45, 47, 55, 56, 60; Тж, 15; Ч, 319; ЧС, 50-51; Ф (2). В. *сябе* (28): АЛ; БСУ; Бч, 10; ВМР; ВР; ВС (2); ВСп, 89 (3); Г, 17; Кз, 17; Кр, 78; МПв, 218; Нз, 14; НК; ПЛП; Пт; Т, 20, 21, 24, 40, 42, 55; ПЧ; Ч, 323 (2), 324. Т. *сабой* (31): Ан, 19; БН, 92; Вб, 236; ВСп, 91; Гр, 215; ДНСП; НДН, 18; Нз, 14; ПНд, 46; ПС (2); ПСД; СНБ (5); Т, 24, 25, 30, 35, 45 (3), 50, 53, 54 (2); ТП, 216; УПУВ; УрП, 48; *собой*: БН, 91; *сабою* (18): БС; ВГ; ВМР; ВН; ВС; ДК (2); Кц, 195; ПДЗ; ПВ; СП (2); СТ (2); Ч, 324 (2), 325; $Ш_3$. М. *сабе* (4): Ан, 19; НДН, 18; ПС; Тж, 16.

**СЯБРА** (3) *м. Разм. Тое, што* сябар. [Наста]: *Сябар беларус, пайграйце нам.* Т, 29. [Мікіта]: *..за мяне, сябра беларус, не турбуйцеся.* Там жа, 56.

Адз. Н. *сябра* (3): Т, 29, 48, 56.

**СЯБРОЎКА** *ж.* Дзяўчынка, якая сябруе з кім-н. *Ой, сяброўка з вечарынкі, Нам з табою ня дружыць, – Радасць, гора мы дзялілі, А любоў не падзяліць.* ВБЛ, 82.

Адз. Н. *сяброўка*: ВБЛ, 82.

**[СЯБРОЎСКІ]** *прым.* Добразычлівы. *Не магу не сказаць* [Купала] *пра вельмі светлае ўражанне ад сяброўскага яднання з членамі нашай дэлегацыі, асабліва з старшынёй дэлегацыі, т. Кальцовым..* ПЧ.

Адз. н. Р. *сяброўскага*: ПЧ.

**СЯВЕЦ** *м. Абл. Тое, што* сейбіт. *Зярняты свабодныя сявец З сяўні сее ў пульхны загон.* ТП, 213.

Адз. Н. *сявец*: ТП, 213.

**СЯГАЦЬ** (4) *незак., перан.* **1.** Паднімацца да якога-н. узроўню (думкай, марамі). *Абыватаць не сягае далека уперад. Ён лічыцца з тым, што есьць.* ВМР. *Сваім векапомным і магутным духам народным, што адважна сягае на сонца, мы паказалі свету, што Беларусь была, ёсць і будзе.* ПЛП.

**2.** Дзейнічаць, праяўляць сябе. *..калі вольнага народнага духу не апануе цёмная сіла і ён будзе далей сягаць па арлінаму, то і справа вызваленьня Беларусі сягне на такую вышыню, на якую наша бацькаўшчына заслужыла сваім векавечным паднявольлем.* СНБ.

**3.** *Разм.* Уздымацца. *Жалейкі, дуды красавалі – Прылады свойскія музык, – Цапы і вілы ў высь сягалі, Як быў абшар далёк, вялік.* УрП, 47.

Інф. *сягаць*: СНБ. Абв. цяп. адз. 3 ас. *сягае* (2): ВМР; ПЛП. Пр. мн. *сягалі*: УрП, 47.

**СЯГНУЦЬ** (8) *зак.* **1.** *Зак. да* сягаць *у* 1 *знач. Я* [Купала] *вітаю цябе, моладзь, у гэты небывалы росквіт нашай долі, і веру, што ты яшчэ сягнеш туды, куды думка чалавечая не здагадвалася сягнуць.* ЖН.

**2.** *Зак. да* сягаць *у* 2 *знач. Беларусь мая ўсяго толькі за пятнаццаць год пад мудрым кіраўніцтвам партыі Леніна-Сталіна сягнула ў сваім творчым размаху наперад, як-бы 150 год прайшла.* ДЖ. *Я* [Купала] *вітаю цябе, моладзь .. і веру, што ты яшчэ сягнеш туды, куды думка чалавечая не здагадвалася сягнуць.* ЖН.

Інф. *сягнуць* (4): ЖН; СМ; Т, 35; Ч, 324. Абв. пр. адз. ж. *сягнула*: ДЖ. Буд. адз. 1 ас *сягну*: СМ. 2 ас. *сягнеш*: ЖН. 3 ас. *сягне*: СНБ.

**СЯГОДНЯ** (2) *прысл. Руск., разм. Тое, што* сягоння *ў* 1 *знач. Сягодня ідзе паганы торг за ідэі, за праўду векавечную, агульналюдскую.* Тж, 15. *..яна* [вучэльня] *ня споўніць таго культурнага назначэньня, якое ёй сягодня суліць гісторыя.* УПУВ. БСУ (2); З; ЗС, 17; МІ, 17 (2); Н; Тж, 15 (2).

**[СЯГОДНЯШНІ]** (3) *прым. Руск., разм. Тое, што* сягонешні. *І куды ж і к чаму ведзяце вы сягодняшнюю гісторыю, усе антанты, проці-антанты і вам падобныя?* Тж, 15. *Смешна і стыдна робіцца за гэтых паноў-гандляроў сягодняшняй культурай, культурай заходняй, еўрапейскай.* Там жа, 15.

Адз. м. Р. *сягодняшняга*: БСУ. ж. В. *сягодняшнюю*: Тж, 15. Т. *сягодняшняй*: Тж, 15.

**СЯГОНЕШНІ** (3), **[СЯГОНЯШНІ]** і **[СЯГОННЯШНІ]** *прым.* Які мае адносіны да гэтага дня. [Мікіта]: *Нешчаслівы для гандлю і мне сягонешні дзень выпаў.* Т, 34. *Вітаю Вас і дзякую Вам ад усяго сэрца за тую памяць, якую Вы захацелі аказаць у сягонешні дзень мне і маёй пятнаццацігадовай працы на ніве беларускай!* ПЛП. // Цяперашні. [Хлопчык:] *Давіць мы* [з лётчыкам] *іх будзем, як вошаў, Як гадкіх смярдзючых клапоў, Караць штораз караю горшай Сягонняшніх рыцараўпсоў.* ХЛВ, 315. *Параўн.* сягодняшні.

Адз. м. Н. *сягонешні* (2): Т, 34, 48. В. *сягонешні*: Т, 37; *сягоняшні*: ПЛП. Мн. Р. *сягонняшніх*: ХЛВ, 315.

**СЯГОННЯ** (45), **СЯГОНЬНЯ** (2), **СЁННЯ** (2) і **СЁНЬНЯ** (3) **1.** У гэты дзень. [Наста]: *Я з пэўных крыніц маю пэўныя весткі, што яны* [немцы] *яшчэ сягоння будуць у Менску.* Т, 24. [Ганула]: *Былі ж і сягоння гэныя нібы вучоныя Мікіткавы.* Там жа, 54. // У сучасны момант, цяпер. *Мы сёння з гордасцю*

*назіраем і адчуваем вялікія дасягненні ў галіне культуры.* ШБСЯ. *Учора паднявольны згорблены рабочы і селянін-бедняк, сёння з высока паднятай галавой вольны грамадзянін і будаўнік вялікага Совецскага Саюза.* Там жа. *Параўн.* сёдня, сягодня. АЛ (2); БВ, 16 (2); Бч, 9; ГП, 8; Д, 72; ДК; Ж; ЖН (3); МПв, 220; Н (2); НДп, 229, 230; Нз, 14; НК (2); ПБН (5); ПБП (2); ПЛП (2); ПСС, 232; Р; СК, 158 (2); Т, 20, 22, 23 (2), 24 (3), 25, 27 (3), 31 (3), 34, 35, 41 (2), 45, 51 (2), 53, 54, 56; ШБСЯ (3).

**2.** *У знач. наз.* Цяперашні дзеь. [Спічыні]: *Выбачайце, мусье Зносілов, але мы на сягоння лекцыю спынім.* Т, 50.

◊ **Не сягоння** – **заўтра –** вельмі хутка, у бліжэйшы час. [Мікіта]: *Не сягоння – заўтра прыходзіць новая ўлада, а з ёй такая палітычная сытуацыя, пры якой здольны аратар будзе магчы купацца, як сыр у масле.* Т, 36.

**[СЯДАЦЬ]** (5) *незак.* **1.** *Тое, што* садзіцца. *Прышоўшыя сядаюць.* Т, 37. *Госці ўсім кланяюцца, сядаюць – Поп бліжэй да вакна.* Там жа, 51.

**2.** Ужываецца як прапанова сесці. [Мікіта]: *Маё найніжэйшае ўшанаванне, ясне пане грабя! Сядайце, калі ласка, сядайце!* Т, 37.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *сядаюць* (3): Т, 25, 37, 51. Заг. мн. 2 ас. *сядайце* (2): Т, 37 (2).

**СЯДЗЕЦЬ** (21) *незак.* **1.** Займаць становішча, пры якім тулава апіраецца на што-н. ніжняй сваёй часткай. *Ганулясядзіць на спакаваных вузлох і робіць панчоху.* Т, 53. *Ясневельможны пан рэдактар ясьне-вельможнай газэты "Kurjer Ziteroski" сядзеў у сваім пакоі на пуховай пярыні і горка, горка плакаў.* ЧЧШ.

**2.** Знаходзіцца дзе-н. *Запыталіся ў Галінкі, У малой дзяўчынкі: –Што сядзіш ты, Галя, ў хаце, І не йдзеш гуляці?* Вб, 236. [Гарошка]: *Пайшлі* [Аленка і Янка] *і прапалі, а мне сядзі тут у чужой хаце і чакай іх.* Т, 44. // Жыць, гаспадарыць дзе-н. *..мы, як гаспадары гэтай зямлі, мусім сядзець на ёй.* БС.

◊ **Сядзець злажыўшы рукі –** бяздзейнічаць. *Мы сядзелі, злажыўшы рукі, і чакалі нейкага цуду, якое зьявіцца і забярэ нашае ліха.* ВС. **Сядзець на мейсцы –** пастаянна знаходзіцца дзе-н. *Прыйшлі ізноў бальшавікі, а немцы уцяклі, толькі мы* [беларусы] *сядзім на мейсцы.* БС. **Сядзець як на падпаленай бочцы з порахам –** знаходзіцца ў крытычным становішчы. *..Літ.<оўска>- Бел. <аруская> улада сядзела ўжо як на падпаленай бочцы з порахам.* СНБ, 340.

Інф. *сядзець* (6): БС (3); Т, 19, 27, 44. Абв. цяп. адз. 1 ас.

*сяджу*: Дз, 191. 2 ас. *сядзіш*: Вб, 236. 3 ас. *сядзіць* (4): Ан, 18, 19; АПЖ; Т, 41. Мн. 1 ас. *сядзім* (2): БС (2). Пр. адз. м. *сядзеў* (2): ППС; Т, 37. ж. *сядзела* (2): ПТ, 208; СНБ, 340. Мн. *сядзелі* (2): БС; ВГР. Заг. адз. 2 ас. *сядзі*: Т, 44.

**СЯК** (3) *прысл.*: ◊ **Сяк і так** *гл.* так**. Так ці сяк, сяк ці так** *гл.* так**.** ВС; Дз, 190.

**[СЯКЕРА]** (2) *ж.* Прылада, якой сякуць і склюдуюць. *Ёсць жа ў мяне вера Ў вольны мой родны народ, Што – у патрэбе – з сякерай Выйдзе за волю ў паход!* ЁЯ. *Цярэбіць стальнаю сякерай Прыблуднік нашыя лясы, Ў свае цянёты вабіць зьвера, Сьвятыя топча верасы.* УрП, 48.

Адз. Т. *сякерай* (2): ЁЯ; УрП, 48.

**[СЯКІ]** *займ.*: ◊ **Такі ці сякі** *гл.* такі**.**

Мн. В. *сякіе*: РКр.

**СЯК-ТАК** (2) *прысл.* З вялікай цяжкасцю, ледзь-ледзь. [Ануля]: *Мой нябожчык гаспадар жыў пры бацьках на маленькім надзеле. Адзін яшчэ сяк-так мясціўся ў сям'і, а як жаніўся, дык і не хапіла абаім месца.* Т, 20. [Ануля]: *Але, на шчасце, заступілася* [за Мікіту] *мамзэль Наста і сяк-так выпутала з гэтай бяды.* Там жа, 46.

**[СЯЛІБА]** (7) *ж.* **1.** Населены пункт у сельскай мясцовасці. *А тыя беззямельныя, убогія земляробы, а тыя малазямельныя вузкашнурыя вёскі і сялібы – што яны?* ЗС, 18.

**2.** *Разм.* Сядзіба, жылыя і гаспадарчыя пабудовы разам з садам, агародам, якія складаюць адну гаспадарку. [Гарошка]: *Нашы* [людзі] *ўсё роўна не хацелі пакідаць сваіх загаспадараных сяліб.* Т, 43. *Тая вялікая разруха і тое страшэннае зніштажэнне, выкліканыя вайной, найцяжэй адбіліся на нашым полі і на нашых сялібах.* АБ, 16. // Хата. *..нават калі выхадзілі* [людзі] *з сялібаў сваіх звера пушнага сачыць, то і тады замкоў не зналі..* Кз, 17.

Адз. Р. *сялібы*: Дз, 190. Мн. Н. *сялібы*: ЗС, 18. Р. *сяліб* (2): БС; Т, 43; *сялібаў* (2): Дз, 188; Кз, 17. М. *сялібах*: АБ, 16.

**[СЯЛІБНЫ]** *прым. Які адносіцца да* сялібы *ў* 1 *знач. Як сам цар-грамавік, чуе ў жылах пажары, Сонцы-б новыя сеяў* [першы брат] *па небе, Абярнуў-бы сялібныя ў полым абшары, І сьвет цэлы спаліў-бы ў патрэбе.* Ч, 324.

Мн. В. *сялібныя*: Ч, 324.

**[СЯЛО]** (13) *н.* **1.** Вялікая вёска. *Ехаў* [Даніла] *поле і другое, Трэцце поле дасціг, Дзе сабраліся З сёл і вёсак усіх.* ПСД. *..ніхто і не падумае аб тым, як жывуць, што ядуць, якую маюць страху над галавой людзі нашых вёсак, нашых сёлаў.* АБ, 16.

**2.** *зб., перан.* Сяльчане. *Б'ецца жыццё жыватворнай кры-*

*ніцаю, Песні напевамі звоняць вясёлымі, Воля жывая лунае арліцаю, Воля шчаслівая дружыцца з сёламі.* ДПЛС.

Адз. Р. *сяла* (3): ПСД (2); Т, 25. В. *сяло* (2): Гр, 215; ПСД. М. *сяле*: УП. Мн. Н. *сёлы*: УрП, 50. Р. *сёл* (3): АПЖ; ПСД; УрП, 52; *сёлаў* (2): АБ, 16; ПД. Т. *сёламі*: ДПЛС.

**СЯЛЯДЗЕЦ** *гл.* **СЕЛЯДЗЕЦ.**

**[СЯЛЯНКА]** *ж. Жан. да* селянін. *І ў апошнія гады я* [Купала] *ўсімі сіламі намагаўся далучыцца сваёй творчасьцю да вялікага соцыялістычнага будаўніцтва, якое так магутна разгортваецца ў нашай краіне, прыкладам творы: .. "Арлянятам", "Дзьве сястры" (аб работніцы і сялянцы")..* АЛ.

Адз. М. *сялянцы*: АЛ.

**СЯЛЯНСКІ** (9) *прым.* Які мае адносіны да селяніна, належыць яму. *На месцы ўбогіх сялянскіх палосак красуюцца калгасныя нівы..* АЛ.

Адз. м. Н. *сялянскі*: ЗЯЗ, 90. М. *сялянскім*: Ш$_3$. ж. М. *сялянскай* (2): НДп; Т, 37. Мн. Н. *сялянскія* (2): ЗС, 18; ПБН. Р.*сялянскіх* (3): АЛ (2); Ан, 19.

**СЯЛЯНСТВА** (3) *н.* **1.** Клас сялян. *У СССР .. рабочая кляса, у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, рэальна ажыцьцяўляе заветныя ідэалы найгенігальнейшых настаўнікаў і правадыроў працоўнага люду – Маркса і Леніна..* АЛ. *Шкодніцтва, дыверсія, шпігоўства, інтэрвэнцыя, – усё гэта пускаецца ў ход, .. абы толькі ўзарваць пяцігадовы план, які ажыццяўляецца нячуваным уздымам і захапленьнем рабочай клясы і бядняцка-серадняцкага сялянства пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі.* Там жа. // *зб.* Сяляне. *Я* [Купала] *пачаў пісаць у гады, калі царат вешаў на слупах рэволюцыйных рабочых, калі сялянства бунтавала па вёсках..* ЖН.

Адз. Н. *сялянства*: ЖН. Р. *сялянства* (2): АЛ (2).

**СЯМ** (3) *прысл.*: ◊ **Сям і там; там, сям** *гл.* там**.**

УрП, 47; ХБ, 28; Ч, 325.

**СЯМІГАДОВЫ** *прым.* Узростам у сем год. *І бубніць, бубніць бабульцы Ўнук сямігадовы.* Вб, 237.

Адз. м. Н. *сямігадовы*: Вб, 237.

**[СЯМІМІЛЬНЫ]** *прым.*: ◊ **Сямімільнымі крокамі** *гл.* крок**.**

Мн. Т. *сямімільнымі*: ВГР.

**СЯМІЦВЕТ** *м.*: Δ **Сяміцвет-вясёлка**: *Не аб сяміцвет-вясёлках Фарбаў негаданых, .. Мая песня сёння будзе Радасцямі ройнай – Аб любімых кандыдатах У Совет Вярхоўны.* НК.

Адз. Н. *сяміцвет*: НК.

**СЯМ'Я** (12) і **СЕМ'Я** *ж.* **1.** Група людзей, якая складаец-

ца з мужа, жонкі, дзяцей і іншых сваякоў, што жывуць разам. *Вось-жэ калі с толкам пажычаць будзе магазын гэта збожа, то не адна сем'я запаснога будзе як сьлед накормлена.* ВС. [Гануля]: *Адзін* [гаспадар] *яшчэ сяк-так мясціўся ў сям'і, а як жаніўся, дык і не хапіла абаім месца.* Т, 20.

**2.** Мноства птушак. *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня з душы і гартоўна, як сталь, Якую пяе арлоў горных сям'я, Якую пяе пры кавадле каваль.* СС, 300.

**3.** *перан.* Група, арганізацыя людзей, аб'яднаных агульнымі інтарэсамі, дзейнасцю, дружбай. *Глянь, карабль плыве дасужна, Дыміць комін параходны, - Камсамольцы сям'ёй дружнай Рэжуць хвалі ў шляху водным.* СА, 180.

Адз. Н. *сям'я* (2): БН, 92; СС, 300; *сем'я*: ВС. Д. *сям'і*: БрБ, 6. В. *сям'ю* (4): ВБЛ, 80; ЗЯЗ, 90; Пт; ТП, 217. Т. *сям'ёй* (2): СА, 180; УрП, 50; *сям'ёю*: ПБН. М. *сям'і*: Т, 20. Мн. Т. *сем'ямі*: СЧ.

**СЯРДЗІТА** *прысл.* З гневам, злосцю. [Мікіта]: *(Да Абарванца). ..а як вам хіба ведама – буржуазія нічым не жэртвуе. (Сярдзіта адварочваецца набок).* Т, 43.

**СЯРМЯЖНЫ** (2) *прым., перан.* Бядняцкі, сялянскі. [Янка]: *Ідзе народ, беларускі сярмяжны народ ідзе, а ён вашаму* [Мікіты] *руска-ісцінаму рэгістратарству саб'е рогі.* Т, 56. [Мікіта]: *..і па-беларуску ў тутэйшую сярмяжную шацію вялікія руска-ісціныя прынцыпы а ядынасці, непадзельнасці і самадзяржаўнасці Расійскай, меджду протчым, імпэрыі.* Там жа, 56.

Адз. м. Н. *сярмяжны*: Т, 56. ж. В. *сярмяжную*: Т, 56.

**СЯРОД** (9) *прыназ.* **1.** У прамежку паміж пачаткам і канцом якога-н. адрэзка часу; на працягу, у час чаго-н. *Ці апомнюцца сыночкі У сваей правіне? Ці загінуць сярод ночкі, Што і сьлед загіне?..* Дз, 191. *Ой, ты сіняя, ты сьцюжная зіма, Сярод лета прышла к дзеваньцы сама.* ВБЛ, 81.

**2.** У асяроддзі, у акружэнні каго-, чаго-н. *Не адна жанчына зойме сваё пачэснае месца сярод дэпутатаў Вярхоўнага Совета СССР.* ГВУ. *Як двурог-маладзік, маладзеў* [брат другі] *сярод зломаў, Вызіраў непакорай, пакорай..* Ч, 324.

• **Сярод разьюшаных сатрапаў...**

ДК; ПЛП; РС, 39 (2); СМ.

**СЯРЭДНІ** (5) *прым.* **1.** *У знач наз.* Другі па ўзросту з трох (дзяцей). *Як прышоў дамоў, сярэдні* [сын] *Выгледаў багата, Й не пазнаў, як зьвер пасьледні, Ні мяне, ні брата.* Дз, 190. *Як дамоў вярнуўся меньшы* [сын], *Сьвету як увідзеў, – Аказаўся дасьціпнейшы, Чым сярэдні, ў крыўдзе.* Там жа, 190.

**2.** Прамежкавы (паміж вялікім і малым). *Гэнрых Мотавіч*

*Спічыні – Мікітавы настаўнік, сярэдняга веку, бараду і вусы голіць.* Т, 19.

◊ **У сярэднім –** прыблізна. *Гэта складае 2120 рэзаў (стоп) паперы; лічачы ў сярэднім па 50 фунт. стапу, атрымаем 2650 пуд.* .. ВСп, 91.

Адз. м. Н. *сярэдні* (3): Дз, 189, 190 (2). Р. *сярэдняга*: Т, 19. М. *сярэднім*: ВСп, 91.

**СЯСТРА** (8) *ж.* **1.** Кожная з дачок у адносінах да іншых дзяцей гэтых жа бацькоў. *Памятаю* [Купала], *яшчэ ў Прудзішчах, калі бацька пасылаў мяне з сястрой на начлег пасвіць коней, я браў з сабой кнігі і пры свеце кастра або месяца чытаў.* ПС. *Калі я* [Купала] *прывёз пахаваць сясцёр, якія памерлі ў адзін час, ксёндз патрабаваў падвойную плату за пахаванне.* А, 328. // *У параўн. Так сама дзякую* [Купала] *ад усёй душы п. Галене Суднік, якая праз увесь час даглядала мяне ў бальніцы, як родная сястра.* ЛР.

**2.** Асоба сярэдняга медыцынскага персаналу ў лячэбнай установе. *Так сама дзякую* [Купала] *ад усёй душы усім сёстрам бальнічным..* ЛР.

• **Сястра міласэрдзя** – медыцынская сястра. [Дама]: *Дазвольце мне быць сястрой міласэрдзя.* Т, 52.

Адз. Н. *сястра* (2): ЛР; Т, 25. Т. *сястрой* (2): ПС; Т, 52. Мн. Н. *сёстры* (2): А, 328 (2). Д. *сёстрам*: ЛР. В. *сясцёр*: А, 328.

**[СЯСТРЫЧКА]** (2) *ж. Памянш.-ласк. да* сястра *ў* 1 *знач. Мне* [хлопчыку] *мамку зарэзалі немцы, Сястрычку спалілі жыўём..* ХЛВ, 315. [Хлопчык:] *Так будзем ляцець з табой* [лётчыкам] *разам – Адважныя ўсюды ў баю, – Фашысцкую смерціць заразу За мамку й сястрычку маю.* Там жа, 316.

Адз. В. *сятрычку* (2): ХЛВ, 315, 316.

**[СЯЎБА]** (12) *ж.* **1.** Пара, калі сеюць. *Цяперака час жытняй сяўбы.* РКр.

**2.** *перан.* Пасеў збожжавых культур. *І ўсё вы* [бальшавікі] *ўзялі, ўсё як ёсць: Фабрычны дым, сяўбы загон І панскі двор, і царскі трон... Ды стала ўсё вам гэта ў злосць.* ПВ. *Глыбей, далей у прасторы Па ўраджай з сяўбы багаты, Камсамольцы-вярнігоры, Сталінскія арляняты!* СА, 180.

**3.** *перан.* Ураджай, збожжа. *Шостую вясну ўжо ён* [беларус-хлебароб] *сее так безнадзейна, ня ведаючы – хто яго сяўбу жаць будзе.* ДД. *Хай Вас* [браты-беларусы] *не палохае, .. што сяўбу нашу жне нехта іншы, – зямля, засеяная касцямі сыноў беларускіх, будзе вечна належаць да ўнукаў беларускіх..* ПЛ.

Адз. Р. *сяўбы* (9): ПВ; РКр; СА, 178, 179 (2); 180 (2), 181

(2). В. *сяўбу* (3): ДД; ПЛП (2).

**[СЯЎНЯ]** (2) *ж.* Лубянка для ручной сяўбы. *Зярняты свабодныя сявец З сяўні сее ў пульхны загон.* ТП, 213. *Памагаймо тым, у каго німа каму выйсці на поле з сяўняю.* РКр.

Адз. Р. *сяўні*: ТП, 213. Т. *сяўняю*: РКр.

**[СЯЧЫ]** (2) *незак.*: ◊ **Як рэпу сячы –** добра гаварыць. [Мікіта]: *А чаму той, што маніўся мяне ў палон, меджду протчым, ўзяць, як рэпу сек па-нашаму?* Т, 42. **Як тапаром сячы** – гаварыць пра што-н. рашуча. [Гарошка]: *Наш настаўнік, Янка, дык той без ніякага нічога, як тапаром сячэ: "Пакуль, кажа, не зробімся самі сабе гаспадарамі, датуль ніякага ладу ні складу ў нас не будзе!"* Т, 44.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *сячэ*: Т, 44. Пр. адз. м. *сек*: Т, 42.

# Т

**[ТАБАКА]** (7) *ж. Разм.* **1.** Высушанае, дробна парэзанае лісце і сцяблíны расліны сямейства паслёнавых, якія ідуць на курэнне. [Гарошка]: *Дарма толькі вытаптаў з паў-Менску – як у шабас, усе крамы пазачыняны. Паеду без табакі.* Т, 39. .. *збіраюцца яны* [пабочныя налогі] *не с таго, хто штось мае, а с таго што паступае на продаж, як напр. акцыз на табаку, цукар, гэрбату і інш..* ВН.

**2.** *перан.* Наганяй. [Гарошка]: *Табакі не табакі, а перцу калі-небудзь дастанеш ты* [Аленка] *ў мяне за свой язык.* Т, 39.

◊ **Задаць табакі** *гл.* задаць.

Адз. Р. *табакі* (5): Ан, 18; Т, 39 (4). В. *табаку* (2): ВН (2).

**ТАБАЧНЫ** *прым.* Які мае адносіны да табакі. [Аленка]: *Гэта ж у таткі пачнецца вялікі табачны пост..* Т, 39.

Адз. м. Н. *табачны*: Т, 39.

**[ТАБЛІЦА]** (5) *ж.* Звесткі аб надрукаваным, размешчаныя ў пэўнай паслядоўнасці; спіс. *З вышэй памешчанай табліцы мы бачым, што агулам надрукавана 268. 050 кніг у ліку 2.036.527 друк. аркушаў.* ВСп, 91. *Разглядаючы гэты сьпіс (табліцу), мы першым чынам заўважаем, што леташняя выдавецкая справа ня была аднабокай..* Там жа, 89.

Адз. Р. *табліцы* (3): ВСп, 91, 92 (2). В. *табліцу* (2): ВСп, 89 (2).

**ТАВАР** (12) *м.* **1.** Усё, што з’яўляецца прадметам гандлю. [Ануля]: *Гарэлка... пісталеты... зусім не сезонны тавар у гэты час.* Т, 58. *Грамадзянка паглядзела-паглядзела тавар і пайшла.* Там жа, 34.

**2.** *перан.* Люд. *А каб давясьці думе, што тые каталікі-беларусы – гэта зусім не беларусы, а “чыстакроўные” варшавякі, іх стараюцца падфарбаваць пад варшаўскі колер і такі фальшывы “тавар” будуць паказываць думе.* ВР.

• **Жывы тавар –** людзі, насельніцтва. *Рынкам жывога*

*тавару няслава Край ўвесь зрабіла, загнала на ўбой, Дзе ўжо лет сотні Масква і Варшава Торг груганoвы вядуць між сабой.* Н.

Адз. Н. *тавар* (2): БВЛ, 82; Т, 58. Р. *тавару*: Н. В. *тавар* (6): Т, 34 (4), 45; ВР. Т. *таварам*: Т, 34. Мн. Р. *тавароў*: ВН. Т. *таварамі*: Кз, 17.

**[ТАВАРААБМЕН]** *м.* Абмен таварамі. [Гануля]: *Гэтыя рэчы Мікітка мой сёлета на тавараабмен прагандляваў.* Т, 45.

Адз. В. *тавараабмен*: Т, 45.

**[ТАВАРНЫ]** *прым.*: • **Таварны цягнік –** прызначаны для перавозкі грузаў. *Мы* [дэлегаты] *бадай што ня бачылі па дарозе таварных цягнікоў..* ПЧ.

Мн. Р. *таварных*: ПЧ.

**ТАВАРЫСКАСЦЬ** (2) *ж.*: • **Вашы тaварыскасць –** зварот да Начальніка патруля. [Мікіта]: *Гэта... гэта не гарэлка, а, меджду протчым, лікер пазнанскі, ваша таварыскасць.* Т, 60. *Зірніце ў гэтыя паперы, ваша таварыскасць.* Там жа, 62.

Адз. Н. *таварыскасць* (2): Т, 60, 62.

**[ТАВАРЫСКІ]** (4) *прым.* Сяброўскі; шчыры. *Не магу* [Купала] *не сказаць.. пра вельмі светлае ўражанне ад сяброўскага яднання з членамі нашай дэлегацыі, асабліва старшынёй дэлегацыі т. Кальцовым, які не на хвіліну не пакідаў сваіх таварыскіх клопатаў пра кожнага ўдзельніка дэлегацыі.* ПЧ.

• **Таварыскі суд** *гл.* суд. **Ваша таварыскае родзіе** *гл.* родзіе. **Ваша таварыская міласць** *гл.* міласць.

Адз. м. Р. *таварыскага*: ПЧ. ж. Н. *таварыская*: Т, 62. н. Н. *таварыскае*: Т, 60. Мн. Р. *таварыскіх*: ПЧ.

**ТАВАРЫСТВА** (2) *н. Разм.* Група людзей. [Дама]: *Я думаю, што шаноўнае таварыства са мною згодна.* Т, 51.

• **З вушамі таварыства –** мітынг. [Мікіта]: *Мітынг – гэта тое з вушамі таварыства, дзе араторыць буду я, а слухаць будуць яны, і крычаць будуць..* Т, 41.

Адз. Н. *таварыства* (2): Т, 41, 51.

**ТАРАВЫШ** (46) *м.* **1.** Чалавек, блізкі каму-н. па агульнасці поглядаў, дзейнасці, умовах жыцця. [Аленка]: *Там* [у Вільні] *праслухала настаўніцкія курсы, і цяпер я – ваш таварыш: я таксама настаўнік!* Т, 30. *.. кс. Мацеевіч і яго таварышы – гэта такіе-ж заядлые ворагі беларушчыны.* ВР.

**2.** Грамадзянін, чалавек у савецкім грамадстве. [Мікіта]: *Выбачайце я не таварыш, а меджду протчым, буржуаз, а як вам хіба ведама – буржуазія нічым не жэртвуе.* Т, 43. // У тым жа значэнні пры прозвішчы. *А дружба народаў Савецкага Саюза, як сказаў таварыш Сталін, мае нават*

*большае значэнне, чым нашы гаспадарчыя поспехі..* ЖН. Я [Купала] *дзякую тав.<арышу> Гікало, які заўсёды ўважліва адклікаўся на мае ўдачы і няўдачы на творчым шляху.* ЖН. / / У складзе зваротка або як зваротак. *Дык наперад, таварышы, да новых перамог; да новых радасцей, да соцыялізму!* ДЖ. *Паглядзіце, азірніцеся, таварышы, на нашу моладзь, на нашу слаўную Чырвоную армію, якая стаіць на стражы нашых граніц.* Там жа. *Параўн.* таварышч.

• **Народнаму камісару унутраных спраў тав.<арышу> Ежову. Старшыні ЦВК СССР і БССР т. Чарвякову. На смерць таварыша Кірава. Нашым кандыдатам ў Вярхоўны Совет БССР – таварышам Сталіну, Молатаву, Варашылаву і Ежову.**

• **Таварыш па пяру –** пісьменнік; той, хто займаецца літаратурнай працай. *.. гэта моладзь – мае дарагія таварышы па пяру – усё сэрца аддае ў сваёй творчасці вялікім дням нашага маладога гераічнага слаўнага жыцця.* ЖН.

Адз. Н. *таварыш* (18): ЖН; НКУС (2); ПЧ; СК, 158 (2), Т, 30, 42 (2), 43, 45, 60, 61 (3), 62; ХЛВ; 315, 316; *тав.<арыш>*; АЛ; В. *таварыша* (4): ЖН; НКУС (2); СК; *тав.<арыша>*: ЦСБ; *т.<аварыша>*: НКУС. Д. *таварышу*: СБ; *тав.<арышу>* (3): НКУС (2); ШБСЯ; *т.<аварышу>* (2): ПЧ; СЧ. Т. *т.<аварышам>* (4): ВСп, 90; ПЧ (2); ЦСБ. Мн. Н. *таварышы* (8): ВР; ДЖ (3); ЖН (2); СК, 158; Т, 52. Д. *таварышам*: НК; *т.<аварышам>*: ПЧ; *т.т.<аварышам>* : ЦСБ.

**[ТАВАРЫШЧ]** *м. Руск. Тое, што* таварыш *у* 2 *знач.* [Спічыні]: *.. я сам.. бачыў, як вы* [Мікіта] *з іншымі цягалі рухомую маёмасць з кватэры таварышча Боршчыка.* Т, 60.

Азд. Р. *таварышча*: Т, 60.

**[ТАГАЧАСНЫ]** (3) і **[ТАГОЧАСНЫ]** *прым.* Які існаваў ў мінулым, у тыя часы, пра якія ідзе гаворка. *Па ўсім тагачасным расійска-нямецкім фронце былі беларускія палкі, дывізіі і г.д.* БВ, 16. *Дзе больш званілі золатам, там вышэйшыя станы тагачаснага грамадзянства і служылі і прадавалі сябе, свой народ, сваю бацькаўшчыну.* Нз, 14.

**2.** Які адносіцца да аднаго часу, да адной эпохі з чым-н. *Па ўсіх свабодных мясцох расклеены па сценах друкаваныя ўрадавыя пастановы, .. загалоўкі тагачасных газет, плакаты.* Т, 43.

Адз. м. М. *тагачасным*: БВ, 16. ж. В. *тагочасную*: У. н. Р. *тагачаснага*: Нз, 14. Мн. Р. *тагачасных*: Т, 43.

**ТАГДЫ** *прысл. Разм. Тое, што* тады *ў* 3 *знач. Дзеля чаго-ж тагды гутарка аб згодзе, аб палітычнай лучнасьці з*

*Польшчай, калі усе робіцца на задор, на сварку, на калатню і варажнечу!* ОШМ.

**ТАГОЧАСНЫ** *гл.* **ТАГАЧАСНЫ.**

**ТАДЫ** (36) *прысл.* **1.** У той час, у той момант, у мінулым; або будучым; не цяпер. *Былі спробы тады стварыць і беларускую армію.* БВ, 16. *Калі мы* [сям'я Купалы] *жылі ў Прудзішчах (тады я* [Купала] *быў яшчэ хлопчыкам), у нас служыў рабочы нехта Пасляк..* ПС. // Пасля таго, што адбылося. *.. і сталі голасна казаць, што яны – беларусы, заварушыліся тады і польскіе, і расейскіе нацыяналісты.* ВР. *Такім ладам мы споўнім сьвяты свой абавязак перад бацькаўшчынай і перад яе сынамі на вайне. І будзем сьмела тады глядзець сьвету у вочы..* РКр. Ан, 19; БВ, 16; БС; ВР; ЖН; З; ПС (3); РКр; СБНГ; СНБ, 338 (2); СНБ; Т, 20, 25, 34, 43, 44, 48, 50, 51; У; УрП, 49.

**2.** Пры пэўных умовах, абставінах. [Мікіта]: *Кажа* [Наста]*, як будзеце асэсарам, тады выйду, а за рэгістратара, кажа, не магу.* Т, 23. *Дайце* [паны гандляры] *волю народам самім будаваць сваю долю. А тады гэтыя народы скажуць сваё шчырае слова аб вашай культурнасці – ці то заходняй ці то ўсходняй.* Тж, 16. ВР; Ж; Т, 23; ТП.

**3.** Ужываецца як суадноснае слова ў галоўным сказе пры даданым рэальнай умовы са злучнікам "калі". *.. нават калі выходзілі* [сяляне] *з сялібаў сваіх рыбу ў невады лавіць ці з лукам звера пушнага сачыць, то і тады замкоў не зналі..* Кз, 17. [Наста]: *Толькі тады з гэтага квасу будзе піва, калі я з пэўных крыніц напэўна даведаюся, што вы* [Мікіта] *не рэгістратар толькі, а ўжо асэсар.* Т, 42. *Параўн.* тагды.

**[ТАЕМНЫ]** *прым.* Загадкавы. *Ніва! Як ня любіць мне* [Купалу] *таемны твой шум?* АР.

Адз. м. В. *таемны*: АР.

**[ТАЙНА]** *ж.* Таямніца. *О, богі рэк, лясоў і ніваў! Дажбог, багамі сьвету дан, Пярун блыскотны і грымлівы, І ты, Купала, сьветыч тайн.* УрП, 28.

Мн. Р. *тайн*: УрП, 48.

**[ТАЙНЫ]** *прым.* Недаступны іншым. *Чуткі толькі ішлі, як туманы, і вялі Ў самасейным паходзе сталецьцяў, Што пранікнуць яна* [судзьбіна] *можа ў тайныя далі І адкрыць сьветы новыя ў сьвеце.* Ч, 322.

Мн. В. *тайныя*: Ч, 322.

**ТАК[1]** (157) *прысл.* **1.** Абазначае акалічнасць способу дзеяння; такім чынам. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, я залезу сюды, а вы станьце так, каб мяне засланіць.* Т, 52. *Так расьце нездавольства ў сыноў чарадзея – Ў іх саміх і на іх,*

*на ўсім сьвеце..* Ч, 321. // З даданым сказам спосабу дзеяння або даданым параўнальным, які ўдакладняе сэнс прыслоўя або дзеяслова. *Так камень не ляжа, як змора падання Лягла ад мяжы да мяжы З надзеяй, што нават і думку змагання "Забраны край" вырве з душы.* ЗК, 43. *І стала так, як старац гэты Сказаў пакорнай грамадзе..* УрП, 51. // (звычайна з адмоўем). Адпаведным чынам. .. *Папробуе* [народ] *песьню – йшчэ звоне, як звон, Але ўжо не так, як бывала.* ПН, 46. [Мікіта]: *А чаму ж бы не так? Па-мойму, зусім свабодная* [прафэсія]. Т, 36. // Наступным чынам, як сказана далей. [Мікіта]: *Цяпер так: калі конь можа цягаць павозку, то чалавек і пагатове.* Т, 45. .. *А песьня пела, пела так: Дакуль свайго ня здрадзіць слова Свая народная рука, Датуль з галін сьвятой дубровы Чужняк ня сьцягне і лістка.* УрП, 47. Б, 18; БСУ; Бц, 74; Бч, 9, 10; ГВУ; ДК; Дз, 188, 191; З; ЗК, 42; Кц, 195, 196; МД; МСП, 187; Н; НГ; НД, 229; Нз, 14 (3); Пц; ПЧ (3); РКП; СБНГ; СНБ, 337, 338, 340; Р; Т, 20, 21, 24, 25, 39, 40 (3), 44, 51, 54, 58; ТП, 215; Тж, 16; УрП, 47, 51 (2), 52; Х; ХЛВ, 316 (2); Ч, 319, 320, 325; ЧС, 50-51; $Ш_4$.

**2.** У такім выглядзе, становішчы, стане, як ёсць. *Так было спачатку.* ДЖ. *Мамкай служыла я* [маці] *на сваё ліха Некалі ў пані, так, з ласкі, задарма.* Мц, 75. // Без вынікаў, без рэагавання. – *Чакай* [людзі], *чакай, так не разходзься! Ня трэба слова мне твайго: Я* [незнаёмец] *з далі дальняй к вам прыплёўся, – Пасланец бога я свайго.* УрП, 51. Ан, 18; БС; Бч, 9; Дз, 188; З; КЧ; Нз, 14; ПС; ПСД; ПЧ; Т, 24, 25; УрП, 51; ЧС, 50–51.

**3.** У такой меры, ступені, да такой меры, ступені; вельмі; настолькі. .. *сталі легіёны аўтарных служыцеляў.. тысячы з медзі літых званоў хвалу яму* [новаму Богу] *разносіць, а так далёка, як зямля наша вяліка..* Кз, 17. [Ганулья]: *Мы ўжо да вас* [Янкі] *так прывыклі, што мне здавалася, ніколі не разлучымся.* Т, 21. АЛ (3); БрБ, 6; Бч, 9; ВБ; ВБЛ, 82; ВСп, 90; ВР; ДД (2), ДК; Дз, 187 (3), 189 (2); ЖН; ЗС, 17, 18; Нз, 14; ПЛП; Т, 19, 20, 24, 28, 40, 42, 45, 53, 57; ТП, 215; УрП, 49 (2); ШБСЯ; Ч, 321.

**4.** Без прычыны, без патрэбы; без сур'ёзнага намеру, пэўнай мэты і падставы. *Аж дакучыла, знаць, далей Недзе так бадзяцца І сынкі зьбірацца сталі, З-за далёк вертацца.* Дз, 190.

**5.** Правільна, сапраўды. *На ўсялякую іншую незалежнасць кожны з вамі згодзіцца, абы толькі не на беларускую. Чаму гэта так?* Нз, 14. [Янка]: *Ці ж першыня для Менску гэтыя трывожныя мінуты? Час было б, цётачка, і прывыкнуць да іх.* [Ганулья]: *Ды яно ж так.* Т, 53. БС; ДД; МІ, 97; СБНГ; Т, 23, 29, 35, 36, 38, 40 (2), 41, 44 (2), 48.

◊ **Вось так** *гл.* вось[2]. **І т.<ак> д.<алей> –** ужываецца ў канцы пералічэння і ўказвае, что пералічэнне можа быць прадоўжана. *"Антанта, прымаючы пад увагу, што Пятлюра, Тарыба, Дэнікін і т.д. і т.д. нічога не варты, .. махнула на іх усіх рукою..* Ан, 19. **І так і гэтак (2) –** рознымі спосабамі, на розны манер. *А быў тут хто, або ня быў, – І так і гэтак мала веры. І так і гэтак свой прыгон Распасьцірае царство ночы..* Кц, 197. **Так званы** *гл.* званы. **Так яно і ёсць** – на самой справе, сапраўды. [Мікіта]: .. *Так яно і ёсць: самая натуральная амброзія знамянітай тутэйшай фірмы – а ля самагонка, дастаўленая мне з вінных складаў "Пілін і К°".* Т, 28. **Сяк і так** – усяляк, рознымі спосабамі. *Зрабіць, раскінуць мог ён* [аўтарнік] *дзівы, Накінуць чары сяк і так..* УрП, 47. **Так і так –** ужываецца замест пераказу, паўтарэння ўжо вядомага, пра што ўжо расказвалася. – *Так і так, – кажу, – пане рэдактар: боты падзерліся, табакі няма, – дык вось патрабую пільна зарабіць якую дытку.* Ан, 18. **Так сабе** (11) – **а)** ні добрае, ні дрэннае (пра каго-, што-н.). [Янка]: .. *Як маецеся, пане рэгістратар?* [Мікіта]: *Дзякую, меджду протчым. Так сабе.* Т, 35. [Янка]: .. *мабыць, цяжкія вашы справы, што так цяжка вам час плыве ..* [Мікіта]: *Так сабе, нічога сабе, меджду протчым плыве.* Там жа, 45; **б)** проста так. [Мікіта]: *Меджду протчым, гэта яно* [чыноўніцкае становішча] *ляжыць так сабе – да часу, а потым зварухнецца і падымецца.* Т, 21. [Дама]: *Гэта мы так сабе... з прычыны перамены палітычнай сытуацыі.* Там жа, 57. ВБЛ, 81; НДН, 18; Т, 18, 42, 60 (3). **Так ці йначэй (іначай)** (*у знач. пабочн.*) (2) – ва ўсякім выпадку, тым ці іншым спосабам. *Так ці йначай яны* [Польшча, Літва, Украіна, Латвія і г.д. ] *мусяць, яны будуць мець раней ці пазней сваё дзяржаўнае незалежнае існаванне.* Нз, 14. *Мала таго, што грамадзянство дае сваіх сыноў на абарону гасударства, але яно, гэта грамадзянство, павінна яшчэ так ці іначэй даваць грошы на ваенныя расходы.* ВН. *Так ці сяк; сяк ці так – па-рознаму; то адным спосабам, то другім. Хай кожны беларус цьвёрда верыць, што завяруха ваенная так ці сяк скончыцца..* ВС. *Зрабіць, раскінуць мог ён* [чараўнік] *дзівы, Накінуць чары сяк ці так..* УрП, 47.

**ТАК[2]** (47) *часц.* **1.** Ужываецца ў рэпліках пры адказе для выражэння сцвярджэння, згоды. [Янка]: *Гучны, як уважаю, баль у вас будзе.* [Мікіта]: *О, так!* Т, 21. [Дама]: *Тут у Менску так трудна спаткаць праўдзівага вучонага.* [Мікіта]: *Таа-к, гэта важныя вучоныя.* Там жа, 27. Ан, 19 (2); СНБ, 337, 339; Т, 30 (2), 36 (2), 37 (2), 41, 45, 49 (2), 55, 56, 57.

**2.** *сцвярджальная.* Выкарыстоўваецца ў пачатку сказа

для канкрэтызацыі, пацвярджэння раней выказанай думкі. [Усходні вучоны]: *А це тожа белорусы?* [Янка]: *А так, так.* Т, 26. [Янка]: *Ці ж ён* [Мікіта] *і цяпер быў чыноўнікам?* [Гануля]: *А так! Служыў у камісарыяце паліцыі нейкім там разношчыкам..* Там жа, 57. Т, 24 (2), 26, 39 (4), 55, 57,58.

**3.** узмацняльная. Выкарыстоўваецца для падкрэслівання большай выразнасці таго слова, пры якім яна стаіць. [Аленка]: *Татку ж майго йзноў у абоз пагналі. Але так пагналі, што і след згінуў.* Т, 54. [Аленка]: *І вы гэта, пане рэгістратар, так да сэрца ўзялі, што ажно барада ў вас вырасла, бо дагэтуль, здаецца, вы не насілі яе?* Там жа, 55. Т, 26, 38, 57; ТП, 213; $Ш_2$.

**4.** У спалучэнні з "і" указвае на характар дзеяння. [Мікіта]: *Зайздрасць яго* [Янку] *так і разбірае, меджду протчым.* Т, 24. [Гануля]: *Я так і падумала, але не сказала, бо пабаялася, што не патраплю вучоным па-вучонаму адказаць.* Там жа, 54. ВСп, 89; Нз, 14; ПБН; СНБ; Т, 26, 48, 60.

**ТАК[3]** (7) *злучн.* У спалучэнні са злучнікам "што" выкарыстоўваецца для далучэння даданых выніковых сказаў у значэнні: у выніку гэтага, таму. [Мікіта]: *Усё гэта тутэйшыя грата-пэрсоны, меджду протчым, людзі аднолькавага са мной светагляду і амаль не аднольковых рангаў, так што хачу я, каб яны ведалі, што і радня мая не ніжэй стаіць ад іхняй радні.* Т, 22. [Мікіта]: *Сучаснае рэволюцыйнае забурэнне, выклікаўшае часовы ўпадак рангаў і клясаў, падкасіла і экономічныя падваліны дабрабыту рускай інтэлігенцыі, так што калі і скромная вячэра, то не па маёй пэрсональнай віне.* Там жа, 28. // У спалучэнні са злучнікам "як" выкарыстоўваецца для злучэння аднародных членаў сказа і сказаў з параўнальна-супастаўляльным адценнем. *Сёньня, пранікнуты ясна сьвядомасьцю поэта і грамадзяніна, я* [Купала] *рашуча і раз назаўсёды як у сваёй літаратурнай творчасці, так і ў сваіх імкненьнях і грамадзскай дзейнасьці парываю з беларускім нацыянал-дэмократызмам ва ўсіх яго праяўленнях.* АЛ. *Буржуазія, як замежная, так і ўнутраная, не перабірае ніякімі мэтодамі і сродкамі барацьбы супроць СССР.* Там жа. А; МІ, 17; Т, 20.

**ТАКЖА[1]** (3) *прысл. Руск. Тое, што* таксама[1]. *Варашылава я* [Данілка] *такжа Выберу з часамі, На сямі канях паеду з сям'ю галасамі.* Вб, 238. П; Р.

**ТАКЖА[2]** *часц. Руск. Тое, што* таксама[2]. *Не магу* [Купала]: *так сама ня ўспомніць добрым словам д-ра Малькевіча, які на кватэры аказаў мне першую помач, а такжа проф.*

*Іваноўскага, Б. Тарашкевіча, Ясінскага, Ерохава і інш. ..* ЛР.

**ТАКІ[1]** (156) *займ.* **1.** *указальны.* Указвае на якасць, уласцівасць асобы, прадмета, азначаючы: менавіта гэты, падобны да гэтага або да таго, пра які гаварылася раней ці гаворыцца далей. [Гануля]: *А сёлета, апрача ўсяго іншага, дык яшчэ і дровы з Ваньковічава лесу самакатам коцяць* [мянчане] *і коцяць на вяроўках.* [Янка]: *Бачыў, бачыў. Такая праца йдзе, якраз як пры будове егіпецкіх пірамідаў.* Т, 55. *Совецкія пісьменнікі і журналісты пазнаёміліся з такімі дзеячамі мастацтва, як Брахт, Томан, Гора, Кубка і інш.* ПЧ. // *У знач. наз. Аб такім так і пішы: Ён, як дрэва, корч нягодны – Ні ў ім сэрца, ні душы.* КЧ. // Дакладна такі, які быў. [Дама]: *Цяпер такую закуску можна спаткаць толькі ў надта высокіх асоб.* Т, 28. // Подобны да іншага. *Другі такі апавядальнік быў ужо ў Селішчы.* ПС.

**2.** *указальны.* Выкарыстоўваецца як слова, якое ўводзіць наступны тэкст, у значэнні: іменна той, які адпавядае таму, што будзе сказана далей. *Маўчыць і князь крыху часіны, І дасць адвет такі ў канцы Ганцам на іхніе навіны: "Ня ўмруць, ня ўмруць ужо яны* [людзі] *Раз хочуць сонца, славы, песьні..* Кц, 195. [Спічыні]: *Перакулеце* [Мікіта] *на наш манер такі зварот: ешчэ Польска не згінэла.* Т, 49.

**3.** *азначальны.* Пры назоўніках і прыметніках, якія абазначаюць уласцівасць, стан і ўказвае на большую, вялікую ступень. *А потым настаў ціхі, залаты вечар, такі вечар, што каб я* [С. Меч] *мог, я спыніў-бы яго ды зрабіў яго бясконцым..* ХБ, 29. *І фрыцы, падабраўшы спадніцы, задалі такога драпака, што і ўявіць цяжка.* ПСп. //Пры азначальным слове служыць для выдзялення, падкрэслівання якой-н. уласцівасці. *Праўда, да восеньскага акорду пачуваньняў пастаянна далучаліся сумныя ноткі, але гэты сум такі ціхі, такі нячутна далікатны, што скарэй прыемны, як балючы.* ХБ, 29. *.. адно толькі варажбіты-вешчуны, старцы мудрыя і ў законах веры дасведчанне маючыя, старых толькі багоў трымаліся і народу свайму за яго такую нястрыманую памаўлівасць нядобрыя варожбы выражалі.* Кз, 17. *Параўн.* гэтакі, гэткі.

**4.** *азначальны. Разм.* Выкарыстоўваецца звычайна ў клічных сказах для ўказання на незвычайнасць, дзівоснасць. [Мікіта]: *(зірнуўшы ў вакно). А такі жградзе* [Немец] *і да нас...* Т, 52. *Трох сыноў дала судзьбіна Да майго парога, А такіе – сын у сына, Як нідзе, ні ў кога!* Дз, 188.

**5.** *азначальны. Разм.* У спалучэнні з займеннікамі "хто", "што" выкарыстоўваецца для падкрэслівання і выдзялення

іх, надаючы значэнне іменна. *Ці вы ведаеце, што такое Антанта?* Ан, 18. .. *калі цёмные дагэтуль сяляне нашы, убачыўшы крыху сьвету, зразумелі, хто яны такіе, і сталі голасна казаць, што яны – беларусы, заварушыліся тады і польскіе, і расейскіе націоналісты.* ВР.

**6.** *У знач. наз.* Нешта, што звяртае ўвагу, незвычайнае. [Наста]: *Вывешвайце хутчэй праз акно чырвоны сцяг. У падобных несамавітых сытуацыях такое часам памагае.* Т, 59. *Перажываем нешта такое чаго ніхто і ніколі як сьвет сьветач не перэжываў.* РКр.

• **Жыццё наша такое вясёлае, што песні самі на вусны просяцца.**

◊ **Такім парадкам** *гл.* парадак. **Такі ці сякі** – розны, усялякі. *Ня слухаймо благіх языкоў, што разсеваюць такіе ці сякіе плёткі..* РКр. **Такім чынам** *гл.* чын.

Адз. м. Н. *такі* (11): А; ВБЛ, 82; Дз, 188; ПС; СБНГ; Т, 26, 31, 44, 52, 56; ХБ, 29. Р. *такога* (4): НДН, 18; ПСп; СБ; Т, 36. Д. *такому*: Т, 20. В. *такі* (15): ВНЗ; ВР; ВСп, 89, 91; Кц, 195; МП; Т, 24, 33, 44, 49; УрП, 49; ХБ, 28, 29 (2); $Ш_4$. Т. *такім* (11): А; ВР; ВСп, 89; Нз, 14; РКр; СБНГ; СНБ; Т, 33, 40, 48; ЧЧШ. М. *такім*: КЧ. ж. Н. *такая* (24): Ан, 18; ВБЛ, 81-82; ВСп, 90; ДД; ДЖ; ДК; Кц, 195; НДН, 18; ПСС, 231; ПЧ; СБНГ; СС, 302; СЧ; Т, 23, 27, 34 (2), 36 (2), 40, 41, 54, 55; $Ш_4$. Р. *такой* (5): АЛ; Вб, 237; Дз, 189; Пр; СБ. Д. *такой* (3): АПЖ; СБНГ; Нз, 18. В. *такую* (10): ВР; ЗК, 42; Кз, 17; Кц, 196; ЛПК (2); СБНГ; СНБ; Т, 28, 57. Т. *такой*: ДК; *такою*: МПв, 218. н. Н. *такое* (18): Ан, 18 (2), 19; Вб, 236; ЖН (2); МП; ПДз; Т, 23, 31, 41, 51, 54, 55 (2), 57, 59; Тж, 15. Р. *такога* (4): А; ДНСП; СТ; ТП, 213; *такого*: НДН, 18. Д. *такому*: БС. В. *такое* (3): БС; ПЛП; РКр. М. *такім*: Т, 56. Мн. Н. *такія* (11): АЛ (2); ДК; ЖН (3); МП; СБ; Т, 27, 48; ХБ, 29; *такіе* (8): Дз, 188; ВН; ВР (2); ВС; ОШМ; РКр; СЧ. Р. *такіх* (5): НК; Т, 23, 36, 56, 58. В. *такія* (6): Кз, 17; СТ; Т, 32, 37, 55, 56; *такіх* (4): МІ, 17; ПЧ; СБ; Т, 23. Т. *такімі* (5): ДК; ПЧ; Т, 51; ХБ, 28, 29. М. *такіх* (2): ЖН (2).

**ТАКІ[2]** (8) *часц. Разм.* Выкарыстоўваецца пры знамянальных словах, падкрэсліваючы іх значэнне. [Ануля]: *Незвычайныя вы людзі, калі яшчэ можаце сягоння хваліцца шчасцем.* [Аленка]: *А такі ж незвычайныя, цётачка.* Т, 53. АЛ; ВСп, 90; СБНГ; СНБ; Т, 40, 48, 55.

◊ **Усё ж такі, усё такі** *гл.* увесь.

**[ТАКІ-СЯКІ]** *займ. Разм.* Пасрэдны; не вельмі які. [Мікіта]: *Калі і выходзіць у мяне такое-сякое, меджду прот-*

*чым, "па", то мушу быць удзячным нашаму з Юраўскай вуліцы танц-клясісту Грачаніну.* Т, 29.

Адз. н. В. *такое-сякое*: Т, 29.

**[ТАКОВОЙ]** *займ. Руск., уст.* Такі, гэты. [Усходні вучоны]: *Пры опросе аборыгенов Северо-Западного края і процяжэніі занімаемой імі церрыторыі выяснілось, что таковая включает в себе всю обласць Мінской Брэхалкі да ешчо далей...* Т, 39.

Адз. ж. Н. *таковая*: Т, 39.

**ТАКСАМА[1]** (62) *прысл.* Такім самым, падобным чынам, гэтак жа. *Будуць рады татка, мама, Калі падрасту я* [Данілка]*, І за Сталіна таксама Я прагаласую..* Вб, 236. *Праглядалі мы* [дэлегаты] *таксама оперу кампазітара Смятаны "Праданая нявеста" ў тэатры "Народнае дзівадла".* ПЧ. // У такой жа меры, ступені. *Геаграфічнае палажэнне Беларусі таксама не горшае, як у людзей, ну, хоць бы як палажэнне Швейцарыі.* Нз, 14. *Вы* [паны гандляры] *таксама бяссільны павярнуць долю народаў у той ці іншы бок, як бяссільны вецер перанесці Каўказскія ці Швейцарскія горы адны на месцы другіх.* Тж, 16. *Параўн.* гэтак *у 2 знач.* такжа, тожа, тожэ, тэж. АБ, 16; БВ; БСУ; Вб, 236; ВБЛ, 81; ВН (2); ВСп, 89; ДК; ДНСП; З; ЗС, 18; ЛР; Нз, 14 (2), 15; ОШМ; ПСС, 232; ПСп; СБНГ (3); СНБ, 338, 340; СНБ; Т, 22, 26, 27, 30 (2), 34, 38, 41, 43 (2), 44, 45, 48, 51, 52, 53 (4), 55, 57, 58 (4), 60 (2), 62; СЧ; Тж, 16 (2); Ун, 73 (2).

**ТАКСАМА[2]** (7) *часц. Разм. У знач. далучальнага злучніка.* Далучае сказы, якія супадаюць па сваёй структуры або з'яўляюцца вельмі блізкімі ў якіх-н. іншых адносінах з папярэднім выказваннем. *Тое самае рабіла Нямеччына з палякамі, эльзасцамі ды ўсялякімі заморскімі калёнямі. Таксама Англія жалезнымі абцугамі трымала пры сабе Ірландыю, афрыканскія народы і г.д.* НДН, 18. *Другі такі апавядальнік быў ужо ў Селішчы. Таксама я* [Купала] *яму не даваў спакою ні днём ні ўначы.* ПС. *Параўн.* такжа[2]. БВ, 16; ВН; ЛР; НДН, 18; Т, 34.

**[ТАКТЫЧНЫ]** *прым. Руск.* Тактоўны. *А зроблена гэта з тактычных мэтаў, назадзёр беларускай "буржуазіі"..* СНБ, 338.

Мн. Р. *тактычных*: СНБ, 338.

**[ТАЛЕНАВІТЫ]** *прым.* Які мае талент. *Наша краіна.. выхавала таленавітых маладых паэтаў і пісьменнікаў.* ВГР.

Мн. В. *таленавітых*: ВГР.

**ТАМ[1]** (101) *прысл.* **1.** У тым месцы, не тут. *Ішлі беларускія сыны на Урал, ішлі ў фінскія балоты.. і пралівалі там рэкамі*

*сваю бязвінную кроў, складалі свае буйныя галовы пад чужым пяском.* БВ, 16. *Мусім лучыцца у гурткі і гэткім манерам закупліваць збожэ для цэлай вёскі там, дзе яго ёсьць лішніца.* ВС. // Пры паўтарэнні (там... там...) у пачатку двух або некалькіх сказаў, частак яго абазначае: у адным месцы..., у іншым месцы. *Там чутна: Беларус! Там – Незалежнасць! А там – "Паўстань пракляццем"...* БЧ. А; Ан, 19; БрБ, 6 (2); Бц, 74; Бч, 9 (3); ВСп, 91; ГП, 8 (3); Дз, 187 (3), 188, 191; ЁЯ; Ж; ЖН (2); ЗК, 42; Кц, 192; МІ, 17; Мц, 75; НД; НДН, 18; Нз, 14; ПБН (6); Пп, 5; ПСД; ПСС, 231 (2); ПСп; РКр; СА, 179; СМ; СС, 201; СБНГ; СНБ, 337, 340; СНБ; Т, 19, 20 (3), 21, 25, 30 (3), 32, 34, 37, 40 (2), 43, 44 (2), 45, 51, 53, 57 (4), 60; ТП, 215; УП; УрП, 47; ХБ, 28 (2), 30; ХЛБ; ХХ; Ч, 321; $Ш_3$; ШБСЯ (3).

**2.** Потым, затым, далей. [Мікіта]: *Вось вам, ясне мусье немец, гэр гэрманіш, пакуль што контрыбуцыя, заўтра дам энэксыю, а там, калі не хопіць жонак, дзяцей залажу..* Т, 33. [Мікіта]: *Ужо я стаю на вялікай дарозе да славы, знамянітага, меджду протчым, аратара. А там, як піць даць, атрымаю асэсарства.* Там жа, 42. Т, 54; ХБ, 28.

◊ **Там і тут; там, сям; сям і там; тут і там (тамка); тут, там** (9) – у розных месцах, усюды. *І там здань і тут здань, закружыліся ў круг..* БН, 92. *А ўсё мяжой прыбіта бачыцца істужкай, Там, сям, быццам к адзежцы прышпілена йгрушкай.* ХБ, 28. *За мною ўсьцяж, і тут, і там Іх вусны бледные шэпталі..* Кц, 195. Бч, 9; ЁЯ; Кц, 192, 194, 195 (2). **Як там кажуць** *гл.* казаць. **Як бы сабе ні было** *гл.* быць.

**ТАМ²** (14) *часц. Разм.* **1.** Выкарыстоўваецца з мэтай узмацнення ўяўлення аб чым-н. *Але як-бы сабе там не было, мы ва ўсім гэтым бачым адну вельмі карысную для ўсіх рэч – гэта падаходны налог.* ВН.

**2.** Выкарыстоўваецца з мэтай надання адцення знявагі: малазначнасці. *Гэта не тое, што якая-небудзь там Швейцарыя, Данія ці Грэцыя!* Нз, 15. [Ануля]: .. *служыў* [Мікіта] *у губарнатарскай канцэлярыі за нейкага там рэгістратара.* Т, 20. Т, 20 (3), 21 (2), 55.

**3.** У спалучэннях з займеннікам "які" і прыслоўямі "дзе", "калі", "куды" выкарыстоўваецца для ўзмацнення адмаўлення чаго-н., указання на немагчымасць здзейсніць што-н. [Ануля]: *Які там ён* [Мікіта] *далікатны! Я сама з ягоным бацькам – людзі вясковыя.* Т, 20. [Янка]: *А ці вы, дзядзька, пакупкі свае зрабілі?* [Гарошка]: *Дзе там! Дарма толькі вытаптаў з паў-Менску – як у шабас, усе крамы пазачыня-*

*ны.* Там жа, 39. Т, 20, 34, 57.

**ТАМКА** *прысл. Разм..:* ◊ **І тут і тамка** *гл.* тут.

**ТАМОЖЭННЫ** *прым. Руск.*: • **Таможэнны збор** *гл.* збор.

Адз. м. Н. *таможэнны*: ВН.

**ТАМ-СЯМ** *прысл.* Дзе-нідзе, зрэдку і некаторых месцах. [Наста]: *Вывешвайце* [Гануля і Мікіта] *хутчэй праз вакно чырвоны сцяг. .. А я пабягу. Мушу яшчэ дапасці там-сям – у пэўныя крыніцы.* Т, 59.

**[ТАМ-ТЭЙШЫ]** *прым. Разм. Тое, што* тутэйшы. *Пасьля заняцьця польскімі войскамі Горадня, там-тэйшая беларусы на разе прасьвятлелі..* СНБ.

Мн. Н. *там-тэйшыя*: СНБ.

**ТАМУ**[1] (3) *прысл.* Па гэтай прычыне, вось чаму. *Таму кожны сумленны грамадзянін БССР з захапленнем прывітае .. Беларускую Акадэмію Навук.* ГНД. *Я* [Купала] *яшчэ не паспеў сістэматызаваць усяго матэрыялу, таму толькі з большага раскажу пра бачанае, чутае.* ПЧ. Т, 48.

**ТАМУ**[2] *прысл. Разм. У знач. выніковага злучн.* Уваходзіць у склад састаўнога прычыннага злучніка “таму што”. *Гэтае захапленьне дробнабуржуазнымі нацыянал-дэмократычнымі ідэаламі прычынілася таму, што я* [Купала] *і ў першыя гады Кастрычнікавае рэволюцыі ня змог ад іх пазбавіцца..* АЛ.

**ТАМУ**[3] *гл.* **ТОЙ**

**[ТАНДЭТНЫ**] *прым. Польск.* Нізкаякасны. *На сценах у рамах колькі тандэтных абразоў – партрэтаў высокапастаўленых асоб, балалайка, пажарніцкая куртка і каска.* Т, 19.

Мн. Р. *тандэтных*: Т, 19.

**ТАНЕЦ** (6) *м.* **1.** Сукупнасць рухаў, якія выконваюцца ў такт музыкі. *Пачынаецца танец Ценяў пад музыку шарманкі.* Т, 43. [Дама]: (*як скончылі танец, да Мікіты).* Там жа, 43.

**2.** *толькі мн.* Забавы, у час якіх удзельнікі робяць такія рухі, танцуюць; танцавальны вечар. [Дама]: .. *паўторым сягоння толькі другую частку програмы таго вечару.* [Мікіта]: *Танцы, меджду протчым?* Т, 51. [Дама]: *А вы, мусье рэгістратар, мае слабасці адгадалі. Я уміраю без танцаў.* Там жа, 29. *Параўн.* танцкляс.

Адз. Н. *танец* (2): Т, 29, 43. В. *танец*: Т, 29. Мн. Н. *танцы*: Т, 51. Р. *танцаў* (2): Т, 29, 52.

**[ТАНК]** *м.* Баявая бронемашына на гусенічным ходу з вялікай праходнасцю, якая ўзброена пушкай і кулямётамі, устаноўленымі ў рухомай гарматнай вежы. *Пасылай* [Варашылаў] *байцоў адважных, Стрэльбы, кулямёты, Танкі, трактары, гарматы, Птахі-самалёты!* ЗЯЗ, 90.

Мн. В. *танкі*: ЗЯЗ, 90.

**ТАННЫ** (2) *прым., перан.* На які не затрачваецца значных намаганняў. [Янка]: *Лёгкі і танны спосаб у вас* [Мікіты] *дапасоўвацца да сытуацыі.* [Мікіта]: *Надта лёгкі і танны. Глядзеце. (Пераварачвае абразы.) Раз, два і гатова.* Т, 48.

Адз. м. Н. *танны* (2): Т, 48 (2).

**ТАНЦАВАЦЬ** (5) *незак.* **1.** Выконваць які-н- танец; прымаць удзел у танцы. .. *Поп, Гарошка і Аленка не танцуюць.* Т, 29. *Танцуюць тры пары ў тым самым парадку, што ў першым акце.* Там жа, 52.

**2.** *перан*. Дзейнічаць. *Новы ўрад Западнай камуны, разумеецца, атрымліваў усе дырэктывы з Масквы і танцаваў так, як іграла Масква.* СНБ, 337.

Інф. *танцаваць*: Т, 52. Абв. цяп. адз. 3 ас. *танцуе* (2): Т, 52 (2). Мн. 3 ас. *танцуюць* (2): Т, 29, 52.Пр. адз. м. *танцаваў*: 337.

**[ТАНЦКЛЯС]** (2) *м. Уст. Тое, што* танец *у* 2 *знач.* [Янка]: *Калі тут кампанія ваша ўладзіла танцкляс для акупантаў, .. дык чаму ж бы мне ў гэтым танцклясе і не пайграць.* Т, 52.

Адз. В. *танцкляс*: Т, 52. М. *танцклясе*: Т, 52.

**[ТАНЦ-КЛЯСІСТ]** *м. Іран.* Той, хто вучыць танцаваць. [Мікіта]: *Калі і выходзіць у мяне такое-сякое, меджду протчым, "па", то мушу быць удзячным нашаму з Юраўскай вуліцы танц-клясісту Грачаніну.* Т, 29.

Адз. Д. *танц-клясісту*: Т, 29.

**[ТАНЦУЮЧЫ]** (3) *дзеепрым. незал. цяп.* да танцаваць. **1.** *Дзеепрым да* танцаваць *у* 1 *знач. Танцуючыя Цені нікнуць.* Т, 43.

**2.** *У знач. наз.* Удзельнікі, выканаўцы танцаў. [Танцуючыя]: *(пакінуўшы танцаваць). Як?.. што?.. адкуль?..* Т, 52. [Поп]: *(пільна ўгледзеўшыся ў вакно, потым да танцуючых). Чады мої, остановіцесь! В сію обіцель градзе большэвік.* Там жа, 52.

Мн. Н. *танцуючыя* (2): Т, 43, 52. Р. *танцуючых*: Т, 52.

**ТАПІЦЦА** *незак.* Свядома пазбаўляць сябе жыцця, кідаючыся ў ваду, гінуць у вадзе. [Янка]: *Нам і без мора, пане вучоны, хапае дзе тапіцца, як павее пошасцяй праз усходнія "акошкі".* Т, 47. *Параўн.* топіться, топіць сень.

Інф. *тапіцца*: Т, 47.

**[ТАПІЦЬ]** *незак.* **1.** Губіць, сілай пагружаючы ў ваду. *З імем шчаслівым тваім* [Сталіна] *у Хасане Байцы самураяў тапілі, Лёталі гордыя за акіяны Советаў арліныя крыллі.* СС, 302.

Абв. пр. мн. *тапілі*: СС. 302.

**ТАПОР** (3) *м.* Прылада для сячэння і склюдавання. *Та-*

*пор завостраны заблыскаў, Грымнулі вілы і цапы.* УрП, 52. [Мікіта]: *(варочаецца пераадзеты па-пажарніцку з каскай на галаве, з тапаром пры поясе і з жалязкамі..)* Т, 32.

◊ **Як тапаром сячэ** *гл.* сячы.

Адз. Н. *тапор*: УрП, 52. Т. *тапаром* (2): Т, 32, 44.

**ТАПТАНЫ** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* таптаць. *перан.* Прыгнечаны. *Народ беларускі, таптаны вякамі, Навекі пабратаўся з шчасцем..* ВВ, 263. *Вашу* [паноў] *карысць нам і вашы заслугі Добра ўжо скеміў таптаны народ..* Г, 17.

Адз. м. Н. *таптаны* (2): ВВ, 263; Г, 17.

**[ТАПТАНЬНЕ]** *н. перан. Дзеянне па дзеяслову* таптаць *у* 1 *знач. Годзе таптаньня праўд вечных, сьвятых!* Г, 16.

Адз. Р. *таптаньня*: Г, 16.

**[ТАПТАЦЦА]** *незак.* Злёгку прытанцоўваць пад музыку. [Мікіта]: *(ускаквае і пад тахт музыкі топчацца на адным месцы.)* Т, 43.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *топчацца*: Т, 43.

**[ТАПТАЦЬ]** (3) і *разм.* **ТАПТАЦІ** *незак.* **1.** *перан.* Пагарджаючы, груба зневажаць. *Прошлы раз я* [Купала] *ўжо выясьніў, .. як бальшавікі.. то падносілі, то тапталі найменшые праявы беларускага нацыянальнага духу.* СНБ.

**2.** *Вобразн.* Апаганьваць сваімі дзеяннямі што-н. *Цярэбіць стальнаю сякерай Прыблуднік нашыя лясы, Ў свае цянёты вабіць зьвера, Сьвятыя топча верасы.* УрП, 48.

**3.** *Вобразн.* Прадаўжаць чые-н. справы. *Ён* [адзін з сыноў] *насыпе пяшчаны узгор нада мною* [чараўніком], *І таптаці узгор гэты будзе.* Ч. 320.

◊ **Таптаць свой след –** займацца аднастайнай, цяжкай паднявольнай працай. *Я* [другі ганец] *абышоў іх* [людзей] *тройчы раз І відзеў, што яны ўсе жывы. А топчуць толькі ўсё той сьлед, Волочуць ёрмы за сабою..* Кц, 195.

Інф. *таптаці*: Ч, 320. Абв. цяп. адз. 3 ас. *топча*: УрП, 48. Мн. 3 ас. *топчуць*: Кц, 195. Пр. мн. *таптал*і: СНБ

**[ТАРАБАНІЦЬ]** *незак. Разм.* Везці, штурхаць што-н. цяжкае, грузнае. [Янка]: *Ці не ўпісаліся вы* [Мікіта] *ў менскія свабодныя гэрцум-сролікі? – як тачнік які, тарабаніце гэту брычку з сабой.* Т, 45.

Абв. цяп. мн. 2 ас. *тарабаніце*: Т, 45.

**[ТАРАН]** *м. Разм.* Вяленая рыба. [Мікіта]: *Далей ідуць мае за месяц чэрвень, за першыя дзесяць дзён ліпня і за два тыдні наперад дармовыя, меджду протчым пайкі: .. селядцы, тараны, сем з паловай фунтаў дроў..* Т, 46.

Мн. В. *тараны*: Т, 46.

**[ТАРГАВАЦЦА]** (3) *незак., перан.* Спрачацца, не згаджаючыся з чым-н., імкнучыся дабіцца чаго-н., атрымаць штон. *Сягодня таргуецца Захад з Усходам, заходняя культура – з усходнім адзічэннем, і таргуецца за што?* Тж, 15. *Таргуюцца* [Захад з Усходам] *за цэлыя народы, за цэлыя дзяржавы, а усё для таго каб нажыцца..* Там жа,15.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *таргуецца*: Тж, 15. Мн. 3 ас. *таргуюцца*: Тж, 15 (2).

**[ТАРГАВАЦЬ]** (3) *незак.* **1.** *Тое, што* гандляваць *у* 1 *знач. Ў м. Новым Свержэне, таго самаго вуезда, манаполька таргуе за год на 20000 руб.* УП.

**2.** *перан. Зняважл. Тое, што* гандляваць *у* 2 *знач. Песьняй роднай таргуе, як коньмі цыган.* БН, 92. *Сярод разьюшаных сатрапаў Пагань зладзіўшы хаўрус, Свае таргуюць і чужыя Табой, няшчасны беларус.* РС, 39.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *таргуе* (2): БН, 92; УП. Мн. 3 ас. *таргуюць*: РС, 39.

**[ТАРГОЎЛЯ]** *ж. Руск.* Гандаль. – *Хадзеце, хадзеце, вясёлыя людзі! А жыва да нас на таргоўлю..* Р.

Адз. В. *таргоўлю*: Р.

**ТАРГУЮЧЫ** *дзеепрысл. да* таргаваць *у* 2 *знач. Тыя* [паны], *ў дагонцы за блескам часовым, Брацьцяў запрэглі ў нявольнічы плуг, Тыя, таргуючы імем Хрыстовым, Цемру і здраду спладзілі ўвакруг.* Г, 16.

**[ТАРПОВЫ]** *прым. Разм.* Тарфяны. *Яго* [краю] *балоты, .. з часам дадуць багацейшы запас тарповага апалу..* ХБ, 30.

Адз. м. Р. *тарповага*: ХБ, 30.

**[ТАРЧЭЦЬ]** і *разм.* **[ТЫРЧЭЦЬ]** *незак.* Узвышацца, уздымацца над паверхняй. .. *Ляпіўся мох да стрэх з драніц, Тарчэлі хвойныя капліцы, Цьвілі магілкі ля капліц.* УрП, 47. // Вобразн. *Туман засцілаў людзям душы і вочы, З туманаў тырчэлі гарбатыя плечы, І думаў – канца не дазнаць гэтай ночы, І думаў – не зведаць шляхоў чалавечых.* ТП, 214.

Абв. пр. мн. *тарчэлі*: УрП, 47; *тырчэлі*: ТП, 214.

**ТАТА** (5) *м. Разм. Тое, што* бацька *ў* 1 *знач. Ня журбуйце-ж, тата, маці! Буду* [Габрусь] *вас яшчэ вітаці, Як з вайны здароў вярнуся І вам нізка пакланюся.* ГЖУ. [Аленка]: *Не абскубанды, тата, але акупанты.* Т, 44.

Адз. Н. *тата* (5): ГЖУ (2); Вб, 236; Т, 37, 44.

**ТАТАРЫН** (2) *м.* Прадстаўнік народнасцей цюркскай моўнай групы. *У нашым краю шмат жыве палякаў, расійцаў, жыдоў, татараў.* НДН, 19. // *У знач. мн.* Татарскі народ. *Стагнаў татарын, грузін, фін, паляк, украінец, беларус.* НДН, 18.

Адз. Н. *татарын*: НДН, 18 Мн. Р. *татараў*: НДН, 19.

**ТАТАЧКА** *м. Разм. Ласк. да* тата [Аленка]: *Трэба ж было; татачка, прыглядзецца, як рыхтуюцца менчукі спатыкаць новых акупантаў.* Т, 44.

Адз. Н. *татачка*: Т, 44.

**ТАТКА** (14) *м. Разм. Ласк. да* тата. *.. Зажурыўся стары татка, Цяжка стогне, плача матка.* ГЖУ. [Аленка]: *Мы прыехалі татку з палону вызваляць.* Т, 35.

Адз. Н. *татка* (6): Вб, 236; ГЖУ; Т, 30, 35, 44, 54. Р. *таткі* (2); Т, 29, 39. Д. *татку*: Т, 27. В. *татку* (4): Т, 35 (2), 54 (2). Т. *таткам*: Т, 25.

**[ТАЎПА]** *ж. Руск.* Народ. *На зьдзек прадажныя прарокі І на гніцьцё у царстве цьмы Вядуць аплучаныя тоўпы Пад стогны вечныя турмы.* РС, 40.

Мн. Н. *тоўпы*: РС, 40.

**[ТАЎСТЕЙШЫ]** *прым. Пар. ст. да* тоўсты. Большы па аб'ёму за іншыя. [Ганулля]: *Бацюшка духавы, сьвяты ўгоднік! Калі ласка, яшчэ вось гэты таўсцейшы кусочак.* Т, 28.

Адз. м. В. *таўстейшы*: Т, 28.

**[ТАЎСЦЕЦЬ]** *незак., перан.* Багацець. [Мікіта]: *Буржуазія з кожным днём ад недастаткаў таўсцела .. – расла не ўвышкі, а ўпапярэчкі..* Т, 40.

Абв. пр. адз. ж. *таўсцела*: Т, 40.

**[ТАЎЧЫСЯ]** *незак., перан.* Цяжка працаваць. *Таўкуцца душы скамянелы, Крывавы пот цячэ са шчок, А ўсьлед над імі і за імі Імчацца гібелі наўскок.* РС, 40.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *таўкуцца*: РС, 40.

**ТАЧНІК** *м. Разм.* Той, хто возіць тачку. *У параўн.* [Янка]: *Ці не ўпісаліся вы* [Мікіта] *ў менскія свабодныя гэрцум-сролікі? – як тачнік які, тарабаніце гэту брычку з сабой.* Т, 45.

Адз. Н. *тачнік*: Т, 45.

**[ТАЧЫЦЬ]** *незак.*: **? Нож пад сэрца тачыць –** задумваць нядобрае, зло супроць каго-н. *А яны, здрайцы вольных народаў, Нож нам пад сэрца тачылі.* СЗГ, 252.

Абв. пр. мн. тачылі: СЗГ, 252.

**ТАХТ**[1] *м. Разм.* **1.** Такт; рытм музыкі. [Мікіта]: *(ускаквае і пад тахт музыкі топчацца на адным месцы).* Т, 43.

Адз. В. *тахт*: Т, 43.

**ТАХТ**[2] *м. Ням., разм.*: **? Гута тахт –** добры дзень. [Мікіта] : *Гута тахт, балабоста прусіш!* Т, 31.

Н. *тахт*: Т. 31.

**[ТАЯЦЬ]** (3) *незак. Руск.* **1.** Раставаць. *Тае снег, таюць сковы зімы ледзяністые, Сонцэ з ласкай ажыўчай гуляе ў пры-*

*вольлі..* ТС, 74.

• **Тае сьнег...**

Абв. цяп. адз. 3 ас. *тае* (2): ТС, 74 (2). Мн. 3 ас. *таюць*: ТС, 74.

**ТВАЕ** *гл.* **ТВОЙ.**

**ТВАЁ** *гл.* **ТВОЙ.**

**ТВАР**[1] (4) *м.* **1.** Пярэдняя частка галавы чалавека. *Твар чаму твой* [дзяўчынкі] *бляды? Пакрываўлены грудзі, зблытана каса...* БН, 92. *Чагось чакалі грамадзяне, Ў вачох палаў надзеі жар, – Пад сьмерць, здаецца, кожны стане, Адвагай мятусіўся твар.* УрП, 47.

**2.** *перан.* Індывідуальнае аблічча; выгляд. *У Доме Чырвонай Арміі нібы ўбачылі разумны, культурны твар камандзіра нашай роднай Чырвонай Арміі.* ПГ.

**3.** Вонкавы, пярэдні, верхні бок прадмета. *Абразы і малюнкі – тыя самыя, што ў першай дзеі, – перавернуты тварам да сцяны.* Т, 43.

Адз. Н. *твар* (2): БН, 92; УрП, 47. В. *твар*: ПГ. Т. *тварам*: Т, 43.

**[ТВАРЫМЫ]** і *разм.* **[ТВОРЫМЫ]** *дзеепрым. зал. цяп. да* тварыць у 2 *знач. Закрэсліў-бы я* [Купала] *тыя творы, у якіх свядома ці несвядома вырываліся ноты не сугучныя тварымай партыяй і пралетарыятам эпосе.* ЖН. // *У знач. наз. Тое, што* чыніцца, выходзіць за рамкі звычайнага. [Поп]: *Развергзіся врата адовы і сам анціхрыст со своім сонмам святой Русью завладоша, ежэлі созерцать всё творымое ныне.* Т, 28.

Адз. ж. Д. *тварымай*: ЖН. н. В. *творымое*: Т, 28.

**[ТВАРЫЦЦА]** (3) *незак.* Ствараецца. *Сягоння ў нас* [у краіне] *творыцца армія, творыцца рукамі гэтай самай гарачай беларускай моладзі..* МІ, 17 (2).

Абв. цяп. адз. 3 ас. *творыцца* (3): МІ, 17 (2); ВС.

**ТВАРЫЦЬ** (17) *незак.* **1.** Стварыць у працэсе творчай дзейнасці матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці. *Вялікае давер'е, аказанае партыяй да савецкіх пісьменнікаў, .. само сабой абавязвае іх апраўдаць гэта давер'е і тварыць рэчы, годныя нашае вялікае эпохі.* ДНСП. *Простым мы словам з светам гаворым, Песні аб цяжкай творым нягодзі..* Пп, 5.

**2.** Рабіць, чыніць здзяйсняць. *Тварыць вы* [бальшавікі] *шлі і кроў лілі Сваю, чужую па зямлі...* ПВ. .. *Вольныя людзі, як пчолы руплівыя, Твораць быт новы, абвеяны славаю.* ДПЛС.

• **Добра жыць, тварыць і змагацца ў эпоху нашага мудрага Сталіна.**

Інф. *тварыць* (5): ДЖ (2); ДНСП; ПВ; ПЛП. Абв. цяп. адз.

3 ас. *творыць* (6): БС; ДЖ; 3 (3); СС, 301. Мн. 1 ас. *творым*: Пп, 5. 3 ас. *твораць*: ДПЛС. Пр. адз. м. *тварыў* (2): УрП, 51; Ч, 319. Мн. *тварылі* (2): М, 20; СНБ.

**[ТВЕРДЗІЦЬ]** *незак. Польск.* Сцвярджаць. [Заходні вучоны]: *О розшэжэню своіх граніц од можа до можа не мажон і мажыць собе не жычон, поневаж, як самі* [беларусы] *твердзон, маён гдзе топіць сень і бэз можа, гды повеён пшэцёнгі зэ Всходу.* Т, 47.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *твердзон*: Т, 47.

**ТВОЙ** (64) *займ.* **1.** Які адносіцца да цябе, належыць табе. *Цяпер яно* [неба] *сваймі слязамі З табою* [братам-беларусам] *плача над табой; Шле буры, громы з перунамі, Каб сон збудзіць магільны твой!* БрБ, 6. *Дум тваіх* [А.М. Горкага] *радасных ясныя зоркі Векі свяціці нам будуць.* СЗГ, 252. // Зроблены, ажыццёўлены табою. .. *Законы-ж твае* [правадыра], *нібы светач нязгаслы, Шляхі асвятляць будуць светлым імкненням..* ТП, 216. *Тваіх, правадыр мой, законаў асновы, Тваёй Канстытуцыі мудрыя сказы Змятуць асляпленне, пакрышаць аковы..* Там жа. // *У знач. наз. Цябе* [сатрапа] *тваім жа у кляцьбе Ён* [хлапчук] *не забудзе памянуць.* АПЖ. // Прызначаны табе, для цябе, важны для цябе ў якіх-н. адносінах. *Агні, аганькі, дзе зірнеш, – Не страшны канавы і вір... То свецяць, не знаючы меж, Паходні твае, правадыр.* ТП, 215.

**2.** Які належыць табе па сваяцкіх адносінах. [Гануля]: *Гэта ж мы блізкія сваякі: твой* [Гарошкі] *дзед і мая бабка былі родныя брат і сястра.* Т, 25. [Гануля]: .. *затое татка твой* [Аленкі] *хоць свету пабачыць – пад старасць будзе мець што ўнукам расказваць.* Там жа, 54.

• **Табе, правадыр...**

Адз. м. Н. *твой* (17): АПЖ; Б, 18 (6); БН, 92 (2); БрБ, 6; М, 20; ПВ; Пт; Т, 25, 44, 54; Ф. Д. *твайму*: БрБ, 6. В. твой (5): АПЖ (2); АР; БрБ, 6 (2). Т. *тваім*: ПБН. ж. Н. *твая* (6): АК; ВБЛ, 82; ДК; См, 91; Т, 35, 49. Р. *тваёй* (3): БрБ, 6 (2); ТП, 216. В. *тваю* (2): Ан, 19; БрБ, 6. Т. *тваёю*: ПБН. М. *тваёй* (2): БрБ, 6; ХБ, 28. н. Н. *твае* (2): БрБ, 6; СА, 179. Р. *твайго*: УрП, 51. В. *тваё* (3): Б, 18; СС, 301, 302. М. *тваім* (2): АПЖ; СС, 302. Мн. Н. *твае* (7): Б, 18; БН, 92; БрБ, 6; ПСС, 232; ТЗУ, 293; ТП, 215, 216. Р. *тваіх* (7): БрБ, 6 (2); СЗГ, 252; ТП, 213, 215, 216; Ф. В. *твае* (3): БрБ, 6; ПТ, 206; Ч, 323. М. *тваіх*: ПНд, 314.

**[ТВОР]** (8) *м.* Прадукт творчай працы. *Дзякуючы гэтаму свайму асьлепленьню зьявіліся мае* [Купалы] *такія творы з ярка нацыянал-дэмакратычнымі настроямі, як, напрыклад,*

*“Паўстань”* .. АЛ. *Закрэсліў-бы я* [Купала] *тыя творы, у якіх свядома ці несвядома вырываліся ноты, не сугучныя тварымай партыяй і пролетарыятам эпосе.* ЖН.

Мн. Н. *творы* (3): АЛ (2); ДЖ. Р. *твораў*: СБНГ. В. *творы*: ЖН. Т. *творамі*: МП. М. *творах* (2): АЛ; ВСп, 89.

**[ТВОРЦА]** *м. Высок.* Той, хто творча стварае што-н. *Слава творцу новага шчаслівага жыцця – вялікаму Сталіну* .. СТ.

• **Слава творцу новага шчаслівага жыцця.**

Адз. Д. *творцу* (2): СТ (2).

**ТВОРЧАСЦЬ** (3) і **[ТВОРЧАСЬЦЬ]** (7) *ж.* Дзейнасць чалавека, накіраваная на стварэнне культурных, духоўных і матэрыяльных каштоўнасцей. *Мэта, якую ставіў я* [Купала] *перад сваёй поэтыцкай творчасьцю, гэта было паказаць у мастацкай форме ўсю беднату, цемнату, нядолю і паднявольнае батрацтва і бядняцтва беларускае вёскі.* АЛ. .. *гэта моладзь .. усё сэрца аддае ў сваёй творчасці вялікім дням нашага маладога гераічнага слаўнага жыцця.* ЖН. // Вынік гэтай дзейнасці; сукупнасць усяго створанага кім-н. *Якую ролю я* [Купала] *асабіста і мая літаратурная творчасьць адыгралі ў гэтай контррэволюцыйнай дзейнасьці беларускага нацыянал-дэмократызму?* АЛ. *Комуністычная партыя і совецкая ўлада даравалі мне* [Купалу] *грубыя нацыянал-дэмократычныя памылкі ў маёй творчасьці..* Там жа.

• **Народная творчасць –** сукупнасць твораў, якая з’явілася ў выніку творчай дзейнасці народа. *Ці цікавіўся я* [Купала] *беларускай народнай творчасцю?* ПС.

Адз. Н. *творчасьць*: АЛ. Р. *творчасці*: ПС. Т. *творчасцю*: ПС; *творчасьцю* (2): АЛ (2). М. *творчасці*: ЖН; *творчасьці* (4): АЛ (4).

**[ТВОРЧЫ]** (15) *прым.* **1.** Які адносіцца да творчасці. *І трэба нам помніць тое, што гэта вялікая, культурная і творчая беларуская праца .. зроблена ў Беларусі Савецкай і пры дапамозе Улады Савецкай.* ВСп, 91. // Які заключае ў сабе элементы новага, што-н. развівае, удасканальвае. *І я* [Купала] *ўсім сэрцам жадаю выліць у свае песні .. горды і радасны творчы ўздым найшырэйшых народных мас нашай рэспублікі.* ЖН. *У СССР .. рабочая кляса.. пераможна, з нявіданым творчым энтузіязмам і запалам будуе социялістычнае грамадзтва.* АЛ.

**2.** Які здольны тварыць. *Балюча і цяжка ўсьведамляць мне сёньня, што я* [Купала] *адарваўся ад здаровага творчага асяродзішча працоўных мас..* АЛ.

Адз. м. Р. *творчага*: ПБН. В. *творчы* (2): ЖН (2). Т. *твор-*

*чым* АЛ. М. *творчым* (3): ДЖ (2); ЖН. ж. Н. *творчая* (3): А, 328; ВСп, 91; МІ, 17. Д. *творчай*: ВГР. н. Н. *творчае*: СЧ. Р. *творчага*: АЛ.

**ТЕПЛОВЫ** *тольки мн.. перан.* Агульнае да ўласнага Теплоў. *Тутака пачалася благая камэдыя: Солоневічы, Ковалюкі, Тепловы і ўся іх "хаўрузія" крычаць аб "распалячэньні" Беларусі.* ВР.

Мн. Н. *тепловы*: ВР.

**[ТКАЦЬ]** (5) *незак.* Вырабляць тканіну шляхам перакрыжаванага перапляцення ніцей асновы (падоўжаных) і ўтку (папярочных). *Глядзіш – для яе* [радзімы]*, маладой, Ткуць кросны, атласы, шаўкі..* ТП, 215. // *Вобразн.* Зведваць. .. *Толькі-ж была нам* [усходнім беларусам] *радасць асновай, Вам* [заходнім беларусам] *ткаць прышлося слёзы і гора.* ССА, 294.

◊ **Думка ў думку ткаць –** марыць аб чым-н. *Вось такой натуры, складу Ў іх* [сыноў] *я* [маці] *дачэкала; На дармо, як мёд-прынаду, Думка ў думку ткала.* Дз, 189. **Думкі ткаць –** марыць аб чым-н. *Заседала* [маці]*, расьцвітала За гадамі годы; Залатые думкі ткала с шчасьця і свабоды.* Дз, 188. **Ткаць павуціну –** браць у кабалу, паднявольваць ашуканствам. *Баця тчэ сваю павуціну ўсімі сродкамі.* ПЧ.

Інф. *ткаць*: ССА, 294. Абв. цяп. адз. 3 ас. *тчэ*: ПЧ. Мн. 3 ас. *ткуць*: ТП, 215. Пр. адз. ж. *ткала* (2): Дз, 188, 189.

**ТЛЕЦЬ** *незак. Вобразн. Асьвяціў сваё чорнае першы* [сын] *сумленьне Прагавіцьцем быць сонцу раўнёю, Ў путах сьцюжу трымаць, меці жараў насеньне, Тлець, пылаць над людзьмі, над сабою.* Ч, 324.

**[ТЛУМАЧАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* тлумачыць. *Разм.* Перакладзены з іншай мовы. *З гэтых кніг асаблівую ўвагу зьвяртаюць на сябе кнігі па матэматыцы: з чатырох – тры з іх арыгінальныя: Арэтмэтычныя задачнікі Валасковіча і Лукашэвіча – першыя задачнікі ў беларускай мове, ня тлумачаныя з чужога ..* ВСп, 89.

Мн. Н. *тлумачаныя*: ВСп, 89.

**ТЛУМАЧЫЦЬ** (3) *незак.* **1.** Даваць якое-н. тлумачэнне чаму-н.: раскрываць сэнс, сутнасць чаго-н. *Немец тлумачыць на мігі, што яму грошы не трэба, бярэ "пад казырок" і выходзіць.* Т, 42. .. *свае паступкі ён* [абываталь] *будзе тлумачыць па своему..* ВМР.

**2.** Дапамагчы засвоіць, зразумець сэнс чаго-н. [Спічыні]: .. *я ніколі кепска не тлумачу..* Т, 61.

Інф. *тлумачыць* (2): ВМР; Т, 42. Абв. цяп. адз. 1 ас. *тлумачу*: Т, 61.

**[ТНУЦЬ]** *незак.* Кусаць, рваць зубамі: [Воўк:] *Я з ваўчы-*

*цай рву сцягно, Мяса тнём па клоку.* Пц.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *тнём*: Пц.

**ТО¹** (112) *злучн. пералічальна-размеркавальны.* **1.** Ужываецца для сувязі членаў сказа і сказаў пры пералічэнні з'яў, прадметаў з папераменным чаргаваннем. *І адны* [палякі], *і другія* [рускія] *глядзелі скоса на Беларусь, глядзелі то як на "крэсы", то як на "окраину", і больш нічога.* Нз. 15. [Мікіта]: *(перастаўляючы то туды, то сюды кошык з пляшкамі).* Т, 59. Дз. 191 (4); Нз, 15; СНБ, 4; Т, 33 (2), 35 (2), 40 (2), 59 (3), 60 (4); УрП, 46.

**2.** Уваходзіць у склад састаўных паўторных пералічальна-размеркавальных злучнікаў: **а)** "ці то ... ці то", якія злучаюць члены сказа і сказы з адценнем меркавання, развагі. *Маладой юнацкай славай, Ці то ўзімку, ці то летам, Нібы сонца, цуднай з'явай Прамянееш ты* [камсамолец] *ў сусветах.* СА, 178. *А тады гэтыя народы скажуць сваё шчырае слова аб вашай культурнасці – ці то заходняй, ці то ўсходняй.* Тж, 16. АБ, 16; НДН, 18; Нз, 14; ПСС, 231; СА, 178 (2), 179 (3); Т, 27 (2); Тж, 15 (2), 16 (2).

**б)** "ні то ... ні то", якія злучаюць члены сказа і сказы з адценнем няпэўнасці. *Цяжкае ўражанне робіць гэтая ні то памершая, ні то паміраючая краіна...* ПЧ. ПЧ.

**3.** Ужываецца ў складаназалежных сказах у якасці суаднοснага слова ўмоўных, часавых, прычынных, супастаўляльных злучнікаў. *А калі бальшавікі ўзялі верх, то па-самадзяржаўнаму расправіліся з усімі нацыянальнымі арміямі і з усімі незалежнасцямі.* БВ, 16. *Калі гаварыць аб незалежнасці якой-н. новай дзяржавы, вызваленай вайной і рэвалюцыяй з-пад расійскага ярма, то гэта, здаецца, так і трэба, так і павінна быць.* Нз, 14. АБ, 16; Ан, 19 (2); БВ, 16; БС; ВН; ВС; ГЖУ; ДК (2); ДНСП; ЗС,18 (2); Кз, 17; НДН, 18 (2); Нз, 14 (2); ОШМ (2); СБНГ; СНБ, 336, 338, 340; СНБ (5); Т, 20, 21, 22 (7), 24 (2), 25, 27 (2), 28, 29, 31, 32, 34, 36 (3), 37, 39, 40, 41, 44, 45 (2), 46, 47, 52 (3), 58, 60, 62.

◊ **А то** *гл.* а². **Што будзе, то будзе** *гл.* быць. **Як то кажуць** *гл.* казаць.

**ТО²** (14) *часц.* **1.** Ужываецца ў пачатку сказаў, якія абагульняюць, рэзюміруюць ці тлумачаць тое, аб чым гаварылася раней. [Янка]: *Шкада, што я раней аб гэтым не ведаў. То ж належала і аб падарунку якім падумаць.* Т, 20. Т, 28. // У значэнні ўказальнага займенніка "гэта". [Аленка]: .. *немцы яго* [татку] *ў абоз пагналі, дык мы, баючыся, каб яго ў Нямеччыну, не загналі, паехалі ўслед на падмогу. То ж у*

*мяне адзін татка на цэлым свеце, павінна ратаваць!* Т, 35. *Агні, аганькі, дзе зірнеш, - Не страшны канавы і вір... То свецяць, не знаючы меж, Паходні твае, правадыр..* ТП, 215. Вб, 237; ВР (2).

**2.** *часціца вылучальная.* Ужываецца ў сказах пры вылучэнні, падкрэсліванні слова, да якога адносіцца. [Янка]: *Раўнапраўе то раўнапраўе, але ж хіба яно вам* [Мікіту] *не загадвае быць штодзень за нейкага саматужнага вазюра?* Т, 45. *Цяпер то, як ты* [Беларусь] *красна, я чую, я бачу, – І апішу, бо ўсьпяж па табе плачу.* ХБ, 28. ГВУ; ЗС, 18; НДН, 18; Т, 29, 44.

◊ **Хто б то ні быў** *гл.* быць. **Які б (то) ні быў** *гл.* быць.

**ТОЖА** *прысл. Руск., разм. Тое, што* таксама[1]. [Янка]: *Вы* [Усходні вучоны] *згадалі: яны* [госці] *самдзеле тожа-беларусы, з пароды рэнэгатаў і дэгэнэратаў.* Т, 26.

**ТОЖЭ** *прысл. Руск. Тое, што* таксама[1]. [Усходні вучоны]: *Народность ныне распадается на две родовыя ветві: племя – белорусы і племя – тожэ-белорусы, ісходзяшчэе от рэнегатов і дзегенератов.* Т, 26.

**ТОЙ** (413) *займ.* **1.** Паказвае на прадмет, які знаходзіцца не перад вачамі, не побач, а аддалены ў прасторы. [Ануля]: *Той пакой, дзе жылі вы* [Янка], *аддалі нейкаму ў скураной жакетцы, .. а з таго боку, дзе была мая спальня і Мікітавы габінэт, абодва гэныя пакоі заняў нейкі іхні рэдактар..* Т, 45. // Паказвае на адрэзак часу, які непасрэдна папярэднічаў гэтаму моманту або непасрэдна прымыкае да яго. [Груган:] *Лепш мне быў той час стары, Мой ты воўча любы.* Пц. [Мікіта]: *(Паказвае на прынесеныя к таму часу Ганулян патрфелі.).* Т, 60. // Паказвае на адрэзак часу, у які адбываецца што-н. *Даўно ўжо, даўно ўжо с пары тэй былой Сталецьцяў мінула не мала..* ПН, 46. *Калі заглянуць у далёкую мінуўшчыну, у тыя часы, калі існавала незалежная Літоўска-Беларуская дзяржава, – мы з пэўнасцю не можам цвердзіць, ці быў тады гімн нацыянальны, ці не быў.* СБНГ. // Паказвае на аднačасовасць якога-н. дзеяння з іншым дзеяннем, пра якое гаворыцца ў сказе. *Вядома, не абыходзілася без таго, каб я* [Купала] *не засынаў, а коні тым часам трапялі ў шкоду.* ПС.

**2.** Паказвае на прадмет ці асобу, што вылучаецца з ліку іншых. *Закрэсліў-бы я* [Купала] *тыя творы, у якіх свядома ці несвядома вырываліся ноты, не сугучныя тварымай партыяй і пролетарыятам эпосе.* ЖН. // *У знач. наз.* [Мікіта]: *(як тыя* [Поп, Дама, Спраўнік] *вышлі.). Ах, забыўся запрапанаваць ім купіць у мяне маркі!* Т, 38. // *У знач. наз.* Паказвае на адзін

прадмет, асобу з двух або некалькіх падобных пры іх пералічэнні або супастаўленні. *Залацісты пасад красаваўся ў сталіцы, Зіхацела ў ім кожна часьціна, – На пасадзе сядзела цьвет-ночка – царыца... Звалі тыя і сія судзьбінай.* Ч, 322. *Хай час ідзе, хістаючыся ў дыме, І хай ляжыць стары ў абломках сьвет, – Ў грызьні за іх з гэтымі і з тымі Ты* [абываталь] *скарыстаеш іх на свой клёзэт.* ВБЛ, 81.

**3.** Паказвае на які-н. прадмет, асобу, пра якія гаварылася раней. *Не вельмі даўно у нас было следства па дзелу аб вучыцельскім саюзе. З вучыцелёў, што да таго саюза належэли, ўзяли падписку, каб никуды не выежджали без дазваления палиции.* ВД. *І аб сонцы ясным, што на небе йскрыцца, Былі твае песні, ашуг Дагестана, А ў тых песнях гоман зямлі нашай чуўся, І рэха ляцела дарогаю слаўнай..* ПСС, 232. // *У знач. наз. (звычайна з узмацняльнай часцінай "і"). Усяго адна кніжка і тая маленькая, усяго 16 страніц малога разьмеру.* ВСп, 90. .. *Лезла на вопратцы дзірка на дзірку, Лапцяў і тых не дастаў я ад пана.* Ун, 73. *Параўн.* оный.

**4.** *У знач. наз.* Паказвае на якія-н. акалічнасці, падзеі, пра якія ўжо ішла размова. *І ручыла, шанцавала Ў бітвах цяжкіх яму* [Даніле]*, Ажна вораг напужаны Дзіваваўся таму.* ПСД. // Наступнае, вось што. [Наста]: *Узяць хоць бы тое: хто калі да рэвалюцыі ў Менску лузаў семечкі? – ніхто.* Т, 28. [Мікіта]: *Справа ў тым: я пастанавіў перайсці ў вашу* [Янкі]*, меджду протчым, партыю.* Там жа, 55.

**5.** Паказвае на вядомую ўжо асобу ці прадмет. [Мікіта]: *(вітаючыся з вучонымі). Вось той хэ-хэ-хэ! беларус, аб якім я вам казаў.* Т, 26. *У якой мове трэба вучыць дзяцей рэлігіі? .. ў роднай мове вучнёў – тэй гутаркай, якую яны змалку чуюць у бацькавай хаці.* ВР.

**6.** Іменна ён, не іншы, гэты ж самы (звычайна ў спалучэннях "той жа", "той самы"). *Сягодня ў нас творыцца армія, творыцца рукамі гэтай самай гарачай беларускай моладзі, ствараюцца па гарадох, мястэчках і вёсках беларускія нацыянальныя камітэты, усё рукамі той жа самай беларускай моладзі..* МІ, 17. *Тыя самыя людзі, толькі багацейшыя і бяднейшыя, пачалі гаварыць рознымі языкамі, і сягоння яны паміж сабой нічога супольнага не маюць.* Нз, 14. // *У знач. наз. Тыя ж – Аленка – Гарошка.* Т, 25. *Тыя ж – Усходні вучоны – Заходні вучоны.* Там жа, 26.

**7.** Уваходзіць у састаў: **а)** складаных злучнікаў: "дзякуючы таму, што", "з той прычыны, што". *Беларуская Вайсковая Камісія пачала ў нас у Менску рэгістрацыю бела-*

*русаў-афіцэраў, дактароў і інш. з тэй прычыны, што ў хуткім часе мае фармавацца беларуская армія.* БВ, 16. [Дама]: *Дзякуючы таму, што мы ўжо частаваліся, паўторым сягоння толькі другую частку праграмы таго вечару.* Т, 51;

**б)** словазлучэнняў, звычайна пабочнага характару, якія звязваюць розныя часткі выказвання: “апрача таго”, “паміж тым”. *Апрача таго, адзначаецца сваёй навізной першая “Беларуская разразная азбука”.* ВСп, 89. *.. А паміж тым, у прадчуваньні рымскіх ласк, Свой разрахунак мерконтыльна зьнізіў І як жанчына, ўвесь дрыжэў Новачаркаск Ад наступу дэнікінскіх дывізій.* БВЛ, 80.

**8.** Выкарыстоўваецца як указальнае слова на мяжы двух сказаў, з якіх другі з’яўляецца тлумачэннем першага. *Шчаслівы сягоння той, хто можа глядзець адкрытымі сумленнымі вачыма ў вясёлыя вочы нашай будучыні.* ЖН. *І зрабілася на Беларусі пасля уніі з Польшчай тое, чаго і трэ было чакаць.* Нз, 14. *Параўн.* тэн *у 2 знач.*

**9.** *У знач. азначэння. У параўн.* [Ануля]: *Ён жа* [Мікіта] *маё родненькае дзіцё, ды адзін, як той васілёк у жыце.* Т, 20. [Мікіта]: *Меджду протчым, гэр Спічыні таму не вінен, што напладзілі сабе людзі языкоў, як тая трусіха трусянят..* Т, 48.

• **Што было сном, тое стала явай.**

◊ **З тэй пары; с пары тэй** *гл.* пара. **Ісці на той сьвет** *гл.* ісці. **Казаў той** *гл.* казаць. **Мала таго** *гл.* мала. **На той свет без пары саджаць** *гл.* саджаць. **Ні той, ні сёй** – не які-небудзь малазнаёмы, нязначны. [Янка]: *Трэ было, цётачка, сказаць, што ні той, ні сёй, а тутэйшы.* Т, 54. **Ні сёе, ні тое** – пра што-н. няпэўнае, што не мае ярка выражаных асаблівасцей. [Мікіта]: *.. выступаць, меджду протчым, з трыбуны без практычнай лекцыі неяк ні сёе ні тое.* Т. 40. **Сяк ці так** *гл.* сяк. **Тое-гэта** (2) – між іншым. [Гарошка]: *Аб чым жа, тое-гэта, хацеў я казаць?* Т, 43. [Гарошка]: *Тое-гэта, палякі на носе – кажуць, што ўжо Навінку забралі..* Там жа, 44 **Тое-сёе** (2) – выкарыстоўваецца замест пераліку розных прадметаў, акалічнасцей. [Гануля]: *.. паміж сабой тое-сёе па вучонаму пагаманілі* [вучоныя], *праз свае падзіральнікі туды-сюды зірнулі ды пайшлі.* Т, 54. [Мікіта]: *А далей таксама хацелі* [паны] *тое-сёе, меджду протчым, знімаць, але пачалі падыходзіць людзі, дык падзякавалі і пайшлі.* Там жа; 58. **Той ці іншы** (4) – хто-небудзь, які-небудзь. *Вы* [паны гандляры] *таксама бяссільны павярнуць долю народаў у той ці іншы бок..* Тж, 16. *.. а ўсё-ж такі ён* [мінулы год] *шмат чаму навучыў, і шмат каму з беларускага грамадзянства адкрыў вочы, асьлепленые тымі ці іншымі*

*утопіямі і абецанкамі...* СНБ. **Той ці сёй** – хто-небудзь. [Ганулля]: *Сягоння імяніны яго* [Мікіты], *дык мо той ці сёй здарыцца ў хату.* Т, 20. **Тым часам** *гл.* час. **Ускрэсці з таго сьвету** *гл.* ускрэсці. **У тым ліку** *гл.* лік. **Як на тое ліха** *гл.* ліха. **Як той дзед за дзедам** *гл.* дзед.

Адз. м. Н. *той* (63): ББ (4); БН, 92 (5), 93; Бч, 10; ВБ (2); ВН; ВСп, 91; ВЧ; ДК (2); ДЖ (3), Дз, 190; ЕЯП (2); ЖН; КЧ (3); МД, 117 (2); МСП, 187; НГд, 8; Нз, 14; ОШМ (3); ПТ, 208; Пц; СД (2); СНБ; СТ; СЧ. 432 (2); Т, 20 (2), 23, 26, 32, 37, 40 (3), 42, 43, 44 (2), 45, 50 (2), 51, 54 (2), 57; ТП, 214; ТС, 74; ХБ, 28; Ч, 319 (2), 320. Р. *таго* (13): АБ, 16; АЛ; ВД; ДК; ЛР; НДН, 18; Т, 42, 45 (2), 48, 51, 53; УП. Д. *таму* (11): А; ДЖ; К (3); Нз, 15; СНБ, 339; СП; Т, 60; Ч, 323 (2). В. *таго* (7): ГВУ (2); К (3); Кз, 17; Т, 34; *той* (20): БВ, 16; БС; БСУ; ВМР (2); ГП, 8; Кц, 194, 195; МД, 117; Нз, 15; ОШМ; ПБН; СНБ, 336, 338; Т, 45; Тж, 16; У; УП, 52; ХЛБ; Ч, 323. Т. *тым* (7): ЗС, 17 (2); ПС; УП, 52; УПУВ; ХБ, 27, 29. М. *тым* (5): АЛ; МІ, 17; НКУС; СНБ, 337; Т, 52. ж. Н. *тая* (14): АБ, 16; БВ, 16; БН, 92 (2); ВБ; ВСп, 90; ДК; ДД; МД, 117; Т, 36, 40, 44, 48; Ш[1]. Р. *той* (5): АК; МІ, 17; НД (2); Т, 35; *таей*: Т, 20; *тае*: АЛ; *тэй* (14): АЛ; БВ, 16 (2); ВБЛ, 82; ДЖ; ЕЯП; Ж. КП, 170; ПВн; ПН, 46; СНБ; Т, 38; ЦСБ; ЧС, 50-51; *тэй* (2); Ж; ПВн. Д. *той*: АБ, 16; *тэй*: АП, 128. В. *тую* (3): ЖН; ПЛП; Т, 45; *ту*: Т, 44. Т. *тэй*: ВР. М. *той* (2): ВС; ШБСЯ; *тэй* (4): Т, 60; УП, 47, 52; Ч, 320. н. Н. *тое* (25): АБ, 16; БВ, 16; ВБЛ, 81; ВН; Г, 17; МІ, 17; НДН, 18; Нз, 14; СНБ; Т, 22, 24, 40, 43 (2), 44 (2), 48, 54, 57, 58; Тж, 16; ШБСЯ (3). Р. *таго* (40): АБ, 16; АЛ (2); Бч, 9; ВГР; ВМР (2); ВН (4); ВС; ВСп, 89 (2), 91; ДД; ЖН; МІ, 17; НДН, 18; ОШМ (4); ПЛП; ПС (2); Т, 19, 21, 22, 36, 38, 39, 40, 47, 58, 60; Тж, 15; УПУВ (2); ХБ, 30; *того*: Т, 27; Д. *таму* (11): Ан, 19; БрБ, 6; ВНЗ; ЖН; ПЛП (3); ПСД; Тж, 16; Т, 22, 51. В. *тое* (38): А, 328; Ан, 18; БС; ВСп, 91 (2), ДК; ДД (2); Дз, 188; НДН, 18 (2); Нз, 15; ОШМ; ПЧ; Ч, 209; СБНГ; СНБ (2); Т, 21, 23, 24, 28 (2), 30, 40 (2), 41 (2), 45, 46, 49, 55, 56, 58; УП; Ф; Ч, 326; ШБСЯ. Т. *тым* (10): ВБЛ, 80; ВМ, 280; ВН; Дз, 73; З; СТ; Т, 25, 48; ХБ, 28; Ч, 323. М. *тым* (19): АБ, 16; Ан, 18; ВМР; ВСп, 89, 90; ГВУ; ДК (2); ДНСП; Дз, 136; ПБН; Т, 20, 23, 40, 42, 46, 51, 55, 57; *тэм* (2): Т, 38, 47. Мн. Н. *тыя* (36): АБ, 16; БВ, 16; ВСп, 91; Г, 16 (2), 17; ЗС, 18 (5); Кц, 196; Н; НДН, 18, 19; Нз, 14; СНБ, 336; Т, 20, 25 (4), 27, 30, 31, 33 (2), 37, 38 (2), 43, 47, 52 (2), 54, 59; *тые* (16): В; ВМР (2); ВН (3); ВР (3); ВС; Дз, 189 (2); ЗК, 42; СБНГ; СНБ; ТС; 14; *це*, Т, 27. Р. *тых* (12): ВН (2); Дз, 190; СС, 301; Т, 41, 60; Тр (3); ТП,

216; Ун, 73; Ч, 322. Д. *тым* (4): Дз, 190 (2); Кр, 77; Ч, 322. В. *тых* (11): Ан, 19; Ж; ЖН; ЗС, 17, 18 (3); Кр, 77; ПСД; РКр; УПУВ; *тыя* (9): АЛ; АП, 128; ЖН (2); Т, 20; Тж, 16; ТП, 217 (2); *тые*: ВМР. Т. *тымі* (3): ВБЛ, 81; СНБ; Т, 57. М. *тых* (8): БВ, 16; В; ВСп, 91 (2); ЗС, 17; ПСС, 232; Т, 34, 46.

**[ТОК]** *м. Вобразн.* Поле бітвы. [Янка]: *Зірні, Аленка, на Менск! Тут калісь, – як сказана ў нашай песні аб паходзе Ігара, – продкаў нашых галовы снапамі на таку слаліся, душу ім ад цела веялі..* Т, 35.

Адз. М. *таку*: Т, 35.

**[ТОЛЕРАНЦЫЯ]** *ж. Уст., разм.* Талерантнасць. .. *калі гэта высокая вучэльня ня пойдзе шырокай дарогай толеранцыі.., – яна ня споўніць таго культурнага назначэньня, якое ей сягодня суліць гісторыя.* УПУВ.

Адз. Р. *толеранцыі*: УПУВ.

**[ТОЛК]** (3) *м.*: ◊ **Без толку** (2) – без патрэбы, баз карысці, дарма. *Там чутна: Беларусь! Там – Незалежнасць! А там – "Паўстань пракляццем" … Ну, а мы? Мы ў страху… дум крутня... разбежнасць... Без толку крыллем лопаем, як цьмы.* Бч, 9. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, не круцецеся без толку па хаце..* Т, 59. **С толкам** – з розумам, разумна. *Восьжэ калі с толкам пажычаць будзе магазын гэта збожа, то не адна сям'я запаснога будзе як сьлед накормлена.* ВС.

Адз. Р. *толку* (2): Бч, 9; Т, 59. Т. *толкам*: ВС.

**ТОЛЬКІ[1]** (161) *часц.* **1.** *вылучальна-абмежавальная.* Не больш як, усяго. *Яны* [малазямельныя вёскі і сялібы] *назіраюць толькі сумным вокам, як гэта зямля .. пападае ў рукі лішніх і зусім непатрэбных у нашым краю людзей.* ЗС, 18. [Наста]: *А вось гэтага* [Немца] *– дык я толькі ахвяравалася правесці да Брахалкі.* Т, 41. // Выключна, адзіна; нічога, акрамя гэтага. *Свежыя наспы мураўка ешчэ не пакрыла, Жвір толькі сьвеціцца, змыты сьцюдзёным дажджом…* ВЛ. *Мы* [дэлегаты] *праязджалі толькі праз Польшчу.* ПЧ. // У спалучэнні з часціцай адно. *Там* [за мяжою] *не чутно песень вясёлых, адно толькі смутныя вочы ў людзей глядзяць у наш бок – на Ўсход, чакаючы вызвалення..* ЖН. .. *прынялі* [дрэговічы, крывічы і палачане], *падумаўшы, да сваіх старых багоў і новага Бога; адно толькі варажбіты-вешчуны, старцы мудрыя і ў законах веры дасведчанне маючыя, старых толькі багоў трымаліся..* Кз, 17. // У спалучэнні з часціцай што. [Гарошка]: *Як прышпілюць вам* [Ганулі, Аленцы, Янку] *калі-небудзь хвост на гэтых пасядзінах, то прападзе вам ахвота і стаяць, не толькі што сядзець.* Т, 44. А, 328; АБ, 16; АЛ (6);

БВ, 17; БрБ, 6 (2); БС; ВБ; ВМР; ВН (5); ВНЗ; ВС (3); ВСп 89 (2), 90 (2); ВР; ДЖ (4); Дз, 189, 190; ДК (3); ЖН (3); З (4); ЗЗЗ, 132 (5); ЗС, 18 (2); ЗЯЗ, 90; Кз, 17 (3); Кц, 194, 195 (2); ЛПК; НГд, 8; НДН, 18 (3); Нз, 14 (4), 15; ПВ, 8; ПЛП (2); ПН, 46; ПЧ (2); СМ, 268 (2); СНБ, 337 (3); ССА, 294; СЧ (2); Т, 22 (3); 28 (3), 29 (2), 30, 31, 32, 33, 34 (2), 35, 37 (2), 38, 39, 40 (4), 41 (3), 42 (2), 45 (4), 46, 47 (2), 48 (2), 49, 50, 51, 55 (3), 56 (3), 58 (2); УПУВ; УрП, 50, 52 (2); Ф; Х; Ч, 322 (2); ШБСЯ (2). *Параўн.* только.

**2.** *абмежавальная.* Не раней чым. *Каханне хлапца і дзяўчыны дасягае свайго апагею толькі калі яны даразумеюцца набыць чаравікі бацяўскага вырабу...* ПЧ. [Чырвонаармеец]: *.. я адстаў ад сваёй часці і толькі ўночы змагу выбрацца з гораду, каб дагнаць сваіх.* Т, 52. А, 328; Т, 55.

**3.** *узмацняльная.* Узмацняе ўяўленне аб вялікай колькасці, аб'ёме. *Путы няволі, кары звярыныя Хто не жыў толькі – іх не цярпеў..* Дк, 136. // Узмацняе ўяўленне аб пажаданні, магчымаці якіх-н. з'яў. [Гануля]: *Толькі не стукайце* [Янка] *там па-панску ў дзверы, а проста ўваходзьце, і ўсё тут.* Т, 19. [Янка]: *.. каб вы* [Мікіта] *толькі з сваім асэсарствам з гэтай мамзэляй не вылецелі ў трубу.* Там жа, 23. // У спалучэнні з часціцай абы. *Абы толькі рэакцыя урадавая не зьмянілася на рэакцыю грамадзянства.* СНБ. [Аленка]: *Абы толькі гэтыя адзінкі, што ўжо змагаюцца, больш ясных паходняў распалілі і асвяцілі сцежкі ўсе для паўстаючай грамады.* Т, 35. ВР; ЗС, 18; Нз, 14; См, 90; Т, 23.

**ТОЛЬКІ[2]** (9) *прысл.* Зусім нядаўна, незадоўга. *І вы* [бальшавікі] *з рабоў пайшлі ў цары... – О, каб не ў краты толькі з крат!?* ПВ. *Дзе толькі ступіце* [дванаццаць выбраных]*, зьнямее Нямая чорная напасьць..* УрП, 50. // У спалучэнні з часціцай "што". [Спраўнік]: *Толькі што пайшоў* [бацюшка] *адбіраць у беларусаў ключы ад Юбілейнага дому.* Т, 58. [Мікіта]: *Мяне толькі што спаткала ў дарозе смешная прыгода.* Там жа, 58. ПДз; Т, 27, 34 (2), 44.

**ТОЛЬКІ[3]** (36) *злучн.* супраціўны. **1.** Злучае члены сказа і сказы з супраціўна-абмежавальнымі адносінамі. *Край наш сам па сабе багаты, толькі чужыя гаспадары яго знішчылі.* Нз, 15. [Гануля]: *(гледзячы ў вакно). Нікога не відаць, толькі мамзэль Наста панеслася, як вецер.* Т, 59. // Уваходзіць у склад супраціўных злучнікаў: "не (ня) толькі..., але (і, й); ня толькі..., а". *За яго* [Сталіна] *я* [Купала] *прагаласую не толькі выбарчым бюлетэнем, але і сваёй песняй.* ГВУ. *Гэта можа пацьвердзіць хоць-бы нацыянальна-культурная палітыка, якая*

*праводзіцца недалёка ад нас – за пагранічнымі слупамі, дзе ня толькі не ствараюць акадэмій, а разбураюць нават беларускія школы..* ГНД. АЛ; БСУ (2); ВМР; ВН (2); ДНСП; МП; Т, 49, 51; УПУВ.

**2.** Злучае сказы з адносінамі неадпаведнасці, выступаючы ў значэнні: аднак, але. [Янка]: *О, гэтакіх адных* [людзей] *у нас многа, толькі ж яны не васількі, а праклятае зелле на нашай беднай зямлі!* Т, 20. [Мікіта]: *Паддаюся, толькі ж не большасці, а вашаму аднаму голасу, мадам-сіньёра.* Там жа, 29. // У спалучэнні са злучнікам: “а”; “а толькі”. [Ганууля]: *Рабіце* [госці], *што хочаце, а толькі з хаты не пушчу!* Т, 27. [Мікіта]: *Дам дзесяць, а толькі ратуйце* [Янка]: *меджду протчым!* Там жа, 33. Кр, 77; Пп, 161; ССА, 294; Т, 20, 27, 54;

**II.** *далучальны.* Ужываецца для сувязі членаў сказа і сказаў, якія ўдакладняюць або дапаўняюць папярэднія думкі. [Мікіта]: *Вось вам, ясне мусье немец, гэр гэрманіш, пакуль што контрыбуцыя, заўтра дам энэксыю, а там, калі не хопіць, жонак, дзяцей залажу, меджду протчым, мамашу, толькі дайце перадышку, не цягнеце ў палон!* Т, 33. [Янка]: *А болей нічога не пыталіся* [вучоныя]? [Ганууля]: *Нічога, толькі паміж сабой тое сёе па вучонаму пагаманілі..* Там жа, 54. ЗЗЗ, 132; Т, 22, 31, 62.

**III.** *часавы.* Ужываецца ў даданых сказах часу, калі падзеі, аб якіх гаворыцца ў галоўным сказе, пачынаюцца адразу ж пасля падзей даданага сказа. [Наста]: *Толькі тады з гэтага квасу будзе піва, калі я пэўных крыніц напэўна даведаюся, што вы* [Мікіта] *не рэгістратар толькі, а ўжо асэсар.* Т, 42. // Уваходзіць у склад састаўнога часавага злучніка: “як тольк”. [Ганууля]: *Як толькі немцы вышлі, то ён* [Мікіта] *ужо на другі дзень палез на Трэку недзе на вышкі і давай, на чым свет, падбухторваць людзей.* Т, 46. *Як толькі находзіў вечар, я* [С. Меч] *выхадзіў на адну з сваіх любых дарожак ды ішоў на ёй ціха.* ХБ, 29. УрП, 47.

**IV.** *умоўны.* Падпарадкоўвае даданыя сказы са значэннем рэальнай умовы. [Мікіта]: *Усё можна, толькі асцярожна.* Т, 21.

**ТОЛЬКО** *часц. Руск. Тое, што* толькі[1] *ў* 1 *знач.* [Поп]: *Акі пастыр, я должэн остацься пры агнцах своіх, я только провожаю сірых сіх, дабы напутствовать на путь неведомый.* Т, 38.

**[ТОН]** *м.* Манер, лад. *Гэта ўраз жэ падхватываюць палякі, і “Kurjer v Ziteroski”, а за ім двуграшовая “Cozeta Codyiennа” на розныя тоны галосяць: “вось, бачыце, да чаго даводзіць беларушчына..* ВР.

Мн. В. *тоны*: ВР.

**[ТОНКІ]** *прым*. Невялікі па шырыні; вузкі. *Мы* [хлопчык і лётчык] *гітлерцаў будзем ніштожыць, Гаціць імі тонкую гаць..* ХЛВ, 315.

Адз. ж. В. *тонкую*: ХЛБ, 315.

**ТОПАЛЬ** *ж. Руск.* Таполя. *На ўзгорку невылікім, у бярозавым гаі, Сьвяціў шляхецкі хорам, кругом дзеравяны Ды на падмураваньні, – увесь пабяляны; Тым бялейшы, што топаль сьпераду і збоку Сьцерагла ад сіверу восень глыбоку.* ХБ, 28.

Адз. Н. *топаль*: ХБ, 28.

**ТОПІТЬСЯ** *незак. Руск. Тое, што* тапіцца. [Усходні вучоны]: *О Дарданелах, о Індзійскіх морях і о какіх-лібо окошках не помышляют* [беларусы] *і помышляць не жэлают, бо, по іх жэ словам, і без того імеют гдзе топіцься, когда повеет сквознякамі із Запада.* Т, 47.

Інф. *топіться*: Т, 47.

**ТОПІЦЬ СЕНЬ** *незак. Польск. Тое, што* тапіцца. [Заходні вучоны]: *О розшэжэню своіх граніц од можа до можа не мажон і мажыць собе не жычон, поневаж, як самі твердзон, маён гдзе топіць сень і без можа, гды повеён пшэцёнгі зэ Всходу.* Т, 47.

Інф. *топіць сень*: Т, 47.

**[ТОРБА]** (11) *ж.* **1.** Невялікі мяшок (звычайна з даматканай тканіны). *Гарошка дастае з торбы сваю закуску і раскладае на століку.* Т, 27. *Дастае* [Аленка] *з торбы прыгожа вышытую кашулю і саматканы ўзорысты пояс..* Там жа, 30. // Мяшок старца як сімвал жабрацтва. *І волатам на вогненным кані Народ аграблены – бы з торб жабрак – За бацькаўшчыну павядзі ў агні.* Пт.

**2.** *перан*. Партфель. [Аленка]: *Ну і цяжкія ж гэтыя торбы! Ці не каменне ў іх напакавана?* Т, 46. [Янка]: *А як зноў унеспадзеўкі тыцне ў Менск ваша совбурскае начальства? Што тады вы* [Мікіта] *без гэтых торбаў запяеце?* Т, 50.

◊ **Апрануць торбу** *гл.* апрануць. **Дайсці да торбы** *гл.* дайсці. **З торбай жарбацкай жыць** *гл.* жыць. **З торбай пушчаць** *гл.* пушчаць. **Надзець торбу** *гл.* надзець.

Адз. Р. *торбы* (3): ПДз; Т, 27, 30. Т. *торбай*: Ф. М. *торбе*: Т, 27. Мн. Н. *торбы*: Т, 46. Р. *торбаў*: Т, 50; *торб*: Пт. В. *торбы* (2): Бч, 9; Чж, 147. Т. *торбамі*: Т. 21.

**ТОРГ** (5) *м.* **1.** Здзелка. *А толькі торг усё ідзе Над іх* [людзей] *душою патаптанай..* Кц, 195.

**2.** Спрэчка. *Сягодня ідзе паганы торг за ідэі, за праўду векавечную, агульналюдскую.* Тж, 15.

◊ **Весці торг** *гл.* весці. **Як з козамі на торг** – несвоечасова.

[Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, выехалі з гэтым сваяцтвам, як з козамі на торг! Перад маімі гасцямі ўсю мне рэпутацыю папсавалі.* Т, 25.

Адз. Н. *торг* (3): А, 328; Кц, 195; Тж, 15. В. *торг* (2): Н; Т, 25.

**ТОРЖЫШЧА** *н.*: • **Торжышча.**

Адз. Н. *торжышча*: Тж, 15.

**ТОРПА** *м. Разм.* Торф. .. *торпа, прымешаны да пясчанай глебы, утварае найлепшае паляпшэнне зямлі.* ХБ, 30.

Адз. Н. *торпа*: ХБ, 30.

**[ТОСТ]** (3) *м.* Застольная прапанова выпіць у гонар кагон., за што-н.; здравіца [Мікіта]: *Цяпер я, высокія госці мае, прапаную тоста...* Т, 28. [Наста]: *Я цяпер тоста прапаную.* Там жа, 28. // Бакал спіртнога, які выпіваецца ў гонар кагон. [Мікіта]: *А цяпер, высокашанаваныя госці, падымем тост за нашых наймілейшых мадамаў і мамзэляў.* Т, 28.

Адз. В. *тост*: Т, 28; *тоста* (2): Т, 28 (2).

**ТОТ** *гл.* **ТОЙ.**

**[ТОЎСТЫ]** (2) *прым.* Вялікі, значны ў аб'ёме. *Уваходзіць Мікіта.., цягнучы за сабой каламажку, у якой: тры тоўстыя вялізныя партфелі, а чацвёрты – меншы..* Т, 45. [Мікіта]: *(паклаўшы на стол некалькі тоўстых слоўнікаў). Меджду протчым, я гатоў, мусье профэсар.* Там жа. 31.

Мн. Н. *тоўстыя*: Т, 45. Р. *тоўстых*: Т, 31.

**ТРАВА** (7) *ж.* Расліна з аднагадовымі зялёнымі неадзеравянелымі парасткамі і сцяблом. *Травы пахнуць кветкамі, Кветкі пахнуць зорамі.* ПЛ. *Дзе ні ступіць* [чараўнік] – *згібаюцца краскі і травы, І пракляцьце шуміць бескарысна.* Ч, 320. // Зялёнае покрыва зямлі з такіх раслін. .. *калеі на такіх буйных станцыях, як Слонім, Беласток, пазарасталі травой.* ПЧ.

Δ **Сон-трава** *гл.* сон.

Адз. Н. *трава* (2): ВБЛ, 81; НГ. Д. *траве*: Ч, 323. Т. *травой*: ПЧ. Мн. Н. *травы* (3): ПБН; ПЛ; Ч, 320.

**[ТРАГЕДЫЯ]** *ж. перан.* Непрыемная падзея. [Мікіта]: *Ды я ж прасіў вас, мамаша, не ўспамінаць мне аб гэтай трагедыі майго жыцця.* Т, 34.

Адз. М. *трагедыі*: Т, 34.

**[ТРАГІКАМЕДЫЯ]** *ж. перан.* Падзея, становішча, у якім да сумнага прымешваецца смешнае. [Янка]: *Не страва, мой пане, а такая маленькая камедыя ў вялікай трагікамедыі.* Т, 27.

Адз. М. *трагікамедыі*: Т, 27.

**[ТРАГІЧНЫ]** *прым.* Жахлівы. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, вы крыху не ў тых колерах адмалявалі ўсю гэтую трагічную гісторыю.* Т, 46.

Адз. ж. В. *трагічную*: Т, 46.

**[ТРАДЫЦЫЯ]** *ж.* Тое, што атрымана ў спадчыну ад папярэдніх пакаленняў. *У нашу векапомную эпоху гэроічнага змаганьня пролетарыяту за вызваленьне працоўных з-пад няволі капіталізму.. праступна ўваскрашаць мінулае, прасякнутае нявольніцка-буржуазнымі капіталістычнымі традыцыямі..* АЛ.

Мн. Т. *традыцыямі*: АЛ.

**ТРАКТАР** (19) *м.* Самаходная машына для перамяшчэння, прывядзення ў дзеянне сельскагаспадарчых і іншых прылад. [Трактарыстка:] *Трактар, мілы трактар, "Сталінец" мой слаўны, Пахавалі гора Мы з табой нядаўна!* ПТ, 206. *Разам будзем араць поле трактарам сталёвым, Сеяць жыта і пшаніцу На загонах новых.* ТЗУ, 293.

Δ **Сталінец-трактар** *гл.* сталінец.

Адз. Н. *трактар* (14): 333; ПТ, 206 (4), 207 (5), 208 (2); СА, 180; ССА, 294. Р. *трактара*: ВГР. Т. *трактарам*: ТЗУ, 293. Мн. Р. *трактараў*: ШБСЯ; *трактароў*: ЖН. В. *трактары*: ЗЯЗ, 90.

**[ТРАКТАРНЫ]** *прым.* Які мае адносіны да трактара. *І сейбіт выйдзе, свабодны, без путаў. Трактарны ў рукі руль возьме з паклонам..* Мц, 75.

Адз. м. В. *трактарны*: Мц, 75.

**[ТРАКТАРЫСТКА]** (2) *ж.* Вадзіцель трактара. *Яны – трактарысткі, яны – брыгадзіры, З іх многа ў нашых советах старшынь.* ПБН.

• **Песня трактарысткі.**

Адз. Р. *трактарысткі*: ПТ, 206. Мн. Н. *трактарысткі*: ПБН.

**[ТРАКТАТ]** *м.* Міжнародны дагавор, пагадненне. *Дзяржаўныя граніцы, абмяжованыя рознымі дагаворамі і трактатамі, ляжалі на сваім месцы.* СНБ, 336.

Мн. Т. *трактатамі*: СНБ, 336.

**ТРАПЕЗА** *ж. Уст.* Стол для яды; яда. [Поп]: *Трапеза была обільная, яствы упітацельныя: амэрыканскае сала...* Т, 51.

Адз. Н. *трапеза*: Т, 51.

**ТРАПІЦЬ** (2) *зак.* **1.** Аказацца дзе-н. у патрэбны момант. [Мікіта]: (*вітаючыся з вучонымі*). *Добра трапілі, меджду протчым, паны вучоныя.* Т, 26.

**2.** Дасягнуць чаго-н., пацэліць у што-н., метка кінуўшы што-н. *Вераць* [заходнія беларусы] *а шчыра, што позна ці рана, – З захаду голас іх трапіць да Ўсходу.* ВМ, 72.

Абв. пр. мн. *трапілі*: Т, 26. Буд. адз. 3 ас. *трапіць*: ВМ, 72.

**[ТРАПЛЯЦЦА]** *незак.* Выпадкова сустракацца. *Захапляўся* [Купала] *народнай міфалогія, й чытаў аб ёй кнігі, якія траплялiся ў рукі.* ПС.

Абв. пр. мн. *траплялiся*: ПС.

**[ТРАПЛЯЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Апынуцца дзе-н. *Вядома, не абыходзілася без таго, каб я* [Купала] *не засынаў, а коні тым часам траплялі ў шкоду.* ПС.

**2.** Выпадкова сустракаць. *Чытаў я* [Купала] *без разбору усё, што трапляла пад рукі ў глухой правінцыі...* ПС.

Абв. пр. адз. н. *трапляла*: ПС. Мн. *траплялі*: ПС.

**[ТРАПНЫ]** *прым.* Меткі. *Ніхто не ўратуецца ад трапнай кулі совецкага снайпера.* ВР.

Адз. ж. Р. *трапнай*: ВГ.

**[ТРАПЛІВЫ]** *прым.*: ◊ **Падараваць сваю абымальную руку і сваё трапятлівае сэрца** *гл.* падараваць.

Адз. н. В. *трапятлівае*: Т, 42.

**ТРАСУЧЫ** (2) *дзеепрысл. да* трэсці *ў* 1 *знач.* [Мікіта]: *Дзеля таго (трасучы кулаком) далоў!.. далоў!..* Т, 40. [Мікіта]: *Дзеля гэтага (трасучы кулакамі) далоў... далоў... І так, между протчым...* Там жа, 40.

**[ТРАСЦА]** *ж.*: ◊ **Трасцай кідацца нялёгкай** *гл.* кідацца.

Адз. Т. *трасцай*: ВБЛ, 80.

**[ТРАЦІЦЬ]** *незак., перан.* Пазбаўляцца якога-н. стану. [Мікіта]: *І хоць ты ёй* [Насце] *з пальца выссі тое асэсарства, а падавай, і ўсё тут. Але я надзеі не трачу.* Т, 23.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *трачу*: Т, 23.

**[ТРАЦКІСТ]** (2) *м.* Паслядоўнік трацкізму, прыхільнік яго. *Прайшлі* [бальшавікі] яго [шлях], *скідаючы з дарогі ўсіх і ўсялякіх ворагаў: кулакоў, нэпманаў, трацкістаў, зіноўеўцаў..* ВГР. *Слава нашаму Ежову, З Ленінграда родам, .. Што трацкістаў азвярэлых Выкрыў і зніштожыў.* НК.

Мн. В. *трацкістаў* (2): ВГР; НК.

**[ТРАЦКІСЦКІ]** (5) *прым.* Які з'яўляецца прыхільнікам трацкізму. *Не толькі Прымор'е, Урал і Украіну трацкісцкія дыверсанты прадавалі фашыстам.* ВНЗ. *У прыёмных нямецкіх і японскіх контрразведак трацкісцкія шпіёны і здраднікі гандлявалі нашаю крывёю і нашым нацыянальным гонарам.* Там жа.

Адз. ж. Р. *трацкісцкай*: НКУС. Мн. Н. *трацкісцкія* (3): ВНЗ (3). Р. *трацкісцкіх*: ВНЗ.

**ТРАШЧАЦЬ** *незак., перан.* Быць напярэдадні краху; распаду. *Вы* [паны гандляры] *стварылі ўсясветную вайну за свае кішанёвыя інтарэсы; .. а далей, калі пачалі трашчыць і падаць вашы крывавыя троны і кароны, што вы сказалі?* Тж, 15.

Інф. *трашчаць*: Тж, 15.

**[ТРОЙКА]** *ж.* Запрэжка з трох коней. [Гарошка]: *Рынулі* [казакі] *ўсёй гурмай на конях праз ляжачы народ, а за імі прыстаў на сваёй вараной тройцы.* Т, 43.

Адз. М. *тройцы*: Т, 43.

**ТРОЙЧЫ** (3) *прысл.* Тры разы. [Першы ганец:] *Я абышоў іх* [людзей] *тройчы раз І відзеў, што ешчэ ўсе жывы.* Кц, 194. Кц, 195 (2).

**[ТРОН]** (6) *м. перан.* Улада манарха; сімвал улады. *І ўсё вы* [бальшавікі] *ўзялі, ўсё як ёсць: Фабрычны дым, сяўбы загон І панскі двор, і царскі трон... Ды стала ўсё вам гэта ў злосць...* ПВ. *Троны, кароны, вісельні, кулі, – Выдумаць гэта мы* [Беларусы] *ў сваім краі Неяк мінулі.* Пп, 5.

Адз. Р. *трона*: Нз, 14. В. *трон* (2): АПЖ; ПВ. Мн. В. *троны* (3): Кр, 77; Пп, 5; Тж, 15.

**[ТРОФЭЙ]** *м. Разм.* Трафей. [Мікіта]: *(Да сваёй кампаніі.) А трофэі таксама забраць?* Т, 53.

Мн. В. *трофэі*: Т, 53.

**ТРОХІ** (5) *прысл.* Няшмат, крыху. *Вера ў нашых продкаў была трохі іншая, як цяперака, бо не аднаго бога мелі, а некалькі..* Кз, 17. [Немец]: *Ці няможна ў вас папрасіць у гэту манерку трохі вады?* Т, 32. *Параўн.* троху, трошкі. ПН, 46; Т, 30, 44.

**ТРОХУ** *прысл. Разм.*: • **Аб усім патроху.**

**ТРОШКІ** *прысл. Тое, што* трохі. *Меншчына ляжыць трохі больш на поўдзень за Маскву..* ХБ, 29. *Параўн.* троху.

**[ТРУБА]** (5) *ж.*: • **Падзорная труба –** аптычны прыбор. *Вучоныя канчаюць пісаць адначасова, бяруцца за падзорныя трубы, азіраюцца.* Т, 26. *Уваходзяць вучоныя – адзін з аднаго боку, другі з другога, разглядаючы праз свае падзорныя трубы.* Там жа, 38.

◊ **Вылецець у трубу** *гл.* вылецець.

Адз. В. *трубу* (2): Т, 23, 25. Мн. В. *трубы* (3): НДн, 229; Т, 26, 38.

**[ТРУД]** *м. Руск. Тое, што* праца *ў* 2 *знач.* [Усходні вучоны]: .. *вопрэкі історычэскім, географічэскім, этнографічэскім, лінгвісціічэскім і дзіпломаціічэскім всероссійскім ісследованіям і трудам – оцечэство своё белорусы почему-то называют Белоруссія.* Т, 26.

Мн. Д. *трудам*: Т, 26.

**ТРУДНА** (3) *прысл. Руск. Тое, што* цяжка *ў* 1 *знач.* [Янка]: *Аб гэтым трудна загадзя варажыць, бо я ў скорасці зусім выязджаю з Менску на вёску.* Т, 21. [Дама]: *Тут у Менску*

*так трудна спаткаць праўдзівага вучонага.* Там жа, 27. Т, 20.

**ТРУДНЫ** (4) *прым. Руск. Тое, што* цяжкі *ў 2 знач. Трудны цяпер час на гэта, але ўсё-ж такі што колечы ды можна рабіць..* ВС. [Мікіта]: *Асабліва надта трудная для майго рускага ўразумення ваша* [беларуская] *граматыка – гэтыя націскі, націскі...* Т, 56.

Адз. м. Н. *трудны*: ВС. В. *трудны*: ПЛП. ж. Н. *трудная*: Т, 56. Мн. В. *трудные*: ЛР.

**ТРУМО** (2) *н.* Высокае стаячае люстра. *У кутку злева вялікае люстра (трумо).* Т, 19. .. *І хціва мерыць* [абывацель] *шаль перад трумо Пры цьмяным бліску дымлівых капцілак.* ВБЛ, 81.

Адз. Н. *трумо*: Т, 19. М. *трумо*: ВБЛ, 81.

**ТРУП** (7) *м.* Цела мёртвага чалавека. *Чорны груган клюе панскія косці, З трупаў гербоўных складае запасы.* Мц, 75. – *Кепска, кепска, пане воўк! – Першы крук закракаў. – Войнаў, бунтаў гул замоўк, Трупаў ані знаку.* Пц. // *Вобразн. Цяперашнія пабеды дзянікінцаў, калчакоў, юдэнічаў над бальшавікамі – гэта васкрашаючы труп расійскага самаўласця.* БВ, 17.

Δ **Нябожчык-труп** *гл.* нябожчык.

• **Жывы труп –** бяздзейсны, пасіўны чалавек. *Над жывымі трупамі і плачам Ты лунай, вочы рві сабе ... й сьмейся!* См, 91. **Ісці па трупах** *гл.* ісці. **Легчы трупам** *гл.* легчы.

Адз. Н. *труп*: БВ, 17. Т. *трупам*: ХЛВ, 316. Мн. Н. *трупы*: СЗГ, 252. Р. *трупаў* (2): Мц, 75; Пц. Т. *трупамі*: См, 91. М. *трупах*: УрП, 51.

**[ТРУПА]** *ж.* Калектыў артыстаў тэатра. *Увесь склад трупы тэатра перад пачаткам спектакля выйшаў на сцэну і горача вітаў совецкіх пісьменнікаў і журналістаў.* ПЧ.

Адз. Р. *трупы*: ПЧ.

**[ТРУП'Ё]** *н., зб. Разм.* Смерць. *І свае і чужыя выцягвае* [чараўнік] *звадай Жылы белыя чорным патрэбам, Каб заместа усіх і ўсяго ў сьветагляду Быць усім – і зямлёю, і небам. Каб спустошыць, абнетрыць труп'ём чалавека, Даць папас на магільным папасе..* Ч, 325.

Адз. Т. *труп'ём*: Ч, 325.

**[ТРУПНЫ]** *прым.* Які мае адносіны да трупа. *Тваіх, правадыр мой, законаў асновы, Тваёй Канстытуцыі мудрыя сказы Змятуць асляпленне, пакрышаць аковы, Аковы, дзе йшчэ звоняць трупнай заразай.* ТП, 216.

Адз. ж. Т. *трупнай*: ТП, 216.

**[ТРУПЯРНЯ]** *ж.* Морг. *І пакуль шукалі* [хлопчыка кадзета] *ў трупярні Паміж штабеляў сініх цел, У прамежак*

*ад сьмерці к спальні Скіфскі вецер з сьмехам ляцеў.* ВБЛ, 81.

Адз. М. *трупярні*: ВБЛ, 81.

**ТРУСІХА** *ж.* Самка труса. *У параўн.* [Мікіта]: *Меджду протчым, гэр Спічыні таму не вінен, што напладзілі сабе людзі языкоў, як тая трусіха трусянят..* Т, 48.

Адз. Н. *трусіха*: Т, 48.

**[ТРУСЯНЯ]** *н.* Дзіцяня труса. [Мікіта]: *Меджду протчым, гэр Спічыні таму не вінен, што напладзілі сабе людзі языкоў, як тая трусіха трусянят..* Т, 48.

Мн. Р. *трусянят*: Т, 48.

**[ТРУХЛЫ]** *прым., перан.* Які аджыў свой век; непатрэбны. *Шляхі асвятляць будуць* [законы] *светлым імкненням, Знішчаць рабаўласніцтва трухлыя праслы.* ТП, 216.

Мн. В. *трухлыя*: ТП, 216.

**[ТРУХЛЯВЫ]** *прым. Разм.* Спарахнелы, гнілы. [Янка]: .. *якое тут чорта чыноўніцкае становішча, калі яно ўжо не стаіць, а ляжыць, ды як яшчэ ляжыць – як трухлявая калода!* Т, 21.

Адз. ж. Н. *трухлявая*: Т, 21.

**ТРУЦЕНЬ** (3) *м.* **1.** Самец у пчалінай сям'і. *У параўн. Чыім краем не шамоча Ні няволя, ні бяда, Хай жыве, як сабе хоча, – Хоць як труцень, як нуда.* КЧ.

**2.** *Разм., перан.* Той, хто не працуе, а жыве за кошт працы другіх, лодар. *І там здань і тут здань, закружыліся ў круг, Кругом труцень у бляшках бліскучых спавіў, Усіх іх у жалезны ржавелы ланцуг, Сэрцы рве і грызе, шнурам шыі здавіў.* БН, 92. *Трутнёў ня будзеце забавай, Краіны вольнае сыны..* УрП, 50.

Адз. Н. *труцень* (2): БН, 92; КЧ. Мн. Р. *трутнёў*: УрП, 50.

**ТРЫ** (36) *ліч. колькасны.* Колькасць, якая абазначаецца лічбай 3. *А ў бары, бары Тры дарожанькі. Гэй, гэй, гэй, тры дарожанькі!* БВ. *Уваходзіць Мікіта.., цягнучы за сабой каламажку, у якой: тры тоўстыя вялізныя партфелі, а чацвёрты – меншы..* Т, 45.

◊ **Уткнуць свае тры грошы** *гл.* уткнуць.

Н. *тры* (14): ББ (4); ВСп, 89 (3); Кц, 194; Т, 41, 45, 46, 52; УПУВ; Ч, 322. Р. *трох* (8): ВСп, 89, 91; ДК; Дз, 188; УПУВ; Ч, 319, 322; ЧС 50-50. В. *тры* (10): А, 328; Ан, 19; К; Т, 23, 33, 45 (2); Ч, 319 (2), 322; *трох* (2): Ч, 319, 326. М. *трох* (2): Т, 19, 41.

**[ТРЫБУНА]** (5) *ж.* Узвышэнне для выступлення прамоўцы. [Спічыні]: .. *калі ўзыдзеце* [Мікіта] *на тыбуну, то ёмка зачашэце сабе на галаве думку аб тым, пры якой палітычнай*

*сытуацыі выступаеце з араторыяй.* Т, 40.

**2.** *перан. Іран.* Лаўка. [Спічыні]: *Можаце ўжо зысці, мусье рэгістратар, з трыбуны.* Т, 41. [Спічыні]: *Узлазьце на трыбуну, мусье рэгістратар. Мікіта становіцца на лаўцы.* Там жа, 40.

**3.** *перан. Іран.* Вышкі. [Мікіта]: *Уся бяда была ў тым, што я не ўгадаў, на якую, меджду протчым, стануць пляцформу, дзеля гэтага паслізнуўся і быў змушаны прымусова зыйсці з трыбуны.* Т, 46.

Адз. Р. *трыбуны* (4): Т, 40, 41 (2), 46. В. *трыбуну*: Т, 40.

**ТРЫВАЦЬ** *незак.* Працягвацца пэўны час. *Вайна вечна трываць ня будзе; вернуцца нашы браты і сыны дамоў..* РКр.

Інф. *трываць*: РКр.

**ТРЫВОГА** (11) *ж.* **1.** Неспакой, моцнае душэўнае хваляванне. *Мімаволі родзіцца трывога перад заўтрашнім днём.* РКр. *Капіталістычны сьвет усё з большай і большай трывогай, азьвярэньнем і нянавісьцю сочыць за гэтай соцыялістычнай будоўляй..* АЛ.

**2.** Небяспечнае становішча. *Я* [Купала] *шчасліў, што ў час малейшай трывогі беларускі народ паднімецца як адзін на абарону совецкіх межаў.* ДЖ. *І мірныя людзі – іх сотні імёнаў – Вартуюць нядрэнна свае рубяжы. А ў часе трывогі паўстануць мільёны, І вораг не пройдзе совецкай мяжы.* ПБН.

Адз. Н. *трывога* (2): РКр (2). Р. *трывогі* (3): ДЖ; ЗЯЗ, 90; ПБН. В. *трывогу* (4): ЗК, 43; Мц, 75; РКр (2). Т. *трывогай* (2): АЛ; ТП, 214.

**ТРЫВОЖАЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* трывожыцца. Хвалюючыся аб чым-н. *Калісь у гэтым часе выходзіў селянін у поле і кідаў зерне ў сьвежую ральлю, трывожачыся аб заўтрашнім дні.* ДД.

**[ТРЫВОЖНЫ]** (6) *прым.* **1.** Поўны трывогі, неспакою, хвалявання. *Песні рвуцца з трывожных, бунтарскіх грудзей, Поўны мараў ружовых і сьветлых надзей..* АР.

**2.** Неспакойны. *І будзем сьмела тады глядзець сьвету у вочы са сьвятым пераконаньнем, што і мы, астаўшыеся дома, не спалі у шапку ў гэты час трывожны.* РКр. [Мікіта]: *Як гэта міла з вашага* [Спічыні] *боку, што нават і ў гэтакі трывожны крыху час вы не забываецеся аб маёй адукацыі!* Т, 49.

Адз. м. В. *трывожны* (2): РКр; Т, 49. Мн. Р. *трывожных* (2): АР; ТЗУ, 293. В. *трывожныя* (2): Т, 53 (2).

**ТРЫДЗЕСЯЦЬ** *ліч.*: ◊ **За трыдзесяць зямель –** вельмі далёка. *Таксама, як пры Мікалаях першых дзяцей беларускай зямлі гналі за трыдзесяць зямель служыць царам і іх генера-*

*лам.* БВ, 16.

В. *трыдзесяць*: БВ, 16.

**[ТРЫЗНА]** *ж.* Памінкі. *Не свята светлае спраўляці Сягоння будзе наш народ. А трызну па айчыне-маці Ён справе ў гэты цяжкі год.* ГП, 8.

Адз. В. *трызну*: ГП, 8.

**ТРЫМАЦЦА** (2) *незак.* **1.** *перан.* Паводзіць сябе, дзейнічаць якім-н. чынам. *Ім* [братам] *парады далі назаўсёды ў судзьбіны, як трымацца тых радаў, сказалі.* Ч, 322.

**2.** *перан.* Прытрымлівацца чаго-н., быць прыхільнікам чаго-н. .. *адно толькі варажбіты-вешчуны, старцы мудрыя і ў законах веры дасведчанне маючыя, старых толькі багоў трымаліся..* Кз, 17.

Інф. *трымацца*: Ч, 322. Абв. пр. мн. *трымаліся*: Кз, 17.

**ТРЫМАЦЬ** (16) *незак.* **1.** Узяўшы ў рукі, не даваць выпасці. *Адны* [людзі] *ў руках трымалі дары Сваім прыбліжаным багам, Другія ўспаміналі чары..* УрП, 47.

**2.** *перан.* Захоўваць некаторы час. [Мікіта]: *У гэтым портфэльчыку ўсялякія асабістыя пасведчанні: на маю асобу, .. насіць вопротку і не насіць вопратку, трымаць грошы і не трымаць грошы..* Т, 46.

**3.** *перан.* Падпарадкоўваць сабе. *Скалы і долы над Фінскай затокай, Прыстані, выспы Балтыцкага мора Вораг заморскі пражорлівым вокам Больш не пасмее трымаць у пакоры. Ф. Асьвяціў сваё чорнае першы* [брат] *сумленьне Прагавіцьцем быць сонцу раўнёю, У путах сьцюжу трымаць, меці жараў насеньне, Тлець, пылаць над людзьмі, над сабою.* Ч, 324.

**4.** *перан.* Захоўваць у якім-н. становішчы. *Стары правапіс.. трымаў беларускую мову ў палоне правінцыяналізма, у рамках нацыяналістычнай абмежаванасці.* ШБСЯ.

◊ **Жалезнымі абцугамі трымаць** – мець у сваёй уладзе, падпарадкоўваць. .. *Англія жалезнымі абцугамі трымала пры сабе Ірландыю, афрыканскія народы і г.д.* НДН, 18. **Пад кулаком трымаць** – мець ў поўным падпарадкаванні. *Для эндэкаў нічога не знача прымер царскай Расіі, якая пад паліцэйскім і жандарскім кулаком трымала дзесяткі падняволеных народаў..* СНБ. **Трымаць (высока) (свой) сцяг(і) (3)** – з годнасцю прадаўжаць і развіваць што-н. .. *мы* [беларусы] *павінны.. моцна трымаць сьцяг змаганьня за незалежнасць сваёй бацькаўшчыны Беларусі.* СНБ. .. *беларуская культура высока трымала свой сцяг у родным краю..* Нз, 14. **Трымаць у сваіх руках –** мець у сваім падпарадкаванні. *Тыя, што трымаюць сягоння ў сваіх руках уладу над часцінай нашага краю, павін-*

*ны зразумець, якая небяспека набліжаецца з боку паўстаючай рэакцыйнай Расіі.* БВ, 16. **У кіпцюрох трымаць –** мець у сваім падпарадкаванні каго-н. *Здарма ж друглавы твой* [Русі] *арол Праз векі ў кіпцюрох трымаў Мільёны ўбогіх хат і сёл. Рабоў мільёны?.. Не, здарма!* АПЖ.

Інф. *трымаць* (5): СНБ; Т, 46 (2); Ф; Ч, 324. Абв. цяп. адз. 1 ас. *трымаю*: БрБ, 6. Мн. 1 ас. *трымаем*: Т, 49. 3 ас. *трымаюць*: БВ, 16. Пр. адз. м. *трымаў* (2): АПЖ; ШБСЯ. ж. *трымала* (5): НДН, 18; Нз, 14; СНБ, 336; СНБ; Ч, 322. Мн. *трымалі*: УрП, 47.

**ТРЫМАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* трымаць.: ◊ **Трымаючы за пазухай камень –** маючы што-н. у якасці падтрымкі. – *Хэхэ – віляе ён* [расійскі чыноўнік], *трымаючы за пазухай камень расійскага самаўласьця..* З.

**[ТРЫСТА]** *ліч. колькасны.* Колькасць, якая абазначаецца лічбай 300. *Палякі мелі магчымасьці перарабляць беларусаў на палякоў цэлые трыста год з лішкаю..* ДК.

В. *трыста*: ДК.

**[ТРЫУМФ]** (2) *м.* Бліскучы поспех, выдатная перамога; урачыстасць. *Нам даюць наш сьцяг у рукі і гэты сьцяг мы павінны з трыумфам вынясьці на жыватворнае сьвятло будучыны..* БСУ. *Наша* [дэлегатаў] *паездка ў Чэхаславакію была сапраўдным трыумфам совецкае культуры.* ПЧ.

Адз. Т. *трыумфам* (2): БСУ; ПЧ.

**ТРЫЦЦАЦЬ** (3) *ліч. колькасны.* Колькасць, якая абазначаецца лічбай 30. .. *Расію царскую скалыхнуў трыццаць год таму назад 1905 год.* ДЖ. *Аб сваім пройдзеным творчым шляху за гэтыя трыццаць год я* [Купала] *не буду гаварыць.* Там жа.

◊ **Узяць срэбнікаў з трыццаць** *гл.* узяць.

В. *трыццаць* (3): ДЖ (2); Р.

**ТРЭ** (4) *у знач. вык.* **1.** *Тое, што* трэба *ў* 1 *знач. І зрабілася на Беларусі пасля уніі з Польшчай тое, чаго і трэ было чакаць.* Нз, 14. [Янка]: *Трэ было, цётачка, сказаць, што ні той, ні сёй, а тутэйшы.* Т, 54. ДК.

**2.** *Тое, што* трэба *ў* 2 *знач. Вам трэ было, панове, адным будаваць вялікі Захад (спекуляцыі), а другім – вялікі Усход (таксама спекуляцыі).* Тж, 16.

**ТРЭБА** (61) *у знач. вык.* **1.** *з інф.* Неабходна, непазбежна. [Аленка]: *Трэба ж было, татачка, прыглядзецца, як рыхтуюцца менчукі спатыкаць новых акупантаў.* Т, 44. [Мікіта]: *(да Ганулі). Меджду протчым, мамаша, апаражнеце стол, бо нам трэба хутчэй вучыцца "ўрокаў".* Т, 31. *Параўн.* трэ ў

1 *знач.* БС (2); ВН; ВС (5); ДК (3); Р; СБНГ; СЗГ, 252, СНБ, 337, 338 (2); СНБ; Т, 27, 52; Ун, 73; УрП, 49; ХБ, 30; ХЛБ.

**2.** *з інф.* Патрабуецца, пажадана. *У якой мове трэба вучыць дзяцей?* ВР. *Параўн.* трэ *ў 2 знач.* АБ, 16 (3); АК; ВНЗ; ВС; ВСп, 89, 91 (2); ВЧ; ЖН; ДК; Нз, 14 (5); СБНГ; Т, 34, 46, 48, 50 (2), 51 (2), 61; Тр (2); УрП, 51.

**3.** *безас., каму-н.* Пажадана. *Гэй, дружкі, што сьпіце? Дайце жыва агню! Скуль іх* [зданяў] *столькі ўзяло, што ім трэба усім?* БН, 91. СНБ, 336, 340, Т, 42.

◊ **Дзе трэба і не трэба –** недарэчы, не да месца. [Мікіта]: .. *любіць* [Наста] *заўсёды і ўсюды, дзе трэба і не трэба, уткнуць свае тры грошы.* Т, 23.

**ТРЭСК** *м.* Сухі, рэзкі гук, які ўтвараецца пры ламанні, трэсканні, разрыванні і пад. чаго-н. *Трэск ламаных дзвярэй.* Т, 59.

Адз. Н. *трэск*: Т, 59.

**ТРЭСЦІ** (2) *незак. Разм., перан.* Рабіць вобыск. [Наста]: *З пэўных крыніц я напэўна даведалася, што йдуць да вас* [Ганулі і Мікіты] *трэсці.* [Мікіта]: *Што вы кажаце, мамзэль Наста: трэсці?* Т, 59.

Інф. *трэсці* (2): Т, 59 (2).

**[ТРЭСЦІСЯ]** *незак., перан.* Хвалявацца за каго-, што-н. *Я стаю каля парога і трасуся.* Ан, 19.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *трасуся*: Ан, 19.

**ТРЭЦІ** (24), **[ТРЭЦЦІ]** (3), **[ТРЭЦЬЦІ]**, **ТРЭЙЦІ** (3) *ліч.* **1.** *Ліч. парадкавы да* тры. *Трэцяя кніжка – гэта крытычна нарыс. І. Ігнатоўскага: “Матывы лірыкі бел. песьняра М. Чарота”.* ВСп, 89. *Выбіраў жаўнер Трэццю сцежаньку.* ББ.

**2.** *у знач. займ.* Хто-, што-н. з ліку некалькіх асоб. *Адны кажуць, што гэта наравісты конь, другія кажуць, што гэта пудзіла на вераб’ёў, трэція – што гэта такая аркестра, у якой кожны музыка на свой лад заводзе..* Ан, 18. [Мікіта]: .. *адзін будзе казаць, што па службе атрымаў паніжэнне, другі – што ў карты прагуляўся, а трэці – што скнэра..* Т, 21.

Адз. м. Н. *трэці* (8): Дз, 189; Кц, 194; ПСп; Т, 21; Ч, 319, 320, 321, 323; *трэйці*: Кц, 195. Р. *трэцяга*: $Ш_3$. В. *трэці*: Т, 46. ж. Н. *трэцяя* (8): БСУ; ВСп, 89; Т, 43, 47; Ч, 319; $Ш_1$; $Ш_4$; $Ш_5$; *трэцьця* (2): ВМР; $Ш_4$. Р. *трэцяй*: Ч, 321. В. *трэцюю*: Ан, 19; *трэццю* (2): ББ (2). Т. *трэйцяй* (2): Кц, 196; Ч, 319. М. *трэцяй*: Ч, 320. н. Н. *трэцяе*: Т, 36; *трэцце*: ПСД. Мн. Н. *трэція*: Ан, 18.

**ТУ** (3) *прысл. Польск.* У гэтым месцы, тут. [Заходні вучоны]: *І пан ту?* Т, 26. Т, 38, 47.

**[ТУБЫЛЕЦ]** *м. Польск.* Туземец. [Заходні вучоны]: *Падчас баданя тубыльцув, осядлых на Всходніх Крэсах польскіх, о розмярах замешкалэго пшэз ніх тэрыторыуму зостало высветлёным, іж данэ тэрыторыум вхланя в себе цалкем провінцыен Мінскей Трэхалкі і ешчэ далей...* Т, 39.

Мн. Р. *тубыльцув*: Т, 39.

**ТУГА** (2) *прысл.* З цяжкасцямі, марудна. *Спачатку справа ў іх* [беларусаў-бальшавікоў] *ішла туга, так туга, што быў момант, калі Смаленскі ўрад хацеў іх арыштаваць..* СНБ, 338 (2).

**ТУДА** *прысл. Руск. Тое, што* туды. *Ой, ты, яблочко, Куда коцішся? Не туда попадзеш – Не вароцішся...* Т, 62.

**ТУДОЙ** *прысл. Разм.* Тым кірункам, у тым напрамку. *А ў бары, бары Тры дарожанькі, Гэй, гэй, тры дарожанькі! Тудой шоў жаўнерык Наш прыгожанькі.* БВ.

**ТУДЫ** (16) *прысл.* У той бок, у тое месца; процілеглае – сюды. [Ануля]: *Не цягне яго* [Мікіту] *і туды, мой саколік, ой, не цягне!* Т, 20. *За ім* [сонцам] *ляцеў-бы я ў прастор, Туды – у высь, у стратасферу..* МСП, 187. *Параўн.* туда. ЖН; СМ; Т, 20 (2), 22, 37, 38, 41, 49; Ч, 321, 323.

◊ **То туды, то сюды –** то ў адзін, то ў другі бок; узад і ўперад; у розныя бакі. [Мікіта]: *(перастаўляючы то туды, то сюды кошык з пляшкамі). Т, 59.* **Туды дарога** *гл. дарога.*

**ТУДЫ-СЮДЫ** (2) *прысл. Разм.* У той і другі бок; у розныя бакі. [Гануля]: .. *праз свае падзіральнікі туды-сюды зірнулі* [вучоныя] *ды пайшлі.* Т, 54. [Янка]: *Ездзі сабе са сваімі манаткамі да ездзі сабе, як гандляр з козамі з кірмашу на кірмаш, туды-сюды ездзі сабе ды ездзі.* Там жа, 54.

**ТУЖЛІВА** *прысл. да* тужлівы. *Гудзеў, каціўся звон вячоны, Тужліва бор-лес падцінаў, Ля цёмнай вецьвістай дубровы Народ зьбіраўся і чакаў.* УрП, 47.

**[ТУЖЛІВЫ]** *прым.* Маркотны. *Заместа праклёнаў і песень тужлівых, Што поўнілі сэрца, як горкі палын, Гучыць песня працы калгасніц шчаслівых Як гімн перамогі совецкіх жанчын.* ПБН.

Мн. Р. *тужлівых*: ПБН.

**[ТУЗАЦЬ]** *незак. Разм., перан.* Не даваць спакою. *Нячысцікі, ведзьмы рэй водзяць па ночы, "Забраны край" тузаюць так.* ЗК, 42.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *тузаюць*: ЗК, 42.

**[ТУЗІН]** (3) *м.* Дванаццаць аднолькавых прадметаў. [Янка]: *Пэўна люлек з тузін змарнаваў* [Гарошка] *за гэты час.* [Аленка]: *Тузін – не тузін, а штук з сем то пэўна ж татка*

*выпыкаў*. Т, 44.

Адз. В. *тузін* (3): Т, 44 (3).

**[ТУЛІЦЬ]** *незак., перан.* Хаваць, укрываць каго-н., служыць прытулкам для каго-н. *Ценем тулілі вас* [людзей чужых] *у сьпякоту Нашы* [беларускія] *чарэсьні..* Чж, 146.

Абв. пр. мн. *тулілі*: Чж, 146.

**ТУМАН** (9) *м.* **1.** Непразрыстае паветра, насычанае парамі вады. *Стогнуць ветрам калыханы Ліпы ды бярозы, А ноч сее скрозь туманы Золь, слату, як сьлёзы.* Дз. 191 *Чуткі толькі ішлі, як туманы, і вялі ў самасейным паходзе сталецьцяў..* Ч, 322.

**2.** *перан.* Тое, што перашкаджае разумець навакольны свет, ацэньваць факты, падзеі. *Ты, мудры, прыйшоў, правадыр, – Апалі туманы, імгла..* ТП, 214. *З туманаў, з імглы, з цемнаты Паўстала краіна мая.* Там жа, 214.

**3.** *перан.* Загадкавасць, няпэўнасць, незразумеласць. *Я ведаю, знаю старонку такую, Спавітую ў вечны туман..* ЗК, 42.

Адз. Н. *туман* (2): ТП, 214 (2). В. *туман*: ЗК, 42. Т. *туманом*: К. Мн. Н. *туманы* (2): ТП, 214; Ч, 322. Р. *туманаў* (2): ТП, 214 (2). В. *туманы*: Дз, 191.

**[ТУМАННЫ]** (2) *прым.* **1.** Які мае адносіны да туману *ў 2 знач. Глядзець і ўсё бачаць яго* [Сталіна] *зоры-вочы Скрозь светлыя дні, скрозь туманныя ночы..* СС, 302.

**2.** *перан.* Пазбаўлены акрэсленага выразу; задуменны (пра погляд). [Усходні вучоны]: *Что касается поліцічэскіх граніц обласці, то оне в представленіі здзешніх обшчэрускіх людзей очень туманны.* Т, 47.

Мн. В. *туманныя*: СС, 302. Кар. мн. Н. *туманны*: Т, 47.

**[ТУНДРА]** *ж.* Паўднёвая зона арктычнага пояса зямнога шара. *.. на сьцюдзёных галодных раўнінах неабнятай тундры набожны шаман муштруе бажкоў сваіх..* З.

Адз. Р. *тундры*: З.

**[ТУРАК]** *м. адз. у знач. мн.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Турцыі. *.. трэба адцяць доўгіе рукі турка, каб ня псаваў ён хрысціянскіх дзяцей..* ДК.

Адз. Р. *турка*: ДК.

**[ТУРБАВАЦЦА]** (2) *незак*. Клапаціцца, трывожыцца. [Янка]: *Не турбуйцеся* [Мікіта]*! Яны* [Дама, Поп, Спраўнік, Пан]*, як праўдзівыя патрыоты, з "царскімі"* [грашыма] *не разлучаюцца.* Т, 38. [Мікіта]: *.. за мяне, сябра беларус, не турбуйцеся.* Там жа, 56.

Заг. мн. 2 ас. *турбуйцеся* (2): Т, 38, 56.

**[ТУРБАВАЦЬ]** *незак., перан.* Рабаваць. [Ганулля]: *Пайшоў* [Мікіта] *паглядзець на Захараўскую вуліцу, як там паны тур-*

*буюць жыдоўскія крамы й спальні.* Т, 57.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *турбуюць*: Т, 57.

**ТУРМА** (6) *м.* **1.** Месца зняволення, будынак, дзе ўтрымліваюцца асобы, якія прыгавораны судом да пазбаўлення волі. *Ох, видаци вельми хочэцца Пурышкевичам, Дубровинцам Ковы новые каваць, Изноў турмы напаўняць...* ВЧ. *Але вышаў им ды з памяци Акцябра дзянёк семнадцаты: Той вялики манифэст, – Ды што ў турмах нима мест*! Там жа. *Параўн.* краты, цямніца.

**2.** *перан.* Заняволенне, прыгнечанне. *Царства няволі, турмаў, пахаронных званоў – царства, якое называлася жандармам Еўропы.* ДЖ. *Параўн.* астрог.

**0 Турма народаў** (2) – царская Расія. *Цар, пан, і поп і нагайка, здавалася, зноў запанавалі навекі. Але прышоў 1917 год, прышлі большэвікі і адвечная турма народаў рухнула.* ДЖ. .. *Я* [Купала] *пражыў большую частку свайго жыцця ў так званай "турме народаў" – царскай Расіі.* ЖН.

Адз. Н. *турма*: ДЖ. Р. *турмы*: РС. Д. *турме*: ЖН. Мн. Р. *турмаў*: ДЖ. В. *турмы*: ВЧ. М. *турмах*: ВЧ.

**[ТУРЫСТ]** *м.* Той, хто займаецца турызмам. *У часе свайго падарожжа мы* [дэлегаты] *наведалі мясціны, якія прыцягваюць увагу турыстаў.* ПЧ.

Мн. Р. *турыстаў*: ПЧ.

**ТУРЭЦКІ** *прым.* Які мае адносіны да Турцыі, туркаў; які належыць, уласцівы ім. *Хіба можна вымагаць, каб турэцкі янычар падаў голас за хрысьціяніна, калі яго навучылі ненавідзець хрысціянства?* ДК.

Адз. м. Н. *турэцкі*: ДК.

**ТУТ** (90) *прысл.* **1.** У гэтым месцы. *Тут пудлуе зноў нагайка, Улілі штось Налівайку.* НД. [Янка]: *Магу сыграць, калі тут кампанія ваша ўладзіла танцкляс для акупантаў..* Т, 52. *Параўн.* здзесь, тутака, тутка. БН, 92 (3); БрБ 6; ВМР (2); ВС; ДК (3); З; Кц, 197; МД; МІ, 17; НГд, 8; ПЛП; СНБ, 339; СЧ; Т, 21 (3), 23, 25 (3), 27 (2), 34, 35 (3), 36, 37 (5), 44 (2), 45 (2), 50, 54 (2), 56, 61; УрП, 46; ХБ, 29; ЧС, 50-51.

**2.** У гэты час, у гэты момант, адразу. *Аж тут к ім* [гругану і ваўку] *саюзнік-госць..* Пц. *Гаворачы слова "свабода", дадавай заўсягды "ня тут спамінаючы"..* СП. // У гэтым, у даным выпадку; пры гэтых абставінах. [Мікіта]: *Не разумею, пры чым тут мой, меджду протчым, светагляд?* Т, 36. [Мікіта]: *Меджду протчым, гэр Спічыні таму не вінен, што напладзілі сабе людзі языкоў, як тая трусіха трусянят.. І гэр Спічыні тут ні пры чым.* Там жа, 48. *Параўн.* тутака. Ан, 19;

БН, 92, 93; ВБЛ, 80; ВН; ВС; ВСп, 89 (2); ГВУ; Г, 16; ЖН; Нз, 14 (3); ПЛП; Пц; СБНГ (2); СНБ; Т, 21, 36, 38, 48, 56, 59, 61; Ун, 73; ХБ, 29.

**3.** *У знач. часц.* У спалучэнні з займеннікамі і прыслоўямі “як”, “які” ужываецца ў рытарычных пытаннях для ўзмацнення экспрэсіўнасці выказвання. *І як сабраць тут думкі ў сумнай галаве!..* СК, 158. [Гануля]: *Куды ж тут цяпер падзецца.* Т, 59. // У спалучэнні з займеннікам “што” ў рытарычных пытаннях. [Гануля]: *(ломячы рукі). Што тут рабіць? Што тут рабіць?* Т, 59. ДК (2); Т, 34, 59.

**4.** *У знач. часц.* Выкарыстоўваецца пры пераходзе да якой-н. тэмы. .. *Едзе* [Налівайка] *з шыкам і няціха, Тут рагатка – што за ліха?* НД.

◊ **Вот і ўсё тут** *гл.* вот. **І ўсё тут** *гл.* увесь. **Там і тут; тут і там; тут, там, там** *гл.* там.

**ТУТКА** (4) і **ТУТАКА** (2) *прысл. Абл.* **1.** *Тое, што* тут *у* 1 *знач.* [Аленка]: *Здаецца, мы ўгаварыліся тут пачакаць на татку?* [Янка]: *А так – тутака.* Т, 35. *Відна што ніўка – маці тутка чалавеку!* ХБ, 28. ВБЛ, 80; ГП, 8; Дз, 191.

**2.** *Тое, што* тут *у* 2 *знач.* .. *ўся чорная сотня прызналі ў вадзін голас: лепей ніхай палякі з’ядуць зусім каталікоў-беларусоў, чым беларускаму народу пазволіць развівацца у сваім національным духу. Тутака пачалася благая камедыя: Салоневічы.. і ўся іх “хаўрузія” крычаць аб “распалячэньні” Беларусі..* ВР.

**ТУТЭЙШЫ** (16) *прым.* Які родам з гэтай мясцовасці, жыве тут, не прыезджы. [Гануля]: .. *ён* [Спічыні] *кажа, што ён немец, людзі кажуць, што італьянец, мне здаецца, што ён проста, як і мы, тутэйшы.* Т, 31. [Мікіта]: *Усё гэты, меджду протчым, тутэйшыя людзі: адзін дзякавы сын, а другі – арганіставы.* Там жа, 48. *Параўн.* здзешні, там-тэйшы. // Які дзейнічае, працуе тут; мясцовы. [Мікіта]: .. *вы* [Янка] *хацелі б заставіць нас, руска-ісціную тутэйшую, меджду протчым, інтэлігенцыю, сушыць над ім* [беларускім языком] *свае апошнія мазгі.* Т, 49. [Гарошка]: *Збіраўся пасвіць тутэйшых чынадралаў, але не ўспеў, – прышлося выганяць з Менску абскубандаў.* Там жа, 37. // Які вырабляецца, робіцца ў гэтых мясцінах. *Але ўсё-ж такі дзякуй і за гэтыя старонкі, якія так адважна друкуе ў сябе тутэйшы “Вестник”.* ВСп, 90. *Некалькі вершаў пабеларуску надрукавала і другая расійская тутэйшая часопісь “Юный пахарь”.* Там жа.

• **Тутэйшыя.**

Адз. м. Н. *тутэйшы* (3): ВСп, 90; Т, 31, 54. В. *тутэйшы*:

Т, 48. М. *тутэйшым*: Т, 39. ж. Н. *тутэйшая*: ВСп, 90. Р. *тутэйшай*: Т, 28. В. *тутэйшую* (3): Т, 21, 49, 56. Мн. Н. *тутэйшыя* (5): Н; Т, 22, 48 (2), 58. Р. *тутэйшых*: Т, 37.

**[ТУШЫЦЬ]** *незак.* Спыняць гарэнне чаго-н.; гасіць. .. *Кроўю цёплай сьцюдзёныя вогнішчы тушыць* [чараўнік], *Сэрцы лёдам аблітыя лушчыць.* Ч, 325.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *тушыць*: Ч, 325.

**ТЫ** (193) *займ. асабовы.* **1.** Ужываецца пры звароце да блізка знаёмай асобы. *Ён* [рэдактар] *прачытаў, даў 3 рублі і 27 капеек задатку і сказаў: – Здаецца, ты, хлопец, на добрую дарогу вынырнуў.* Ан, 19. [Гануля]: *Ну і госці. Адкуль ты* [Мікіта] *іх выкапаў?* Т, 22. // У звароце да бога, якой-н. высокапастаўленай асобы. *О Божа! ты хоць заступіся.* РС, 7. *Табе, правадыр, мае песні і думы, І шчырыя шчырага сэрца парывы!* ТП, 214. // У звароце да жывёл. *Лепей мне* [гругану] *быў той час стары, Мой ты воўча любы.* Пц. *Народ зьдзівіўся, як заглядзеў. Заварушыўся, зашумеў: Вы так ня рушыцесь, мядзьведзі, Ты так ня страшны, сільны леў!* УрП, 51. // У звароце да прадметаў ці адцягненных паняццяў. *Сьвяціся-ж, сонца, ў маё век аконца! Вітаю цябе я і соллю, і хлебам!* ТП, 213. *Цябе чакаем, будучыні нейкай, Што прыйдзеш, недзе ўсіх нас павядзеш..* Бч, 9. *Параўн.* мы *ў 1 знач.*

**2.** *Разм.* Выкарыстоўваецца для абагульненага абазначэння чалавека наогул. *А ты, змарнелы чалавек, Нікчэмны пасынак былога, Сваю пушчаеш песню ў здзек, Чужою славіш нават Бога!* БрБ, 6.

**3.** У спалучэнні з выклічнікамі ўжываецца для ўзмацнення экспрэсіўнасці выказвання. *Ой ты, яблочко, Куда ты коцішся?* Т, 62. *Гэй ты, краю халодны, чужы, Прытулі бесхацінца к сабе..* ЧС, 50–51.

• **Табе, правадыр... Ты з Заходняй, я з Усходняй...**

Н. *ты* (100): Ан, 18, 19; АПЖ (3); Б, 18 (5); БН, 92 (5), 93 (2); БрБ, 6 (5); Вб, 236 (2), 237 (2); ВБЛ, 81 (3), 82 (4); ВС; ЕЯП (3); ЖН; ЗН; М, 19 (2); МІ, 18; Н (2); НК; ПБН; Пц; ПСС, 232 (2); Р; РС, 40; СА, 178 (2); См, 91; СС, 301, 302; Т, 22 (2), 23, 30, 32, 33 (2), 39, 43 (2), 44, 49, 56, 58, 62; ТЗУ, 293 (2); ТП, 213 (2), 214; УрП, 48, 51 (2), 52; ХБ, 28 (3); ХЛБ (3); ХЛВ, 315; ХХ; Ч, 323; ЧС, 50-51 (5); $Ш_1$ (2); $Ш_2$ (3); ШН. Р. *цябе* (8): АК; Брб, 6; Пт; ПТ, 207; Т, 43; УрП, 47; $Ш_2$; ЧС, 50-51. Д. *табе* (27): АПЖ (3); БрБ, 6; МІ, 18; МПв, 220; ПБН (2); ПТ, 207 (2); СС, 301; См, 91; Т, 30; 44 (3); ТП, 213 (2), 214, 215, 216, 217 (3); УрП, 52; ХЛБ (2). В. *цябе* (21): АПЖ (2); Б, 18 (5); БрБ, 6; ЖН (2); МПв, 220; ПТ, 204; СП; СС, 301; Т, 34, 56, 58; ТП,

213; УрП, 51; ХБ, 28; Ч, 323. Т. *табой* (18): АПЖ; Б, 18; БН, 92 (2); НДп, 229; ПБН (2); ПТ, 206 (3), 207 (2), 208 (2); РС, 39; ХЛВ, 315, 316; Ч, 323; *табою* (16): АПЖ; БН, 92; БрБ, 6 (2); 7; ВБЛ, 82; НДп, 229; ПТ, 206 (2), 207, 208; СС, 303 (2); ТЗУ, 293; ХЛВ, 316; $Ш_1$. М. *табе* (3): ВБЛ, 81; ПСС, 232; ХБ, 28.

**[ТЫДЗЕНЬ]** (4) *м.* Адзінка часу ад панядзелка да наступнай нядзелі ўключна. [Мікіта]: *У гэтым* [партфелі] *толькі грошы – мая пенсія за першыя дзесяць дзён гэтага ліпня і за два тыдні наперад..* Т, 46. [С. Меч:] *Верасень – мой любімы месяц, але ў нас* [у Расеі] *звычайна псуюць яго дажджы, што ліюцца цэлыя тыдні..* ХБ, 29.

Адз. В. *тыдзень*: А, 328. Мн. В. *тыдні* (3): Т, 46 (2); ХБ, 29.

**ТЫМ** *часц. узмацняльная.* Ужываецца з прыметнікамі вышэйшай ступені, каб падкрэсліць большую ступень праяўлення прыкметы. [Мікіта]: *Тым лепей, меджду протчым.* Т, 54.

**ТЫН** (2) *м.* **1.** Агароджа з папярочных або вертыкальных жэрдак, пераплеценых прутамі лазы, хворастам. .. *азьвярэлыя вятры Ад жудасьці, ад сораму і дыму яшчэ зрывалі тэлеграму з тыну..* ВБЛ, 80.

**2.** *перан.* Перашкода. *На шчасце, на радасці ўзлёт Збуцвелы разваліцца тын, Адчыняцца дзверы варот Да працы, да веды вышынь.* ТП, 216.

Адз. Н. *тын*: ТП, 216. Р. *тыну*: ВБЛ, 80.

**ТЫП** (3) *м.* Катэгорыя людзей, аб'яднаных супольнасцю якіх-н. характэрных рыс, а таксама яркі прадстаўнік гэтай катэгорыі. [Мікіта]: *Сустрэў іх* [вучоных] *надоечы на Губарнатарскай вуліцы, дзе шукалі праўдзівых тыпаў беларускіх. Я сказаў, што адзін такі тып кватаруе ў мяне..* Т, 26. *Параўн.* ціп.

Адз. Н. *тып* (2): Т, 26 (2). Мн. В. *тыпаў*: Т, 26.

**[ТЫРАНІЯ]** *ж.* Дэспатызм. *Я* [Купала] *падаваў свой голас супроць тыраніі царызма праз песні..* ГВУ.

Адз. Р. *тыраніі*: ГВУ.

**ТЫРЧЭЦЬ** *гл.* **ТАРЧЭЦЬ.**

**[ТЫСЯЧА]** (19) *ж. Ліч.* **1.** *Ліч. колькасны.* Колькасць, якая абазначаецца лічбай 1000. *Гэтак расейскі урад у сваім часе шмат зьбіраў (каля тысячы мільёнаў рубл.) налогаў з акцызу на гарэлку.* ВН. *Я палічыў. – Выходзе 45 тысяч рублёў!* Ан, 19.

**2.** *звычайна мн.* Вялікая колькасць, мноства каго-, чаго-н. *Тысячы Чкалавых, Грачавых, Кокінакі памчацца на сваіх быстракрылых самалётах на абарону мацеры-радзімы.* ВГ. *Там, дзе на вялікіх абшарах Беларусі гнуўся "лапцюжнік" над "крывуляй" сахой, – важна пахаджваюць тысячы тракта-

*раў..* ШБСЯ.

Адз. Р. *тысячы* (2): Ан, 19; ВН. В. *тысячу* (3): Ан, 19 (2); Кз, 17. Мн. Н. *тысячы* (5): ВГ; Кз, 17; ПН, 47; ШБСЯ (2). Р. *тысяч* (7): А, 328; Ан, 19; ВСп, 91; ЗС, 18; МП (2); ШБСЯ. В. *тысячы* (2) ПБН; ШБСЯ.

**ТЫСЯЧНЫ** (2) *прым.* Які складаецца з вялікай колькасці, мноства, які налічвае тысячы. *У Прасценаве нас* [дэлегатаў] *ля будынку ратушы сустрэў тысячны натоўп рабочых воклічамі ў гонар СССР.* ПЧ.

Адз. м. Н. *тысячны*: ПЧ.

**ТЫЦ** *выкл. У знач. вык. Разм. Ужываецца паводле знач. дзеясл.* тыцкаць – тыцнуць – тыцкацца. *А тут тыц к ім* [гругану і ваўку] *"душа" – госць Ды з пацехай мілай..* Пц.

**[ТЫЦНУЦЬ]** *зак. Разм.* Прыбыць, з'явіцца куды-н. [Янка]: *А як зноў унеспадзеўкі тыцне ў Менск ваша совбурскае начальства?* Т, 50.

Абв. буд. адз. 3 ас. *тыцне*: Т, 50.

**ТЫЧКА** *ж. У параўн.* Шост. [Мікіта]: .. *пролетарыят ад роскашы цянеў.., рос не ўпапярочкі, а ўвышкі, меджду протчым, як тая тычка.* Т, 40.

Адз. Н. *тычка*: Т, 40.

**ТЫЧЫЦЦА** *незак.* Мець дачыненне да каго-н. .. *што тычыцца беларусаў, то – голы разбою не баіцца..* ОШМ.

Інф. *тычыцца*: ОШМ.

**[ТЫЧЫЦЬ СЕНЬ]** *незак.*: **? Цо сень тычы –** што датычыцца. [Заходні вучоны]: *Цо сень тычы граніц політычных краю, то взглендэм іх у месцовэй людності вшэхпольскей пшэдставене бардзо не яснэ.*Т, 47.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *тычы сень*: Т, 47.

**[ТЭАТР]** (7) *м.* **1.** Установа, арганізацыя, якая мае пэўны састаў артыстаў і ставіць спектаклі. *Увесь склад трупы тэатра перад пачаткам спектакля выйшаў на сцэну і горача вітаў совецкіх пісьменнікаў і журналістаў.* ПЧ. *Мы* [дэлегаты] *наведалі тэатр вядомага рэжысёра Эміля Бурыяна, дзе праглядзелі пастаноўку "Удалага салдата Швейка".* Там жа.

**2.** Будынак са сцэнай і залай для гледачоў, дзе адбываецца тэатральны паказ. *З прычыны прыезду Начальніка Польскай Дзяржавы у Менск, у гарадзкім тэатры адбыўся спэктакль..* СНБ.

Адз. Р. *тэатра*: ПЧ. В. *тэатр*: ПЧ. М. *тэатры* (3): ПЧ; СНБ; Т, 28. Мн. Р. *тэатраў*: ШБСЯ. Т. *тэатрах*: СНБ, 339.

**ТЭЖ** *прысл. Польск. Тое, што* таксама[1]. [Заходні вучоны]: *Людносць абэцне розкшэвя сень на две галэнзі родо-*

*ве: племен бялорусінув і племен тэж-бялорусінув з походзэня рэнэгатув і дэгэнэратув.* Т, 26.

**[ТЭЛЕГРАМА]** *ж.* Паведамленне, перададзенае па тэлеграфе. *.. азьвярэлыя вятры Ад жудасьці, ад сораму і дыму яшчэ зрывалі телеграму з тыну..* ВБЛ, 80.

Адз. В. *тэлеграму*: ВБЛ, 80.

**[ТЭМА]** (2) *ж.* Прадмет, асноўны змест разважання. [Спічыні]: *Ну, цяпер пачынайце* [Мікіта] *араторыю на тэму: "Пролетарыят і буржуазія".* Т, 40. [Спічыні]: *Цяпер папробуйце* [Мікіта] *сказаць араторыю на тэму: "Рэволюцыйная самадысцыпліна".* Там жа, 40.

Адз. В. *тэму* (2): Т, 40 (2).

**[ТЭМП]** *м.* Хуткасць ажыццяўлення, выканання або інтэнсіўнасці развіцця чаго-н. *Няхай жыве СССР, братняя дапамога якога забясьпечвае нявіданыя і нячуваныя тэмпы разьвіцьця Савецкай Соцыялістычнай Беларусі.* АЛ.

Мн. В. *тэмпы*: АЛ.

**ТЭН** (3) *займ. Польск.* **1.** *Тое, што* гэты *ў* 3 *знач.* [Заходні вучоны]: *.. край тэн посядал навэт можэ..* Т, 47. [Заходні вучоны]: *А чы не можэце, пане бялорусін, поінформоваць венцэй шчэгулово о тэм вашым "далей".* Там жа, 39.

**2.** *Тое, што* той *у* 8 *знач.* [Заходні вучоны]: (да Янкі). *Можэ шановны пан поінформуе цось о пшыродзе так званэй по вашэму Бялэй Русі і цось о тэм, яке собе закрэсляце граніцэ політычнэ.* Т, 47.

Адз. м. Н. *тэн* Т, 47. н. М. *тэм* (2): Т, 39, 47.

**[ТЭНДЭНЦЫЯ]** *ж.* Напрамак, у якім адбываецца развіццё чаго-н. *.. яны* [расійскія бальшавікі] *змушаны былі хоць фікцыйна ствараць ільлюзіі, што яны так сама спачуваюць нацыянальным тэндэнцыям падняволіваных імі народаў..* СНБ.

Мн. Д. *тэндэнцыям*: СНБ.

**[ТЭОРЫТЫЧНЫ]** *прым. Разм.* Заснаваны на тэорыі; тэарэтычны. [Спічыні]: *Ахвяруем цяпер колькі хвілін на тэорытычнае асвятленне некаторых звязаных з аратарствам пытанняў.* Т, 41.

Адз. н. В. *тэорытычнае*: Т, 41.

**ТЭОРЫЯ** *ж.* Сукупнасць абагульненых палажэнняў, што ўтвараюць якую-н. навуку. [Спічыні]: *.. тэорыя аратарскага мастацтва не любіць, каб выкідалася перад аўдыторыяй тое, што ў вас папраўдзе накіпела на вантробе.* Т, 40.

Адз. Н. *тэорыя*: Т, 40.

**ТЭРАЗ** *прысл. Польск. Тое, што* зараз. [Заходні вучоны]: *А тэраз пан бэндзе ласкав поінформоваць, як на бялорускім*

*нажэчу бжмі назва ойчызны вашэй?* Т, 26.

**[ТЭРМІН]** (3) *м.* Слова (або злучэнне слоў), якое дакладна абазначае пэўнае паняцце ў навуцы, тэхніцы. *Хаця ў гэтай кніжцы і зьмешчаны тэрміны па элементарнай матэматыцы, але некаторыя з паміж іх дужа не элементарны: вельмі ўжо многа тэрмінаў чужаземных, якія былі незразумелымі, так і засталіся – іх толькі перапісалі беларускімі літарамі..* ВСп, 89.

Мн. Н. *тэрміны*: ВСп, 89. Р. *тэрмінаў*: ВСп, 89. В. *тэрміны*: Т, 40.

**[ТЭРМІНАЛЁГІЧНЫ]** *прым.* Які мае адносіны да тэрміналёгіі. *За 10 год з тэрміналёгічнай камісіі да Акадэміі навук – гэта размах, на які пры іншым палітычным ладзе патрабавалася-б не гады, а можа і сотні год.* ГНД.

Адз. ж. Р. *тэрміналёгічнай*: ГНД.

**ТЭРМІНОЛЁГІЯ** *ж.* Раздзел лексікалогіі, які займаецца вывучэннем тэрмінаў. *№ 17, гэта – першы выпуск Інстытуту Беларускае Культуры: Беларуская навуковая тэрмінолёгія: Элементарная матэматыка.* ВСп, 89.

Адз. Н. *тэрмінолёгія*: ВСп, 89.

**ТЭРЫТОРЫУМ** (2) *м. Польск. Тое, што* тэрыторыя. [Заходні вучоны]: *Падчас баданя тубыльцув, осядлых на Всходніх Крэсах польскіх, о розмярах замешкалэго пшэз ніх тэрыторыуму зостало высветлёным, іж данэ тэрыторыум вхланя в себе цалкен провінцыен Мінскей Брэхалкі і ешчэ далей...* Т, 39.

Адз. Н. *тэрыторыум*: Т, 39. *тэрыторыуму*: Т, 39.

**ТЭРЫТОРЫЯ** (7) *ж.* Зямельная прастора з пэўнымі межамі. *Я* [Купала] *віншую Карэльску аўтаномную сацыялістыную рэспубліку, тэрыторыю якой перасёк Беламорска-Балтыйскі шлях.* ЦСБ. *Слабейшыя народы, асабліва уваскросшыя на тэрыторыі быўшай Расіі, змагаюцца толькі за тое, каб жыць, каб адстаяць сваю незалежнасць..* СНБ. *Параўн.* церыторыя, тэрыторыум.

Адз. Н. *тэрыторыя* (2): Т, 38, 39. Р. *тэрыторыі*: Т, 39. В. *тэрыторыю* (3): ВГ; Т, 37; ЦСБ. М. *тэрыторыі*: СНБ.

**[ТЭРЫТОРЫЯЛЬНЫ]** *прым.* Які адносіцца да пэўнай зямельнай прасторы, да тэрыторыі звязанай з ёй. *Мацнейшыя народы хочуць павялічыць сваю тэрыторыяльную і збройную сілу коштам слабейшых.* СНБ. *Параўн.* церрыторыальный.

Адз. ж. В. *тэрыторыяльную*: СНБ.

**[ТЭХНІКА]** *ж.* Сукупнасць сродкаў, прылад у вытвор-

часці і інш. сферах. *На месцы ўбогіх сялянскіх палосак красуюцца калгасныя нівы, навейшыя дасягненні аграноміі, тэхнікі і плодатворнай калектыўнай працы.* АЛ.

Адз. Р. *тэхнікі*: АЛ.

**[ТЭХНІЧНЫ]** (2) *прым.* Які адносіцца да работы машын і механізмаў, звязаны з вывучэннем, пашырэннем і навуковай распрацоўкай тэхнікі. *Вылучаюцца па сваёй тэхнічнай дасканаласці заводы Шкоды, Вітковіцкія, “абутковы горад” Баці ў Зліне.* ПЧ. *Пры вельмі цяжкіх тэхнічных варунках .. такі вынік кароткай выдавецкай чыннасьці “Адраджэньня” быў проста гэраічным.* ВСп, 91.

Адз. ж. М. *тэхнічнай*: ПЧ. Мн. М. *тэхнічных*: ВСп, 91.

# У

**У і ВА** (1611) *прыназ.* з Р., В. і М. Спалучэнне з прыназоўнікам выражае:

А б ' е к т ы н ы я  а д н о с і н ы (354). **1.** з Р. Указвае на асобу, прадмет што з'яўляецца носьбітамі пэўнака стану, уласцівасці, прыметы, або на якія накіравана дзеянне. [Спічыні]: *(ускочыўшы з лаўкі). Пардон! У мяне разбушаваліся нервы.* Т, 41. *Кнігі абудзілі ва мне* [Купалу] *фантазію.* ПС. *На шапцы ў яго* [Мікіты] *вялікі значок з белым арлом – брыль ababіты бляхай..* Т, 54. // Указвае на асобу, на якую накіравана дзеянне. *Перш, чым што зрабіць, абываталь любіць распытацца у людзей і параіцца з суседам..* ВМР. [Спраўнік]: *Толькі што пайшоў* [Поп] *адбіраць у беларусаў ключы ад Юбілейнага дому.* Т, 58. // Ужываецца пры ўказанні асоб, у асяроддзі якіх што-н. адбываецца. [Янка]: *Гучны, як уважаю, баль у вас будзе.* Т, 21. [Ануля]: *.. хоць вы* [Янка] *ў нас нядаўна закватаравалі, а ўжо лічу вас як свайго чалавека.* Там жа, 19. // *Разм.* Ужываецца пры слове "мяне" для выражэння пагрозы. [Абарванец]: *(патросшы кулаком, на бок). Пачакай! Заўтра ты* [Мікіта] *ў мяне йначай запяеш! Заўтра ты ў мяне папросіш пажэртваваць.* Т, 43. [Гарошка]: *(дабрадушна). Табакі не табакі, а перцу калі-небудзь дастанеш ты* [Аленка] *ў мяне за свой доўгі язык.* Там жа, 39.

**2.** з В. Указвае на аб'ект, прыладу дзеяння. – *Гэй, дзьмі ў дуду, дудар!* БЗ.

**3.** з В. Ужываецца пры называнні аб'екта, на які накіраваны погляд. *Стань* [брат-беларус]*, нахіліся над ракой. Ў плакучы ўгледзься пераліvы..* БрБ, 6. *Звярнулі вочы ўсе ў іх* [князя і княжны] *бок, Прымоўклі гоманы дружыны..* Кц, 193. // У спалучэнні "ў вакно" ужываецца ў значэнні прыназоўніка "праз". [Ануля]: *(углядаючыся ў вакно, пасля паўзы).*

*Здаецца, ужо пачынаецца.* Т, 58. [Поп]: *(пільна ўгледзеўшыся ў вакно, потым да танцуючых): Чады мої, остановіцесь! В сію обіцель градзе большэвік.* Там жа, 52.

**4.** з В. Указвае на аб’ект веры. *Ёсьць-жа яшчэ ў мяне вера ў вольны мой родны народ..* ЁЯ. *З кваяцістымі сонечнымі думкамі, з нязломнай верай у лепшую долю і волю пойдзем усё наперад і наперад пад святым сцягам вольнай Беларусі.* ПЛП.

**5.** з В. Ужываецца пры вызначэнні сферы дзейнасці, якога-н. занятку. [Гануля]: *І чаго бацюшка палез у гэтую палітыку.* Т, 58. [Гануля]: *Добра ж, калі хто са знаёмых не бачыў, а йначай пойдзе чутка, што і мой сын у грабежнікі ўпісаўся..* Т, 57.

**6.** з М. Указвае на неабходнасць, патрэбу ў чым-н. [Гануля]: *Выбачайце* [госці] *толькі за недахватку ў ядзе.* Т, 28.

**7.** з М. Указвае на з’яву, у якой сцвярджаецца якая-н. уласцівасць, якасць. *Вясна у прыродзе і “вясна” народу.* ДД. *Ніва! Як ня любіць мне таемны твой шум? У ім – і ціхая па пражытым журба. У ім – і бунт, ў ім – жыцьцё, ў ім – людзей барацьба.* АР.

**8.** з М. *Указвае на галіну прымянення ці выяўлення якога-н. дзеяння, уласцівасці, прыметы.* [Мікіта]: .. *у вас* [Ганулі] *не хапае нават чуткай кемнасці ў гадлёва-прамысловых справах ..* Т, 34. [Дама] *(як скончылі танец, да Мікіты): Вы, мусье рэгістратар, праўдзівы артысты ў вальцы.* Там жа, 29.

А 327, 328; АБ, 16 (3); АЛ (10); Ан, 18 (5), 19 (2); АПЖ; АР (3); БрБ, 6 (2); БС (2); БСУ (4); Вб, 236 (3), 237; ВБЛ, 80 (3), 81; 83 (2); ВД (3); ВМР (4); ВН; ВНЗ; ВР (6); ВС (4); ВСп, 89 (4), 90 (2), 91; ВЧ; Г, 17 (2); ГВУ; ГНД (2); ДЖ (3); Дз, 188 (3), 189, 190, 191, 192; ДК (2); ДНСП (2); ДПЛС (2); ЁЯ (6); Ж; ЖН (7); З (4); ЗС, 18; ЗЯЗ, 90; Кз, 17 (8); Кц, 192, 194; КЧ; М, 20; МІ, 17 (4); МПв, 219; Мц, 75; НГ; ГНд, 8; НДН, 18 (6), 19 (5); Нз, 14, 15; ОШМ; ПБН; ПВ (2); ПЛП (6); ПС (3); ПСС, 232; ПЧ (5); РКр (2); СБНГ; СК, 158; СМ (3); СНБ (6); СНБ, 340 (2); СС, 302 (2), 303; ССА, 294; Т, 19 (4), 20 (2), 22, (4), 23 (4), 24 (2), 25 (4), 26, 27 (2), 28, 29 (6), 30, 31, 32 (5), 33 (2), 34 (5), 35 (4), 36, 37, 38 (2), 39 (5), 40 (3), 41 (2), 42 (2), 43 (2), 44 (2), 45, 46 (3), 48 (2), 49 (3), 50 (2), 51 (2), 52 (3), 54 (3), 55 (4), 56 (4), 57 (2), 58 (4), 59 (5), 60; Тж, 16; Ун, 73; УПУВ (2); УрП, 50, 51; ХБ, 28, 30; ХЛВ, 315 (3).

Прасторавыя адносіны (761).

**9.** з В. Указвае на месца, напрамак руху. *Калісь у гэтым часе, выхадзіў селянін у поле і кідаў зерне ў свежую ральлю, трывожачыся аб заўтрашнім дні.* ДД. [Мікіта]: *Кідайце*

[Ануля] *сюды ў павозку бялізну, а паверх стаўляйце начоўкі – гэтак за адным замахам усё выцягнем.* Т, 50. // Ужываецца пры назвах мясцовасці, краіны, куды хто-н. накіроўваецца. [Гануля]: *Паляцеў* [Мікіта] *ў горад таго-сяго купіць.* Т, 19-20. *Камісары ўцяклі ў Бабруйск, а адтуль у Смаленск.* СНБ, 340. // Ужываецца пры назвах арганізацый, устаноў куды хто-н. прыходзіць, уступае. *Прыходжу на другі дзень у рэдакцыю.* Ан, 19. *Па праўдзе кажучы, паступіўшы ў гэтае вучылішча, я* [Купала] *ведаў больш, чым патрабавалася праграмай. А, 328. //* Ужываецца з дзеепрысл. “запісваючы”, пры ўказанні таго, куды гэта запісваецца. [Усходні вучоны] *(запісваючы ў нататнік): Пры опросе аборыгенов Северо-Западного края о процяжэніі занімаемой імі церрыторыі выяснілось, что таковая включает в себе всю область Мінскай Брэхалкі да ешчо далей...* Т, 39. *Параўн.* в *у* 3 *знач.*

**10.** з В. Указвае на месца, у бок якога накіравана дзеянне, рух. *Дама, Поп, Спраўнік, Пан – устаюць, раскланьваюцца і шнурам выходзяць у праціўны бок, з якога прышлі былі.* Т, 38. *Сціхне* [жаль], *і плаўна зноў коцяцца воды Вольнага Нёману ў цёмную даль.* Н.

**11.** з В. Ужываецца пры называнні дзейнасці, становішча,у якое прыходзіць, уступае, трапляе хто-н. *Немцы пад прыкрыццём спадніц думалі наладзіць ДЗОТ, а пасля пайсці ў контратаку.* ПСп. [Гануля]: *Дзядзька беларус! Ратуйце! Немец Мікіту ў палон цягне!* Т, 33. [Спраўнік]: *Але, панове, час нам ўжо ў дарогу!* Там жа, 38.

**12.** з М. Указвае на прастору або месца, у межах якіх хто-, што-н. знаходзіцца або што-н. адбываецца. *Лунае груганнё ў прыволлі На ўсход, на захад, там і тут.* ГП, 8. *Граб зусім звычайнае дрэва ў лясох, гдзе мясцовасьць больш вільготная..* ХБ, 29. // Ужываецца пра называнні мясцовасці, краіны, дзе хто-, што-н. знаходзіцца, што-н. адбываецца. .. *паглядзеце, якія пышныя дубы растуць у Мешчыне..* ХБ, 29. .. *так што манапольки закрываюцца у Литве, бо нима гандлю.* УП. // Ужываецца пры назвах арганізацый, устаноў, дзе хто-, што-н. знаходзіцца, адбываецца. *У Вільні працаваў* [Купала] *у бібліятэцы і “Нашай ніве”..* А, 328. [Гануля]: *Служыў* [Мікіта] *у камісарыяце паліцыі нейкім там разношчыкам..* Т, 57. // Ужываецца пры назвах частак цела, дзе што-н. знаходзіцца ці адбываецца. *Адны* [грамадзяне] *ў руках трымалі дары Сваім прыбліжаным багам, Другія ўспаміналі чары, Шоў гоман сьцішны сям і там.* УрП, 47. *Хто парасё украў, таму и ў вушах пишчыць.* СП. // Указвае на твор, словы, а таксама

на прадмет, дзе гэта надрукавана або запісана. *Нашыя маладыя наіўныя паэты, знаёмыя з сваім родным краем з благіх расейскіх школьных кніг, вельмі часта ў вершах гавораць пра “гразь, балота і пясок” у Беларусі.* ХБ, 27. [Спічыні]: *У гэтым* [дакуменце] *напісана: “рэвіровы сюдмэго рэвіру мяста Мінска”* Т, 61.

**13.** з М. Указвае на памяшканне ці прадмет, унутры якога хто-, што-н. знаходзіцца, што-н. адбываецца. *У хаце было сорак градусаў холаду..* Ан, 19. [Гарошка]: *Калі пазволіш* [Гануля]*, то ў мяне ёсць сёе-тое ў торбе, вот мы і закусім.* Т, 27.

**14.** з М. *перан.* Указвае на прадмет, што ўсведамляецца як месца, цэнтр, дзе засяроджваюцца пачуцці, думкі. .. *у душы маёй* [Купалы] *заўсёды быў нейкі пякельны разлад.* А, 328. *Думы цяжкія роем снуюць. Капашацца чмяльмі ў галаве..* ЧС, 50-51. *Параўн.* в *у* 4 *знач.*

**15.** з М. Ужываецца пры называнні калектыву, у якім хто-, што-н. знаходзіцца, што-н. адбываецца. *Яны* [людзі]*, як цені, у грамадзе Маўчаць і йдуць на пір паганы.* Кц, 195. *Людзі ходзяць урачыста У святочных строях.* НК. [Гануля]: *Адзін* [муж] *яшчэ сяк-так мясціўся ў сям'і, а як жаніўся, дык і не хапіла абаім месца.* Т, 20.

**16.** з М. Ужываецца пры называнні асяроддзя, становішча, у якім знаходзіцца хто-н., адбываецца што-н. *І потым, адыходзячы ў глухую ночку, Назад сумысьля азірнецца ён* [бежанец] *у мгле..* ВБЛ, 80. *Аб жыцці беспраглядным сваім Разважаю я ў гэтай цішы.* ЧС, 50-51.

А, 327 (4), 328 (21); АБ, 16 (4); АК; АЛ (11); Ан, 18 (5), 19 (8); АПЖ (3); ЛР (3); Б, 18 (2); ББ (7); БВ, 16 (11); БЗ (2); БН, 92, 93 (2); БС (2); БСУ (2); БрБ, 6 (4); Бц, 74 (3); Бч, 9 (4), 10 (2); В; ВБ; Вб, 236, 237 (4), 238 (2); ВБЛ, 80 (6), 81 (2), 82 (3), 83; ВВ, 263; ВГР (2); ВД; ВМ, 72; ВМР (3); ВН; ВНЗ; ВР (12); ВС (3); ВСп, 89 (8), 90; ГВУ (4); ГЖУ (3); ГНД; ГП, 8 (2); Д, 73 (2); ДД (2); ДЖ; Дз, 187, 188 (3), 189 (5), 190 (2); ДК (4); ДПЛС; ЕЯП (2); ЁЯ (6); Ж; ЖН (8); З (6); ЗК, 42 (2), 43; ЗС, 17 (3), 18 (12); ЗЯЗ, 89, 90 (4); ІП; Кз, 17 (4); Кр, 47; Кц, 192, 193 (3), 194 (6), 196 (2), 197 (3); КЧ; ЛР (5); М, 20; МД (9); МІ, 17 (8), 18; МП (4); МПв, 219 (2), 220; МСП, 187 (4); Мц, 75 (2); Н (7); НГ; НГд, 8 (3); НД (2); НДН, 19 (5); НДп,229 (5), 230; Нз, 14 (2), 15 (2); НК (9); НКУС (2); ОШМ (3); ПБН (8); ПВ (2); ПГ; ПД, 83; ПДз (4); ПЛП (2); ПН, 47 (2); ПНд, 314; Пп, 5 (5); Пр (3); ПСД; ПСп; ПСС, 231 (4), 232 (2); ПТ, 206; Пт (2); Пц; ПЧ (22); Р; РК; РКр; СА, 178 (2), 179 (2), 180 (7), 181 (2); СБНГ (4); СЗГ; 252; СД (2); СК, 158 (2); СМ; См,

90 (2), 91 (2); СНБ (11); СНБ, 336 (5), 337 (4), 338 (4), 339 (8), 340 (4); СП; СС, 301 (3), 302 (7); СТ; СЧ (6); Т, 19 (5), 20 (9), 21 (3), 22 (3), 23 (4), 24 (6), 25 (3), 26, 27 (5), 28 (2), 29, 30 (6), 31 (2), 32 (8), 33 (6), 34, 35 (5), 36 (2), 37 (3), 38 (2), 39 (5), 40, 41 (2), 42 (2), 43, 44 (4), 45 (7), 46 (12), 47 (4), 48 (5), 49, 50 (4), 51, 52 (4), 53 (2), 54 (4), 55 (2), 56 (5), 57 (3), 58 (4), 59 (3), 60 (6), 61 (2), 62, 66; Тж, 15, 16; ТП, 213 (3), 214 (3), 215, 217 (2); ТС, 74 (2); УП (2); УПУВ (5); УрП, 47, 48 (2), 50; Ф; ХБ, 27 (3), 28 (5), 29 (5), 30; ХЛБ (3); ХЛВ, 315, 316; ЦСБ; Ч, 319 (3), 320, 321 (6), 322 (5), 324, 325 (2); Чж, 146 (2), 147 (2); ЧС, 50-51 (3); ЧЧШ (4); $Ш_1$; $Ш_4$; $Ш_5$; ШБСЯ (8).

Часавыя адносіны (207).

**17.** з В. Указвае, у які час адбываецца дзеянне [Мікіта]: *Дзе той Спічыні? Які яго нячысцік выкруціў у гэтую небяспечную для мяне хвіліну?* Т, 32. *Але гісторыя народау у нашы часы творыцца не гадамі, а днямі.* БСУ. // Указвае на нязручны, непрыдатны час, тэрмін для якой-н. справы. [Аленка]: *Але дзеля гэтай мэты мяне татка і ў Менск да вас прытарабаніў.* [Янка]: *Адно трохі не ў час.* Т, 30.

**18.** з В. Указвае на перыяд, да якога накіравана дзеянне. *Не падаючы духам, мы* [беларусы] *павінны ісьці праз жыцьцё ў гэты новы год і моцна трымаць сьцяг змаганьня за вызваленьне, за незалежнасьць сваей бацькаўшчыны Беларусі.* СНБ. *Мы не будзем забягаць наперад у будучыну і варажыць, якімі шляхамі пойдзе гэта справа.* БВ, 17.

**19.** з В. Ужываецца пры называнні стану надвор'я, занятку, калі што-н. адбываецца. *Гібелі зноў людзі у сьпеку, ў мароз..* ПН, 47. *Ценям тулілі вас* [чужых людзей] *у сьпякоту Нашы чарэсьні, Нашые жнейкі ў жніўну работу Пелі вам песьні.* Чж, 146.

**20.** з В. Указвае на меру працягласці якой-н. з'явы. *З году у год мы* [беларусы] *жылі, як жывёла, З году да году чакалі сьвятла...* Г, 16. *Слава аб іх* [героях] *пройдзе ва ўсе годы і вякі і будзе служыць прыкладам для жыцця пакаленняў.* СБ *Параўн.* в *у 5 знач.*

**21.** з М. Указвае на прамежак часу, у які адбываецца дзеянне. *У часе гэтай маей хваробы шмат асоб аказалі мне* [Купалу] *папраўдзе братнюю помач і апеку.* ЛР. *Але больш за ўсё, я* [Купала] *думаю, зрабілі на мяне ўплыў беларускія народныя казкі, чутыя мною ў дзяцінстве.* ПС. // Ужываецца пры вызначэнні часу якой-н. падзеі. *На літаратурную ніву я* [Купала] *ўступіў у 1905 г., надрукаваўшы свой першы верш "Мужык".* АЛ, *У 1890 г. ён* [бацька] *развітваецца*

*часова са становішчам найміта ў маёнтак і пераязджае ў Мінск..* А, 328.

А, 327 (3), 328 (6); АБ, 16; АЛ (4); АПЖ; БВ, 16 (2), 17; БН, 93; БрБ, 6; БС; БСЦ (3); Бц, 74 (2); В; ВБЛ, 80, 81, 82; ВВ, 282; ВН (8); ВС (2); ВСп, 89 (2), 91 (2); ГП, 8 (2); ДД; ДЖ (5); ДК; ЁЯ; Ж; ЖН (11); З; ЗК, 42; ЗС, 18 (3); ЗЯЗ, 89 (2); Кц, 195 (3); ЛР (2); МД; МІ, 17 (4); МП (8); Н (3); НДН, 18; НК; НКУС; ОШМ; ПБН (3); ПДз (3); ПЛП (4); ПН, 47; ПНд, 314; ПЧ (3); РКр (3); РКП; РС, 40 (2); СБНГ (4); СНБ (6); СНБ, 336 (2), 340; СС, 300, 301 (2), 302 (2); Т, 19 (7), 20, 21, 30 (2), 37, 39, 40 (2), 43 (2), 44, 49, 50 (2), 51, 52 (2), 53 (2), 58, 59; Тж, 15; У; УПУВ (3); УР; УрП, 47 (2), 49 (2), 50; Ф; ХБ, 28 (2), 29 (2); Ч, 322, 324, 325; Чж, 146 (3); ЧС, 50-51; ЧЧШ; $Ш_3$; $Ш_4$; ШБСЯ.

Адносіны способу дзеяння (75).

**22.** з В. Указвае, якім чынам адбываецца дзеянне. [Мікіта]: *Вось, калі хто з іх* [гасцей] *звернецца да вас з якім словам, то вы* [Гануля] *старайцеся адказваць у нос і меней ужывайце простых выразаў.* Т, 22. *І там здань і тут здань, закружыліся ў круг..* БН, 92. *То зрывае* [душа] *с сябе шаты, То ў крыж зложэ рукі..* Дз, 191. // Ужываецца пры ўказанні на суладнасць, бесперапыннасць дзеяння. *Станем к змаганьню мы* [беларусы] *з ведзьмаю-крыўдай Дружна, адважна, плячо у плячо..* Г, 17. *Чатыры годы крок у крок Тварыць вы* [бальшавікі] *шлі і кроў лілі Сваю, чужую па зямлі...* ПВ.

**23.** з В. Ужываецца пры абазначэнні назвы гульні. [Мікіта]: *Як чуць што зблышыў, дык і пачнуцца ўсялякія суды ды перасуды: адзін будзе казаць, што па службе атрымаў паніжэнне, другі – што ў карты прагуляўся..* Т, 21.

**24.** з М. Указвае на формы, у якіх адбываецца дзеянне. *Мае* [Купалы] *кнігі разыходзяцца ў дзесятках і сотнях тысяч экземпляраў..* А, 328. *Верш мой* [Купалы] *справакавалі: 1. Лёсік, .. 2. Шыла, які асвятляў Дзям'яну Беднаму гэты верш у правакацыйным сэнсе.* СЧ. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, вы крыху не ў тых колерах адмалявалі гэтую трагічную гісторыю.* Т, 46. *Параўн.* в *у 6 знач.*

АЛ (4); Ан, 19; БН, 91, 92 (2); ВВ, 263 (2); ВР (2); ВС (4); ВСп, 91 (2); Г, 16; ГЖУ (2); ДК; Ж; З (2); ЗК, 42; Кз, 17 (3); Кц, 192, 197; М, 19; МІ, 18; НГд, 8; НК; ПВ (3); Пп, 161; Пт; РКр, (2); СБНГ; См, 91 (2); Т, 19, 22, 23 (2), 28 (2), 30, 32, 40 (2), 43, 44, 51, 52, 57; Тж, 16; ТП, 213; УР, 215; УрП, 50; Ч, 322; ЧЧШ; ХЛВ, 315.

П р ы ч ы н н ы я  а д н о с і н ы (2).

**25**. з Т. Ужываецца ў спалучэнні “*у звязку з чым*”. [Мікіта]: *А гэта, меджду протчым, яна* [барада] *вырасла ў звязку з палітычнымі эмарамі на нашым Менскім горызонце.* Т, 55. *Мы хочам толькі акінуць вокам нашае грамадзянска-палітычнае жыццё за мінуўшы год, звярнуць увагу на важнейшыя праявы палітычных перамен у нашым краі ў звязку з нашай незалежнасцю.* СНБ, 337.

М э т а в ы я  а д н о с і н ы (17).

**26.** з В. Указвае на мэту дзеяння. [Янка]: .. *неяк моташна зрабілася аднаму сядзець, дык вось і прышоў да вас* [Ганулі] *у госці.* Т, 19. *Нявольнік пабратаўся з Крыўдай І ў помач ёй даў свае плечы.* Кр, 78.

**27.** У аналітычных выразах, якія выступаюць у якасці прыназоўнікаў: “*у чэсць*”, “*у гонар*”, “*у узнагароду*”. *Заезджыя госці .. не разумелі, як гэта можна замест аднаго мець некалькі багоў і не мець багатых харомаў, збудаваных у чэсць і хвалу Бога свайго.* Кз, 17. *У Прасценаве нас* [савецкіх дэлегатаў] *ля будынку ратушы сустрэў тысячны натоўп рабочых з воклічамі ў гонар СССР..* ПЧ. *Каб яго* [рабочага Пасляка] *падбадзёрыць, не раз краў я* [Купала] *ў маці сала або сыр і нёс яму ў узнагароду за казкі.* ПС.

**28.** з В. Указвае на прызначэнне прадмета. *Мікітавы пакой выглядае збольшага – як у першай дзеі, разумеецца, без грамафона, люстра і мяккіх крэслаў, некаторыя рэчы спакаваны як у дарогу.* Т, 53.

**29.** з В. Указвае на аб’ект мэты дзеяння. *Лета было. Пашла* [маці] *ў ягады. Раптам знекуль паніч сумазбродзень..* Мц, 75.

Бч, 9; Вб, 236; ЖН (3); МІ, 17; ПВ; Т, 23, 42; Ч, 325.

К о л ь к а с н ы я  а д н о с і н ы (8).

**30.** з В. Указвае на колькасць прадметаў, на якія накіравана дзеянне. *Ды вось жалейкі вы* [дзяўчаты і хлопцы] *бярэце, Ў дванаццаць мейсц кладзеце сьлед..* УрП, 50.

**31.** з В. Ва ўстойлівым спалучэнні “*у рахунак не йсці*”. [Мікіта]: *Ну, яна* [цётка Бадунова], *меджду протчым, эсэрбеларус і ў рахунак не йдзе..* Т, 56.

**32.** з В., з М. У спалучэннях тыпу: “*у дабавак*”, “*у дадатку*”. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, я ўважаю, апрача ўсяго іншага, сягоння ў дабавак нейкі выключны дзень..* Т, 34. *Гэтые падвышкі канечна не павінны нас пужаць, бо і палавіны ня прыдзецца нам плаціць таго лішняго, што мы выкідалі у сваім часе на гарэлку, затруваючы у дадатку сваё здароўе..* ВН.

**33.** з М. Указвае на меру дзеяння. .. *ніхто не дамагаецца ад народаў, што наш край здратавалі ні за што ні пра што, каб хоць у частцы прыйшлі з падмогай дзеля яго адбудавання, дзеля яго ратавання ад галоднай і халоднай смерці.* АБ, 16. // У спалучэнні "*ў тым ліку*", якое ўжываецца ў значэнні "*ў такой жа меры, ступені; таксама*" .. [пралетарская рэвалюцыя] *адна несла сапраўднае социяльнае і нацыянальнае вызваленьне працоўным былой царскай Расіі, у тым ліку і Беларусі.* АЛ. *Пад Вашым* [Ежова] *кіраўніцтвам совецкая зямля, у тым ліку і Совецкая Беларусь, з поспехам ачышчаецца ад германа-японскіх і польскіх шпіёнаў і дыверсантаў.* НКУС.

**34.** з М. Указвае на колькасць прадметаў, з якіх складаецца што-н. .. *агулам надрукавана 268.050 кніг у ліку 2.036.527 друк. аркушаў.* ВСп, 91.

А д н о с і н ы  с т а н у (150).

**35.** з. В. Указвае на абставіны, у якія трапляе асоба. *Так грамадзяне свабоднага краю Ёрмы уздзелі, у рабства пайшлі..* Н. *Тыя, ў дагонцы за блескам часовым, Брацьцяў запрэглі ў нявольнічы плуг..* Г, 17. // Указвае на стан, які ўласцівы каму-н. *Апускаецца* [Мікіта] *з уздохам на лаўку, кладзе на паруччы рукі, звешвае на іх галаву і ўпадае ў глыбокую напаўсонную задуму.* Т, 43. *Паглядзеў я, і мяне аж у холад кінула.* Ан, 19.

**36.** з М. Указвае на становішча, ўмовы, у якіх знаходзіцца асоба, прадмет. *Пад царамі, пад панамі Мучыліся людзі, – У нядолі, у няволі Чахлі, сохлі грудзі.* ЗЯЗ, 89. *Такім чынам, усё маё* [Купалы] *юнацтва прайшло на чужой зямлі ў безупыннай залежнасці і пад гнётам польскага панства.* А, 328. // Указвае на стан, які ўласцівы каму-, чаму-н. *І пакуль у зямлю не зарылі, Хоць дух будзе шыпець у бясьсільлі, – На сваіх вісі жылах і сьмейся!* См, 91. *Быдлам зрабілі нас панскія здзекі, Век марнаваліся ў слёзах і поце.* Д, 73. *Хай жэ дома знойдуць* [байцы] *усё ў парадку – неапушчэную хату, хлеб на стале.* РКр.

**37.** з М. Указвае на від дзейнасці, якой хто-н. займаецца. [Мікіта]: *О так! У нашым чыноўніцкім становішчы іначай няможна.* Т, 21. [Янка]: *Ну, не бурчэце, дзядзька: у вельмі пільнай справе прышлося нам заседзецца крыху.* Там жа, 44.

АЛ (4); Ан, 19; АПЖ (2); БВ, 16; БН, 92; БрБ, 6 (5); БС (3); Бц, 74; Бч, 9 (2); В; Вб, 237; ВБ; ВБЛ, 80 (3), 82 (2); ВМР; ВН (2); ВР; ВС; ВСп, 90; Г, 16; ГНД; Д, 73 (2); Дз, 189 (3), 190 (4), 192; Ж (2); ЖН; ЗК, 42 (2); ЗС, 17; ЗЯЗ, 89, 90; К (3); КП, 170; Кц, 195, 196; КЧ (3); М, 19, 20 (4); МД; МІ, 17; МПв, 220;

Н (3); НДН, 18 (2); НК; ОШМ (2); ПБН (7); ПВ; ПЛП; ПН, 46, 47; ПНд, 314; ПС; ПСД (2); ПСС, 231; Пт; ПЧ; РКП; РС, 40 (2); СБНГ (2); СК, 158; См, 91; СНБ (6); СНБ, 336; СС, 303 (3); СТ; Т, 21, 42, 51 (2), 54, 58; Тж, 16(2); ТС, 74; УрП, 49; Ф (4); ХЛВ, 316; Ч, 320, 321, 323, 324; $Ш_3$; ШБСЯ (4).

Адносіны пераўтварэння (18).

**38.** з В. Указвае на пераход чаго-н. у іншы стан. [Янка]: *Але, мабыць, цяжкія вашы* [Мікіты] *справы, што так цяжка вам час плыве: месяцы ў цэлыя леты і зімы замяніліся?* Т, 45. *Такі край, як паўночная палавіна Меншчыны, мог-бы пры падмозе чалавека абярнуцца ў адзін з найпрыгажэйшых краёў..* ХБ, 29. // Указвае на пераўвасабленне асобы. *Зрабілі з вас* [бальшавікоў] *гаспадароў. І вы з рабоў пайшлі ў цары...* ПВ. *"Gaz. Godz." у № 67 клічэ, каб усе, хто хочэ, каб яго дзеці вучыліся ў школі рэлігіі па польску, запісывалі сябе ў палякі.* ВР. // Указвае на новую якасць чаго-н. *Хай льюцца-зыльюцца ад хаты да хаты У вадно ўсе грамады, ўсе людзі ўсіх ніў!* В. *Нацыянальная рэволюцыя не страміцца каднаму богу на зямлі, і не зьбівае ў вадну кучу ўсіх народаў пад адзін сьцяг.* СНБ. *Рай і пекла зьмяшаліся ў процьму ў вадну.* БН, 91. *Параўн.* в *у 7 знач.*

БСУ; ВНЗ; ГНД; ДПЛС; ПБН; ПГ; Пт; Т, 50, 57; ТП, 217; Ч, 324.

Азначальныя адносіны (48).

**39.** з В. Ужываецца пры характарыстыцы прадмета. – *У клетачку* [спадніцы] *... у палоску ... блакітнага колеру ...* ПСп. *Ізноў цягну стаццю ў тысячу радкоў..* Ан, 19. // Указвае на характарыстыку асобы. *Трох сыноў дала судзьбіна Да майго* [княжны] *парога, А такіе – сын у сына, Як нідзе, ні ў кога!* Дз, 188.

**40.** з М. Указвае на форму, выгляд прадмета. *Плугі – у драўлянай аправе.* ПЧ. *А лес шуміць ... азёры ў хвалях па бакох...* СК, 158. *Цень пры цені, пад ценьмі той крыж у крыві..* БН, 93. // Ужываецца ў азначальных зваротах пры займенніковым слове. *.. ўваходзяць і спатыкаюцца з ім* [Мікітам] *на парозе: Начальнік патруля, Двух патрульных, Грамадзянін, у якога выразана кусок барады, і Спічыні.* Т, 59. *Падлеткі жывуць у інтэрнатах, у якіх пабудаваны двухпавярховыя нары.* ПЧ. // Пры адмоўным займенніку нішто ўказвае на характарыстыку асобы. *.. цягнулі* [жандармы] *ў васторг у нічым невіноўных людзей.* МІ, 17. *І гітлераўскім бандам, фашыстоўскім крывапійцам Нядоўга катаваць народ ні ў чым не вінны..* ПНд, 314.

**41.** з М. Указвае на спосаб выканання якой-н. дзейнасці. *Упартая, але радасная праца працоўнага народу маёй бацькаўшчыны ў саюзе з усімі брацкімі рэспублікамі дала вынікі незвычайныя.* ЖН.

**42.** з М. Указвае на характарыстыку, знешні выгляд асобы. *Спужаўся, што хлапчук ў лапцёх, Напаўадзеты вёскі сын, У роднай мове ўчыцца змог?.. О, стыдна, рускі "гражданін"!* АПЖ. *Знай, на чале народ вялікі рускі ў зброі Ідзе на ворага з мільёнамі народаў..* ПНд, 314. // *Вобразн. І сёння там* [за Сулою] *ходзіць галеча ў лахмоцці Пад звон набажэнства, пад голас маны..* ПБН.

А, 328; АЛ (2); Ан, 18; БН, 92; ВБЛ, 81; ЖН; З (2); Кц, 196; НК; ПЛП; ПСп (2); Р; СБНГ; См, 91; СНБ, 340; СЧ; Т, 19, 24, 27, 32 (2), 34, 45 (2), 57; ТП, 217 (2); УрП, 51; ХЛБ; Ч, 320; ШБСЯ.

**[УБАРАНІЦЦА]** *зак. Разм.* Абараніць сябе ад нападку, варожых дзеянняў. *Край разрываны ўвесь на часці – Народ аграблены яго – Не ўбараніўся ад напасці І ад пагібелля свайго.* ГП, 8.

Абв. пр. адз. м. *убараніўся*: ГП, 8.

**[УБАРАНІЦЬ]** (2) *зак. Разм.* Абараніць што-н. ад нападу варожых дзеянняў. *Цешыцца дзяўчына, Што Янук ня згінуў, Той ураз-жа ёй і кажа: Убараніў Айчыну.* ЕЯП. [Мікіта]: .. *што вы* [Янка] *маніцёся бараніць, бо дагэтуль, меджду протчым, вы яшчэ нічога не ўбаранілі!* Т, 21.

Абв. пр. адз. м. *убараніў*: ЕЯП. Мн. *убаранілі*: Т, 21.

**УБАЧЫЎШЫ** (3) *дзеепрысл. да* ўбачыць *у* 1 *знач. .. сяляне нашы, убачыўшы крыху сьвету, зразумелі, хто яны такіе..* ВР. [Мікіта]: *(Убачыўшы Янкавы падарункі) Меджду протчым, што гэта ў вас, пане профэсар?* Т, 31; ВР.

**УБАЧЫЦЬ** (10) *зак.* **1.** Успрыняць зрокам. *Я* [Купала] *вельмі і вельмі шчаслівы, што дажыў да тэй пары, калі здолеў ўбачыць сваімі вачыма вялікі Беламорска-Балтыйскі водны шлях..* ЦСБ. // Заўважыць, прыкмеціць. *Хутка ўсе ўбачылі, як каля нямецкага ДЗОТ'а капашыліся спадніцы.* ПСп .. *Ці ўбачуць* [людзі] *корч, ці ўбачуць цьвет, Аднэю жаляцца сьлязою.* Кц, 195. // Быць сведкам чаго-н., мець магчымасць назіраць за чым-н. *Стань* [брат-беларус], *нахіліся над ракой. Ў плакучы ўгледзься пераліўы: Ў іх адаб'ецца воблік твой, І ўбачыш незабыты дзівы.* БрБ, 6. *Ўнук тое ўбача, што прадзеды, дзеды ў снах толькі снілі, – і свету раскажа.* Ф. // Паглядзець, пабыць гледачом. *Вы можаце, напрыклад, убачыць вясёлы, камедыйны фільм, праз які выразнай ніткай "шчасця"*

*праходзяць ... бацявы боты.* ПЧ.

**2.** Заўважаць, адкрыць для сябе што-н. *І вось калі ўдумацца ў усё гэта, то мы ўбачым, што кожная такая дзяржава, якая на рахунак чужых зямель хоча пашырыць сваё панаванне, ніколі не будзе спрыяць для народа гэтых забраных зямель.* НДН, 18.

**3.** Знайсці, угледзець што-н. у чым-н. *У Доме Чырвонай Арміі мы нібы ўбачылі разумны, культурны твар камандзіра нашай роднай Чырвонай Арміі.* ПГ.

◊ **Убачыць свет –** з'явіцца на свет; нарадзіцца. *У доміку гэтым убачыў свет Сталін.* ПГ.

Інф. *убачыць* (2): ПЧ; ЦСБ. абв. пр. адз. м. *убачыў*: СД. Мн. *убачылі* (2): ПГ; ПСп. Буд. адз. 2 ас. *убачым*: БрБ, 6. 3 ас. *убача*: Ф. Мн. 1 ас. *убачым*: НДН, 18. 3 ас. *убачуць* (2): Кц, 195 (2).

**[УБІРАЦЬ]** *незак.* Прымаць у сябе. *Не аб сяміцвет-вясёлках Фарбаў негаданых, Што красу ў сябе ўбіраюць З мора-акіянаў.. Мая песня сёння будзе..* НК.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *убіраюць*: НК.

**[УБІЎЦА]** *аг. Разм.* Забойца. *Ён* [народ] *перарэжа горла людаеду, ўбіўцу, Ён Гітлера павесіць на сухой асіне.* ПНд, 314.

Адз. Д. *убіўцу*: ПНд, 314.

**[УБОГІ]** (6) *прым.* **1.** Які знаходзіцца ў беднасці; бедны. *Дзякую партыі Леніна-Сталіна, .. Што Беларусь маю цёмную, ўбогую Вывелі ў людзі..* ДПЛС. *А тыя беззямельныя, убогія земляробы, а тыя малазямельныя вузкашнурыя вёскі і сялібы – што яны?* ЗС, 18. // Які сведчыць аб беднасці. *Здарма ж двуглавы твой* [Расіі] *арол Праз векі ў кіпцюрох трымаў Мільёны убогіх хат і сёл..* АПЖ. *Змяніліся людзі, аблічча зямлі – заместа палосак убогіх і вузкіх, Калгасныя нівы, як мора ляглі.* ПБН.

**2.** *Разм. У знач. наз.* Жабрачка. *Да багатай пани и афицэра, каторые только што вышли с карэты, падашла дзяўчынка – убогая и працягнула да их руку, каб падарыли.* ПДз.

Адз. ж. Н. *убогая*: ПДз. В. *убогую*: ДПЛС. Мн. Н. *убогія*: ЗС, 18. Р. *убогіх* (3): АЛ; АПЖ; ПБН.

**[УБОЙ]** *м. Руск.*: **? Загнаць на ўбой** *гл.* загнаць.

Адз. В. *убой*: Н.

**УБОК** (2) *прысл.* Управа або ўлева ад чаго-н. *Чырвонаармеец палажыў убок абломак стрэльбы і паглядае, не разумеючы, у чым справа.* Т, 52. [Аленка]: *(зірнуўшы ўбок) А гэта што за такія пілігрымы брыдуць сюды?* Там жа, 37.

**УБОР** (3) *м.* Убранне, адзенне. [Дама]: *(углядаючыся*

*пільна цераз акуляры з ручкай на Мікіту) Што гэта ў вас, мусье, за такі орыгінальны ўбор?* Т, 24. *У чужаземецкім уборы Брыдзе-йдзе нейкі чараўнік.* УрП, 51. // Спецыяльнае адзенне. [Мікіта] *(зрываючы з сябе і кідаючы па чарзе аб зямлю часткі пажарніцкага ўбору): К чорту пажарніцкую каманду!* Т, 33.

Адз. Н. *убор*: Т, 24. Р. *убору*: Т, 33. М. *уборы*: УрП, 51.

**[УБОСТВА]** *н.* Крайняя беднасць, галеча, жабрацтва. *Краіна, быўшая ўвасабленьнем рабства, убоства і беспрасьветнай цемры, ператвараецца ў краіну вольнае працы.* АЛ.

Адз. Р. *убоства*: АЛ.

**[УБРАЦЦА]** *зак.*: ◊ **Убрацца ў розум** – пасталець. *Як жа ў розум убярэцца Твой* [маці] *сынок, як мак у цвет.. Выпраўляй яго ў людзі..* М, 20.

Абв. буд. адз. 3 ас. *убярэцца*: М, 20.

**[УБРАЦЬ]** *зак.* Надаць прыгожы выгляд, упрыгожыць. *Партрэт Варашылава ўбралі дзяўчаты Ў чырвоныя кветкі-вяснянкі.* ВВ, 261.

Абв. пр. мн. *убралі*: ВВ, 261.

**[УБЯГАЦЬ]** *незак.* Уваходзіць куды-н. бягом. *Убягае засопшыся Наста.* Т, 58.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *убягае*: Т, 58.

**УВАГА** (22) *ж.* **1.** Сканцэнтраванасць думак, зроку, слыху на чым-н., накіраванасць думак. *Асаблівую ўвагу аддавалі яны* [контррэволюцыйныя нацыянал-дэмакраты] *разбурэньню таго адзінства, тае інтэрнацыянальнай базы, на грунце якое працоўные масы ўсіх нацыянальнасьцей СССР зьлітнымі колёнамі ідуць па шляху да соцыялізму.* АЛ.

**2.** Клапатлівыя, чулыя адносіны, прыхільнасць да каго-, чаго-н. *Я* [Купала] *хачу з усёй шчырасцю ў гэты ўрачысты для мяне дзень падкрэсліць тую вялікую ўвагу, тыя клопаты аб маім жыцці з боку большэвіцкай партыі і совецкай улады.* ЖН. *Радасна жыць пад Крэмлёўскімі зорамі Сталінскай цешыцца ўвагаю, ласкаю.* ДПЛС.

**3.** Заўвага. *На зробленую увагу ..ураднік адказаў, што ен не разумее беларускай мовы? дзеле таго просьбы прыняць ня можа..* ОШМ.

• **Увага.**

◊ **Звярнуць (зьвярнуць) увагу; ўвагу звярнуць** *гл.* звярнуць. **Зьвярнуўшы на сябе ўвагу** *гл.* зьвярнуўшы. **Зьвяртаць (на сябе) увагу; ўвагу зьвяртаць** *гл.* зьвяртаць. **Мець на ўвазе** *гл.* мець. **Прымаючы пад увагу** *гл.* прымаючы. **Прыняць пад увагу** *гл.* прыняць. **Прыцягваць увагу** *гл.* прыцягваць.

Адз. Н. *увага*: У. Р. *увагі*: Чж, 147. В. *увагу* (19): А, 328; АЛ; Ан, 19 (4); ВСп, 89 (4); ЖН; ОШМ (2); ПЧ; СБНГ; СНБ, 337; 340. Т, 37, 46. Т. *увагаю*: ДПЛС.

**[УВАГНАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* увагнаць *перан.* Падзелены. *У вузкія межы ўвагнаны палі.* ПБН.

Кар. мн. Н. *увагнаны*: ПБН.

**[УВАЖАЦЬ]** (7) *незак. Разм.* Лічыць, меркаваць. [Дама]: *Мусье, беларус, вы, як я ўважаю, напоўнены павевамі новага часу..* Т, 37. [Мікіта]: *Але й палонных, як уважаю, па дарозе хапае.* Там жа, 41.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *уважаю* (7): Т, 21, 31, 34, 36, 37, 41, 46.

**УВАЖЛІВА** (2) *прысл.* **1.** Уважна, сабрана, засяроджана. [Янка]: *Дык слухайце ўважліва, цётачка..* Т, 53.

**2.** Пастаянна, заўсёды, кожны раз. *Я* [Купала] *дзякую тав. Гікало, які заўсёды ўважліва адклікаўся на мае ўдачы і няўдачы на творчым шляху.* ЖН.

**[УВАЙСЦІ]** (6) *зак.* Зайсці ўнутр чаго-н., уступіць ў межы чаго-н. [Мікіта]: *(як госці ўвайшлі і раздзеліся, падскакваючы). Міласці прашу!* Т, 24. *8 жніўня палякі ўвайшлі ў Менск, і для Беларусі пачалася новая эра.* СНБ, 340.

◊ **Увайсці у жыцьцё –** стаць дзеючым, зрабіцца рэальным. *.. і толькі цяпер, дзякуючы вайне, гэты закон увайдзе у жыцьцё.* ВН.

Абв. пр. мн. *увайшлі* (3): СНБ, 340; Т, 24, 28; *увашлі*: СНБ. Буд. адз. 3 ас. *увайдзе*: ВН. Мн. 3 ас. *увойдуць*: Т, 44.

**УВАЙЦІ** *зак. Разм.*: **? Увайці у палажэньне –** аднесціся да каго-н. са спачуваннем. *І вось трэба увайці у палажэньне шчырага беларускага грамадзяніна: што такі чалавек павінен быў перацярпець у сваёй душы, бачачы гэту нібы зьнявагу.* СБНГ.

Інф. *увайці*: СБНГ.

**УВАЙШОЎШЫ**[1] *дзеепрым. незал. пр. да* ўвайсці. *Вучоныя выходзяць, кожны праз другія дзверы, якімі быў увайшоўшы.* Т, 27.

Адз. м. Н. *увайшоўшы*: Т, 27.

**УВАЙШОЎШЫ**[2] (5) *дзеепрысл. да* ўвайсці. [Гануля]: *(увайшоўшы пры апошніх словах Мікітавых). Ты* [Мікіта] *ізноў з ім* [Янкам] *павадзіўся.* Т, 22. [Абарванец]: *(увайшоўшы з таго боку, куды Наста вышла, да кленчачага з працягнутымі рукамі Мікіты). Пажэртвуйце, таварыш, безработнаму!* Там жа, 42. Т, 23, 25, 27.

**УВАКРУГ** *прысл. Разм.* Усюды. *Тыя, таргуючы імем Хрыстовым, Цемру і здраду спладзілі ўвакруг.* Г, 16.

**[УВАЛІЦЦА]** *зак. Разм.* Прыйсці куды-н. няпрошаным. [Мікіта]: *Каб хаця не ўваліліся* [немцы] *на імяніны, а то сапсуюць усю абедню.* Т, 24.

Абв. пр. мн. *уваліліся*: Т, 24.

**[УВАСАБЛЕНЬНЕ]** *н.* Праяўленне чаго-н. у канкрэтных вобразах. *Краіна, быўшая ўвасабленьнем рабства, убоства і беспрасьветнай цемры, ператвараецца ў краіну вольнае працы.* АЛ.

Адз. Т. *увасабленьнем*: АЛ.

**УВАСКРАСІЦЬ** *зак. Руск.* Аднавіць, адрадзіць. *Дружнымі, згоднымі радамі няхай ідуць яны* [беларусы] *да адзінай мэты: адваяваць свой горад ад засілля чужынцаў і уваскрасіць стары Менск..* ВМР.

Інф. *уваскрасіць*: ВМР.

**УВАСКРАШАЦЬ** *незак.* Аднаўляць што-н., рабіць зноў жыццядзейным. .. *праступна ўваскрашаць мінулае, прасякнутае нявольніцка-буржуазнымі капіталістычнымі традыцыямі..* АЛ.

Інф. *уваскрашаць*: АЛ.

**УВАСКРАШЭНЬНЕ** *н.*: **• Уваскрашэньне Польскага Універсытэту у Вільні.**

Адз. Н. *уваскрашэньне*: УПУВ.

**[УВАСКРОСШЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* уваскрэснуць *у 2 знач. Слабейшыя народы, асабліва уваскросшыя на тэрыторыі быўшай Расіі, змагаюцца толькі за тое, каб жыць, каб адстаяць сваю незалежнасць, не папускаючы свайго і незахопліваючы чужога.* СНБ.

Мн. Н. *уваскросшыя*: СНБ.

**[УВАСКРЭСНУЦЬ]** (5) *зак.* **1.** Вярнуцца да жыцця пасля смерці, ажыць. *Наперад па шчасьце! Хай злое ўсё дрогне, Весна ўжо на сьвеце, –Хрыстос уваскрос!.* В. *Два сьвяты на сьвеце – ад нівы да нівы: Хрыстос уваскрос! Наступае весна!* Там жа.

**2.** *перан.* Адрадзіцца, аднавіцца. *У гэты дзень уваскрос беларускі сьцяг.* БСУ. *Цяпер мы павінны зьвярнуць увагу .. на Польшу, дзяржаву, якая ўваскрэсла на магіле быўшай Расіі ды Нямеччыны і Аўстрыі..* СНБ.

**• Беларускі сьцяг уваскрос.**

Абв. пр. адз. м. *уваскрос* (4): БСУ (4). ж. *уваскрэсла*: СНБ.

**[УВАСОБЛЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* [увасобіць]. *У знач. вык.* Выражаны. *Гісторыя чалавецтва ведае не мала ворагаў народу, але няма роўнага таму здрадніцтву, якое ўвасоблена ў вобразе трацкісцкіх нягоднікаў..* ВНЗ.

Кар. адз. н. Н. *увасоблена*: ВНЗ.

**[УВАХОДЗІЦЬ]** (36) *незак.* Заходзіць унутр чаго-н. [Янка]: *(уваходзіць). Выбачайце, цётачка, што так часта назаляюся вам..* Т, 19. *Уваходзяць шнурам з катомкамі за плячыма і з кіямі ў руках: Дама, Поп, Спраўнік і Пан.* Там жа, 37.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *уваходзіць* (19): Т, 19, 21, 23 (2), 34, 35, 36, 37, 39, 41, 45, 49 (2), 50, 52, 53, 54 (2), 58. Мн. 1 ас. *уваходзяць* (16): Т, 24 (2), 25, 30, 32 (2), 33, 34, 37, 38, 44, 47, 50 (2), 52, 59. Заг. адз. 2 ас. *уваходзьце*: Т, 19.

**УВАХОДЗЯЧЫ** *дзеепрысл. да* ўваходзіць *у* 1 *знач. Гануля выходзіць і прыводзіць з сабой Аленку і Гарошку, які, уваходзячы ў хату, выбівае аб пазногаць попел з люлькі.* Т, 25.

**УВАЧЧУ** *прысл.:* ◊ **Соллю ўваччу** *гл.* соллю.

**[УВЕДЗЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* увесці: ◊ **Уведзены ў жыццё –** зацверджаны, афіцыйна прыняты, устаноўлены. *.. я* [Купала] *дазнаўся з газет аб той агіднай інтэрвенцкай кампаніі, якую ўзнялі ў Заходняй Беларусі прадажныя беларускія нацыянал-фашысты з прычыны рэформы беларускага правапіса, уведзенага ў жыццё ўрадам Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.* ШБСЯ.

Адз. м. Р. *уведзенага*: ШБСЯ.

**УВЕКАВЕЧЫЦЬ** (2) *зак.* Захаваць назаўсёды, навечна. *Ідзе* [савецкі народ], *ўвекавечыць ідзе І долю, і праўду сваю, Каб воля жыла ў грамадзе І цешыла вольных сям'ю.* ТП, 217. [Янка]: *А ці ж увекавечыць песня змаганне і ўміранне патомкаў? Не!* Т, 35.

Інф. *увекавечыць*: ТП, 217. Абв. буд. адз. 3 ас. *увекавечыць*: Т, 35.

**УВЕРХ** (3) *прысл.* У вышыню, угору, увысь. *Здань за зданьню паўзе, кожна здань – як зьмяя, Тая прэцца уверх, тая цісьнецца к дну.* БН, 92. [Начальнік патруля]: *(спаткаўшы на парозе Мікіту з выстаўленымі рэвальверамі). Стаць! Ні з места! Рукі ўверх!* Т, 59.

**УВЕСЬ** (409) *займ. азначальны.* Цэлы, поўны, без выключэння. *.. "Госиздат" .. за ўвесь год вылучыла дзьве кніжачкі – абедзьве разам 6 3/8 друк. арк..* ВСп, 91. *І вось гэтыя сотні тысяч кніг рассыпяцца па ўсёй Беларусі, каб навучаць там і будзіць беларускую прыспаную думку..* Там жа. // Указвае на вычарпальны ахоп асобных аднародных прадметаў, асоб, з'яў; кожны ў сукупнасці з іншым. [Гарошка]: *Тады ўсе мужчыны і ўсе кабеты, найболей старэйшыя, пакламіся ўпоперак вуліцы: "Хай высяляюць!" – сказалі сабе гэтак..* Т, 43. *Уваходзіць* [Мікіта] *пераадзеты ў сваю чыноўні-*

*цкую форму з усімі адзнакамі..* Там жа, 50. // Усялякі, любы. [Начальнік]: *(разглядаючы дакументы). Польскі?* [Мікіта]: *Зусім польскі з усіх бакоў польскі.* Т, 61. *Баця тчэ сваю павуціну ўсімі сродкамі.* ПЧ. // Уваходзячы па сэнсу ў склад выказніка або азначэння, ужываецца ў значэнні: цалкам, поўнасцю, зусім. *Заработак падлетка амаль не ўвесь ідзе на аплату яго ўтрымання "клапатлівым" Бацем.* ПЧ. *.. неба было ўсё сіняе бяз ніводнае плямачкі..* ХБ, 29. // Пры абстрактных назоўніках указвае на вышэйшую ступень праяўлення якасці, прыметы. *Рэформа правапіса, – што я* [Купала] *мушу з усёй цвёрдасцю падкрэсліць, – з'яўляецца велізарным правільным і своечасовым актам барацьбы за культуру беларускай мовы..* ШБСЯ. *Я* [Купала] *так сьлепа, так упарта на працягу раду год ідэолёгічнымі памылкамі ў сваёй творчасьці .. не дапамагаў з усёй адданасьцю і захапленьнем ажыцьцяўленьню заветных летуценьняў чалавецтва, ажыцьцяўленьню соцыялізму.* АЛ. // Ужываецца ў значэнні прыслоўя "толькі". [Янка]: *І ні колькі лет і ні колькі зім, а ўсяго восем месяцаў, пане рэгістратар, як мы бачыліся.* Т, 45. *Гэй ты, першая мая! Мы адно с табою; Хоць ты літара ўсяго, Дый мая ж затое.* $Ш_1$. *Параўн.* весь *у 1 знач.*

**2.** *У знач. наз.* Усё, усяго; тое, што ёсць, цалкам, без выключэння. *Дужыя, не пытаючыся, забіралі ў слабейшых усё, што маглі толькі забраць..* НДН, 18. *Чытаў я* [Купала] *без разбору усё, што трапляла пад рукі ў глухой правінцыі..* ПС. // У спалучэнні з выш. ст. прысл. і прыназ. "за" паказвае на вышэйшую меру якасці. *Агулам кажучы, трэба больш за ўсё надзеіцца на свае сілы і не агіляцца па бакох.* ВС. [Мікіта]: *А важней за ўсё старайцеся* [Гануля] *як найгусцей у нос.* Т, 22. // *У знач. наз.* У поўным складзе, без выключэння. *Толькі разам усе да працы і самапомачы, бо грамада – вялікі чэлавек!* ВС. *Спадзе ланцуг наш і зазьяе ўсім вясна!* Ж. // Ужываецца ў якасці абагульняючага слова пры пералічэнні. [Начальнік]: *Гэтыя пісталеты, награбленая гарэлка, патака, цяганне чужых рэчаў, служба даношчыкам, усё гэта таксама для нас добрыя паперы, хоць для вас, можа, і дрэнныя паперы.* Т, 62. *І ўсё вы* [бальшавікі] *ўзялі, усё як ёсць: Фабрычны дым, сяўбы загон І панскі двор, і царскі трон...* ПВ. *Параўн.* весь *у 2 знач.*

**3.** *У знач. вык. Разм.* Скончана, канец. [Мікіта]: *Што, мусьі вучоныя, сэанс ужо ўвесь, меджду протчым!* Т, 27.

**4.** З некаторымі назоўнікамі з прыназоўнікам "на" ўтварае ўстойлівыя прыслоўныя словазлучэнні, якія паказваюць

на паўнату, інтэнсіўнасць, сілу праяўлення якога-н. дзеяння. *Як ня выйдуць чорнасотники На благое ўсё ахвотники, Дый на ўсю моц закрычаць: “Думу трэба разагнаць!”* ВЧ.

• **На ўсе рукі. Аб усім патроху.**

◊ **Ад усёй душы** *гл.* душа. **Ад усяго сэрца** *гл.* сэрца. **Вот і ўсё тут** *гл.* вот. **І ўсё тут** (4) – размова скончана, больш нічога. [Гануля]: *Толькі не стукайце* [Янка] *там па-панску ў дзверы, а проста ўваходзьце, і ўсё тут.* Т, 19. *Побач з Госиздатом дрэмле й наша “Палітпрасьвета”, якая надрукавала пабеларуску, як-бы адчэпнага чытыры лістоўкі (№№ 36, 37, 38 табліцы) – і ўсё тут.* ВСп, 91. **З усіх бакоў** *гл.* бок. **З усіх жыл выбіваецца** *гл.* выбівацца. **На ўвесь век** *гл.* век. **На ўсе бакі** *гл.* бок. **На ўсе чатыры стараны** *гл.* старана. **Праз увесь час** *гл.* час. **Усё адно** – няма розніцы. – *Глыток вады, а за яго вазьмеце Вось гэты шаль – цяпер ўжо ўсё адно...* ВБЛ, 80. **Усё роўна** (7) – **а)** аднолькава, няма розніцы. [Янка]: *Не ўдасца вам* [Мікіту] *гэта асэсарства, дадуць вам совбурства, а штосьці ды будзеце мець, бо ці ж вам не ўсё роўна?* Т, 56. [Гануля]: *Ды якая там яна мадама? Проста нейкая ... нейкая...* [Мікіта]: *А хоць бы нават, меджду протчым, і такая нейкая. Усё роўна.* Там жа, 34; **б)** тым не менш; нягледзячы ні на што. [Начальнік]: *Усё роўна не магу йначай.* Т, 62. [Гарошка]: *Нашы ўсё роўна не хацелі пакідаць сваіх загаспадараных сяліб.* Там жа, 43. **Усё роўна як** – быццам бы. [Гануля]: *Усё роўна як той дзед з бабай рэпку сваю – цягнулі-цягнулі, ды ніяк не маглі выцягнуць.* Т, 54. **Усё ў парадку** *гл.* парадак. **Усё (уся, усе) чыста** (7) – без выключэння, поўнасцю, цалкам. *Буйным жыццём усё чыста кіпела, Слава далёка за мора ішла.* Н. – *Хлеб твой ад’елі богі вашы, Мой бог – зямлі ўсёй чыста бог!* УрП, 52. *І усім чыста, што не забыліся на мяне* [Купалу] *у гэты жудкі час, нізка кланяюся і шчыра дзякую.* ЛР. **Усё як ёсць** – літаральна ўсё, *поўнасцю. І ўсё вы* [бальшавікі] *ўзялі, усё як ёсць: Фабрычны дым, сяўбы загон..* ПВ. **Усім сэрцам** *гл.* сэрца. **Усімі сіламі** *гл.* сіла.

Адз. м. Н. *увесь* (13): ВБЛ, 80 (2); ГП, 8; Н; ПЛП; ПЧ (2); СК, 158; СНБ, 336; Т, 27, 51, 61; ХБ, 28. Р. *усяго* (4): ВГР; ЖН; ПЧ; СНБ; *усёга*: Ж. Д. *усяму* (4): Кц, 197; ЖН; МП (2). В. *увесь* (8): АЛ; ВСп, 91 (2); З; ЛР; МІ, 17; СНБ, 338; УрП, 49. Т. *усім*: ЖН. М. *усім* (10): АЛ (2); БВ, 16; Ж; ЖН; З; ОШМ; ПСД; СНБ; Ч, 321. ж. Н. *уся* (15): ВР (3); ЗС, 17; МПв, 218; НДН, 18; См, 91; СС, 300; Т, 39, 46; ХБ, 29; $Ш_3$; $Ш_4$; $Ш_5$; ШБСЯ. Р. *усёй* (8): АПЖ; БрБ, 6; ЛР; Р; Т, 30, 40, 45; УрП, 52; *усея*: Т, 49. Д. *усёй*: БрБ, 6. В. *усю* (15): А, 328; АЛ (3);

ВЧ; Д, 72; Пт; РКП (2); СНБ, 337; Т, 25, 27, 33, 40, 46; *всю*: Т, 39. Т. *усей* (7): АЛ; ВГР; ЖН; Т, 43; УрП, 50 (2); ШБСЯ. М. *усей* (5): БСУ; ВСп, 91; ГВУ; Р; СМ. н. Н. *усё* (66): А, 328; АБ, 16; АЛ; Ан, 19; В; ВБЛ, 80; ВР; ВСп, 91; ГВУ; ДК (2); З; ЗС, 18; Кц, 192 (2), 197; Н (2); НДН, 18; ОШМ (3); ПВ; Р (2); СНБ; Т, 19 (2), 21 (2), 22 (2), 23 (2), 27, 32, 37 (2), 41, 43 (2), 44, 45, 48 (2), 50 (2), 52, 53, 54, 56 (3), 61, 62 (3); Тж, 15 (2), 16; УрП, 46; ХБ, 28, 29; ЧС, 50-51; $Ш_1$; $Ш_2$. Р. *усяго* (26): Ан, 19; ВГР; ВМР; ВСп, 89 (3), 90 (2); ДЖ; МІ, 17; ПЛП (3); СБ; СТ; СЧ; Т, 25, 34, 42 (2), 46, 55, 60; УПУВ; Ч, 325; $Ш_1$. В. *усё* (51): А, 328; АЛ; БВ, 16; ВС; ВСп, 91; ДЖ (2); Дз, 191; ДК (2); ЖН (2); З (2); Кц, 192; М, 19, 20; МІ, 17; НДН, 18 (2); ОШМ; ПВ (2); ПЛП; ПС (3); ПЧ; РКр; РКП; РС, 40; СНБ; СП; СС, 300, 302 (2); СЧ; Т, 19, 22, 34 (2), 37, 40, 44, 50, 51, 57; Тж, 16; УрП, 46; ХБ, 29; Ч, 321. Т. *усім* (8): ЖН (2); З; МІ, 17; МП; НДп, 229; СС, 300; Ч, 325. М. *усім* (3): ВН; ПДз; Т, 23. Мн. Н. *усе* (54): В (2); ВБЛ, 83; ВМР (4); ВС; ВСп, 90; Г, 16; ГЖУ (2); Дз, 189; ДК; Ж; Кц, 193, 194, 195, 196; Н; НДН, 19 (4); Нз, 14; НК; ОШМ (2); ПБН; ПНд, 314; ПСД; ПСп; РКр; СНБ, 340; СНБ; Т, 22, 27, 28 (2), 34 (2), 39, 40, 43 (2), 45, 48, 53, 62; Тж, 15; 16 (2); УрП, 52. Р. *усіх* (33): АЛ (2); АПЖ; БСУ (2); Бч, 9; В; ВД; ВН; ЖН; З; ЗС, 17, 18; НДН, 18; НКУС; ПЛП; ПСД (2); СНБ (2); СТ; Т, 27, 40, 41, 46 (4), 61; УПУВ; Ч, 325; ШБСЯ (2). Д. *усім* (20): АБ, 16; АЛ; Ан, 19; БН, 92; БС; ВМР; Ж; ЛР (2); НДН, 18; Нз, 14; ПСД; ПЧ; Т, 31 (3), 39, 51, 57; ЧС, 50-51. В. *усе* (35): А, 327; АБ, 16; АЛ (2); АПЖ; БСУ; В; ВН; ВС (2); ДК; З; ЗС, 17; Кц, 194, 196; МП (2); ПС; ПЧ; СБ; СБНГ; СНБ, 337; СНБ (2); Т, 23, 35, 38, 46, 55, 58, 60; УрП, 48, 50; УР; Ч, 323. Т. *усімі* (12): АЛ; Б, 18; БВ, 16; ВГР; ВСп, 91; ДЖ; ЖН; ПЛП; ПЧ; СНБ; Т, 25, 50. М. *усіх* (8): А, 328; АЛ (2); ВС; ВСп, 89; НДН, 19; Т, 23, 43.

**[УВІДЗЕЦЬ]** *зак. Руск.* Апынуўшыся дзе-н., самому пабачыць што-н. *Як дамоў вярнуўся меншы* [сын]*, Сьвету як увідзеў, – Аказаўся дасьціпнейшы, Чым сярэдні, ў крыўдзе.* Дз, 190.

Абв. пр. адз. м. *увідзеў*: Дз, 190.

**УВОЗІЦЬ** *незак.* Завозіць, дастаўляць куды-н. [Мікіта]: .. *контрабанда, іначай кажучы – рэчы, якія увозіць у Менск забаронена: мука, крупы, бульба, сала, масла, цыбуля, рэдзька і гэтаму, меджду протчым, падобнае.* Т, 45.

Інф. *увозіць*: Т, 45.

**УВОЛЬНЕНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* уволіць. *Польск.* Вызвалены; свабодны. *Асабісты ваенны налог будзе выбірацца с тых, хто па якой колечы прычыне увольнены ад*

*адбываньня воінскай павіннасьці..* ВН.

Адз. м. Н. *увольнены*: ВН.

**ЎВОЛЮ** (2) *прысл.* Многа, у поўным дастатку. *Шоў* [унук] *цераз сад, дзе валялася ўволю На зямлі яблык.* Ун, 73.

◊ **Даць волі ўволю** *гл.* даць. Ч, 323.

**УВОСЕНЬ** *прысл.* У асенні час, восенню. *З надзеяй сустракаем выраі вясной, З надзеяй ўвосень іх праводзім над папарам.* НГ.

**УВЫСЬ** (4) *прысл.* **1.** Уверх, угару, увышыню. *Я не знаю месяца Больш за май шчаслівага, .. Калі вербы ніцыя Рвуцца ўвысь галінамі..* ПЛ. Кр, 78; Кц, 194.

**2.** *перан.* Наперад да дасціжэння пастаўленай мэты. *Іскрыцца пад молатам сталь, А молат не біў так калісь. А гордыя сокалы ўдаль! .. А гордыя сокалы ўвысь!..* ТП, 215. *Параўн.* удаль *у 2 знач.*

◊ **Узнесціся ўвысь** *гл.* узнесціся.

**УВЫШКІ** (2) *прысл. Разм.* Увысь, угару. [Мікіта]: *Буржуазія з кожным днём ад недастаткаў таўсцела – казаў той – расла не ўвышкі, а ўпапярэчкі, меджду протчым, як той гарбуз, а пролетарыят ад роскашы цянеў – казаў той – рос не ўпапярэчкі, а ўвышкі, меджду протчым, як тая тычка.* Т, 40.

**[УГАВАРЫЦЦА]** *зак.* Загадзя дамовіцца, згаварыцца. [Аленка]: *Здаецца, мы ўгаварыліся тут пачакаць на татку?* Т, 35.

Абв. пр. мн. *угаварыліся*: Т, 35.

**УГАВАРЫЦЬ** *зак.* Супакоіць, уцешыць. .. *а мы* [беларусы] .. *стараліся сабе угаварыць, што так і трэба, каб хтось панаваў, а часта казалі, што гэта так Бог даў.* БС.

Інф. *угаварыць*: БС.

**[УГАДАЦЬ]** *зак.* Вызначыць што-н.; здагадацца аб чым-н. [Мікіта]: *Уся бяда была ў тым, што я не ўгадаў, на якую, меджду протчым, стануць пляцформу, дзеля гэтага паслізнуўся і быў змушаны прымусова зыйсці з трыбуны.* Т, 46.

Абв. пр. адз. м. *угадаў*: Т, 46.

**УГАРЫ** *прысл.* Уверсе. *Путы звонка бразджаць і ўгары і ўнізу, Жутка вісельні граюць, сьлізгоча пятля..* БН, 92.

**УГЛЕДЗЕЎШЫСЯ** *дзеепрысл. да* угледзець. [Поп]: *(пільна ўгледзеўшыся ў вакно, потым да танцуючых). Чады мое, остановіцесь!* Т, 52.

**[УГЛЕДЗЕЦЦА]** *зак. да* ўглядацца. *Стань* [брат-беларус], *нахіліся над ракой. Ў плакучы ўгледзься пералівы..* БрБ, 6.

Заг. адз. 2 ас. *угледзься*: БрБ, 6.

**[УГЛЯДАЦЦА]** *незак.* Уважліва ўзірацца; прыглядацца.

[Гануля]: *(гледзячы ў вакно). Нікога не відаць, толькі мамзэль Наста панеслася, як вецер.* [Мікіта]: *Лепей углядайцеся.* Т, 59.

Заг. мн. 2 ас. *углядайцеся*: Т, 59.

**УГЛЯДАЮЧЫСЯ** (2) *дзеепрысл. да* ўглядацца. [Дама]: *(углядаючыся пільна цераз акуляры з ручкай на Мікіту). Што гэта ў вас, мусье, за такі арыгінальны ўбор?* Т, 24. [Гануля]: *(углядаючыся ў вакно, пасля паўзы). Здаецца, ужо пачынаецца.* Там жа, 58.

**[УГНАІЦЦА]** *зак. Вобразн.* Напоўніцца. *Заціхнуць гарматы байніц, Не ўгнояцца нівы крывёй.* ТП, 216.

Абв. буд. мн. 3 ас. *угнояцца*: ТП, 216.

**[УГНЯЦЕНЬНЕ]** *н. Руск.* Прыгнёт. *Лёзунгу аб'яднання рабочых і сялян-беднякоў і сераднякоў .. контррэволюцыйныя беларускія нацыянал-дэмократы супроцьставілі лёзунг самабытнасьці беларускай нацыі, .. каб гэтым самым аблегчыць сваёй нацыянальнай буржуазіі перамогу, панаваньне і ўгняценьне беларускіх працоўных мас.* АЛ.

Адз. В. *угняценьне*: АЛ.

**УГОДНІК** (2) *м. Уст.* Той, хто ўгадзіў богу сваім бязгрэшным жыццём; святы. [Гануля]: *(да папа). Бацюшка духавы, святы ўгоднік! Калі ласка, яшчэ вось гэты таўсцейшы кусочак.* Т, 28. [Мікіта]: *(да Ганулі, наботк). Меджду протчым, мамаша, не святы ўгоднік, а ацец духоўны...* Там жа, 28.

Адз. Н. *угоднік* (2): Т, 28 (2).

**[УДАВА]** (2) *ж.* Жанчына, якая не выйшла замуж пасля смерці мужа. *Над курганамі галасілі Сіроты, ўдовы, жабракі..* ГП, 8. *Ах вы, грудзі мае, Двухфунтовыя! Цяпер ходзяць у нас Дзеўкі ўдовамі.* ВБЛ, 83.

Мн. Н. *удовы*: ГП, 8. Т. *удовамі*: ВБЛ, 82.

**[УДАВАНЫ]** (2) *прым. Разм.* Прытворны, няшчыры. [Аленка]: *(з удаваным смуткам). Не ляжыць у таткі сэрца да іх* [гасцей]*, ой, не ляжыць!* Т, 29. [Аленка]: *Дзень добры, пане рэгістратар! (З удаваным смуткам.) Толькі ж я не мамзэль, а ўжо мадама.* Там жа, 54.

Адз. м. Т. *удаваным* (2): Т, 29, 54.

**[УДАВАЦЦА]** *незак.* Атрымлівацца, выходзіць добрым. *Наколькі ёй* [сацыяльнай рэвалюцыі] *гэта удаецца – пакажа будучына, але пакуль што усе дзяржавы, апрача, разумеецца, Вялікарусі, ўсімі сіламі стараюцца адхрысьціцца ад гэтага раю.* СНБ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *удаецца*: СНБ.

**[УДАВАЦЬ]** *незак. Разм.* Рабіць выгляд, прыкідвацца. [Мікіта]; (*набок). Але, мабыць, гэта мне здаецца, або ён*

[Немец] *удае, што ўмее па-тутэйшаму.* Т, 32.
Абв. цяп. адз. 3 ас. *адe*: Т, 32.

**[УДАВІЦЦА]** *зак. перан.* Ужываецца для выражэння непрыхільных, варожых адносін да каго-н. *А то мне* [пану Кавалюку] *халэмус прыйдзе, Ці павешуся на жыдзе, Ці палякам удаўлюся, Ці уп'юся, павалюся.* ЛПК.
Абв. буд. адз. 1 ас. *удаўлюся*: ЛПК.

**УДАЛА** *прысл.* Паспяхова, удачна. *Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў, .. Што справа тваіх* [Сталіна] *дум адна за адною Так зменяць удала мне вёснамі зімы.* ТП, 215.

**УДАЛЫ** (7) *прым.* **1.** Смелы, адважны, храбры. *Ідзе армія ўдалая, Не знае трывогі..* ЗЯЗ, 90.

**2.** Добры, слаўны. [Гарошка]: *Удалы* [Юрка] *дзяцюк быў, ах які ўдалы!* Т, 44. *Даўно была – мо тысячу год назад, а мо яшчэ болей, – як сталі жыць, размнажацца і ў славу расці ўдалыя прашчуры нашы – дрэговічы, крывічы і палачане.* Кз, 17.

**3.** Таленавіты. *Рос і гадаваўся у бядзе, без хлеба Сулейман гаротны наш пясняр удалы.* ПСС, 231.

**4.** Статны, прыгожы. *З табою* [трактарам] *паедзе Стаханавец новы, Гэткі ўдалы, стройны, Стройны, светлабровы.* ПТ, 208.
Адз. м. Н. *удалы* (4): ПСС, 231; ПТ, 208; Т, 44 (2). Т. *удалым*: ВВ, 263. ж. Н. *удалая*: ЗЯЗ, 90. Мн. Н. *удалыя*. Кз, 17.

**УДАЛЬ** (2) *прысл. Руск.* **1.** Удалечыню. [Спічыні]: *Крыху не так – прасцей фігуру і вышэй галаву, вочы – удаль.* Т, 40.

**2.** *Тое, што* ўвысь *у 2 знач. Іскрыцца пад молатам сталь, А молат не біў так калісь. А гордыя сокалы ўдаль!.. А гордыя сокалы ўвысь!..* ТП, 215.

**УДАР** (2) *м. перан.* **1.** Раптоўнае, нечаканае наступленне чаго-н. (пра з'явы прыроды). *У параўн. Паўстань з народу нашага пясняр, Былых і будучых вякоў баян, І ў бурны кліч, як буры ўдар, З віхрамі загудзі пад звон кайдан!* Пт.

**2.** Рашучае дзеянне, накіраванае на спыненне, знішчэнне чаго-н. .. *група контррэволюцыйных нацыянал-дэмакратычных інтэлігентоў .. на працягу раду год вяла шкодніцкую работу амаль на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва, накіроўваючы галоўныя ўдары, аднак, па лініі культуры і зямельнай экономікі.* АЛ.
Адз. Н. *удар*: Пт. Мн. В. *удары*: АЛ.

**УДАРЫЦЬ** (3) *зак.* **1.** Нанесці ўдар, стукнуць. *Можаш з сэрца свайго молат выкуць, Толькі ўдарыць ня сьмей ім, а сьмейся!* См, 90.

**2.** Раздацца, прагучаць. *Бо час як надыйдзе і гром бітвы*

*ўдара, І трубы затрубяць, паклічуць у бой Супроць банд фашысцкіх, пагромаў, пажараў Народ беларускі паўстане з табой* [Варашылавым]. НДп, 229.

**3.** Зайграць. *А як ўдарыў па струне, Заметушыліся* [людзі], *як пчолы, І на гарэ, і нізіне Мне* [ганцу] *падавалі голас кволы*. Кц, 195.

Інф. *ударыць*: См, 90. Абв. пр. адз. м. *ударыў*: Кц, 195. Буд. адз. 3 ас. *удара*: НДп, 229.

**[УДАСКАНАЛЕНЫ]** і *разм.* **[УДОСКОНАЛЁНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* удасканаліць. *У знач. прым.* Вельмі дасканалы. *Паколькі даўно ўстаноўлена, што самая ўдасканаленая спадніца без адпаведных ног не здольна да руху ці якой-небудзь іншай дзейнасці, было відавочна, што гэта фрыцы.* ПСп. // *У знач. вык.* [Заходні вучоны]: *Мова ойчыста – огульнопольска, незвычайне удосконалёна..* Т, 26. *Параўн.* усовершэнствованный.

Адз. ж. Н. *удасканаленая*: ПСп. Кар. адз. ж. Н. *удосконалёна*: Т, 26.

**[УДАСТОЙНІЦЬ]** *зак. Навaтв.* Прышпіліць да мудзіра пагоны. [Спраўнік]: *Тады дазвольце і я свой мундзір удастойню. (Дастае з кішэні пагоны і прышпільвае).* Т, 25.

Абв. буд. адз. 1 ас. *удастойню*: Т, 25.

**[УДАЦЦА]** (9) *зак.* **1.** Вырасці якім-н., набыць якія-н. рысы характару. *Ды ўдаліся, ой, сынкі мне* [маці] *Не аднэй натуры, Як бы тыя ноткі ў гымне Цішы і віхуры.* Дз, 189.

**2.** Атрымаць якія-н. якасці ад нараджэння. *Песні яго* [Сулеймана Стальскага] *ў людзі Вышлі гулка, дзіўна, – Ўдаўся у ашуга Голас салаўіны.* ПСС, 232.

**3.** Аказацца магчымым зрабіць хто-н. *Па нейкім часе удалося там* [у Вільні] *склікаць Раду Віленшчыны і Горадзеншчыны.* СНБ. [Мікіта]: *Думаю, што мне ўдасца злавіць, меджду протчым, якога немца і ўсучыць яму ягоныя маркі.* Т, 34.

Абв. пр. адз. м. *удаўся* (2): ПСС, 232; $Ш_2$. н. *удалося* (3): ПЧ; СНБ; Т, 40. Мн. *удаліся*: Дз, 189. Буд адз. 3 ас. *удасца* (3): Т, 34 (2), 56.

**[УДАЧА]** *ж.* Поспех, шчаслівае завяршэнне якой-н. справы. *Я* [Купала] *дзякую тав. Гікало, які заўсёды ўважліва адклікаўся на мае ўдачы і няўдачы на творчым шляху.* ЖН.

Мн. В. *удачы*: ЖН.

**УДАЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* ўдавацца. Унікаючы ў што-н. *Я, не ўдаючыся ў далейшую гутарку, схапіў газэты і папёрся дамоў.* Ан, 19.

**УДВАЁМ** (2) *прысл. Руск.* Удваіх. *Два дружкі – груган з*

*ваўком Неяк раз сышліся, Важнай гутарцы ўдваём Важна аддаліся.* Пц. – *Слаўна мы жылі ўдваём, Сыта дні праходзяць, – Так сабе груган з ваўком Гутарку разводзяць.* Там жа.

**[УДЗЕЛ]** (3) *м.* Сумесная дзейнасць пры выкананні чаго-н. .. *я* [Купала] .. *быў уцягнуты ім* [нацыянал-дэмакратычным асяроддзем] *і прыняў самы блізкі ўдзел у контррэвалюцыйнай рабоце віднейшых беларускіх нацыянал-дэмакратаў..* АЛ. .. *гэта дае яму* [Баці] *повад гаварыць пра ўдзел рабочых у прыбытках, пра сваё "акцыянерства" з рабочымі.* ПЧ.

Адз. В. *удзел* (3): АЛ; ПЧ; СЧ.

**[УДЗЕЛЬНІК]** *м.* Той, хто прымае ўдзел у чым-н. .. *ні на хвіліну не пакідаў* [т. Кальцоў] *сваіх таварыскіх клопатаў пра кожнага ўдзельніка дэлегацыі.* ПЧ.

Адз. В. *удзельніка*: ПЧ.

**УДЗЕЛЬНІЧАЦЬ** (2) *незак.* Прымаць удзел у чым-н. *У замучанай царызмам Беларусі, як і ва ўсёй Расійскай імперыі, працоўныя былі пазбаўлены права ўдзельнічаць у якой-бы то ні было дзяржаўнай рабоце.* ГВУ. *Ад казахскага чабана да прафесара, ад беларускага пастуха да стаханаўца – усе насельніцтва будзе ўдзельнічаць у адзіна дэмакратычных у свеце выбарах.* Там жа.

Інф. *удзельнічаць* (2): ГВУ (2).

**УДЗЕНЬ** (2) *прысл.* Днём. *Сягоння мы* [беларусы] *жывём і ўдзень мы блудзім Пад маскай, асляпляючаю нас..* Бч, 9.

◊ **Удзень і ў ночы –** пастаянна, увесь час. *Каб таму маланкай Асьляпіла вочы І блукаў абмацкам Ён удзень і ў ночы, – Хто для нашых дзетак Хоча асьляпленьня..* К.

**[УДЗЯЛІЦЬ]** *зак. перан.* Прысвяціць чаму-н. *У шасьці надрукаваных за мінулы год выпусках "Вестник" удзяліў 186 старонак для беларускага пісьменства.* ВСп, 90.

Абв. пр. адз. м. *удзяліў*: ВСп, 90.

**[ЎДЗЯТКАДАЙНЫ]** *прым. Разм.* Які мае адносіны дадавання ўзяткі. [Янка]: .. *вы* [Мікіта] *ад гэткіх вучоных чэрпаеце сабе ўдзяткадайны клёк для падтрымання сваіх рэгістратарскіх кар'ераў у тутэйшым краі.* Т, 39.

Адз. м. В. *удзяткадайны*: Т, 39.

**[УДЗЯЧНЫ]** (2) *прым.* Які выказвае ўдзячнасць. [Аленка]: *Прымеце, калі ласка, дзядзька настаўнік, гэту драбніцу ад сваёй шчыра вам удзячнай і адданай вучаніцы.* Т, 30. // *У знач. вык.* [Мікіта]: *Калі і выходзіць у мяне такое-сякое, меджду протчым, "па", то мушу быць удзячным нашаму з Юраўскай вуліцы танц-клясісту Грачаніну.* Т, 29. *Параўн.* благодарный, вдзенчны.

Адз. м. Т. *удзячным*: Т, 29. ж. Р. *удзячнай*: Т, 30.

**УДОСКОНАЛЁНЫ** *гл.* **УДАСКАНАЛЕНЫ**.

**УДОЎЖ** *прысл.*: ◊ **Удоўж і ўшыр** – ва ўсіх напрамках, усюды. *Зямлю і неба ўдоўж і ўшыр Так кожнай зведаваць хвілінай..* МСП, 187.

**УДОЎЖКІ** *прысл. Разм:* ◊ **І ўдожкі, і ўшыр –** *тое што* ўдоўж і ўшыр. *Ты, мудры, прышоў, правадыр, – Апалі туманы, імгла, Па свеце і ўдоўжкі, і ўшыр Шчаслівая слава пайшла.* ТП, 214.

**УДОЎКА** *ж. Разм. Ласк. да* ўдава. *Плача горка ўдоўка, Плача горка маці Па забітым мужу, Спаленым дзіцяці.* МПв, 219.

Адз. Н. *ўдоўка*: МПв, 219.

**УДРУГ** *прысл. Руск. Тое, што* раптам. *Яна* [пані] *ўдруг страшна закрычала и кинулася да дзеўчынки..* ПДз.

**УДУМАЎШЫСЯ** *дзеепрысл. да* удумацца. *Азірнуўшыся ясным вокам і ўдумаўшыся шчырай думкай на пройдзеныя гэтыя 15 год, мы бачым якіх, – здавалася-б недасяглых – дасяглі мы перамог у вялікім соцыялістычным будаўніцтве..* ШБСЯ.

**УДУМАЦЦА** *зак.* Уважліва абдумаць, асэнсаваць штон. *І вось калі ўдумацца ў усё гэта, то мы ўбачым, што кожная такая дзяржава, якая на рахунак чужых зямель хоча пашырыць сваё панаванне, ніколі не будзе спрыяць для народа гэтых забраных зямель.* НДН, 18.

Інф. *удумацца*: НДН, 18.

**[УЕСЦІСЯ]** *зак. перан.* Глыбока ўкараніцца. *Грудзі здавілі мне* [Нёмну] *хмары навалай, Пошасць уелася ў матку-зямлю.* Н.

Абв. пр. адз. ж. *уелася*: Н.

**[УЖАТАК]** *м. Польк.* Сабранае збожжа. *Пры ім* [гумне] *стажкі ўжатку, Ня стоўпілісь ў гарудах, – пабачыш з намеку.* ХБ, 28.

Адз. Р. *ужатку*: ХБ, 28.

**УЖО**[1] *прысл.* (150) **1.** Указвае на наступленне, канчатковае завяршэнне якога-н. дзеяння, стану, прыкметы. .. *ўжо нявідзіма рука На небе поўнач азначае.* Кц, 197. [Дама]: *Дзякуючы таму, што мы ўжо частаваліся, паўторым сягоння толькі другу частку програмы таго вечару.* Т, 51. // Зараз, цяпер. *Ня ўмруць, ня ўмруць ужо яны* [людзі] *Раз хочуць сонца, славы, песьні..* Кц, 196. [Аленка]: *(з удаваным смуткам). Толькі ж я не мамзэль, а ўжо мадама.* Т, 54. // Яшчэ (пры абазначэнні часу). *Думка гэта ўжо даўно жыла і развівалася на цэлым свеце..* НДН, 18. .. *і расійскія "кадэты" ўжо тады*

*падзялілі Беларусь на дзьве часткі: заходняя – палякам, усходняя – расійцам.* У.

АБ, 16; АЛ; Ан, 18, 19 (2); Б, 18; БВ, 16 (5); БЗ; БрБ, 6; В; Вб, 237; ВБЛ, 80 (3); ВМР; ВР; ВС; ВСп, 89; ВЧ; Г, 17 (3); ГНД; ДД; Дз, 190; ЗС, 17, 18; ЗЯЗ, 90 (2); Кц, 192, 195, 196; ЛР; МІ, 17; МП (2); Н (4); НДН, 19 (3); НДп, 229 (2); Нз, 14; НК; ОШМ; ПВ (2); ПН, 46, 47; ПС (2); ПСД; Пц; СБНГ (2); СНБ, 339 (3), 340 (2); СНБ (2); Т, 19, 20, 21 (2), 22, 23, 24 (2), 25, 27 (2), 29, 31, 32, 34 (3), 35 (4), 37, 38 (4), 40 (2), 41 (2), 42 (3), 44 (2), 45 (3), 46 (2), 48 (2), 49 (3), 51, 52; 53 (2), 54, 55 (3), 56, 58, 59 (2); Тж, 16; ТЗУ, 293; ТС, 74; ХБЛ, 30; ХЛВ, 316; Ч, 320 (2); Чж, 147; ЧС, 50–51; $Ш_4$.

**2.** Нарэшце. *Пара ўжо беларусам самым падаць свой голас!* ВР. *Эй, годзе ўжо песень маркотных, пясьняр! Дай волю парывам гарачым..* Пр. БС; ВСп, 90; Г, 16; ДК; Т, 39; УрП, 49.

**УЖО²** *часц.* (24). Ужываецца для падкрэслівання якога-н. слова. *Уміралі, будуць уміраці людзі, – Такая ўжо доля, чалавека...* ПСС, 231. [Мікіта]: *(перабіваючы). Я не зусім такі ўжо несвядомы, меджду протчым, беларус – нават з вашай* [беларускай] *літаратурай знаёмы.* Т, 56. [Янка]: *(вітаючыся з Гануляй). Даўненька ўжо з вамі не бачыліся!* Т, 44. // Нават. *Ужо адно тое, што мы* [беларусы] *дамагаемся быць самі гаспадарамі толькі таго абшару, дзе жывуць беларусы ў яго этнаграфічных межах, – ужо гэта даводзе, што мы падняволіць нікога не думаем.* НДН, 18.

Ан, 19; ВБЛ, 80; ВГ; ВСп, 89; Г, 17; Д, 72; ДК; КП, 170; ОШМ; ПН, 46; Т, 20, 21, 23, 30, 41. 44 (2); ХЛВ, 315; $Ш_2$.

**[УЖЫВАЦЦА]** *незак.* Выкарыстоўвацца, прымяняцца. *.. яго* [міліцэйскага ўрадніка] *вымова нарушае прыказ вышэйшай улады, подлуг каторага беларуская мова ужываецца нараўне з польскай..* ОШМ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *ужываецца*: ОШМ.

**[УЖЫВАЦЬ]** (2) *незак.* Выкарыстоўваць у мове, абыходжанні. *Мы памятаем, як польская соймавая камісія была вельмі нездаволена, калі адзін беларускі дзеяч у размове з ёю ужыў слова окупацыя.* ОШМ. [Мікіта]: *Вось, калі хто з іх* [гасцей] *звернецца да вас* [Ганулі] *з якім словам, то вы старайцеся адказваць у нос і меней ужывайце простых выразаў.* Т, 22.

Абв. пр. адз. м. *ужыў*: ОШМ. Заг. мн. 2 ас. *ужывайце*: Т, 22.

**УЖЫЎЧЫВЫ** *прым.* Які ўмее мірна жыць, ладзіць з другімі людзьмі. *Бо ці ж знойдзецца на свеце болей дэмакратычны па сваёй прыродзе і ўжыўчывы народ, як народ беларускі?* НДН, 19.

Адз. м. Н. *ужыўчывы*: НДН, 19.

**УЖЫЦЬ** *зак.* Выкарыстаць, прымяніць. *А ня шкодзіла-б ужыць крыху сьмеласьці й замяніць гэтыя чужатворы, якія нічога ня кажуць ні розуму ні сэрцу..* ВСп, 89.

Інф. *ужыць*: ВСп, 89.

**УЗАПЕРЦІ** *прысл. Руск.* Пад замком. *Трох сыноў чараўнік на сьвет белы выводзіў, Трох сыноў, што хаваў узаперці..* Ч, 319.

**УЗАРВАЦЬ** *зак. перан.* Нанесці шкоду, падарваць, разладзіць. *.. усе гэта пускаецца ў ход, каб толькі зруйнаваць такія бастыёны соцыялізму, як індустрыялізацыя і колектывізацыя, абы толькі ўзарваць пяцігадовы план..* АЛ.

Інф. *узарваць*: АЛ.

**[УЗБАГАЧЭННЕ]** *н.* Набыццё багацця, заможнасці. *Гэты* [стаханаўскі] *рух дае такія магчымасці росквіту нашай радзімы, узбагачэння яе і праз гэта-ж такога палепшання добрабыта рабочых і калгаснікаў, што цяжка нават прадбачыць зараз у марах.* СТ.

Адз. Р. *узбагачэння*: СТ.

**УЗБРЫЎШЫ** *дзеепрысл. да* узбрысці. Прыйшоўшы. *На пустку ўзбрыўшы, воўк завыў, Пуціну заяц перамерыў...* Кц, 197.

**[УЗБУНТАВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* узбунтаваць. Які падняў бунт, паўстанне. *Калі ў Гішпаніі ўзбунтаваны людзі З сваёй краіны выгналі вас* [жыдоў] *напасьмех, На беларускім полі вашы грудзі Навек знайшлі дняванне, страву і начлег.* Ж.

Кар. мн. Н. *узбунтаваны*: Ж.

**[УЗБУРАЦЦА]** *незак. перан.* Праяўляцца, адбывацца. *.. і ў гэты пэрыод, хоць прыдушана* [сацыяльная і нацыянальная барацьба за вызваленне], *але хвалявалася, узбуралася ў імкненьнях і парывах працоўных мас (нелегальная рэволюцыйная літаратура, забастоўкі і г.д.).* АЛ.

Абв. пр. адз. ж. *узбуралася*: АЛ.

**[УЗГАДАВАЦЬ]** *зак. перан.* Выгадаваць, вырасціць. *Сонейка, зоркі цябе* [Сталіна] *ўзгадавалі На радасць людзей і стагоддзяў.* СС, 301.

Абв. пр. мн. *узгадавалі*: СС, 301.

**[УЗГАДОВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* ўзгадаваць. Сфарміраваны духоўна. *Сям'ёю народаў шчаслівага краю Табой* [Сталіным] *узгадованых у барацьбе – свайго вызвалення мы дзень услаўляем.* ПБН.

Мн. Р. *узгадованых*: ПБН.

**[УЗГОР]** (3) *м. Тое, што* узгорак. *Ідзі* [брат-беларус] *на ўзгор, на камень сядзь, Што пашчапаў пярун на часці..* БрБ,

6. // Магільны насып. *Ён* [сын] *насыпе пяшчаны узгор нада мною* [чараўніком], *І таптаці узгор гэты будзе.* Ч, 320 (2).

Адз. В. *узгор* (3): БрБ, 6; Ч, 320 (2).

**УЗГОРАК** (2) *м.* Узвышэнне з пакатымі схіламі, пагора. ... *У нашай свяшчэннай барацьбе з заклятым ворагам – нямецкім фашызмам – ваюе кожны дом, кожнае дрэва, кожны ўзгорак.* РКП. *Між такімі палямі – намесь – пры ручаю, На ўзгорку невялікім, у бярозавым гаі, Сьвяціў шляхецкі хорам..* ХБ, 28. *Параўн.* узгор.

Адз. Н. *узгорак*: РКП. М. *узгорку*: ХБ, 28.

**[УЗГОРКАВАТЫ]** *прым. Разм.* Узгорысты. *Краіны* [Чэхаславакія] *ўзгоркаватая, нагадвае некаторыя раёны нашай Беларусі.* ПЧ.

Адз. ж. Н. *узгоркаватая*: ПЧ.

**[УЗДЗЕЦЬ]** і **[УЗЬДЗЕЦЬ]** *зак.*: ◊ **Узьдзець лапці, сермягі** – давесці да галечы, жабрацтва. *Сьлепа зракліся* [чужыя людзі] *сораму, ўвагі, Ў хорамы селі, - Брацьцям-жэ ўзьдзелі лапці, сермягі, Торбы надзелі...* Чж, 147. **Ярмо уздзець** *гл.* ярмо.

Абв. пр. мн. *уздзелі*: Н; *узьдзелі*: Чж, 147.

**[УЗДОХ]** *м. Руск.* Уздых. *Апускаецца* [Мікіта] *з уздохам на лаўку, кладзе на паруччы рукі, звешвае на іх галаву і ўпадае ў глыбокую напаўсонную задуму.* Т, 43.

Адз. Т. *уздохам*: Т, 43.

**[УЗДУМАЦЬ]** (2) *зак.* Нечакана задумаць, захацець зрабіць што-н. [Ануля]: *(складваючы манаткі). Толькі пільнуйся, сынок, каб не уздумаў* [немец] *цягнуць цябе ў палон і пры адступленні, як тады – пры наступленні.* Т, 34. [Мікіта]: *(адыходзіць ад сваіх гасцей, да Ганулі, набок). Хаця не ўздумайце яшчэ за стол іх* [Гарошку, Аленку і Янку] *садзіць.* Там жа, 25.

Абв. пр. адз. м. *уздумаў*: Т, 34. Заг. мн. 2 ас. *уздумайце*: Т, 25.

**[УЗДЫМ]** (2) *м.* **1.** Рост, развіццё чаго-н. *І я* [Купала] *...ўсім сэрцам жадаю выліць у свае песні вясёлкавую радасць, горды і радасны творчы ўздым найшырэйшых народных мас нашай рэспублікі.* ЖН.

**2.** Натхненне, прыліў энэргіі. .. *пяцігадовы план .. ажыццяўляецца нячуваным уздымам і захапленьнем рабочай клясы і бядняцка-серадняцкага сялянства пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі.* АЛ.

Адз. В. *уздым*: ЖН. Т. *уздымам*: АЛ.

**[УЗДЫМАЦЬ]** *незак.*: ◊ **Сцяг уздымаць –** імкнуцца да чаго-н. *Арліныя крыллі Душа твая* [Т.С. Жывапісцавай] *мае,*

*К красе яна й сіле Свой сцяг уздымае.* АК.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *уздымае*: АК.

**[УЗНЯЦЦА]** *зак. перан.* Паўстаць. *На бой з ворагам уздымуцца нашы бясстрашныя знішчальнікі і бамбавозы.* ВГ.

Абв. буд. мн. 3 ас. *уздымуцца*: ВГ.

**[УЗДЫХАЦЬ]** (3) і **УЗДЫХАЦІ** *незак.* Уздыхам перадаваць сум, шкадаванне аб чым-н. *Уздыхае* [трэці сын]*, чакае збаўленчай дзяніны, Не дае, што ня мае, раскрасьці.* Ч, 321. *І мы* [беларусы] *стагналі, уздыхалі і чакалі.* БС. // Сумаваць, тужыць па чым-н. *Па шчасьці нязведаным грэшгы народ Ўздыхаў, як канюх за вадою.* ПН, 46.

◊ **Да сэрца ўздыхаці –** прасіць ратунку. *І не важся да сэрца ўздыхаці, Ласкі ждаць... Хоць крывёю, а сьмейся!* См, 91.

Інф. *уздыхаці*: См, 91. Абв. цяп. адз. 3 ас. *уздыхае*: Ч, 321. Пр. адз. м. *уздыхаў*: ПН, 46. Мн. *уздыхалі*: БС.

**УЗДЫХАЮЧЫ** (2) *дзеепрысл. да* ўздыхаць. *.. а мы* [беларусы] *шчыра служылі ім* [чынам]*, як нявольнікі, ды уздыхаючы і заціскаючы кулакі, стараліся сабе угаварыць, што так і трэба, каб хтось панаваў..* БС. *77 год была Вільня сіратою, уздыхаючы па тых сьветлых часінах, калі яе унівэрсытэт кіпеу мудрым жыцьцём..* УПУВ.

**[УЗДЫХНУЦЦА]** *зак.*: ◊ **Вольна ўздыхнулася –** пра адчуванне палёгкі. *Вольна ўздыхнулася, калі пераехалі мы* [савецкія дэлегаты] *праз мяжу ў СССР..* ПЧ.

Абв. пр. адз. н. *уздыхнулася*: ПЧ.

**[УЗДЫХНУЦЬ]** *зак.*: ◊ **З аблягчэннем уздыхнуць** – адчуць палёгку, вызваліўшыся ад чаго-н. *Калі бальшавікі уцякалі з Менску, а палякі увашлі, то беларусы з аблягчэннем уздыхнулі.* СНБ.

Абв. пр. мн. *уздыхнулі*: СНБ.

**УЗІМКУ** *прысл. Разм.* Зімой. *Маладой юнацкай славай, Ці то ўзнімку, ці то летам, Нібы сонца, цуднай з'явай Прамянееш ты* [моладзь] *ў сусветах.* СА, 178.

**УЗІРАЦЦА** *незак. перан.* Звяртацца ў думках да чаго-н. *У будучнасць людзі Ўзіраюцца смела.* СС, 300.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *узіраюцца*: СС, 300.

**УЗІРАЮЧЫСЯ** (3) *дзеепрысл. да* ўзірацца. [Дама]: *(ізноў узіраючыся на Мікіту). Ах, мусье! але вы фарсун: у вас мундзір са шліфамі!* Т, 25. [Аленка]: *(узіраючыся ў пісульку). Ці тут жыве дзядзька ... як яго?! дзядзька Мікіта Зносак?* Там жа. Там жа, 60.

**[УЗЛЕЗЦІ]** *зак.* Узабрацца. [Янка]: *Гэта ж як узлезеце на вышкі араторыць, то вам* [Мікіту] *гэта новая сытуацыя*

*такога пытлю задасць, што і сваіх не пазнаеце.* Т, 36.

Абв. буд. мн. 2 ас. *узлезеце*: Т, 36.

**[УЗЛЁТ]** і **[УЗЬЛЁТ]** *м. перан.* Парыў; моцнае праяўленне якога-н. пачуцця (радасці). *На шчасце, на радасці ўзлёт Збуцвелы разваліцца тын..* ТП, 216. // Імкненне, жаданне ажыццявіць што-н. *Дыхнуць свабоднымі грудзямі Й зірнуць арліна не дадуць, – На ўзьлёты дум кладуць аковы, Як на рабоў сьляпых кладуць.* РС, 39.

Адз. В. *узлёт*: ТП, 216. Мн. В. *узьлёты*: РС, 39.

**[УЗЛУНАЦЬ]** *зак. Наватв.* Прагучаць, раздацца. *Роднай песні вясёлы напеў Не ўзлунаў над калыскай маёй* [Купалы].. ЧС, 50–51.

Абв. пр. адз. м. *узлунаў*: ЧС, 50–51.

**[УЗЛЯЧЫЦЬ]** *зак. Наватв.* Дапамагчы каму-н. убачыць, уразумець сутнасць чаго-н. *Разсеела* [песня] *цемру, ўзлячыла сьляаых, – Сваё, іх праславіла імя.* ПН, 47.

Абв. пр. адз. ж. *узлячыла*: ПН, 47.

**[УЗМАХ]** *м. Вобразн.* Імкненне да ажыццяўлення чаго-н. *Арліным узмахам агняцветнай думкі аб нашай волі мы скінулі і патапталі даўгавечную брахню, – брахню, што Беларусі не было і няма.* ПЛП.

Адз. Т. *узмахам*: ПЛП.

**[УЗМАЦНЕННЕ]** *н. Дзеянне па дзеяслову* узмацніць. Зрабіць больш моцным па ступені праяўлення. *Рад таму, што песні і думы мае* [Купалы] *па меры сіл маіх і здольнасцей – знаходзяць водгук ва ўсім Совецкім Саюзе, што песні і думы мае служаць узмацненню дружбы народаў, усіх працоўных усяго свету!* ЖН.

Адз. Д. *узмацненню*: ЖН.

**[УЗНАГАРОДА]** *ж.* Плата, дар за якія-н. заслугі. *Каб яго* [рабочага Пасляка] *падбадзёрыць, не раз краў я* [Купала] *ў мацi сала або сыр і нёс яму ў узнагароду за казкі.* ПС.

Адз. В. *узнагароду*: ПС.

**[УЗНАГАРОДЖАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* узнагародзіць. Дадзены ва ўзнагароду каму-н. *За ўсё гэта яна* [праца народа] *ўзнагароджана вялікай ганаровай адзнакай – ордэнам Леніна.* ЖН.

Кар. адз. ж. Н. *узнагароджана*: ЖН.

**[УЗНЕСЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* ўзнесці. Зроблены, пабудаваны. *Не было, праўда, ўзнесеных на хвалу божу ні з камення, ні з дрэва святыняў небажычных і аўтараў, золатам набіваных..* Кз, 17.

Мн. Р. *узнесеных*: Кз, 17.

**[УЗНЕСЦІ]** (2) *зак.* **1.** *перан.* Падняць, узняць. *А чарку першую ўзнясём За цень мінуўшчыны у сеці, Другой к цяпершчыне прапьём, Праславім будучыну трэйцяй.* Кц, 196.

**2.** Зрабіць, збудаваць. *Сваей забранай старане, Скаванай мучаніцы-княжне, Ўзнясуць пасад на кургане На панаванне недасяжне.* Кц, 196.

Абв. буд. мн. 1 ас. *узнясём*: Кц, 196. 3 ас. *узнясуць*: Кц, 196.

**[УЗНІМАЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Араць. *Выходзяць на поле плугі, Ўзнімаюць плугі дзірваны.* ТП, 215.

**2.** *перан.* Падымаць, заклікаць да дзеянняў. *Нас* [пісьменнікаў] *узнімае, нас натхняе гераізм, каторы мы наглядаем у любым куточку нашай Совецкай Беларусі, ўсяго Саюза.* ВГР.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *узнімае*: ВГР. Мн. 3 ас. *узнімаюць*: ТП, 213.

**[УЗНОСІЦЦА]** (2) *незак.* **1.** Узвышацца, высіцца над чым-н. *Ні далёка, ні блізка, ні ў подзі, ні ў лесе Важны ўзносіўся хорам-сталіца..* Ч, 321.

**2.** *перан.* Раздавацца, гучаць. *Хай-жа жыве, расце і ўзносіцца ў высь радасная песня ў гонар і славу нашай арміі..* ЖН.

Абв. цяп. адз. 2 ас. *узносіцца*: ЖН. Пр. адз. м. *узносіўся*: Ч, 321.

**[УЗНОСІЦЬ]** *незак.*: ◊ **Узносіць новы сьцены –** пачынаць усё спачатку, занава. *Перамены ў сябе засявае брат кажны, – Шчасьцю ўзносяць свайму новы сьцены.* Ч, 323.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *узносяць*: Ч, 323.

**УЗНОЎ** *прысл. Абл. Тое, што* зноў. *.. царскія генералы .. хочуць адбудаваць у Расіі царскае самадзяржаўе і зрабіць з яе* [Антанты] *ўзноў жандарма Еўропы..* Ан, 19.

**УЗНЯЎШЫ** *дзеепрысл. да* ўзняць. Падняўшы. *Сярод магіл, на плечы ўзняўшы крыж свой, стану, Як пасланец з магіл ад спячых там прарокаў..* СМ.

**[УЗНЯЦЦА]** (2) і **[УЗЬНЯЦЦА]** (2) *зак.* **1.** Пачацца, узнікнуць. *Узьняўся гоман надхаўтурны, Запанавала ціныня..* УрП, 52.

**2.** Пачаць актыўныя дзеянні, барацьбу. *Людское помсты дух узьняўся, Ста віхраў сьвісты ніпачым..* УрП, 52. // *перан.* Паўстаць. *На бой з ворагам уздымуцца нашы бясстрашныя зьнішчальнікі і бамбавозы.* ВГ.

**3.** З'явіцца, быць пабудаваным. *.. там, дзе ў саматужнай майстэрні задыхаўся пролетарый-рабочы, – выраслі новыя буйныя фабрыкі, узняліся на былых пустырах светлыя гіганты-заводы.* ШБСЯ.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *уздымацца*: ВГН. Пр. адз. м. *узьняўся*

(2): УрП. 52 (2). Мн. Н. *узняліся*: ШБСЯ. Буд. мн. 3 ас. *уздымуцца*: ВГ.

**[УЗНЯЦЬ]** (2) *зак.* **1.** Узараць. *Ўзнімае чорную скібу саха працавітая..* ТС, 74.

**2.** Арганізаваць, правесці. *Лечачыся на сонечным Каўказе, у Кіславодску, я* [Купала] *дазнаўся з газет аб той агіднай кампаніі, якую ўзнялі ў Заходняй Беларусі прадажныя беларускія нацыянал-фашысты з прычыны рэформы беларускага правапіса..* ШБСЯ.

Абв. пр. мн. *узнялі*: ШБСЯ. Буд. адз. 3 ас. *узніме*: ТС, 74.

**[УЗОРАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* ўзараць. Апрацаваны плугам; узараны. *Відна.. па .. узораных парадкам агародных градак, – Што там цьвіцець дастатак, праўда і парадак.* ХБ, 28.

Мн. М. *узораных*: ХБ, 28.

**[УЗОРЫСТЫ]** *прым.* Аздоблены ўзорамі. *Дастае* [Аленка] *з торбы прыгожа вышытую кашулю і саматканы ўзорысты пояс і падае Янку..* Т, 30.

Адз. м. В. *узорысты*: Т, 30.

**[УЗРАСЦІ]** *зак.* Вырасці, развіцца ў якіх-н. умовах. [Мікіта*]: Як гэта разумець, меджду протчым?* [Янка]: *А надта проста: стаць на свой тутэйшы грунт, на той грунт, на якім узраслі вашы бацькі, дзяды.* Т, 48.

Абв. пр. мн. *узраслі*: Т, 48.

**[УЗРУЧЧА]** *н. Разм.* Пугаўё. *Трэці* [брат] *ўсіх-бы толькі мучыў – Склад меў быці катам, С папанякаю на ўзруччы К зьдзекам быў заўзятым.* Дз, 189.

Адз. М. *узруччы*: Дз, 189.

**[УЗРУШЫЦЬ]** *зак.* Усхваляваць, устрывожыць. *Нас* [савецкіх дэлегатаў] *надзвычай узрушыла адна сустрэча, на абедзе ў Прасценаўскай ратушы выступіла адна жанчына з хвалючай прамовай.* ПЧ.

Абв. пр. адз. ж. *узрушыла*: ПЧ.

**[УЗЫСЦІ]** (4) *зак.* **1.** Падняцца куды-н. [Спічыні]: *Цяпер выслухайце* [Мікіта] *маленькія дзве асцярогі: першае – калі ўзыдзеце на трыбуну, то ёмка зачашэце сабе на галаве думку аб тым, пры якой палітычнай сытуацыі выступаеце з араторыяй.* Т, 40.

**2.** Прарасці, вырасці. *Ён* [селянін] *ведаў, што гэтае зерне ўзойдзе, закрасуе, пасьпее.* ДД.

**3.** *перан.* З'явіцца, стаць. *Сонца ўзышло над гаротнаю ніваю, Сны аб яснейшых днях сталіся яваю..* ДПЛС. // Зрабіцца, стаць чым-н. *Яго* [Сталіна] *мудрыя законы Сонцам ясна ўзыдуць Для вякоў, для пакаленняў, Што ідуць, што прыдуць.* НК.

Абв. пр. адз. н. *узышло*: ДПЛС. Буд. адз. 3 ас. *узойдзе*: ДД. Мн. 2 ас. *узыдзеце*: Т,40. 3 ас. *узыдуць*: НК.

**УЗЫШОЎШЫ** *дзеепрысл. да* ўзысці. Утварыўшыся, арганізаваўшыся. *Стварылася ў той час польская армія, узышоўшы на землю польскую, стварыла пакладзівы для цяперашняй польскай арміі.* БВ, 16.

**[УЗЬБЕГЧЫ]** *зак. перан.* Пачуцца, раздацца. *Як толькі стаў* [цудадзей] *паміж народам, Заціх вячовы пералік, І узьбегла песьня карагодам, Ёй пакарыўся мал, вялік.* УрП, 47.

Абв. адз. ж. *узьбегла*: УрП, 47.

**УЗЬВЁЎШЫ** *дзеепрысл. да* узьвесьці. Прывёўшы. *І за руку маю ўзяўшы, На высь узьвёўшы хат вышэй, Сказаў* [цень]: *– глядзі – во ўсё тут наша, – Глядзі, цярпі і разумей!* УрП, 46.

**[УЗЬВЯЛІЧВАЦЬ]** *незак. Кніжн.* Праслаўляць; узносіць. *Ад хаты да хаты йшла* [крыўда] *з хвалай, Узьвялічвала троны, кароны..* Кр, 77.

Абв. пр. адз. ж. *узьвялічвала*: Кр, 77.

**УЗЬЛЁТ** *гл.* **УЗЛЁТ**.

**[УЗЬМЕЖАК]** (2) *м.* Край мяжы; мяжа. *Сьпім* [ваякі] *на ўзьмежку пад ігрушай. Дожджык моча, сонца суша.* БЗ. *Хто там стогне так на ўзьмежку. На капцы ў полі? Як згубіўшы к долі сьцежку, Як незнаўшы долі.* Дз, 187.

Адз. М. *узьмежку* (2): БЗ; Дз, 187.

**[УЗЬНЕСЬЦІСЯ]** *зак.*: ◊ **Узьнесьціся ўвысь –** стаць вольным, свабодным *Раскованы раб сябе выдаў – Ня ўзьнёсься ўвысь дух чалавечы, Нявольнік пабратаўся з Крыўдай І ў помач ёй даў свае плечы.* Кр, 78.

Абв. пр. адз. м. *узьнёсься*: Кр, 78.

**[УЗЬНЯТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* ўзняць *у* 1 *знач. Адлогам лягуць скора нівы, Узьняты нашаю рукой, крыніц жывыя пералівы Закалатушацца крывёй.* УрП, 48.

Кар. мн. Н. *узьняты*: УрП. 48.

**УЗЬНЯЦЦА** (2) *гл.* **УЗНЯЦЦА** (2).

**[УЗЯТКА]** *ж. Руск.* Хабар. [Спраўнік]: *Затое цяперашняя* [сітуацыя] *ўсё дасць.* [Янка]: *Нават узяткі (набок).* Т, 51.

Мн. В. *узяткі*: Т, 51.

**УЗЯТЫ** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* ўзяць. Набыты, дастаты. [Мікіта]: *Меджду протчым... меджду протчым, так сабе ўзятая* [патака] *з агульнадаступных грамадзянскіх складаў, зусім так сабе.* Т, 60. // Атрыманы, займеты якім-н. чынам. *Тое, што ўзята маною дачэсне, Вечна ня будзе душыць, як прыгон..* Г, 17.

Адз. ж. Н. *узятая*: Т, 60. Кар. адз. н. Н. *узята*: Г, 17.

**УЗЯЎШЫ** *дзеепрысл. да* ўзяць *у* 1 *знач. І за руку маю ўзяўшы, На высь узьвёўшы хат вышэй, Сказаў* [цень]: *– глядзі – во ўсё тут наша, – глядзі, цярпі і разумей!* УрП, 46.

**УЗЯЎШЫСЯ** *дзеепрысл. да* ўзяцца *ў* 1 *знач. Ха-ха – ўзяўшыся за бокі разводзіць* [беларускі шляхціц] *перад ягамосьцем у "чорным" сваю падкасьцельную філезофію: – Гэтые нашы мужыкі нават з панам "па-простэму" гавораць.* З.

**УЗЯЦЦА** (12) *зак.* **1.** *Зак. да* брацца *ў* 1 *знач. Патупіўшы вочы, я ўзяўся за клямку, каб выйсці.* Ан, 19.

**2.** Пачаць рабіць што-н. [Янка]: *Трудна такому далікатнаму панічу за гэтакую чорную работу ўзяцца.* Т, 20. *Ды ўзяўся шчыра, міла Сеець шчасьце, гнаць бяду..* М, 20.

**3.** З'явіцца, прыйсці. .. *даўгое белае павучыньне, каторае невядома адкуль узялося, ціхенька плыло ў паветры.* ХБ, 29. *Хоць сохі, хоць косы гуляюць там ройна, – Ня поймеш аткуль узялісь* [курганы] .. ЗК, 42.

◊ **Узяцца за гуж –** пачаць якую-н. сур'ёзную справу. [Спічыні]: *Я толькі выпаўняю сваю місію, як і вы, мусье Зносілов, сваю місію. А ўзяўся за гуж – не кажы, што не дуж.* Т, 49.

Інф. *узяцца* (3): АБ, 16 (2); Т, 20. Абв. пр. адз. м. *узяўся* (4) Ан, 19; М, 20; Т, 49; Ч, 320. ж. *узялася*: УПУВ. Н. *узялося* (2): АБ, 16; ХБ, 29.

**УЗЯЦЬ** (31) *зак.* **1.** *Зак. да* браць *у* 1 *знач. І сейбіт выйдзе, свабодны, без путаў, Трактарны ў рукі руль возьме з паклонам..* Мц, 75. *У канцы узяў* [рэдактар] *пяро, набожна пацалаваў крыж..* ЧЧШ.

**2.** *Зак. да* браць *у* 2 *знач. Габруся ў жаўнерку ўзялі, Ад дамоўства адарвалі, Зажурыўся стары татка, Цяжка стогне плача матка.* ГЖУ. // Забраць сілай. [Мікіта]: *А чаму той, што маніўся мяне ў палон, меджду протчым, узяць, як рэпу сек па-нашаму?* Т, 42.

**3.** Згадзіцца, каб хто-н. суправаджаў. *Мяне ўзяць з сабой прасіла, Але ўзяць не ўзялі, Адно кажа мамка міла: – Ты йшчэ сходзіш* [на выбары], *Галя.* Вб, 236. *Мой мілы таварыш, мой лётчык, Вазьмі мяне ўрэшце з сабой, Цяпер не малы я ўжо хлопчык – Сам-раз ляцець разам у бой.* ХЛВ, 315.

**4.** Стаць гаспадаром чаго-н. *І ўсё вы* [бальшавікі] *ўзялі, ўсё як есць: Фабрычны дым, сяўбы загон І панскі двор, і царскі трон... Ды стала ўсё вам гэта ў злосць...* ПВ. *Арлы-самалёты Ўсё неба ўзялі, І волю здабылі Сабе кавалі.* СС. 300.

**5.** Забраць, прынять што-н. *Штось срэбнікаў з трыццаць – як піша ў законе – Ўзяў за Хрыста калісь Юда...* Р. –

*Глыток вады, а за яго вазьмеце Вось гэты шаль – цяпер ўжо ўсё адно...* ВБЛ, 80.

**6.** Дамагчыся чаго-н. *Пара ў рукі браць паходні, Уставаць, ісьці, ноч разсьветляець! Бо што ня возьміця сягоння, Таго і заутра Вам ня узяць.* ПБН.

**7.** Атрымаць чые-н. абяцанні выканаць што-н. *З вучыцелёў, што да таго саюза належэли, ўзяли падписку, каб никуды не выежджали без дазваления палиции.* ВД. *Збяры ў адну ўсю Беларусь сям'ю, Вазьмі з яе прысягу і зарок, Што не прадасць сябе, сваю зямлю..* Пт.

**8.** Спыніцца на чым-н., разгледзець што-н. у якасці прыкладу. *Узяць хоць бы бураў: цэлы год гэты маленькі народ мучыў сваім жаданнем незалежнасці вялікую Англію.* НДН, 18. .. *калі возьмем за прымер цяперашнія некаторыя дзяржавы, .. то мы бачым адно, што гэтыя дзяржавы ў сваім імперыялістычным і мілітарным усёзніштажаючым паходзе мелі адну ярка зарысованую мэту..* Там жа, 18.

**9.** *Разм.* Ужываецца ў спалучэнні з дзеясловам у значэнні 'пачаць якое-н. дзеянне; намерыцца зрабіць што-н.' *Хацеў я спачатку павесіцца, утапіцца, застрэліцца, але ўзяў ды напісаў гэты не зусім "маленькі фельетон"..* Ан, 19. [Гануля]: *Хоць бы ўзяў* [Мікіта], *як іншыя ды падвучыўся боты шыць або хоць латаць.* Т, 20.

• **Габруся ў жаўнерку ўзялі...**

◊ **Да сэрца ўзяць –** расхваляваацца, занепакоіцца. [Аленка]: *І вы гэта, пане рэгістратар, так да сэрца ўзялі, што ажно барада ў вас вырасла, бо дагэтуль, здаецца, вы не насілі яе?* Т, 55. **Узяць верх –** *тое, што* браць верх. *А калі бальшавікі ўзялі верх, то па-самадзяржаўнаму расправіліся з усімі нацыянальнымі арміямі і з усякімі незалежнасцямі.* БВ, 16. **Узяць на сябе –** стаць арганізатарам чаго-н. *Але ва ўмовах нашай рэспублікі ролю зьбіральніка і організатара контр-рэволюцыйных сіл, ролю застрэльшчыка сусьветнага капіталізму узяў на сябе беларускі нацыянал-дэмократызм..* АЛ.

Інф. *узяць* (7): Ан, 19; Вб, 236 (2); НДН, 18; ПБН; Т, 28, 42. Абв. пр. адз. м. *узяў* (7): АЛ; Ан, 19 (2); ПДз; Т, 20; ЧЧШ. Мн. *узялі* (6): БВ, 16; ГЖУ; СС, 300; Т, 20, 35, 55. Буд. адз. 2 ас. *возьмеш* (5): Вб, 236; ВД; ПВ; Т, 53; Ш$_3$. Мн. 1 ас. *возьмем*: НДН, 18. 2 ас. *возьмеце* (2): Мц, 75; ХЛВ, 315. *возьміця*: ПБН. Заг. адз. 2 ас. *вазьмі*: Пт. Мн. 2 ас. *вазьмеце*: ВБЛ, 81.

**[УКАЗКА]** *ж. Разм.* Указанне, распараджэнне, настаўленне. .. *п'яныя дзікуны па ўказцы свайго звар'яцелага бандыцкага атамана па-зверску знішчаюць усё тое, што пабудавана*

*намі, забіваюць старыкоў, жанчын і дзяцей..* РКП.

Адз. М. *указцы*: РКП.

**[УКЛАД][1]** *м.* Спосаб жыцця, побыту. *Ён* [абывацель] *бачыць, што беларушчына нясе новые парадкі і зьмену усяго таго, з чым ен зжыўся, да чаго прывык і дапасаваў уклад свайго жыцця, і гэта яго палохае і адварочвае.* ВМР.

Адз. В. *уклад*: ВМР.

**[УКЛАД][2]** *м. перан.* Што-н. новае, вельмі важнае, унесенае ў справу. *Добры ўклад у беларускую школьную літаратуру зрабіла кніга проф. Янчука "Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры".* ВСп, 89.

Адз. В. *уклад*: ВСп, 89.

**[УКЛАДЗЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* ўкласці. Створаны, напісаны. *Тут з гэтых кніг павінны мы адмеціць "Мэтодыку арытмэтыкі" Лукашэвіча і Валасковіча, якая ўкладзена паводле самых навейшых навуковых досьціґаў..* ВСп, 89.

Кар. адз. ж. Н. *укладзена*: ВСп, 89.

**[УКЛАСЦІ]** *зак.* Аддаць на выкарыстанне (грашовыя сродкі). *Хай багацейшые укладаюць у гэта свае грошы, (каторые, дабаўлю тут, ніякім спосабам прапасьці ня могуць), каб бяднейшые маглі з іх у гэты цяжкі час карыстаць.* ВС.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *укладаюць*: ВС.

**УКРАІНЕЦ** *гл.* **УКРАІНЦЫ**.

**[УКРАІНСКІ]** *прым.* Які мае адносіны да Украіны, украінцаў, належыць ім. *На Украіне таксама паўстала ўкраінскае войска, каторае, перайшоўшы розныя цяжкія варункі свайго бытавання, сягоння змагаецца за незалежнасць Украіны з маскоўскім наездам – з бальшавікамі і дзянікінцамі.* БВ, 16.

Адз. н. Н. *украінскае*: БВ, 16.

**[УКРАІНЦЫ]** *мн.* Усходнеславянскі народ, які складае асноўнае насельніцтва Украіны. *Гэтак Расія падняволіла сабе агнём і жалезам слабейшыя суседнія народы, пачынаючы ад манголаў, каўказцаў, фінаў, літвінаў і канчаючы славянамі – палякамі, украінцамі, беларусамі і іншымі.* НДН, 18. *Стагнаў татарын, грузін, фін, паляк, украінец, беларус.* Там жа, 18.

Адз. Н. *украінец*: НДН, 18. Мн. Т. *украінцамі*: НДН, 18.

**[УКРАСЦІ]** (2) *зак.* Узяць цішком, прысвоіць сабе чужое. *.. хто парасё украў, таму и ў вушах пишчыць.* СП. *Дасцё крыві з каплю, з гарошынку чэсці – І – ваша душа ва усей хвале... Бо так – не купіўшы – не след на крыж весці Гатовы сказаць, што вы ўкралі...* Р.

Абв. пр. адз. м. *украў*: СП. Мн. *укралі*: Р.

**[УКРЫТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* ўкрыць. Запоўнены

чым-н. *Навакола далёка-далёка расьцілаецца раўніна, ціхая, вабкая, укрытая нівамі, лясамі і беларускімі вёскамі...* ХБ, 29.

Адз. ж. Н. *укрытая*: ХБ, 29.

**[УКРЫЦЦЁ]** (2) *н.* Месца, дзе можна схавацца ад каго-н.; схованка, [Мікіта]: (*вылазячы з укрыцця, да Чырвонаармейца). А, папаўся, медждy протчым, нарэшце!* Т, 52. [Спраўнік]: *(вылезшы з іншымі з укрыцця). Зусім справядліва! Забірайце яго* [чырвонаармейца] *ў палон!* Там жа, 52.

Адз. Р. *укрыцця* (2): Т, 52 (2).

**[УЛАВІЦЬ]** *зак. перан.* Пачуць што-н. *Сёння ўжо стар я* [дзед] *і мне не да плачу, Вушы хоць слабы, а ўловяць іх* [вызваліцеляў] *імя.* Д, 72.

Абв. буд. мн. 3 ас. *уловяць*: Д, 72.

**УЛАДА** (31) *ж.* **1.** Дзяржаўнае кіраўніцтва; урад. *Шчыра дзякую* [Купала] *за ўсе тое добрае, што для мяне зрабілі партыя і Савецкая улада.* СЧ. *.. польская ўлада павяла ў нашым краі гаспадарку так, як гэтага вымагаюць культурна-нацыянальныя інтарэсы нашай бацькаўшчыны..* СНБ, 340. // Асобы з урадавымі паўнамоцтвамі. [Пан]: *Як з'явіцеся з гэтым палонным да новае ўлады, то ваш* [Мікіты] *прэсціж адразу падымецца ў яе вачох на сто процантаў.* Т, 52.

**2.** Права кіравання дзяржавай; форма палітычнага кіравання. [Мікіта]: *Не сягоння – заўтра прыходзіць новая ўлада, а з ёй такая палітычная сытуацыя, пры якой здольны аратар будзе магчы купацца, як сыр у масле.* Т, 36. [Гануля]: *Як толькі ўлада мяняецца, робяць* [мінчане] *сабе запас да новай перамены.* Там жа, 55. // Права і паўнамоцтвы дзяржаўных органаў. *Усе роўныя перад дзяржаўнай уладай, усе роўныя перад правам і законам..* НДН, 19.

**3.** Права і магчымасць распараджацца, кіраваць. *І далі ўладу путы рваць, І далі ўладу біць цароў, – Зрабілі з вас* [бальшавікоў] *гаспадароў.* ПВ. *Тыя, што трымаюць сягоння ў сваіх руках уладу над часцінай нашага краю, павінны зразумець, якая небяспека набліжаецца з боку паўстаючай рэакцыйнай Расіі.* БВ, 16-17.

Адз. Н. *улада* (12): АЛ (2); ГНД; ЗС, 17, 18; ОШМ; СНБ, 340 (2); СЧ; Т, 36. Р. *улады* (11): АЛ (3); ВСп, 91; ГНД; ЖН; ОШМ (2); ПЧ; СНБ, 339; Т, 52. Д. *уладзе*: А, 328. В. *уладу* (4): БВ, 16; ОШМ; ПВ (2). Т. *уладай* (3): НДН, 19; ОШМ; Т, 51.

**УЛАДАНЬНЕ** (2) *н. перан.* Панаванне. *Забабон жыве і на Беларусі, а уладаньне яго тут, бадай, магутнейшее, цяжэйшае і нікчамнейшае як на цэлым сьвеце.* З. *Распасьцер свае усемагутнае уладаньне дзікі зьвярыны забабон ад краю да*

*краю, па усім нязьмераным сьвеце, і пачатку яго не найці і канца яму не дабачыць.* Там жа.

Адз. Н. *уладаньне*: З. В. *уладаньне*: З.

**УЛАДАР** (5) *м.* Правіцель, гаспадар чаго-н. *Паўстань з народу нашага, Ўладар, Адбудаваць свой збураны пасад..* Пт. *І ў сто, у сто кагцістых рук Хапае* [павук] *вас, рабыцары, – Як бы ужо вы не ўладары... Вы ўладары... Яшчэ жарцвет Бунтарскіх дум у вас не згас...* ПВ.

Адз. Н. *Уладар* (2): Пт, (2). В. *Уладара*: Пт. Мн. Н. *уладары* (2): ПВ (2).

**[УЛАДАРНЫ]** *прым.* Схільны загадваць, падначальваць сабе. *Гэта – маладая, нарастаючая* [беларуская] *сіла, каторая з часам запануе уладарнай гаспадыняй, – запануе і скажа: "А вы, галубчыкі, чаго-ж тут паразсядаліся?"* ВМР.

Адз. ж. Т. *уладарнай*: ВМР.

**УЛАДАРСТВА** (2) *н.* **1.** Вярхоўная улада, панаванне. *На Ўладара жджэ Беларусь даўно, І жджэ цябе ўладарства Божы дар..* Пт.

**2.** *перан.* Тэрыторыя. *Хочацца верыць, што закалышацца беларускае мора і змые з свайго уладарства усе забабоны, ад якой бы "культуры" яны у нас не панавалі.* З.

Адз. Н. *уладарства*: Пт. Р. *уладарства*: З.

**[УЛАДЗІЦЬ]** (2) *зак.* **1.** Вырашыць якон-н. пытанне. *З вольнай дружынаю князь на пасадзе Вольнаму люду законы пісаў; Слухамі князя, а князь што не ўладзіў – Слухаў, што веча яму звон казаў.* Н.

**2.** Стварыць умовы для чаго-н. [Янка]: *Калі тут кампанія ўладзіла танц-кляс для акупантаў, дзе кожны з іх заходзіць і танцуе сваё "Гоцаца", дык чаму ж бы мне ў гэтым танцклясе і не пайграць.* Т, 52.

Абв. пр. адз. м. *уладзіў*: Н. ж. *уладзіла*: Т, 52.

**[УЛАДЫКА]** *м.* Той, у каго ёсць падняволеныя. *Забабон старадаунаму славяніну загадвау, каб жонка ішла з мужам разам у магілу, або нявольнік свайго уладыкі уміpay так сама з ім разам.* З.

Адз. Р. *уладыкі*: З.

**[УЛАЖЫЦЬ]** *зак. перан.* Напісаць, скласці (музыку). *Далей, да верша Я. Купалы "Не пагаснуць зоркі ў небе..." улажыў музыку Янчук, і так сама назваў гэта гымнам.* СБНГ.

Абв. пр. адз. м. *улажыў*: СБНГ.

**[УЛАСНАСЦЬ]** *ж.* Тое, чым валодаюць, што знаходзіцца ў поўным распараджэнні каго-н. *Яны* [паны-абшарнікі] *добра ведаюць, што польскі сойм выказаўся проці прыватнай*

*вялікай уласнасці на зямлю..* ЗС, 17.

Адз. Р. *уласнасці*: ЗС, 17.

**[УЛАСНЫ]** (9) *прым.* **1.** Які належыць каму-н. разам з іншымі як члену грамадства. *Але няхай скажа партыя, няхай скажа совецкі ўрад, няхай скажа таварыш Сталін – і нашы байцы насцігнуць зарваўшагася ворага і разгромяць яго на ўласнай яго зямлі.* ВГ.

**2.** Свой, асабісты. [Мікіта]: *Каламажку я цягаю з сабой толькі дабравольна, толькі для ўласнай выгады.* Т, 43. [Аленка]: *З нашага лёну гэта кашуля і з нашай воўны гэты пояс. А сама я ўласнымі рукамі ад шчырага сэрца для вас* [Мікіты] *выткала і вышыла.* Там жа, 30. // Які робіцца, ажыццяўляецца без чужой дапамогі. *.. яны* [беларускія нацыянал-дэмакраты] *добра ведалі, што ня ўласнымі сіламі, а толькі пры збройным падтрыманьні замежнай інтэрвенцыі змогуць зьнішчыць ненавісную ім дыктатуру пролетарыяту..* АЛ.

Адз. м. В. *уласны*: ОШМ. ж. Д. *уласнай*: Т, 45. Т. *уласнай*: Т, 61. М. *уласнай*: ВГ. н. В. *уласнае*: СНБ, 337. Мн. Р. *уласных* (2): ОШМ: Т, 41. Т. *уласнымі* (2): АЛ; Т, 30.

**[УЛАСЦІ]** *мн. Руск.* Начальства. *Дый штось зблышыла нагайка, Цягнуць к ўласцям Налівайку.* НД.

Мн. Д. *уласцям*: НД.

**[УЛАСЦІВЫ]** *прым. У знач. вык.* Характэрны для каго-н. *Высокая ступень культуры ўласціва ўсім ім* [чэшскім драматургам], *шмат хто з іх ведае 3–4 мовы.* ПЧ.

Кар. адз. ж. Н. *уласціва*: ПЧ.

**УЛАСЬНІК** *м.* Той, хто мае якую-н. уласнасць, валодае чым-н. *Агулам простые налогі – гэта такіе, дзе кожны уласьнік плаціць безпасрэдня пэўныя падаткі да сваё дабро.* ВН.

Адз. Н. *уласьнік*: ВН.

**УЛЕВА** (4) *прысл.* **1.** У левы бок. *Пры падняцці заслоны першым праходзіць справа ўлева Лернік з лерай, а пасля Шарманшчык з шарманкай.* Т, 33. [Мікіта]: *(то апускаючы, то падымаючы па чарзе рукі і згодна з гэтым паварачваючы то ўправа, то ўлева галавой). Гэта... Гэта... ваша чырвонае благародзіе... гэта... як яно... качарэжкі!* Там жа, 60.

**2.** *перан.* Ужываецца пры ўказанні на пэўны кірунак развіцця. *Шлі* [беларусы], *ідзём далей ўлева ці ўправа – Простым гасцінцам.* Пп, 5. [Янка]: *Але яшчэ хістаемся* [беларусы] *то ўправа, то ўлева. Яшчэ ясна азначанай мэты не можам сабе ўявіць.* Т, 35.

**[УЛЕЖАЦЬ]** *зак.* Застацца на месцы; ляжаць нерухома. *Аж прадзедаў косьці ня ўлежаць пад крыжам, – Што ночы*

*выходзяць з магіл.* ЗК, 43.

Абв. буд мн. 3 ас. *улежаць*: ЗК, 43.

**[УЛЕЗЦІ]** (4) *зак.* **1.** Пранікнуць, забрацца ўнутр чаго-н. *За "плебісцыт" паліцыя пры помачы сьлёсара улезла у рэдакцыю беларускай газэты і забрала усе канторскіе і рэдакцыйныя матэрыялы.* СНБ. [Аленка]: *Я... я не ведаю...* [Мікіта]: *А калі не ведаеце, то чаго ўлезлі ў чужую хату, медждý протчым.* Т, 25.

**2.** *Разм.* Умяшацца ў якую-н. непрыемную справу. [Гануля]: *Кажа* [Мікіта] – *не ўпутаюся, а ўчора ў такую кашу ўлез, ажно сорам казаць.* Т, 57.

◊ **Колькі ўлезе –** уволю, колькі хочаш. *Аб "Думе" можэш думаць, колькі ўлезе, еле гаварыць голасно асьцерагайся: гэта ня ўсих па шэрсьци гладзиць.* СП.

Абв. пр. адз. м. *улез*: Т, 57. ж. *улезла*: СНБ. Мн. *улезлі*: Т, 25. Буд. адз. 2 ас. *улезе*: СП.

**УЛЕТКУ** *прысл.* Летам, у летні час. *Ўлетку, як відаць, будзе суд.*

**[УЛІЦА]** *ж. Руск. Тое, што* вуліца *ў 2 знач. Оруж'ем на солнце сверкая, Под звукі ліхіх трубачэй, По уліцам пыль подымая, Проходзіл полк гусар усачэй...* Т, 53.

Мн. Д. *уліцам*: Т, 53.

**[УЛІЦЬ]** (4) *зак.* **1.** Наліць унутр чаго-н. *Падказвае* [Мікіта] *на мігі, што улле яму* [немцу] *вады.* Т, 32.

**2.** *перан.* Усяліць, абудзіць (падзею, веру) .. *Сьветларусая гладзь расхвалёваных ніў Уліла мне ў душу адчуваньняў разьліў.* АР.

**3.** *Разм.* Пабіць каго-н. *Тут падлуе зноў нагайка, Улілі штось Налівайку.* НД.

Абв. пр. адз. ж. *уліла* (2): АР (2). Мн. *улілі*: НД. Буд адз. 3 ас. *улле*: Т, 32.

**[УЛІЧЫЦЬ]** *зак.* Прынімаць пад увагу. .. *адзін падлетак не ўлічыў сваіх грашовых магчымасцей, зрабіў перавыдатак і яму пагражала камедыя "таварыскага суда", выдаленне з інтэрната, з Бацяўскага фабзавуча.* ПЧ.

Абв. пр. адз. м. *улічыў*: ПЧ.

**[УЛЮБІЦЦА]** *зак. Руск.* Закахацца ў каго-н. [Мікіта]: *Дазвольце пазнаёміць: мамзэль Наста Пабягунская – настаўнік Янка Здольнік.. Не ўлюбецеся толькі.* Т, 23.

Заг. мн. 2 ас. *улюбецеся*: Т, 23.

**[УМАЦАВАЦЦА]** *зак. перан.* Набыць большую сілу, стойкасць (пра пачуцці). *У самую гушчу Чэхаславацкага народу пранікла і глыбока ўмацавалася вера і надзея на Совецкі*

*Саюз як на адзіны аплот міру.* ПЧ.

Абв. пр. адз. ж. *умацавалася*: ПЧ.

**[УМАЦОВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* умацаваць. *Разм. У знач. вык.* Прымацаваны на чым-н. *Часамі яны* [вульлі] *стаяць на зямлі, часамі ўмацованы на дрэве..* ХБ, 30.

Кар. мн. Н. *умацованы*: ХБ, 30.

**УМАЦОЎВАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* умацоўваць. Робячы больш моцнымі асновы чаго-н. *Яшчэ ў годы грамадзянскай вайны, Вы, Нікалай Іванавіч, нямала зрабілі для беларускага народа, .. умацоўваючы эканоміку, цэментуючы вакол Леніна і Сталіна рады КП(б)Б.* НКУС.

**[УМЕЛЫ]** *прым.* Які выконваецца з уменнем. [Мікіта]: *Меджду протчым, такое ўмелае скарыстанне перамен палітычных сытуацый – надта лёгкі спосаб забяспечыць сябе на чорны дзень.* Т, 55.

Адз. н. Н. *умелае*: Т, 55.

**[УМЕРЦІ]** (2) *зак. да* ўміраць *у* 1 *знач. Ня ўмруць* [людзі]*, ня ўмруць ужо яны Раз хочуць сонца, славы, песьні..* Кц, 195–196.

Абв. буд. мн. 3 ас. *умруць* (2): Кц, 195 (2).

**УМЕЦЬ** (9) *незак.* Валодаць уменнем, навыкамі рабіць што-н. [Ганулbackgroundя]: *Я папрашу* [сыграць на балалайцы] *нашага дзядзьку беларуса – ён умее.* Т, 29. *Хто умее слухаць, – можэ Шмат чаго пачуць там..* Дз, 187-188. // Валодаць якімі-н. унутранымі якасцямі. *Просты быў народ, і крывадушыць не ўмеў ён у веры сваей.* Кз, 17.

Інф. *умець*: ГВУ. Абв. цяп. адз. 2 ас. *умееш*: Ан, 18. 3 ас. *умее* (3): Дз, 187; Т, 29, 32. Пр. адз. м. *умеў* (3): Кз, 17; Н; Р. ж. *умела*: Дз, 188.

**[УМЕЮЧЫ]** (2) *дзеепрым. незал. цяп. да* ўмець. *Але дзеля таго трэба, каб там* [на Бедарусі] *жылі людзі з разьвітым розумам, ведаючыя і ўмеючыя цаніць хараство.* ХБ, 30. *Але – ці-ж гэта праўда, што ў нас няма людзей ведаючых і ўмеючых цаніць хараство і багацьце роднага краю?..* Там жа, 30.

Мн. Н. *умеючыя*: ХБ, 30. Р. *умеючых*: ХБ, 30.

**УМІРАННЕ** (2) *н.* Гібель, смерць. [Янка]: *А ўміралі* [продкі]*, відаць, з славай, бо ў песні іхняе ўміранне засталося вечна жыць. А ці ж увекавечыць песня змаганне і ўміранне патомкаў?* Т, 25.

Адз. Н. *уміранне*: Т, 35. В. *уміранне*: Т, 35.

**[УМІРАЦЬ]** (11) *і разм.* **УМІРАЦІ** *незак.* **1.** Пераставаць жыць. *Умiралі, будуць уміраць людзі, – Такая ўжо доля, доля чалавека..* ПСС, 231. // Гінуць, абараняючы каго-, што-н. *Жылі*

[беларусы] *і ўміралі на стражы беларушчыны.* МІ, 17. [Янка]: *А ўміралі* [продкі]*, відаць, з славай, бо ў песні іхняе ўміранне засталося вечна жыць.* Т, 35. // Канчаць жыццё самагубствам. *Уміраю* [Купала]*, прымаючы тое, што лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная.* СЧ. // Быць забітым згодна рэлігійнага звычаю. *Забабон старадаунаму славяніну загадвау, каб жонка ішла з мужам разам у магілу, або нявольнік свайго уладыкі уміраў так сама з ім разам.* З.

**2.** *перан.* Вельмі жадаць чаго-н. [Дама]: *Я ўміраю без танцаў.* Т, 29.

Інф. *уміраць*: ПСС, 231. Абв. цяп. адз. 1 ас. *уміраю* (4): СЧ (3); Т, 29. 3 ас. *уміpae*: Т, 35. Мн. 1 ас. *уміраем*: Т, 35. Пр. адз. м. *уміраў*: З. Мн. *уміралі* (4): МІ, 17; ПСД; ПСС, 231; Т, 35.

**УМІРАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* ўміраць. *у* 1 *знач. перан.* Знікаючы, прападаючы. *І круцілі цябе* [Беларушчыну]*, як каму падабалася, Кожны строіў, наводзіў цябе на свой строй, на свой лад; Ажно часам жальба, як кляцьба разьлягалася, І ня чутай ляцела, ўміраючы, ў грудзі назад.* Б, 18.

**[УМОВА]** (2) *ж.* **1.** Дагавор. [Наста]: *Немец? Як мне напэўна вядома з пэўных крыніц, то гэта апошні з роду Магіканаў, які, згодна з Берасцейскай умовай, пакідае сягоння нашы Менскія палестыны і махае свае крокі туды, адкуль прышоў.* Т, 41.

**2.** Абставіны, у якіх працякае або пры якіх адбываецца што-н. *Але ва ўмовах нашай рэспублікі ролю зьбіральніка і арганізатара контррэволюцыйных сіл.. узяў на сябе беларускі нацыянал-дэмократызм..* АЛ. *У гэтай контррэволюцыйнай рабоце беларускія нацыянал-дэмократы апіраліся .. на кулацтва, якое ліквідуецца ва ўмовах колектывізацыі, як кляса..* Там жа.

Адз. Т. *умовай*: Т, 41. Мн. М. *умовах* (2): АЛ (2).

**УНАЧЫ** *прысл.*: ◊ **Ні днём ні ўначы** *гл.* днём.

**УНЕСЕНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* ўнесці. *У знач. вык.* Уключаны ў склад чаго-н. *Трэба ешчэ тут сказаць, што праект закону аб падаходным налогу быў даўно унесены на разгляд Гасударственнай Думы..* ВН.

Адз. м. Н. *унесены*: ВН.

**УНЕСПАДЗЕЎКІ** *прысл. Разм.* Нечакана, раптоўна. [Янка]: *А як зноў унеспадзеўкі тыцне ў Менск ваша* [Мікіты] *совбурскае начальства?* Т, 50.

**УНІВЭРСЫТЭТ** (8) *м.* Вышэйшая навучальная і навуковая установа. *77 год была Вільня сіратою, уздыхаючы па тых сьветлых часінах, калі яе унівэрсытэт кіпеў мудрым жыцьцём..* УПУВ. *У гэтые дні адбылося вялікае і ўрачыстае сьвя-*

*то уходзін Віленскага Універсытэту іменьня караля Сьцяпана Баторага.* Там жа. *Параўн.* універсіцет.

• **Уваскрашэньне Польскага Унівэрсытэту у Вільні.**

Адз. Н. *унівэрсытэт* (5): Т, 27 (2); УПУВ (3). Р. *унівэрсытэту* (3): УПУВ (3).

**[УНІВЕРСІЦЕТ]** *м. Руск. Тое, што* унівэрсытэт. [Поп]: *Понежэ есць в Мінскае духовная семінарыя, то воісціну ізлішне обрэтаць універсіцет, гдзе будзет провозглашацься грэховное светское учэніе.* Т, 27.

Адз. В. *універсіцет*: Т, 27.

**УНІЖАЦЦА** *незак.* Ставіць сябе ў прыніжанае становішча. *Прывучан кланяцца, ўніжацца, Паганіць* [беларус] *скарб свой дарагі.* БрБ, 6.

Інф. *уніжацца*: БрБ, 6.

**УНІЗЕ** *прысл.* У ніжняй частцы чаго-н. *З зор сатканы былі недасяжныя сьцены, Росы ўнізе ірдзелі яскрава.* Ч, 321. *Параўн.* унізу.

**УНІЗУ** *прысл. Руск. Тое, што* ўнізе. *Путы звонка бразджаць і ўгары, і ўнізу..* БН, 92.

**[УНІЯ]** (3) *ж.* Аб'яднанне, саюз дзяржаў. *І зрабілася на Беларусі пасля уніі з Польшчай тое, чаго і трэ было чакаць.* Нз, 14. *Пасля уніі з Польшчай прыйшла на Беларусь апека маскоўская.* Там жа, 14.

Адз. Р. *уніі* (3): Нз, 14 (3).

**УНОСІЦЬ** (3) *незак.* **1.** Плаціць; рабіць узнос. *Першы падатак будуць уносіць тые, што прызываліся у апошнія 4 гады.* ВН.

**2.** Прапаноўваць. [Спраўнік]: *Выражаючыся на сучасны лад, бяру сабе слова і ўношу пропозыцыю пакінуць спрэчкі і без рэзолюцыі пайсці дамоў.* Т, 29.

**3.** Садзейнічаць чаму-н. .. *і калі мае* [Купалы] *вершы зараз сугучны вялікаму часу, калі яны ўносяць сваю долю ў крэпасць дружбы народаў, – дазвольце мне радавацца разам з вамі гэтай дружбе вялікай радасцю паэта.* ЖН.

Інф. *уносіць*: ВН. Абв. цяп. адз. 1 ас. *уношу*: Т, 29. Мн. 3 ас. *уносяць*: ЖН.

**УНОЧЫ** (4) *прысл.* У начны час, ноччу. .. *задумны бэдуін, едучы у ночы на вярблюду, зоры бліскучыя лічыць..* З. [Чырвонаармеец]: *Бо я адстаў ад сваёй часці і толькі ўночы змагу выбрацца з гораду, каб дагнаць сваіх.* Т, 52; К.

◊ **Удзень і ўночы** *гл.* удзень.

**УНУК** (10) *м.* **1.** Сын дачкі або сына. *З дзедам унук, побач бацька і маці Селі, гамоняць а з імі – надзея...* ВМ, 72. –

*Куды йдзеш ты, мая бабка, – Кажа ўнук бабулі..* Вб, 237.

**2.** *мн. перан.* Малодшае пакаленне. *Дзяды, унукі, ўнучкі – усе паўсталі На вечавы кліч, кліч бадзёры і вялічны, Які нам кінуў правадыр наш родны Сталін.* ПНд, 314.

**3.** *перан.* Нашчадак. *Ўнук тое ўбача, што прадзеды, дзеды ў снах толькі снілі, – і свету раскажа.* Ф.

Адз. Н. *унук* (5): Вб, 237 (2); ВМ, 72; Ф; ЧС, 50-51. Мн. Н. *унукі* (2): БС; ПНд, 314. Р. *унукаў* (2): ПЛП; Т, 54. Д. *унукам*: Т, 54.

**[УНУТРАНЫ]** (4) *прым.* Які мае адносіны да жыцця, дзейнасці ўнутры дзяржавы. *Там, на чале з Калмановічам, Мясніковым і Яркіным, зрабіла маленькі ўнутраны пераварот.* СНБ, 337. *Буржуазія, як замежная, так і ўнутраная, не перабірае ніякімі мэтодамі і сродкамі барацьбы супроць СССР.* АЛ.

• **Народнаму камісару унутраных спраў тав. Ежову.**

Адз. м. В. *унутраны*: СНБ, 337. ж. Н. *унутраная*: АЛ. Мн. Р. *унутраных* (2): НКУС (2).

**[УНУЧКІ]** *мн.* Малодшае пакаленне. *Дзяды, унукі, ўнучкі – усе паўсталі на вечавы кліч, кліч бадзёры і вялічны, Які нам кінуў правадыр наш родны Сталін.* ПНд, 314.

Н. *унучкі*: ПНд, 314.

**УНЯЦЬ** *зак.* Суняць, спыніць праяўленне пачуццяў. *Далі волю любіць Колю, Цяпер хочуць яе ўняць..* ВБЛ, 82.

Інф. *уняць*: ВБЛ, 82.

**[УПАДАК]** (3) *м.* **1.** Заняпад. *Мальбішчам чужым бье пакора паклоны; Ўпадку вялічыцца сьцяг..* ЗК, 42. *У апошнія годы палітычные перамены ў Еўропе, упадкі і паўставаньні малых і вялікіх дзяржаваў праходзілі і праходзяць перад нашымі вачыма, як у клейдаскопе.* СНБ.

**2.** Распад, ліквідацыя чаго-н. [Мікіта]: *Сучаснае рэволюцыйнае забурэнне, выклікаўшае часовы ўпадак рангаў і клясаў, падкасіла і экономічныя падваліны дабрабыту рускай інтэлігенцыі..* Т, 28.

Адз. Р. *упадку*: ЗК, 42. В. *упадак*: Т, 28. Мн. Н. *упадкі*: СНБ.

**[УПАДАЎШЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* ўпадаць. *У знач. прым. Наватв.* Які прыйшоў ва ўпадак, заняпад. *Зірнеце* [богі] *міласьцяй сваею, Ўсе моцы вышлеце на бой, Хай распапеляць зла навею Над упадаўшай стараною.* УрП, 48.

Адз. ж. Т. *упадаўшай*: УрП, 48.

**[УПАДАЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Даходзіць да якога-н. становішча. *Апускаецца* [Мікіта] *з узходам на лаўку, кладзе на паруччы рукі, звешвае на іх галаву і ўпадае ў глыбокую напаўсонную задуму.* Т, 43.

**2.** Слабець, абяссільваць. *Я змагаюся з ёй* [бяссоннай ноччу]*, ад сябе ганю проч, Дый самлела ўпадаю з сваёй барацьбой.* БН, 91.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *упадаю*: БН, 91. 3 ас. *упадае*: Т, 43.

**[УПАІЦЬ]** *зак. Разм., перан.* Навучыць чаму-н., абязаць да чаго-н. *Гэта ўсё ўпаі дзіцяці З малаком сваіх грудзей, Бо іначай пойдзеш, маці, Жабраваць хлеб у людзей.* М, 20.

Заг. адз. 2 ас. *упаі*: М, 20.

**УПАКАРЭННЕ** *н. Разм.* Пакорнасць. [Мікіта]: *Айцу духонаму маё сыноўняе ўпакарэнне!* Т, 37.

Адз. Н. *упаракэнне*: Т, 37.

**[УПАЛАТНІЦЬ]** *зак. Руск., разм.* Пацясніць. [Ануля]: *Бачыце тут у нас у Менску апошнім часам нейкае палатненне, дык нас і ўпалатнілі ў адзін пакой, а іншыя – забралі.* Т, 45.

Абв. пр. мн. *упалатнілі*: Т, 45.

**УПАПАД** *прысл.* У падыходзячы момант. *І зробім чуцьчуць астаноўку, Каб сцерве папасці ў папад: Для Гітлера скінем вяроўку Хутчэй каб павесіўся кат.* ХЛВ, 316.

**УПАПЯРЭЧКІ** (2) *прысл. Разм.* Упапярок. [Мікіта]: *Буржуазія з кожным днём ад недастаткаў таўсцела – казаў той – расла не ўвышкі, а ўпапярэчкі, меджду протчым, як той гарбуз, а пролетарыят ад роскашы цянеў – каўаз той – рос не ўпапярэчкі, а ўвышкі, меджду протчым, як тая тычка.* Т, 40.

**УПАРТА** *прысл.* Імкнучыся рабіць па-свойму, згодна сваіх перакананняў. *Я* [Купала] *так сьлепа, так упарта на працягу раду год ідэолёгічнымі памылкамі ў сваёй творчасьці, популярнасьцю і аўторытэтам, як народны поэта, не дапамагаў з усёй адданасьцю і захапленьнем ажыцьцяўленьню заветных лятуценьняў чалавецтва, ажыцьцяўленьню соцыялізму.* АЛ.

**[УПАРТАСЬЦЬ]** *ж.* Імкненне дабіцца чаго-н. насуперак неабходнасці і разумнаму сэнсу. *Чаму яны* [людзі] *з такой упартасьцю дражняць народ і даводзяць яго да вар'яцтва, калі ён, страціўшы прытомнасьць, хватае кій і пачынае біць усіх і кожнага, не разьбіраючы?* ДК.

Адз. Т. *упартасьцю*: ДК.

**[УПАРТЫ]** *прым.* Вельмі настойлівы, паслядоўны ў ажыццяўленні чаго-н. *Упартая, але радасная праца працоўнага народу маёй бацькаўшчыны ў саюзе з усімі брацкімі рэспублікамі дала вынікі незвычайныя.* ЖН.

Адз. ж. Н. *упартая*: ЖН.

**[УПАСЦІ]** (4) *зак.* **1.** *Зак. да* падаць *у* 1 *знач.* [Мікіта]: .. *хэрувімская мамзэль Наста: аб вас мае думы ўпалі ў глыбокую задуму.* Т, 42.

**2.** Уваліцца, запасці унутр. *Што так плечы* [беларус] *сагнуў, як нявольнік дрыжыш? Грудзі ўпалі твае, рукі цягнеш да зор..* БН, 92.

**3.** Апынуцца ў якіх-н. умовах. *Бай яму* [сыну] *даўнейшы казкі Аб бацькох сваёй зямлі.. Як жылі ды панавалі, Покі ўпалі у палон.* М, 20.

◊ **Упасці з гонарам –** страціць пачуццё ўласнай годнасці, гонару. [Мікіта]: *Меджду протчым, пане настаўнік, яшчэ я не ўпаў з сваім гонарам так нізка, каб лезці ў вашу, выбачайце, мужыцкую беларускую кампанію.* Т, 47.

Абв. пр. адз. м. *упаў*: Т, 48. Мн. *упалі* (3): БН, 92; М, 20; Т, 42.

**УПАЎШЫ** *дзеепрысл. да* ўпасці. Дайшоўшы да якога-н. стану. *Ці ўскрэсьнем мы* [беларусы], *душою упаўшы, звяўшы, Каю выйсці у свет, як нейкі здольны род...* Бч, 9.

**УПЕРАД** (10) *прысл.* **1.** Наперадзе іншых, перад кім-н. *Хто йшоў ззаду, а хто з боку, Азіраўся назад, А Даніла ўсюды ўперад Выступаці быў рад.* ПСД.

**2.** У напрамку далейшага развіцця, у будучыню. *За беларускаю сілай пойдуць тые, хто, наогул, ідзе уперад і рухае жыцьцё.* ВМР. *Абыватаіь не сягае далека уперад.* Там жа.

**3.** Спачатку, раней. *Гануля меціцца ісці адчыняць, але заклапочана тым, у якія дзверы ўперад пайсці.* Т, 25. [Гануля]: *Яны* [госці] *ж уперад у нас не бывалі.* Там жа, 22. // Некалі, калісьці. [Гануля]: *Мы наракаем, што цяпер цяжка жывецца, а як падумаеш, дык і ўперад не вялікі мёд быў.* Т, 44. ВСп, 90; Кц, 194; ПСД; Т, 22; ТП, 216.

**УПЕРАМЕЖКУ** (5) *прысл. Разм.* Папераменна чаргуючыся з кім-н. [Усходні вучоны]: *(таксама запісваючы ўперамежку з Заходнім вучоным). Іван Здольнікоў.* Т, 26. [Заходні вучоны]: *(запісваючы ўперамежку з Усходнім). Пшырода на Польскіх Крэсах Всходніх надзвычай буйна і богата..* Т, 47. Т, 26, 39, 47.

**[УПІВАЦЦА]** *незак. перан.* Забіваць, губіць. *Ён* [Чараўнік] *ідзе... Сям і там набіваецца ў госьці, Упіваецца ў сэрцы нямыя.* Ч, 325.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *упіваецца*: Ч, 325.

**[УПІСАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* ўпісаць. *У знач. вык.* Уключаны куды-н. *Агністымі літарамі гэты надзвычайны дзень будзе упісан у векавечную кнігу гісторыі народау і дзяржавау ..* БСУ.

Кар адз. м. Н. *упісан*: БСУ.

**[УПІСАЦЦА]** (3) *зак. Разм.* Уступіць куды-н. [Мікіта]:

*Ну, вось я і падумаў аб гэтым раней і упісаўся ў Менскую пажарную дружыну.* Т, 24. // Прылічыць сябе да каго-н., стаць кім-н. [Ганулря]: *Добра ж, калі хто са знаёмых не бачыў, а йначай пойдзе чутка, што і мой сын у грабежнікі ўпісаўся..* Т, 57. [Янка]: *Ці ж не ўпісаліся вы* [Мікіта] *ў менскія свабодныя гэрцум-сролікі? – як тачнік які, тарабаніце гэту брычку з сабой.* Т, 45.

Абв. пр. адз. м. *упісаўся* (2): Т, 24, 57. Мн. *упісаліся*: Т, 45.

**УПІСВАЦЬ** *незак. перан.* Уключаць куды-н. .. *бліскавічнымі літарамі будзем* [беларусы] *упісваць сваю гісторыю у векавечную кнігу гісторыі народаў.* ПЛП.

Інф. *упісваць*: ПЛП.

**[УПІТАЦЕЛЬНЫ]** *прым. Руск., уст.* Пажыўны. [Поп]: *Трапеза была обільная, яства упітацельныя: амэрыканскае сала...* Т, 51.

Мн. Н. *упітацельныя*: Т, 51.

**УПІЎШЫСЯ** *дзеепрысл. да* ўпіцца. *перан. Неадабр.* Атрымліваючы задавальненне ад чаго-н. *Гэтага ня чуе хіба той, хто наўмысьля затыкае вушы, або ня можа пачуць, упіўшыся уладай.* ОШМ.

**УПІЦЦА** (2) *зак.* **1.** Напіцца дап'яна. *Ці павешуся* [Налівайка] *на жыдзе, Ці палякам удаўлюся, Ці уп'юся, павалюся.* ЛПК.

**2.** Насыціцца, напіцца. *Будзь весел, кінь хныкаць, Ўпіцца кроўю сваёй не спадзейся!* См, 90.

Інф. *упіцца*: См, 90. Абв. буд. адз. 1 ас. *уп'юся*: ЛПК.

**[УПЛЕЦЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* ўплесці. *перан. У знач. вык.* Уцягнуты, сілаю ўключаны ў склад чаго-н.; падпарадкаваны каму-н. *У твой ланцуг былі, о Русь, Уплецены з усіх бакоў Украйна, Польшча, Беларусь І сотня іншых "языкоў".* АПЖ.

Кар. мн. Н. *уплецены*: АПЖ.

**УПЛЫЎ** (3) *м.* Уздзеянне на каго-н. што-н. *Але больш за ўсё, я думаю, зрабілі на мяне* [Купалу] *ўплыў беларускія народныя казкі..* ПС. .. *урад задушыў гэту вучэльню* [Віленскі унівэрсытэт], *баючыся уплывау заходняе культуры на пануючы у тым часе у Расіі праізвол і адзічэньне.* УПУВ.

Адз. Н. *уплыў*: ПС. В. *уплыў*: АЛ. Мн. Р. *уплывау*: УПУВ.

**[УПОЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* ўпаіць. Засвоены, успрыняты. К*ідае* [забабон] *балотам на усе сьвятое, спакон веку жывучае, з малаком матчыным упоенае..* З.

Адз. н. В. *упоенае*: З.

**УПОЛ** *прысл. Руск., разм.* У пояс. *А хтось далёкі ці*

*хтось, можа, блізкі Засеў за наш бяседны, сытны стол І кідае, як з ласкі, нам агрызкі, А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол.* Бч, 9.

**УПОПЕРАК** *прысл.* Па шырыні чаго-н. [Гарошка]: *Тады ўсе мужчыны і ўсе кабеты, найболей старэйшыя, пакладіся ўпоперак вуліцы: "Хай высяляюць!"* .. Т, 43.

**УПРАВА** *прысл.* **1.** У правы бок. [Мікіта]: *(то апускаючы, то падымаючы па чарзе рукі і згодна з гэтым паварочваючы то ўправа, то ўлева галавой). Гэта... Гэта... ваша чырвонае благародзіе... гэта... як яно... качарэжкі!* Т, 60.

**2.** *Тое, што* ўлева *ў 2 знач. Шлі* [беларусы]*, ідзём далей ўлева ці ўправа – Простым гасцінцам.* Пп, 5. [Янка]: *Але яшчэ хістаемся* [беларусы] *то ўправа, то ўлева. Яшчэ ясна адзначанай мэты не можам сабе ўявіць.* Т, 35.

**УПРАСОННІ** *прысл. Разм.* Спрасоння. *А як чапнуў* [ганец] *стралой аб лук, Яны* [людзі] *скрануліся ў прасонні, І столькі, столькі крэпкіх рук К маёй паціснулася броні.* Кц, 195.

**[УПРЫГОЖАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* ўпрыгожыць. *У знач. вык. Будынкі ўстаноў, гасцініц, дзе мы* [савецкія дэлегаты] *спыняліся, былі ўпрыгожаны совецкімі сцягамі.* ПЧ.

Кар. мн. Н. *упрыгожаны*: ПЧ.

**[УПРЫГОЖЫЦЬ]** *зак.* Зрабіць прыгожым. *Радзіму-краіну ўпрыгожыў* [народ беларускі] *садамі, Варожыя знішчыў напасці.* ВВ, 263.

Абв. пр. адз. м. *упрыгожыў*: ВВ, 263.

**УПУТАЦЦА** (4) *зак. Руск., перан.* Ублытацца, умяшацца, увязацца ў што-н. [Гануля]: *Адно – ідзі* [Мікіта] *асцярожна, каб цябе ў палон не схапілі або сам у якую нячыстую гісторыю не ўпутаўся.* Т, 56. [Гарошка]: *Шкада толькі, што маці гэтага імянінніка ў гэтакую кампанію ўпуталася.* Т, 29.

Інф. *упутацца*: Т, 56. Абв. пр. адз. м. *упутаўся*: Т, 56. ж. *упуталася*: Т, 29. Буд. адз. 1 ас. *упутаюся*: Т, 57.

**УПШЭЙМЕ** *прысл. Польск.*: ◊ **Дзенькуен упшэйме** *гл.* дзеньковаць.

**УПЫН** *м. Разм.:* ◊ **Без упынну** – не перастаючы, не сціхаючы. *І там, і тутка бе упыну Шалее катні здзек і гнеў.* ГП, 8.

**[УПЫНАК]** *м. Разм.:* ◊ **Няма ўпынку** – нельга стрымаць, спыніць [Аленка]: *На гэтых* [вучоных] *дык няма ніякага ўпынку! Шныраць і шныраць, як свінні ў чужым агародзе.* Т, 39.

Адз. Р. *упынку*: Т, 39.

**УРА** (5) *выкл.* Вокліч, які выражае захапленне, адабрэнне чаго-н. [Галасы]: *Хай цвітуць нашы кветкі* [жанчыны]*, наша асалода! Віват! Ура!* Т, 28. [Галасы]: *Хай жывуць* [немцы]*!*

*Віват! Ура!* Там жа, 28.

**[УРАГ]** *м. Руск.* Вораг. *Разарваў бы, здаецца, я грудзі свае, Сэрца-б вырваў і кінуў на ўцеху ўрагом...* БН, 91.

Мн. Д. *урагом*: БН, 91.

**УРАД** (34) *м.* Вышэйшы выканаўчы і распарадчы орган дзяржаўнай ўлады. *.. кожнае жывое беларускае слова расійскі ўрад лічыў* праступствам.. МІ, 17. *.. беларускі народ застаўся беларускім народам, ня гледзячы на усе падашуканства, якое пускау маскоускі урад, каб абмаскаліць наш народ.* ДК.

• **Я з гордасцю выбіраю свой народны урад.**

Адз. Н. *урад* (20): БВ, 16; ВГ; ВН (5); ВС; ДЖ; ДК; ЗС, 18; МІ, 17; ОШМ; СНБ, 337, 338 (3), 339; УПУВ; ШБСЯ. Р. *урада* (4): ЗС, 18; ОШМ; СНБ, 338; ШБСЯ; *ураду*: БВ, 16. Д. *ураду*: ОШМ. В. *урад* (5): ГВУ (2); ЖН; СНБ, 338 (2). Т. *урадам* (2): ШБСЯ (2). М. *урадзе*: СНБ, 337.

**[УРАДАВЫ]** (3) *прым.* Які мае адносіны да ўрада. *.. раз ён* [ураднік] *не разумее беларускай мовы, дык і не павінен займаць урадавай пасады на Беларусі..* ОШМ. *Па ўсіх свабодных мясцох расклеены на сценах друкаваныя ўрадавыя пастановы, дэкрэты..* Т, 43.

Адз. ж. Н. *урадавая*: СНБ. Р. *урадавай*: ОШМ. Мн. Н. *урадавыя*: Т, 43.

**[УРАДЖАЙ]** (9) *м.* Колькасць збожжа, пладоў і пад., што ўрадзілася, вырасла. *Далей, вышай у прасторы Па ўраджай з сяўбы багаты, Камсамольцы-вярнігоры, Сталінскія арлянята!* СА, 178. *Багата ўраджаем Зямля расквітнела.* СС, 300.

Адз. В. *ураджай* (8): МПв, 220; СА, 178, 179 (2), 180 (2), 181 (2). Т. *ураджаем*: СС, 300.

**УРАДЖАЙНА** *прысл.* Урадліва, пладаносна. *Землі родзяць ураджайна, Буйней з кожным годам.* НК.

**[УРАДЖАЙНЫ]** (3) *прым.* Урадлівы, пладаносны. *Яго* [Менскага краю] *нівы ўраджайныя, дзякуючы вельмі добраму клімату і пры рацыянальнай гаспадарцы маглі-б карміць вялікае насяленьне.* ХБ, 29–30. // *перан.* Багаты на што-н. *Мінулы 1922 год быў самым ураджайным годам у справе росквіту беларускага друкаванага слова.* ВСп, 89. // *Вобразн. .. кінутыя мазолістай рукой здаровыя зярняты заруйнеліся на нашых вачах буйнай квяцістай руняй, ад якой можна смела чакаць ураджайнага жніва.* ПЛП.

Адз. м. Т. *ураджайным*: ВСп, 89. н. Р. *ураджайнага*: ПЛП. Мн. Н. *ураджайныя*: ХБ, 30.

**УРАДНІК** (8) і *разм.* **ВУРАДНІК** *м. Гіст.* У дарэвалюцыйнай Расіі – ніжэйшы чын павятовай паліцыі. *Міліцэйскі*

*praдн*

*ураднік просьбы не прыняў, сказаўшы, што просьбы да ураду павінны пісацца па-польску.* ОШМ. *Быу маскоўскі цар, былі у нас насланые ім усялякіе чыны: земскі, вураднік, стражнік.* БС.

Адз. Н. *ураднік* (3): ОШМ (3); *вураднік*: БС. Р. *ураднiка*: ВНЗ. Мн. Н. *ураднікі*: ОШМ. Р. *ураднікаў*: ОШМ. В. *ураднікаў*: ОШМ. Т. *ураднікамі*: ОШМ.

**[УРАЖАННЕ]** (7) *н.* **1.** Уплыў чаго-н. на каго-н. *З рускіх* [аўтараў] *павінен адзначыць М. Горкага, які зрабіў на мяне* [Купалу] *вялікае ўражанне.* ПС.

**2.** Уяўленне, думка, якія склаліся ў выніку знаёмства, сустрэчы з кім-, чым-н. *Не магу не сказаць пра вельмі светлае ўражанне ад сяброўскага яднання з членамі нашай* [савецкай] *дэлегацыі, асабліва з старшынёй дэлегацыі, т. Кальцовым..* Пч. *Гэтыя сустрэчы яшчэ больш павялічваюць прыемнае ўражанне ад мае* [Купалы] *паездкі.* Там жа.

• **Цуда, створанае бальшавікамі.** (Уражанні ад паездкі на Беламорска-Балтыйскі канал).

Адз. В. *уражанне* (5): ПС; ПЧ (3); Т, 51. Мн. Н. *уражанні* (2): ПЧ; ЦСБ.

**УРАЗ** (2) *прысл.* У той жа момант; раптам. *Гэта ўраз жэ падхватываюць палякі, і “Kurjer Litewski”* ВР. .. *Цешыцца дзяўчына, Што Янук ня згінуў, Той ураз-жа ёй і кажа: Убараніў Айчыну.* ЕЯП.

**УРАЗДРОБ** (3) *прысл. Разм.* **1.** Паасобку. *Ураздроб, агулам Намі* [беларусамі] *гандлявалі – Па цане даступнай, Па цане крывавай,* МПв, 218. .. *люд катавалі ўраздроб і агулам.* ТП, 214.

**2.** Часткамі. .. *распрадаецца ўраздроб вялікі двор Косіна ў Барыс. павеце і г.д.* ЗС, 18.

**[УРАЗУМЕННЕ]** і **[УРАЗУМЕНЬНЕ]** *н.* **1.** *Разм.* Здольнасць разумець, спасцігаць розумам што-н.; разуменне. [Мікіта]: *Асабліва надта трудная для майго рускага ўразумення ваша граматыка – гэтыя націскі, націскі...* Т, 56.

**2.** Усведамленне, асэнсаванне чаго-н. *Дзеля ясьнейшага ўразуменьня пастараемся падабраць кнігі па дадзенаму сьпісу згодна з іх зьместам.* ВСп, 89.

Адз. Р. *уразумення*: Т, 56; *уразуменьня*: ВСп, 89.

**УРАЗУМЕЦЬ** *зак.* Зразумець, ахапіць розумам. .. *я* [Купала] *і ў першыя гады Кастрычнікавае рэволюцыі ня змог .. ўразумець і усьвядоміць усю веліч і гісторычную нямінучасьць пролетарскае рэволюцыі..* АЛ.

Інф. *уразумець*: АЛ.

**[УРАТАВАЦЦА]** *зак. Разм.* Уберагчыся ад небяспекі,

гібелі. *Ніхто не ўратуецца ад трапнай кулі совецкага снайпера.* ВГ.

Абв. буд. адз. 3 ас. *уратуецца*: ВГ.

**УРАЧЫСТА** (5) *прысл.* Святочна, па-святочнаму. *Людзі ходзяць урачыста У святочных строях..* НК. [Янка]: *Абавязкова павянчаліся, ды яшчэ як урачыста.* Т, 53.

**2.** Велічна, выклікаючы ўзвышаныя пачуцці. *Бо хто калі думаў, што жыці я буду Як птушка, як вецер над нівай квяцістай, І дзівам дзівіцца вялікаму цуду, Што вокал мяне так цуднее ўрачыста.* ТП, 213. *Маўчаць урачыста лясы і курганы, Хаваючы былі шатамі хвой.* ПБН. СС, 301.

**[УРАЧЫСТАСЦЬ]** і **[УРАЧЫСТАСЬЦЬ]** *ж.* **1.** Святкаванне якой-н. выдатнай паадзеі. *Сёння мы напярэдадні вялікіх урачыстасцяй – XV гадаваіны БССР і XV з'езда нашай пераможнай комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі.* ШБСЯ.

**2.** Хараство ў прыродзе, узвышанасць. .. *каб я* [С. Меч] *мог, я спыніў-бы яго* [вечар] *ды зрабіў яго бясконцым, і ўсё маё жыцьцё любаваўся-б .. гэтымі махрастымі залаціста-жоўтымі бярэзінамі, што аж гараць на фоне сасновага бору і стаяць непарушна, бы заварожаныя спакойнаю урачыстасьцю заходу сонца.* ХБ, 29.

Адз. Т. *урачыстасьцю*: ХБ, 29. Мн. Р. *урачыстасцяй*: ШБСЯ.

**УРАЧЫСТЫ** (5) *прым.* Звязаны з урачыстасцямі; святочны. [Аленка]: *А праўда, праўда, цётачка! Шлюб наш быў гэткі ўрачысты.* Т, 53. *У гэтые дні адбылося вялікае і урачыстае сьвято уходзін Віленскага Унівэрсытэту іменьня караля Сьцяпана Баторага.* УПУВ.

**2.** Важны, знамянальны. *Я* [Купала] *хачу з усёй шчырасцю ў гэты ўрачысты для мяне дзень падкрэсліць тую вялікую ўвагу, тыя клопаты аб маім жыцці з боку большэвіцкай партыі і совецкай улады.* ЖН.

• **Прамова народнага паэта рэспублікі Янкі Купалы на ўрачыстым юбілейным сходзе 11 снежня 1935 года.**

Адз. м. Н. *урачысты*: Т, 53. В. *урачысты*: ЖН. М. *урачыстыстым*: ЖН. н. Н. *урачыстае* (2): ВВ, 282; УПУВ.

**[УРНА]** *ж.* Скрынка для выбарчых бюлетэняў. *Ды йшчэ кажа* [мамка], *што малая* [Галінка], *Урны не дастану... Штож такое, – пачакаю, Пакуль большай стану.* Вб, 236.

Адз. Р. *урны*: Вб, 236.

**[УРОК]**[1] (4) *м.* **1.** Работа, заданне, якое дае рэпетытар вучню для абучэння асобнаму прадмету. [Мікіта]:

*(да Ганулі). Меджду протчым, мамаша, апаражнеце стол, бо нам трэба хутчэй вучыцца “ўрокаў”.* Т, 31. [Янка]: *(да Аленкі і Гарошкі). А мы, пакуль яны* [Мікіта і Спічыні] *будуць вучыцца сваіх “урокаў”, пойдзем у мой пакой.* Там жа, 31.

**2.** *перан.* Вынік, вывад, карысны на будучае. *Няўжо настолькі коратка памяць японскіх ваяк, што яны забылі ўрокі 1921–1922 гг.* ВГ. *Напомнім ім* [японскім самураям] *гэтыя ўрокі!* Там жа.

Адз. В. *урокі* (2): ВГ (2). Мн. Р. *урокаў* (2): Т, 31 (2).

**[УРОК]²** *м. Разм.* Няшчасце, выкліканае сурокам. *Раўстань з народу нашага, прарок, Праяваў бураломных варажбіт, І мудрым словам скінь з народу ўрок, Якім быў век праз ворагаў спавіт!* Пт.

Адз. В. *урок*: Пт.

**УРЫВАК** *м.*: • **Урывак з паэмы.**

**[УРЫВАЦЦА]** (2) *незак.* **1.** Пранікаць куды-н, пераадольваючы перашкоды. *Помніцца, калі ў рэдакцыю ў тым часе адзінай беларускай часопісі “Наша Ніва” ўрываліся жандармы і “ахраннікі”, здзекваліся над людзьмі, працуючымі там, забіралі рукапісы..* МІ, 17.

**2.** Пачынаць раздавацца (пра гукі). *Пасля некалькіх мінут раптоўна ўрываюцца зыкі вайсковай музыкі..* Т, 43.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *урываюцца*: Т, 43. Пр. мн. *урываліся*: МІ, 17.

**[УРЭПІЦЦА]** *зак. Абл.* Учапіцца. [Гануля]: *Вось адзін пан.. урэпіўся за Мікітку і загадаў яму цягаць чужыя рэчы ў свой панскі пакой..* Т, 57.

Абв. цяп. адз. м. *урэпіўся*: Т, 57.

**УРЭШЦЕ** (4) *прысл.* **1.** Пасля ўсяго, напаследак, нарэшце. *Спрачаліся* [хаўрусьнікі] *доўга, Як край наш раскрасьці, Дый сьпеліся ўрэшце... Парваць на дзьве часьці.* Х. *Мой мілы таварыш, мой лётчык, Вазьмі мяне ўрэшце з сабой..* ХЛВ, 315.

**2.** У знач. далучальнага злучніка ў спалучэнні са злучнікам “і”. .. *здзекваліся* [жандармы] *над людзьмі, працуючымі там* [у рэдакцыі], *забіралі рукапісы і ўрэшце цягнулі ў вастрог у нічым невіноўных людзей.* МІ, 17.

**3.** *у знач. пабочн.* Паказвае на завяршэнне працэсу, дзеяння. *Урэшце, забабон у наш XX-ты век апляваў паскуднай слінай увесь культурны сьвет..* З.

**[УСАЧ]** *м. Руск., разм.* Вусач. *Под звукі ліхіх трубачэй, Па уліцам пыль подымая, Проходзіл полк гусар усачэй...* Т, 53.

Мн. Р. *усачэй*: Т, 53.

**[УСВЕДАМЛЕННЕ]** *н. Польск.* Культурнасць, асвечанасць,

адукаванасць. *У іх* [беларускіх сялян] *цяпер наладжаны беларускі прасветны гурток, які працуе над усведамленнем сваіх аднасельцаў..* МІ, 17.

Адз. Т. *усведамленнем*: МІ, 17.

**УСЕБЕЛАРУСКІ** (2) *прым*. Які мае адносіны да ўсёй Беларусі. *.. калі збярэцца ўсебеларускі Устаноўчы сойм, то зямельную рэформу ён праўдзе, і праўдзе яе напэўна не на карысць паноў-абшарнікаў.* ЗС, 18. *О, слава вам, ўсебеларускія Жыды!* Ж.

Адз. м. Н. *усебеларускі*: ЗС, 18. Мн. Н. *усебеларускія*: Ж.

**[УСЕДЗЕЦЬ]** (2) *зак*. Застацца сядзець, знаходзіцца на месцы. *Сваякі – ўсе і суседзі – ніхто дома з іх ня ўседзеў..* ГЖУ. *Беларус доўга ў чужыне не ўседзіць.* ЗС, 18. *Параўн.* усядзець.

Абв. пр. адз. м. *уседзеў*: ГЖУ. Буд. адз. 3 ас. *уседзіць*: ЗС, 18.

**УСЕЛЯКІ** *гл.* **УСЯЛЯКІ**.

**УСЕМАГУТНЫ** (3) *прым*. Які мае неабмежаваную сілу, уладу. *Распасьцер свае усемагутнае ўладаньне дзікі зьвярыны забабон ад краю да краю.* З. *Не пыталіся гэтыя ўсемагутныя дзяржавы, ці заваёваныя імі слабейшыя народы хочуць іх, сказаў бы, воўчай апекі, ці не.* НДН, 18.

Адз. м. Н. *усемагутны*: Кз, 17. н. В. *усемагутнае*: З. Мн. Н. *усемагутныя*: НДН, 18.

**[УСЕСАЮЗНЫ]** *прым*. Які мае значэнне для ўсіх народаў СССР. *Гістарычная пастанова ЦК Усе КП (б) аб рэарганізацыі літаратурна-мастацкіх організацый мае нятолькі ўсесаюзнае, але і сусьветнае значэнне.* ДНСП.

Адз. н. В. *усесаюзнае*: ДНСП.

**[УСЕСЦІСЯ]** *зак*. Сесці, размясціцца дзе-н. [Мікіта]: *Цяпер, найяснейшыя госці, калі ўсе мы ўжо ўселіся, – можна пачынаць.* Т, 27.

Абв. пр. мн. *уселіся*:Т, 27.

**[УСЕСЬВЕТНЫ]** (2) *прым. Разм.* Які ахоплівае усе народы зямлі; сусветны. *Але вось надыйшоў час вялікай усесьветнай разрухі..* УПУВ. *Пажычыць у гэту усесьветную завіруху німа дзе..* ВН.

Адз. ж. Р. *усесьветнай*: УПУВ. В. *усесьветную*: ВН.

**УСЁ¹** *гл.* **УВЕСЬ**.

**УСЁ²** (35) *прысл*. **1.** Увесь час, заўсёды, пастаянна. *Мо якому народу і прышла гэта вясна, але беларускі народ гэта "вясна народаў" неяк усё абмінае.* ДД. *Я* [маці] *на гэтым кургане Ўсё сяджу і плачу, Усё чэкаю зьмілавання, Дый ні скуль не бачу.* Дз, 191.

**2.** Толькі; выключна. *Эй, гуляйце, чорнасотники, На благое ўсё ахвотники..* ВЧ. *Думкі бабскія ў мяне ўсё адны: Хайбы хоць і ад дурняў, ды сыны...* ВБЛ, 83.

**3.** У спалучэнні са словамі, якія абазначаюць змену прыметы або нарастанне прыметы. *З квяцістымі сонечнымі думкамі, з нязломнай верай у лепшую долю і волю пойдзем* [беларусы] *усё наперад і наперад пад святым сцягам вольнай Беларусі.* ПЛП. *На месцы народнай цемры вырастаюць бязупынна ўсё новыя і новыя культурныя, навуковыя і навучальныя ўстановы.* АЛ.

**4.** Аднак, тым не менш. [Мікіта]: *Медждy протчым, мамаша, я вас прасіў не запрашаць іх* [Янку, Аленку, Гарошку], *а вы ўсё сваё правіце.* Т, 27.

◊ **І ўсё ж –** усё-такі, тым не менш. *Ужо на згубу з зямлёю і з хатай запісан* [другі сын] *І ўсё-ж долі завідуе ката.* Ч, 320**.** **Усё ж такі** (7) – *тое, што і* ўсё ж. [Янка]: *Але ўсё ж такі, чаму вы* [Мікіта] *не паехалі?* Т, 55. *.. а ўсё-ж такі ён* [мінулы год] *шмат чаму наўчыў, і шмат каму з беларускаго грамадзянства адкрыў вочы, асьлеплены тым ці іншымі утопіямі і абецанкамі...* СНБ.

АЛ (2); Ан, 19; Бч, 9; ВБЛ, 80; ВД; ВС; ВСп, 90; Дз, 189, 191; Кц, 194, 195 (2); МІ, 17; НГ; Нз, 14; ПДз, 83; СНБ; Т, 20, 25, 27, 40, 42, 48, 57.

**[УСЁЗНІШТАЖАЮЧЫ]** *прым. Разм.* Усёзнішчальны. *.. дзяржавы ў сваім імперыялістычным і мілітарным усёзніштажаючым паходзе мелі адну ярка зарысованую мэту – гэта заграбіць як найболей пад сваё каршуновае крыло чужых малых народаў..* НДН, 18.

Адз. м. М. *усёзніштажаючым*: НДН, 18.

**[УСЁПАЯДАЮЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. Разм. У знач. прым.* Усёзнішчальны. *Соцыяльная рэволюцыя, якая загарэлася крывавым пажарам на усходзе Эўропы – у Расіі, цяпер яшчэ палае усё паядаючым полымем..* СНБ.

Адз. н. Т. *усёпаядаючым*: СНБ.

**УСЁ-ТАКІ[1]** (2) *злуч. супраціўны (у спалучэнні са злучнікам "але").* Тым не меш. [Янка]: *.. у нашай граматыцы без націскаў ані з месца. Але ўсё-такі вам* [Мікіту] *прыдзецца вярнуцца на гэныя курсы..* Т, 56. *Параўн.* всё жэ.

**УСЁ-ТАКІ[2]** (3) *часц.* Ужываецца пры выказванні пярэчання, проціпастаўлення папярэдняму. [Начальнік]: *Мы ўсё-такі маленькія агледзіны зробім вашых* [Мікітавых] *рэчаў, каб часам памылкова не запуталіся між імі і чужыя.* Т, 60. [Дама]: *Ах, якія ж усё-такі яны* [паны] *джэнтльмэны!* Там жа, 58. СБНГ.

**[УСКАКВАЦЬ]** *незак.* Хутка ўставаць, паднімацца з месца. *Ускаквае* [Мікіта] *і пад тахт музыкі топчацца на адным месцы.* Т, 43.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *ускаквае*: Т, 43.

**[УСКАЛЫХНУЦЬ]** *зак. перан.* Усхваляваць, устрывожыць. *Здаецца, сонца яе* [песню] *чула І просты зьвер, і ваўкалак, Усіх здаецца, ускалыхнула...* УрП, 47.

Абв. пр. адз. ж. *ускалыхнула*: УрП, 47.

**[УСКЛАДАЦЬ]** *незак. перан.* Перакладаць чые-н. абавязкі, адказнасць на другога. *Які-ж мы* [беларусы] *адказ дадзім, калі мы цяпер на другіх гэты адказ ускладаем.* БС.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *ускладаем*: БС.

**УСКЛАСЦІ** *зак.* Пакласці. .. *наша спачуванне да маці, страціўшай сына, наша пашана да памяці паэта-комуніста як найлепей выказаны былі т. Кальцовым, які перадаў ёй букет кветак з просьбай ускласці на магілу сына.* ПЧ.

Інф. *ускласці*: ПЧ.

**[УСКЛІКНУЦЬ]** *зак.* Сказаць што-н. гучна, усхвалявана. – *Кураць, чэрці! – усклікнуў назіральнік.* ПСп.

Абв. пр. адз. м. *усклікнуў*: ПСп.

**УСКОЧЫЎШЫ** (2) *дзеепрысл. да* ускочыць. Рэзка падняўшыся. [Спічыні]: *(ускочыўшы з лаўкі). Пардон! У мяне разбушаваліся нервы.* Т, 41. *Далёкі стук у дзверы злева. Спічыні, ускочыўшы.* Там жа, 32.

**[УСКРЭСНУЦЬ]** (4) *зак. Разм.* **1.** Уваскрэснуць, ажыць. *Першым чынам паклон і дзякуй ад сэрца шлю д-ру Казубоўскаму.. за апэрацыю, дзякуючы якой я амаль не з таго сьвету ўскрос..* ЛР.

**2.** Адчуць прыліў жыццёвых сіл, ажыць духам. *Ці ўскрэснем мы* [беларусы] *душою, ўпаўшы, звяўшы, Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...* Бч, 9. // Стаць актыўным да якіх-н. дзеянняў, ажыццяўлення чаго-н. *Ты* [Беларушчына] – *як спала – ускрасла, твае дзеці прачнуліся, Твой народ, ты сама ўсталі новае строіць жыццё.* Б, 18.

Абв. пр. адз. м. *ускрос*: ЛР. ж. *ускрасла*: Б, 18. Буд мн. 1 ас. *ускрэснем*: Бч, 9. 2 ас. *ускрэсьнеце*: Ж.

**[УСКУРАЦЬ]** *зак. Разм.* Дабіцца, дамагчыся чаго-н. *Палякі мелі магчымасьці перарабляць беларусау на палякоу цэлые трыста год з лішкаю і нічога ня ускуралі, калі ня лічыць пары сотак старога выміраючага шляхецтва.* ДК.

Абв. пр. мн. *ускуралі*: ДК.

**[УСЛАЎЛЯЦЬ]** *незак.* Праслаўляць, апяваць. *Свайго вызвалення мы дзень услаўляем І песню пра шчасце прыносім табе*

[Сталіну]. ПБН.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *услаўляем*: ПБН.

**УСЛАЎЛЯЮЧЫ** *дзеепрысл. да* ўслаўляць. *І наўсцяж краінаю, Радасць услаўляючы, Песні салаўіныя Льюцца несціхаючы.* ПЛ.

**[УСЛАЦЬ]** *зак.*: ◊ **Услаць макам –** заняць сабою ўсю прастору. *Шоў ваяк з ваякам, – Кожны смел, ахвоч, Б'е адвага з воч, Поле ўслалі макам.* ВБ.

Абв. пр. мн. *услалі*: ВБ.

**УСЛЕД** (3) *прыназ.* з Р. У напрамку каго-н. [Поп]: *(ідучы ўслед за адходзячымі, паказваючы на іх рукой). Акі пціцы небесныя, отлетающчы на зімнее время в жаркія страны.* Т, 38. [Мікіта]: *(яшчэ кленчачы і працягнуўшы з парасонам рукі ўслед Насце). О, ранга мая асэсарская!* Там жа, 42. // Наўдагон каму-н. [Мікіта]: *(услед Спічыні). Да мілага спаткання.* Т. 32.

**[УСЛУГА]** *ж. Руск.:* ◊ **Да вашых услугаў –** пра гатоўнасць быць у чым-н. распараджэнні. [Мікіта]: *Мадам-сіньёра, я ўвесь да вашых, меджду протчым, услугаў!* Т, 51.

Мн. Р. *услугаў*: Т, 51.

**УСМЕРЦІЦЬ** *зак. Наватв.* Знішчыць. *Каб вады гарачай На таго нагрэлі І не ўстаў ён болей Са сваёй пасцелі, – Хто над Беларусяй Хоча распасцерці Свой бізун чужацкі І народ усмерціць.* К.

Інф. *усмерціць*: К.

**УСМЕРЧАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* ўсмерціць. Забіты. *Спі, буравеснік, усмерчаны Горкі Хеўрай прадажніцкіх юдаў.* СЗГ, 252.

Адз. м. Н. *усмерчаны*: СЗГ, 252.

**[УСМІХАЦЦА]** (2) *незак.* Выражаць усмешкай пачуцці (іронію). *Янка іранічна ўсміхаецца..* Т, 52.

**2.** *перан.* Прывабліваць чым-н. *Вісла адным* [людзям] *усміхаецца ласа, Тыя, заплюшчыўшысь, пруцца к Няве.* Н.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *усміхаецца* (2): Н; Т, 52.

**УСМІХАЮЧЫСЯ** і **УСМЯХАЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* ўсміхацца. [Ануля]: *(усміхаючыся). Дык будуць* [унукі], *мае мілыя, будуць.* Т, 54. [Наста]: *(усмяхаючыся). Вы, мусье Нікіці, пэўна ведаеце.* Там жа, 41.

**УСОВЕРШЭНСТВОВАННЫЙ** *прым. Тое, што* дасканалены. [Усходні вучоны]: *(таксама запісваючы ўперамежку з Заходнім вучоным). Родной язык – обшчэрусскій, веліколепно усовершэнствованный, но с большой прымесью непонятных слов.* Т, 26.

Адз. м. Н. *усовершенствованный*: Т, 26.

**УСПАМІН** *м.* Узнаўленне таго, што захавалася ў памяці. *Ах, салодкі ўспамін не адзін Шалясціць, як вяроўкаю кат...* ЧС, 50–51. *Параўн.* успамінак.

Адз. Н. *успамін*: ЧС, 50-51.

**[УСПАМІНАК]** *м. Разм. Тое, што* успамін. *Першые* [палякі] *маюць рэяльную сілу, а другія* [расійцы] *пачуваюць сябе дужымі успамінкамі прамінулага панаваньня..* ВМР.

Мн. Т. *успамінкамі*: ВМР.

**[УСПАМІНАЦЦА]** *незак.* Узнаўляцца ў памяці; прыпамінацца. *Успамінаюцца страшэнна цяжкія варункі працы на беларускай вызваленчай ніве ў часе панавання ў нашым краі расійска-царскага самаўласця.* МІ, 17.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *успамінаюцца*: МІ, 17.

**УСПАМІНАЦЬ** (8) *незак.* Аднаўляць у памяці, прыпамінаць. *Я* [Купала] *ўжо ўспамінаў, з якой заўзятасцю я слухаў казкі вясковых парабкаў.* ПС. [Мікіта]: *Янка Здольнік, меджду протчым, гэта той... хэ-хэ-хэ!.. беларус, аб якім я ўжо успамінаў...* Т, 23. // Напамінаць. [Мікіта]: *Ды я ж прасіў вас, мамаша, не ўспамінаць мне аб гэтай трагедыі майго жыцця.* Т, 34.

◊ **Пракляццем ўспамінаць –** праклінаць. *.. прыйдуць новыя людзі, новыя прарокі і будуць па-божаму над фальшывымі прарокамі і прадажнымі душамі суды судзіць, з пакалення ў пакаленне пракляццямі ўспамінаць.* ПЛП. **Успамінаць добрым (чулым) словам** – успамінаючы добра адзывацца аб кім-н. *.. цябе, моладзь, у вяках будуць успамінаць добрым і чулым словам.* ЖН.

Інф. *успамінаць* (3): ЖН; ПЛП; Т, 34. Абв. цяп. адз. 3 ас. *успамінае*: СС, 301. Пр. адз. м. *успамінаў* (3): ПС; Т, 23, 25. Мн. *успаміналі*: УрП, 47.

**[УСПЕЦЬ]** (3) *зак.* Паспець, змагчы зрабіць што-н. [Ануля]: *Стары згарусціў быў лішнюю сотню, маніўся кусочак зямлі з хатай купіць, але не ўспеў.* Т, 20. *Жылуновіч успеў к таму часу ўцячы.* СНБ, 339.

Абв. пр. адз. м. успеў (3): СНБ, 330; Т, 20, 37.

**УСПОМНІЦЬ** (11) *зак. да* ўспамінаць. [Янка]: *Вось я ўспомніў, цётачка, адну сваю справу, мушу прасіць вашай у гэтым помачы.* Т, 23. [Ануля]: *Ну, цяпер успомніла! Гэта ж мы блізкія сваякі..* Там жа, 25. // Вярнуцца думкай да забытага. *Як жыла і жывеш, будзеш жыць, Беларушчына: Зразумеў і успомніў цябе твой мільённы народ.* Б, 18.

◊ **Успомніць добрым словам** (2) – успамінаючы, добра адазвацца аб кім-н. *.. я* [Купала] *лічу сваім сьвятым абавязкам хоць на гэтым месцы успомніць гэтых асоб добрым*

*словам.* ЛР. *Не магу так сама ня ўспомніць добрым словам д-ра Малькевіча..* Там жа.

Інф. *успомніць* (4): ВСп, 91; ЛР (2); У. Абв. пр. адз. м. *успомніў* (3): Б, 18; Т, 23, 43. ж. *успомніла* (2): Т, 25, 54. Заг адз. 2 ас. *успомні* (2): В; Ч, 323.

**[УСПЫШКА]** *ж. перан.* Моцнае праяўленне чаго-н. *А між іншым, у перапынках паміж адной паэтычнай успышкай і другой – я* [Купала] *перакладаю "Кабзар" Тараса Шаўчэнкі для юбілейнага зборніка.* МП.

Адз. Т. *успышкай*: МП.

**УСТАВАЦЬ** (5) *незак*. Прачынацца. [Мікіта]: *У гэтым портфэльчыку .. яшчэ дакуманты на права ўставаць рана і не ўставаць рана, хадзіць на службу і не хадзіць на службу..* Т, 46.

**2.** Паднімацца на барацьбу за што-н., абараняць што-н. *Пара у рукі браць паходні, Уставаць, ісьці, ноч разсьветляець!* ПБП. 1. // *перан. Каменні ўстаюць, каб забіць ворага..* РКП.

Інф. *уставаць* (3): ПБП; Т, 46 (2). Абв. цяп. 1 ас. *устаюць*: РКП. Пр. мн. *уставалі*: Ч, 321.

**[УСТАВІЦЬ]** *зак.*: ◊ **Уставіць спіцы –** стварыць перашкоду, памяшаць каму-н. зрабіць што-н. [Янка]: *Глядзеце толькі, каб гэты гэр Спічыні вам* [Мікіту] *не ўставіў і тут спіц, як і перад нямецкай сытуацыяй.* Т, 48.

Абв. пр. адз. м. *уставіў*: Т, 48.

**[УСТАНАВІЦЬ]** *зак.* Арганізаваць, наладзіць. *Устанавілі назіранне за праціўнікам.* ПСп.

Абв. пр. мн. *устанавілі*: ПСп.

**[УСТАНОВА]** (8) *ж.* Грамадская ці дзяржаўная арганізацыя, занятая адпаведнай дзейнасцю. *На месцы народнай цемры вырастаюць бязупынна ўсё новыя і новыя культурныя, навуковыя і навучальныя ўстановы.* АЛ. *Ва ўсіх дзяржаўных і грамадскіх установах, пачынаючы ад дзяржаўнага сойму і нацыянальнага войска і канчаючы мясцовымі і валаснымі самаўрадамі, – павінны мець сваё месца і нацыянальныя меншасці..* НДН, 19.

Адз. Р. *установы*: СНБ, 338. Мн. Н. *установы* (2): АЛ; ВС. Р. *устаноў* (2): ПЧ; ШБСЯ. В. *установы*: А, 328. М. *установах* (2): ВС; НДН, 19.

**[УСТАНОЎКА]** *ж.* Мэтавая накіраванасць, арыенціроўка на што-н. .. *бачачы сваімі вачыма іхнія* [беларускіх нацыянал-дэмакратаў] *несумяшчальныя з інтарэсамі .. савецкае ўлады ўстаноўкі і мерапрыемствы ў культурным будаўніцтве, я* [Купала] *ня толькі ні разу не асудзіў іх, але наадварот, маральна падтрымліваў..* АЛ.

Мн. В. *устаноўкі*: АЛ.

**[УСТАТКАВАЦЦА]** *зак. Польск.* Пасталець, абразуміцца. [Янка]: *Устаткуецца ваш* [Ганулі] *Мікітка з часам і пойдзе па розум да галавы.* Т, 20.

Абв. буд. адз. 3 ас. *устаткуецца*: Т, 20.

**УСТАЦЬ** (14) *зак.* **1.** Падняцца, стаць на ногі. *Дама, Поп, Спраўнік, Пан – устаюць, раскланьваюцца і шнурам выходзяць у праціўны бок, з якога прышлі былі.* Т, 38. *Хор запеў нейкую песьню – якая азначала на афішах: "беларускі гымн", але мэлёдыя была незнаёмая, і ніхто ня ўстаў, абражаючы гэтым, якбы здавалася, гонар беларускай нацыі.* СБНГ.

**2.** Падняцца на барацьбу за што-н. *І зь ветрамі, з бурамі б'юць* [прадзеды] *на трывогу: "Забраны край" клічуць устаць,* ЗК, 43. *Зняць путы бацькаўшчыне ўстань, прарок!* Пт.

**3.** Прыступіць да ажыццяўлення чаго-н. *Твой народ, ты* [Беларусь] *сама ўсталі новае строіць жыцьцё.* Б, 18. // Абудзіцца да новага жыцця. *Гусьлямі, лукам і сьвятлом Будзіце* [ганцы], *клічце і сьвяціце, І так спакуйце іхнім сном, Каб сон іх счэз і ўсталі жыці.* Кц, 196.

**4.** Увайсці ў сілу, стаць дзейным. [Янка]: *Пакуль ваша* [Мікіты] *гэта* [чыноўніцкае] *становішча ўстане, то вам саміх чэрві паточаць.* Т, 21.

**5.** З'явіцца, настаць, пачанацца. *Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў, .. Што гэткае ўстане жыццё прада мною Маё і маёй раскаванай радзімы..* ТП, 215.

◊ **Ня ўстаць с пасьцелі –** памерці. *Каб .. ня ўстаў ён болей Са сваёй пасьцелі, – Хто над Беларусяй Хоча распасьцерці Свой бізун чужацкі І народ усьмерціць.* К. **Устаць з руін** – адбудавацца, аднавіцца. *У хлебе восць. У горле косць. Сабою самі ўстаць з руін Вам* [бальшавікам] *не хапіла смагі, сіл..* ПВ.

Інф. *устаць* (3): ЗК, 43; ПВ; Т, 28. Абв. цяп. 3 ас. *устаюць*: Т, 38. Пр. адз. м. *устаў* (2): К; СБНГ. ж. *устала*: ВБЛ, 80. Мн. *усталі* (2): Б, 18; Кц, 196. Буд. адз. 3 ас. *устане* (2): Т, 21; ТП, 215. Мн. 3 ас. *устануць*: Б, 18. Заг. адз. 2 ас. *устань* (2): БН, 93; Пт.

**[УСТОЙ]** (2) *м.* Уклад жыцця. *Гераічная барацьба лепшых сыноў рабочага класа падарвала ўстоі самаўладства, устоі векавечнай цемры, няволі.* ДЖ.

Мн. В. *устоі* (2): ДЖ (2).

**[УСТРАСАЦЬ]** *незак.* Трэсці, калаціць. *Каб аж косьці ўстрасаў дзікі рогат, – На пацеху сьляпой дзічы, сьмейся!* См, 90.

Абв. пр. адз. м. *устрасаў*: См, 90.

**[УСТРОЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* устроіць. *У знач. вык.*

Арганізаваны, зроблены. [Гарошка]: *І чамярыца яго ведае, як гэта нейк хітра на свеце ўстроена!* Т, 44.

Кар. адз. н. *устроена*: Т, 44.

**УСТРОІЦЦА** *зак.* Вырашыць, уладзіць якое-н. пытанне. *Ці магчыма будзе гэтак устроіцца з галоднымі на зямлю людзьмі і ў будучыне – вось пытанне?* ЗС, 18.

Інф. *устроіцца*: ЗС, 18.

**УСТРЫВОЖАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* ўстрывожыць. У *знач. прым.* Усхваляваны, занепакоены. [Мікіта]: (*устрывожаны*) *Што пачынаецца?* Т, 58.

Адз. м. Н. *устрывожаны*: Т, 58.

**[УСТРЭЦЬ]** *зак. перан.* Сустрэць, прывітаць каго-н. *Мы вас прынялі хлебам і соляй, Людзі чужые, Ўстрэлі вас ласкай нашага поля Кветкі жывые.* Чж, 146.

Абв. пр. мн. *устрэлі*: Чж, 146.

**[УСТУПІЦЬ]** *зак.* Пачаць займацца якой-н. дзейнасцю. *На літаратурную ніву я ўступіў у 1905 г., надрукаваўшы свой першы верш "Мужык".* АЛ.

Абв. пр. адз. м. *уступіў*: АЛ.

**УСУР'ЁЗ** (2) *прысл. Разм.* Сур'ёзна, не жартам. *Гэты* [стаханаўскі] *рух паказвае, што чалавек усур'ёз і назаўсёды паднačальвае сабе прыроду..* СТ. *Рэспублікі?! ды з "языком". З іх лезе кожная ўсур'ёз.* АПЖ.

**УСУЧЫЦЬ** *зак. Разм.* Прымусіць узяць. [Мікіта]: *Думаю, што мне ўдасца злавіць, меджду протчым, якога немца і ўсучыць яму ягоныя маркі.* Т, 34.

Інф. *усучыць*: Т, 34.

**УСХОД** (26) *м.* **1.** Час, калі ўзыходзіць сонца. *Цвіці-ж, каласуйся, мой край, Ці сонейка захад, ці ўсход.* ТП, 217. *Шэпты-чары твaрыў ён* [чараўнік] *на імі* [сынамі] *на ўсходзе, – Як жыць лепей, як лепей памерці.* Ч, 319.

**2.** Адзін з чатырох напрамкаў свету, процілеглы захаду. *Яны* [бежанцы] *з абозам на усход цяклі, Сузор'ямі апошні мерачы свой шлях..* ВБЛ, 80. *Лунае груганнё ў прыволлі На ўсход, на захад, там і тут..* ГП, 8. *Параўн.* всхуд.

**3.** Краіны, размешчаныя ў гэтым напрамку і супрацьпастаўленыя Заходняй Еўропе. *Сягодня таргуецца Захад з Усходам, заходняя культура – з усходнім адзічэннем, і таргуюцца за што?* Тж, 15. *Тыя гуманітарныя ідэі, якія йшлі з Захаду, заўсёды знаходзілі шчыры водгук на Усходзе..* Там жа.

Адз. Н. *усход* (6): ТП, 213, 214, 215, 216, 217 (2). Р. *усходу* (6): Гр, 215; ДЖ; СНБ (2); Тж, 16; ТС, 74. В. *усход* (5): ББ; ВБЛ, 80; ГП, 8; Тж, 16; Ч, 319. Т. *усходам*: Тж, 15. М. *усходзе*

(8): АБ, 16; Кр, 77; РК; СНБ; Тж, 15 (3); Ч, 319.

**[УХОДЗІНЫ]** *мн.* Урачыстае адзначэнне якой-н. падзеі. *У гэтые дні адбылося вялікае і урачыстае сьвято уходзін Віленскага Унівэрсытэту іменьня караля Сьцяпана Баторага.* УПУВ.

Мн. Р. *уходзін*: УПУВ.

**УСХОДЗІЦЬ** (3) *незак.* **1.** Ідучы, паднімацца куды-н. *На беласьнежны на пасад Усходзе князь, усходзе княжна..* Кц, 193.

**2.** З'яўляцца, узнімацца над гарызонтам. *А сонейка будзе усходзіць, заходзіць, Плысці будуць рэчкі, шумець будзе бор.* НДп, 230.

Інф. *усходзіць*: НДп, 230. Абв. цяп. адз. 3 ас. *усходзе* (2): Кц, 193 (2).

**УСХОДНІ** (11) *прым.* **1.** Які знаходзіцца на ўсходзе. *.. расійскія "кадэты" ўжо тады падзялілі Беларусь на дзьве часткі: заходняя – палякам, усходняя – расійцам.* У.

**2.** Які мае адносіны да Усходу. *Сягодня таргуецца Захад з Усходам, заходняя культура – з усходнім адзічэннем, і таргуюцца за што?* Тж, 15. *Годзе заходняй ці ўсходняй культуры! Для беларуса цана ім адна..* Г, 16. *Параўн.* всходні.

Адз. м. Н. *усходні* (2): Бч, 9; Т, 54. Т. *усходнім* (2): Тж, 15; Ф. ж. Н. *усходняя* (2): Тж, 16; У. Р. *усходняй*: Г, 16. М. *усходняй*: Тж, 16. Мн. В. *усходнія*: Т, 47. М. *усходніх* (2): ПБН; Тж, 16.

**[УСХОДНЫ]** *прым. Наватв.* Які ўсходзіць, прарастае. *Ўзнімае чорную скібу саха працавітая, Ляжэ ўсходнае зерне у пахань сырую..* ТС, 74.

Адз. н. Н. *усходнае*: ТС, 74.

**УСЦЕШЫЎШЫСЯ** *дзеепрысл. да* ўсцешыцца. Узрадаваўшыся. [Мікіта]: *(усцешыўшыся, вітаецца) Ах! Каго я, меджду протчым, бачу?* Т, 51.

**УСЬВЕДАМЛЯЦЬ** *незак.* Поўнасцю разумець. *Балюча і цяжка ўсьведамляць мне* [Купалу] *сёньня, што я .. не дапамагаў усёй адданасьцю і захапленьнем ажыцьцяўленьню заветных лятуценьняў чалавецтва, ажыцьцяўленьню соцыялізму.* АЛ.

Інф. *усьведамляць*: АЛ.

**[УСЬВЕНЧАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* ўсьвянціць. *Польск.* Ушанаваны, асвячоны. *І вось з гэтага вялікага ліку "гымнаў" мы ўсё такі ня маемо – сказаў бы я – прызнанага і усьвенчанага – беларускага нацыянальнага гымну.* СБНГ.

Адз. м. Р. *усьвенчанага*: СБНГ.

**УСЬВЯДОМІЦЬ** *зак.* Поўнасцю зразумець што-н. *.. я* [Купала] *і ў першыя гады Кастрычнікавае рэволюцыі ня змог .. ўразумець і ўсьвядоміць усю веліч і гісторычную нямінучасць пролетарскае рэволюцыі..* АЛ.

Інф. *усьвядоміць*: АЛ.

**УСЬЛЕД** (2) і **УСЛЕД** *прысл.* **1.** Наўздагон, следам за кім-н. .. *ўсьлед на імі* [душамі] *і за імі Імчацца гібелі наўскок.* РС, 40. [Аленка]: *Бачыце, немцы яго* [татку] *ў абоз пагналі, дык мы, баючыся, каб яго Нямеччыну не загналі, паехалі ўслед на падмогу.* Т, 35. Т, 32.

**2.** Праз пэўны час, неўзабаве, у хуткім часе. *Вы ўскрэсьнеце, Жыды, усьлед за Беларусяй, – Сьцяг ваш і нашая паходная будуць жыць.* Ж.

**УСЬПЯЖ** *прысл. Разм.* Заўсёды, увесь час. *Цяпер то, як ты* [зямля] *красна, я чую, я бачу, – І апішу, бо ўсьпяж па табе плачу.* ХБ, 28.

**УСЬЦЯЖ** (3) *прысл. Абл.* На ўсей прасторы, ва ўсіх напрамках, скрозь. *За мною* [ганцом] *ўсьцяж, і тут, і там Іх* [людзей] *вусны бледные шэпталі: Аддайце сонцэ наша нам!* Кц, 194. Кц, 195 (2).

**УСЮДАХ** (2) *прысл. Разм. Тое, што* ўсюды. *Ў руцэ меў* [ганец] *сьветач, што на зьдзіў Усе усюдах зводзіў цені.* Кц, 194. *Уся ўсюдах знойдзецца, Дзе готы ёсць, Нават над рэчкаю Ёсць як на злосць.* Ш[5].

**УСЮДЫ** (12) *прысл.* У кожным месцы, паўсюдна, скрозь. *Песня чутна ўсюды Ў бязмежным пpасторы..* ПСС, 231. [Наста]: *А цяпер усе і ўсюды – і дома, і на вуліцы, і нават у тэатры лузай сабе ды лузай* [семечкі], *шапку на вушы нацягнуўшы...* Т, 28. // Ва ўсіх выпадках. [Мікіта]: .. *любіць* [Наста] *заўсёды і ўсюды, дзе трэба і не трэба, уткнуць свае тры грошы.* Т, 23. *Хто йшоў ззаду, а хто з боку. Азіраўся назад, А Даніла ўсюды ўперад Выступаці быў рад. Параўн.* усюдах. ПСД. ВР; Ж; З; СА, 179; Т, 22, 40, 50; ХЛВ, 316.

**УСЯДЗЕЦЬ** *зак. Тое, што* ўседзець. *Я* [Габрусь] *ўсядзець ня мог у хаце, Сам пайшоў па добрай волі Паспытаць ваеннай долі.* ГЖУ.

Інф. *усядзець*: ГЖУ.

**УСЯКІ** (18) *займ.* **1.** Кожны, любы. *Тут далёка, ў чужой старане, Усякі раз, як зьбліжаецца ноч, Сэрца боллю сьціскаецца мне..* ЧС, 50-51. [Спічыні]: *Усякі стук мяне нэрвуе: не магу спакойна выкладаць лекцый.* Т, 32. // *У знач. наз. Ніхто чапіць вас не пасьменее, Усякі вам дарогу дасьць.* УрП, 50. *Ну, ўсякаму ж трэба як-небудзь жыць далей..* Р.

**2.** Розны, усялякі. *У беспарадку накідана ўсякіх хатніх рэчаў..* Т, 43. [Мікіта]: *Хто мне лепей плаціць, таму і служу і кіхаць хачу на ўсякія ідэі.* Т, 22. *Параўн.* всякій.

◊ **Без усякае цэрамоніі** *гл.* цэрамонія.

Адз. м. Н. *усякі* (3): Т, 32; УрП, 50; ЧС, 50-51. Р. *усякага*: Т, 56. Д. *усякаму*: Р. ж. Р. *усякае*: Т, 24. Д. *усякай*: Г, 17. В. *усякую* (3): Нз, 14; РКр (2). Т. *усякай*: ЛПК. н. Н. *усякае*: Т, 20. М. *усякім*: Кц, 194. Мн. Р. *усякіх* (3): А, 328; Т, 43, 56. В. *усякія*: Т, 22. Т. *усякімі*: БВ, 16.

**УСЯЛЯК** *прысл. Разм.* Усімі спосабамі, усяк. *Царскія сатрапы ўсяляк імкнуліся задушыць беларускае слова.* А, 328.

**[УСЯЛЯКІ]** (23) і **[УСЕЛЯКІ]** (2) *займ.* азначальны. Самы разнастайны, розны. *Быў маскоўскі цар, былі у нас* [на Беларусі] *насланые ім усялякіе чыны: земскі, вураднік, стражднік.* БС. *У абчэственных магазынах ёсць немала у запасе уселякаго збожа.* ВС.

Адз. м. Р. *усялякага*: Т, 20. ж. Т. *усялякай*: Нз, 14. н. Р. *уселякаго*: ВС. Мн. Н. *усялякія* (3): Т, 21, 46 (2); *усялякіе*: БС. Р. *усялякіх* (7): БВ, 16; ВГР; Нз, 14 (2); СБНГ; Т, 22, 42; *уселякіх*: ВР. Д. *усялякім*: СБНГ. В. *усялякія* (5): Ан, 19; Т, 20, 33, 45 (2); *усялякіе*: СНБ. Т. *усялякімі* (3): НДН, 18; СНБ, 338; Т, 44.

**[УСЯСВЕТНЫ]** (3) і **[УСЯСЬВЕТНЫ]** *прым. Разм. Тое, што* сусветны. *Вы* [антанты і проці-антанты] *стварылі ўсясветную вайну за свае кішанёвыя інтарэсы..* ЗС, 17. *Як першая* [соцыяльная] *так і другая* [нацыянальная рэволюцыя] *стараюцца ўсіх пераканаць, што кожная з іх змагаецца за лепшые усясьветные ідэалы, за сьветлые дні.* СНБ.

Адз. ж. В. *усясветную* (2): ДПЛС; Тж, 15. Т. *усясветнай*: ЗС, 17. Мн. В. *усясьветные*: СНБ.

**[УСЯСІЛЬНЫ]** *прым. Руск.* Усемагутны. *І душыць гэты усясільны праступчы забабон беларускую акрываўленую зямлю.* З. *Вы* [антанты і проці-антанты] *ў сваім паходзе імперыялістычным і мілітарным ішлі і сціралі ўсё і ўсіх на сваёй дарозе, а ўсё для панавання ўсясільнага молаха-золата.* Тж, 16.

Адз. м. Н. *усясільны*: З. Р. *усясільнага*: Тж, 16.

**УСЯСЬВЕТНЫ** *гл.* **УСЯСВЕТНЫ.**

**ЎСЯЎЛАДА** *ж. перан.* Сіла, магутнасць. *І дрогнула Крыўды ўсяўлада, Разьлёгся скрозь кліч пяруновы..* Кр, 77.

Адз. Н. *усяўлада*: Кр, 77.

**[УТАІЦЬ]** *зак.* Захаваць, скрыць. *Ні ўтояць шпіёна ні дзебры ні бор.* ПБН.

Абв. буд. мн. 3 ас. *утояць*: ПБН.

**[УТАНУЦЬ]** *зак. Руск.* Патануць, утапіцца. [Мікіта]: *Нех се пан не наставя, бо достанеш по пыску і ўтонеш в Немідзэ.* Т, 49.

Абв. буд. адз. 2 ас. *утонеш*: Т, 49.

**УТАПАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* ўтапаць. *Руск., перан.* Знаходзячыся ў неспрыяльных умовах. *Балюча і цяжка*

*ўсьведамляць мне* [Купалу] *сёньня, што я .. ўвесь час утапаючы ў пратухлым балоце абкружаючых мяне контррэволюцыйных нацыял-дэмократычных дзеячоў .. не дапамагаў .. ажыцьцяўленьню социялізму.* АЛ.

**УТАПІЦЦА** *зак.* Загубіць сваё жыццё, кінуўшыся ў ваду. *Хацеў я спачатку павесіцца, утапіцца, застрэліцца, але ўзяў ды напісаў гэты не зусім "маленькі фельетон" ..* Ан, 19.

Інф. *утапіцца*: Ан, 19.

**УТАПІЦЬ** (2) *зак. перан.* Пагубіць. *Ў сьвет збрылі* [дзеці] *чужы дзівіцца, Гнуць у ёрмы шыі... І ўтапілі ў чужаніцы Душы маладые.* Дз, 189.

◊ **Утапіць у лыжцы вады –** знішчыць, ліквідаваць. *Наша* [беларуская] *незалежнасць соллю ўваччу для незалежнасці нашых суседак – Польшчы і Расіі, бо і адна, і другая хацелі б нашу незалежнасць утапіць у лыжцы вады сваёй незалежнасці.* Нз, 14.

Інф. *утапіць*: Нз, 14. Абв. пр. мн. *утапілі*: Дз, 189.

**УТАПТАНЫ** *гл.* **УТОПТАНЫ**.

**УТВАРАЦЬ** (3) *незак.* **1.** Фарміраваць, арганізоўваць што-н. *Пры менскім камісарыяце прасветы ўтвараюць літаратурна-выдавецкі аддзел..* СНБ, 339.

**2.** Выклікаць узнікненне чаго-н. *У нашу векапомную эпоху гэроічнага змаганьня пролетарыяту за вызваленьне працоўных з-пад няволі капіталізму .. праступна ўтвараць нацыянальную адмежаванасьць, асноўваючыся на самабытнасьці..* АЛ. // Садзейнічаць, спрыяць чаму-н. .. *торпа прымешаны да пясчанай глебы, утварае найлепшае палепшэньне зямлі.* ХБ, 30.

Інф. *утвараць*: АЛ. Абв. цяп. адз. 3 ас. *утварае*: ХБ, 40. Мн. 3 ас. *утвараюць*: СНБ, 339.

**[УТВАРЫЦЦА]** *зак.* Скласціся, узнікнуць. [Мікіта]: *Гэта, пане профэсар, ёсць вынік .. апошняй політычнай сытуацыі, якая ўтварылася ў Расійскай, меджду протчым, імпэрыі.* Т, 48.

Абв. пр. адз. ж. *утварылася*: Т, 48.

**УТКНУЦЬ** *зак.*: ◊ **Уткнуць свае тры грошы –** умяшацца ў чужую гаворку. [Мікіта]: *Мае* [Наста] *заўсёды аб усім і аб усіх з пэўных крыніц пэўныя весткі, любіць заўсёды і ўсюды, дзе трэба і не трэба, уткнуць свае тры грошы.* Т, 23.

Інф. *уткнуць*: Т, 23.

**[УТОНУВШІЙ]** *дзеепрым. незал. пр. да* ўтонуць. *Руск., перан.* Прапаўшы, знікнуўшы. [Усходні вучоны]: *Вашы* [Янкавы] *землякі не собіраются в будушчэм прыобрэсці себе морэ вместо утонувшего, чтобы со временем пробіць себе куда-нібудзь окошко – в Европу ілі Азію?* Т, 47.

Адз. н. Р. *утонувшего*: Т, 47.

**[УТОНУЦЬ]** *зак. Руск., перан.* Ператварыцца, змяніцца ў што-н. [Усходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік). .. благодара врэдным клімацічэскім веяніям з Запада поіменованное морэ утонуло в Пінском болоце.* Т, 47.

Абв. пр. адз. н. *утонуло*: Т, 47.

**[УТОПІЯ]** *ж.* Неажыццявімая мара. .. *а ўсё-ж такі ён* [мінулы год] *шмат чаму наўчыў, і шмат каму з беларускаго грамадзянства адкрыў вочы, асьлепленые тамі ці іншымі утопіямі і абецанкамі...* СНБ.

Мн. Т. *утопіямі*: СНБ.

**[УТОПТАНЫ]** (2) і **[УТАПТАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* ўтаптаць. *перан.* Вытаптаны. *Як вымераны ўтоптаныя сьцежкі!* ПВ. .. *блукала крыўда ўтаптанай дарогай.* ТП, 214.

Адз. ж. Р. *утоптанай*: ПВ. Т. *утаптанай*: ТП, 214. Мн. Н. *утоптаныя*: ВБЛ, 81.

**[УТОРЫЦЬ]** *незак.* Паўтараць якія-н. гукі. *Звініць песня ў полі, звініць, Уторыць сярпу і касе..* ТП, 214.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *уторыць*: ТП, 214.

**[УТРЫМАННЕ]** *н.* Забеспячэнне каго-н. сродкамі для існавання. *Заработак падлетка амаль не ўвесь ідзе на аплату яго ўтрымання "клапатлівым" Бацем.* ПЧ.

Адз. Р. *утрымання*: ПЧ.

**[УХАВАЦЬ]** *зак.* Засцерагчы. *Няхай не палічаць нашыя словы за покліч к бунтарству, – Божа ухавай нас* [беларусаў] *ад гэтага кроку!* ДК.

Заг. адз. 2 ас. *ухавай*: ДК.

**УХІЛІЦЬ** *зак.* Пазбавіць права распараджацца чым-н. .. *трэба ухіліць і паляка і расійца і паадчыняць усе чыста школы, якія істнавалі на Беларусі..* ДК.

Інф. *ухіліць*: ДК.

**УХМЫЛЯЦЦА** (2) *незак. Разм., перан.* Усміхацца. *Шарсьцелі сьвітачныя шаты, Лаза ўхмылялася з лапцей.* УрП, 47.

◊ **Ухмыляцца пад вусам –** усміхацца скрытна, употай. *Ды ну-ж гаманіці* [хаўруснікі], *Ухмыляцца пад вусам, Як лепш атуманіць Мазгі беларусам.* Х.

Інф. *ухмыляцца*: Х. Абв. пр. адз. ж. *ухмылялася*: УрП, 47.

**[УХОДЗІЦЬ]** (2) *незак. Разм.* **1.** Уваходзіць. *Уходзяць тры ганцы ў сьвятліцу.* Кц, 194.

**2.** Уваходзіць у план выканання чаго-н. *На вартасьці надрукаванага ў "Вестнике" беларускага матар'ялу затрымлівацца ня будзем, бо гэта ня ўходзіць ў наша заданьне..* ВСп, 90.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *уходзіць*: ВСп, 90. Мн. 3 ас. *уходзяць*: Кц, 194.

**УХОДЗЯЧЫ** *дзеепрысл. да* ўходзіць. Унікнуўшы, разабраўшыся ў чым-н. *І вось, ня уходзячы сягодня у разбор таго, хто мае больш правоу на "грд Гэдыміна", мы скажам толькі, што Віленскі Баторауcкі Універсытэт павінен і абавязан здаволіваць духоуные культурные патрэбы гэтых усіх трох народау: палякоу, літвіноу і беларусау.* УПУВ.

**УХ-ЦІ** (2) *вык.* Выражае пачуццё перавагі над кім-н. – *Ух-ці! – выйшаў на царкоўны дзядзінец беларускі дзяк "расійскай культуры" напханы за кліpасам славянскімі псальмамі Давідавымі.* З. *Ух-ці! бармоча, цалуючыся з сялянамі сваей вескі, – які не разьвіты народ вы, мужыкі!* Там жа.

**[УЦЕХА]** (2) *ж.* **1.** Радасць, забава. *Разарваў-бы, здаецца, я грудзі свае, Сэрца-б вырваў і кінуў на ўцеху ўрагом...* БН, 91.

**2.** Тое, што прыносіць заспакаенне, спакой. *З жалейкай кожны хай сваею Не расстаецца на ўвесь век, Заве і верай і надзеяй Сьлязу і ўцеху з-пад павек.* УрП, 49.

Адз. В. *уцеху* (2): БН, 91; УрП, 49.

**[УЦЕШЫЦЬ]** *зак.* Парадаваць чым-н.; супакоіць. *Жалейка азвецца з вясны пад бярозкай, – Ня ўцешыць яна бедака.* ЗК, 43.

Абв. буд. адз. 3 ас. *уцешыць*: ЗК, 43.

**[УЦІРАЦЬ]** *незак.*: ◊ **Слёзы ўціраць** – супакойваць, суцяшаць. *Ён* [Сталін] *слёзы ўцірае нядолі сірочай, Ён новую долю бяздольным прароча..* СС, 302.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *уцірае*: СС, 302.

**[УЦІСНУТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* ўціснуць. Прыгнечаны. .. *вядомая адозва Пілсудзкага .. гаворыць пра тое, што з прыходам палякоу Беларусь адтрымала волю і поўную магчымасьць быць гаспадаром у сваім краю, праз вякі пакрыўджаным і уціснутым.* ОШМ.

Адз. м. М. *уціснутым*: ОШМ.

**[УЦЯГНУТЫ]** *дзеепрым. зал пр. да* ўцягнуць. *перан.* Які прымкнуў да каго-н. .. *я* [Купала] .. *быў уцягнутым ім* [нацыянал-дэмакратычным асяроддзем] *і прыняў самы блізкі ўдзел у контррэвалюцыйнай рабоце віднейшых беларускіх нацыянал-дэмократаў..*АЛ.

Адз. м. Т. *уцягнутым*: АЛ.

**УЦЯГНУЎШЫ** *дзеепрысл. да* ўцягнуць. .. Даставіўшы ў якое-н. памяшканне. [Мікіта]: *(уцягнуўшы каламажку, вітаючыся з Янкам). Якое прыемнае, меджду протчым, спатканне, таварыш профэсар!* Т, 45.

**УЦЯКАЦЬ** (3) і *разм.* **УЦЕКАЦЬ** *незак.* Пакідаць межы чаго-н. [Янка]: *Дык вы, пане рэгістратар, маніліся пакінуць*

*усе свае руска-ісціныя варты і ўцякаць з нашага гораду?* Т, 55. // Ратавацца, збягаць ад каго-н. *Потым ў стачцы пабили часць хунхузоў, другие кинулися ўцекаць..* ПДз. [Мікіта]: *Хто ад каго не ўцякае?* Т, 60.

Інф. *уцякаць*: Т, 55; *уцекаць*: ПДз. Абв. цяп. адз. 3 ас. *уцякае*: Т, 60. Пр. мн. *уцякалі*: Мц, 83.

**[УЦЯКАЮЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. да* ўцякаць. Які вымушаны пакінуць межы чаго-н., ратуючыся ад каго-н. [Мікіта]: *.. мабыць, апошнія ўцякаючыя паны, папрасілі мяне пастаяць, самі знялі куртачку, сказаўшы, што гэта з іхняга сукна..* Т, 58.

Мн. Н. *уцякаючыя*: Т, 58.

**УЦЯМ** *прысл. Наватв.*: ◊ **Ня ўцям –** хоць бы што. *Нам* [ваякам] *ня ўцям віхры, грымота, – Дадае нам гром ахвоты.* БЗ.

**УЦЯМІЦЬ** *зак.* Поўнасцю, да канца ўсвядоміць. *Трэба-ж, конец-концам, уцяміць, што тут не Расія і ня Польшча, а Беларусь..* ДК.

Інф. *уцяміць*: ДК.

**УЦЯЧЫ** (10) *зак. за* ўцякаць. *Калі бальшавікі уцяклі з Менску, а палякі увашлі, то беларусы з аблягчэннем уздыхнулі.* СНБ. [Мікіта]: *Усё роўна па яго вышла: акупанты ўцяклі, а ён* [Гарошка] *застаўся.* Т, 37. // Тайком збегчы адкуль-н. *Жылуновіч успеў к таму часу ўцячы.* СНБ. [Начальнік]: *Помніце, як летась вялі мяне ў палон, а я ад вас* [Мікіты] *спрытна ўцёк.* Т, 60.

Інф. *уцячы*: СНБ, 339. Абв. пр. адз. м. *ўцёк*: Т, 60. ж. *уцякла*: СНБ, 337. Мн. *уцяклі* (7): БС (3); СНБ, 340; СНБ; Т, 37, 60.

**УЧАРАВАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* ўчараваць. *Наватв.* Зачараваны. *І кліч пушчу скрозь ад кургану да кургану, . Кліч заклінанне векавечнага зароку, Што ў гуслях толькі дрэмле, ў песню ўчараваны.* СМ.

Адз. м. Н. *учараваны*: СМ.

**УЧЭНІЕ** *н. Руск.* Вучэнне. [Поп]: *.. воісціну ізлішне обрэтаць універсіцет, гдзе будзет провозглашацься грэховное светское учэніе.* Т, 27.

Адз. Н. *учэніе*: Т, 27.

**УЧОРА** (10) *прысл.* У дзень, які папярэднічаў сённяшняму, напярэдадні. [Гануля]: *Кажа* [Мікіта] *– не ўпутаюся, а ўчора ў такую кашу ўлез, ажно сорам казаць.* Т, 57. [Начальнік]: *Скажэце мне: Вы* [Мікіта] *ўчора грабілі кватэру грамадзяніна Боршчыка на Архірэйскім завулку?* Там жа, 60. // Не так даўно, у недалёкім мінулым. .. *стужкай чыгунка лягла, Дзе ўчора стаяў лес яшчэ.* ТП, 215. *І так жывём*

[беларусы], *сябе саміх не знаўшы, Учора, сёння лазім між канаў...* Бч, 10. БСУ; Н; ССА, 294; Т, 31, 49; ШБСЯ.

**[УЧОТ]** *м. Руск.* Улік, рэгістрацыя чаго-н. [Гануля]: *І вось з усяёй казаў той, роскашы засталася толькі балалайка, але і тую запісалі на нейкі ўчот.* Т, 45.

Адз. В. *учот*: Т, 45.

**[УЧЫНАК]** *м.* Дзеянне, учыненае кім-н. або тое, што здзейснена кім-н. *Мы* [беларусы] *ня раз даводзілі, што такіе учынкі польскіх ураднікаў перш-на-перш шкодзяць самому-ж польскаму ураду..* ОШМ.

Мн. Н. *учынкі*: ОШМ.

**УЧЫЦЦА** *незак. Разм. Тое, што* вучыцца ў 1 *знач. Спужаўся, што хлапчук ў лапцёх, Напаўадзеты вёскі сын, У роднай мове ўчыцца змог? .. О, стыдна, рускі “гражданін”!* АПЖ.

Інф. *учыцца*: АПЖ.

**УШАНАВАННЕ** (4) *н.* Выражэнне пашаны [Мікіта]: *(уніжліва вітаючыся). Маё найніжэйшае ўшанаванне, мусье профэсару!* Т, 31. [Мікіта]: *Маё ўшанаванне! Як я рад, як я рад, што з вамі* [Янкам] *спаткаўся.* Там жа, 54.

Адз. Н. *ушанаванне* (4): Т, 31, 37, 41, 54.

**УШАНАВАЦЬ** (2) *зак.* Аднесціся з пашанай, павагай да каго-н. *Чаму не ушанавалі народу свайго, як ен быў бедны?* ВМР. // Ацаніць што-н. *Толькі тыя, што вызваляюцца з-пад чужой няволі, дзяржавы змогуць ушанаваць права так званай меншасці нацыянальнай..* НДН, 18.

Інф. *ушанаваць*: НДН, 18. Абв. пр. мн. *ушанавалі*: ВМР.

**УШЧАМІЦЬ** *зак. перан.* Знішчаць. *Ён гэты скінуты сатрап, Не знае, што ў свабодзе жыць; Яму дай вісельню, дай каб На ёй “языкі” ўсе ўшчаміць.* АПЖ.

Інф. *ушчаміць*: АПЖ.

**УШЧЭНТ** *прысл.* Поўнасцю, зусім, дарэшты, датла. *Нішчаць ворага ўшчэнт Совецкім законам Варашылаў Клімент З арміяй Чырвонай.* ПД, 83.

**УШЫР** (2) *прысл.*: ◊ **Удоўж і ўшыр** *гл.* удоўж. **Удоўжкі і ўшыр** *гл.* удоўжкі.

**УЯВІЦЬ** (2) *зак.* Скласці ў думках вобраз каго-, чаго-н. *І фрыцы, падабраўшы спадніцы, задалі такога драпака, што і ўявіць цяжка.* ПСп.

◊ **Можаце сабе ўявіць** (у знач. пабочн.) – ужываецца з мэтай звярнуць увагу слухача на якую-н. акалічнасць. *Можаце сабе ўявіць: чалавек ходзіць за сахой, а следам за ім, як варона хаджу я* [Купала] *і слухаю* ПС.

Інф. *уявіць* (2): ПС; ПСп.

# Ф

**[ФАБЗАВУЧ]** *м. Іран.* Школа фабрычна-заводскага вучнёўства пры прадпрыемстве. *..яму* [падлетку] *паграseverала камедыя “таварыскага суда”, выдаленне з інтэрната, з Бацяўскага “фабзавуча”.* ПЧ.

Адз. Р. *фабзавуча*: ПЧ.

**[ФАБРЫКА]** (17) *ж.* Прамысловае прадпрыемства з машыннай вытворчасцю. [Гарошка]: *Служыў тады ён* [Юрка] *у Маскве на нейкай фабрыцы.* Т, 44. *На месцы некалі гнілых, дрыгвяных балот вырастаюць фабрыкі, заводы, электрастанцыі.* АЛ.

Адз. Р. *фабрыкі*: СТ. В. *фабрыку*: СТ. М. *фабрыцы*: Т, 44. Мн. Н. *фабрыкі* (6): АЛ; ДЖ; ЖН; НК; СА, 182; ШБСЯ. Р. *фабрык* (7): АЛ; ВН; ЖН; НДп, 279(2), 230(2). В. *фабрыкі*: ВНЗ.

**[ФАБРЫКАНТ]** (2) *м.* 1. Уладальнік фабрыкі. *Яны* [трацкісты] *рыхтавалі зноў нам бізун памешчыка, ўрадніка і кабалу фабрыканта.* ВНЗ.

2. *перан.* Земляроб, калгаснік. *..наш Камісарыят Земляробства абавязан .. падумаць аб тым, каб поўнасьцю задаволіць літаратурай аб сельскай гаспадарцы нашых земляробаў – фабрыкантаў хлеба й сала.* ВСп, 90.

Адз. Р. *фабрыканта*: ВНЗ. Мн. В. *фабрыкантаў*: ВСп, 90.

**[ФАБРЫЧНЫ]** *прым.* Які адносіцца да фабрыкі. *І ўсё вы* [бальшавікі] *ўзялі, ўсё як ёсць: Фабрычны дым, сяўбы загон..* ПВ.

Адз. м. В. *фабрычны*: ПВ.

**[ФАИЗА]** *ж. Кіт.* Фанза; сялянскі дом у Кітаі. *У час ляоянской битвы афицэр камандаваў ротаю и жыў з дачкою ў китайским доме (фаизе).* ПДз.

Адз. М. *фаизе*: ПДз.

**[ФАКТ]** *м.* Рэальнасць. *..гэта ідэя ператвараецца у жыцьцё, становіцца жывым дзелам, цьвёрдым фактам.* БСУ.

Адз. Т. *фактам*: БСУ.

**ФАКТОРИАЛ** *м. Руск. Тое, што* фактарыял. *..на расійскай палавіне слоўніка стаіць: Абсциса, Факториал, на беларускай – Абсцыса, Фактарыял.* ВСп, 89.

Адз. Н. *факториал*: ВСп, 89.

**ФАКТОРЫЯЛ** *м. Мат.* Здабытак лікаў натуральнага рада ад 1 да якога-н. ліку. *..на расійскай палавіне слоўніка стаіць: Абсциса, Факториал, на беларускай – Абсцыса, Фактарыял.* ВСп, 89. *Параўн.* факториал.

Адз. Н. *фактарыял*: ВСп, 89.

**[ФАЛЬВАРАК]** (2) *м.* Невялікая сядзіба, маёнтак. *У 1891 г. ён* [бацька] *зноў пераязджае на арандаваную зямлю ў фальварак Селішча.* А, 328. *Нарадзіўся я* [Купала] *25 чэрвеня (старога стылю) 1882 г. непадалёк ад Радашковіч, былога Вілейскага павета, у фальварку Вязынка.* А, 327.

Адз. В. *фальварак*: А, 328. М. *фальварку*: А, 327.

**[ФАЛЬШЫВЫ]** (5) *прым.* 1. Несапраўдны, прыдуманы. *..іх* [каталікоў-беларусаў] *стараюцца падфарбаваць пад варшаўскі колер і такі фальшывы "тавар" будуць паказываць Думе.* ВР. *Так, значыцца, ваша* [імперыялістычная] *ўсходняя і заходняя культура адплацілася за тыя мільёны ахвяр, што паляглі за вашы дзяржаўныя фальшывыя фетышы.* Тж, 16.

2. Памылковы, няверны. *На беларускай зямлі было і ёсць шмат фальшывых пракрокаў, шмат рэнегацкіх душ..* ПЛП. *Будзем верыць, што і ў нас, беларусаў, прыйдуць новыя людзі, новыя пракрокі і будуць па-божаму над фальшывымі пракрокамі і прадажнымі душамі суды судзіць.* Там жа.

Адз. м. Н. *фальшывы*: ВР. Мн. Р. *фальшывых* (2): АЛ; ПЛП. В. *фальшывыя*: Тж, 16. Т. *фальшывымі*: ПЛП.

**ФАМІЛІЯ** *ж. Руск. Тое, што* прозвішча. [Начальнік]: *Ваша фамілія?* [Мікіта]: *Колежскі рэгістратар Нікіці Зносілов..* Т, 60.

Адз. Н. *фамілія*: Т, 60.

**[ФАНТАЗІЯ]** (3) *ж.* Творчае ўяўленне, мара. *Чытанне ўсякіх кніжак без разбору – а чытаў я* [Купала] *іх вельмі многа – разбудзіла маю фантазію..* А, 328. *Ніяк не мог я* [Купала] *пагадніць акружаючае рэальнае жыццё са светам думак, фантазій, якія пачэрпнуў з кніг.* А, 328.

Адз. В. *фантазію* (2): А, 328; ПС. Мн. Р. *фантазій*: А, 328.

**[ФАРАОН]** *м.*: ◊ **Не снілася ні Фараону, ні Салямону** *гл.* сніцца.

Адз. Д. *фараону*: Т, 41.

**[ФАРБА]** *ж.* Колер. *Не аб сяміцвет-вясёлках Фарбаў негаданых, Што красу ў сябе ўбіраюць З мора-акіянаў.. Мая*

*песня сёння будзе..* НК.

Мн. Р. *фарбаў*: НК.

**[ФАРМАВАННЕ]** і **[ФОРМАВАНЬНЕ]** *н. Разм.* Фарміраванне, станаўленне. *I вось рэвалюцыйны, дабальшавіцкі ўрад у Расіі змушаны быў пазволіць фармаванне нацыянальных войск.* БВ, 16. *..у чацьвер, 23 кастрычніка сёлетняга году Польшча падпісала дэкрэт аб формаваньні Беларускага нацыянальнага войска..* БСУ.

Адз. В. *фармаванне*: БВ, 16. М. *формаваньні*: БСУ.

**ФАРМАВАЦЦА** *незак. Разм.* Фарміравацца, стварацца, арганізоўвацца. *Надовечы Беларуская Вайсковая Камісія пачала ў нас у Менску рэгістрацыю беларусаў-афіцэраў, дактароў і інш. з тэй прычыны, што ў хуткім часе мае фармавацца беларуская армія.* БВ, 16.

Інф. *фармавацца*: БВ, 16.

**ФАРПОСТ** (3) *м.* Перадавая ўмацаваная пазіцыя. *Мы чуйна вартуем совецкі фарпост, Няхай-жа памкнуцца фашысты-бандыты..* ПБН. *На фарпостах, на граніцах Безграничных нашых земляў З карабінам ля стражніцаў Комсамолец не задрэмле.* СА, 181. // *перан.* Перадавы пункт, апора чаго-н. *Наша Беларуская Совецкая Социялістычная Рэспубліка, як бы фарпост на рубяжы двух соцыяльных сістэм – развілася эканамічна і культурна да нечуваных размераў.* ЖН.

Адз. Н. *фарпост*: ЖН. В. *фарпост*: ПБН. Мн. М. *фарпостах*: СА, 181.

**ФАРСУН** *м. Разм.* Той, хто любіць фарсіць. [Дама]: *(ізноў узіраючыся на Мікіту). Ах, мусье! але вы фарсун..* Т, 25.

Адз. Н. *фарсун*: Т, 25.

**ФАСОН** *м.* Форма, крой, па якіх пашыта што-н. [Дама]: *У вас, мусье рэгістратар, фасон касцюму, як і ў мяне з іх родзіем, – а ля-ба-сяк.* Т, 58.

Адз. Н. *фасон*: Т, 58.

**ФАТЭРЛЯНД** (4) *н. Ням.* Айчына, Бацькаўшчына. [Мікіта]: *(Да немца): Кіндэр фравуву, меджду протчым, фатэрлянд, гэр гэрманіш...* Т, 32. [Мікіта] *(стаўшы перад немцам на калені). Оей! гэр гэрманіш, кіндар фатэрлянд!* Там жа, 33.

Адз. Н. *фатэрлянд* (4): Т, 31, 32(2), 33.

**[ФАШЫЗМ]** (5) *м.* Тэрарыстычная дыктатура найбольш рэакцыйных імперыялістычных сіл, якая імкнецца знішчыць дэмакратыю, развязаць захопніцкія войны. *Адсюль варожасць да фашызма, да яго захопніцкіх мэтаў.* ПЧ. *У нашай свяшчэннай барацьбе з заклятым ворагам – нямецкім фашызмам – ваюе кожны дом, кожнае дрэва, кожны ўзгорак.* РКП.

Адз. Р. *фашызма* (4): ВНЗ; ПБН; ПЧ; ШБСЯ. Т. *фашызмам*: РКП.

**[ФАШЫСТ]** (6) *м.* Салдат нямецкай арміі. *Не толькі Прымор'е, Урал і Украіну трацкісцкія дыверсанты прадавалі фашыстам.* ВНЗ. *Было два выхады: разбурыць ДЗОТ разам з фашыстамі ці знішчыць фашыстаў разам з ДЗОТ'ам.* ПСп. *Параўн.* фрыц.

**Д Памешчык-фашыст** *гл.* памешчык. **Фашыст-бандыт**: *Няхай-жа памкнуцца фашысты-бандыты, Касцямі палягуць яны на пагост.* ПБН.

Адз. Р. *фашыста*: ШБСЯ. Мн. Н. *фашысты*: ПБН. Р. *фашыстаў*: НКУС. Д. *фашыстам*: ВНЗ. В. *фашыстаў*: ПСп. Т. *фашыстамі*: ПСп.

**[ФАШЫСТОЎСКІ]** *прым. Разм. Тое, што* фашысцкі. *І гітлераўскім бандытам, фашыстоўскім крывапійцам Нядоўга катаваць народ ні ў чым не вінны.* ПНд, 314.

Мн. Д. *фашыстоўскім*: ПНд, 314.

**[ФАШЫСЦКІ]** (5) *прым.* Які мае адносіны да фашызму, фашыста. *Ці-ж можна маўчаць, калі радыё разносіць па ўсяму свету паведамленне Пракуратуры Саюза ССР аб жудасных, кашмарных злачынствах фашысцкай банды шпіёнаў..* МП. *І рухнуць апоры Фашысцкіх цямніц Нявольнікі выйдуць Да ясных зарніц.* СС, 301. *Параўн.* фашыстоўскі.

Адз. ж. Р. *фашысцкай*: МП. В. *фашысцкую*: ХЛВ, 316. Т. *фашысцкай*: ПНд, 314. Мн. Р. *фашысцкіх* (2): НДп, 229; СС, 301.

**[ФЕДЭРАТЫЎНЫ]** *прым.* Які мае адносіны да федэрацыі. *..І студзеня (?) была абвешчана "Незалежная Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка" ў федэратыўнай сувязі з Маскоўшчынай.* СНБ, 338.

Адз. ж. М. *федэратыўнай*: СНБ, 338.

**[ФЕДЭРАЦЫЯ]** *ж.* Саюз, аб'яднанне. *Загаманілі аб федэрацыі вызваленых з царскага рабства народаў.* БВ, 16.

Адз. М. *федэрацыі*: БВ, 16.

**[ФЕЛЬЕТОН]** і **ФЭЛЬЕТОН** *м.* Кароткі сатырычны артыкул на злабадзённую тэму. *Хацеў я спачатку павесіцца, утапіцца, застрэліцца, але ўзяў ды напісаў гэты не зусім "маленькі фельетон"..* Ан, 19. *Маленькі фэльетон. Чым чорт ня шуціць.* ЧЧШ.

Адз. В. *фельетон*: Ан, 19; *фэльетон*: ЧЧШ.

**[ФЕТЫШ]** *м. перан.* Тое, чаму слепа верацъ і пакланяюцца. *Так, значыцца, ваша* [імперыялістычная] *ўсходняя і заходняя культура адплацілася за тыя мільёны ахвяр, што паляглі за вашы дзяржаўныя фальшывыя фетышы.* Тж, 16.

Мн. В. *фетышы*: Тж, 16.

**[ФІГА]** *ж. Іран.* Дуля. [Поп]: *Трапеза была обільная, яства упітацельныя: амэрыканскае сала...* [Янка]: *(набок) Амерыканскія фігі.* Т, 51.

Мн. Н. *фігі*: Т, 51.

**[ФІГУРА]** (2) *ж.* 1. Комплекс гукаў пры выкананні танцаў. *Вальц з фігурамі, без шаржу, крыху пануры.* Т, 29.

2. Поза, становішча цела. [Спічыні]: *Цяпер зрабеце* [Мікіта] *позу. Крыху не так – прасцей фігуру і вышэй галаву, вочы – удаль.* Т, 40.

Адз. В. *фігуру*: Т, 40. Т. *фігурамі*: Т, 29.

**ФІЗІЧНА** *прысл.* Матэрыяльна. *..усе яны* [дзяржавы] *маюць права на гэта, усіх іх можна прызнаць, нават можна і дапамагаць ці то фізічна, ці маральна..* Нз, 14.

**ФІКЦЫЙНА** *прысл.* Для выгляду; не на самай справе. *..і яны* [расійскія бальшавікі] *змушаны былі хоць фікцыйна ствараць ільлюзіі, што яны так сама спачуваюць нацыянальным тэндэнцыям падняволіваных імі народаў..* СНБ.

**[ФІЛЕЗОФІЯ]** *ж.*: ◊ **Разводзіць падкасьцельную філезофію** *гл.* разводзіць.

Адз. В. *філезофію*: З.

**[ФІЛЬМ]** *м.* Кінакарціна, кінафільм. *Вы можаце, напрыклад, убачыць вясёлы, камедыйны фільм, праз які выразнай ніткай “шчасця” праходзяць .. бацявы боты.* ПЧ.

Адз. В. *фільм*: ПЧ.

**[ФІЛЯНТРОПІЙНЫ]** *прым.* Філантрапічны, дабрачынны. [Дама]: *Часова перанашу сваю філянтропійную чыннасць на тэрыторыю...* Т, 37.

Адз. ж. В. *філянтропійную*: Т, 37.

**[ФІНСКІ]** (4) *прым.* Які мае адносіны да фінаў, Фінляндыі. *..гандлявалі* [гандляры] *на рынках замежных Фінскім народам і Фінскай дзяржавай. Ф. Ішлі беларускія сыны за Урал, ішлі ў фінскія балоты..* БВ, 16.

Адз. м. Т. *фінскім*: Ф. ж. Т. *фінскай* (2): Ф (2). Мн. Н. *фінскія*: БВ, 16.

**[ФІНЫ]** *мн.* Народ фіна-ўгорскай моўнай групы, які складае асноўнае насельніцтва Фінляндыі. *Стагнаў татарын, грузінец, фін, паляк, украінец, беларус.* НДН, 18. *Гэтак Расія падняволіла сабе агнём і жалезам слабейшыя суседскія народы, пачынаючы ад манголаў, каўказцаў, фінаў, літвінаў і канчаючы славянамі..* НДН, 18.

Адз. Н. *фін*: НДН, 18. Мн. Р. *фінаў*: НДН, 18.

**[ФІРМА]** *ж.* Прамысловае прадпрыемства. [Мікіта]: *Так*

*яно і ёсць: самая натуральная амброзія знамянітай тутэйшай фірмы – а ля самагонка, дастаўленая мне з вінных складаў “Піліп і К°”.* Т, 28.

Адз. Р. *фірмы*: Т, 28.

**[ФЛАГ]** *м.*: ◊ **Вывешываць белы флаг** *гл.* вывешываць.

Адз. В. *флаг*: Т, 52.

**[ФЛІРТАВАЦЬ]** *незак.* Займацца фліртам. [Наста]: *Без усякае цэрамоніі нашаму дзявоцкаму стану канкурэнцыю робіце* [Мікіта] *– як кокетка, фліртуеце з люстэркам.* Т, 24.

Абв. цяп. мн. 2 ас. *фліртуеце*: Т, 24.

**[ФОН]** *м.* Акаляючы план чаго-н.; тое, на чым што-н. бачыцца. *..і ўсё маё* [С. Меча] *жыцьцё любаваўся-б гэтымі махрастымі залаціста-жоўтымі бярэзінамі, што аж гараць на фоне сасновага бору..* ХБ, 29.

Адз. М. *фоне*: ХБ, 29.

**ФОРМА** (14) *ж.* 1. Спосаб арганізацыі, структура чаго-н., абумоўленыя зместам. *Няхай жыве культура, зьмест і форма якое выпісаны на ленінскім сьцягу найвялікшым сучасным правадыром пролетарыяту т. Сталіным..* АЛ. *..пад сцягам якога* [пралетарскага інтэрнацыяналізму] *толькі можа быць сапраўдны росквіт беларускай культуры, соцыялістычнай па зместу, нацыянальнай па форме.* ШБСЯ.

2. Знешні бок мастацкага твора – сістэма мастацкіх сродкаў і прыёмаў. *Мэта, якую ставіў я* [Купала] *перад сваёй поэтыцкай творчасьцю, гэта было паказаць у мастацкай форме ўсю беднату, цемнату, нядолю і паднявольле батрацтва і бядняцтва беларускае вёскі..* АЛ.

3. Праяўленне, праява чаго-н. *На ўсіх установах, на кожным чалавеку з асобна вайна атклікнулася у той ці іншай форме.* ВС.

4. Аднастайнае адзенне для каго-н. *Выходзіць* [Мікіта] *і варочаецца ў чыноўніцкай форме з усімі адзнакамі.* Т, 25. *Уваходзяць Ганулля і Немец у вайсковай форме.* Там жа, 32.

Адз. Н. *форма*: АЛ. Р. *формы* (2): Т, 32, 60. В. *форму* (4): Т, 24, 32, 50(2). М. *форме* (7): АЛ(2); ВС; ЖН; Т, 25, 32; ШБСЯ.

**[ФОРМЕЛЬНЫ]** *прым. Разм.* Форменны. [Мікіта]: *Я не грабіў, – мяне, медждү протчым, грабілі – фрэнчык формельны, боты жоўценькія знялі...* Т, 60.

Адз. м. В. *формельны*: Т, 60.

**[ФОРТАЧКА]** *ж.* Шкляныя дзверцы ў акне; фортка. *Мікіта хапае чырвоную хустачку, чапляе на канец парасона і вывешвае праз ваконную фортачку.* Т, 59.

Адз. В. *фортачку*: Т, 59.

**ФРАВУ** (2), **ФРАВУ-ВУ**, **ФРАВУВУ**, **ФРУ**, **ФРУВУ** *ж. Ням., разм. Тое, што* фраў. [Мікіта]: *Фраву, фраву, фру, фруву... фраву-ву...* Т, 31. [Мікіта]: *(да немца). Кіндэр фравуву, меджду протчым, фатэрлянд, гэр гэрманіш...* Там жа, 32.

Адз. *фраву* (2): Т, 31; *фраву-ву*: Т, 31; *фравуву*: Т, 32; *фру*: Т, 31; *фруву*: Т, 31.

**ФРАЎ** (5) *ж. нескл. Ням.* Жанчына. [Спічыні]: *І зусім не балабоста, а фраў... Паўтарэце*: [Мікіта] *фраў, фраў, фраў!* Т, 31. [Мікіта]: *..шабас гут, фраў...* Там жа, 32. *Параўн.* фраву, фраву-ву, фравуву, фру, фруву.

**[ФРОНТ]** (3) *м.* 1. Край баявога размяшчэння войск. *Па ўсім тагачасным расійска-нямецкім фронце былі беларускія палкі, дэвізіі і г. д.* БВ, 16.

2. Сфера, галіна дзейнасці. *..праводзілі* [беларускія нацыянал-дэмократы] *свае шкодніцкія нацыянал-дэмакратычныя ідэі на культурным фронце.* АЛ.

◊ **Адзіным фронтам** – разам, згуртавана. *Імпэрыялістычная загранічная буржуазія адзіным фронтам з рэшткамі капіталістычных элементоў у СССР напружвае ўсе свае сілы для таго, каб перашкодзіць гэтай творчай рабоце працоўных мас..* АЛ.

Адз. Т. *фронтам*: АЛ. М. *фронце* (2): АЛ; БВ,16.

**[ФРЫЦ]** (2) *м. Разм. Тое, што* фашыст. *Паколькі .. самая ўдасканаленая спадніца без адпаведных ног не здольна да руху ці якой-небудзь іншай дзейнасці, было відавочна, што гэта фрыцы.* ПСп. *І фрыцы, падабраўшы спадніцы, задалі такога драпака, што і ўявіць цяжка.* Там жа.

Мн. Н. *фрыцы* (2): ПСп (2).

**ФРЭНЧ** *м.* Куртка ваеннага крою з хлясцікам ззаду. *На шапцы ў яго* [Мікіты] *вялікі значок з белым арлом..; фрэнч і галіфэ новыя, з цёмна-жоўтага сукна, боты жоўтыя.* Т, 54.

Адз. Н. *фрэнч*: Т, 54.

**[ФРЭНЧЫК]** *м. Памянш. да* фрэнч. [Мікіта]: *Я не грабіў, – мяне, меджду протчым, грабілі – фрэнчык формельны, боты жоўценькія знеслі...* Т, 60.

Адз. В. *фрэнчык*: Т, 60.

**[ФУНДАМЭНТ]** *м. перан.* Аснова, база чаго-н. *..мы павінны ўсюды заяўляць, што мы – беларусы, і на фундамэнці закона дамагацца, каб рэлігіі ў школах беларускіх дзяцей вучылі не па расейску, не па польску, а па беларуску.* ВР.

Адз. М. *фундамэнці*: ВР.

**[ФУНТ]** (6) *м.* Старая мера вагі, роўная 409,5 г. [Мікіта]: *(дастаючы іншыя рэчы з каламажкі). Далей ідуць мае .. пайкі:*

*сем фунтаў адборнай атрубянай мукі, паўтара фунта з асьмушкай круп, два фунты з чвэрткай гароху.., паўчвэрці фунта і два лоты солі..* Т, 46. *..лічачы ў сярэднім па 50 фунт. стапу, атрымаем 2650 пуд., г. ё. каля трох вагонаў беларускіх выданьняў.* ВСп, 91.

Адз. Р. *фунта* (2): Т, 46(2). Мн. Р. *фунтаў* (3): ВСп, 91; Т, 46(2). В. *фунты*: Т, 46.

**[ФУРМАН]** *м.* Чалавек, які кіруе коньмі ў запрэжцы. *У 1890 г. ён* [бацька] *развітваецца часова са становішчам найміта ў маёнтках і пераязджае ў Мінск, дзе купляе каня і едзіць некаторы час фурманам.* А, 328.

Адз. т. *фурманам*: А, 328.

**[ФУТРА]** *м.* Адзенне, пашытае са шкур пушных звяроў. [Ганулян]: *..і загадаў* [начальнік] *яму* [Мікіту] *цягаць чужыя рэчы ў свой панскі пакой з нейкай гасцініцы, дык бедны Мікіта як не падарваўся, цягаючы футры ды спадніцы.* Т, 57.

Мн. В. *футры*: Т, 57.

**ФЭЛЬЕТОН** *гл.* **ФЕЛЬЕТОН.**

**[ФЭОДАЛЬНА-ПАНШЧЫННЫ]** *прым. У знач. наз.* Тое, што адносіцца да феадальнай паншчыны, прыгонніцтва. *..пачаў* [Купала] *іх* [нацыянал-дэмакратычныя ідэі] *адбіваць у сваёй далейшай творчасьці,.. ідэалізуючы ў некаторых сваіх творах гістарычнае мінулае, значыцца фэодальна-паншчыннае Беларусі..* АЛ.

**ФЮ-ФЮ** *выкл. Разм.* Ужываецца для выражэння захаплення нечым. [Спраўнік]: *Ды што – бацькі? Я сам як жыў? Фю-фю!* Т, 28.

# Х

**ХАВАЦЦА** (6) *незак.* 1. Скрывацца, каб іншыя не маглі убачыць або знайсці. [Галасы]: *Трэба хавацца! Хутчэй! Хавацца! Хавацца!* Т, 52. [Мікіта]: *Мадам-сіньёра, хавайцеся сюды!* Там жа, 52.

2. *Разм.* Знаходзіцца, захоўвацца дзе-н. *Рэшта яго* [Бацi] *грошай, што хаваецца ў Бацяўскай “ашчадкасе” – пад суровым кантролем.* ПЧ.

◊ **Хавацца ад сонца** – рабіць што-н. скрытна, не выяўляць сваіх намераў, думак, пачуццяў. *А хто хаваецца ад сонца, у таго на душы цёмна.* Кз, 17.

Інф. *хавацца* (3): Т, 52(3). Абв. цяп. адз. 3 ас. *хаваецца* (2): ПЧ; Кз, 17. Заг. мн. 2 ас. *хавайцеся*: Т, 52.

**[ХАВАЦЬ]**[1] (2) *незак.* 1. Укрываць, засцерагаць ад каго-, чаго-н. *Знай* [бяда], *хавалі нас* [жаўнераў] *Поле, бор і лог Беларусі-маці!* ВБ.

2. Трымаць каго-н. у пэўным месцы. *Трох сыноў чараўнік на сьвет белы выводзіў, Трох сыноў, што хаваў узаперці..* Ч, 319.

Абв. пр. адз. м. *хаваў*: Ч, 319. Мн. *хавалі*: ВБ.

**[ХАВАЦЬ]**[2] *незак.* Закопваць ў зямлю нябожчыка. *Таварыш! Зняць шапкі над жывой магілай! Хаваюць, ведайце, большэвіка большэвікі.* СК, 158.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *хаваюць*: СК, 158.

**ХАВАЮЧЫ** (3) *дзеепрысл. да* хаваць[1]. 1. Прыхоўваючы, кладучы. [Немец]: *(хаваючы грошы). Загаварылі б адразу такім языком, ваша правасхадзіцельства...* Т, 33. [Мікіта]: *(хаваючы грошы ў галіфэ і выходзячы). Меджду протчым, я не з такіх, мамаша, каб упутацца.* Там жа, 56.

2. *перан.* Тоячы. *Маўчаць урачыста лясы і курганы, Хаваючы былі пад шатамі хвой.* ПБН.

**[ХАДА]** (3) *ж.* 1. Уласцівая каму-н. манера хадзіць;

паходка. *Колю знаю па хадзе я – Вось к вакенцу падашоў. Мы цяпер тавар ня ходкі – Збыт на дзяцюкоў пашоў.* ВБЛ, 82. // *Вобразн. Глядзіш – для яе* [Радзімы]*, маладой, Ткуць кросны атласы, шаўкі, Паважнаю ходзіць хадой, Шуршаць залатыя пяскі.* ТП, 215.

2. *перан.* Развіццё, цячэнне чаго-н. *Прыехаўшы ў Беларусь савецкую я* [Купала] *раскажу, наколькі ў мяне хопіць сілы, бальшэвіцкую праўду аб гэтым гераічным будаўніцтве, якое сведчыць аб неперcraможнай хадзе соцыялістычнага ладу..* ЦСБ.

Адз. Т. *хадой*: ТП, 215. М. *хадзе* (2): ВБЛ, 82; ЦСБ.

**ХАДЗІЦЬ** (24) і *разм.* **ХАДЗІЦІ** *незак.* 1. Мець здольнасць перамяшчацца, ступаючы нагамі. *Як навучыцца хадзіці, Маткі мову разумець, Ты* [маці] *вучы яго* [сына] *любіці Ўсё сваё у пашане мець.* М, 19. *Ходзіць* [Гануля] *у іншыя пакоі.* Т, 31. *Другая – трэцяя Уецца, як змей, Часам здараецца Ходзюць па ей.* $Ш_5$.

2. *Вобразн. Глядзіш – для яе* [Радзімы]*, маладой, Ткуць кросны атласы, шаўкі, Паважнаю ходзіць хадой, Шуршаць залатыя пяскі.* ТП, 215. // *Вобразн.* Панаваць. *І сёння там* [за Сулою] *ходзіць галеча ў лахмоцці Пад звон набажэнства, пад голас маны..* ПБН. // Ісці следам за чым-, кім-н. *Можаце сабе ўявіць: чалавек ходзіць за сахой, а следам за ім, як варона хаджу я* [Купала] *і слухаю.* ПС. // *Вобразн.* Суправаджаць каго-н. *Ой, вяду бяду, А бяда мяне Водзіць вечным следам; Гэтак хадзім мы За адным адно, Як той дзед за дзедам..* ВБ. // Падыходзіць, накіроўвацца да каго-н. – *Хадзеце, хадзеце, вясёлыя людзі! А жыва да нас на таргоўлю..* Р. // Перамяшчацца ў пэўным кірунку (пра хмары). *Паляту я* [трактарыстка]*, трактар, "Сталінец" мой слаўны, Дзе воблакі ходзяць, Плаваюць дзе плаўна.* ПТ, 207. // Перамяшчацца патокам. *Ходзюць, гонюць сухавеі Праўданьку сьвятую..* Дз, 191.

3. Бываць дзе-н. *Хадзілі калісьці сюды* [у лясы] *партызаны, На смерць не глядзелі, кідаліся ў бой.* ПБН. // Вандраваць, блукаць. *З-пад Смаргоні, з-пад Маладзечна, з-пад Крывічоў і г. д., і г. д. абарваныя, галодныя людзі ходзяць па сваёй бацькаўшчыне і па чужынцах і просяць...* АБ, 16. *Параўн.* швэндацца.

4. Прыступаць да якой-н. службы, вучобы. [Мікіта]: *У гэтым портфэльчыку ўсялякія асабістыя пасведчанні .. і яшчэ дакументы на права ўставаць рана, хадзіць на службу і не хадзіць на службу..* Т, 46. [Мікіта]: *Паміж намі кажучы, меджду протчым, а дзеля ўсякага такога здарэння з пару дзён хадзіў на такія курсы, але нічога ў галаву не палезла.* Там жа, 56.

5. Выступаць у паход супроць каго-н., нападаць. *Спрадвеку ходзім пад панамі і пад царам На недруга й на бліжняга свайго вайной..* НГ.

6. Адбывацца, весціся (пра гутарку). *Гутарка важная ходзіць па хаце, Вецер за хатаю вее і вее.* ВМ, 72.

7. З'яўляцца кім-н., знаходзіцца ў якім-н. становішчы. *Ах вы, грудзі мае, Двухфунтовыя! Цяпер ходзяць у нас Дзеўкі ўдовамі.* ВБЛ, 83.

◊ **Хадзіць і варон страляць** – нічога не рабіць, гультайнічаць. [Мікіта]: *Мітынг, мусье профэсар, мітынг, меджду протчым, гэта нешта такое, што выдумалі ангельцы для тых, якія нічога не хочуць рабіць, а толькі ходзяць і варон страляюць.* Т, 41.

Інф. *хадзіць* (2): Т, 46(2); *хадзіці*: М, 19. Абв. цяп. адз. 1 ас. *хаджу*: ПС. 3 ас. *ходзіць* (6): ВМ, 72; ПБН; ПС; Т, 20, 31; ТП, 215. Мн. 1 ас. *ходзім* (2): ВБ; НГ. 3 ас. *ходзяць* (7): АБ, 16; ВБЛ, 83; НК (3); ПТ, 207; Т, 41; *ходзюць* (2): Дз, 191; $Ш_5$. Пр. адз. м. *хадзіў*: Т, 56. Мн. *хадзілі*: ПБН. Заг. мн. 2 ас. *хадзеце* (2):Р (2).

**[ХАДЗЬБА]** *ж. Дзеянне па дзеяслову* хадзіць *у 2 знач.* [Мікіта]: *А ў гэтым портфэльчыку ўсялякія асабістыя пасведчанні на маю асобу, на маю кватэру, на ваду, на апал, на яду,на хадзьбу і гэтак далей..* Т, 46.

Адз. В. *хадзьбу*: Т, 46.

**ХАЙ¹** (2) *злучн. уступальны.* 1. Ужываецца ў сказах з уступальным дапушчэннем са значэннем хоць, нягледзячы на тое, што. *Хай там бура, завіруха, Хай пурга сапе і плача, Зтуль тваё пачуе вуха Комсамольскі гарт юначы.* СА (2).

**ХАЙ²** (70) *часц. Разм.* 1. З дзеясловам у 3 ас. цяп. і буд. часу служыць для выражэння: а) загаду, наказу, распараджэння. [Гарошка]: *(да пана). Значыцца, паны даіцё лататы?* [Пан]: *А так, прыходзіцца, толькі хай там ваша вёска вельмі ў двор мой не прэцца, бо як вярнуся...* Т, 37; б) згоды, дазволу, прымірэння з чым-н. [Мікіта]: *А так, меджду протчым, хай сабе ідуць* [немцы]*, гэта мне пад руку – буду зноў засядаць у губарнатарскай канцылярыі.* Т, 24. *Хай жыве, як сабе хоча, – Хоць як труцень, як нуда.* КЧ; в) прапановы, парады. *Хай бяруць з магазынаў толькі тые, хто папраўдзе не мае за што купіць, а сем'яніны яго на ваеннай службе.* ВС. *Хай ставяць цьвёрдыя запоры Перад навалаю чужой, Глядзяць і моляцца на зоры Усёй раднёй, усёй сям'ёй.* УрП, 50; г) пажадання, закліку. *Хай жыве сьветлая культурная праява, на чыей бы зямлі і у якім бы народзе яна не праявілася.* УПУВ.

*Хай жа Беларусь пакажа, што яе верные сыны здольны праліваць сваю гарачую кроу ня толькі за чужую карысьць і панаваньне, але так сама патрапюць і для сваей зямлі лепшую долю і лепшую славу.* БСУ. // З дзеясловам 1 ас. адз. л. цяп. часу служыць для выражэння сваёй гатоўнасці да чаго-н., пажадання сабе чаго-н. *Дайце сьмерць, хай ня чую, што ноч мне пяе! Дайце сілы!... О, Божа! Нікога кругом!* БН, 91.

2. У спалучэнні з часціцай "бы" (з дзеясловамі ўмоўнага ладу) выражае дапушчэнне з адценнем пажадання, магчымасці дзеяння. *Думкі бабскія ў мяне ўсё адны: Хай-бы хоць і ад дурняў, ды сыны...* ВБЛ, 83. *Сынам, як кажуць, маім* [маці] *быў ён млечным, – Хай-бы магілу лепш гэткі сын парыў.* Мц, 74.

• **Хай рунь красуе...**

◊ **Хай сабе** *гл.* сабе.

Ан, 19(2); БСУ (4); Бц, 73; В (2); ВБ; ВБЛ, 81(2); ВС (3); ЖН (4); З (2); КЧ (2); Кц, 196; МПв, 219, 220(2); ПЛП (3); ПНд, 314(2); Пр; РКр (3); СМ (3); Т, 22, 28(2), 43(4), 44; ТП, 213; Ун, 73; УрП, 48, 49; 50(2); 51(3); Х; ХЛВ, 315; ЧС, 50-51.

**[ХАЛЕРА]** *ж.*: ◊ **На якую халеру** – навошта. [Мікіта]: *(набок). На якую халеру пацеў я столькі над шпрэхэндэйчам, калі яны* [немцы] *па-нашаму лепей ад нас саміх шпрэхаюць?* Т, 32.

Адз. В. *халеру*: Т, 32.

**ХАЛОДНЫ** (6) *прым.* 1. З нізкай або адносна нізкай тэмпературай. *Рэдактар, як бура, лётае па хаце і што мамэнт п'е з бутэлькі халодную ваду.* Ан, 19.

2. Які пакутуе ад холаду. *Жылі* [беларусы] *– як і дзе папала ў падвалах, халодныя і галодныя..* МІ, 17.

3. Выкліканы холадам. *..нажывалі* [беларусы] *сабе сухоты і іншыя галодныя-халодныя хваробы і да самае смерці не складалі аружжа барацьбы за беларускую незалежнасць.* МІ, 17. // *Вобразн. У нас* [на Беларусі] *усё спіць, ніхто не падае голасу, ніхто не дамагаецца ад народаў, што наш край зрабавалі ні за што ні пра што, каб хоць у частцы прыйшлі з падмогай дзеля яго адбудавання, дзеля яго ратавання ад галоднай і халоднай смерці.* АБ, 16.

4. *перан.* Які мае адносіны да іншага краю; чужы. *Гэй ты, краю халодны, чужы, Прытулі бесхацінца к сабе...* ЧС, 50-51. *Паказала гэта і цяперашняя вайна, тыя сотні тысяч уцекачоў, хлынуўшыя, як адкрылася граніца, з халодных раўнін Расіі ў свой родны край.* ЗС, 18.

Адз. м. Н. *халодны*: ЧС, 50-51. ж. Р. *халоднай*: АБ, 16. В. *халодную*: Ан, 19. Мн. Н. *халодныя*: МІ, 17. Р. *халодных*: ЗС, 18. В. *халодныя*: МІ, 17.

**ХАЛЭМУС** *нескл. м. У знач. вык. Разм.* Гібель, канец, смерць. *Гэй, Дубровін чарнасоцкі, Пурышкевіч, Замыслоўскі, Дайце раду, што чыніці, Як крамолу скараціці. А то мне* [пану Кавалюку] *халэмус прыйдзе, Ці павешуся на жыдзе, Ці палякам удаўлюся, Ці уп'юся, павалюся.* ЛПК.

**[ХАЛЯВА]** *ж.*: ◊ **Пазнаць пана па халявах** *гл.* пазнаць.

Мн. М. *халявах*: Т, 58.

**[ХАМСКІ]** *прым. Разм.* Невуцкі, цёмны. *Думаў* [пан Кавалюк] *вёску з хамскім людам На такую злаўлю вуду, Дый газетка чуць жывая, Толькі сам яе чытаю.* ЛПК.

Адз. м. Т. *хамскім*: ЛПК.

**[ХАПАННЕ]** *н. Захоп.* [Наста]: *Яны* [немцы] *цяпер заняты спэцыяльна хапаннем сваіх жа ўласных генэралаў.* Т, 41.

Адз. Т. *хапаннем*: Т, 41.

**[ХАПАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* хапаць. *У знач. наз.* Тое, што забрана, украдзена. *Брат другі шоў на нетры сьляпыя аблавай, Воблік крадзены кідаў загубам, Акрыляў сам самога асілкавай славай, Паўставаў проць хапанага клубам.* Ч, 324.

Адз. м. Р. *хапанага*: Ч, 324.

**[ХАПАЦЦА]** *незак.* Паспешліва брацца, хватаць рукамі. [Мікіта]: *Я растыцкаю куды-небудзь пляшкі. (Хапаецца рукой за бутэльку).* Т, 59.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *хапаецца*: Т, 59.

**ХАПАЦЬ[1]** (11) *незак.* 1. Рэзкім, парывістым рухам спешна браць што-н. *Хапае* [Спічыні] *шапку і знікае ў дзвярох справа.* Т, 32. *Мікіта хапае ў Дамы рэвальверы ў абедзве рукі за рулькі, секунду-другую бегае па хаце..* Там жа, 59. *Параўн.* хватаць.

2. *Разм.* Лавіць, браць сілай, пазбаўляць волі каго-н. [Мікіта]: *(да Ганулі). Ідзеце адчынеце дзверы і крыху прытрымайце яго* [немца], *пакуль я пераадзенуся, бо чаго добрага, прышоў на работу хапаць.* Т, 32. [Наста]: *А я чула ад пэўнай асобы, што немцы як прыходзяць, то першым чынам направа і налева хапаюць усіх на работы – капаць акопы, а гэта не губарнатарская канцылярыя.* Там жа, 24. // *Вобразн. З-пад ног, з утоптанай нары Паўзе ўжо збэшчаны павук І ў сто , ў сто кагцістых рук Хапае вас, рабы-цары, – Як бы ўжо вы не ўладары...* ПВ.

**ХАПАЦЬ[2]** *незак., безас.* Быць дастатковым, ставаць. [Мікіта]: *Але й палонных, як уважаю, па дарозе хапае.* Т, 41. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, я вам не адзін раз казаў і яшчэ кажу: у вас няма зусім гандлярскай жылкі, у вас не хапае чуткай кемнасці ў гандлёва-прамысловых справах..* Там жа, 34.

Інф. *хапаць*: Т, 32. Абв. цяп. адз. 3 ас. хапае (8): ПВ; Т, 32, 34, 41, 47, 59(3). Мн. 3 ас. *хапаюць*: Т, 24. Пр. мн. *хапалі*: Т, 32.

**[ХАПІЦЬ]** (7) *зак. да* хапаць *у 3 знач. У хлебе восць, у горле косць. Сабою самі ўстануць з руін Вам* [бальшавікам] *не хапіла смагі, сіл, І вось к вам вылез цень з магіл.* ПВ. *Беларускі земляроб верыць і чакае, што панская зямля пяройдзе раней ці пазней у яго рукі і што гэтай зямлі для яго хопіць..* ЗС, 18. *Параўн.* хваціць.

Абв. пр. адз. н. *хапіла* (4): ПВ; Т, 20, 57(2). Буд. адз. 3 ас. *хопіць* (3): ЗС, 18; Т, 33; ЦСБ.

**ХАПУН** *м.*: ◊ **Хапун не схопіць** – пра адсутнасць падстаў для турбот. [Наста]: *Хапун вас не схопіць, мусье Нікіці, калі яшчэ крыху пачакаеце на мае рукі і на маё сэрца.* Т, 42.

Адз. Н. *хапун*: Т, 42.

**[ХАРАВЫ]** *прым.* Які выконваецца хорам. *Пры апошніх Гануліных словах разлягаецца за вокнамі на вуліцы харавая песня.* Т, 62.

Адз. ж. Н. *харавая*: Т, 62.

**[ХАРАКТАРЫЗАВАЦЬ]** *незак.* Выяўляць адметную рысу, асаблівасць чаго-н. *Становішча прамысловасці Чэхаславакіі, яе сістэму лепш за ўсё характарызуе "абутковы горад" Баці ў Зліне.* ПЧ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *характарызуе*: ПЧ.

**[ХАРАКТАРЫСТЫКА]** *ж.* Апісанне, вызначэнне істотных рыс, асаблівасцей чаго-н. *..мы спачатку памяшчаем падробную табліцу ўсяго надрукаванага за гэты час, а пасьля, па магчымасьці, пяройдзем да характарыстыкі паасобных кніг і выдавецтваў.* ВСп, 89.

Адз. Р. *характарыстыкі*: ВСп, 89.

**ХАРАСТВО** (6) *н.* Краса, прыгажосць, чароўнасць. *Хто, прыкладам ня ведае клясычнага апісання хараства нашага краю А. Міцкевіча ў яго несьмяротнай паэме "Пан Тадэуш"?* ХБ, 27. *Але – ці-ж гэта праўда, што ў нас няма людзей, ведаючых і ўмеючых цаніць хараство і багацьце роднага краю?..* Там жа, 30.

• **Харастово Беларусі.**

Адз. Н. *харастово*: ХБ, 29. Р. *хараства* (2): ХБ, 27(2). В. *харастово* (3): ХБ, 28, 30(2).

**[ХАРОМЫ]** *толькі мн. Руск., уст.* Палацы. *..не разумелі* [заезджыя госці]*, як гэта можна заместа аднаго мець некалькі багоў і не мець багатых харомаў, збудаваных у чэсць і хвалу Бога свайго.* Кз, 17.

Мн. Р. *харомаў*: Кз, 17.

**[ХАРОШЫ]** *прым. Разм.* Прыгожы, прывабны. *..такія яны* [лясы] *чыстыя і харошыя: роўныя сосны стаяць бы колённы гішпанскага храма.* ХБ, 29.

Мн. Н. *харошыя*: ХБ, 29.

**[ХАРЧ]** (2) *м.* Прыпасы, тое, што спажываюць; страва. *На першай чародзе стаіць у нас пытаньне, як забаспечыцца перэд магчымай нестачай харчоў для сябе і для жывёлы.* ВС. *Апрача хаўруснаго закупу харчоў, шмат можэ прынесьці у гэтым помачы наша воласьць.* Там жа.

Мн. Р. *харчоў* (2): ВС (2).

**ХАТА** (91) *ж.* 1. Жылая пабудова, зрубленая з бярвення. *Ліпа шуміць адзінока над хатай, Сажалка дрэмле, заросшая цінай, Гул далятае здалёку гарматаў.* ВМ, 72. *..гарматнія стрэлы змялі з вобліку зямлі хаты, зніштожылі межы і гранічныя слупы.* АБ, 16. // *Вобразн.* Прытулак. *А душа сама – без хаты, Знаць, з вялікай мукі То зрывае з сябе шаты, То ў крыж зложэ рукі..* Дз, 191. *Параўн.* хаціна.

2. Унутраная частка такой жыллёвай пабудовы; жылое памяшканне. *У хаце было сорак градусаў холаду.* Ан, 19. *..а яшчэ астаўлялі* [прашчуры] *ў хатах пад абрусамі бохана хлеба пшанічнага і дубовыя дзежы сотаў пчаліных – гэта каб госць меў чым з дарогі пажывіцца.* Кз, 17.

3. Хатняя гаспадарка. *А трывога – гэта чэрвяк, які падточвае сілу і ахвоту да жыцьця, да працы на ніве і ў хаце.* РКр.

4. Сям'я. [Гануля]: *Во няшчасце на нашу хату.* Т, 59. *Як са мною* [маці] *будуць* [сыны] *разам Жыці, панаваці, Слава быць жывым абразам У людзей і ў хаце...* Дз, 188.

• **Казённая хата** – турма. *Цяпер жджэ* [Налівайка] *казённай хаты, Знайце правых дэпутатаў...* НД.

◊ **Залазіць у хату** *гл.* залазіць. **Чым хата багата** – форма ветлівага запрашэння да пачастунку. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, чым хата багата.* Т, 51. **Я – ня я і хата ня мая** – мяне гэта не датычыцца, гэта не мая справа. *Само сабою разумеецца, што калі мецьстрэльбу у руцэ і прыстаць з такімі пытаньнямі, то чалавек паняволі скажа, што – я – ня я і хата ня мая.* ДК.

Адз. Н. *хата* (7): ДК (2); СД; Т, 44(2), 51; ХБ, 28. Р. *хаты* (16): БСУ (2); Бц, 74; В (2); Дз, 191; К; Кр, 77 (4); НД; ПТ, 207; Т, 27, 36, 48. В. *хату* (12): Вб, 236; ВС; ДК; ПЛП; ПСС, 232; Р; РКр; Т, 20, 25(2), 59, 60; *хаты* (2): Т, 50, 62. Т. *хатай* (7): ВМ, 72; ДЖ; З; Т, 20(2); Ч, 319, 320; *хатаю*: ВМ, 72. М. *хаце* (16): Ан, 19(2); Вб, 236, 237; ВМ, 72; ГЖУ; Дз, 188, 190; Т, 19, 20, 35, 44, 59(2); Ч, 319. Мн. Н. *хаты* (3): НГ; ПЛП; УрП, 50.

Р. *хат* (17): АБ, 16; АПЖ; БВ, 16; БС; ГП, 8; ДЖ; ЗК, 42; Кз, 17; НДп, 229(2), 230(2); СС, 301(2); ТП, 217(2); УрП, 46; *хатаў*: Ф. В. *хаты* (7): АБ, 16; ГЖУ; Мц, 75; СС, 302; Т, 44; ТП, 215; Чж, 146. М. *хатах* (2): Кз, 17; ХЛБ.

**[ХАТНІ]** (5) *прым.* 1. Які мае адносіны да хаты. [Мікіта]: *Усё гэта вымагала тое-сёе змяніць і ў хатніх абставінах, каб такім спосабам надаць болей, медждy протчым, дэмакратычнасці і прастаты.* Т, 48. // Прызначаны для хаты, для бытавых патрэб. *У беспарадку накідана ўсякіх хатніх рэчаў, як бы яны сабраны былі з некалькіх пакояў.* Т, 43. *Некалькі быўшых паняў, стоячы радам, прадаюць усялякія хатнія манаткі.* Там жа, 33.

2. *Іран.* Які рос, гадаваўся ў хаце, пры хаце. – *Хадзеце, хадзеце, вясёлыя людзі! А жыва да нас на таргоўлю: Пакупка-гасцінчык* [душа беларуса] *вам кожнаму будзе Чырвоненькі, хатняй гадоўлі.* Р.

3. *перан.* Свой, незамежны. *Ворагаў зніштожым, Хатніх і замежных, Сонцам апранешся, Як табе* [Радзіме] *належна.* МПв, 220.

Адз. ж. Р. *хатняй*: Р. Мн. Р. *хатніх*: Т, 43. В. *хатнія*: Т, 33; *хатніх*: МПв, 220. М. *хатніх*: Т, 48.

**ХАЎРУЗІЯ** (2) *ж. Разм., іран.* Кампанія. *Тутака пачалася благая камэдыя: Солоневічы, Ковалюкі, Тепловы і ўся іх "хаўрузія" крычаць аб "распалячэньні" Беларусі..* ВР.

◊ **Цёплая "хаўрузія"** – тое, што цёплая кампанія. *..калі-ж беларусы, адкідваючы польшчыну, дамагаюцца правоў для беларушчыны, цёплая "хаўрузія" кажэ: не, вы павінны зрабіцца расейцамі, а ня быць беларусамі!* ВР.

Адз. ж. Н. *хаўрузія* (2): ВР (2).

**[ХАЎРУС]** (4) *м. Разм.* Саюз, таварыства. *Усё паказывае, як бытцым палякі зрабілі хаўрус з расейскімі націоналістамі і чорнасоценцамі, абы толькі заціснуць беларускі рух..* ВР. *Сярод разьюшаных сатрапаў Паганы зладзіўшы хаўрус, Свае таргуюць і чужыя Табой, няшчасны беларус.* РС, 39.

◊ **У хаўрусе** (2) – сумесна, разам. *Для ажыцьцяўленьня гэтае мэты група контррэволюцыйных нацыянал-дэмократычных інтэлігентоў, у хаўрусе і пад кіраўніцтвам заходне-беларускага нацыянал-фашызму .. на працягу раду год вяла шкодніцкую работу амаль на ўсіх вучастках социялістычнага будаўніцтва..* АЛ. *У хаўрусе шмат лягчэй і карысьней гэта рабіць.* ВС.

Адз. В. *хаўрус* (2): ВР; РС, 39. М. *хаўрусе* (2): АЛ; ВС.

**[ХАЎРУСНЫ]** (2) *прам.* Сумесны, супольны. *Апрача*

*хаўруснаго закупу харчоў, шмат можэ прынесьці ў гэтым помачы наша воласьць.* ВС. // Які належыць групе людзей; агульны. *Яшчэ трэба сказаць аб хаўрусных крамах і банчках па вёсках.* ВС.

Адз. м. Р. *хаўруснаго*: ВС. Мн. М. *хаўрусных*: ВС.

**[ХАЎРУСЬНІК]** (2) *м. Разм.* Саўдзельнік якога-н. злачынства, несумленных спраў. *Забыліся толькі Хаўрусьнікі ночы Спытаць беларуса, Чым сам ён быць хоча.* Х.

• **ХАЎРУСЬНІКАМ.**

Мн. Н. *хаўрусьнікі*: Х. Д. *хаўрусьнікам*: Х.

**ХАЎТУРНА** *прысл. перан.* Зларадна, жудасна. *Разыграліся гурмай за зданяю здань, Як вужакі ў гаршку мятусяцца яны, Песьню выюць хаўтурна: ты ляж, а ты ўстань!..* БН, 93.

**ХАЎТУРНЫ** (2) *прым. Разм.* Які мае адносіны да хаўтур, звязаны з хаўтурамі. *На беларускае йдзеш поле, На акрываўленыя межы, Дзе закаванай дрэмле воля, Дзе звоне звон хаўтурны з вежы.* НГд, 8. *Нідзе ні ладу, ані праўды, Званы хаўтурныя зьвіняць...* РС, 40.

Адз. м. Н. *хаўтурны*: НГд, 8. Мн. Н. *хаўтурныя*: РС, 40.

**ХА-ХА-ХА** (8), **ХА-ХА** (3) і **ХА-ХА-ХА-ХА** (3) *выкл.* Ужываецца гукапераймальна для перадачы гучнага смеху, рогату. [Аленка]: *(пырснуўшы смежам). Ха-ха-ха! Ну і панскае ігрышча дык ігрышча! Ха-ха-ха!* Т, 29. [Янка]: *Вы* [Мікіта] – *аратарам? Ха-ха-ха! Ха-ха-ха!* Там жа, 36. // Выказвае абурэнне з прычыны чаго-н. з адценнем знявагі. *Ха-ха – ўзяўшыся за бокі разводзіць* [беларускі шляхціц] *перад ягамосьцем у "чорным" сваю падкасьцельную філезофію: –Гэта нашы мужыкі нават з панам "па-простэму" гавораць.* З. // Ужываецца для выражэння адчаю, роспачы, безнадзейнасці. *Ха-ха-ха-ха! Душу сваю выні, палажы на далонь і надзейся, Што паверацьтабе, што ня згіне Ўся прысяга твая ў чорнай ціне Перасудаў людзкіх... Ха-ха! сьмейся!* См, 91. См, 90, 91; Т, 30, 48(3), 49(2).

**[ХАЦЕЦЦА]** (8) *незак. безас.* Адчуваць патрэбу ў чым-н., вельмі жадаць чаго-н. *Свабодныя людзі! Вялікае свята! Як хочацца жыць безустанку!* ВВ, 263. *Вы – непадкупныя суддзі, Што ж яшчэ хочацца вам?!* ЁЯ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *хочацца* (6): ВВ, 263(2); ЖН; ЁЯ; З; Т, 49; *хочэцца*: ВЧ. Пр. адз. н. *хацелася*: Т, 51.

**ХАЦЕЦЬ** (80) *незак.* 1. Мець жаданне, ахвоту, адчуваць патрэбу. [Мікіта]: *Калі ж я сам хачу патанцаваць.*Т, 29. *..якую яны* [бацькі] *хочуць школу – расійскую, польскую ці беларускую?* ДК.

2. Мець намер зрабіць што-н. [Мікіта]: *Наогул, меджду протчым, хачу перайсці на ваш* [Янкі] *беларускі бок, ці як там.* Т, 55. *Хацеў я спачатку павесіцца, утапіцца, застрэліцца, але ўзяў ды напісаў гэты не зусім "маленькі фельетон".* Ан, 19. / / У спалучэнні з адмоўем*:* адказвацца што-н. рабіць. *Не хацелі спачатку прынімаць новай веры дрэговічы і крывічы, ды палачане ад іх не адставалі.* Кз, 17. [Гарошка]: *Нашы ўсё роўна не хацелі пакідаць сваіх загаспадараных сяліб.* Т, 43.

3. Дабівацца ад каго-н. чаго-н., меркаваць знайсці ў кім-н. што-н. *Чаго прышоў* [незнаёмец]*, чаго ты хочаш, Ад гэтых жыхароў пустынь?* УрП, 51.

4. Зычыць, жадаць каму-н. *Каб таму маланкай Асьляпіла вочы .. Хто для нашых дзетак Хоча асьляпленьня..* К.

5. З адноснымі займеннікамі і прыслоўямі ўтварае спалучэнні са значэннем азначальнасці: кожны, усякі. [Мікіта]: *Добрыя людзі адчынілі склад з ёю* [патакаю] *на Нізкім рынку і – бяры хто хочаш і колькі хочаш.* Т, 54. *Ідзеш* [Новы год] *у край, дзе сотні летаў Хто толькі хоча гаспадарыць..* НГд, 8.

◊ **Як хочаш** – невядома як. [Мікіта]: *Забярэ* [немец] *ў палон, нямецкі палон, і жыві там як хочаш.* Т, 32.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *хачу* (16): ЖН (2); НГд, 8; СБНГ; Т, 22(3), 23, 28, 29, 30, 33(3), 34, 55. 2 ас. *хочаш* (5): Т, 32, 54(2); УрП, 51; Ч, 323. 3 ас. *хоча* (16): БВ, 17; ДК; К (2); КЧ; МП (2); НДН, 18; ПЧ; Т, 20, 22, 32, 50(2), 55; Х; *хочэ*: ВР. Мн. 1 ас. *хочам* (3): БС (2); Пп, 5; Т, 50. 2 ас. *хочаце* (6): З; Т, 27(2), 32(2), 49. 3 ас. *хочуць* (8): Ан, 19; ВБЛ, 82; ВР; ДК; Кц, 195; НДН, 18; СНБ; Т, 41. Пр. адз. м. *хацеў* (11): А, 328; Ан, 19(2); БС; ВСп, 91; СНБ, 338; СНБ; Т, 25, 42, 43; Ч, 322. Мн. *хацелі* (14): Ан, 19; ВГР; ВНЗ (2); Кз, 17; МПв, 219; НДН, 18; Нз, 14; Т, 37(2), 43, 48, 54, 58.

**ХАЦІНА** (5) *ж. Тое, што* хата *ў 1 знач. Так паехаў сын Даніла Сам сабой на вайну, Азірнуўся на хаціну Ды змахнуў слязіну.* ПСД. *Курна дыміцца ў хаціне лучына..* ВМ, 72.

Адз. Н. *хаціна*: ВБЛ, 81. Р. *хаціны*: ГЖУ. В. *хаціну*: ПСД. М. *хаціне*: ВМ, 72. Мн. Д. *хацінам*: Пп, 5.

**ХАЦЯ**[1] (2) *злучн. Разм.* Пры даданых ўступальных сказах выступае са значэннем "нягледзячы на ". *І хаця ў аснове закону ляжыць справядлівы наказ, але ў жыцьці ён сілы ніякай ні мае..* ВР. *Хаця ў гэтай кніжцы і зьмешчаны тэрміны па элемэнтарнай матэматыцы, але некаторыя з паміж іх дужа не элемэнтарны..* ВСп, 89.

**ХАЦЯ**[2] (6) *часц.* 1. Служыць для выражэння просьбы, настаўлення, указання; па значэнню адпавядае часціцы

толькі. [Гануля]: *Хаця не змікіцьце майго Мікітке. Хаця не змікіцьце! (Апускаецца з ціхім плачам на спакаваныя манаткі).* Т, 62. [Мікіта]: *(да Ганулі, набок). Хаця не ўздумайце яшчэ за стол іх* [гасцей] *садзіць.* Там жа, 25.

2. Ужывацца ў значэнні: няхай, нават. *Не старайся зямли, хаця-бы и купиць, бо са стараны часам могуць падумаць, што дамагаешся "зямли и свабоды"..* СП. Т, 24, 39.

**ХВАЁВЫ** *прым.* Які складаецца з хвой. *..за плотам саду было поле, а за полем хваёвы лес.* ХБ, 29.

Адз. м. Н. *хваёвы*: ХБ, 29.

**ХВАЛА** (9) *ж.* Гонар, слава. *Дый толькі знаць слава і хвала Недаўгавечнай бывае.* Кр, 77. *Не было, праўда, узнесеных на хвалу божу ні з камення, ні з дрэва святыняў небажычных і аўтараў, золатам набіваных..* Кз, 17.

Адз. Н. *хвала*: Кр, 77. Р. *хвалы*: Пт. В. *хвалу* (3): Кз, 17(3). Т. *хвалай* (3): Кр, 77; МД; Ф. М. *хвале*: Р.

**ХВАЛІЦЦА** (2) *незак.* Пахваляцца. *І давай* [гругуны] *паміж сабой Гутарыць, хваліцца: – Круму! Круму! Што за рай! Есьць чым пажывіцца!* Гр, 215. [Гануля]: *Незвычайныя вы* [Аленка і Янка] *людзі, калі яшчэ можаце сягоння хваліцца шчасцем.* Т, 53.

Інф. *хваліцца* (2): Гр, 215; Т, 53.

**ХВАЛІЦЬ** (3) *незак.* Выказваць адабрэнне, пахвалу каму-н., чаму-н. *Апрача таго, М.Кудзелька даў паэму "Босыя на вогнішчы", зьвярнуўшую на сябе ўвагу розных крытыкаў, якія падзяліліся на прыхільнікаў і няпрыхільнікаў паэмы – адны хваляць, а другія ганяць.* ВСп, 89.// Услаўляць. *Не зналі* [людзі] *змагаць грамадою прашкод І Бога хваліць грамадою..* ПН, 46. *Воля йдзе на зямлі А ўсё далей, далей, Сталін родны ў Крэмлі Перамогу хваліць.* ПД, 83.

Інф. *хваліць*: ПН, 46. Абв. цяп. адз. 3 ас. *хваліць*: ПД, 83. Мн. 3 ас. *хваляць*: ВСп, 89.

**[ХВАЛЮЮЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. да* хваляваць. *..на абедзе ў Прасценаўскай ратушы выступіла адна жанчына з хвалюючай прамовай.* ПЧ.

Адз. ж. Т. *хвалюючай*: ПЧ.

**[ХВАЛЯ]** (9) *ж.* 1. Вадзяны вал на рацэ, моры, возеры. *Вербы і вольхі калышуцца глуха, Сінія хвалі шумяць і бурляць.* Н. *Хто стрымае хвалі Мора-акіяна,. Хто стрымае голас Песні раскаванай?!* ППС, 231. // *У параўн. Шла мая ў даль дзіва-сіла, Як-бы хвалі Нёмну; На касе сваёй насіла Княжэцку карону.* Дз, 188.

2. *перан.* Узмоцнены рух, праяўленне чаго-н. *Тое, што*

*рабілася ў нас* [на Беларусі] *адкрыта ў годы да рэвалюцыі 1917 году, вылілася шырокай хваляй пасля гэтае рэвалюцыі.* МІ, 17. *Тыя думкі і летуценні, якія прабудзіліся ў нашым народзе ў часе расійскай рэвалюцыі (1905 г.), разліліся шырокаю хваляй па неабнятых абшарах нашага краю.* СНБ, 336.

Адз. Т. *хваляй* (3): МІ, 17; СД; СНБ, 336. Мн. Н. *хвалі* (2): Дз, 188; Н. Р. *хваль*: БрБ, 6. В. *хвалі* (2): ПСС, 231; СА, 180. М. *хвалях*: СК, 158.

**[ХВАЛЯВАННЕ]** *н.* Нервовае ўзбуджэнне, выкліканае пэўным адчуваннем. *Гэтую прыязнь да совецкае культуры, да нашае краіны, у якой народ Чэхаславакіі бачыць адзінага абаронца міру і цывілізацыі, мы* [савецкія дэлегаты] *з хваляваннем адчувалі на афіцыйных прыёмах ў магістратах..* ПЧ.

Адз. Т. *хваляваннем*: ПЧ.

**[ХВАЛЯВАЦЦА]** (2) *незак.* Выказваць незадаволенасць кім-н., пратэст супраць каго-н. *Так хваляваўся гмін народны, Пад высяй тэй, дзе я стаяў..* УрП, 47. // *перан. ..і ў гэты пэрыяд, хоць прыдушана але хвалявалася* [сацыяльная і нацыянальная барацьба за вызваленне]*, узбуралася ў імкненьнях і парывах працоўных мас..* АЛ.

Абв. пр. адз. м. *хваляваўся*: УрП, 47. ж. *хвалявалася*: АЛ.

**[ХВАРБОВАНЫ]** *дзеепрым. У знач. прым.* Хітры, падманны. *На хварбованых лісох даўно ўжо людзі пазналіся.* Тж, 16.

Мн. М. *хварбованых*: Тж, 16.

**[ХВАРОБА]** (3) *ж.* Парушэнне нармальнай жыццядзейнасці арганізма. *У часе гэтай маей* [Купалы] *хваробы шмат асоб аказалі мне папраўдзе братнюю помач і апеку.* ЛР. *Жылі* [людзі] *– як і дзе папала ў падвалах, халодныя і галодныя, нажывалі сабе сухоты і іншыя галодныя-халодныя хваробы і да самае смерці не складалі аружжа барацьбы за беларускую незалежнасць.* МІ, 17.

Адз. Р. *хваробы* (2): ЛР (2). Мн. В. *хваробы*: МІ, 17.

**[ХВАРОБЛІВЫ]** *прым. Разм., перан.* Які распаўсюджвае нешта нездаровае, хваравітае, заганнае. *Парываючы сам* [Купала] *катэгорычна і беспаваротна ідэйна і організацыйна з баларускім нацыянал-дэмократызмам, як з нейкай хваробліВай зданьню, якая палоніла мяне на працягу доўгіх год майго сьвядомага жыцьця, я шчыра жадаю, каб гэты мой горкі вопыт паслужыў навукай для тэй часткі беларускай інтэлігенцыі, якая яшчэ ня зусім вызвалілася ад нацыянал-дэмократычнага шалупіньня..* АЛ.

Адз. ж. Т. *хвароблівай*: АЛ.

**[ХВАТ]** *м. Разм.* Бойкі, спрытны чалавек. *Дый штось*

*зблышыла нагайка, Цягнуць к ўласцям Налівайку, Пратакол ідзе на хвата, На ваяку-дэпутата.* НД.

Адз. В. *хвата*: НД.

**[ХВАТАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* хватаць. Нграблены, нарабаваны, крадзены. *Засядаць, панаваць на хватаным багацьці Ня кідае* [другі сын] *за дзьверы надзеі..* Ч, 320.

Адз. н. М. *хватаным*: Ч, 320.

**[ХВАТАЦЬ]** *незак. Разм. Тое, што* хапаць *у 1 знач. Чаму яны* [людзі] *з такой упартасьцю дражняць народ і даводзяць яго да вар'яцтва, калі ён, страціўшы прытомнасць, хватае кій і пачынае біць усіх і кожнага, не разьбіраючы?* ДК.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *хватае*: ДК.

**[ХВАЦІЦЬ]** (2) *зак. Руск. Тое, што* хапаць. *Яны* [польскія і расійскія нацыяналісты], *як тые груганы, прывыклі ўжо клеваць быццам-то мёртвае цела нашаго народу і, убачыўшы, што гэты народ ажывае, спудзіліся, што ім пажывы не хваце!* ВР. *І перад тым, як сыйсці мне ў магілу, Колькі мне сілы і дум старых хваце, Я* [дзед] *пракляну іх* [паноў] *праклятую сілу..* Д, 73.

Абв. буд. адз. 3 ас. *хваце* (2): ВР; Д, 73.

**ХВІЛІНА** (14) *ж. Тое, што* мінута *ў 1 знач.* [Мікіта]: *(набок). Страшэнна, меджду протчым, адпаведная хвіліна, каб паўтарыць мамзэль Насце сваю адвечную пропозыцыю.* Т, 42. [Янка]: *Пакуль прыдзе* [татка], *можам хвіліну пасядзець.* Там жа, 35. // Пэўны, чым-н. прыкметны прамежак часу. [Гануля]: *Гэтая вайна ды бязладдзе, ці як там кажуць, рэволюцыя, пахавалі тыя хвіліны, калі людзі маглі думаць і аб падарунках.* Т, 20. *Параўн.* хвіля.

◊ **Да апошніх скону хвілін** *гл.* скон. **З хвіліну** – нядоўга, кароткі час. [Мікіта]: *Пагасцілі б, мадам-сіньёра і мусьі, яшчэ хоць з хвіліну!* Т, 38. **На хвіліну** (3) – на кароткі час, ненадоўга. [Наста]: *Ці няможна ад гэтых паноў дзе на хвіліну мне схавацца?* Т, 23. [Мікіта]: *А я папрашу пардону ў гасцей і на хвіліну адлучуся змяніць свой знадворны выгляд, згодна з самай навейшай, меджду протчым, політычнай сытуацыяй.* Там жа, 50. *Параўн.* на хвіліначку.

Адз. Н. *хвіліна*: Т, 42. В. *хвіліну* (7): ПЧ; Т, 23,32, 35, 38, 49, 50(2). Т. *хвілінай*: МСП, 187. Мн. Р. *хвілін* (3): МІ, 17; Т, 41, 50. В. *хвіліны*: Т, 20.

**[ХВІЛІНАЧКА]** *ж. Памянш.-ласк.* ◊ **На хвіліначку** – тое, што на хвіліну. [Мікіта]: *(Да праходзячага грамадзяніна). На хвіліначку, пане мусье! Хачу вам нешта запрапанаваць.* Т, 34.

Адз. В. *хвіліначку*: Т, 34.

**[ХВІЛЯ]** (3) *ж. Разм. Тое, што* хвіліна. *Праз хвілю варочаюцца* [Гануля і Мікіта]. Т, 50. *Па хвілі ўваходзяць Янка і Аленка.* Там жа, 34.

Адз. В. *хвілю*: Т, 50. М. *хвілі* (2): Т, 34, 39.

**[ХВІМІЯМ]** *м. Разм.*: ◊ **Хвіміямы курыць** *гл.* курыць.

Мн. В. *хвіміямы*: Кз, 17.

**[ХВОЙКА]** *ж. Памянш.-ласк. да* хвоя. – *Га, а цяперака што гаварыці?.. Ўсе мае* [Нёмана] *скарбы намарна ідуць: Жыта учора вывозілі віці, Родныя хвойкі сягоння плывуць.* Н.

Мн. Н. *хвойкі*: Н.

**[ХВОЙНЫ]** *прым.* Які зроблены з хвой. *Між гор шапталіся крыніцы, Ляпіўся мох да стрэх з драніц, Тарчэлі хвойныя капліцы, Цьвілі магілкі ля капліц.* УрП, 47.

Мн. Н. *хвойныя*: УрП, 47.

**[ХВОРЫ]** *прым. У знач. вык.* Які хварэе. *Сама* [бабуля] *ведае, што хвора, Што баляць ёй грудзі. Аддыхала-б лепей дома, Чымся пхнуцца ў людзі.* Вб, 237.

Кар. адз. ж. Н. *хвора*: Вб, 237.

**[ХВОСТ]** (3) *м.* Крайняя, канцавая частка чаго-н. [Янка]: *Такія сур'ёзныя* [вучоныя]*, пане совбур, як і сягонешні выгляд вашай хаты, асабліва гэтыя хвасты ад шпалераў ды абразы задам наперад.* Т, 48.

◊ **Прышпіліць хвост** *гл.* прышпіліць. **Цягнуцца ў хвасце** *гл.* цягнуцца.

Адз. В. *хвост*: Т, 44. М. *хвасьце*: СБНГ. Мн. Н. *хвасты*: Т, 48.

**[ХВОЯ]** (2) *ж.* Вечназялёнае дрэва з лісцем у выглядзе іголак; сасна. *Шумяць аб іх* [героях] *долі кашлатыя хвоі, Ды верас ружовы іх славіць паход.* ПБН. *Маўчаць урачыста лясы і курганы, Хаваючы былі пад шатамі хвой.* Там жа.

Мн. Н. *хвоі*: ПБН. Р. *хвой*: ПБН.

**[ХЕЎРА]** і **[ХЭЎРА]** (3) *ж. Пагардл.* Група людзей, якія аб'ядналіся для разбою, злачынства; банда. *ж. Пагардл.* Група людзей, якія аб'ядналіся для разбою, злачынства; банда. *Грозная народная армія крочыць Край свой ачысціць ад хэўры драпежнай.* Ф. *Спі, буравеснік, усмерчаны Горкі Хеўрай прадажніцкіх юдаў.* СЗГ, 252.

Адз. Р. *хэўры*: Ф. Т. *хэўрай*: Х; *хэўраю*: Ч, 325; *хеўрай*: СЗГ, 252.

**ХІБА** (8) *часц.* 1. Ужываецца ў пытальных сказах, якія выражаюць сумненне ў чым-н., недавер да чаго-н., здзіўленне чым-н. і па значэнні вельмі блізкія да слоў: "няўжо", "можа быць". [Янка]: *Раўнапраўе то раўнапраўе, але ж хіба яно вам*

[Мікіту] *не загадвае быць штодзень за нейкага саматужнага вазюра?* Т, 45. // Ужываецца ў рытарычным пытанні, якое заключае адмоўны адказ. *Хіба можа ён* [абываталь] *адважыцца на беларускую школу, калі беларушчына цэлымі соткамі год ганьбілася і выганялася адусюль, адкуль можна было?* ДК. *Ну хіба-ж гэта дэмократызм, скажэце на ласку Боскую?* Там жа.

2. Ужываецца для надання адцення абмежавання, дапушчэння, магчымасці чаго-н. [Мікіта]: *Медждy протчым, змалку дзён мяне цягнула да свабоды і гандлю.* [Янка]: *Хіба да свабоднага гандлю сумленнем і гонарам.* Т, 36. [Мікіта]: *(Да Абарванца). Выбачайце, я не таварыш, а, медждy протчым, буржуаз, а як вам хіба ведама – буржуазія нічым не жэртвуе.* Т, 43. ОШМ; ДК (2).

**ХІЛІЦЦА** *незак., перан.* Туліцца, гарнуцца да чаго-н. *Якжа можа беларускі народ хіліцца да Польшчы, калі ён бачыць у ёй таго самага пана, каторы праз вякі зьдзекаўся з яго і проці каторага ён падняў паустаньне у часе рэволюцыі.* ОШМ.

Інф. *хіліцца*: ОШМ.

**[ХІСТАЦЦА]** *незак., перан.* Быць у нерашучасці; вагацца. [Янка]: *Але яшчэ хістаемся* [беларусы] *то ўправа, то ўлева. Яшчэ ясна азначанай мэты не можам сабе ўявіць.* Т, 35.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *хістаемся*: Т, 35.

**ХІСТАЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* хістацца. *перан.* Мяняючыся. *Хай час ідзе, хістаючыся ў дыме, І хай ляжыць стары ў абломках сьвет..* ВБЛ, 81.

**ХІТРА** (2) *прысл.* 1. Вынаходліва, умела. *Так хітра прыкрываючы эксплуататарства, Баця закабальвае рабочых і сістэмай сваіх сталовых, магазінаў, рабочых кватэр.* ПЧ.

2. Няпроста, складана. [Гарошка]: *І чамярыца яго ведае, як гэта неяк хітра на свеце ўстроена!* Т, 44.

**[ХІТРЫ]** *прым.* Каварны, вераломны. *Сьвет там выдумкі хітрые знае – Троны, кароны, вісельні, кулі, – Выдумаць гэта мы* [беларусы] *ў сваім краі Неяк мінулі.* Пп, 161.

Мн. В. *хітрые*: Пп, 161.

**ХІ-ХІ** (2) *выкл.* Ужываецца для выражэння смеху спадцішка або тонкім голасам. *Хі-хі! пасмяхаецца польскі пан-абшарнік, седзячы на беларускай зямлі. Хі-хі! – паблажліва ён хлопае вам па плячу: Што-ж ваша беларускае усе добрае, усе нават шаную, але толькі месцо яму – у ... "kredensie".* З.

**[ХІХІКАЦЬ]** (3) *незак.* Спадцішка або ціха смяяцца. *Хіхікаюць дурні, хіхікаюць нягодные.* З.

◊ **Хіхікаць з-за вугла** – насміхацца спадцішка. *..хіхікае* [забабон] *з-за вугла і ў вочы, строіць жарты, – над кім? Над жывым старасьвецкім народам...* З. **Хіхікаць у вочы** – насміхацца адкрыта. *..хіхікае* [забабон]*з-за вугла і ў вочы, строіць жарты, – над кім? Над жывым старасьвецкім народам...* З.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *хіхікае*: З. Мн. 3 ас. *хіхікаюць* (2): З (2).

**ХЛАПЕЦ** *гл.* **ХЛОПЕЦ**.

**ХЛАПЧУК** (2) *м. Тое, што* хлопец. *Спужаўся, што хлапчук ў лапцёх, Напаўадзеты вёскі сын, У роднай мове ўчыцца змог?.. О,стыдна, рускі “гражданин”!* АПЖ. *Імя тваё* [Сталіна] *ўспамінае ўрачыста Хлапчук, які лётаць наважыў.* СС, 301.

Адз. Н. *хлапчук* (2): АПЖ; СС, 301.

**ХЛЕБ** (22) *м.* Прадукт харчавання, які выпякаецца з мукі. *Бо не зачынялі нашы прашчуры весніцаў і дзвярэй хат сваіх перад званым і нязваным госцем падарожным; ..а яшчэ астаўлялі ў хатах пад абрусамі бохана пшанічнага..* Кз, 17. *Хай хлеба нашага кусок распаленым жалезам Абернецца у варагавым горле крывасмочым..* ПНд, 314.

2. Пажытак. *Супрацоўнікі зірнулі на мяне з нейкай літасцяй, як бы хацелі даць мне капейку на хлеб.* Ан, 19.

3. *Разм., перан.* Сродкі для існавання, заробак. *Рос і гадаваўся у бядзе, без хлеба Сулейман гаротны, наш пясняр улады.* ПСС, 231. // Міластыня. *Гэта ўсё ўпаі дзіцяці З малаком сваіх грудзей, Бо іначай пойдзеш, маці, Жабраваць хлеб у людзей.* М, 20. *Супраціўны скрозь мучыць павеў, Як за хлебам пашоў да людзей.* ЧС, 50–51.

Д **Камень-хлеб** *гл.* камень. **Хлеб-соль**: *Паважна старыя вітаюць наркома, Падносяць хлеб-соль, караваі і мёд.* НДп, 229.

◊ **Вітаць і соллю, і хлебам (хлебам-соляй)** *гл.* вітаць. **Конскі хлеб** – праца, якая патрабуе вялікіх намаганняў, цяжкая фізічная праца. [Гарошка]: *Мусіць, яны* [Мікіта] *пазайздросцілі конскаму хлебу.* Т, 45. **“Лёгкі” хлеб** (*іран.*) – пра лёгкую працу, без турбот, клопатаў, без напружання сіл. *Кінуў* [Купала] *усё і пайшоў шукаць “лёгкага” хлеба. Гэтак праслужыў тры гады ў броварах чорнарабочым.* А, 328. **На казённы хлеб садзіць** *гл.* садзіць. **Прыняць хлебам і соллю** *гл.* прыняць. **Хлеб на стале** – поўны дастатак.*Хай-жэ дома знойдуць* [браты і сыны] *ўсё ў парадку – неапушчэную хату, хлеб на стале.* РКр. **Хлеб свой ад’есці** *гл.* ад’есці.

Адз. Н. *хлеб*: НГ. Р. *хлеба* (6): А, 328; БЗ; ВСп, 90; Кз, 17; ПНд, 314; ПСС, 231. Д. *хлебу*: Т, 45. В. *хлеб* (7): А, 19; М, 20; НДп, 229; РКр; Т, 21; Ун, 73; УрП, 52. Т. *хлебам* (6): ЗЯЗ, 90; ССА, 293; ТП, 213; Ч, 321; Чж, 146; ЧС, 50-51. М. *хлебе*: ПВ.

**[ХЛЕБАРОБ]** (2) *м.*: Д **Беларус – хлебароб** *гл.* беларус.

Адз. Р. *хлебароба*: ДД. Мн. В. *хлебаробаў*: ЗС, 18.

**[ХЛЁБАЦЬ]** *незак.*: ◊ **Хлёбаць з адной міскі страву** *(неадабр.)* – мець агульныя інтарэсы. *Пятакоў і Радэк, Троцкі – ўся арава – Хлёбалі, зладзюгі, З адной міскі страву.* МПв, 218.

Абв. пр. мн. *хлёбалі*: МПв, 218.

**[ХЛОПАЦЬ]** *незак. Разм.* Злёгку стукаць па чым-н. – *Хі-хі! – паблажліва ён* [польскі пан-абшарнік] *хлопае вам па плячу: Што-ж ваша беларускае усе добрае, усе нават шаную, але толькі месцо яму – у ... "kredensie".* З.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *хлопае*: З.

**ХЛОПАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* хлопаць. Стукаючы. [Мікіта]: *..маё праўдзівае прызванне вось у гэтым (хлопаючы па партфелях): паперы, паперы й паперы.* Т, 46.

**ХЛОПЕЦ** (5) і *разм.* **[ХЛАПЕЦ]** *м.* Малады чалавек, юнак. *Рэдактар закашляўся, пасля кажа: – Будзеш атрымліваць, хлопец, па 4 S капейкі ад радка.* Ан, 19. *Каханне хлапца і дзяўчыны дасягае свайго апагею толькі калі яны даразумеюцца набыць чаравікі бацяўскага вырабу...* ПЧ. // Сын. [Гануля]: *Гэткім ладам недастачы вялікай не цярпелі, ды нават хлопца свайго праз усялякія навукі да чыноўніцтва давялі.* Т, 20.

Д **Хлопец-адзінотка**: *Хто там стогне на ўзьмежку, На капцы у полі?! .. Ці над бацькаўскай магілай Жаліць сіротка, Ці сваей шукае мілай Хлопец-адзінотка?* Дз, 187.

Адз. Н. *хлопец* (4): Ан, 19(3); Дз, 187. Р. *хлапца*: ПЧ. В. *хлопца*: Т, 20.

**ХЛОПЧЫК** (5) *м.* Дзіця або падлетак мужчынскага полу. *Мой мілы таварыш, мой лётчык, Вазьмі мяне ўрэшце з сабой, Цяпер не малы я ўжо хлопчык – Сам-раз ляцець разам у бой.* ХЛВ, 315. *У кажусе і ў куртцы новай Сінявокі хлопчык кадэт Ў канаве злажыў пад Растовам За цара свае дзевяць лет.* ВБЛ, 81.

• **Хлопчык і лётчык на вайне.**

Адз. Н. *хлопчык* (4): ВБЛ, 81; ХЛВ, 315(2), 316. Т. *хлопчыкам*: ПС.

**ХЛУСЬЛІВА** *прысл.* Падманліва. *..прыкрываючыся хлусьліва заслонай фальшывых крывадушных дэкляацый і запэўненьнем, праводзілі* [беларускія нацыянал-дэмакраты] *свае шкодніцкія нацыянал-дэмакратычныя ідэі на культурным фронце.* АЛ.

**[ХЛЫНУЎШЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* хлынуць. Накіраваны куды-н. (пра людзей). *Паказала гэта і цяперашняя вайна, тыя сотні уцекачоў, хлынуўшыя, як адкрылася граніца, з халодных раўнін Расіі ў свой родны край.* ЗС, 18.

Мн. Н. *хлынуўшыя*: ЗС, 18.

**[ХЛЫНУЦЬ]** *зак., перан.* Раптам з’явіцца, узнікнуць (пра думкі). *Дай волю парывам гарачым, Вясёлым, прывабным, як сонейка жар,.. Каб хлынула полымя праўды з грудзей, Што ў думках здаўна мы гадуем..* Пр.

Абв. пр. адз. н. *хлынула*: Пр.

**ХМАРА** (10) *ж.* Вялікае цёмнае пераднавальнічнае воблака. *Хоць за хмараю хмара плыве чарадой Сільней хмар – гэта сонца агні.* ХХ. *Дзе хмары чэзьлі, то зноў вісьлі, З-пад зор, з-пад блудных сьветачоў Ні вокам людзкім ані мысьляй Нязгадны цень ка мне зышоў.* УрП, 46. *Параўн.* хмура.

• **Хоць за хмараю хмара.**

Адз. Н. *хмара* (3): ХХ (3). Т. *хмараю* (3): ХХ (3). Мн. Н. *хмары* (3): Н; УрП, 46, 47. Р. *хмар*: ХХ.

**[ХМЕЛЬ]** *м.* Павойная расліна сямейства тутавых. *Сеюць* [сяляне] *пераважна хмель і ячмень для вырабу славутага пільзенскага піва.* ПЧ.

Адз. В. *хмель*: ПЧ.

**ХМУРА** *ж. Польск. Тое, што* хмара. *У параўн. Мах за крокам крок! Войска йдзе ў паход, Быццам тая хмура.* ВБ.

Адз. Н. *хмура*: ВБ.

**ХНЫКАЦЬ** *незак.* Жаласна плакаць. *Будзь весел, кінь хныкаць, Ўпіцца кроўю сваёй не спадзейся!* См, 90.

Інф. *хныкаць*: См, 90.

**[ХОД]** (10) *м.* 1. Шлях. [Спраўнік]: *Вораг не спіць і ўжо блізка: можа адрэзаць усе ходы для адступлення.* Т, 38.

2. *перан.* Развіццё, цячэнне чаго-н. *Стаім мы парад будучыняй нашай І ўсё варожым, сочым ейны ход..* Бч, 9. *Але рэволюцыя зьмяла у сваім ходзе цара, паняслісяў сьвет новые воклікі будаваньня новага незалежнага жыцьця усім народам.* БС.

Д **Ход-выхад**: *З ходу-выхаду выйсці адна ў іх* [сыноў] *надзея: Каб саміх адалеці і сьвет адалеці.* Ч, 321.

◊ **Даць ход** *гл.* даць. **Не даць ходу** *гл.* даць. **Пускацца ў ход** *гл.* пускацца. **Пускаць у ход** *гл.* пускаць. **Пусціць чарачку у ход** *гл.* пусьціць. **У ход пушчаны** *гл.* пушчаны.

Адз. Р. *ходу* (2): НК; Ч, 321. В. *ход* (6): АЛ (2); Б, 18; Бч, 9; Кц, 182; $Ш_1$. М. *ходзе*: БС. Мн. В. *ходы*: Т, 38.

**ХОДЗЯЧЫ** *дзеепрысл. да* хадзіць *у 1 знач.* [Ганулю]: *(ходзячы па хаце і ломячы рукі). Матачкі мае родныя, бацечкі мае хрышчоныя! Што гэта робіцца?* Т, 33.

**ХОДКІ** *прым.* Які мае вялікі попыт (пра тавар). *Колю знаю па хадзе я – Вось к вакенцу падышоў. Мы* [дзяўчаты] *цяпер тавар ня ходкі – Збыт на дзецюкоў пашоў.* ВБЛ, 82.

Адз. м. Н. *ходкі*: ВБЛ, 82.

**[ХОЛАД]** (3) *м.* Нізкая тэмпература навакольнага асяроддзя. *У хаце было сорак градусаў холаду..* Ан, 19. *Хай-жа гэта прыказка і тут сябе пакажэ, каб у супольнай згодзе забяспечыць сябе ад голаду і холаду.* ВС.

◊ **У холад кінуць** *гл.* кінуць.

Адз. Р. *холаду* (2): Ан, 19; ВС. В. *холад*: Ан, 19.

**ХОР** (3) *м.* Група, калектыў спевакоў. *Хор Тэраўскага у Менску пяе песьню: "Працуй, беларусе..." і так сама называе гэта гымнам.* СБНГ. *Хор запеяў нейкую песьню – якая азначана на афішах: "беларускі гымн".* Там жа.

Адз. Н. *хор* (3): СБНГ (3).

**ХОРАМ** (4) і **ХАРОМ** *м. Тое што* палац *у 1 знач. Між такімі палямі – намесь – пры ручаю, На ўзгорку невялікім, у бярозавым гаі, Сьвяціў шляхецкі хорам, кругом дзеравяны Ды на падмураваньні, – увесь пабяляны..* ХБ, 28. *..не разумелі* [заезджыя госці], *як гэта можна заместа аднаго мець некалькі багоў і не мець багатых харомаў, збудаваных у чэсць і хвалу Бога свайго.* Кз, 17.

Д **Хорам-сталіца**: *Ні далёка, ні блізка, ні ў полі, ні ў лесе Важны ўзносіўся хорам-сталіца..* Ч, 321.

Адз. Н. *хорам* (2): ХБ, 28; Ч, 321. М. *хораме*: Ч, 322. Мн. Р. *харомаў*: Кз, 17. В. *харомы*: Чж, 147.

**ХОРАША** (2) *прысл. Разм., іран.* Добра. *Гляньце-ж бо, добрые людзі, як на Беларусі усе добра, хораша і дэмократычна!* ДК. *Усё гэта хораша, дэмократычна і добра, – асабліва, калі расказаць людзям.* Там жа.

**[ХОЎ]** *м. Разм. Тое, што* схоў *у 1 знач. Пух і аўчынкі нашага хову Грэлі зімою, Птушкі вам* [чужым людзям] *гралі з нашай дубровы Гымны вясною.* Чж, 146.

Адз. Р. *хову*: Чж, 146.

**ХОЦЬ[1]** (39) *злучн.* 1. *уступальны.* Пры дадаными уступальных сказах выступае са значэннем: "нягледзячы на". *Сьцяг ваш* [Жыдоў] *і нашая* [беларуская] *паходня будуць жыць, Хоць наш магільнік кветкай апрануўся, Хоць згубны мор над намі гібеляй імжыць!* Ж. *Хоць сохі, хоць косы гуляюць там ройна – Ня поймеш аткуль узялісь* [курганы].. ЗК, 42. // Далучае ўступальныя звароты. *Рухне старое, хоць крэпкае з віду, Яснае, вольнае створым жыцьцё.* Г, 17. *Мы, так сама, людзі ня кепскія, – хоць і дэмократы ды яшчэ й соцыялісты.* ДК. // Ужываецца ў простых сказах перад групай слоў з уступальным значэннем. *Вушы* [дзеда] *хоць слабы, а ўловяць іх* [вызваліцеляў] *імя.* Д, 72. [Аленка]: *Хоць яны і вучоныя і тутэйшыя, а ўсё ж такі надта смешныя.* Т, 48.

2. *супрацiўны.* Указвае на супярэчнасць паведамленняў, набліжаючыся па значэнню да “але”, “аднак”. [Начальнік]: *..усё гэта таксама для нас добрыя паперы, хоць для вас* [Мікіты]*, можа, і дрэнныя паперы.* Т, 62. *Першы* [склад] *– муж вучоны, важны; Носіць чын такі не кажны, Хоць папросту на наш лік Ён ня больш як чараўнік.* $Ш_4$.

• **Хоць за хмараю хмара...**

АБ, 16; АЛ; Б, 18(2); БВ, 16; БС; Бч, 9; ВС; Дз, 190; ДК; Ж (2); ЗК, 42; Кц, 193; НГ; ПЛП; Пп, 5(2); См, 91; СНБ, 340; Т, 19, 37, 45; УрП, 47; ХХ; Ч, 320(2); $Ш_1$; $Ш_3$.

**ХОЦЬ²** (40) *часц.* 1. *узмацняльная.* Ужываецца са значэннем: нават, няхай нават. *Думкі бабскія ў мяне ўсё адны: Хайбы хоць і ад дурняў, ды сыны..* ВБЛ, 83. *Той, хто волю занядбае, Хоць у золаце хай сьпіць, Хоць царэўну хай кахае, – А ня будзе ў шчасьці жыць.* КЧ.

2. *узмацняльна-вылучальная.* Ужываецца са значэннем: ва ўсякім выпадку, самае меншае. [Гануля]: *Але за тое татка твой* [Аленкі] *хоць свету пабачыць – пад старасць будзе мець што ўнукам расказваць.* Т, 54. *О Божа! ты хоць заступіся Й ня дай да рэшты нам* [беларусам] *сканаць1* РС, 40.

3. *узмацняльна-абмежавальная.* Ужываецца са значэннем: нічога больш, усяго толькі. [Мікіта]: *Пагасцілі б, мадам-сіньёра і мусьі, яшчэ хоць з хвіліну!..* Т, 38. *Дзе прасвету хоць цень – бледны цень?* ЧС, 50–51.

4. *вылучальная.* Ужываецца са значэннем: напрыклад, да прыкладу. *Узяць хоць бы бураў: цэлы год гэты маленькі народ мучыў сваім жаданнем незалежнасці вялікую Англію.* НДН, 18. [Наста]: *Узяць хоць бы тое: хто калі да рэволюцыі ў Менску лузаў семечкі? – ніхто!* Т, 28.

◊ **Хоць бы што** *гл.* што¹.

АБ,16(2); Ан, 19; БВ, 16; ГНД; ДД (2); Дз, 189; КЧ (2); ЛР; НДН, 18; Нз, 14; Пр; ПЧ; См, 91; СНБ; Т, 19, 20(3), 23, 28, 30, 34(2), 36(2), 40, 48; ХБ, 28, 30.

**[ХРАМ]** *м.* Будынак для богаслужэння, царква. *..роўныя сосны стаяць бы колённы гішпанскага храма.* ХБ, 29.

Адз. Р. *храма*: ХБ, 29.

**[ХРАНІТЬ]** *незак. Руск.* Ахоўваць, засцерагаць. [Поп]: *Да храніт іх* [Даму, Спраўніка, Пана] *в странствіі мацер неопалімыя купіны і мацер крупіцкая!* Т, 38.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *храніт*: Т, 38.

**[ХРАП]** *м.* Хрыпенне, хрып. *Сьмейся сьмехам-хрыпеньнем быдляці З перарэзаным горлам і грэйся Ў гэтым храпе скрозь стогн і пракляцьце..* См, 91.

Адз. М. *храпе:* См, 91.

**[ХРЫПЕНЬНЕ]** *н.*: Д **Сьмех-хрыпеньне** *гл.* сьмех.

Адз. Т. *хрыпеньнем*: См, 91.

**[ХРЫСТАПРАДАВЕЦ]** *м. Уст.* Прадажнік, здраднік; юда. *Жыды! “Хрыстапрадаўцы і прыблуды”! О, слава вам, ўсебеларускія Жыды!* Ж.

Мн. Н. *хрыстапрадаўцы*: Ж.

**ХРЫСЦІЯНІН**, **[ХРЫСЬЦІЯНІН]** і *разм.* **[ХРЫСЦЯНІН]** *м.* Паслядоўнік хрысціянскай рэлігіі. *Я* [пан Кавалюк] *хрысціянін, не паганін, Стварыў вобчаства “Крестьянин”.* ЛПК. *Хіба можна вымагаць каб турэцкі янычар падау голас за хрысьціяніна, калі яго навучылі ненавідзець хрысьціянства?* ДК. *Дарма “истинен” “Крестьянин”, Штось чураюцца хрысцяне.* ЛПК.

Адз. Н. *хрысціянін*: ЛПК. Р. *хрысьціяніна*: ДК. Мн. Н. *хрысцяне*: ЛПК.

**ХРЫСЦЯЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* хрысціцца. Робячы знак крыжа. [Гарошка]: *(хрысцячыся). Што вы, сваценйка?! Я – і такія важныя асобы ... яшчэ з лаўкі звалюся з перапуду.* Т, 27.

**[ХРЫСЬЦІЯНСКІ]** *прым.* Уласцівы хрысціяніну. *Тут рада адна: трэба адцяць доугіе рукі турка, каб ня псаваў ен хрысьціянскіх дзяцей..* ДК.

Мн. В. *хрысьціянскіх*: ДК.

**[ХРЫСЬЦІЯНСТВА]** *н.* Рэлігія, у аснове якой ляжыць культ Ісуса Хрыста. *Хіба можна вымагаць, каб турэцкі янычар падау голас за хрысьціяніна, калі яго навучылі ненавідзець хрысьціянства?* ДК.

Адз. В. *хрысьціянства*: ДК.

**[ХРЫШЧОНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* хрысціць: ◊ **Бацечкі мае хрышчоныя** *гл.* бацечка.

Мн. Н. *хрышчоныя*: Т, 33.

**ХТО** (138) *займ.* 1. Выражае пытанне: які чалавек? Хто? *Хто там стогне так на ўзьмежжу, На капцы у полі?* Дз, 187. [Мікіта]: *Меджду протчым, што вы* [Гарошка] *тут, дабрадзею, робіце з пугай: пасвіце каго?* Т, 37. // У пытанні аб асобе, указанай у дадзеным сказе ў значэнні “што сабой уяўляе дадзеная асоба”. [Янка]: *Праўдзівая Пабягунская. Хто яна такая?* Т, 23. // У рытарычным пытанні ў значэнні “ніхто”. *Хто стрымае хвалі Мора-акіяна, Хто стрымае голас Песні раскаванай?!* ПСС, 231. *Граб зусім звычайнае дрэва ў лясох, гдзе мясцовасьць больш вільготная, а хто бачыў яго пад Масквою?* ХБ, 29. // У рытарычным пытанні пры адмаўленні ў значэнні “любы”, “кожны”. *Хто, прыкладам ня ведае клясычнага апісання хараства нашага краю А.Міцкевіча ў яго*

*несьмяротнай паэме "Пан Тадэвуш"?* ХБ, 27. // У эмацыянальным пытанні, якое перадае абурэнне наконт чаго-н. *..хіхікае* [забабон] *з-за вугла і у вочы, строіць жарты, – над кім? Над жывым старасьвецкім народам...* З. // Ужываецца ў пытальна-клічных сказах для перадачы здзіўлення, радасці ў сувязі з нечаканым чыім-н. паяўленнем. [Мікіта]: *Каго я бачу, меджду протчым. Якое мілае, неспадзяванае спатканне!* Т, 37. [Мікіта]: *Ах! Каго я, меджду протчым, бачу? Мадам-сіньёра! – цалую ручкі.* Там жа, 51.

2. Ужываецца ў значэнні ўказальнага займенніка той. *Дык вось хто, бадай, быў маім* [Купалы] *першым настаўнікам, хутчэй натхніцелем у дачыненні да маёй паэтычнай творчасці.* ПС.

3. *неазначальн. Разм.* Хто-небудзь, нехта, хтосьці. *А быў тут* [на пустцы] *хто, або ня быў, – І так і гэтак мала веры.* Кц, 197. [Гануля]: *А ні на іголачку* [не прадала]. *Як хто зачараваў.* Т, 34.

4. Падпарадкоўвае даданыя дапаўняльныя сказы. *Калі цёмные дагэтуль сяляне нашы .. зразумелі, хто яны такіе, і сталі голасна казаць, што яны – беларусы, – заварушыліся тады і польскіе, і расейскіе націоналісты.* ВР. *Тры браты, што пуці чараўнік тры адмерыў, Захацелі знаць, хто ім што зрэпіў..* Ч, 322.

5. *адносны.* Падпарадкоўвае даданыя дзейнікавыя сказы (пераважна пры наяўнасці ў галоўным сказе суадноснага слова "той"). *Той, хто волю занядбае, Хоць у золаце хай спіць, Хоць царэўну хай кахае, – А ня будзе ў шчасьці жыць.* КЧ. *Той, хто разумее, дзе жыве; хто слухае голасу жыцьця і не змагаецца з ім, хто не перашкаджае інтарэсам свае бацькаўшчыны і жадае лепшай долі сваей мацеры – Беларусі, – той пойдзе за беларусамі.* ВМР.

6. *адносны.* Падпарадкоўвае даданыя азначальныя сказы; па значэнню адпавядае слову "каторы". *Пайшлі прыдбаць сабе вы* [Жыды] *чэсьць, выгоду Да сільных тых, хто даў вам вісельню і чын!* Ж. *Сягодня кожны, каму не атуманіла расійская і польская рэакцыя мазгоў, адчуе і разумее, які шырокі размах прыняла наша справа над адбудаваннем сваёй бацькаўшчыны!* МІ, 17.

7. Ужываецца са значэннем размеркавання пры супастаўленні. *Хто йшоў ззаду, а хто з боку.* ПСД.

• **Хто к лесу, а хто к бесу.**

◊ **Хто б (то) ні быў** – усё роўна хто, любы. *..залежнасць дзяржаўная, ад каго б ні было, бокам залежнаму народу вылазе.* Нз, 15. **Хто яго разбярэ** – ніхто не ведае, невядома.

[Ганулям]: *Хто яго* [Гізульскага] *разбярэ, з кім і з чым ён там знаёмы.* Т, 45.

Адз. Н. *хто* (110): Б, 18; В; ВБ; ВМР (6); ВН (3); ВР (2); ВС; ГВУ (2); ДД; ДЖ (4); Дз, 187(2), 191; Ж; ЖН; ЗС, 17, 18; К (6); Кз, 17; Кц, 197; КЧ (3); МП; НГд, 8; НДп, 229; НК; ОШМ; ПС; ПСД (2); ПСС, 231(2); ПТ (2); ПЧ; РКр; СА, 178(2), 179, 180; СБНГ; СД (2); СП; Т, 20, 21, 22(2), 23, 27, 28, 29, 30, 31, 34(3), 35, 45, 46, 51, 54(2), 57, 58(2), 60, 61(2); ТП, 213(3), 214(2), 215(3), 216(2), 217(2); УПУВ; УрП, 51; ХБ, 28; ХЛБ (2); Ч, 319(3), 322, 323(2). Р. *каго* (14): БВ, 16; ГВУ; ЗС, 17; Нз, 15; НК; ПЛП; РКр; Т, 25, 29(2), 37(2), 51, 60. Д. *каму* (10): Б, 18; ЗС, 18; МІ, 17; РКр; СНБ; Т, 21(2), 44, 54; ХБ, 28. Т. *кім* (4): ВБЛ, 80; З; Т, 24; Ч, 323.

**ХТО-НІБУДЗЬ** *займ. неазначальны. Разм.* Хто-небудзь. *І праўда, вечна хто-нібудзь і як-нібудзь, а прыходзіў і намі* [беларусамі] *апекаўся, хоць нашага ліха і не забіраў.* БС.

Адз. Н. *хто-нібудзь*: БС.

**ХТОСЬ** (4) *займ. неазначальны. Тое, што* хтосьці *ў 1 знач. ..мы* [беларусы] *.. стараліся сабе угаварыць, што так і трэба, каб хтось панавау, а часта казалі, што гэта так Бог дау.* БС. *А хтось далёкі ці хтось, можа, блізкі Засеў за наш бяседны, сытны стол І кідае, як з ласкі, нам* [беларусам] *агрызкі..* Бч, 9.

Адз. Н. *хтось* (4): Бч (2); БС; Чж, 147.

**[ХТОСЬЦІ]** *займ. неазначальны.* Невядома які чалавек; нехта. *Я мець ад кагосьці І штосьці прывык..* МК. *Параўн.* хтось.

Адз. Р. *кагосьці*: МК.

**[ХУДЫ]** *прым.* З тонкім, сухарлявым целам. *..А як ішоў* [1-ы ганец] *між іх* [людзей] *з сьвятлом, Яны пачулі, ах пачулі: Сьляпым заморэные сном, Худые рукі ў высь цягнулі.* Кц, 194.

Мн. В. *худые*: Кц, 194.

**[ХУНХУЗ]** (3) *м. Гіст.* Удзельнік шайкі бандытаў у Кітаі. *Як началося адступленне рускаго войска, следам за японскими салдатами набегли хунхузы и начали палиць афицэрския кватэры.* ПДз. *У гэтай страшнай калачэчы дзеўчынка згубилася и папала пад хунхузоў.* Там жа.

Мн. Н. *хунхузы*: ПДз. Р. *хунхузоў* (2): ПДз (2).

**[ХУСТАЧКА]** (3) *ж. Памянш.-ласк. да* хустка. *Высыпаў* [паніч] *ягады, збіў, клікнуў варту, Хустачку здзёр мне* [маці] *і кофтачку, злодзей.* Мц, 75. *Мікіта чапляе чырвоную хустачку на канец парасона і вывешвае праз ваконную фортачку.* Т, 59.

Адз. В. *хустачку* (3): Мц, 75; Т, 43, 59.

**[ХУСТКА]** *ж.* Кусок тканіны ці вязанага палатна, што завязваецца на галаву. [*Мікіта*]: *(..махае каля галавы парасонам з хусткай і крычыць). Хай жывуць свабодныя профэсіі!* Т, 43.

Адз. Т. *хусткай*: Т, 43.

**ХУТКА** (6) *прысл. да* хуткі. Праз невялікі адрэзак часу; скора, неўзабаве. [Мікіта]: *(Да Янкі і Аленкі). З вамі яшчэ пабачуся – вярнуся хутка.* Т, 56. *Хутка жаўранак песьняй сваей галасістаю Прывітае аратых на полі.* ТС, 74. ВСп, 90; ДК; ПСп; Т, 27.

**[ХУТКІ]** *прым.*: ◊ **У хуткім часе** *гл.* час.

Адз. м. М. *хуткім*: БВ, 16.

**ХУТЧЭЙ** (11) *прысл. Пар. ст. да* хутка. 1. Шпарчэй, паспешней, быстрэй. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, кіньце абразы і прыце хутчэй па портфэлі, што летась схавалі.* Т, 59. [Наста]: *Вывешвайце хутчэй праз акно чырвоны сцяг.*Там жа, 59.

2. *У знач. пабочн.* Вярней, правільней. *Дык вось хто, бадай, быў маім* [Купалы] *першым настаўнікам, хутчэй натхніцелем у дачыненні да маёй паэтычнай творчасці.* ПС. ВР; Т, 31, 39, 50, 52, 59(2); ХЛВ, 315.

**ХЦІВА** *прысл. да* хцівы. Прагна, сквапна. *І хціва мерыць* [абываталь] *шаль перад трумо Пры цьмяным бліску дымлівых капцілак.* ВБЛ, 81.

**[ХЦІВАСЦЬ]** *ж.* Сквапнасць, карыслівасць. *На пахаванні я* [Купала] *пазнаў усю хцівасць ксяндзоў..* А, 328.

Адз. В. *хцівасць*: А, 328.

**[ХЭРУВІМСКІ]** *прым. Разм., перан.* Анёльскі; вельмі лагодны, далікатны. [Мікіта]: *Ды ўсё аб тым самым, меджду протчым, хэрувімская мамзэль Наста: аб вас мае думы ўпалі ў глыбокую задуму.* Т, 42.

Адз. ж. Н. *хэрувімская*: Т, 42.

**ХЭЎРА** *гл.* **ХЕЎРА.**

**ХЭ-ХЭ-ХЭ** (10) і **ХЭ-ХЭ** (2) *выкл.* Ужываецца гукапераймальна для абазначэння нямоцнага смеху з адценнем жартаўлівасці, іроніі. [Мікіта]: *Вось той хэ-хэ-хэ! беларус, аб якім я вам* [вучоным] *казаў.* Т, 26. [Мікіта]: *Меджду протчым, вы* [Янка] *напамыкаеце, сябра беларус, каб я стаў не на свой, а на ваш – беларускі, хэ-хэ-хэ! грунт.* Там жа, 48. // З адценнем насмешкі, пагарды. – *Хэ-хэ! – патурае яму* [польскаму панускабшарніку] *расійскі чыноўнік .. – хэ-хэ – віляе ён: .. калі так хочаце – можа і вам* [беларусам] *даць правы, але толькі у ... сенях.* З. Т, 21(2), 23(2), 24, 26, 31.

# Ц

**ЦАЛАВАЦІ** *гл.* **ЦАЛАВАЦЬ**.

**[ЦАЛАВАЦЦА]** *незак. Іран., перан.* Знацца. ..[Антанта] *цалуецца з Леніным..* Ан, 19.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *цалуецца*: Ан, 19.

**[ЦАЛАВАЦЬ]** (3) і *разм.* **ЦАЛАВАЦІ** *незак.* Дакранацца вуснамі да каго-, чаго-н. *А калісь мусіў паганую руку – Парабак я – цалаваці з пакорай.* Бц, 74.

◊ **Цалаваць ручкі** (3) – ужываецца мужчанамі як прывітанне пры сустрэчы з жанчынай. [Мікіта]: *Ах! Каго я, меджду протчым, бачу! Мадам-сіньёра! – цалую ручкі.* Т, 51. [Мікіта]: *Каго я бачу, меджду протчым. Цалую ручкі мадам-сіньёры! Айцу духоўнаму маё сыноўняе упакарэнне!* Там жа, 37.

Інф. *цалаваці*: Бц, 74. Абв. цяп. адз. 1 ас. *цалую* (3): Т, 37, 51, 58.

**ЦАЛКАМ** (2) *прысл.* Поўнасцю, не па частках. *Насяленне голасна пачынае шкадаваць немцаў, бальшавікоў і Расію цалкам.* ОШМ. *Вось і выходзе, ўто трэба Беларусь выкінуць з гісторыі, з геаграфіі, і наагул калі не цалкам прылучыць яе к адной з суседніх дзяржаў..* Нз, 14. *Параўн.* агулам, цалкем.

**ЦАЛКЕМ** *прысл. Польск. Тое, што* цалкам. [Заходні вучоны]: *..зостало высветлёным, іж данэ тэрыторыум вхланя в себе цалкем провінцыен Мінскей Брэхалкі і ешчэ далей...* Т, 39.

**ЦАЛУЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* цалавацца. Цалуючы адзін аднаго. – *Ух-ці! бармоча* [беларускі дзяк], *цалуючыся з сялянамі сваей вескі, – які не развіты народ вы, мужыкі!* З.

**ЦАНА** (6) *ж.* 1. Грашовае выражэнне вартасці тавару. *Аб гэтай цане ані снім мы сягоння: Станела ўсё – душы і цуды.* Р. *Прадаецца ўсё гэта па спекуляцыйных цэнах.* ЗС, 18.

2. *перан.* Вартасць. *Годзе заходняй ці ўсходняй культуры! Для беларуса цана ім адна..* Г, 16. *Што мы сваім стараньнем*

*зробім – тое толькі будзе мецъ для нас вагу і цану.* ВС.

Адз. Н. *цана*: Г, 16. В. *цану*: ВС. М. *цане* (3): МПв, 218(2); Р. Мн. М. *цэнах*: ЗС, 18.

**ЦАНІЦЬ** (2) *незак.* Прызнаваць вартасць, высокія якасці. *Але – ці-ж гэта праўда, што ў нас няма людзей ведаючых і ўмеючых цаніць хараство і багацьце роднага краю?..* ХБ, 30. *А дзеля таго трэба, каб там жылі людзі з разьвітым розумам, ведаючыя і ўмеючыя цаніць хараство.* Там жа, 30.

Інф. *цаніць* (2): ХБ, 30(2).

**[ЦАПОЧКА]** *ж. Руск.* Замок, які дазваляе крыху адчыніць дзверы. *Але яго* [бежанца] *сьвідруюць праз "цапочку" Палохлівыя шэранькія вочы...*ВБЛ, 80.

Адз. В. *цапочку*: ВБЛ, 80.

**ЦАР** (26) *м.* 1. Асоба, якая мела тытул манарха. *Быў маскоўскі цар, былі у нас* [на Беларусі] *насланые ім усялякіе чыны: земскі, вураднік, стражнік.* БС. *Дэспатычная Расія царскага ўраду адрывала нашых дзецюкоў ад родных хат, ад родных мамак і гнала ў далёкі свет, у чужыну, на здзек і знявагу, для павелічэння магутнасці маскоўскага самадзяржаўнага цара.* БВ, 16.

2. *перан.* Пра таго, хто валодае вялікай маёмасцю, грашовымі сродкамі. *Пазвалі вас* [бальшавікоў] *на пір піроў, пазвалі вас за волю стаць І далі ўладу путы рваць, Ім далі ўладу біць цароў..* ПВ.

3. *перан.* Той, хто ўзвышаецца над усімі сабе падобнымі ў якіх-н. адносінах. *А трэці* [ганец] *быў і раб і цар І дуж ва ўсякім дзеле..* Кц, 194.

Д **Дэспат-цар** *гл.* дэспат. **Раб-цар** *гл.* раб. **Цар-грамавік**: *Як сам цар-грамавік, чуе* [першы брат] *ў жылах пажары.* Ч, 324.

• **Цар ночы** – сатана, д'ябл. *Першы брат ад яе* [судзьбіны] *меў наказ незабыты: – Не здарма быць хацеў царам ночы, І сваіх, і чужых расьпінаў на крыжы ты, Крыўдай праўдзе смяяўся ў вочы.* Ч, 322.

◊ **Пад царамі** – у няволі. *Пад царамі, пад панамі Мучыліся людзі, – У нядолі, у няволі Чахлі, сохлі грудзі.* ЗЯЗ, 89. **Пайсці ў цары** *гл.* пайсці. **Цар і раб** – усе. *Я веру вам* [Жыдам], *хоць чорнай гразьзю ўсюды Плюе вам цар і раб, стары і малады.* Ж.

Адз. Н. *цар* (6): АПЖ; БС; ДЖ; Ж; Кц, 194; Ч, 324. Р. *цара* (2): БВ, 16 (2). Д. *цару*: АПЖ. В. *цара* (3): БС; ВБЛ, 80, 81. Т. *царом* (3): ДЖ; ЖН; Т, 48; *царам*: Ч, 322. Мн. Н. *цары* (4): АПЖ; Ж; Нз, 14; ПВ. Р. *цароў*: Т, 49. Д. *царам*: БВ, 16. В. *цароў*: ПВ; *цары*: ПВ. Т. *царамі* (2): Ан, 19; ЗЯЗ, 89.

**ЦАРАДВОР** *м. Уст., разм.* Саноўнік пры царскім двары; прыдворны. *І свой сон Сніць далей гэты царадвор..* АПЖ.

Адз. Н. *царадвор*: АПЖ.

**ЦАРАТ** (3) *м. Польск.* Царызм, самадзяржаўе. *Я* [Купала] *пачаў пісаць у гады, калі царат вешаў на слупах рэвалюцыйных рабочых, калі сялянства бунтавала па вёсках, і царскія сатрапы секлі яго бізунамі.* ЖН. // *перан.* Цар. *Але адно скажу – як рад я* [Купала] *за першыя крокі свае ў літаратуры, калі разам з беднатой беларускай вёскі я горача пратэставаў супроць паноў і царата, так бязмежна рад я за апошнія гады.* ЖН. *Рэвалюцыя 1905 года страсянула царызм, запаліла ярка і неперaможна .. надзею на свабоду, і ў песнях маіх прагучэла гэта надзея і заклік да барацьбы з царатам і панамі.* ЖН.

Адз. Н. *царат*: ЖН. Р. *царата*: ЖН. Т. *царатам*: ЖН.

**[ЦАРАЎЛАДНЫ]** *прым. Наватв.* Які мае вялікую ўладу. *Гэткай паняй ясьнела ў хораме зорным* [судзьбіна] *Цараўладнай і разам няўладнай..* Ч, 322.

Адз. ж. Т. *цараўладнай*: Ч, 322.

**[ЦАРКВА]** *ж.* Будынак, у якім адбываецца праваслаўнае набажэнства. *Ён* [жандар] *сніць былую моц і шыр: Цары, царыцы, цэрквы, троны, Пагромы, катаргі, Сібір...* АПЖ.

Мн. Н. *цэрквы*: АПЖ.

**[ЦАРКОЎНЫ]** *прым.* Які адносіцца да царквы. – *Ух-ці! – выйшаў на царкоуны дзядзінец беларускі дзяк "расійскай культуры" напханы за кліpасам славянскімі псальмамі Давідавымі.* З.

Адз. м. В. *царкоуны*: З.

**[ЦАРСКА-РАБСКІ]** *прым. Наватв. Тое, што* царскі *ў 2 знач. Палажэньне гістарычнае і географічнае Беларусі было і есьць пакуль што найцяжэйшае ад усіх іншых падобных да яе, вызваленых з царска-рабскага гнету, дзяржаваў.* БСУ.

Адз. м. Р. *царска-рабскага*: БСУ.

**ЦАРСКІ** (34) *прым.* 1. Які знаходзіцца на службе ў цара. *..Калчак, Дэнікін і Юдэніч – царскія генералы..* Ан, 19. *Я* [Купала] *пачаў пісаць у гады, калі царат вешаў на слупах рэвалюцыйных рабочых, калі сялянства бунтавала па вёсках, і царскія сатрапы секлі яго бізунамі.* ЖН.

2. Які адносіцца да палітычнага рэжыму на чале з царом. *Загаманілі аб федэрацыі вызваленых з царскага рабства народаў.* БВ, 16. *Пятакоў і Троцкі, Муралаў і Радэк Пакінуць хацелі царскі нам парадак.* МПв, 219. // Звязаны з перыядам царызму. *Пачалася ізноў тая самая вакханалія з высылкамі пад грозьбай штыка і нагайкі нашых людзей на Мурман, пад Урал і г. д., як і за даўных царскіх часоў.* БВ, 16. *І мне*

[Купалу] *тут – у гэты шчаслівы, ганаровы для мяне час хочацца прывітаць тых, якія многа сіл і працы прылажылі да таго, каб Беларусь жабрацкая ў царскія часы стала Беларуссю калгасна-заможнай, Беларуссю вольнай нацыянальна і соцыяльна.* ЖН. // Які мае такі палітычны рэжым. *І душыць кліч: ці доўга будзе нам заломам Варшава панская і царская Масква.* НГ. *Я* [Купала] *нарадзіўся і рос у цёмнае царскае ліхалецце, я пражыў большую частку свайго жыцця ў так званай "турме народаў" – царскай Расіі.* ЖН. // Пра грошы царскіх часоў. *..паны-абшарнікі стараюцца як мага перагнаць загоны малых і вялікіх двароў на царскія рублі.* ЗС, 17. [Мікіта]: *Ах, забыўся запрапанаваць ім* [Даме, Спраўніку, Пану] *купіць у мяне маркі! Пэўна з "царскімі" эвакуюцца.* Т, 38. *Параўн.* царска-рабскі.

3. *перан.* Рускі (пра мову). *Спужаўся* [жандар], *што хлапчук ў лапцёх, Напаўадзеты вёскі сын, У роднай мове ўчыцца змог?.. О, стыдна, рускі... "гражданін"! Язык твой царскі ён табе Не выража, спакойны будзь!* АПЖ.

• **Царскі трон** – улада. *І ўсё вы* [бальшавікі] *ўзялі, ўсё як ёсць: Фабрычны дым, сяўбы загон І панскі двор і царскі трон... Ды стала ўсё вам гэта ў злосць...* ПВ.

Адз. м. Н. *царскі* (2): БВ, 16; УПУВ. Р. *царскага* (2): БВ, 16; ЗС, 18. В. *царскі* (3): АПЖ; МПв, 219; ПВ. ж. Н. *царская* (4): ДЖ; НГ; НДН, 18(2). Р. *царскай* (4): АЛ; ЖН; МП; СНБ; *царскае*: ГНД. В. *царскую*: ДЖ. М. *царскай*: ЖН. н. Р. *царскага*: БВ, 16. В. *царскае* (2): Ан, 19; ЖН. Мн. Н. *царскія* (4): А, 328; Ан, 19; ГВУ; ЖН. Р. *царскіх* (4): АПЖ; БВ, 16; БС (2). В. *царскія* (2): ЖН; ЗС, 17. Т. *царскімі* (3): ДЖ; Т, 38(2).

**ЦАРСТВА** (5) і **ЦАРСТВО** *н.* 1. Дзяржава, якою кіруе цар. *Царства няволі, турмаў, пахаронных званоў – царства, якое называлася жандармам Еўропы. Гэта Расію царскую скалыхнуў трыццаць год таму назад 1905 год.* ДЖ. *З далёкіх заморскіх старон – з зямлі Варшаўскай, з царства Візантыйскага і з другіх знамянітых гасударстваў і каралеўстваў прыязджалі па моры і па сушы багатыя госці з багатымі таварамі..* Кз, 17.

2. *перан.* Уладанне, панаванне. *Белым шляхам адных, а другіх шляхам чорным К царству, к рабству вяла* [судзьбіна] *беспраглядна.* Ч, 322.

3. *перан.* Месца, дзе пануе тая ці іншая з'ява. *І так і гэтак свой прыгон Распрасьцірае царства ночы.* Кц, 197. *На зьдзек прадажныя пракокі І на гніцьцё у царстве цьмы Вядуць аплучаныя тоўпы Пад стогны вечныя турмы.* РС, 40.

Адз. Н. *царства* (2): ДЖ (2); *царство*: Кц, 197. Р. *царства*: Кз, 17. Д. *царству*: Ч, 322. В. *царства*: РС, 40.

**[ЦАРСТВАВАЦЬ]** *незак., перан.* Уладарыць, панаваць. *Зямля ёй* [душы] *зацесна, Ёй трэба прастору, Той высі нябеснай, Дзе царствуюць зоры.* АК.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *царствуюць*: АК.

**ЦАРСТВО** *гл.* **ЦАРСТВА.**

**[ЦАРЫЗМ]** (8) *м.* Царскі рэжым. *Нелегальная літаратура, якую я* [Купала] *тады чытаў, была прасякнута нянавісцю да царызма і любоўю да свабоды і незалежнасці.* ПС. *У змучанай царызмам Беларусі, як і ва ўсёй Расійскай імперыі, працоўныя былі пазбаўлены права ўдзельнічаць у якой-бы то ні было дзяржаўнай рабоце.* ГВУ.

Адз. Р. *царызму* (2): АЛ; ПЧ; *царызма* (2): ГВУ; ПС. В. *царызм* (2): ЖН; Кц, 193. Т. *царызмам* (2): ГВУ; ЗС, 17.

**ЦАРЫЦА** (2) *ж.* 1. *Жан. да* цар *у 1 знач. Ён* [жандар] *сніць былую моц і шыр: Цары, царыцы, цэрквы, троны, Пагромы, катаргі, Сібір...* АПЖ.

2. *Вобразн.* Уладарка. *..На пасадзе сядзела цьвет-ночка – царыца... Звалі тыя і сія судзьбінай.* Ч, 322.

Адз. Н. *царыца*: Ч, 322. Мн. Н. *царыцы*: АПЖ.

**[ЦАРЭЎНА]** *ж.* Дачка цара. *Хоць царэўну хай кахае, – А ня будзе ў шчасці жыць, Хто забудзе край свой родны, Аб такім так і пішы;* КЧ.

Адз. В. *царэўну*: КЧ.

**ЦАЦАНКА** *ж.*: Д **Абяцанка-цацанка** *гл.* абяцанка.

Адз. Н. *цацанка*: ОШМ.

**ЦВЕТ** (4) і **ЦЬВЕТ** (2) *м.* 1. Кветка. *Шчасце цвіло ў ім* [краі]*, як макавы цвет.* Н. *А топчуць толькі ўсё той сьлед. Валочуць ёрмы за сабою Ці ўбачуць корч, ці ўбачуць цьвет, Аднэю жаляцца сьлязою.* Кц, 195.

2. *перан.* Росквіт, уздым чаго-н. *Растуць і буйнеюць у сіле, у цвеце – Калгасы, саўгасы і гарады.* ПБН.

Д **Жар-цвет** *гл.* жар. **Цьвет-ночка**: *..На пасадзе сядзела цьвет-ночка – царыца... Звалі тыя і сія судзьбінай...* Кц, 195.

Адз. Н. *цвет* (2): Н; ПВ; *цьвет*: Ч, 322. В. *цвет*: М, 20; *цьвет*: Кц, 195. М. *цвеце*: ПБН.

**ЦВЁРДА** (2) і. **ЦЬВЁРДА** (2) *прысл. перан.* 1. *Прысл. да* цвёрды *ў* 2 *знач.* [Мікіта]: *Мы цвёрда стаялі на варце святага расійскага самаўладства і баранілі тутэйшую рускую народнасць ад "інародчаскага засілля".* Т, 21.

2. Канчаткова, беспаваротна; без хістанняў. [Янка]: *Значыцца, вы* [Мікіта] *цвёрда пастанавілі дабівацца сабе гэтай*

*новай кар’еры?* Т, 56. *Хай кожны беларус цьвёрда верыць, што заваруха ваенная так ці сяк скончыцца..* ВС. ВМР.

**[ЦВЁРДАСЦЬ]** *ж.* Упэўненасць, пераканананасць. *Рэформа правапіса – што я* [Купала] *мушу з усёй цвёрдасцю падкрэсліць – з’яўляецца велізарным правільным і своечасовым актам барацьбы за культуру беларускай мовы па шляху пролетарскага інтэрнацыяналізма..* ШБСЯ.

Адз. М. *цвёрдасцю*: ШБСЯ.

**[ЦВЁРДЫ]** (2) і **[ЦЬВЁРДЫ]** (2) *прым.* 1. Упэўнены, трывалы. *Хай ставяць* [людзі] *цьвёрдыя запоры Перад навалаю чужой..* УрП, 50.

2. *перан.* Непахісны. *Я* [Купала] *ўміраю з цвёрдай верай у вечнае існаванне Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.* СЧ.

3. *перан.* Беспаваротны, канкрэтны. *..гэта ідэя сягодня ператвараецца у жыцьцё, становіцца жывым дзелам, цьвёрдым фактам.* БСУ.

◊ **Стаяць на цвёрдым грунце** *гл.* стаяць.

Адз. м. М. *цьвёрдым*: БСУ; *цвёрдым*: СНБ. ж. М. *цвёрдай*: СЧ. Мн. В. *цьвёрдыя*: УрП, 50.

**[ЦВІСЦІ]** (8) і **[ЦЬВІСЬЦІ]** (2) *незак.* 1. Раскрывацца, распускацца (пра кветкі). *Каб свет атуляўся, як сонцам, свабодай, Чырвоныя макі цвілі ў агародах, – Ён* [Сталін] *піша законы стагоддзям, народам.* СС, 303. // Быць пакрытым кветкамі. *Цьвілі магілкі ля капліц.* УрП, 47. // *Вобразн. Шчасце цвіло ў ім* [краі]*, як макавы цвет.* Н.

2. *перан.* Знаходзіцца ў стане фізічнага росквіту; быць здаровым, прыгожым. [Мікіта]: *А цяпер, высокашанаваныя госці, падымем тост за нашых наймілейшых мадамаў і мамзэляў.* [Галасы]: *Хай цвітуць нашы кветкі, наша асалода!* Т, 28.

3. *перан.* Паспяхова развівацца, квітнець. *Цвіце, каласіцца мой край, Ці сонейка захад, ці ўсход.* ТП, 214.

4. *перан.* Панаваць. *Відна з .. Узораных парадкам агародных градак, – Што там цьвіцець дастатак, праўда і парадак.* ХБ, 28.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *цвіце* (2): ТП, 214, 215; *цьвіцець*: ХБ, 28. Мн. 3 ас. *цвітуць*: Т, 28. Пр. адз. н. *цвіло*: Н. Мн. *цвілі*: СС, 303; *цьвілі*: УрП, 47. Заг. адз. 2 ас. *цвіці* (3): ТП, 216, 217(2).

**[ЦВІТУЧЫ]** і **[ЦЬВІТУЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. да* цвісці. Красуючы. *Аб людзях-героях, аб цвітучых нівах І аб сонцы ясным, што на небе йскрыцца, Былі твае песні, ашуг Дагестана.* ПСС, 232.

2. *У знач. прым. Вобразн. Прыйшла вясна, вясёлая, пявучая, цьвітучая.* ДД.

Адз. ж. Н. *цьвітучая*: ДД. Мн. М. *цвітучых*: ПСС, 232.

**ЦЕЛА** (9) *н.* 1. Арганізм чалавека ў яго знешніх, фізічных формах і праяўленнях. *Вось-жэ усе тые, што асталіся дома, што не маюць магчымасьці дзяліць долю і нядолю са сваімі роднымі на полі бітвы, павінны аткінуць ат сябе усякую слабасьць душы і цела, усякую непатрэбную трывогу, ды дружна ісьці да працы на сваіх загонах..* РКр. *Слабые душой і целам апускаюць рукі, і як вол доўбні чэкаюць нечаго негаданаго, благога, наводзючы гэтым і на іншых сум ды трывогу.* Там жа . // Труп. *І пакуль шукалі ў трупярні* [хлопчыка] *паміж штабеляў сініх цел, – У прамежак ад сьмерці к спальні Скіфскі вецер з сьмехам ляцеў.* ВБЛ, 81.

2. Тулава чалавека. *Над старэйшым братам ставіў* [сярэдні сын] *Стражы і запоры, Цела ранамі крывавіў, Зьдзекаваўся ў горы.* Дз, 190. *Дынаміт і порах Запускалі* [трацкісты] *ў дзела, – На шматкі хай рвецца народнае цела.* МПв, 219.

3. *перан.* Тэрыторыя краіны. *Каб таго парвала з сэрцам на тры часці І звяр'ё збрылося мяса параскрасці, – Хто быў прычыніўся нашаму падзелу, На кускі парваўшы маці роднай цела.* К.

◊ **Душу ад цела веяць** *гл.* веяць. **І на духу і на целі** *гл.* дух.

Адз. Н. *цела*: МПв, 219. Р. *цела* (2): РКр; Т, 35. В. *цела* (3): ВР; Дз, 190; К. Т. *целам*: РКр. М. *целі*: ВС. Мн. Р. *цел*: ВБЛ, 81.

**[ЦЕМНАТА]** (3) *ж. Тое, што* цемра *ў 2 знач. З туманаў, з імглы, з цемнаты Паўстала краіна мая.* ТП, 214. *Мэта, якую ставіў я* [Купала] *перад сваей поэтыцкай творчасьцю, гэта было паказаць у мастацкай форме ўсю беднату, цемнату, нядолю і паднявольле батрацтва і бядняцтва беларускае вёскі..* АЛ.

Адз. Р. *цемнаты* (2): Т, 56; ТП, 214. В. *цемнату*: АЛ.

**ЦЕМРА** (10) *ж.* 1. Цемень, змрок. *Вылезе з цемры бледны звод..* Кц, 192. *Параўн.* цьма *ў 1 знач.*

2. *перан.* Культурная адсталасць; невуцтва. *На месцы народнай цемры вырастаюць бязупынна ўсё новыя і новыя культурныя, навуковыя і навучальныя ўстановы.* АЛ. *Параўн.* цемната.

3. *перан.* Увасабленне зла, пакут, жорсткасці. *Ворага кожны за плечы браў смела, Цемра чужынцаў не страшнай была.* Н. *Гераічная барацьба лепшых сыноў рабочага класа падарвала ўстоі самаўладства, устоі векавечнай цемры, няволі.* ДЖ. *Параўн.* цьма *ў 3 знач.*

Адз. Н. *цемра*: Н. Р. *цемры* (4): АЛ (2); ДЖ; Кц, 192. В. *цемру* (2): Г, 16; ПН, 47. Т. *цемрай*: ТП, 214. М. *цемры* (2): КП, 170; ПН, 46.

**ЦЕНЬ** (17) *м.* 1. Засень. *А потым настаў ціхі, залаты вечар, такі вечар, што каб я* [С.Меч] *мог, я спыніў-бы яго ды зрабіў бясконцым, і ўсё маё жыцьцё любаваўся-б гэтымі лясьнымі дарожкамі, бягучымі некуды ў цень паміж соснамі, гэтымі махрыстымі залатымі бярэзінамі..* ХБ, 29. *Ценем тулілі вас* [людзей чужых] *у спякоту Нашы чарэсьні..* Ч, 146. // Цемната, змрок. *У руцэ меў* [першы ганец] *сьветач, што на зьдзіў Усе усюдах зводзіў цені..* Кц, 194.

2. *перан.* Напамінак аб чым-н. *Заглянула сонца Да хат, сутарэнь, Праклятых дзён прошлых Развеяўся цень.* СС, 301. *А чарку першую ўзнясём За цень мінуўшчыны у сеці..* Кц, 196.

3. *перан.* Прыкмета чаго-н., намёк на што-н. *Гэй ты, гэй, прамінуўшы мой час! Гэй, ты, гэй, мой цяперашні дзень! Што я меў, што я маю ад вас! Дзе прасвету хоць цень – бледны цень?* ЧС, 50–51.

4. Прывід, дух мерцвяка, здань. *З-пад зор, з-пад блудных сьветачоў Ні вокам людзкім ані мысьляй Нязгадны цень ка мне зышоў.* УрП, 46. *Цень пры цені, пад ценьмі той крыж у крыві..* БН, 93. // *У параўн. Яны* [людзі], *як цені, ў грамадзе Маўчаць і йдуць на пір паганы.* Кц, 195.

Д **Спадкі-цень** *гл.* спадкі. **Цень-мара**: *Паўзуць і сеюць шорах свой Старым парадкам цені-мары.* Кц, 192.

Адз. Н. *цень* (6): БН, 93; ПВ; СС, 301; УрП, 46; ЧС, 50-51(2). В. *цень* (3): Кц, 196; ХБ, 29; Ч, 320. Т. *ценем*: Чж, 146. М. *цені*: БН, 93. Мн. Н. *цені* (3): Кц, 192, 195; Т, 43. Р. *ценяў*: Т, 43. В. *цені*: Кц, 194. Т. *ценьмі*: БН, 93.

**[ЦЕНЯВАЦЬ]** *незак.* Хадзіць дзе-н. хаваючыся. *Кладуцца заломы… Дабро зьмей валочэ… Цянюе ля хат ваўкалак…* ЗК, 42.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *цянюе*: ЗК, 42.

**ЦЕРАБІЦЬ** (5) *незак.* 1. Высякаць, знішчаць. *Цярэбіць стальною сякерай Прыблуднік нашыя лясы..* УрП, 48.

2. Драбніць, крышыць. *Чыя кірка ў падзямеллі Першай пласт вугля цярэбіць І чый трактар першым сцеле Скібы на калгаснай глебе?* СА, 180.

3. *перан.* Пракладаць. *Гаспадары мы ў сябе, а ня госьці, Час к панаваньню нам сьлед церабіць.* Г, 17. *Новы шлях цярэбяць Твае, мае грудзі.* ПТ, 206.

◊ **Церабіць патыліцу** – быць заклапочаным чым-н. – *Хаха! – цярэбіць патыліцу засьцянковы беларускі шляхціц польскай культуры..* З.

Інф. *церабіць*: Г, 17. Абв. цяп. адз. 3 ас. *цярэбіць* (3): З; СА, 180; УрП, 48. Мн. 3 ас. *цярэбяць*: ПТ, 206.

**ЦЕРАЗ** (5) *прыназ. з* В. Спалучэнне з прыназоўнікам “цераз” выражае прасторавыя адносіны:

1. Ужываецца пры абазначэнні прасторы, на якой з аднаго боку на другі, з аднаго краю да другога адбываецца рух. *Ніпачым ім* [камсамольцам] *рыфы, скалы, Ані смерчы, ні бураны, – З маладым плывуць запалам Цераз моры-акіяны.* СА, 180. *Шоў* [хлопчык] *цераз сад, дзе валялася ўволю На зямлі яблык.* Ун, 73. Мц, 75.

2. Ужываецца пры назве прадмета, праз які што-н. пранікае. [Дама]: *(углядаючыся пільна цераз акуляры з ручкай на Мікіту). Што гэта ў вас, мусье, за такі орыгінальны ўбор?* Т, 24.

◊ **Цераз лад** *гл.* лад.

**[ЦЕРРЫТОРЫАЛЬНЫЙ]** *прым. Руск. Тое, што* тэрытарыяльны. [Усходні вучоны]: *(да Янкі). Необходзімо почэрпнуць от вас сведенія касацельно церрыторыальных данных області, іменуемой вашым племенем – Белорусь.* Т, 38.

Мн. Р. *церрыторыальных*: Т, 38.

**[ЦЕРРЫТОРЫЯ]** *ж. Руск. Тое, што* тэрыторыя. [Усходні вучоны]: *Пры опросе аборыгенов Северо-Западного края о процяжэніі занімаемой імі церрыторыі выяснілось, что таковая включает в себе всю областъ Мінской Брэхалкі да ешчо далей...* Т, 39.

Адз. Р. *церрыторыі*: Т, 39.

**[ЦЕСНЫ]** (3) *прым.* 1. Які займае недастатковую плошчу. *У знач. вык. Ёсць жа яшчэ ў мяне песень, Поўных надзеі, жыцця, – Як бы ні быў ім свет цесен, Вырвуцца ў свет з нябыцця.* ЁЯ.

2. Блізкі, непасрэдны (пра адносіны, сувязі). *У СССР, адзінай на ўсім сьвеце краіне пролетарскай дыктатуры, рабочая кляса, у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі рэальна ажыцьцяўляе заветныя ідэалы .. Маркса і Леніна, пераможна, з нявіданым творчым энтузыязмам і запалам будуе соцыялістычнае грамадзтва.* АЛ. *Гэта наша знаёмства з культурнымі дзеячамі Чэхаславакіі з’яўляецца пачаткам цеснай культурнай сувязі абодвух краін.* ПЧ.

Адз. м. М. *цесным*: АЛ. ж. М. *цеснай*: ПЧ. Кар. адз. м. Н. *цесен*: ЁЯ.

**[ЦЕСТА]** *н.* Вязкая маса з мукі, замешанай на вадкасці. *Пячом караваі З пшанічнага цеста І спяваем песні Сталінскага зместу.* АЧ.

Адз. Р. *цеста*: АЧ.

**ЦЕШЫЦЦА** (7) *незак.* 1. Мець задавальненне; радавацца чаму-н. *Радасна жыць пад Крэмлёўскімі зорамі, Сталінскай цешыцца ўвагаю, ласкаю.* ДПЛС. *Цешыцца дзяўчына, Што Янук ня згінуў..* ЕЯП.

2. Абнадзейваць сябе. *..нам застаецца толькі цешыцца, што .. гэты налог, аснованы на справядлівасьці, знойдзе нарэшце сабе мейсцэ у Расейскім гасударстве.* ВН.

Інф. *цешыцца* (2): ВН; ДПЛС. Абв. цяп. адз. 3 ас. *цешыцца* (3): ЕЯП; ТП, 215; $Ш_2$. Мн. 3 ас. *цешацца*: ПЛ. Пр. адз. н. *цешылася*: ІП.

**[ЦЕШЫЦЬ]** (3) *незак.* 1. Радаваць. *Згубіў* [другі сын] *сваю скуру, чужая-ж ня цешыць Абадранай душы ў павуціне.* Ч, 321. *Ідзе* [народ], *ўвекавечыць ідзе I долю і праўду сваю, Каб воля жыла ў грамадзе I цешыла вольных сям'ю.* ТП, 217.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *цешыць* (2): Т, 21; Ч, 321. Пр. адз. ж. *цешыла*: ТП, 217.

**ЦЁМНА** *прысл.*: ◊ **На душы цёмна** – пра нячыстае сумленне. *А хто хаваецца ад сонца, у таго на душы цёмна.* Кз, 17.

**[ЦЁМНА-ЖОЎТЫ]** *прым.* Жоўты з цёмным адценнем. *..фрэнч і галіфэ* [у Мікіты] *новыя, з цёмна-жоўтага сукна, боты жоўтыя.* Т, 54.

Адз. н. Р. *цёмна-жоўтага*: Т, 54.

**ЦЁМНЫ** (16) *прым.* 1. Пазбаўлены святла. *Можэ з іншаго хто краю Скеміў-бы сумленьне, Што яна* [душа] *там вычварае З жалю і цярпеньня. Што нам кажэ ночкай цёмнай На мяжы ў пракляцьці, Як Дзяды ў нас векапомны Стануць атпраўляці.* Дз, 192. *Круціць вецер пласконны падол. Вецер весел ды цёмен дол.* ВБЛ, 82. // Ахутаны цемрай. *Ля цёмнай вецьвістай дубровы Народ зьбіраўся і маўчаў.* УрП, 47. // Які слаба свеціць; цьмяны. *Я ведаю, знаю старонку такую, Спавітую ў вечны туман, Пад цёмнымі зорамі днюе, начуе, Ляжыць на кургане курган.* ЗК, 42.

2. *перан.* Бязрадасны, змрочны. *Песні сонцам не яснелі У вясну, ў прадвесне, Ночка цёмная шумела У паднявольных песнях.* ЗЯЗ, 89.

3. *перан.* Які выклікае недавер; падазроны. *Цёмныя людзі, пазбаўленыя гонару і сумлення, п'яныя атрутай нажывы і самалюбствам, не чакаючы ні ладу, ні парадку, з усіх сіл стараюцца рабіць сваё грэшнае дзела.* ЗС, 17.

4. *перан.* Непісьменны, некультурны; адсталы. *Хіба можа цёмны беларускі абыватаць пажадаць беларускае школы, калі ён не ведае, ці прынясе яна ему карысьць!* ДК. *Дзякую партыі Леніна-Сталіна, Дзякую Сталіну мудраму, роднаму, Што на*

*Расіі жандармскай развалінах Гору канец палажылі народнаму, Што Беларусь маю цёмную, убогую Вывелі ў людзі, і стала дзяржаўнаю..*ДПЛС.

5. *перан.* Невядомы. *Ціха і плаўна ў даль коцяцца воды Вольнага Нёмана, ў цёмную даль...* Н.

◊ **Цёмная сіла** *гл.* сіла.

Адз. м. Н. *цёмны* (2): ВР; ДК. В. *цёмнаго*: ВР. ж. Н. *цёмная* (2): ЗЯЗ, 89; СНБ. Р. *цёмнай*: УрП, 47. В. *цёмную* (3): ДПЛС; Н (2). Т. *цёмную* (3): ДПДС; Н (2). Т. *цёмнай*: Дз, 192; *цёмнаю*: ВГ. н. В. *цёмнае*: ЖН. Мн. Н. *цёмныя*: ЗС, 17; *цёмные*: ВР. Т. *цёмнымі*: ЗК, 42. Кар. адз. м. Н. *цёмен*: ВБЛ, 82.

**ЦЁПЛЫ** (9) *прым.* 1. Які змяшчае ў сабе пэўную колькасць цяпла. *..цёплы паўднявы ветрык чуць шастаў лісьцём яблын..* ХБ, 29. *Цёплая ў жылах мне кроў ледзянее, Сонца не сонца мне ў свеце прыгожым.* Бц, 74. // З высокай сярэднегадовай тэмпературай. *..тры месяцы таму назад* [Антанта] *выехала за граніцу на цёплыя воды лячыцца.* Ан, 19.

2. *перан.* Сардэчны. *Цёплай і прыемнай была сустрэча з совецкім паслом у Чэхаславакіі.* ПЧ.

◊ **Цёплая кампанія** *гл.* кампанія. **Цёплае месца** *гл.* месца. **Цёплы мужычок** *гл.* мужычок. **Цёплая “хаўрузія”** *гл.* хаўрузія.

Адз. м. Н. *цёплы*: ХБ, 29. ж. Н. *цёплая* (3): Бц, 74; ВР; Т, 61. Т. *цёплай* (2): ПЧ; Ч, 325. Мн. Н. *цёплыя*: ЗС, 18. В. *цёплыя* (2): Ан, 19; Нз, 14.

**ЦЁТКА** (4) *ж.* Дарослая жанчына. [Гарошка]*: А ты, сарока, .. аддала б настаўніку тое, што прывезла.* [Аленка]: *Калі я саромлюся.* [Янка]: *Мабыць, нешта брыдкое.* [Аленка]: *I зусім не брыдкое, а нават, як цётка Агата казала, дужа прыгожае.* Т, 30. // Зварот да старэйшых па ўзросту жанчын. [Начальнік]: *Вы, цётка, застаіцёся хаты пільнаваць.* Т, 62. // *Іран. Рэвалюцыя, мае паны, не цётка – па галоўцы гэткіх сваіх прыяцеляў не гладзіць.* Т, 37.

Адз. Н. *цётка* (4): Т, 30, 37, 55, 62.

**ЦЁТАЧКА** (22) *ж. Ласк. да* цётка. [Янка]: *Добры дзень, цётачка!* Т, 53. [Янка]: *Вось я ўспомніў, цётачка, адну сваю справу і мушу прасіць вашай у гэтым помачы.* Там жа, 23.

Адз. Н. *цётачка* (22): Т, 19, 20, 23, 25, 44(3), 45, 49, 53(8), 54(3), 57(2).

**ЦІ**[1] (149) *злучн.* 1. *размеркавальны* (62). Ужываецца для супастаўлення членаў сказа, якія па сваім значэнні з’яўляюцца аднолькава магчымымі ці раўназначнымі, указваючы на выбар аднаго з іх. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, схавайце гэтыя портфэлі – можа, дзе пад комін ці куды іх*

*падсунеце.* Т, 50. [Мікіта]: *Вось я, не зважаючы на тое – выеду ці не выеду, і пастараўся не выглядаць маладым.* Там жа, 55. // З адценнем дапушчэння магчымасці аднаго з членаў сказа. *Таргуюцца за цэлыя народы, за цэлыя дзяржавы, а ўсё для таго, каб нажыцца, каб у гэтым агульным разбурэнні вытаргаваць лішнюю капейку ці мільярд рублёў.* Тж, 15. АЛ; Бч, 9; БН, 93; ВГР; ВМ, 72; ВМР; ВН (2); ВС (3); Г, 16; Д, 73; Дз, 190; ДК (3); ЕЯ; Ж; ЖН; ЗС, 17(2), 18; Кз, 17(2); Нз, 14(3), 15; НДН, 18(2); Пп, 5; ПСп (2); Р; РКр (2); СБНГ; СНБ, 339(2); СП; СЧ; Т, 20, 21(2), 32, 34, 37, 46, 47, 54(2), 55, 60; Тж, 16; УрП, 52(2); ХБ, 28; ШН.

2. *размеркавальна-пералічальны* (38). Аб'ядноўвае члены сказа і сказы пры пералічэнні. *Цвіце, каласіцца мой край, Ці сонейка захад, ці ўсход.* ТП, 214. *Ці майскае свята ў жывым карагодзе, Ці свята Кастрычніка ў хаты прыходзіць, Як песня жыве яго* [Сталіна] *імя ў народзе.* СС, 302. БС (2); ВР (2); Д, 73(2); Кц, 194(2), 195(2); ЛПК (3); ПСС, 231(6); СБНГ (4); Т, 25(2); ТП, 213, 215(2), 216(2), 217(4).

3. Уваходзіць у склад паўторнага пералічальна-размеркавальнага злучніка "ці то..., ці то" (17). *Дайце волю народам сваім будаваць сваю долю. А тады гэтыя народы скажуць сваё шчырае слова аб вашай культурнасці – ці то заходняй, ці то ўсходняй.* Тж, 16. *..не было больш-менш вялікага – ці то палітычнага, ці то навучнага здарэння на Захадзе, каб яно не адгукнулася на Усходзе.* Там жа, 15. АБ, 16(2); Нз, 14; НДН, 18(2); СА, 178(2), 179(2); Т, 27(2); Тж, 16(2).

4. *далучальны* (2). Ужываецца для далучэння членаў сказа і сказаў з заўвагамі дадатковага характару. [Мікіта]: *Наогул, меджду протчым, хачу перайсці на ваш беларускі бок, ці як там.* Т, 55. [Ануля]: *Гэтыя вайна ды бязладдзе, ці, як там кажуць, рэвалюцыя, пахавалі тыя хвіліны, калі людзі маглі думаць і аб падарунках.* Там жа, 20.

5. *падпарадкавальны* (13). Ужываецца пры дададзеных сказах з ускосным пытаннем. *Хіба можа цёмны беларускі абываталь пажадаць беларускае школы, калі ён ня ведае, ці прынясе яна ему карысьць!* ДК. *І душыць кліч: ці доўга будзе нам заломам Варшава панская і царская Масква.* НГ. Ан, 18; Бч, 9; НДН, 18; СНБ, 340(2); Т, 27, 42, 49, 53, 58, 59.

◊ **Так ці йначай (іначэй)** *гл.* так.

**ЦІ[2]** (54) *часц. пытальная.* Узмацняе пытальны характар сказа. [Аленка]: *Ці тут жыве дзядзька... як яго?! дзядзька Мікіта Зносак?* Т, 25. [Чырвонаармеец]: *Ці можна ў вас, таварыш, перасядзець, пакуль сцямнее?* Там жа, 52. *Параўн.*

лі, чы. Ан, 18; Бч, 9(2); БН, 92(3), 93; БС; Дз, 187(3), 191(2); ДД (2); ДЖ; ДК (2); ЕЯ; З; ЗС, 18; Кз, 17; МП (2); Н; НДН, 19; ОШМ; ПС; Т, 23(2), 25, 28, 32, 35, 37, 39(2), 41, 42, 45, 46(2), 50(2), 51, 53(3), 56, 57; ХБ, 30; ХЛБ; ХЛВ, 82.

**ЦІКАВА** (7) *прысл.* 1. *безас. У знач. вык.* Пра наяўнасць цікавасці, інтарэсу да чаго-н. [Янка]: *Цікава, да каго ж у цябе, Аленка, сэрца ляжыць?* Т, 29. [Наста]: *Не нямы, а толькі немец і па-нашаму не разумее.* [Мікіта]: *Гм! Цікава!* Там жа, 42. Т, 36, 48, 56(2).

2. Прыемна. [Наста]: *(да Янкі). Вельмі цікава з вамі пазнаёміцца!* Т, 23.

**[ЦІКАВАСЦЬ]** *ж.* Пільная ўвага, зацікаўленасць. *Мы* [дэлегаты] *з цікавасцю знаёміліся з краінай* [Чэхаславакіяй]. ПЧ.

Адз. Т. *цікавасцю*: ПЧ.

**[ЦАКАВЕЙШЫ]** (2) *прым. Пар. ст. да* цікавы. 1. Самы актыўны. *Але, што цікавейшые правадыры соцыяльнай рэволюцыі – Расійскіе бальшавікі, гэтые праціўнікі найменшага праяўленьня нацыянальнага будаўніцтва, і яны змушаны былі .. ствараць ільлюзіі, што яны так сама спачуваюць нацыянальным тэндэнцыям падняволіваных імі народаў..* СНБ.

2. *У знач. наз.* Тое, што выклікае вялікую цікавесць. *Але што цікавейшае: перада мной ляжыць беларуская часопісь "Наша Каляіна". Выдадзена яна ў Слуцку!* МІ, 17.

Адз. н. Н. *цікавейшае*: МІ, 17. Мн. Н. *цікавейшые*: СНБ.

**[ЦІКАВІЦЦА]** (3) *незак.* 1. Імкнуцца даведацца пра што-н. [Мікіта]: *Пане настаўнік, гэта – паны вучоныя, якія вельмі цікавяцца вашым, хэ-хэ-хэ! беларускім пытаннем.* Т, 26.

2. *Разм.* Захапляцца чым-н. *Большасць* [дзеячоў культуры Чэхаславакіі] *добра ведае рускую мову, надзвычай цікавяцца яны і любяць совецкую літаратуру.* ПЧ. *Ці цікавіўся я* [Купала] *беларускай народнай творчасцю? Вядома.* ПС.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *цікавяцца* (2): ПЧ; Т, 26. Пр. адз. м. *цікавіўся*: ПС.

**[ЦІКАВІЦЬ]** *незак.* Выклікаць цікавасць да чаго-н. *Але на гэты раз нас цікавяць ня так самыя выпадкі нарушэньня дробнымі ўраднікамі распараджэньняў свайго вышэйшага начальства, як гэтых выпадкау афарбоўка, або, лепш сказаць, апраўданьні.* ОШМ.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *цікавяць*: ОШМ.

**ЦІКАВЫ** (5) *прым.* 1. Які выклікае цікавасць. *Ад пэўнага часу завеўся на Беларусі вельмі цікавы дэмократычны звычай.* ДК. // *У знач. наз.* [Аленка]: *Трэба ж было, татачка, прыгледзецца, як рыхтуюцца менчукі спатыкаць новых*

*акупантаў.* [Гарошка]: *Ну і што там цікавага?* Т, 44.

2. Дзіўны, незвычайны. *Цікавые людзі мы – беларусы! Трэба прызнацца, што якое бы ліхо навокал нас і з намі самімі не рабілося, якіх бы мы не пераживалі нягод і крыуд – мы гэтага як бы ня бачым, а калі і бачым, то ціха церпім ды чакаем, што вось нехта прыйдзе і гэтае нашае ліхо забярэ з сабою.* БС.

3. *У знач. наз.* Той, хто імкнецца ўсё ўведаць; цікаўны. *Сабралася многа цикавых и вот яны што пачули.* ПДз.

Адз. м. Н. *цікавы* (2): СНБ, 337; ДК. н. Р. *цікавага*: Т, 44. Мн. Н. *цікавые*: БС. Р. *цикавых*: ПДз.

**[ЦІНА]** (3) *ж.* 1. Зялёныя водарасці ў стаячай вадзе. *Сажалка дрэмле, заросшая цінай..* ВМ, 72. *Проць сваіх, проць чужых крывадушыць і грэшыць* [другі сын]*, І так вязьне, як камень у ціне.* Ч, 321.

2. *перан.* Пра тое, што аблытвае, падпарадкоўвае сабе. *Душу выні, Палажы на далонь і надзейся, Што паверацъ табе, што ня згіне Ўся прысяга твая ў чорнай ціне Перасудаў людзкіх...* См, 91.

Адз. Т. *цінай*: ВМ, 72. М. *ціне* (2): См, 91; Ч, 321.

**ЦІП** *м. Руск. Тое, што* тып. [Усходні вучоны]: *Іоан Здольніков. Ісціно-русскій ціп Северо-Западной Обласці і безусловно з прымесью монгольско-фінской крові.* Т, 26.

Адз. Н. *ціп*: Т, 26.

**[ЦІСНУЦЦА]** *незак.* Прыціскацца, набліжацца да чагон. *Здань за зданьню паўзе, кожна здань – як зьмяя, Тая прэцца уверх, тая цісьнецца к дну.* БН, 92.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *цісьнецца*: БН, 92.

**ЦІХА** (4) *прысл.* 1. *Прысл. да* ціха *ў 3 знач. Цікавые людзі мы – беларусы! Трэба прызнацца, што якое бы ліхо навокал нас і з намі .. не рабілося, якіх бы мы не пераживалі нягод і крыуд – мы гэтага як бы ня бачым, а калі і бачым, то ціха церпім ды чакаем, што вось нехта прыйдзе і гэтае нашае ліхо забярэ з сабою.* БС.

2. Павольна, марудна. *Як толькі находзіў вечар, я* [С. Меч] *выхадзіў на адну з сваіх любых дарожак ды ішоў на ёй ціха, ціха.* ХБ, 29. // Не бурліва. *Ціха і плаўна ў даль коцяцца воды Вольнага Нёмана, у цёмную даль..* Н.

**ЦІХЕНЬКА** *прысл. Ласк. да* ціха *ў 2 знач. ..цёплы паўднявы ветрык чуць шастаў лісьцём яблын, а даўгое белае павучыньне, каторае невядома адкуль узялося, ціхенька плыло ў паветры.* ХБ, 29.

**ЦІХІ** (9) *прым.* 1. Ледзь чутны; нягучны. [Ганула]: *Дык на*

*балалайцы, сянок, сыграй: голас у ёй ціхі.* Т, 29. *Апускаецца* [Гануля] *з ціхім плачам на спакаваныя манаткі.* Там жа, 62.

2. Агорнуты цішынёй; маўклівы. *А потым настаў ціхі, залаты вечар, такі вечар, што каб я* [С.Меч] *мог, я спыніўбы яго ды зрабіў яго бясконцым..* ХБ, 29. // Бясшумны, ціхамірны. *Навакола далёка-далёка расьцілаецца раўніна ціхая, вабкая, укрытая нівамі, лясамі і беларускімі вёскамі...* ХБ, 29.

3. Смірны, спакойны. *Праўда, да васеньняга акорду пачуваньняў пастаянна далучаліся сумныя ноткі, але гэты сум такі ціхі, такі нячутна далікатны, што скарэй прыемны, як балючы.* ХБ, 29. *Ніва! Як ня любіць мне таемны твой шум? у ім – і ціхая па пражытым журба. У ім – і бунт, ў ім – жыцьцё, ў ім – людзей барацьба.* АР.

4. Мірны. *Злажылі брата ці ня брата Сыны крывіцкіх ціхіх сёл.* УрП, 52.

5. Ласкавы. *Іншы раз ціхім сонцам зямлю абнімала* [судзьбіна], *Іншы раз пярунамі шумела.* Ч, 322.

Адз. м. Н. *ціхі* (4): Бц, 74; Т, 29; ХБ, 29(2). Т. *ціхім*: Т, 62. ж. Н. *ціхая* (2): АР; ХБ, 29. н. Т. *ціхім*: Ч, 322. Мн. Р. *ціхіх*: УрП, 52.

**[ЦІХІ-ЦІХІ]** *прым.* Вельмі ціхі. [Спічыні]: *Спачатку кажаце ціхім-ціхім голасам, пасля штораз – мацней, а пад канец бухаеце грамабойным голасам..* Т, 40.

Адз. м. Т. *ціхім-ціхім*: Т, 40.

**[ЦІХНУЦЬ-ЦІХНУЦЬ]** *незак. Разм.* Сціхаць, замаўкаць. *Залопаў крыльлямі пятух, – І ціхне-ціхне ўсё ў замчышчы..* Кц, 197.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *ціхне-ціхне*: Кц, 197.

**[ЦІША]** (3) *ж.* Адсутнасць гукаў, шуму; спакой, цішыня. *Хочаш цішы прытульнай і ласкі патольнай, Збудаваць божы быт на пакутах, – Дай другім волі ў волю, і сам будзеш вольны.* Ч, 323. *Аб жыцці беспраглядным сваім Разважаю я ў гэтай цішы.* ЧС, 50-51.

Адз. Р. *цішы* (2): Дз, 189; Ч, 323. М. *цішы*: ЧС, 50-51.

**ЦІШКОМ** *прысл.* Ціха, употай. [Мікіта]: *Значыцца, выгандляваў цішком, каб ніхто не бачыў, тое-сёе з гэтай кантрабанды на якую-сякую панчоху ці шкарпэтку, палажы сабе, меджду протчым, на воз і вязі сабе ў сваёй каламажцы.* Т, 45–46.

**ЦІШЫНА** (2) *ж. Руск.* Цішыня. *Узняўся гоман надхаўтурны, Запанавала цішына..* УрП, 52. *Глуш абнялася з цішыной І спавівае ўсё у чары..* Кц, 192.

Адз. Н. *цішына*: УрП, 52. Т. *цішыной*: Кц, 192.

**ЦО** *займ. Польск. Тое, што* што[1] *ў13 знач.* [Заходні

вучоны]: *Цо сень тычы граніц політычных краю, то взглендэм іх у месцовэй людності вшэхпольскей пшэдставене бардзо не ясне.* Т, 47.

**ЦОСЬ** (2) *займ. Польск. Тое, што* што-небудзь. [Заходні вучоны]: *(да Янкі). Можэ шановны пан поінформуе цось о пшыродзе так званэй по вашэму Бялэй Русі і цось о тэм, яке собе закрэсляце граніцэ політычнэ.* Т, 47.

**ЦУД** (6) *м.* 1. Нешта незвычайнае, звышнатуральнае. *Мы* [беларусы] *сядзелі, злажыўшы рукі, і чакалі нейкага цуду, якое зьявіцца і забярэ нашае ліхо.* БС. *Брыдзеш* [Новы год] *з няведамых старонаў, Як здань няведамага цуду.* НГд, 8.

2. Тое, што вялікае захапленне. *Бо хто калі думаў, што жыці я буду, Як птушка, як вецер над нівай квяцістай, І дзівам дзівіцца вялікаму цуду, Што вокал мяне так цуднее ўрачыста.* ТП, 213. *Параўн.* цуда.

Адз. Н. *цуд*: НК. Р. *цуду* (2): БС; НГд, 8. Д. *цуду*: ТП, 213. М. *цудзе*: НК. Мн. Н. *цуды*: Р.

**ЦУДА** (2) *н. Разм. Тое, што* цуд *у 2 знач. Я* [Купала] *вельмі і вельмі шчаслівы, што дажыў да тэй пары, калі здолеў убачыць сваімі вачыма вялікі Беламорска-Балтыйскі водны шлях, гэта нябачнае цуда, створанае рукамі большэвікоў чэкістаў па ініцыятыве .. тав. Сталіна.* ЦСБ.

• **Цуда, створанае бальшавікамі**.

Адз. Н. *цуда*: ЦСБ. В.*цуда*: ЦСБ.

**ЦУДАДЗЕЙ** *м. Разм.* Чараўнік, чарадзей. *І вот у гэтую часіну да іх* [людзей] *там дыбаў цудадзей..* УрП, 47.

Адз. Н. *цудадзей*: УрП, 47.

**[ЦУДАТВОРНЫ]** *прым.* Жыватворны, цудадзейны. *Воля і доля над доламі, горамі Госціць у нас цудатворнаю казкаю..* ДПЛС.

Адз. ж. Т. *цудатворнаю*: ДПЛС.

**[ЦУДНЕЦЬ]** *незак. Наватв.* Квітнець, красавацца. *Бо хто калі думаў, што я жыці буду, Як птушка, як вецер над нівай квяцістай, І дзівам дзівіцца вялікаму цуду, Што вокал мяне так цуднее ўрачыста.* ТП, 213.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *цуднее*: ТП, 213.

**[ЦУДНЫ]** *прым. Польск.* Небывалы, нябачаны. *Маладой юнацкай славай, Ці то ўзімку, ці то летам, Нібы сонца, цуднай з'явай Прамянееш ты* [камсамол] *ў сусветах.* СА, 178.

Адз. ж. Т. *цуднай*: СА, 178.

**ЦУДОЎНА** *прысл. да* цудоўны *ў 1 знач. Не аб снах, у якіх сніцца Доля, шчасце людзям, Не аб казках, дзе цудоўна Цуд ідзе на цудзе, - Мая песня сёння будзе Радасцямі ройнай – Аб любімых кандыдатах У Савет Вярхоўны.* НК.

**ЦУДОЎНЫ** (4) *прым.* 1. Дзівосны, незвычайны. *Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў, .. Што яваю станецца сон міліёнаў, Цудоўныя казкі ў жыццё ператворыш, Абсееш пасевам жывучым загоны І сцежкі намеціш да сонца і зораў.* ТП, 217.

2. Вельмі добры, выдатны. [Дама]: *У мяне з'явілася цудоўная ідэя: той вечар у вас* [Мікіты] *на імянінах .. такое мілае ўражанне пакінуў, што я вельмі была б шчаслівай, каб сёння яго паўтарыць.* Т, 51.

3. Заможны. *Яны* [трацкісты] *хацелі разграміць нашы фабрыкі і цудоўныя калгасы, якія зажылі светлым, радасным сталінскім жыццём.* ВНЗ.

4. Прыемны на смак. [Дама]: *Але напітак ваш, мусье Зносілов, цудоўны – нічым амброзія.* Т, 28.

Адз. м. Н. *цудоўны*: Т, 28. ж. Н. *цудоўная*: Т, 51. Мн. В. *цудоўныя* (2) : ВНЗ; ТП, 217.

**[ЦУКАР]** (2) і *разм.* **[ЦУКЕР]** *м.* Харчовы прадукт, белае крышталічнае рэчыва, салодкае на смак. ..[Антанта] *махнула на ўсіх рукою, узяла паехала ў Маскву, і цяпер сядзіць у Крамлі з Леніным і Троцкім, п'е зёлкі без цукру (бо, як ведама, у Маскве няма ні гарбаты, ні цукру), цалуецца з Леніным, абдымаецца з Троцкім і Калмановічам..* Ан, 19. *Пабочные-ж налогі зусім іншые: збіраюцца яны не с таго, хто штось мае, а с таго што паступае на продаж, як напр. акцыз на табаку, цукер, гэрбату і інш., або таможэнны збор з заграні́чных тавараў.* ВН.

Адз. Р. *цукру* (2): Ан, 19(2). В. *цукер*: ВН.

**[ЦУРАЦЦА]** *незак.* Адракацца, выракацца. *Хай калом магіла Для вас, злыдні, будзе, Каб гэтай магілы Цураліся людзі!* МПв, 220.

Абв. пр. мн. *цураліся*: МПв, 220.

**ЦЫБУК** *м.* Стрыжань курыльнай люлькі. [Янка]: *Як жа вам спадабаліся гэтыя, не пры людзях кажучы, вучоныя?* [Аленка]: *Мне – як мне, а татку – адно цыбук звоніць аб зубы: ці то са страху, ці то з вялікай пашаны да вучоных.* Т, 27.

Адз. Н. *цыбук*: Т, 27.

**ЦЫБУЛЯ** (2) *ж.* Агароднінная расліна сямейства лілейных. [Мікіта]: *Вось тут селядцы, во цыбуля да іх, а вот сала, а тут... медждў протчым – кілечкі... пальцы госцікі абліжуць.* Т, 21. [Мікіта]: *..вось пападаецца па дарозе якая-небудзь кантрабанда, іначай кажучы – рэчы, якія ўвозіць у Менск забаронена: мука, крупа, бульба, сала, масла, цыбуля, рэдзька і гэтаму, медждў протчым, падобнае.* Там жа, 45.

Адз. Н. *цыбуля* (2): Т, 21, 45.

**[ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ]** *ж.* Культура, прагрэс, асвета. *Гэтую прыязнь да совецкае культуры, да нашае краіны, у якой народ Чэхаславакіі бачыць адзінага абаронца міру і цывілізацыі, мы* [дэлегаты] .. *адчувалі .. ў кожным горадзе, мястэчку, вёсцы на шляху нашага двухтыднёвага падарожжа.* ПЧ.

Адз. Р. *цывілізацыі*: ПЧ.

**ЦЫГАН** (2) *м.* Прадстаўнік цыганскай народнасці. *Песьняй роднай таргуе* [паэт], *як коньмі цыган.* БН, 92. [Янка]: *Але чаму б вам, колежскі рэгістратар Нікіцій Зносілов не стацца тым, чым вы самдзеле ёсць: Мікіта Зносак – і мілагучна і патутэйшаму: ды языкоў не трэба мяняць, як цыган коні?* Т, 48.

Адз. Н. *цыган* (2): БН, 92; Т, 48.

**ЦЫНІЧНЫ** *прым.* Поўны цынізму, бессаромнасці. *Праўду сказаць, я* [Купала] *і да гэтага быў не вельмі рэлігійным, але гэты цынічны торг ксяндза канчаткова выбіў з мяне рэшткі веры.* А, 328.

Адз. м. Н. *цынічны*: А, 328.

**[ЦЫРКУЛЯР]** *м. Тое, што* дырэктыва. *..начальнікі "вучэбных" вокругаў рассылалі цыркуляры, каб барані Божа народныя настаўнікі не чыталі беларускай газэты "Наша Ніва"..* МІ, 17.

Мн. В. *цыркуляры*: МІ, 17.

**[ЦЫРЫМАНІЯЛЬНЫ]** *прым.* Урачысты, святочны. *Пасля некалькіх мінут раптоўна ўрываюцца зыкі вайсковай музыкі, граючай цырыманіяльны марш..* Т, 43.

Адз. м. В. *цырыманіяльны*: Т, 43.

**[ЦЫФРОВЫ]** *прым. Руск., разм.* Лічбавы. *Прывяду* [Купала] *рэзультат маленькай цыфровай спраўкі.* ВСп, 91.

Адз. ж. Р. *цыфровой*: ВСп, 91.

**ЦЬВЕТ** *гл.* **ЦВЕТ**.

**ЦЬВЁРДА** *гл.* **ЦВЁРДА.**

**ЦЬВЁРДЫ** *гл.* **ЦВЁРДЫ.**

**ЦЬВІСЬЦІ** *гл.* **ЦВІСЦІ.**

**ЦЬВІТУЧЫ** *гл.* **ЦВІТУЧЫ.**

**ЦЬВЯРДЗІЦЬ** *незак. Руск., разм.* Сцвярджаць. *Мы з пэўнасьцяй ня можам цьвярдзіць – ці быў тады гымн нацыянальны, ці ня быў.* СБНГ.

Інф. *цьвярдзіць*: СБНГ.

**ЦЬМА** (5) *ж.* 1. *Тое, што* цемра *ў 1 знач. Ах, скарэй-бы дзень вечны, ці вечная цьма!* БН, 93.

2. *Тое, што* цемра *ў 3 знач. На зьдзек прадажныя прарокі І на гніцьцё у царстве цьмы Вядуць аплучаныя тоўпы Пад стогны вечныя турмы.* РС, 40. *Ня век сеяци вам* [чорнасотнікам]

*цьму, Весна зменіць нам зіму!* ВЧ.

3. *перан.* Здань, прывід. *Мы ў страху... дум крутня... разбежнасць... Без тольку крыллем лопаем, як цьмы. О так, як цьмы, як спужаны вароны!..* Бч, 9.

Адз. Н. *цьма*: БН, 93. Р. *цьмы*: РС, 40. В. *цьму*: ВЧ. Мн. Н. *цьмы* (2): Бч, 9(2).

**[ЦЬМЯНЫ]** *прым.* Няяркі, бляклы. *І хіва мерыць* [абываталь] *шаль перад трумо Пры цьмяным бліску дымлівых капцілак.* ВБЛ, 81.

Адз. м. М. *цьмяным*: ВБЛ, 81.

**ЦЬФУ** *выкл. Руск., разм.* Выражае незадаволенасць чым-небудзь. [Гарошка]: *Цьфу! Няма на іх* [гасцей Мікіты] *доўгай пугі.* Т, 29.

**[ЦЭЛІЦЬ]** *незак.* Цаляць, меціць. *Сцеражыся подлы вораг! Яго* [камсамольца] *метка цэліць куля, – Змеле злыдзеня на порах.* СА, 181.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *цэліць*: СА, 181.

**ЦЭЛЫ** (26) *прым.* 1. Увесь, поўнасцю. *..цэлы год гэты маленькі народ* [буры] *мучыў сваім жаданнем незалежнасці вялікую Англію.* НДН, 18. *Мусім лучыцца у гурткі і гэткім манерам закупліваць збожэ для цэлай вёскі там, дзе яго ёсьць лішніца.* ВС. // На ўсёй адлегласці, на ўсю адлегласць (пра прастору). *Гаспадарка цэлаго краю, ці аддзельных людзей павінна па сіле магчымасьці не спыняцца, а ісьці далей і шырэй..* ВС. *Засядзе народ ў Крэмлі Кліч кінуць на цэлы белсвет..* ТП, 217.

2. Ужываецца пры абазначэнні чаго-н. вельмі вялікага, значнага. *Дужым стане* [сынок], *што здаецца Павярнуў-бы цэлы сьвет..* М, 20. *Таргуюцца* [паны-гандляры] *за цэлыя народы, за цэлыя дзяржавы, а ўсё для таго, каб нажыцца..* Тж, 15.

3. *У знач. наз.* Пра тое, чаму ўласціва цэльнасць. ..[Купала] *пачаў іх* [ідэі] *адбіваць у сваей далейшай творчасьці, апяваючы як нешта цэлае пазаклясавае беларускі "народ"..* АЛ.

Адз. м. Н. *цэлы*: АБ, 16. Р. *цэлаго*: ВС. Д. *цэламу*: УПУВ. В. *цэлы* (5): М, 20; НДН, 18; ТП, 217; Ч, 323, 324. М. *цэлым* (6): БСУ; ВС; З; НДН, 18, 19; РКр. ж. Р. *цэлай*: ВС. В. *цэлую*: Нз, 14. н. В. *цэлое*: АЛ. Мн. Р. *цэлых* (2): ВС (2). В. *цэлыя* (4): Т, 45; Тж, 15(2); ХБ, 29; *цэлые*: ДК. Т. *цэлымі* (2): ДК; УП.

**[ЦЭЛЬ]** *ж.* Прадмет, месца, куды накіроўваецца стрэл. *Цэль рассекаюць агнестрэлы..* Кц, 196.

Адз. В. *цэль*: Кц, 196.

**ЦЭМЕНТУЮЧЫ** *дзеепрысл. да* цэментаваць. Гуртуючы,

аб’ядноўваючы. *Яшчэ ў гады грамадзянскай вайны Вы, Нікалай Іванавіч, нямала зрабілі для беларускага народа, адстойваючы яго самастойнасць.., цэментуючы вакол Леніна і Сталіна рады КП(б)Б.* НКУС.

**[ЦЭНЗ]** *м. Спец.* Умовы, якія дазваляюць асобе карыстацца тымі ці іншымі палітычнымі правамі. *Я* [Купала], *беларускі паэт, быў безгалосы, як і мой народ, бо не меў цэнзу.* ГВУ.

Адз. Р. *цэнзу*: ГВУ.

**[ЦЭНЗУРА]** *ж.* Сістэма дзяржаўнага нагляду за друкам, за зместам друкаваных твораў. *Так першая мая* [Купалы] *кніжка – “Жалейка” канфіскована двойчы: пецербургскай цэнзурай і віленскім генерал-губернатарам.* ГВУ.

Адз. Т. *цэнзурай*: ГВУ.

**[ЦЭНТР]** (2) *м.* 1. Сярэдзіна чаго-н. *Госці садзяцца за стол. Поп у цэнтры.*Т, 27.

2. Месца сканцэнтравання якой-н. дзейнасці. ..[Акадэмія Навук] *з’яўляецца цэнтрам беларускай совецкай культуры..* ШБСЯ.

Адз. Т. *цэнтрам*: ШБСЯ. М. *цэнтры*: Т, 27.

**[ЦЭНТРА-БЕЛСАЮЗАЎСКІ]** *прым.* Які мае адносіны да цэнтрабелсаюза. [Мікіта]: *Не зацірка, дзядзька беларус, не зацірка, а праўдзівая цэнтра-белсаюзаўская, меджду протчым, патака.* Т, 54.

Адз. ж. Н. *цэнтра-белсаюзаўская*: Т, 54.

**[ЦЭП]** (2) *м.* Ручная прылада для малацьбы збожжа. *Цапы і вілы ў высь сягалі, Як быў абшар далёк, вялік.* УрП, 47. *Грымнулі вілы і цапы.* Там жа, 52.

Мн. Н. *цапы* (2): УрП, 47, 52.

**[ЦЭРАМОНІЯ]** (3) *ж. Разм.* 1. Парадак правядзення якой-н. урачыстасці. [Мікіта]: *Вы толькі, меджду протчым, мамаша адказвайце, як я вас вучыў, а ўсялякіх іншых цэрамоній буду я сам даглядаць.* Т, 22.

2. *мн.* Умоўнасці ў паводзінах. [Ганулля]: *Ды што за цэрамоніі! Можаце гасціць* [Янка] *у мяне хоць кожны дзень.* Т, 19.

◊ **Без усякае цэрамоніі** – адразу, прама. [Наста]: *Без усякае цэрамоніі нашаму дзявоцкаму стану канкурэнцыю робіце* [Мікіта] *– як кокетка, фліртуеце з люстэркам.* Т, 24.

Адз. Р. *цэрамоніі*: Т, 24. Мн. Р. *цэрамоній*: Т, 22. В. *цэрамоніі*: Т, 19.

**ЦЯГАННЕ** *н. Разм. Дзеянне па дзеяслову* цягаць *у 2 знач.* [Начальнік]: *Гэтыя пісталеты, награбленая гарэлка, патака, цяганне чужых рэчаў, служба даношчыкам, усё гэта таксама для нас добрыя паперы, хоць для вас, можа, і дрэнныя паперы.* Т, 62.

Адз. Н. *цяганне*: Т, 62.

**ЦЯГАЦІ** *гл.* **ЦЯГАЦЬ.**

**[ЦЯГАЦЦА]** *незак. Разм.* Блукаць, вандраваць. *Цягалася крыўда па сьвеце, Ад хаты да хаты блудзіла..* Кр.

Абв. пр. адз. ж. *цягалася*: Кр.

**ЦЯГАЦЬ** (6) і *разм.* **ЦЯГАЦІ** *незак.* 1. *Тое, што* цягнуць *у 2 знач.* [Мікіта]: *Цяпер так: калі конь можа цягаць павозку, то чалавек і пагатове.* Т, 45. [Мікіта]: *Каламажку я цягаю з сабой толькі дабравольна і толькі для ўласнай выгады.* Там жа, 45.

2. *Разм.* Насіць што-н. цяжкае. [Гануля]: *Вось адзін пан .. урэпіўся за Мікітку і загадаў яму цягаць чужыя рэчы ў свой панскі пакой..* Т, 57. [Мікіта]: *Э! так бы і сказалі, гэр Спічыні, што я цягаў. Але я не грабіў.* Там жа, 60.

3. *перан.* Адчуваць на сабе. *На другіх будзе* [першы сын] *строіці петлі і путы І сам гэтыя путы цягаці.* Ч, 319.

Інф. *цягаць* (2): Т, 45, 57; *цягаці*: Ч, 319. Абв. цяп. адз. 1 ас. *цягаю*: Т, 45. Пр. адз. м. *цягаў*: Т, 60. Мн. *цягаці* (2): Т, 60(2).

**ЦЯГАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* цягаць *у 1 знач.* [Гануля]: .. *бедны Мікітка як не падарваўся, цягаючы футры ды спадніцы.* Т, 57.

**[ЦЯГНІК]** *м. Тое, што* поезд. *Мы* [дэлегаты] *бадай што не бачылі па дарозе таварных цягнікоў..*ПЧ.

Мн. Р. *цягнікоў*: ПЧ.

**ЦЯГНУЦІ** *гл.* **ЦЯГНУЦЬ.**

**ЦЯГНУЦЦА** (3) *незак.* 1. Прадаўжацца, працягвацца. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, можа, пакінеце на хвіліну гэты пакой, пакуль у нас будуць цягнуцца лекцыі.* Т, 49.

2. *Разм..* Ісці, адпраўляцца куды-н. [Мікіта]: .. *не хачу быць генэралам і не хачу ў палон цягнуцца.* Т, 33.

◊ **Цягнуцца ў хвасьце –** быць адстаючым. *Мы, беларусы, дзякуючы усялякім гістарычным і палітычным безгалоўям нашай бацькаўшчыны, вечна цягнуліся ў хвасьце сваіх суседзяў.* СБНГ.

Інф. *цягнуцца* (2): Т, 33, 49. Пр. мн. *цягнуліся*: СБНГ.

**ЦЯГНУЦЬ** (17) і *разм.* **ЦЯГНУЦІ** *незак.* 1. Набліжаць да сябе з сілай. [Гануля]: *Усё роўна як той дзед з бабуляй рэпку сваю цягнулі-цягнулі, ды ніяк не маглі выцягнуць.* Т, 54.

2. Перамяшчаць за сабой, везці. *Гануля цягне* [каламажку], *а Мікіта падпіхвае.* Т, 50.

3. Працягваць у якім-н. напрамку. *Грудзі ўпалі твае, рукі цягнеш* [братка] *да зор..* БН, 92. *Худые рукі* [людзі] *ў высь цягнулі.* Кц, 194.

4. *Разм.* Несці што-н. куды-н. *Ізноў цягну* [у рэдакцыю] *стаццю ў тысячу радкоў..* Ан, 19.

5. *Разм.* Прымушаць ісці куды-н. [Гануля]: *Толькі пільнуйся сынок, каб ён* [немец] *не ўдумаў цягнуць цябе ў палон і пры адступленні.* Т, 34.

6. Вабіць куды-н., да чаго-н. [Гануля]: *Не цягне яго* [Мікіту] *і туды* [на вёску], *мой саколік, ой, не цягне!* Т, 20. [Мікіта]: *Меджду протчым, змалку дзён мяне цягнула да свабоды і гандлю.* Там жа, 36.

7. *Разм.* Вымагаць. [Мікіта]: *..за гэтую мізэрную працу цягнуў* [пралетарыят] *крывавую капейку з беднай буржуазіі.* Т, 40.

◊ **Цягнуць лямку** – займацца цяжкай працай. *Трэба горда цягнуць лямку жыцьця, як цягнулі яе і да вайны, ды болей ешчэ адзін аднаму паддаваць духу..* ВС.

Інф. *цягнуць*: ВС; *цягнуці*: НД. Абв. цяп. адз. 1 ас. *цягну*: Ан, 19. 2 ас. *цягнеш*: БН, 92. 3 ас. *цягне* (5): Т, 20(2), 33, 50, 54. Мн. 3 ас. *цягнуць* (2): Т, 33, 34. Пр. адз. м. *цягнуў*: Т, 40. ж. *цягнула*: Т, 36. Мн. *цягнулі* (4): Кц, 194; МІ, 17; Т, 54(2). Заг. мн. 2 ас. *цягнеце*: Т, 34.

**ЦЯГНУЧЫ** *дзеепрысл. да* цягнуць *у 2 знач. Увaходзіць Мікіта.., цягнучы за сабой каламажку..* Т, 45.

**ЦЯЖКА** (13) *прысл.* 1. *Прысл. да* цяжкі *ў 2 знач. Цяжка паспець купіць совецкую газету.* ПЧ. *Камень кінулі ў палонку, А цяпер цяжка падняць.* ВБЛ, 82. ПСп; СТ; Т, 28.

2. *Прысл. да* цяжкі *ў 3 знач.* [Гануля]: *Мы наракаем, што цяпер цяжка жывецца, а як падумаеш, дык і ўперад не вялікі мёд быў.* Т, 44. *9 студзеня г. г. я* [Купала] *цяжка захварэў..* ЛР. БС; Т, 20.

3. Марудна, павольна. [Янка]: *Але, мабыць, цяжкія вашы справы, што так цяжка вам час плыве: месяцы ў цэлыя леты і зімы замяніліся?* Т, 46.

4. Жалобна, тужліва. *Цяжка стогне, плача матка.* ГЖУ.

5. *безас. У знач. вык.* Пра душэўныя хваляванні. *Балюча і цяжка усьведамляць мне сёньня, што я* [Купала].. *не дапамагаў з усёй адданасьцю і захапленьнем ажыцьцяўленьню заветных лятуценьняў чалавецтва, ажыцьцяўленьню соцыялізму. Балюча і цяжка.* АЛ.

**ЦЯЖКІ** (19) *прым.* 1. Які мае вялікую вагу, з грузам вялікай вагі. *..стаяць вялікія цяжкія калоды. Гэта – ..вульлі для пчол.* ХБ, 30. [Аленка]: *Ну і цяжкія ж гэтыя торбы!* Т, 46.

2. Які патрабуе вялікай працы, энергіі, сіл для ажыццяўлення чаго-н. *Намі пройдзен вялікі і цяжкі шлях.* ВГР.

3. Які пераадольваецца з цяжкасцю. *Хай багацейшые укладаюць у гэта грошы, каб бяднейшые маглі з іх у гэты цяжкі час карыстаць.* ВС. *Гэта было цяжкае галоднае прадвесьне..* БСУ. // Які звязаны з болем. ..[д-р Маліноўскі] *стараўся аблягчыць мае* [Купалы] *цяжкіе мучэньні.* ЛР.

4. Нясвежы. [Янка]: *..не люблю я горада: вельмі ўжо ў ім цяжкае паветра.* Т, 21.

5. Змрочны, невясёлы, сумны. *Думы цяжкія роем снуюць..* ЧС, 50-51. // Непрыемны. *Цяжкае ўражанне робіць гэтая ні то памершая, ні то паміраючая краіна...* ПЧ.

6. Дрэнны, кепскі. [Янка]: *Але, мабыць, цяжкія вашы справы, што цяжка вам час плыве..* Т, 45.

Адз. м. Н. *цяжкі* (2): ВБЛ, 80; ВГР. В. *цяжкі* (2): ВС; ГП, 8. Т. *цяжкім*: СНБ. ж. Р. *цяжкай*: ДД. М. *цяжкай*: Пп, 5. н. Н. *цяжкае* (2): БСУ; ДД. В. *цяжкае*: ПЧ. Мн. Н. *цяжкія* (4): Т, 45, 46; ХБ, 30; ЧС, 50-51. В. *цяжкія* (3): БВ, 16; МІ, 17; Т, 51; *цяжкіе*: ЛР. М. *цяжкіх*: ВСп, 91.

**ЦЯКУН** *м. Абл.* Баран. *..авечку стрыгуць, а цякун (баран) дрыжыць.* СП.

Адз. Н. *цякун*: СП.

**[ЦЯМІЦЦА]** *незак.*: ◊ **Каб вы цяміліся** – ужываецца як нязлосны праклен. [Ганулял]: *Ну, і пайшлі плот гарадзіць, каб вы цяміліся, мае ж вы шлюбоўнікі?* Т, 53.

Абв. пр. мн. *цяміліся*: Т, 53.

**[ЦЯМНІЦА]** (2) *ж. Тое, што* турма *ў 1 знач. Сьляпы зьнемагаецца бацька ў цямніцы; На стражы пастаўлен сынок..* ЗК, 42. *І рухнуць апоры Фашысцкіх цямніц, Нявольнікі выйдуць Да ясных зарніц.* СС, 301.

Адз. М. *цямніцы*: ЗК, 42. Мн. Р. *цямніц*: СС, 301.

**ЦЯМНЯК** *м. Польск., разм. Тое, што* цямрук. [Мікіта]: *Я не цямняк, пане... пане дырэктар беларускай басоты.* Т, 22.

Адз. Н. *цямняк*: Т, 22.

**[ЦЯМНЯЦКІ]** *прым. Польск., разм.* Цёмны, падазроны. [Янка]: *Ваша лінія* [жыцця] *не простая, а крывабокая, – цямняцкая ваша лінія..* Т, 22.

Адз. ж. Н. *цямняцкая*: Т, 22.

**ЦЯМРУК** *м. Польск.* Цёмны чалавек. *Цямрук ілжывы, прайдзісьвета, Пасол ты ліса ці ваўка.* УрП, 52. *Параўн.* цямняк.

Адз. Н. *цямрук*: УрП, 52.

**[ЦЯМРЫЧНЫ]** *прым.*: • **Цямрычная ласка** *гл.* ласка.

Адз. ж. Р. *цямрычнай*: Кц, 194.

**[ЦЯНЕЦЬ]** *незак. Разм.* Марнець, чахнуць. [Мікіта]:

*Буржуазія з кожным днём ад недастаткаў таўсцее – казаў той – расла не ўвышкі, а ўпапярэчкі, меджду протчым, як той гарбуз, а пролетарыят ад роскашы цянеў – казаў той – рос не ўпапярэчкі, а ўвышкі, меджду протчым, як тая тычка.* Т, 40.

Абв. пр. адз. м. *цянеў*: Т, 40.

**[ЦЯНЁТЫ]** *толькі мн.* Пастка. *Ў свае цянёты* [прыблуднік] *вабіць зьвера..* УрП, 48.

В. *цянёты*: УрП, 48.

**[ЦЯНІСТЫ]** *прым.* Такі, у якім шмат ценю. *..былі толькі запаведныя лясы і гаі цяністыя, дзе складаліся ахвяры багам прамудрым.* Кз, 17.

Мн. Н. *цяністыя*: Кз, 17.

**ЦЯНЮЮЧЫ** *дзеепрысл. да* ценяваць. *А за ім* [чараўніком] *сучыць сьледам, цянюючы, зводнік.* Ч, 326.

**ЦЯПЕР** (108) *прысл.* 1. Зараз, у гэты момант. [Гануля]: *Ну, цяпер успомніла! Гэта ж мы блізкія сваякі.* Т, 25. [Мікіта]: *Цяпер я, высокія госці мае, прапаную тоста...* Т, 28. // На гэты раз. *Ужо раз палякі загналі Беларусь у рукі маскоўскага барбара, – ці ня робіцца гэта й цяпер?* ОШМ. [Янка]: *Цяпер я да вас, цётачка, толькі не з спрэчкай, а з просьбай.* Т, 49.// У гэты час. *Вялікую цяпер перэжываем вайну..* ВН. *Цяпер, што бачу я кругом?* АПЖ. *Параўн.* абэцне, ныне, цяперака.

Ан, 19(2); АБ, 16; Б, 18; БрБ, 6(2); БВ, 16, 17; БС; БСУ; Вб, 237; ВБЛ, 80(2), 82(4), 83(2); ВН; ВС; ВСп, 89, 91(2); Гр, 215; ГВУ; ДД (2); ДК; Ж; ЗС, 17, 18; Кз, 17; МІ, 17(2); Н; НД; ОШМ; ПЛП (3); РКр; СБНГ; СНБ, 340; СНБ (3); Т, 20(3), 27, 28(4), 30(4), 40(4), 41(3), 44(2), 45, 46, 50(2), 51(2), 52, 53, 54, 55(2), 56, 57, 58, 59, 62(2); Тж, 16; УП; УрП, 50; УПУВ; ХБ, 28(2), 29; ХЛВ, 315; $Ш_3$.

2. Ужываецца пры пераходзе да наступнай тэмы гаворкі. *Цяпер некалькі слоў аб нашых выдавецтвах.* ВСп, 90. *Цяпер мы павінны зьвярнуць увагу на праціўны лагер.. – на Польшу..* СНБ.

Т, 31, 40, 41, 49(2), 50.

**ЦЯПЕРАКА** (4) *прысл. Абл. Тое, што* цяпер *у 1 знач. Цяперака час жытняй сяўбы.* РКр. *Вера ў нашых продкаў была трохі іншая, як цяперака, бо не аднаго бога мелі, а некалькі..* Кз, 17. ВН; Н.

**ЦЯПЕРАШНІ** (13) *прым.* Які мае адносіны да сучаснасці, існуе цяпер. *Гэй ты, гэй, прамінуўшы мой час! Гэй, ты, гэй, мой цяперашні дзень!* ЧС, 50–51. *Цяперашняя ўлада павінна забараніць .. цяперашнюю вакханалію з зямлёй, гэту*

*бессістэмную куплю-прадажу.* ЗС, 18. // Які працуе, з'яўляецца кім-н. у сучасны момант. *..рукою яе* [Польшчы] *цяперашняга Гаспадара Язэпа Пілсудзкага вырвана ад маскалеу Вільня і збуджаны к жыцьцю, спаушый доугіе годы Батораускі Унівэрсытэт.* УПУВ. *Гэты перыяд нашых дамаганняў і змаганняў за свае неадменныя правы на ўласнае незалежнае існаванне астаўляем разабраць як следна нашым цяперашнім і будучым гісторыкам.* СНБ, 337. *Параўн.* нынешній.

Адз. м. Н. *цяперашні* (2): ПЛП; ЧС, 50-51. Р. *цяперашняга*: УПУВ. Т. *цяперашнім*: Т, 57. ж. Н. *цяперашняя* (3): ЗС, 18(2); Т, 51. Р. *цяперашняй*: БВ, 18. В. *цяперашнюю*: ЗС, 18. н. Н. *цяперашняе*: Т, 50. Мн. Н. *цяперашнія*: БВ, 17. Д. *цяперашнім*: СНБ, 337. В. *цяперашнія*: НДН, 18.

**ЦЯПЕРСЯ** *прысл. Разм.* Не так даўно, нядаўна. [Наста]: *Я ж вам* [Мікіту] *ужо цяперся забараніла думаць аба мне, пакуль не зробіцеся асэсарам.* Т, 42.

**ЦЯПЕРШЧЫНА** (2) *ж. Разм.* Сучаснасць. *Што яна* [Беларусь] *павінна такой стацца, за гэта гавораць яе мінуўшчына, яе цяперашчына.* Нз, 14. *А чарку першую ўзнясём За цень мінуўшчыны у сеці, Другой к цяпершчыне прапьём, Праславім будучыну трэйцяй.* Кц, 196.

Адз. Н. *цяпершчына*: Нз, 14. Д. *цяпершчыне*: Кц, 196.

**ЦЯПЛЕЙ**[1] *прысл. Пар. ст. да* цёпла. *перан.* Найболей, у вялікай колькасці. *Цары .. запрудзілі край усялякай маскоўскай чорнай галытнёй, якая тут* [на Беларусі] *толькі аб адным дбала, каб як цяплей пагрэць рукі ды захапіць "маёнтак".* Нз, 14.

**[ЦЯРНІСТЫ]** (3) *прым. перан.* Поўны цяжкасцей, пакут, нягод. [Аленка]: *Але цярністы шлях мусіць прайсці душа народная, пакуль збавіць гэта сваё "я" ад чужой няволі.* Т, 35. *..пойдзем далей сваім хоць цярністым, але святляным шляхам..* ПЛП.

Адз. м. В. *цярністы* (2): ПЛП; Т, 35. Т. *цярністым*: ПЛП.

**[ЦЯРПЕННЕ]** і **[ЦЯРПЕНЬНЕ]** (3) *н.* Здольнасць цярпець, стойка пераносіць жыццёвыя нягоды, нястачу. *Можэ з іншаго хто краю Скеміў-бы сумленне, Што яна* [душа] *там вычварае З жалю і цярпення.* Дз, 191. ..[забабон] *кідае балотам на адвечнае цярпеньне, на крывавые сьлёзы..* З.

Адз. Р. *цярпеньня*: БН, 91; *цярпення*: Дз, 191. В. *цярпеньне*: З. М. *цярпеньні*: УрП, 49.

**[ЦЯРПЕЦЬ]** (4) *незак.* 1. Мужна, стойка пераносіць фізічныя і маральныя пакуты. *Божа праведны. Божа! над братам брат – кат!.. І за што ж катам той, а той гэтак*

*церпіць?* БН, 92. *..мы* [беларусы] *гэтага як бы ня бачым, а калі і бачым, то ціха церпім ды чакаем, што вось нехта прыйдзе і гэтае нашае ліхо забярэ з сабою.* БС.

2. Зазнаваць, адчуваць. [Гануля]: *Гэткім ладам недастачы вялікай не цярпелі..* Т, 20.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *церпіць*: БН, 92. Мн. 1 ас. *церпім*: БС. Пр. мн. *цярпелі*: Т, 20. Заг. мн. 2 ас. *цярпі*: УрП, 46.

**[ЦЯЧЫ]** (4) *незак.* 1. Ліцца струменямі, патокам. *Крывавы пот цячэ са шчок..* РС, 40. *А на магілах крыўда свішча ды кроў гарачая цячэ.* ГП, 8.

2. *перан.* Ісці, рухацца. *Яны* [бежанцы] *з абозам на усход цяклі..* ВБЛ, 80.

3. *перан.* Пранікаць. [Мікіта]: *І гэтае, меджду протчым, здарэнне пераканала мяне, што кроў свабодных профэсій у маіх жылах яшчэ не цячэ.* Т, 46.

◊ **Кроў цячэ** *гл.* кроў.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *цячэ* (3): ВБЛ, 80; ГП, 8; Т, 46. Пр. мн. *цяклі*: ВБЛ, 80.

# Ч

**[ЧАБАН]** *м.* Пастух, які даглядае авечы статак. *Ад казахскага чабана да прафесара, ад беларускага пастуха да стаханаўца – усё насельніцтва будзе ўдзельнічаць у адзіна дэмакратычных у свеце выбарах.* ГВУ.

Адз. Р. *чабана*: ГВУ.

**ЧАГО**[1] (2) *прысл.* 1. *Тое, што* чаму[1] *у 1 знач.* [Ганулянулуя]: *І чаго бацюшка палез у гэтую палітыку.* Т, 58.

2. *Тое, што* чаму[1] *ў 2 знач.* [Мікіта]: *..калі не ведаеце* [Аленка], *то чаго ўлезлі ў чужую хату, меджду протчым.* Т, 25.

**ЧАГО**[2] *гл.* **ШТО**[1].

**ЧАГОСЬ** *гл.* **ШТОСЬ.**

**ЧАГОСЬЦІ**[1] (3) *прысл. Тое, што* чамусьці. [Мікіта]: *Вы, пане настаўнік, як я заўважыў, чагосьці недалюбліваеце нашай чыстай інтэлігенцыі.* Т, 38. [Ганулянулуя]: *Чагосьці прэцца сюды мамзэль Наста.* Там жа, 58. УрП, 47.

**ЧАД** *м. перан.* Стан незадаволенасці, прыкрасці. *Але гэты чад, як сон кашмарны, мінуў. Сёньня .. я* [Купала] *рашуча і раз назаўсёды .. парываю з беларускім нацыянал-дэмократызмам ва ўсіх яго праяўленьнях.* АЛ.

Адз. Н. *чад*: АЛ.

**ЧАДО** (3) *н. Руск., уст.* Дзіця. [Поп]: *Нет, чадо мое. Акі пастыр, я должэн остацься пры агнцах своіх..* Т, 38. [Поп]: *І прышэд я с німі, дабы однім веселіем возвеселіціся з вамі, чадо мое, рэгістратор!* Там жа, 51.

Адз. Н. *чадо* (2): Т, 38, 51. Мн. Н. *чады*: Т, 52.

**ЧАКАЦЬ** (14) і **ЧЭКАЦЬ** (4) *незак.* 1. Разлічваць на падыход, прыход каго-н., чаго-н. [Спічыні]: *Даруйце, мусье Зносілов, што змусіў вас крыху на сябе чакаць.* Т, 40. [Мікіта]: *..напомніце* [Ганулянулуя] *яму* [Спічыні], *што я ўжо яго чакаю на практычную лекцыю аратарскага мастацтва..* Там жа, 34.

2. Спадзявацца, разлічваць на што-н. *..кінутыя мазолістай рукой здаровыя зярняты заруйнеліся на нашых вачах буйнай квяцістай руняй, ад якой можна смела чакаць ураджайнага жніва.* ПЛП. *Беларускі земляроб верыць і чакае, што панская зямля пяройдзе раней ці пазней у яго рукі..* ЗС, 18. *Параўн.* ждаць.

3. Марудзіць з выкананнем чаго-н. *Мы павінны яе* [незалежнасці] *дамагацца і мірна, і з аружжам у руках, бо жыццё не чакае, і ворагі нашы не дрэмлюць.* Нз, 15. *..час не чакае, нездавальненьне расьце з кожным днем, струна нацягваецца да апошняй магчымасьці.* ОШМ.

4. Быць наканаваным каму-н.; прызначацца каму-н. *Тры паказываў ім* [сынам] *ён* [чараўнік] *на сьвеце дарогі, Тры пуціны іх долі-нядолі, І даваў-насылаў ён сыном асьцярогі: Што чакае у чыстым іх полі.* Ч, 319. *І скажа ён* [Сталін] *так мне з табою: Пра вас я ўжо чуў многа раз, – Вы – хлопчык і лётчык – героі, Чакаюць вось ордэны вас.* ХЛВ, 316. // Знаходзіцца ў стане, што патрабуе якіх-н. змен. *Чакае* [беларус-хлебароб] *перамен, а перамены няма і няма.* ДД. *Гадавала* [маці] *дзетак І чэкала з іх пацехі, Як вясною с кветак.* Дз, 188.

5. Ужываецца як просьба. [Аўтарнік:] *Чакай, чакай, так не разходзься* [народ]*!* УрП, 51.

◊ **Чакай, бабка, Пятра** – спадзявацца, разлічваць на што-н. [Янка]: *Чакай, бабка, Пятра! Пакуль ваша* [Мікіты] *гэта становішча ўстане, то вас саміх чэрві паточаць.* Т, 21.

Інф. *чакаць* (6): БС(2); Нз, 14; ПЛП; Т, 40, 53; *чэкаць*: ВС. Абв. цяп. адз. 1 ас. *чакаю* (3): Т, 32, 34, 54; *чэкаю*; Дз, 191. 3 ас. *чакае* (8): АБ, 16; ДД; ЗС, 18; Нз, 15; ОШМ. Ч, 319, 321; ШБСЯ. Мн. 1 ас. *чакаем* (4): БС (2); Бч, 9; ОШМ; 2 ас. *чакаеце*: Ж. 3 ас. *чакаюць* (5): ЗС, 17(2); Кз, 17(2); ХЛВ, 316; *чэкаюць*: РКр. Пр. адз. м. *чакаў* (4): БВ, 16(2); ЗЯЗ, 89; УрП, 47. ж. *чакала*: Дз, 188. Мн. *чакалі* (5): БС (3); Г, 16; УрП, 47. Заг. адз. 2 ас. *чакай* (4): Т, 21, 44; УрП, 51(2). Мн. 2 ас. *чакайце*: Т, 42.

**ЧАКАЮЧЫ** (2) *дзеепрысл. да чакаць у 2 знач. Там* [за мяжою] *не чутно песень вясёлых, адно толькі смутныя вочы ў людзей глядзяць у наш бок – на Ўсход, чакаючы вызвалення..* ЖН. *Цёмныя людзі.., не чакаючы ні ладу, ні парадку, з усіх сіл стараюцца рабіць сваё грэшнае дзела.* ЗС, 17. *Параўн.* ждучы.

**ЧАЛАВЕК** (34) і **ЧЭЛАВЕК** (3) *м.* 1. Грамадская высокаарганізавана мыслячая істота, якая валодае мысленнем і маўленнем, здольнасцю ствараць прылады працы і карыстацца імі. [Ганулля]: *Бальшавік таксама чалавек.* Т, 22. [Мікіта]: *Цяпер так: калі конь можа цягаць павозку, то*

*чалавек і пагатове.* Там жа, 45. // Асоба як увасабленне пэўных фізічных і духоўных уласцівасцей. *..нейкі стары чалавек падрыхтоўваў групу вучняў у навучальныя установы г. Мінска.* А, 328. *Кожны мала-веле справядлівы чэлавек заплачэ над гэткай нямецкай несправядлівасьцю.* ЧЧШ.

2. Асоба як увасабленне высокіх маральных і духоўных якасцей. *Выпраўляй* [матка] *яго* [сына] *у людзі, На дарогу блаславі, Разам з крыжам дай на грудзі Роднай вузельчык зямлі: Каб ня даўся ў крыўду зьдзекам, Не забыў сваіх старон, Каб вярнуўся чалавекам К роднай Бацькаўшчыне ён.* М, 20.

3. *Разм.* Ласкавы зварот да незнаёмага мужчыны. *Ой, чалавеча, змярцвелы у сне!.. Доўга йшчэ будзеш глухім ты, саколе?..* Н.

4. *Разм., перан.* Селянін. *Можаце сабе ўявіць: чалавек ходзіць за сахой, а следам за ім, як варона хаджу я* [Купала] *і слухаю.* ПС.

Д **Чалавек-машына**: *Ён* [Баця] *вядома, не хоча рыхтаваць адукаваных, соцыяльна-свядомых людзей, яму патрэбен чалавек-машына, "робот".* ПЧ.

◊ **Свой чалавек** – сваяк. [Гануля]: *..хоць вы* [Янка] *ў нас нядаўна закватаравалі, а ўжо лічу вас як свайго чалавека.* Т, 19.

Адз. Н. *чалавек* (18): А, 328; Б, 18; БрБ, 6; Вб, 238; ДК; НК; ПС; ПЧ; СБНГ; СТ (2); Т, 22(2), 29, 44, 45(2); ТП, 216; *чэлавек* (2): ВС; ЧЧШ. Р. *чалавека* (7): Г, 17; ВГР; НДН, 19; ПДС, 231; Т, 19, 45; ХБ, 29. Д. *чалавеку* (3): Т, 50; УП; ХБ, 28. В. *чалавека* (4): СНБ, 338; СНБ; Т, 44; Ч, 325. Т. *чалавекам* (2): М, 20; ТП, 216. М. *чэлавеку*: ВС. Кл. *чалавеча*: Н.

**[ЧАЛАВЕЦТВА]** (8) *н.* Усе людзі планеты, чалавечы род, чалавечае грамадства. *Адбываюцца нячуваныя, грандыёзнейшыя ў гісторыі чалавецтва падзеі.* АЛ. *Я* [Купала] *падам свой голас за вялікага з вялікіх, за генія чалавецтва, за таго, хто даў соцыяльнае і нацыянальнае вызваленне народам..* ГВУ.

Адз. Р. *чалавецтва* (7): АЛ (2); ВНП; ГВУ; МП; СБ; СТ. В. *чалавецтва*: АЛ.

**ЧАЛАВЕЧЫ** (10) *прым.* 1. Які мае адносіны да чалавека *ў 1 знач.*, належыць яму. *Я* [Купала] *.. веру, што ты* [моладзь] *яшчэ сягнеш туды, куды думка чалавечая не здагадвалася сягнуць.* ЖН. *Туман засцілаў людзям душы і вочы, З туманаў тырчэлі гарбатыя плечы. І думаў – канца не дазнаць гэтай ночы, І думаў – не зведаць шляхоў чалавечых.* ТП, 214. // Які складаецца з людзей. *Натхненна гэтак пеў, заводзіў Рой чалавечы на свой лад, – Рака шуміць так у разводдзе, Так стогне ў буру сосен рад.* УрП, 49.

2. Належны, добры. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, трэба хутчэй залю прывесці да чалавечага падабенства.* Т, 50.

Адз. м. Н. *чалавечы* (2): Кр, 79; УрП, 49. Р. *чалавечага* (2): ПЛП; Ч, 323. В. *чалавечы*: Ч, 323 ж. Н. *чалавечая* (2): АБ, 16; ЖН. В. *чалавечую*: СС, 301. н. Р. *чалавечага*: Т, 50. Мн. Р. *чалавечых*: ТП, 214.

**[ЧАЛО]** (8) *н.*: ◊ **На чале** – пад кіраўніцтвам каго-н. *Беларускае в-ва за граніцай на чале з т. Жылуновічам (Цішка Гартны) выпаўніла сваё заданьне як найлепей.* ВСп, 91. *Гэта з'яўляецца новым доказам мудрай нацыянальнай палітыкі, якая праводзіцца комуністычнай партыяй на чале са слаўным правадыром т. Сталіным.* ЦСБ.

Адз. М. *чале* (8): ВНП; ВСп, 91(2); ПНд, 314; СНБ, 337, 338, 339; ЦСБ.

**ЧАМУ[1]** (35) *прысл.* 1. Указвае на прычыны, выступаючы са значэннем "навошта, з якой прычыны". *Чаму яны* [людзі] *з такой упартасьцю дражняць народ і даводзяць яго да вар'яцтва, калі ён, страціўшы прытомнасьць, хватае кій і пачынае біць усіх і кожнага, не разьбіраючы?* ДК. *Чаму гаворыцца адно, а робіцца другое?* ОШМ.

2. Ужываецца ў значэнні злучальнага слова. *"Ісцінопольскіе" дэпутаты ад нашаго краю падалі ў Думу запрос, чаму ў некаторых школах, дзе вучацца каталікі-беларусы, ім выкладаюць рэлігію не па польску, а па расейску?* ВР. [Янка]: *Але ўсё ж такі, чаму вы* [Мікіта] *не паехалі?* Т, 55. // Ужываецца ў значэнні станоўчага адказу на пытанне каго-н. *А гэта вось чаму. Наша незалежнасць соллю ўваччу для незалежнасці нашых суседак – Польшчы і Расіі..* Нз, 14. БН, 92; БрБ, 6(2); ДК (2); ДД; ВМР (5); З; Нз, 14(2), 15; ОШМ (2); СБНГ; Т, 24, 33, 36(3), 39, 42, 48(2), 50, 52, 53, 55.

**ЧАМУ[2]** *гл.* **ШТО.**

**ЧАМУСЬЦІ** *прысл.* Па нейкай прычыне, невядома чаму. [Спічыні]: *У сваёй араторыі вы* [Мікіта] *пераблуталі лёгічныя тэрміны, і там, дзе павінна стаяць першае, у вас чамусьці другое, а дзе – другое, там стаіць першае.* Т, 40. *Параўн.* почему-то, чагосьці.

**ЧАМЯРЫЦА** *ж. Бат.*: **? Чамярыца яго ведае** – нічога невядома пра што-н. [Гарошка]: *І чамярыца яго ведае, як гэта неяк хітра на свеце ўстроена!* Т, 44.

Адз. Н. *чамярыца*: Т, 44.

**ЧАПАЦЬ** *незак., перан.* Вырубаць, высякаць, знішчаць. *..яго* [краю] *лясы і цяпер, калі іх не чапалі, маюць выгляд прыгажэйшых паркаў, – такія яны чыстыя і харошыя..* ХБ, 29.

Абв. пр. мн. *чапалі*: ХБ, 29.

**ЧАПІЦЬ** *зак. Разм., перан.* Пакрыўдзіць. [Аўтарнік:] *Дзе толькі ступіце* [дванаццаць выбраных], *зьнямее Нямая чорная напасьць, Ніхто чапіць вас не пасьмее, Усякі вам дарогу дасьць.* УрП, 50.

Інф. *чапіць*: УрП, 50.

**[ЧАПЛЯЦЬ]** *незак.* Прымацоўваць. *Мікіта хапае чырвоную хустачку, чапляе на канец парасона і вывешвае праз віконную фортачку.* Т, 59.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *чапляе*: Т, 59.

**[ЧАПНУЦЬ]** *зак. Разм.* Крануць, датыкнуцца да чагон. [Другі ганец:] *А як чапнуў стралой аб лук, Яны* [людзі] *скрануліся ў прасонні, І столькі, столькі крэпкіх рук К маёй паціснулася броні.* Кц, 195.

Абв. пр. адз. м. *чапнуў*: Кц, 195.

**[ЧАР]** *м. Польск. Тое, што* чары *ў 2 знач. Не каханак чорнавокіх, што скрозь сеюць дзіўны чар – Я – пясьняр стапоў шырокіх, Краю вольнага пясьняр!* КЧ.

Адз. В. *чар*: КЧ.

**[ЧАРАВІК]** *м.* Скураны абутак на шнурках. *Каханне хлапца і дзяўчыны дасягае свайго апагею толькі калі яны дауразумеюцца набыць чаравікі бацяўскага вырабу...* ПЧ.

Мн. В. *чаравікі*: ПЧ.

**[ЧАРАДЗЕЙ]** *м.* Чараўнік, вядзьмар. *Так расьце нездавольства ў сыноў чарадзея – У іх саміх і на іх, на ўсім сьвеце..* Ч, 321.

Адз. Р. *чарадзея*: Ч, 321.

**[ЧАРАДЗЕЙСКІ]** *прым. перан.* Незвычайны па сіле ўплыву, уздзеянню. [Мікіта]: *Што ж гэта вы, мамзэль Наста, не самі адны* [прыйшлі], *а з гэрам немцам, як з нявіннай ахвярай свайго, меджду протчым, чарадзейскага сэрца?* Т, 41.

Адз. н. Р. *чарадзейскага*: Т, 41.

**ЧАРАЎНІК** (7) *м. Тое, што* чарадзей. *Трох сыноў чараўнік на сьвет белы выводзіў, Трох сыноў, што хаваў узаперці..* Ч, 319. *Так сказаў чараўнік, і казаў доўга жыці – Спадкі-цень свой на памяць аставіў...* Там жа, 320. *Параўн.* чарадзей.

• **Чараўнік (Забытая казка).**

Д **Чараўнік-сьлепаводнік**: *Гэткай рдзее душой чараўнік-сьлепаводнік. Што сыноў навучаў трох калісьці.* Ч, 326.

Адз. Н. *чараўнік* (7): УрП, 51; Ч, 319, 320, 321, 322, 326; $Ш_4$.

**ЧАРАЎНІЦА** (2) *ж.*: Д **Ведзьма-чараўнца** *гл.* ведзьма. **Ночка-чараўніца** *гл.* ночка.

Адз. Н. *чараўніца*: Кц, 192. Мн. Н. *чараўніцы*: Дз, 191.

**[ЧАРАЎНІЧЫ]** *прым., перан.* Які зачароўвае, захапляе. *Верце, што мы з'яўляемся дзейнымі асобамі-героямі чараўнічай песні, чудатворнай містэрыі, якую тварыць на Беларусі паклікала нас само жыццё.* ПЛП.

Адз. ж. Р. *чараўнічай*: ПЛП.

**[ЧАРАЧКА]** *ж.*: ◊ **Пусьціць чарачку у ход** *гл.* пусьціць. Мн. В. *чарачкі*: Ш$_1$.

**[ЧАРВЯК]** (3) і **ЧЭРВЯК** *м.* 1. Мяккацелы, прадаўгаваты жывёльны арганізм. [Янка]: *Пакуль ваша* [Мікіты] *гэта становішча ўстане, то вас саміх чэрві паточаць.* Т, 21. // *У параўн. Трэці* [сын]*, смоўжам прыліпшы да трэцяй пуціны, Чэзьне чэрвем на службе ў напасьці..* Ч, 321. *Гібелі зноў людзі ў сьпеку, ў мароз, Як чэрві сьляпые у плесьні..* ПН, 47.

2. *перан.* Пра пачуцце, стан, які падточвае духоўныя сілы чалавека. *А трывога – гэта чэрвяк, які падточывае сілу і ахвоту да жыцьця, да працы на ніве і ў хаце.* РКр.

Адз. Н. *чэрвяк*: РКр. Т. *чэрвем*: Ч, 321. Мн. Н. *чэрві* (2): ПН, 47; Т, 21.

**ЧАРГА** (4) *ж.*1. Пэўная паслядоўнасць, парадак. – *А нашая чарга во ў гэты чорны роў?* ВБЛ, 80.

2. Група людзей, якія сталі адзін за другім для атрымання чаго-н. – *Глыток вады. – Нам на сям'ю вядро, Ды во чарга ад раніцы ўжо тутка.* ВБЛ, 80.

3. Час дзеяння ў пэўным парадку, паслядоўнасць. [Мікіта]: *(зрываючы з сябе і кідаючы па чарзе аб зямлю часткі пажарніцкага ўбору). К чорту пажарніцкую каманду!* Т, 33. [Мікіта]: *(то апускаючы, то падымаючы па чарзе рукі і згодна з гэтым паварачваючы то ўправа, то ўлева галавой).* Там жа, 60.

Адз. Н. *чарга* (2): ВБЛ, 80(2). М. *чарзе* (2): Т, 53, 60.

**[ЧАРКА]** (5) *ж.* 1. Пасудзіна для піцця віна і спіртных напояў. *Уваходзіць Мікіта.., цягнучы за сабой каламажку, у якой: тры тоўстыя партфелі, а чацверты – меншы; пад імі: .. некалькі сучкоў дроў, букетнік для кветак, тры чаркі.* Т, 45. [Мікіта]: *Далей ідуць мае за месяц чэрвень, за першыя дзесяць дзён ліпня і за два тыдні наперад дармовыя, меджду протчым, пайкі: ..і да ўсяго гэтага яшчэ: селядцы, тараны, .. падчтаўка для кветак, тры чаркі, а болей, здаецца, нічога няма.* Там жа, 46.

2. *перан.* Тое, што п'юць, спіртное. [Дама]: *(дапіваючы чарку). Але напітак ваш, мусье Зносілов, цудоўны – нічым амброзія.* Т, 28.

Адз. В. *чарку* (3): Кц, 196; Т, 28(2). Мн. Н. *чаркі* (2): Т, 45, 46.

**[ЧАРНАЗЁМ]** *м.* Урадлівая, багатая перагноем глеба. *Відна, што ніўка – маці тутка чалавеку! Відна.. Па шырокіх палетках, проста чарназёму, Каторы прылягаець к беленькаму дому..* ХБ, 28.

Адз. М. *чарназёму*: ХБ, 28.

**[ЧАРНАСОТНІЦКІ]** *прым.* Які адносіцца да рэакцыйна-манархічных пагромных банд (1905–07 гг.). [Янка]: *Але ж вы, пане рэгістратар, звар'яцелі. Вашы дзікія – не скажу чарнасотніцкія – пераконанні і новая палітычная сытуацыя?!* Т, 36.

Мн. Н. *чарнасотніцкія*: Т, 36.

**[ЧАРОД]** *м. Разм.*: ◊ **Сваім чарадом** – незалежна ад каго-, чаго-н. *А жыцьцё не глядзіць: яно мусіць ісьці далей сваім чарадом..* ВС.

Адз. Т. *чарадом*: ВС.

**[ЧАРОДА]** *ж. Разм.*: ◊ **На першай чародзе** – з'яўляцца, неадкладна патрабаваць вырашэння. *На першай чародзе стаіць у нас пытаньне, як забаспечыцца перэд магчымай нестачай харчоў..* ВС.

Адз. М. *чародзе*: ВС.

**[ЧАРОЎНЫ]** *прым. перан.* Надзвычай прыгожы, цудоўны. *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня ад казак, чароўных тых сноў, Што сталіся яваю нашага дня, Што збавілі долю ад пут, ланцугоў.* СС, 301.

Мн. Р. *чароўных*: СС, 301.

**[ЧАРЫ]** (5) *толькі мн.* 1. *Уст.* Чараўніцтва, вядзьмарства. *Зрабіць, раскідаць мог ён* [цудадзей] *дзівы, Накінуць чары сяк і так..* УрП, 47. *Адны* [людзі] *ў руках трымалі дары Сваім прыбліжаным багам, Другія ўспаміналі чары, Шоў гоман сьціішны сям і там.* Там жа, 47.

2. *перан.* Незвычайны па сіле ўплыву, уздзеянню. *З чорнай пампокі ў праменні зарніцаў Выйдзеш, Фінляндыя, чараў краіна!* Ф. *У гэтых чарах, у гэтым выяўленні бяссмертнага чалавечага духа – наша пабеда, наша слава і шчасце – цяпер і ў будучым.* ПЛП. *Параўн.* чар.

Мн. Р. *чараў*: Ф. В. *чары* (3): Кц, 191; УрП, 47(2). М. *чарах*: ПЛП.

**[ЧАРЭСЬНЯ]** *ж. Польск.* Чарэшня. *Ценем тулілі вас* [людзей чужых] *у спякоту Нашы чарэсьні..* Чж, 146.

Мн. Н. *чарэсьні*: Чж, 146.

**ЧАС** (139) *м.* 1. Працягласць існавання ўсіх з'яў рэчаіснасці, якая вымяраецца пэўнымі адзінкамі. *Мы не будзем забягаць наперад у будучыну і варажыць, якімі шляхамі пойдзе гэта справа. Час і жыццё грамадзянска-палітычнае*

*пакажуць гэта.* БВ, 17. *..мы чакаем таго, каб яна* [польская ўлада] *зазначыла сваю палітыку на Беларусі, бо час не чакае..* ОШМ. // Паслядоўная змена мінут, гадзін, дзён. *Час ішоў. К жыцьцю новаму клікі пачуліся; Ўсе народы паўсталі на бітву за права сваё.* Б, 18. [Янка]: *Але, мабыць, цяжкія вашы* [Мікіты] *справы, што так цяжка вам час плыве: месяцы ў цэлыя леты і зімы замяніліся?* Т, 45.

2. Пэўны прамежак, у які што-н. адбываецца. *У 1890 г. ён* [бацька] *развітваецца часова са становішчам найміта ў маёнтках і пераязджае ў Мінск, дзе купляе каня і ездзіць некаторы час фурманом.* А, 328. *Ціха і плаўна ў даль коцяцца воды Вольнага Нёмана, ў цёмную даль, Толькі ў часе глухой непагоды З берагу Нёман не выйдзе амаль.* Н. // Вольныя ад асноўнага занятку гадзіны. *Гануля Зношчыха – яго* [Мікіты] *маці, у вольны час робіць панчоху.* Т, 19.

3. Пэўны момант у паслядоўнай змене падзей. [Начальнік]: *Вашы* [Мікіты] *дакумэнты!* [Мікіта]: *Якія – старыя ці новыя? старыя во дзе – у портфэльчыках. (Паказвае на прынесеныя к таму часу Гануляй партфелі).* Т, 60. *Далі такія ў нас ясныя і прыгожыя, людзі такія ў нас, што сапраўды кожны з іх можа стаць героем у любы час, у любы міг..* ЖН. // Адпаведны момант, спрыяльная пара для якіх-н. дзеянняў. [Мікіта]: *Меджду протчым, гэта яно* [чыноўніцкае становішча] *ляжыць так сабе – да часу, а потым зварухнецца і падымецца.* Т, 21. [Янка]: *Вяселле, цётачка, адлажылі пакуль што да таго часу, калі апошні акупант ад нас выйдзе..* Там жа, 54. *Параўн.* часіна. // *У знач. вык. Час праявіць нам і свае сілы у будаваньні новага жыцьця для сваей бацькаўшчыны, для сваіх сяліб і хат, для нашага падрастаючага маладога пакаленьня!* БС. [Аленка]: *Ці не час ужо, дзядзька настаўнік, пакінуць гамонку ды йсці ў заезд, а то, чаго добрага, Шая замкне браму?* Т, 39.

4. *перан.* Жыццё. [Дама]: *Мусье беларус, вы, як я ўважаю, напоўнены павевамі новага часу..* Т, 37. [Спраўнік]: *Усё былое вялічча прышлося загнаць у казіны рог і дапасоўвацца да новага часу і новых людзей.* Там жа, 57.

5. Перыяд, эпоха, пэўная колькасць гадоў у жыцці. *Ды гэта ж, людзі мае, гразь і балота такое самае, якога не было нават на Усходзе, у рабскай Маскоўшчыне за часоў Івана Грознага.* Тж, 15. *Калі заглянуць у далёкую мінуўшчыну, у тые часы, калі істнавала незалежная Літоўска-Беларуская дзяржава, – мы з пэўнасьцяй ня можам цьвярдзіць – ці быў тады гымн нацыянальны, ці ня быў.* СБНГ. *Параўн.* время.

◊ **Апошнім часам** – незадоўга да цяперашняга моманту. [Гануля]: *Бачыце* [Янка] *было тут у нас у Менску апошнім часам нейкае палатненне, дык нас і ўпалатнілі ў адзін пакой, а іншыя – забралі.* Т, 45. **Без (бяз) часу** (3) – заўчасна, не пражыўшы адведзены час. *Не будзе, не будзе тады Вайны, калатні між людзей; Дзяўчына, юнак малады Не зложаць без часу касцей.* ТП, 216. *Цягалася Крыўда па сьвеце, Ад хаты да хаты блудзіла; Тым* [людзям] *строіла вечныя сеці, Тых гнала бяз часу ў магілы.* Кр, 47. **Вапошні час** – незадоўга да цяперашняга моманту. *Ну, а трэцьця* [літара] *с чацьвёртай Рэчка ў дальню даль заперла, Слаўна золатам для нас І крывёй ў вапошні час.* $Ш_4$. **З часам (з часамі)** (5) – у будучым, некалі. *І з часам народы патрапяць найсці супольную мову, каб па суседзку дагаварыцца, паміж сабой ды наладзіць і свае граніцы, і свае дзяржаўныя правы на незалежнасьць.* СНБ. *Варашылава я* [Данілка] *такжа Выберу с часамі, На сямі канях паеду З сямю галасамі.* Вб, 238. **Зысці на час** *гл.* зысці. **На часе** (2) – своечасова, у патрэбны момант. [Заходні вучоны]: *(да Янкі). Бардзо на часе, жэ пан обэцным ест.* Т, 47. *Кніжка такая* [“Лірнік”] *вышла вельмі на часе.* ВСп, 90. **Па часе** – пасля таго, як ужо што-н. здарылася. *На Вялікдзень палякі забралі Вільню. Па нейкім часе удалося там склікаць Раду Віленшчыны і Горадзеншчыны.* СНБ. **Праз увесь час** – пастаянна, бесперастанку. *Так сама дзякую* [Купала] *ад усей душы ўсім сёстрам бальнічным, асабліва п. Галене Суднік, якая праз увесь час даглядяла мяне ў бальніцы, як родная сястра.* ЛР. **Тым часам** (3) – адначасова з гэтым, у той самы момант. *Вядома, не абыходзілася без таго, каб я* [Купала] *не засынаў, а коні тым часам траплялі ў шкоду.* ПС. *Хараства роднага краю яны* [маладыя паэты] *ня бачаць і не апісуюць. А тым часам наш край, адзін з прыгажэйшых краёў у сьвеце.* ХБ, 27. **У сваім часе** (5) – некалі, калісьці, раней, у мінулым. *Польшча, каторая ў сваім часе кінула кліч: “за вашу і нашу волю”, .. гэта Польшча павінна даць беларусам магчымасць бараніць свае гранічныя слупы войскам беларускім.* БВ, 17. *Трэцця кніжка – гэта крытычны нарыс І.Ігнатоўскага: Матывы лірыкі бел. песьняра М.Чарота. На Гэты нарыс зьвярнулі ўвагу, нават, у Маскве, скуль была прыслана ў сваім часе ў расійскай газэце “Звезда” напісаная т. Кнорыным антыкрытыка на гэты крытычны нарыс.* ВСп, 89–90. **У хуткім часе** – хутка, скора. *..у хуткім часе мае фармавацца беларуская армія.* БВ, 16. **У час (часе)** (3) – своечасова, у патрэбны момант. [Аленка]: *..дзеля гэтай мэты* [вучыцца на

курсістку] *мяне татка і ў Менск да вас прытарабаніў.* [Янка]: *Адно трохі не ў час.* Т, 30. *Народ чагосьці зьнябываўся, Гул недавольства плыў і плыў, – Прызваньне чулася ня ў часе, Нясьпелы колас рваўся з ніў.* УрП, 47.

Адз. Н. *час* (25): Б, 18; БВ, 17; БС (2); ВБЛ, 81; ВС; Г, 17; ЗЯЗ, 89(2); НДп, 229; ОШМ; ПЛП; РКр; Т, 19, 28, 38(2), 39(2), 45, 53(2); УПУВ (2); ЧС, 50-51. Р. *часу* (16): АБ, 16; БСУ (2); ВСп, 89; ДК; Кр, 47; СК, 158; Т, 21, 37, 40, 44, 48, 54, 55; ТП, 216; УПУВ. Д. *часу* (5): А, 328; ЖН; СНБ, 339; Т, 57, 60. В. *час* (44): А, 328(3); АЛ; БВ, 16; БС; Бч, 9; ВР; ВС (2); ВСп, 89; ГП, 8; ДЖ; ДК; ЖН (2); ЛР (2); МП (2); Н; ПВ; ПДз; ПЧ; РКр; СНБ, 336, 338; Т, 19, 30 (2), 37, 39, 40, 44, 47, 49, 55, 58; ТП, 214; У; УрП, 52; ХЛБ; $Ш_4$. Т. *часам* (9): ВМР; ПС; СНБ; Т, 20, 45, 57; ХБ, 27, 29, 30. М. *часе* (23): БВ, 16, 17; ВН (3); ВСп, 90 (2); ДД; ЖН; ЛР; МІ, 17(2); Н (2); ОШМ; ПБН; ПЧ; СНБ (3); Т, 47; УПУВ; УрП, 47. Мн. Н. *часы* (3): Т, 20, 28 (2). Р. *часоў*: Тж, 15; *часаў* (2): БВ, 16; ПЛП. В. *часы* (10): А, 328; АЛ; БСУ; ЖН; МІ, 17(2); ПЧ; СБНГ (2); Т, 51. Т. *часамі*: Вб, 238.

**ЧАСАМ** (9) *прысл.* Іншы раз, калі-нікалі. [Наста]: *Вывешвайце хутчэй праз вакно чырвоны сцяг. У падобных несамавітых сытуацыях такое вывешванне часам памагае.* Т, 59. [Начальнік]: *Мы ўсё-такі маленькія агледзіны зробім вашых* [Мікіты] *рэчаў, каб часам не запуталіся між імі і чужыя.* Там жа, 60. *Параўн.* часамі. Б, 18; СП (3); Т, 35; Ч, 321; $Ш_5$.

**ЧАСАМІ** (3) *прысл. Тое, што і* часам. *Часамі яны* [вульлі] *стаяць на зямлі, часамі ўмацованы на дрэве; іншы стары дуб бывае абвешаны гэтымі калодамі...* ХБ, 30(2). ХБ, 29.

**ЧАСІНА** (7) *ж.* 1. *Тое, што* час *у 3 знач. Выбіла часіна і для нас* [беларусаў]. БСУ. *І вот у гэтую часіну Да іх* [людзей] *там дыбаў цудадзей, Слуга пратайнасьці прадзіўнай, Надчалавек, хоць і з людзей.* УрП, 47.

2. *Паэт.* Прамежак часу, які вызначаецца чым-н. важным, адметным. *Ах, салодкі ўспамін не адзін Шалясціць, як вяроўкаю кат... Столькі іх, гэтых мілых часін! А забыці іх сілы няхват.* ЧС, 50–51. *77 год была Вільня сіратою, уздыхаючы па тых сьветлых часінах, калі яе унівэрсітэт кіпеў мудрым жыцьцём..* УПУВ.

3. Кароткі адрэзак часу. *Сказаўшы так, маўчаць ганцы, Маўчыць і князь крыху часіны, І дасьць адвет такі ў канцы Ганцам на іхніе навіны..* Кц, 195.

Адз. Н. *часіна* (2): БСУ; Кц, 196. Р. *часіны*: Кц, 195. В. *часіну*: УрП, 47. Т. *часінай*: Кц, 196. Мн. Р. *часін*: ЧС, 50-51. М. *часінах*: УПУВ.

**ЧАСОВА** (3) *прысл.* На нейкі тэрмін. *У 1890 г. ён* [бацька] *развітваецца часова са становішчам найміта ў маёнтку і пераязджае ў Мінск.* А, 328. [Дама]: *Часова перанашу сваю філянтропійную чыннасць на тэрыторыю...* [Мікіта]: *(перабіваючы). Быўшых нашых ворагаў – гэрманаў, мадам-сіньёра?* Т, 37(2). *Параўн.* дачэна, дачэсьне.

**ЧАСОВЫ** (5) *прым.* Кароткатэрміновы. [Мікіта]: *Сучаснае рэволюцыйнае забурэнне, выклікаўшы часовы ўпадак рангаў і клясаў, падкасіла і экономічныя падваліны дабрабыту рускай інтэлігенцыі..* Т, 28. *Асьлепленые часовымі пабедамі, забываюцца* [соцыяльные рэволюцыянеры з усходу і нацыянальные "рэволюцыянеры" з захаду], *што жывуць не ў срэднявякоўі, калі сіла кулака панавала над сілай права.* СНБ.

Адз. м. В. *часовы* (2): СНБ, 338; Т, 28. Т. *часовым* (2): Г, 16; СНБ. Мн. Т. *часовымі*: СНБ.

**ЧАСОПІСЬ** (5) *ж. Разм.* Часопіс. *Некалькі вершаў пабеларуску надрукавала і другая расійская тутэйшая часопісь "Юный пахарь".* ВСп, 90. *..гэта часопісь* ["Наша Каляіна"] *з'яўляецца органам беларускай нацыянальнай злучнасці "Кветка Папараці"..* МІ, 17.

Адз. Н. *часопісь* (4): ВСп, 90(2); МІ, 17(2). Р. *часопісі*: МІ, 17.

**ЧАСТА** (11) *прысл.* Праз кароткія прамежкі часу. [Пан Кавалюк]: *Часта, густа з'езд склікаю, Дый нішто не памагае.* ЛПК. [Янка]: *(уваходзіць). Выбачайце, цётачка, што так часта назаляюся вам, але, бачыце, неяк моташна зрабілася аднаму сядзець, дык вось і прышоў да вас у госці.* Т, 19.// Нярэдка. *Гаспадарку я* [Купала] *не любіў, а вазіўся заўсёды з кніжкамі, за што часта даставалася мне ад бацькі.* А, 328. *Нашыя маладыя наіўныя паэты, знаёмыя з сваім родным краем з благіх расейскіх школьных кніг, вельмі часта ў вершах гавораць пра беднасьць, пра "гразь, балота і пясок" у Беларусі.* ХБ, 27. А, 328; БС; ЛПК; ПС; СБНГ; Т, 19; ХБ, 29. *Параўн.* часта-густа.

**ЧАСТАВАЦЦА** (2) *незак.* Піць, есці тое, чым частуюць. [Дама]: *Дзякуючы таму, што мы* [госці] *ўжо частаваліся, паўторым сягоння толькі другую частку програмы таго вечару.* Т, 51. // Есці кампаніяй. *Ты з Заходняй, я з Усходняй Нашай Беларусі .. Частавацца будзем разам З кожным новым годам Верашчакаю калгаснай І калгасным мёдам.* ТЗУ, 293.

Інф. *частавацца*: ТЗУ, 293. Абв. пр. мн. *частаваліся*: Т, 51.

**ЧАСТАВАЦЬ** (3) *незак.* 1. Карміць або паіць каго-н., выказваючы ўвагу, гасціннасць. *Мы сабе самі збожжа збіралі І частавалі мёдам суседзяў..* ССА, 294. // *Разм.,*

*перан.* Біць каго-н. ..*Вас бізуном паны частавалі, Ад бед схавацца вам было недзе.* ССА, 294.

◊ **Частаваць атручаным зеллем** – уводзіць у зман, адурманьваць. *Годзе піць, балюваць* [панам] *На чужым прыселлі, Наш народ частаваць атручаным зеллем.* ПД, 83.

Інф. *частаваць:* ПД, 83. Абв. пр. мн. *частавалі* (2): ССА, 294(2).

**ЧАСТА-ГУСТА** *прысл. Разм. Тое, што* часта. *Гэтые падвышкі канечна ня павінны нас пужаць, бо і палавіны не прыдзецца нам плаціць таго лішняго, што мы выкідалі у сваім часе на гарэлку, затрачваючы у дадатку сваё здароўе і часта-густа пападаючы на "скам'ю падсудзімых".* ВН.

**ЧАСТА** (11) *ж.* 1. Доля чаго-н. цэлага. *Частка яго* [жыдоўства] *пойдзе сваею незалежнаю сьцежкаю, але частка напэўна адколецца і далучыць свае галасы да расійцаў, але ніколі не да палякоў.* ВМР. // Участак якой-н. плошчы. *Там, за мяжою, за пагранічнымі слупамі, дзе распасціраецца панаванне над часткай Беларусі белага арла, – голад, здзекі, катаванне працоўнага народу, як і за царом Нікалаем.* ЖН. *Мушу* [Купала] *ўспомніць тагачасную адну пашыраную чутку, паводле якое польскія "эндэкі" і расійскія "кадэты" ўжо тады падзялілі Беларусь на дзьве часткі: заходняя – палякам, усходняя – расійцам.* У. // Пэўная колькасць каго-, чаго-н., вылучаная з агульнага складу або колькасці. ..*я* [Купала] *шчыра жадаю, каб гэты мой горкі вопыт паслужыў навукай для тэй часткі беларускай інтэлігенцыі, якая яшчэ ня зусім вызвалілася ад нацыянал-дэмократычнага шалупіньня..* АЛ. ..*я* [Купала] *пражыў большую частку свайго жыцця ў так званай "турме народаў" – царскай Расіі.* ЖН. *Параўн.* часць, часціна.

2. Прадмет, які ўваходзіць у сістэму якога-н. адзінства. [Мікіта]: *(зрываючы з сябе і кідаючы па чарзе аб зямлю часткі пажарніцкага ўбору). К чорту пажарніцкую каманду!* Т, 33.

Адз. Н. *частка* (2): ВМР (2). Р. *часткі* (2); АЛ; ВГР. В. *частку* (3): АБ, 16; ЖН; Т, 51. Т. *часткай*: ЖН. М. *частцы*: АБ, 16. Мн. В. *часткі* (2): Т, 33; У.

**[ЧАСТНОСЦЬ]** *ж. Руск.*: ◊ **В частносці** (*пабочн.*) – у прыватнасці. [Усходні вучоны]: ..*для посціжэнія сего "далей" у наукі вообшчэ і в частносці ў Западной наукі короткі пяткі.* Т, 39.

Адз. М. *частносці*: Т, 39.

**[ЧАСЦІНА]** і **ЧАСЬЦІНА** *ж. Разм. Тое, што* частка *ў 1 знач. Залацісты пасад красаваўся ў сталіцы, Зіхацела ў ім*

*кожна часьціна, – На пасадзе сядзела цьвет-ночка – царыца.* Ч, 321. *Тыя, што трымаюць сягоння ў сваіх руках уладу над часцінай нашага краю, павінны зразумець, якая небяспека набліжаецца з боку паўстаючай рэакцыйнай Расіі.* БВ, 16.

Адз. Н. *часьціна*: Ч, 321. Т. *часцінай*: БВ, 16.

**ЧАСЦЬ** (9) і **ЧАСЬЦЬ** *ж.* 1. *Тое, што* частка *ў 1 знач. Пэўная часьць польскага грамадзянства, так званая "народова-дэмократыя", асьлепленая пабедамі польскага салдата, сышла з тэй дарогі, якую паляком намецілі сьвятлейшыя іх грамадзяне Міцкевічы, Красінскіе, Славацкіе і інш.* СНБ. *Спрачаліся доўга* ["Kurjer" і "Вестник"]*, Як край наш раскрасьці, Дый сьпеліся ўрэшце... Парваць на дзьве часьці. Адна часьць Варшаве Лізаць ногі будзе, Маскве хай – другая Нясе свае грудзі.* Х.

2. Асобная самастойная вайсковая адзінка. [Чырвонаармеец]: *Ці няможна ў вас, таварышы, перасядзець, пакуль сцямнее? Бо я адстаў ад сваёй часці і толькі ўночы змагу выбрацца з гораду, каб дагнаць сваіх.* Т, 52.

Адз. Н. *часьць* (2): СБН; Х. Р. *часці* (2): Т, 52, 62. В. *часць* (2): ПДз; СНБ, 337. М. *часьці*: ВД. Мн. В. *часці* (5): БрБ, 6; ГП, 8; К; НГд, 8; ПЛП; *часьці*: Х.

**ЧАСЬЦІНА** *гл.* **ЧАСЦІНА**.

**ЧАСЬЦЬ** *гл.* **ЧАСЦЬ.**

**ЧАТЫРЫ** (6) *ліч. кольк.* Колькасць, якая абазначаецца лічбай 4. *Бацяўская ашчадкаса дае кожнаму рабочаму дзесяць процантаў за пакладзеныя грошы замест звычайных чатырох.* ПЧ. *У Вільні працаваў* [Купала] *у бібліятэцы і "Нашай ніве", пасля чаго апынуўся ў Петраградзе на агульнаадукацыйных курсах Чарняева, на якіх правучыўся чатыры гады.* А, 328.

◊ **На ўсе чатыры стараны** *гл.* старана.

Н. *чатыры*: ПВ. Р. *чатырох* (2): ВСп, 89; ПЧ. В. *чатыры* (3): А, 328; ВСп, 91; УрП, 50.

**ЧАЦВЁРКА** *ж.* Колькасць каго-н. у чатыры адзінкі. *І ў гэтыя-ж дні – другая падзея сусветнага значэння: на радзіму вяртаецца гераічная чацвёрка папанінцаў.* МП.

Адз. Н. *чацвёрка*: МП.

**ЧАЦВЁРТЫ** (6) і **ЧАЦЬВЁРТЫ** (5) *ліч. парадк. да* чатыры. *Іду я, падскаківаючы, на другі дзень, каб узяць матэрыял для чацвёртай стацці, гэта знача для чацвёртай тысячы радкоў.* Ан, 19. *Дзея чацвёртая.*Т, 53. // *У знач. наз.* [Мікіта]: *Можна мець светагляд адзін, думаць другое, гаварыць трэцяе, рабіць чацвёртае, як навучае мой профэсар гэр Спічыні.*

Т, 36. *Першае* [літара] – *чацьвёртае Жывіць сьвет сабою, Хоць – гультайка шчырая Зімавой парой.* $Ш_3$.

Адз. м. Н. *чацвёрты*: Т, 45. В. *чацвёрты*: Т, 46. *чацьвёрты*: $Ш_2$. ж. Н. *чацвёртая*: Т, 53; *чацьвёртая*: ВМР. Р. *чацвёртай* (2): Ан, 19(2); Т. *чацьвёртай*: $Ш_4$. н. Н. *чацьвёртае*: $Ш_3$. В. *чацвёртае*: Т, 36; *чацьвёртае*: $Ш_2$. Мн. Н. *чацвёртыя*: Ан, 18.

**[ЧАХНУЦЬ]** (2) *незак.* 1. Слабець. *Пад царамі, пад панамі Мучыліся людзі, – У нядолі, у няволі Чахлі, сохлі грудзі.* ЗЯЗ, 89. // *перан.* Мучыцца, пакутаваць. *Усё, што чахне, не меў долі ў чым, Чорнай п'яўкай слізгоча ў душы...* ЧС, 50–51.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *чахне*: ЧС, 50–51. Пр. мн. *чахлі*: ЗЯЗ, 89.

**[ЧАЦЬВЕР]** *м.* Чацвёрты (пасля нядзелі) дзень тыдня. *..у чацьвер, 23 кастрычніка селетнега году Польшча падпісала дэкрэт аб фармаваньні Беларускага нацыянальнага войска..* БСУ.

Адз. В. *чацьвер*: БСУ.

**ЧАЦЬВЁРТЫ** *гл.* **ЧАЦВЁРТЫ.**

**[ЧВЭРТКА]** *ж.* Чацвёртая частка чаго-н. [Мікіта]: *Далей ідуць мае за месяц чэрвень, за першыя дзесяць дзён ліпня і за два тыдні наперад дармовыя, меджду протчым, пайкі: сем фунтаў адборнай атрубянай мукі, паўтара фунта з асьмушкай круп, два фунты з чвэрткай гароху, не ведаю колькі газы...* Т, 46.

Адз. Т. *чвэрткай*: Т, 46.

**[ЧКАЛАВЫ]** *мн.* Паслядоўнікі Чкалава. *Тысячы Чкалавых, Грачавых, Кокінакі памчацца на сваіх быстракрылых самалётах на абарону мацеры-радзімы.* ВГ.

Р. *Чкалавых*: ВГ.

**ЧЛЕН** (2) *м.* Асоба, што ўваходзіць у склад якой-н. групы, аб'яднання, арганізацыі, таварыства. [Спічыні]: *(чытае). "Баронэса Шпацэрзон, ганаровы член Менскай дабрачыннасці".*Т, 61. *Не магу не сказаць* [Купала] *пра вельмі светлае ўражанне ад сяброўскага яднання з членамі нашай дэлегацыі, асабліва з старшынёй дэлегацыі, т. Кальцовым..* ПЧ.

Адз. Н. *член*: Т, 61. Мн. Т. *членамі*: ПЧ.

**[ЧМЕЛЬ]** *м.* Насякомае сямейства пчаліных. *У параўн. Думы цяжкія роем снуюць, Капашацца чмяльмі ў галаве, Сноў спазнаць залатых не даюць, Кожна мучыць, к загубе заве.* ЧС, 50–51.

Мн. Т. *чмяльмі*: ЧС, 50–51.

**[ЧОРНАВОКІ]** *прым.* З чорнымі вачыма. *Не каханак чорнавокіх, Што скрозь сеюць дзіўны чар, – Я – пясьняр стапоў шырокіх Краю вольнага пясьняр!* КЧ.

• **Не каханак чорнавокіх...**

Мн. Р. *чорнавокіх*: КЧ.

**[ЧОРНАРАБОЧЫ]** *прым. у знач. наз.* Рабочы, які выконвае розную фізічную, некваліфікаваную, звычайна цяжкую і брудную работу. *Гэтак праслужыў* [бацька] *тры гады ў броварах чорнарабочым.* А, 328.

Адз. м. Т. *чорнарабочым*: А, 328.

**[ЧОРНАСОТНИК]** (2) *м. Разм. Тое, што* чорнасоценец. *Як ня выйдуць чорнасотники На благое ўсё ахвотники, Дый на ўсю моц закрычаць: "Думу трэба разагнаць!"* ВЧ. *Эй, гуляйце, чорнасотники, На благое ўсё ахвотники: Ня век сеяци вам цьму, Весна змениць нам зиму!* Там жа.

• **Як ня выйдуць чорнасотники...**

Мн. Н. *чорнасотники* (2): ВЧ (2).

**[ЧОРНАСОЦЕНЕЦ]** *м.* Удзельнік "чорных соцень" – рэакцыйна-манархісцкіх пагромных банд, якія ўзніклі ў перыяд 1905-1907 г.г. у царскай Расіі. *Усё паказывае, як бытцым палякі зрабілі хаўрус з расейскімі націоналістамі і чорнасоценцамі, абы толькі заціснуць беларускі рух, абы адстрашыць беларусоў ад жаданьня вучыцца рэлігіі па беларуску.* ВР. *Параўн.* чорнасотнік.

Мн. Т. *чорнасоценцамі*: ВР.

**[ЧОРНА-ЧОРНЫ]** *прым., перан.* Крайне рэакцыйны, контррэвалюцыйны. [Пан Кавалюк:] *Вось газетку надрукую, Чорна-чорную такую, Жыдоў біці і палякаў І з крамолай біцца ўсякай.* ЛПК.

Адз. ж. В. *чорна-чорную*: ЛПК.

**ЧОРНЫ** (36) *прым.* 1. Які мае колер сажы, вугалю, самы цёмны з усіх колераў. *З-пад сьвіткі чорнай, даўгаполай Бліщэла бляха накасяк, Пры боку меч матаўся голы, На сьвітцы – нейкі страшны знак.* УрП, 51. // *У знач. наз.* Апрануты ў адзенне такога колеру. *Ха-ха – узяўшыся за бокі разводзіць* [засьцянковы беларускі шляхціц] *перад ягамосьцем у "чорным" сваю падкасьцельную філезофію: – Гэтые нашы мужыкі нават з панам "па-простэму" гавораць.* З. // Які мае пер'е такога колеру. *Чорны груган клюе панскія косці, З трупаў гербоўных складае запасы.* Мц, 75.

2. Цёмны, больш цёмны, чым звычайна. *Узніме чорную скібу саха працавітая, Ляжа ўсходнае зерне ў пахань сырую..* ТС, 74. *Крыві расіны заблішчэлі На чорнай стоптанай зямлі; Лёг незнаёмы на пасьцелі, На тэй, дзе ўсе на той сьвет шлі.* УрП, 52. // *перан.* Змрочны. *Чорны крыж, як-бы змора лунае ў высі, Як-бы змора вісіць...* БН, 93. *Мілы братка ты мой, ці ты жыў, ці памёр? Што так плечы сагнуў, як нявольнік дрыжыш? Грудзі ўпалі твае, рукі цягнеш да зор, Над табой, прад*

*табой, ах, які чорны крыж!* Там жа, 92.

3. *перан.* Некваліфікаваны. [Янка]: *Трудна такому далікатнаму панічу за гэтакую чорную работу ўзяцца.* Т, 20.

4. *перан.* Ганебны, дрэнны. [Хлопчык:] *Мне мамку зарэзалі немцы, Сястрычку спалілі жыўём, Дык хай-жа кроў чорная льецца, Іх псіная кроў ручаём.* ХЛВ, 315.

5. *перан.* Нізкі, каварны, подлы. *Асьвяціў сваё чорнае першы* [брат] *сумленьне Прагавіцьцем быў сонцу раўнёю, Ў путах сьцюжу трымаць, меці жараў насеньне, Тлець, пылаць над людзьмі, над сабою.* Ч, 324. // Згубны. *Нявольнікі вы* [жыды] *сёньня з намі* [беларусамі] *разам На беларускай змучанай зямлі, Дзе чорны зьдзек пасьвенчаны абразам Гняце нас разам, як зьвяр'ё, ў крутой пятлі.* Ж.

6. *перан.* Цяжкі, змрочны, беспрасветны. *З чорнай памрокі ў праменні зарніцаў Выйдзеш, Фінляндыя, чараў краіна!* Ф. *Здушылі* [свае і чужыя]*, збэсцілі ўсё чыста У чорнай яве, ў зводных снах. Што ад прыроды шлях свой мела, Што к сонцу мела вольны шлях.* РС, 40.

7. Які ў дарэвалюцыйныя часы адносіўся да ніжэйшых слаёў грамадства. *Цары нагналі ўсялякіх чыноў, запрудзілі край усялякай маскоўскай чорнай галытнёй..* Нз, 14.

8. Звязаны з нячыстай сілай. *І свае і чужыя выцягвае* [чараўнік] *звадай, Жылы белыя чорным патрэбам, Каб заместа усіх і ўсяго ў сьветагляду Быць усім – і зямлёю, і небам.* Ч, 325.

• **Чорная сотня** *гл.* сотня.

◊ **Чорнае на белым (па беламу) стаіць** (3) – дакладна, выразна, ясна (напісана). [Спічыні]: *(Чытае). "Оказіцель нінейшэго Нікіціуш Зносіловскі служы пшы Комісарыяце поліцыі мяста Менска, яко доносіцель".* [Мікіта]: *"Яко розносіцель", Гэнрых Мотавіч!* [Спічыні]: *Паложым, не "яко розносіцель", а "яко доносіцель", – чорнае на белым стаіць.* Т, 61. ..[Мікіта]: *"Разношчыкам", Гэнрых Мотавіч!* [Спічыні]: *Не "разношчыкам", а "даношчыкам", – чорнае па беламу стаіць, гражданін Зносілов.* Там жа, 61. **Чорнай гразьзю пляваць** *гл.* пляваць. **Чорнай п'яўкай слізгаць** *гл.* слізгаць. **Чорны дзень** *гл.* дзень.

Адз. м. Н. *чорны* (4): БН, 92, 93; Ж; Мц, 75. Р. *чорнага*: Ф. В. *чорны* (6): АПЖ; ВБЛ, 80; ПВ; РС, 40; Т, 40, 55. Т. *чорным* (2): Ч, 319, 322. ж. Н. *чорная* (4): ВР; УрП, 50; ХЛВ, 315; ЧЧШ. Р. *чорнай* (2): УрП, 51; Ф; *чорнае*: АЛ. В. *чорную* (2): Т, 20; ТС, 74. Т. *чорнай* (5): Ж; КП, 170; Нз, 14; ПН, 46; ЧС, 50-51. М. *чорнай* (3): РС, 40; См, 91; УрП, 52. н. Н. *чорнае* (3): Ан, 19; Т, 61 (2). В. *чорнае*: Ч, 324. М. *чорным*: З. Мн. Д. *чорным*: Ч, 325.

**ЧОРТ** (15) *м. Разм.* Ужываецца як лаянкавае слова. *Зноў пачуўся голас: – Дымок, другі, трэці... Кураць, чэрці! – усклікнуў назіральнік.* ПСп. // *Разм.* Ужываецца ў пабочных выразах для выражэння незадаволенасці, раззлаванасці. *Вось, матаючы нагайкай, Загамоне Налівайка, – Гэй, рагатка, чорт рагаты, Жыва месца дэпутату.* НД.

• **Чым чорт ня шуціць.**

◊ **Ні богу свечка, ні чорту качарга** *гл.* свечка. **К чорту** (5) – прэч; выражае злосць на што-н; жаданне пазбавіцца ад чаго-н. [Мікіта]: *(зрываючы з сябе і кідаючы па чарзе аб зямлю часткі пажарніцкага убору). К чорту пажарніцкую каманду! К чорту пажарніцкую кар'еру! .. І нямецкае шпрэхэн к чорту!* Т, 33. **Паслаць к чорту** *гл.* паслаць. **Чорт з ім** – няхай будзе так. [Мікіта]: *(вясёлы, пасвіствае і напявае). Радуйся, вселенная! Абвяшчаю ўсім, усім, усім: немцы акупавалі, медждý протчым, Менск!..* [Янка]: *Ну і чорт з імі!* Т, 31. **Чорт подзеры** (3) – вокліч, які выражае гнеў, абурэнне. [Усходні вучоны]: *(стукнуўшыся з Заходнім). Чорт подзеры!* Т, 26. **Якое чорта** – выражэнне негатыўных адносін да чаго-н. [Янка]: *Гучны, як уважаю, баль у вас будзе.* [Мікіта]: *О, так! У нашым чыноўніцкім становішчы іначай ня можна.* [Янка]: *..якое тут чорта чыноўніцкае становішча, калі яно ўжо не стаіць, а ляжыць, ды як яшчэ ляжыць – як трухлявая калода!* Т, 21.

Адз. Н. *чорт* (7): НД; Т, 26, 31(2), 38, 47; ЧЧШ. Р. *чорта*: Т, 21. Д. *чорту* (6): Т, 33(4), 50, 57. Мн. Н. *чэрці*: ПСп.

**ЧРАЗВЫЧАЙКА** (4) і **[ЧРЭЗВЫЧАЙКА]** *ж. Руск., разм.* Надзвычайны камітэт створаны бальшавікамі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. *Прышлі палякі, уцяклі саветы, камітэты і чразвычайка, а мы* [беларусы] *ізноў сабе сядзім і чакаем.* БС. *..жандармы і бальшавіцкіе "чрэзвычайкі" не завядуць на зямлі вечнага парадку і ладу..* СНБ.

Адз. Н. *чразвычайка* (2): БС; СНБ, 340. Р. *чразвычайкі* (2): СНБ, 339, 340. Мн. Н. *чрэзвычайкі*: СНБ.

**ЧТО**[1] *займ. Руск.*: ◊ **Что касается..., то...** *гл.* касаться.

Н. *что*: Т, 47.

**ЧТО**[2] (3) *злучн. Руск. Тое, што* што[2] *ў 1 знач.* [Усходні вучоны]: *(да Янкі). Очэнь кстаці, что вы, господзін белорус, здзесь.* Т, 38. [Усходні вучоны]: *Пры опросе аборыгенов Северо-Западного края о процяжэніі занімаемой імі церрыторыі выяснілось, что таковая включает в себя всю обласць Мінской Брэхалкі да ешчо далей...* Там жа, 39. Т, 39.

**ЧТОБЫ** *злучн. Руск. Тое, што* каб *у 1 знач.* [Усходні

вучоны]: *Вашы* [Янкі] *землякі не собіраются в будушчэм прыобрэсці себе морэ вместо утонувшего, чтобы со временем пробіць себе куда-нібудзь окошко – в Европу ілі в Азію?* Т, 47.

**ЧУВАЦЬ** (7) *незак.* 1. Можна чуць. *..чуваць стук у дзверы з левага боку, што далей ад рампы.* Т, 19. *Чуваць званок.* Там жа, 25.

2. *Разм.* Пашырацца, распаўсюджвацца. *..у нашым краю, каторы найбольш вынес на сваіх плячах буру сусветнай вайны, нічога аб гэтым не чуваць, нічога не робіцца..* АБ, 16. *З беларускай марсэльезай справа стаіць якбы лепей: маемо "Адвеку мы спалі", і іншых вершаў з музыкай, называных беларускімі марсэльезамі, штосьці ня чуваць.* СБНГ.

Інф. *чуваць* (7): АБ, 16; Н; СБНГ; Т, 19, 24, 25(2).

**[ЧУЖАЗЕМЕЦКІ]** *прым. Разм. Тое, што* чужаземны. *Але вось з захаду, з-за бору, На від не мал і не вялік, У чужаземецкім уборы Брыдзе-йдзе нейкі чараўнік.* УрП, 51.

Адз. м. М. *чужаземецкім*: УрП, 51.

**[ЧУЖАЗЕМНЫ]** *прым.* З чужой краіны; іншаземны. *Хаця ў гэтай кніжцы і зьмешчаны тэрміны па элемэнтарнай матэматыцы, але некаторыя з паміж іх дужа не элемэнтарны: вельмі ўжо многа гэтых тэрмінаў чужаземных, якія былі незразумелымі, так і засталіся – іх толькі перапісалі беларускімі літарамі..* ВСп, 89. *Параўн.* чужаземецкі.

Мн. Р. *чужаземных*: ВСп, 89.

**ЧУЖАК** (3) *м. Разм. Тое, што* чужынец. *Сляпы знемагаецца бацька ў цямніцы; На стражы пастаўлен сынок; У поўных калісьці ад шчасця святліцах Чужак зневажае дачок.* ЗК, 42. *Што-ж? – разгулівай, сыты чужак, Між забраных крыжоў, курганоў, Брат скаваны не згіне і так: Ён другіх пашукае братоў.* ЧС, 50–51. *Параўн.* чужаніца *у 1 знач.,* чужняк, чужы *ў 4 знач.*

Адз. Н. *чужак* (3): ЗК, 42; Ч, 321; ЧС, 50–51.

**ЧУЖАНІЦА** (5) *м.* 1. *Тое, што* чужынец. *І запытаецца вадзіца, Як не пытаў ніхто ў жыццю: Чаму яе п'е чужаніца, Яе, кроў родную тваю?* БрБ, 6. [Судзьбіна:] *..Разбудзі* [трэці брат] *сам сябе і той бацькавы насып, Што паганіць нага чужаніцы.* Ч, 323. *Параўн.* чужак, чужняк, чужы *ў 4 знач.*

2. *Тое, што* чужына. *Каб таму маланкай Асьляпіла вочы І блукаў абмацкам Ён у дзень і ў ночы, – Хто для нашых дзетак Хоча асьляпленьня, – Бэсьціць чужаніцай Думак прасьвятленьне.* К.

Адз. Н. *чужаніца*: БрБ, 6. Р. *чыжаніцы* (2): ПБН; Ч, 323. Т. *чужаніцай*: К. М. *чужаніцы*: Дз, 190.

**[ЧУЖАТВОР]** *м. Н准ватв.* Тэрмін іншаземнага паходжання. *А ня шкодзіла-б крыху сьмеласьці й замяніць гэтыя чужатворы, якія нічога ня кажуць ні розуму ні сэрцу, болей зразумелымі беларускімі наватворамі – было-б прасцей і мілагучней.* ВСп, 89.

Мн. В. *чужатворы*: ВСп, 89.

**[ЧУЖАЦКІ]** (7) *прым. да* чужак. *..а вёска глядзіць на пана, як на прыблуду з чужацкай стараны, які захапіў яго, селяніна, зямлю ды йшчэ здзекуецца над ім самім.* Нз, 14. *Сеялі* [беларускія сыны] *свае спрацаваныя косці на полі чужацкім.* БВ, 16.

◊ **Лезці ў чужацкую скуру** *гл.* лезці.

Адз. м. В. *чужацкі* (2): К; Ч, 319. ж. Р. *чужацкай*: Нз, 14. Д. *чужацкую*: Н. н. Т. *чужацкім* (2): БВ, 16; Нз, 14. Мн. В. *чужацкія*: Н.

**ЧУЖНЯК** *м. Наватв. Тое, што* чужынец. *Дакуль свайго не здрадзіць слова Свая народная рука, Датуль з галін сьвятой дубровы Чужняк ня сьцягне і лістка.* УрП, 50. *Параўн.* чужак, чужаніца *ў 1 знач.,* чужняк, чужы *ў 4 знач.*

Адз. Н. *чужняк*: УрП, 50.

**ЧУЖЫ** (77) 1. Які належыць каму-н. іншаму (іншым), з'яўляецца ўласнасцю другога (другіх). [Гарошка]: *Пайшлі* [Янка і Аленка]*, а мне сядзі тут у чужой хаце і чакай на іх.* Т, 44. [Ганулля]: *Вось адзін пан, – яго, здаецца, начальнік, – урэпіўся за Мікіту і загадаў яму цягаць чужыя рэчы ў свой панскі пакой у нейкай гасцініцы, дык бедны Мікіта як не падарваўся, цягаючы футры да спадніцы.* Там жа, 57. // Які ўласцівы каму-н. другому. *Бай* [матуля] *яму* [сыну] *даўнейшы казкі Аб бацькох сваёй зямлі, Як жылі бяз чужой ласкі, Як слугамі ня былі.* М, 19–20.

2. *У знач. наз.* Тое, што належыць каму-н. іншаму. *Слабейшыя народы, асабліва уваскросшые на тэрыторыі быўшай Расіі, змагаюцца толькі за тое, каб жыць, каб адстаяць сваю незалежнасць, не папускаючы свайго і незахопліваючы чужога.* СНБ. [Янка]: *А ці ж увекавечыць песня змаганне і ўміранне патомкаў? Не! Бо мы змагаемся і ўміраем за чужое.* Т, 60.

3. *У знач. наз.* Не звязаны сваяцкімі ці блізкімі адносінамі. *Проць сваіх, проць чужых крывадушыць* [другі сын] *і грэшыць, І так вязьне, як камень ў ціне.* Ч, 321. *Першы брат ад яе* [судзьбіны] *меў наказ незабыты: – Не здарма быць хацеў царам ночы, І сваіх, і чужых расьпінаў на крыжы ты; Крыўдай праўдзе сьмяяўся у вочы.* Там жа, 322.

4. Нетутэйшы. *Людзі чужыя змагаюць мне грудзі З новым парадкам, з адменным жыццём, – Роднага ж краю тутэйшыя*

*людзі Ў скуру чужацкую лезуць жыўцом.* Н. *Край наш сам па сабе багаты, толькі чужыя гаспадары яго знішчылі, зямлі маем шмат, лесу яшчэ болей..* Нз, 15. // *У знач. наз. Тое, што* чужынец. *Сярод разьюшаных сатрапаў Паганы зладзіўся хаўрус, Свае таргуюць і чужыя Табой, няшчасны беларус.* РС, 39. *Параўн.* чужак, чужаніца *ў 1 знач.,* чужняк.

5. Які не з'яўляецца радзімай для каго-н. *Гаспадарка на чужой зямлі апрыкрала.* А, 328. *Такім чынам, усё маё юнацтва прайшло на чужой зямлі ў безупыннай залежнасці і пад гнётам польскага панства.* Там жа, 328. // Замежны. *..кс. Мацеевіч і яго таварышы – гэта такіе-ж заядлые ворагі беларушчыны, як Юрашкевічы, Вераксіны і Замысловскіе, дык яны і будуць дамагацца для беларусоў-каталікоў ня роднай іх, беларускай мовы, а чужой – польскай!* ВР. *Стагнала ўся "руская" зямля, шалёна п'яная, разбушаваная, захліпаючыся "чырвоным смехам", Расійская імперыя, імперыя, магутная закованымі народамі, заграбленымі чужымі дзяржавамі.* НДН, 18.

6. Далёкі па сваіх поглядах, інтарэсах ад чаго-н. *Беларускае баярства, за польскія шляхоцкія значкі і цёплыя каля трона месцы, пачало выракацца свайго роднага, беларускага і перакульвацца на старану чужую, польскую.* Нз, 14.

• **У чужой старане.**

◊ **Бяз чужой ласкі** *гл.* ласка. **Ездзіць на чужой палітыцы** *гл.* ездзіць. **За чужой жыць работай** *гл.* жыць. **Ісці на чужым павадку** *гл.* ісці. **Пад чужым пяском** *гл.* пясок. **Як свінні ў чужым агародзе** *гл.* свіння.

Адз. м. Н. *чужы* (4): ЧС, 50-51(3); Ч, 323. Р. *чужога* (2): ВСп, 89; Ч, 319. В. *чужы*(2): Дз, 189; НДН, 18. Т. *чужым* (3): БВ, 16; Нз, 14; ПБН. М. *чужым* (4): Г, 17; МП, 218; Т, 39; ХБ, 28. ж. Н. *чужая* (7): АБ, 16; ДД; ЗК, 43; Т, 35, 44; Ч, 320; ЧС, 50-51. Р. *чужой* (6): БВ, 16; ВР; М, 20; НДН, 18; ПЛП; Т, 35. Д. *чужой*: Ч, 319. В. *чужую* (7): БСУ; Гр, 215; ЗК, 42(2); Нз, 14; ПВ; Т, 25, 44. Т. *чужой* (4): Бч. 95; Дз, 189; ЗС, 18; УрП, 50; *чужою*: БрБ, 6. М. *чужой* (6): А, 328(2); Т, 44, 47; ЧС, 50-51(2). н. Р. *чужога* (2): Г, 16; СНБ. В. *чужое* (2): Т, 35(2). Т. *чужым*: Б, 18. М. *чужым*: ПД, 83. Мн. Н. *чужыя* (5): МД; Н; Нз, 15; РС, 39; Т, 60; *чужые* (3): ДД; Чж, 146, 147. Р. *чужых* (6): НДН, 18(2); Пт; Т, 41, 62; Ч, 321. Д. *чужым* (2): ЗК, 42; Чж, 146. В. *чужых*: Ч, 322; *чужыя* (2): Т, 57; Ч, 325; *чужые* (2): ЗК, 42; Чж, 147. Т. *чужымі* (2): НДН, 18(2).

**[ЧУЖЫНА]** (3) *ж.* Няродная, чужая зямля. *Дэспатычная Расія царскага ўраду адрывала нашых дзецюкоў ад родных*

*хат, ад родных матак і гнала ў далёкі свет, у чужыну, на здзек і знявагу, для павялічання магутнасці маскоўскага самадзяржаўнага цара.* БВ, 16. *Беларус доўга ў чужыне не ўседзіць.* ЗС, 18. *Параўн.* чужаніца *ў 2 знач.*

Адз. Р. *чужыны*: ЗС, 18. В. *чужыну*: БВ, 16. М. *чужыне*: ЗС, 18.

**[ЧУЖЫНЕЦ]** (8) *м.* Чужы, нетутэйшы чалавек. *Простая нашых прадзедаў слава, Хоць апаганена мудрым чужынцам..* Пп, 5. *Дружнымі, згоднымі радамі няхай ідуць яны* [беларусы] *да адзінай мэты: адваяваць свой горад ад засільля чужынцаў і уваскрасіць стары Менск, калі панавалі тут продкі нашы, калі прыгожа зычэла мова наша і справавало беларускае права.* ВМР. // Іншаземны вораг; захопнік. *Буйным жыццём усё чыста кіпела, Слава далёка за мора ішла, Ворага кожны за плечы браў смела, Цемра чужынцаў не страшнай была.* Н. *Параўн.* чужак, чужаніца *ў 1 знач.*, чужняк, чужы *ў 4 знач.*

◊ **Глядзець вачыма чужынца** *гл.* глядзець.

Адз. Р. *чужынца*: ВМР. Т. *чужынцам*: Пп, 5. Мн. Н. *чужынцы*: ЗК, 42. Р. *чужынцаў* (2): ВМР; Н. Д. *чужынцам* (2): НДН, 19; ПЛП. М. *чужынцах*: АБ, 16.

**[ЧУЛАСЦЬ]** *ж.* Увага да людзей; спагадлівасць. *Мы* [дэлегаты] *з вялікай чуласцю выслухалі яе* [жанчыны] *апавяданне пра вялікую любоў яе сына да Леніна, да краіны Леніна.* ПЧ.

Адз. Т. *чуласцю*: ПЧ.

**ЧУЙНА** *прысл. Разм.* Пільна. *А нашы граніцы бетонам заліты, Мы* [Савецкай краіны сыны] *чуйна вартуем савецкі фарпост, Няхай-жа памкнуцца фашысты-бандыты, Касцямі палягуць яны на пагост.* ПБН.

**[ЧУЛЫ]** (2) *прым.* Уважлівы, спагадлівы, добразычлівы. *Я* [Купала] *вітаю цябе, моладзь, у гэты небывалы росквіт нашай долі, і веру, .. што цябе, моладзь, у вяках будуць успамінаць добрым і чулым словам.* ЖН. // Сардэчны, цёплы. *Раскажам табе* [Сталіну] *мы* [Савецкай краіны сыны] *праўдзіва быліны Аб тым, як жылі мы і сталі мы чым, Як мы разагнулі прыгнутыя спіны, Сагрэтыя чулым прыглядам тваім.* ПБН.

Адз. м. Т. *чулым*: ПБН. н. Т. *чулым*: ЖН.

**[ЧУМА]** *ж.* Вострая інфекцыйная хвароба. *У параўн. Як чуму, ясным днём Выгналі прыблудаў, Свой ачысцілі дом Ад варшаўскіх брудаў.* ПД, 83.

Адз. В. *чуму*: ПД, 83.

**ЧУРАЦЦА** (2) *незак. Руск. Тое, што* цурацца. [Янка]: *Калі ён* [Мікіта] *вышаў родам з сялян, то ніякай працы не*

*павінен чурацца, асабліва павінна яго пацягнуць туды, адкуль прышоў, – на вёску, дзе столькі поля някратанага ляжыць.* Т, 20. *Дарма “истинен” “Крестьянин”, Штось чураюцца хрысцяне.* ЛПК.

Інф. *чурацца*: Т, 20. Абв. цяп. мн. 3 ас. *чураюцца*: ЛПК.

**ЧУТКА** (4) *ж.* Вестка, пагалоска. *Мушу* [Купала] *ўспомніць тагочасную адну пашыраную чутку, паводле якое польскія “эндэкі” і расійскія “кадэты” ўжо тады падзялілі Беларусь на дзьве часткі: заходняя – палякам, усходняя – расійцам.* У. *Чуткі толькі ішлі, як туманы, і вялі Ў самасейным паходзе сталецьцяў, Што пранікнуць яна* [судзьбіна] *можа ў тайныя далі І адкрыць сьветы новыя ў сьвеце.* Ч, 322.

Адз. Н. *чутка*: Т, 57. В. *чутку*: У. Мн. Н. *чуткі*: Ч, 322. Т. *чутках*: Т, 34.

**[ЧУТКІ]** (2) *прым.* 1. Спагадлівы, уражлівы. *Вербы і вольхі калышуцца глуха, Сінія хвалі шумяць і бурляць. Чуткай душой ў такі час паслухай, – Здасца, там гэтакі голас чуваць..* Н.

2. Чуйны. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, я вам не адзін раз казаў і яшчэ кажу: у вас няма зусім гандлярскай жылкі, у вас не хапае нават чуткай кемнасці ў гандлёва-прамысловых справах..* Т, 34.

Адз. ж. Р. *чуткай*: Т, 34. Т. *чуткай*: Н.

**ЧУТНА** (3) *прысл. да* чутны. *Там чутна: Беларусь! Там – Незалежнасць! А там – “Паўстань пракляццем...”* Бч, 9. *Там* [за мяжою] *не чутна песень вясёлых, адно толькі смутныя вочы ў людзей глядзяць у наш бок – на Ўсход.* ЖН. БН, 93.

**[ЧУТНЫ]** (2) *прым. У знач. вык.* Чуцца. *Песня чутна ўсюды ў бязмежным прасторы, Ці то дзень, ці ночка, Ці сонца, ці зоры.* ПСД. *Спачатку і расстрэлы рэдка былі чутны.* СНБ, 339.

Кар. адз. ж. Н. *чутна*: ПДС. Мн. Н. *чутны*: СНБ, 339.

**ЧУТЫ** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* чуць *у 1 знач. ..больш за ўсё, я* [Купала] *думаю, зрабілі на мяне ўплыў беларускія народныя казкі, чутыя мною ў дзяцінстве.* ПС. // *У знач. наз. Я* [Купала] *яшчэ не паспеў сістэматызаваць усяго матэрыялу, таму толькі з большага раскажу пра бачанае, чутае.* ПЧ.

Адз. н. В. *чутае*: ПЧ. Мн. Н. *чутыя*: ПС.

**ЧУЎШЫ** *дзеепрым. незал. пр. да* чуць *у 1 знач.* [Янка]: *(чуўшы гэту гутарку). У чым справа?* Т, 33.

Адз. м. Н. *чуўшы*: Т, 33.

**[ЧУЦЦА]** (4) *незак.* 1. Гучаць. *Народ чагосьці зьнябываўся, Гул недавольства плыў і плыў, – Прызнаньне чулася ня ў часе, Нясьпелы колас рваўся з ніў.* УрП, 47. *У Оломоуце*

*сустракаўшая нас на вакзале публіка спявала "Інтэрнацыянал", чуліся воклічы "Няхай жыве таварыш Сталін".* ПЧ.

2. *перан.* Адчувацца. *Гэтакі ў часе глухой непагоды Чуецца ў Нёмнавай гутарцы жаль.* Н. *А ў тых* [Сулеймана Стальскага] *песнях гоман зямлі нашай чуўся, І рэха ляцела дарогаю слаўнай, Ажно з-пад Эльбруса і да Беларусі.* ПСС, 232.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *чуецца*: Н. Пр. адз. м. *чуўся*: ПСС, 232. ж. *чулася*: УрП, 47. Мн. *чуліся*: ПЧ.

**ЧУЦЬ¹** (28) *незак.* 1. Успрымаць слыхам. *Я прыкінуўся, што не чую, бо якраз дробных* [грошай] *пры сабе не меў, і вылецеў гарматняй куляй з рэдакцыі.* Ан, 19. *У якой мове трэба вучыць дзяцей рэлігіі? ..у роднай мове вучнёў – тэй гутаркай, якую яны змалку чуюць у бацькавай хаці.* ВР. // *Вобразн. А за ім* [чараўніком] *сучыць сьледам, цянюючы, зводнік. І гайдае зялёнае лісце. Шапаціць тое лісьце заснуўшым палянам, – Чуе ночка глухая, нямая..* Ч, 326. *І ўзьбегла песьня карагодам, Ёй пакарыўся мал, вялік. Здаецца, сонца яе чула, І просты зьвер, і ваўкалак..* УрП, 47.

2. Мець якія-н. звесткі, паведамленні пра каго-, што-н. *І скажа ён* [Сталін] *так мне з табою: Пра вас я ўжо чуў многа раз, – Вы – хлопчык і лётчык – героі, Чакаюць вось ордэны вас.* ХЛВ, 316. [Наста]: *О, немцам цяпер не да чужых генэралаў. Бо, як чула я ад пэўных асоб, у іх таксама рэволюцыя.* Т, 41.

3. Адчуваць. *Цяпер то, як ты* [родная зямелька] *красна, я чую, я бачу, – І апішу, бо ўсьпяж па табе плачу.* ХБ, 28.

4. Мець тыя ці іншыя (фізічныя) адчуванні. *Як сам царграмавік, чуе ў жылах пажары, Сонцы-б новыя сеяў* [першы брат] *па небе, Абярнуў-бы сялібныя ў полым абшары, І сьвет цэлы спаліў-бы ў патрэбе.* Ч, 324.

Інф. *чуць*: ВМР. Абв. цяп. адз. 1 ас. *чую* (5): Ан, 19; БН, 91; Н (2); ХБ, 28. 3 ас. *чуе* (6): ВР; ДЖ (2); ОШМ; Ч, 324, 326. Мн. 3 ас. *чуюць* (3): ВМР; ВР; ЗС, 17. Пр. адз. м. *чуў* (6): ЗЯЗ, 90; СЗГ, 252; ХЛВ, 316; Ч, 322(2); $Ш_5$. ж. *чула* (4): Т, 24, 41, 55; УрП, 47. Заг. адз. 2 ас. *чуй* (3): МПв, 220(3).

**ЧУЦЬ²** (4) *прысл. Руск.* Ледзь, трохі. [Ануля]: *Гэта ж, трэба вам* [Янку] *ведаць, чуць не наклікаў* [Мікіта] *на сваю галаву безгалоўя.* Т, 46. *..неба было ўсё сіняе без ніводнае плямачкі; цёплы паўднявы ветрык чуць шастаў лісьцем яблын, а даўгое белае павучыньне, каторае невядома адкуль узялося ціхенька плыло ў паветры.* ХБ, 29. ЛПК; Ч, 320.

**ЧУЦЬ³** *злучн.* Ужываецца ў даданых часавых у значэнні: як толькі, ледзь толькі. [Янка]: *Гучны, як уважаю, баль у вас* [Мікіты] *будзе.* [Мікіта]: *О так! У нашым чыноўніцкім*

*становішчы інačай няможна. Як чуць што зблышыў, дык і пачнуцца ўсялякія суды ды перасуды..* Т, 21.

**ЧУЦЬ-ЧУЦЬ** *прысл. Руск.* Зусім нямнога. *І зробім* [хлопчык і лётчык] *чуць-чуць астаноўку, Каб сцерве папасці ў папад: Для Гітлера скінем вяроўку Хутчэй каб павесіўся кат.* ХЛВ, 316.

**ЧЫ** *часц. Польск. Тое, што* ці². [Заходні вучоны]: *А чы не можэце, пане белорусін, поінформоваць венцэй шчэгулово о тэм вашым "далей"?* Т, 39.

**ЧЫГУНКА** (2) *ж.* 1. Рэйкавая дарога. *Дзе вечная пустка была, Там горад паўстаў і расце, А стужкай чыгунка лягла, Дзе ўчора стаяў лес яшчэ.* ТП, 215.

2. Транспартнае прадпрыемства, якое забяспечвае перавозку грузаў і пасажыраў па такой дарозе. *..маем* [беларусы] *вялікія рэкі, азёры, чыгункі, багатыя месцы, а ў іх фабрыкі, заводы, ды шмат іншага дабра.* Нз, 15.

Адз. Н. *чыгунка*: ТП, 215. Мн. В. *чыгункі*: Нз, 15.

**ЧЫЙ** (8) *займ.* 1. *пытальны.* Абазначае пытанне аб прыналежнасці каго-, чаго-н. каму-н. [Наста]: *Ужо даўно маё сэрца – не маё, а сядзіць у пастцы другога сэрца... (Усміхаючыся.) Чыйго?.. Вы, мусье Нікіці, пэўна ведаеце.* Т, 41. *Чые звоняць звонка косы На мурожнай сенажаці?* СА, 180. КЧ (2); СА, 180(2).

2. *адносны.* Падпарадкоўвае даданыя азначальныя сказы. *Хай жыве сьветлая культурная праява, на чыей бы зямлі і ў якім бы народзе яна не праявілася.* УПУВ. *Слава таварышу Сталіну, чые клопаты натхняюць совецкіх людзей да такіх гераічных подзвігаў.* СБ.

Адз. м. Н. *чый* (2): КЧ; СА, 180. Т. *чыім*: КЧ. ж. Н. *чыя*: СА, 180. М. *чыей*: УПУВ. н. Р. *чыйго*: Т, 41. Мн. Н. *чые* (2): СА, 180; СБ.

**ЧЫМ¹** (4) *злучн. параўнальн.* Ужываецца для сувязі параўнальных сказаў і членаў сказа са значэннем параўнання, супастаўлення. *Па праўдзе кажучы, паступіўшы ў гэтае вучылішча, я* [Купала] *ведаў больш, чым патрабавалася праграмай.* А, 328. *Як дамоў вярнуўся меньшы* [брат], *Сьвету як увідзеў, – Аказаўся дасьціпнейшы, Чым сярэдні, ў крыўдзе.* Дз, 190. *Параўн.* чымся. ВР; ЖН.

**ЧЫМ²** *гл.* **ШТО.**

**ЧЫМСЯ** (6) *злучн. Разм. Тое, што* чым¹. *У нявольніка заўсёды ёсць больш помства, нянавісці к другім, чымся ў чалавеку вольнага.* НДН, 19. [Янка]: *Там, на вёсцы, я патрэбней, чымся тут..* Т, 21. Вб, 237; НДН, 19; Т, 21, 41.

**[ЧЫН]**[1] (10) *м. Разм.* Чыноўнік. *Быў маскоўскі цар, былі ў нас насланые ім усялякіе чыны: земскі, вураднік, стражнік.* БС. *Цары нагналі ўсялякіх чыноў, запрудзілі край усялякай маскоўскай чорнай галытнёй..* Нз, 14.

◊ **Чын чына пачытаці** *гл.* пачытаці.

Адз. Р. *чына* (2): МК; НД. В. *чын* (3): Ж; НД; $Ш_4$. Мн. Н. *чыны* (3): БС (3). Р. *чыноў*: БС. В. *чыноў*: Нз, 14.

**[ЧЫН]**[2] (14) *м. Польск.* Учынак, дзеянне. *Як сам цар-грамавік, чуе ў жылах пажары, Сонцы-б новыя сеяў* [першы брат] *па небе, Абярнуў-бы сялібныя ў полым абшары, І сьвет цэлы спаліў-бы ў патрэбе. Гэткіх думаў сягнуць недасягнутых чынаў...* Ч, 324. // У спалучэнні з займеннікам: спосаб, прыём. [Спічыні]: *Толькі такім чынам вы зробіце сабе на свабоднай аратарскай профэсіі якследную асэсарскую кар'еру.* Т, 40. [Гарошка]: *Дык вось, як нашы* [сяляне] *гэткім чынам апошні суд з князем прайгралі, пачалося тое высяленне.* Там жа, 43. // З некаторымі займеннікамі ў ролі пабочных спалучэнняў са значэннем падагульнення. *Такім чынам, усё мае* [Купалы] *юнацтва прайшло на чужой зямлі..* А, 328. *Такім чынам, зважаючы на сказанае, справа беларускага гымну павінна быць вырашана.* СБНГ.

◊ **Першым чынам** (4) – у першую чаргу, спярша. *Разглядаючы гэты спіс (табліцу), мы першым чынам заўважаем, што леташняя выдавецкая справа ня была аднабокай..* ВСп, 89. [Мікіта]: *Выносьце* [Гануля] *першым чынам начоўкі з бялізнай, а я , меджду протчым, вытарабаню каламажку.* Т, 50.

Адз. Р. *чыну*: $Ш_1$. Т. *чынам* (13): А, 328; ВСп, 89; ЛП; Нз, 14; СБНГ; СНБ, 338; СНБ; Т, 24, 40, 43, 50, 53. Мн. Р. *чынаў*: Ч, 324.

**ЧЫНАДРАЛ** (2) *м. Разм., пагардл.* Чыноўнік, бюракрат. *Акоў паломаных жандар, Сліўнём зарыўшыся ў нару, Сядзіць расійскі чынадрал, "Слуга ацечаству, цару".* АПЖ. [Гарошка]: *Збіраўся пасвіць тутэйшых чынадралаў, але не паспеў, – прышлося выганяць з Менску абскубантаў.* Т, 37.

Адз. Н. *чынадрал*: АПЖ. Мн. В. *чынадралаў*: Т, 37.

**[ЧЫНІЦЦА]** (2) *незак.* Рабіцца, адбывацца. *Гэта дэмакратычная камэдыя, каторая толькі выклікае ня сьмех, а горкіе сьлёзы, бо чыніцца над жывым, змучаным, абяздоленым народам.* ДК. *Мы прывялі адзін з нязьлічаных выпадкау няпрызнаньня права беларускага народу на яго родную мову. Гэта чыніцца цяпер па усім абшары зямлі беларускай.* ОШМ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *чыніцца* (2): ДК; ОШМ.

**ЧЫНІЦЬ** і *разм.* **ЧЫНІЦІ** *незак.* Рабіць, учыняць. *Яны*

[дэнікінскія дывізіі] *з абозам на усход цяклі, Сузор'ямі апошні мерачы свой шлях, У прадчуванні, але йшчэ ня верачы ані, Што гэта ўжо сапраўды эпілёг дасяг, Што ўжо няма каму тут спадчынныя іскі Цяпер чыніць..* ВБЛ, 80. *Гэй, Дубровін чарнасоцкі, Пурышкевіч, Замыслоўскі, Дайце раду, што чыніці, Як крамолу скараціці.* ЛПК.

Інф. *чыніць*: ВБЛ, 80; *чыніці*: ЛПК.

**[ЧЫННАСЦЬ]** (2) і **[ЧЫННАСЬЦЬ]** (2) *ж. Кніжн.* Дзейнасць. *Наладжанае ў красавіку мінулага году Коопэрацыйнае В-ва "Адраджэньне" шпарка праявіла багатыя рэзультаты сваёй нядрэмлючай чыннасьці.* ВСп, 91. *..гэта часопісь* ["Наша Каляіна"] *з'яўляецца органам беларускай нацыянальнай злучнасці "Кветка Папараці", каторая сваю чыннасць пашырала на ўвесь Слуцкі павет і навет далей, за яго межы.* МІ, 17.

Адз. Р. *чыннасьці* (2): ВСп, 91(2). В. *чыннасць* (2): МІ, 17; Т, 37.

**[ЧЫННЫ]** *прым. Кніжн.* Дзейсны, актыўны. *Найболей пладавітымі, чыннымі й рухавымі ў падгатоўцы матар'ялу й друкаваньні, як бачым з вышэй памешчанай табліцы, аказаліся быўшы Навукова-Літаратурны Аддзел пры Наркамасьвеце Беларусі і буўшае В-ва "Адраджэньне" – цяпер "Савецкая Беларусь".* ВСп, 90.

Мн. Т. *чыннымі*: ВСп, 90.

**ЧЫНОЎНІК** (4) *м. Уст.* У дарэвалюцыйнай Расіі – дзяржаўны служачы. *Маскоўскі чыноўнік, таксама як польскі пан, глядзеў на беларуса як на "скот" (то й – як на "быдло").* Нз, 14–15. [Янка]: *Ці ж ён* [Мікіта] *і цяпер быў чыноўнікам.* Т, 57.

Адз. Н. *чыноўнік* (3): З; Нз, 14; Т, 57. Т. *чыноўнікам*: Т, 57.

**[ЧЫНОЎНІЦКА-ЖАНДАРМСКІ]** *прым. Наватв.* Які адносіцца да чыноўніцтва і жандармаў. *Прыбыла толькі к польска-панскаму бізуну чыноўніцка-жандармская нагайка.* Нз, 14.

Адз. ж. Н. *чыноўніцка-жандармская*: Нз, 14.

**[ЧЫНОЎНІЦКІ]** (7) *прым.* 1. Які адносіцца да чыноўніка, чыноўніцтва. [Янка]: *А што ж ён* [Мікіта], *па-вашаму* [Ганулі], *павінен рабіць у гэтае чыноўніцкае безрабоцце.* Т, 20. [Мікіта]: *..У нашым чыноўніцкім становішчы іначай няможна. Як чуць што зблышыў, дык і пачнуцца ўсялякія суды ды перасуды..* Там жа, 21.

2. Які належыць чыноўніку. *..уваходзіць* [Мікіта] *пераадзеты ў сваю чыноўніцкую форму з усімі адзнакамі, акручваючыся на пяце.* Т, 50. *Дастае* [Мікіта] *з шуфляды ў стале чыноўніцкія адзнакі і перад люстрам прымяркоўвае іх.* Там жа, 24.

Адз. м. М. *чыноўніцкім*: Т, 34. ж. В. *чыноўніцкую*: Т, 50. М. *чыноўніцкай*: Т, 25. н. В. *чыноўніцкае* (2): Т, 21, 20. М. *чыноўніцкім*: Т, 21. Мн. В. *чыноўніцкія*: Т, 24.

**ЧЫНОЎНІЦТВА** (4) *н.* Пасада чыноўніка. [Янка]: *Не высокае было яго* [Мікіты] *чыноўніцтва..* Т, 57. [Мікіта]: *..вы* [Янка] *яшчэ не ведаеце, што я для стварэння сабе новай кар'еры пакінуў чыноўніцтва і перайшоў на свабодную прафэсію.* Там жа, 36.

Адз. Н. *чыноўніцтва*: Т, 57. Р. *чыноўніцтва*: Т, 20. В. *чыноўніцтва* (2): Т, 20, 36.

**[ЧЫРВАНЬ]** *ж.*Чырвоныя плямы на чым-н. ад крыві. *Як стаяла яна* [маці] *над гэтым – Над пасьцельлю з чырвані тэй! Быў з ёй добрым вясёлы ветрык – Загасіў, як сьвечку яе.* ВБЛ, 82.

Адз. Р. *чырвані*: ВБЛ, 82.

**ЧЫРВОНАСЦЬ** *ж. Іран.*: • **Ваша чырвонасць** – зварот да Начальніка патруля. [Начальнік]: *Не загаварывайце зубоў, а кажэце праўду.* [Мікіта]: *Праўду кажу, ваша чырвонасць, – даліпан я не грабіў, меджду протчым.* Т, 60.

Адз. Н. *чырвонасць*: Т, 60.

**[ЧЫРВОНАСЦЯЖНЫ]** *прым.* Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. *..байцы доблеснага Чырвонасцяжнага Далёкаўсходняга фронта далі сакрушаючы адпор зарваўшымся самураям.* ВГ.

Адз. м. Р. *чырвонасцяжнага*: ВГ.

**ЧЫРВОНЕНЬКІ** *прым. Ласк. да* чырвоны. *перан.* Прыгожы, цудоўны. – *Хадзеце, хадзеце, вясёлыя людзі! А жыва да нас на таргоўлю: Пакупка-гасцінчык вам кожнаму будзе Чырвоненькі, хатняй гадоўлі.* Р.

Адз. м. Н. *чырвоненькі*: Р.

**ЧЫРВОНЫ** (22) *прым.* **1**. Колеру крыві. *Мікіта хапае чырвоную хустачку, чапляе на канец парасона і вывешвае празваконную фортачку.* Т, 59. *Работніцы перадалі старшыні дэлегацыі т. Кальцову букет чырвоных кветак.* ПЧ.

2. *перан.* Звязаны з савецкай дзяржавай. *Чырвонае войска Горда ідзе, разбівае кайданы.* Мц, 75. [Мікіта]: *Хай жывуць чырвоныя асэсарскія рангі!* Т, 43. // *У знач. наз. Яшчэ вісеў на блізкім ліхтары Яўрэй апошні, й азьвярэлыя вятры Ад жудасьці, ад сораму і дыму Яшчэ зрывалі тэлеграму з тыну, Што ад Растова ўсе чырвоныя Й няма што трасцай кідацца нялёгкай..* ВБЛ, 80.

• **Ваша чырвонае благародзіе** *гл.* благародзіе. **Ваша чырвоная міласць** *гл.* міласць. **Чырвоная армія** *гл.* армія. **Чырвоны смех** *гл.* смех.

Адз. м. Н. *чырвоны*: ДЖ. В. *чырвоны*: Т, 59. Т. *чырвоным* (3): НДН, 18; Т, 42, 43. ж. Н. *чырвоная*: Т, 41. Р. *чырвонай*: ПЧ. Д. *чырвонай*: Т, 60. В. *чырвоную* (3): ЖН; Т, 43. 59. н. Н. *чырвонае* (3): Мц, 75; Т, 60, 62. Т. *чырвоным*: СНБ. Мн. Н. *чырвоныя* (4): ВБЛ, 80; СС, 303; Т, 35, 43. Р. *чырвоных* (2): ПЧ; Ф. В. *чырвоныя*: ВВ, 263.

**ЧЫСТА** (8) *прысл.* Дакладна, без хібаў. *Падрыўнікі атрада чыста правялі работу.* ППС.

◊ **Усё (уся, усе) чыста** *гл.* увесь.

ДК; ЛР; МІ, 17; Н; РС, 40; СП; УрП, 52.

**[ЧЫСТАКРОЎНЫ]** *прым. Разм., перан.* Тыповы (пра чалавека). *А каб давясьці Думе, што тые каталікі-беларусы – гэта зусім не беларусы, а “чыстакроўные” варшавякі, іх стараюцца падфарбаваць пад варшаўскі колер і такі фальшывы “тавар” будуць паказываць Думе.* ВР.

Мн. Н. *чыстакроўные*: ВР.

**ЧЫСТЫ** (10) *прым.* 1. Дагледжаны. *Дом жылы невялікі, чысты – напрыглядку.* ХБ, 28.

2. *перан.* Маральна бездакорны. [Мікіта]: *Вы, пане настаўнік, як я заўважыў, чагосьці недалюбліваеце нашай чыстай інтэлігенцыі.* Т, 38. *А чыстае, відаць, сумленне мелі прадзеды нашы...* Кз, 17.

3. *Разм.* Не цяжкі і не брудны (пра працу). [Аленка]: *..вы* [Мікіта] *болей прынеслі б для сябе і для грамадзянства карысці, каб узяліся... ну хоць бы...* [Янка]: *(перабіваючы). ...на Камароўцы козы пасвіць? І чаму б, самдзеле, не так? А прафэсія чыстая і, разумеецца, свабодная.* Т, 36.

4. Акуратны. *..яго* [краю] *лясы і цяпер, калі іх не чапалі, маюць выгляд прыгажэйшых паркаў, – такія яны чыстыя і харошыя: роўныя сосны стаяць бы колённы гішпанскага храма.* ХБ, 29.

◊ **У чыстае поле** *гл.* поле.

Адз. м. Н. *чысты*: ХБ, 28. ж. Н. *чыстая* (2): Т, 36, 38. Р. *чыстай*: Т, 38. н. Н. *чыстае*: Т, 58. В. *чыстае*: Кз, 17. М. *чыстым* (3): ГП, 8; Дз, 189; Ч, 319. Мн. Н. *чыстыя*: ХБ, 29.

**ЧЫСЬЦЕЙ** *прысл. Пар. ст. да* чыста. *Золататканы абрусы С сталоў звісаюць дыванамі, На абрусох чысьцей расы Віно красуецца каўшамі.* Кц, 192.

**ЧЫСЦЕНЬКА** *прысл. Ласк.-узмацн. да* чыста. *Аленка – яго* [Лявона Гарошкі] *дачка, 17-19 г., крыху жвавая і вясёлая дзяўчына, адзяецца чысценька і скромна.* Т, 19.

**ЧЫТАННЕ** (2) і **[ЧЫТАНЬНЕ]** *н. Дзеянне па дзеяслову* чытаць. *Чытанне ўсякіх кніжак без разбору – а чытаў я* [Купала] *іх*

*вельмі многа – разбудзіла маю фантазію..* А, 328. *Кніг для чытаньня у школе дзьве – Лёсіка і Некрашэвіча..* ВСп, 89.

Адз. Н. *чытанне*: А, 328. Р. *чытаньня*: ВСп, 89. М. *чытанню*: УП.

**ЧЫТАНЬНЕ** *гл.* **ЧЫТАННЕ.**

**ЧЫТАЦЬ** (20) *незак.* Успрымаць напісанае, вымаўляючы ўголас ці сам сабе. *Чытаць кнігі я* [Купала] *пачаў рана.* ПС. [Начальнік]: *(палажыўшы пагоны на стол, да Спічыні). Чытайце другі дакумэнт.* Т, 61. // Атрымліваць звесткі з кніг, газет і інш. *Захапляўся* [Купала] *народнай міфалогіяй, чытаў аб ёй кнігі, якія трапляліся ў рукі.* ПС. *..начальнікі "вучэбных" вокругаў рассылалі цыркуляры, каб барані Божа народныя настаўнікі не чыталі беларускай газэты "Наша Ніва".* МІ, 17.

Інф. *чытаць* (3): Ан, 19; ПС; ЧЧШ. Абв. цяп. адз. 1 ас. *чытаю* (3): Ан, 19; ЛПК; Т, 61. 3 ас. *чытае* (2): Т, 61(2). Мн. 1 ас. *чытаем*: ХБ, 28. 3 ас. *чытаюць* (2): УП (2). Пр. адз. м. *чытаў* (5): А, 328; ПС (4). Мн. *чыталі*: МІ, 17. Заг. адз. 2 ас. *чытай* (2): Ан, 19(2). Мн. 2 ас. *чытайце*: Т, 61.

**[ЧЭЗНУЦЬ]** (3) *незак.* 1. Губляць здароўе, сілы; зьнясільвацца. [Чараўнік:] *А як пойдзе хто* [з сыноў] *трэцяй сьцяжынай-пуцінай, Што сваёй ня мінае граніцы, Будзе чэзнуць і вянуць націнай, паўцінай, Сьмягнуць будзе над роднай крыніцай.* Ч, 319. *Трэці* [сын]*, смоўжам прыліпшы да трэцяй пуціны, Чэзьне чэрвем на службе ў напасьці..* Там жа, 321.

2. *перан.* Знікаць. *Дзе хмары чэзьлі, то зноў вісьлі, З-пад зор, з-пад блудных сьветачоў Ні вокам людзкім, ані мысьляй Нязгадны цень ка мне зышоў.* УрП, 46.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *чэзьне*: Ч, 321. Пр. мн. *чэзьлі*: УрП, 46. Буд. адз. 3 ас. *будзе чэзнуць*: Ч, 319.

**[ЧЭК]** (3) *м. перан.* Дакумент. [Мікіта]: *Дык пакажэце* [Начальнік] *мне, меджду протчым, ваша чырвонае благародзіе, чэк на мой арышт.* [Начальнік]: *Чэк атрымаеце; як прыдзеце на месца.* Т, 62.

Адз. В. *чэк* (3): Т, 36, 62(2).

**ЧЭКАЦЬ** *гл.* **ЧАКАЦЬ.**

**[ЧЭКІСТ]** (3) *м. Гіст.* Супрацоўнік ЧК. *Не вам* [інтэрвентам, шпегам, дыверсантам] *край совецкі Знішчыць, крывапіўцы... У нашых чэкістаў Зоркія зраніцы!* МПв, 219. *Я* [Купала] *раскажу аб слаўных чэкістах т.т. Ягодзе, Фірыне, Успенскім і інш., аб тым, як яны аддана і разумна будавалі гэты шлях і перавыхоўвалі людзей.* ЦСБ.

Мн. Р. *чэкістаў* (2): МПв, 219; ЦСБ. М. *чэкістах*: ЦСБ.

**ЧЭЛАВЕК** *гл.* **ЧАЛАВЕК.**

**ЧЭРВЕНЬ** (3) *м.* Шосты месяц каляндарнага года. *Нарадзіўся я* [Купала] *25 чэрвеня (старога стылю) 1882 г. непадалёк ад Радашковіч, былога Вілейскага павета, у фальварку Вязынка.* А, 327. *1-я дзея адбываецца ў лютым 1918 г., 2-я – у снежні 1918 г., 3-я – у ліпені 1919 г., 4-я – у чэрвені 1920 г.* Т, 19.

Адз. Р. *чэрвеня*: А, 327. В. *чэрвень*: Т, 46. М. *чэрвені*: Т, 19.

**ЧЭРВЯК** *гл.* **ЧАРВЯК**

**[ЧЭРНЬ]** (2) *ж., зб. Зняважл.* Людзі нізкіх маральных якасцей. *Масква й Варшава аплюлі вам* [жыдам] *імя I ў дзікай чэрні ненавісьць збудзілі к вам..* Ж. *Ідзеш* [Год Новы] *у край, дзе пажарышча Яшчэ дымецць не перастала, Дзе смерць спраўляе сваё ігрышча, У сполку з чэрняй адзічалай.* НГд, 8.

Адз. Р. *чэрні*: Ж. Т. *чэрняй*: НГд, 8.

**[ЧЭРПАЦЬ]** (2) *незак.* 1. Даставаць, набіраць чым-н. што-н. вадкае. *I чэрпае* [абывацель]*, пакуль ня гляне дно, I ўсё ня можа смагі адалеці.* ВБЛ, 80.

2. *перан.* Набываць, браць. [Янка]: *..вы* [Мікіта] *ад гэткіх вучоных чэрпаеце сабе ўзяткадайны клёк для падтрымання сваіх рэгістратарскіх кар'ераў у тутэйшым краі.* Т, 39.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *чэрпае*: ВБЛ, 80. Мн. 2 ас. *чэрпаеце*: Т, 39.

**[ЧЭСНЫ]** *прым.* Праўдзівы, добрасумленны. *Хіхікаюць дурні, хіхікаюць нягодные. Але чаму-ж разумные і чэсные маучаць?* З.

Мн. Н. *чэсные*: З.

**ЧЭСЦЬ** (5) і **[ЧЭСЬЦЬ]** (2) *ж.* 1. Слава, пашана, павага каму-н. *Чэсць і слава табе, беларуская моладзь, паўстаючая з-пад беларускай саломеннай стрэхі!* МІ, 18. [Князь:] *Прашу паклікаці ганцоў I мейсцэ даці ім па чэсьці: Ад нашых стоптаных капцоў Якіе нам прыносюць весьці?..* Кц, 193.

2. *перан.* Прывітанне. [Мікіта]: *(..вітаючыся з гасьцьмі). Медждy протчым, мадам-сіньёра, цалую ручкі! Іх родзію чэсць!* Т, 58.

• **Чэсць імею** – форма ветлівасці ў мове. [Усходні вучоны]: *Весьма вам* [Мікіту] *благодарэн! Мої научные іследованія на сегодняшній дзень окончэны. Чэсць імею кланяцься!* Т, 27.

Адз. Н. *чэсць* (3): MI, 18; Т, 27, 58. Р. *чэсці*: Р. В. *чэсць*: Кз, 17; *чэсьць*: Ж. М. *чэсьці*: Кц, 193.

**[ЧЭШСКІ]** *прым.* Які адносіцца да Чэхіі. *У Празе мы* [дэлегаты] *наведалі .. дом спартыўнай чэшскай арганізацыі "Сокал", аглядалі ваенны аэрадром, дзе нас сустрэў начальнік ваенна-паветраных сіл Чэхаславакіі генерал Файфэр і дзе нам лётчыкі паказалі майстэрства пілатажа.* ПЧ.

Адз. ж. Р. *чэшскай*: ПЧ.

**[ЧЭХАСЛАВАЦКІ]** (2) *прым.* 1. Які мае адносіны да Чэхаславакіі. *У самую гушчу чэхаславацкага народу пранікла і глыбока ўмацавалася вера і надзея на Совецкі Саюз як на адзіны аплот міру.* ПЧ. *Значна кантрастуе з сельскай гаспадаркай чэхаславацкая прамысловасць, моцна развітая у краіне.* Там жа.

Адз. м. Р. *чэхаславацкага*: ПЧ. ж. Н. *чэхаславацкая*: ПЧ.

# Ш

**ШАБАС** (4) *м.* Суботні адпачынак, свята ў яўрэяў. *У параўн.* [Гарошка]: *Дарма толькі вытаптаў з паў-Менску – як у шабас, усе крамы пазачыняны.* Т, 39.

• **Шабас гут** (2) – прывітанне. [Спічыні]: *А як вы* [Мікіта] *прывітаеце спаткаўшы .. малое немчанё?* [Мікіта]: *Шабас гут, гэр кіндар фатэрлянд, меджду протчым!* [Спічыні]: *Ой, .. куды вы заехалі? Толькі не шабас..* Т, 31–32.

Адз. Н. *шабас* (3): Т, 31(2), 32. В. *шабас*: Т, 39.

**ШАБЛЯ** *ж.* Халодная зброя з выгнутым клінком і адным лязом, якой сякуць і колюць. *А наперадзе ўсіх едзе Наш Даніла з вайны, Шабля бліскае пры боку, Конь пад ім буланы.* ПСД.

Адз. Н. *шабля*: ПСД.

**ШАГАМ** *прысл.*: ◊ **Шагам марш** *гл.* марш$^2$.

**[ШАЛЕЦЬ]** *незак.* Лютаваць. *І там, і тутка без упынку Шалее хатні здзек і гнеў.* ГП, 8.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *шалее*: ГП, 8.

**[ШАЛЁНАП'ЯНЫ]** *прым. Разм.* Шумны, бурны. *Прымерам здзеку .. можа служыць .. царская Расея. Стагнаў татарын, грузінец, фін, паляк, украінец, беларус, стагнала ўся "руская" зямля, шалёна-п'яная, разбушаваная..* НДН, 18.

Адз. ж. Н. *шалёнап'яная*: НДН, 18.

**[ШАЛЁНЫ]** (4) *прым.* 1. Хворы на шаленства. *Гоняць, гналі* [беларусаў], *дзе гнаці* [чужакі] *маглі, Як шалёных ганяюць сабак..* ЧС, 50-51.

2. *перан.* Вельмі інтэнсіўны, хуткі, моцны па сіле праяўлення. *Адгэтуль незвычайнае абвастрэньне клясавай барацьбы, адгэтуль шалёнае супраціўленьне капіталістычных элементаў усім пачынаньням і мерапрыемствам савецкай улады.* АЛ. *Здань за зданьню паўзе, кожна здань – як змяя, ..*

*Абняліся з сабой у шалёну гульню, Вочы прыскам зіяюць, з губ коціцца дым.* БН, 92.

◊ **Шалёная галава** *гл.* галава.

Адз. н. Н. *шалёнае*: АЛ. Мн. Р. *шалёных* (2): ПЛП; ЧС, 50-51. Кар. адз. ж. В. *шалёну*: БН, 92.

**[ШАЛУПІНЬНЕ]** *н. перан.* Што-н. лішняе, непатрэбнае. *я* [Купала] *шчыра жадаю, каб гэты мой горкі вопыт паслужыў навукай для тэй часткі беларускай інтэлігенцыі, якая яшчэ ня зусім вызвалілася ад нацыянал-дэмакратычнага шалупіньня..* АЛ.

Адз. Р. *шалупіньня*: АЛ.

**[ШАЛЬ]** (2) *ж. Руск.* Доўгая вузкая вязаная або тканая хустка. *– Глыток вады, а за яго вазьмеце Вось гэты шаль – цяпер ўжо ўсё адно..* ВБЛ, 80. *І хціва мерыць* [абываталь] *шаль перад трумо Пры цьмяным бліску дымлівых капцілак.* Там жа.

Адз. В. *шаль* (2): ВБЛ, 80(2).

**[ШАЛЯСЦЕЦЬ]** *незак. перан.* Прыходзіць на памяць. *Ах, салодкі ўспамін не адзін Шалясціць, як вяроўкаю кат... Столькі іх, гэтых мілых часін! А забыці іх сілы няхват.* ЧС, 50–51.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *шалясціць*: ЧС, 50-51.

**ШАМАН** *н.* Чараўнік, знахар. *..на сьцюдзёных галодных раўнінах неаб'ятнай тундры набожны шаман муштруе бажкоў сваіх..* З.

Адз. Н. *шаман*: З.

**[ШАМАЦЕЦЬ]** *незак. Вобразн.* Панаваць, распаўсюджвацца. *Чыім краем не шамоча Ні няволя, ні бяда, Хай жыве, як сабе хоча, – Хоць як труцень, як нуда.* КЧ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *шамоча*: КЧ.

**ШАНАВАЦЬ** (6) *незак.* Адносіцца з пашанай, павагай да каго-, чаго-н. *Народ усім сэрцам, як роднага брата, Шануе і любіць яго* [Варашылава] *па-над свет.* НДп, 229. *Верны славянскім спадкам, браточна У госьцях вас* [людзей чужых] *мелі* [беларусы], *І шанавалі людзка, сьвяточна У будні, у нядзелі.* Чж, 146. // Цаніць. *Трэці брат ад судзьбіны наказ пераслухаў, – Снутраве ты занадта даў веры, І ў сябе шанаваць чалавечага духу Не патрапіў наўчыць брата-зьвера.* Ч, 323.

Інф. *шанаваць* (2): Т, 50; Ч, 323. Абв. цяп. адз. 1 ас. *шаную*: З. 3 ас. *шануе*: НДп, 229. Пр. мн. *шанавалі* (2): Ж; Чж, 146.

**ШАНОВНЫ** *прым. Польск. Тое, што* шаноўны. [Заходні вучоны]: *Можа шановны пан поінформуе цось о пшыродзе так званэй Бялэй Русі?* Т, 47.

Адз. м. Н. *шановны*: Т, 47.

**[ШАНОЎНЫ]** (5) *прым.* Вельмі паважаны (пры звароце). [Мікіта]: *Мо, шаноўныя мадамы і мусьі, патрабуеце купіць марак?* Т, 43. [Мікіта]: *Ша... Шан... Не так, меджду протчым, мае панечкі і мае паночкі! Рэволюцыйная самодысцыпліна .. гэта .. дысцыпліна, што мае два канцы – то яна ўсіх б’е, то яе ўсе б’юць.* Там жа, 40. *Параўн.* шановны.

Адз. н. Н. *шаноўнае*: Т, 51. Мн. Н. *шаноўныя* (2): Т, 43, 51; *ша*[ноўныя]: Т, 40; *шан*[оўныя]: Т, 40.

**[ШАНЦАВАЦЬ]** (3) *незак. безас.* Шчасціць, шчасливіць. [Мікіта]: *..я ўжо махнуў рукой на ўсе свабодныя профэсіі: штосьці мне яны не шанцуюць.* Т, 46. *І ручыла, шанцавала Ў бітвах цяжкіх яму* [Данілу]. ПСД. *Параўн.* везці *ў 2 знач.*

Абв. цяп. мн. 3 ас. *шанцуюць* (2): Т, 46(2). Пр. адз. н. *шанцавала*: ПСД.

**[ШАПАЦЕЦЬ]** *незак.* Шалясцець, шамацець. *Шапаціць тое лісьце заснуўшым палянам, – Чуе ночка глухая, нямая: Кожны край, што дачэсна завецца забраным Гэткіх казак забытых шмат знае.* Ч, 326.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *шапаціць*: Ч, 326.

**[ШАПКА]** (10) *ж.* Галаўны ўбор. *Хапае* [Мікіта] *шапку і знікае ў дзвярах справа.* Т, 32. *На шапцы ў яго* [Мікіты] *вялікі значок з белым арлом..* Там жа, 54.

◊ **Даць па шапцы** *гл.* даць. **Зняць шапку** *гл.* зняць. **Спаць у шапку** *гл.* спаць.

Адз. В. *шапку* (7): ВСп, 90; ГЖУ; РКр; Т, 28, 30, 32, 40. М. *шапцы* (2): Ан, 19; Т, 54. Мн. В. *шапкі*: СК, 158.

**[ШАПТАЦЦА]** (2) *незак. перан.* Шумець, шапацець. *Ад хваль, што шэпчуцца так міла, Ты* [брат-беларус] *дойдзеш праўданькі усей..* БрБ, 6. *Між гор шапталіся крыніцы, Ляпіўся мох да стрэх з драніц..* УрП, 47.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *шэпчуцца*: БрБ, 6. Пр. мн. *шапталіся*: УрП, 47.

**[ШАПТАЦЬ]** *незак.* Гаварыць, вымаўляць вельмі ціха, шэптам. *Грамавік на грудзёх яго* [чараўніка] *гібелі піша, Ведзьмы шэпчуць аб соладкіх рэчах.* Ч, 325. *Параўн.* шэптаць.

Абв. цяп. 3 ас. *шэпчуць*: Ч, 325.

**ШАРАДА** (5) *ж.*: **? Шарада № 1. Шарада № 2. Шарада № 3. Шарада № 4. Шарада № 5.**

Адз. Н. *шарада* (5): $Ш_1$; $Ш_2$; $Ш_3$; $Ш_4$; $Ш_5$.

**[ШАРЖ]** *м. Польск.* Гумар. *Вальц з фігурамі, без шаржу, крыху пануры.* Т, 29.

Адз. Р. *шаржу*: Т, 29.

**ШАРМАНКА** (3) *ж. Руск.* Катрынка. *..йграе наперамен-ку лера й шарманка.* Т, 33. *Пачынаецца танец ценяў пад музыку шарманкі.* Там жа, 43.

Адз. Н. *шарманка*: Т, 33. Р. *шарманкі*: Т, 43. Т. *шарманкай*: Т, 33.

**[ШАРСЬЦЕЦЬ]** *незак. Абл.* Шуршэць. *Шарсьцелі сьвітачныя шаты, Лаза ўхмылялася з лапцей.* УрП, 47.

Абв. пр. мн. *шарсьцелі*: УрП, 47.

**[ШАСНАЦЦАЦЬ]** *ліч. колькасны.* Колькасць, якая абазначаецца лічбай 16. [Мікіта]: *Цяпер я, пане профэсар, маю шаснаццаць дзённых і восем вячэрніх, меджду протчым, пасадаў рэгістратара ў розных .. аддзелах, пададдзелах і напаўпададдзелах..* Т, 46.

В. *шаснаццаць*: Т, 46.

**[ШАСТАЦЬ]** (3) *незак. Разм.* Шамацець, рухаючы чым-н. [Мікіта]: *Зірну ў слоўнікі, як яму* [немцу] *адказаць. (Шастае слоўнікамі).* Т, 32. *..цёплы паўднёвы ветрык чуць шастаў лісьцём яблын.* ХБ, 29. *Параўн.* шасцець.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *шастае* (2): Т, 32(2). Пр. адз. м. *шастаў*: ХБ, 29.

**[ШАСЦЕЦЬ]** *незак. Абл. Тое, што* шастаць. *Шасцяць у калоссі сярпы.* ТП, 213.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *шасцяць*: ТП, 213.

**ШАТЫ** (5) *толькі мн.* 1. Адзенне, убранне. *Было знаць неякае сьвята Няшлюбных з новізнай людзей, – Шарсьцелі сьвітачныя шаты, Лаза ўхмылялася з лапцей.* УрП, 47. *А душа сама – без хаты, Знаць, з вялікай мукі То зрывае с сябе шаты, То ў крыж зложэ рукі.* Дз, 191.

2 *перан.* Покрыва, пакрыццё. *Маўчаць урачыста лясы і курганы, Хаваючы былі пад шатамі хвой.* ПБН.

3. *перан.* Сукупнасць адметных рыс, характэрных чаму-н.; аблічча. *..калі ўжо нарадзілася беларуская сіла, то ні пальонізацыя, ні русыфікацыя не павінны мець мейсца на Беларусі, хоць-бы навет апранутые у дэмократычна-камэдыйные шаты.* ДК.

Н. *шаты*: УрП, 47. Р. *шат*: Пт. В. *шаты* (2): Дз, 191; ДК. Т. *шатамі*: ПБН.

**[ШАЎКОВЫ]** *прым. Вобразн.* Роўны, бліскучы. *Песні рвуцца з трывожных, бунтарскіх грудзей.. У шаўковую гладзь расхвалёваных ніў..* АР.

Адз. ж. В. *шаўковую*: АР.

**[ШВЭНДАЦЦА]** *незак. Разм., неадабр. Тое, што* хадзіць *у 3 знач.* [Гарошка]: *Тое-гэта, палякі на носе, – кажуць, што*

*ўжо Навінку забралі, – а яны* [Аленка з Янкам] *швэндаюцца сабе!* Т, 44.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *швэндаюцца*: Т, 44.

**ШКАДА** (6) *безас. У знач. вык.* Шкадаваць аб чым-н. [Янка]: *Шкада, што я раней аб гэтым на ведаў.* Т, 20. [Гарошка]: *Шкада толькі, што маці гэтага імянінніка* [Мікіты] *ў гэтакую кампанію ўпуталася.* Там жа, 29. Т, 36(2), 56(2).

**ШКАДАВАЦЬ** (4) *незак.* 1. Адчуваць жаль, спагаду да каго-н. *Насяленьне* [Беларусі] *голасна пачынае шкадаваць немцаў, бальшавікоў і Расію цалкам.* ОШМ.

2. Смуткаваць, бедаваць з прычыны чаго-н. [Гануля]: *Яно ж і наракаць на яго* [Мікіту] *роднай маці гэтак не выпадае, але падчас, як прыдзе нешта нейкае, дык і гаворыш, і гаворыш; спачатку палягчэе на сэрцы, а пасля і шкадуеш.* Т, 20. *Бацька пасля шкадаваў, што не вучыў мяне* [Купалу]. А, 328.

Інф. *шкадаваць*: ОШМ. Абв. цяп. адз. 1 ас. *шкадую*: СЧ. 2 ас. *шкадуеш*: Т, 20. Пр. адз. м. *шкадаваў*: А, 328.

**[ШКАРПЭТКА]** *ж.* Кароткая панчоха. [Мікіта]: *..выгандляваў ціішком .. тое-сёе з гэтай кантрабанды на якую-сякую панчоху ці шкарпэтку, палажыў сабе, меджду протчым, на воз і вязі сабе ў сваёй каламажцы.* Т, 46.

Адз. В. *шкарпэтку*: Т, 46.

**[ШКОДА][1]** (4) *ж.* 1. Урон, страта. *Людзі чужыя! Хтось калісь злічэ Вашу нам* [беларусам] *шкоду..* Чж, 147. *..як што прыдзе, Як нам зробяць шкоду, – Стар і мал, усе з ім* [Молатавым] *разам пойдзем у паходы.* НК.

2. Месца на полі, лузе, дзе жывёла можа зрабіць патраву. *Вядома, не абыходзілася без таго, каб я* [Купала] *не засынаў, а коні тым часам не траплялі ў шкоду.* ПС.

3. *перан.* Бяда. *Адзін з захаду груган, А другі з усходу Прыляцелі на сяло, На чужую шкоду.* Гр, 215.

Адз. В. *шкоду* (4): Гр, 215; НК; ПС; Чж, 147.

**ШКОДА[2]** (2) *безас. У знач. вык.* 1. Пра пачуццё жалю, спагады і пад. да каго-, чаго-н. *І шкода зрабілася думцэ людзей. Спусьцілася з высі нябеснай І ў душах пакорных зямелькі дзяцей Зьмянілася вольнаю песьняй.* ПН, 47.

2. Пра нежаданне аддаць, страціць і пад. што-н. *Ня шкода б было гэтых грошай, каб яны шлі на карысць чалавеку. Але ў гарэлцы якая карысць?* УП.

**[ШКОДЗІЦЬ]** (2) *незак.* Прыносіць шкоду[1]. *..учынкі польскіхураднікаў перш-на-перш шкодзяць самому-ж польскаму ўраду.* ОШМ.

◊ **Няшкодзіла б** – нядрэнна б зрабіць што-н. *А няшкодзіла-б ужыць крыху сьмеласці й замяніць гэтыя чужатворы .. болей зразумелымі беларускімі наватворамі – было-б прасьцей і мілагучней.* ВСп, 89.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *шкодзяць*: ОШМ. Пр. адз. н. *шкодзіла*: ВСп, 89.

**[ШКОДЛІВЫ]** *прым. Польск. Тое, што* шкодны. [Заходні вучоны]: .. *край тэн посядал навэт можэ, але, завдзенчаёнц шкодлівым вплывом зэ Всходу, можэтэ пшэісточало сень в Пінске блото.* Т, 47.

Адз. м. Т. *шкодлівым*: Т, 47.

**[ШКОДНАСЬЦЬ]** *ж.* Уласцівасць шкоднага. *Цяпер я* [Купала] *бачу ўсю шкоднасьць і гібельнасьць таго шляху, па якім памыкаліся беларускія нацыянал-дэмакраты павярнуць ход гісторыі.* АЛ.

Адз. В. *шкоднасьць*: АЛ.

**[ШКОДНІЦКІ]** (2) *прым.* Небяспечны, варожы, злачынны. *Для ажыцьцяўленьня гэтае мэты* [рэстаўрацыі буржуазнага ладу] *група контррэволюцыйных нацыянал-дэмократычных інтэлігентоў, у хаўрусе і пад кіраўніцтвам заходне-беларускага нацыянал фашызму .. на працягу раду год вяла шкодніцкую работу амаль на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва..* АЛ. ..[беларускія нацыянал-дэмократы] *праводзілі свае шкодніцкія нацыянал-дэмократычныя ідэі на культурным фронце.* Там жа.

Адз. ж. В. *шкодніцкую*: АЛ. Мн. В. *шкодніцкая*: АЛ.

**ШКОДНІЦТВА** *н.* Злачынная, шкодніцкая дзейнасць. *Шкодніцтва, дывэрсія, шпігоўства, інтэрвэнцыя, – усе гэта пускаецца ў ход, каб толькі зруйнаваць такія бастыёны соцыялізму, як індустрыялізацыя, і колектывізацыя..* АЛ.

Адз. Н. *шкодніцтва*: АЛ.

**[ШКОДНЫ]** *прым.* Небяспечны дрэннымі вынікамі. *Вучыць па расейску – гэта дрэнная і шкодная выдумка ўселякіх Солоневічоў, бо яна толькі мацней прывязывае цёмнаго беларуса да польскай мовы..* ВР. *Параўн.* врэдный, шкодлівы.

Адз. ж. Н. *шкодная*: ВР.

**ШКОЛА** (24) *ж.* Навучальная ўстанова, якая ажыццяўляе агульную адукацыю і выхаванне. *Справаканчаецца тым, што школа не адчыняецца, бо трэ' было адчыніць адну, а тут дамагаюцца трох.* ДК. *"Істіно-польскіе" дэпутаты ад нашаго краю падалі ў Думу запрос, чаму ў некаторых школах, дзе вучацца католікі-беларусы, ім выкладаюць рэлігію не па польску, а па расейску?* ВР. *Параўн.* школка.

• **Заводская школа** – школа, у якой займаецца моладзь без адрыву ад вытворчасці. *Баця рыхтуе для сябе “кадры” рабочых, арганізаваўшы для падлеткаў заводскія школы.* ПЧ.

Адз. Н. *школа* (2): ДК (2). Р. *школы* (2): ДК (2). В. *школу* (4): А, 328; ДК (3). М. *школе* (3): А, 328(2); ВСп, 89; *школі*: ВР. Мн. Р. *школ* (3): ВСп, 89(2); ШБСЯ. В. *школы* (4): ГНД; ДК; ПЧ; СНБ. М. *школах* (5): ВР (2); ВСп, 89; СНБ, 339; СНБ.

**ШКОЛКА** *ж. Разм. Тое, што* школа. *Не па нутру, як смерць, яму* [жандару]*, Што беларускае дзіцё Бяжыць у сцюжную зіму У школку пазнаваць жыццё.* АПЖ.

Адз. В. *школку*: АПЖ.

**[ШКОЛЬНЫ]** (5) *прым.* Які мае адносіны да школы. *Добры ўклад у беларускую школьную літаратуру зрабіла і кніга праф. Янчука “Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры”.* ВСп, 89. *Нашыя маладыя наіўныя паэты, знаёмыя з сваім родным краем з благіх расейскіх школьных кніг, вельмі часта ў вершах гавораць пра беднасьць, пра “ гразь, балота і пясок” у Беларусі.* ХБ, 27.

Адз. ж. В. *школьную*: ВСп, 89. Мн. Р. *школьных* (2): ОШМ; ХБ, 27. В. *школьныя*: ВСп, 89. М. *школьных*: ПЧ.

**[ШЛІФА]** (2) *ж. Польск.* Пагон. [Дама]: *Ах. мусье! але вы фарсун: у вас мундзір са шліфамі!* Т, 25.

◊ **Надзець шліфы** *гл.* надзець.

Мн. В. *шліфы*: Т, 21. Т. *шліфамі*: Т, 25.

**ШЛЮБ** (2) *м.*: ◊ **Шлюб даваць** *гл.* даваць.

Адз. Н. *шлюб*: Т, 53. В. *шлюб*: Т, 53.

**[ШЛЮБНЫ]** *прым.* Прызначаны для шлюбу. [Янка]: *..расіца срабрыстая шлюбныя персцені свянціла.*Т, 53.

Мн. В. *шлюбныя*: Т, 53.

**[ШЛЮБОЎНІК]** *м. Наватв.* Той, хто ўступае ў шлюб. [Гануля]: *Ну, і пайшлі плот гарадзіць, каб вы цяміліся, мае ж вы шлюбоўнікі!* Т, 54.

Мн. Н. *шлюбоўнікі*: Т, 54.

**ШЛЯХ** (53) *м.* 1. Шырокая, прыстасаваная для руху, дарога. *А нашы дарогі! Праз немарач, нетры, На радасць людскую, як стрэлы, ляглі. Гудуць правады над шляхамі ў паветры, Што жыць стала лепей на нашай зямлі.* ПБН. // Прастора, на якой адбываецца рух. *Я* [Купала] *вельмі і вельмі шчаслівы, што дажыў да тэй пары, калі здолеў убачыць сваімі вачыма вялікі Беламорска-Балтыйскі водны шлях..* ЦСБ. *Камсамольцы сям’ёй дружнай Рэжуць хвалі ў шляху водным.*СА, 180.

2. *перан.* Вялікі перыяд, этап развіцця чаго-н. *Агромністая радасць, гордая радасць пераможцаў над класавым ворагам*

*ахоплівае народы нашай вялікай радзімы, калі яны глядзяць на пройдзены шлях і падлічваюць свае перамогі.* ВГР. *Мы прайшлі гэты шлях, як казачныя асілкі – сямімільнымі, ленінскімі крокамі.* Там жа.

3. Падарожжа. *Гэтую прыязнь да совецкае культуры, да нашае краіны .. мы* [дэлегаты] *з хваляваннем адчувалі .. ў кожным горадзе, мястэчку, вёсцы па шляху нашага двухтыднёвага падарожжа* [па Чэхаславакіі]. ПЧ.

4. Напрамак, маршрут. *За ім – за сонейкам – мой шлях, Куды яно з сваёю ласкай, Ляцець, плысці, як той жар-птах.* МСП, 187. *Здушылі, збэсьцілі* [сатрапы] *усё чыста У чорнай яве, ў зводных снах, Што ад прыроды шлях свой мела, Што к сонцу мела вольны шлях.* РС, 40. // *перан.* Напрамак дзейнасці, развіцця чаго-н. *Цяпер я* [Купала] *бачу ўсю шкоднасьць і гібельнасьць таго шляху, па якім памыкаліся беларускія нацыянал-дэмократы павярнуць ход гісторыі.* АЛ. *Рэформа правапіса .. з'яўляецца велізарным правільным і своечасовым актам барацьбы за культуру беларускай мовы па шляху пролетарскага інтэрнацыяналізма..* ШБСЯ.

5. *перан.* Жыццё каго-н., дзейнасць; жыццёвы лёс. *І сёння, праглядаючы разам з вамі свой жыццёвы і творчы шлях, за адны пераходы гэтага шляху я* [Купала] *радуюся, другія я з ахвотай закрэсліў-бы сам.* ЖН. *Аб сваім пройдзеным творчым шляху за гэтыя трыццаць год я* [Купала] *не буду гаварыць. Гэтаму з'яўляюцца сведкай мае творы..* ДЖ.

• **Белы і чорны морскі шлях** – паўночны шлях па Беламу мору і паўднёвы шлях па Чорнаму мору. *..Еўропы жыхары Шлі к вам* [бальшавікам] *праз морскія віры. ..І не дайшлі – зышлі на час Праз белы й чорны морскі шлях.* ПВ. **Шлях млечны** – мноства зорак, падобнае ў ясныя ночы на светлую паласу, расцягнутую па небе. *На небе – шлях млечны, на небе – вясёлкі..* ТП, 217.

Адз. Н. *шлях* (10): АЛ; ББ (2); ЗК, 42; МСП, 187; ТП, 217; Ч, 319(3); ЦСБ. Р. *шляху* (3): АЛ; ЖН; Ч, 320. В. *шлях* (17): АЛ; ВБЛ, 80; ВГР (4); ЖН; НК; Пт; ПВ; ПЛП; ПНд, 314; РС, 40(2); Т, 35; ЦСБ (2). Т. *шляхам* (7): ДЖ; ПЛП; Т, 37; Х; Ч, 319, 322(2). М. *шляху* (6): АЛ; ДЖ; ЖН; ПЧ; СА, 180; ШБСЯ. Мн. Р. *шляхоў*: ТП, 214. В. *шляхі* (4): БСУ; ТП, 216; СС, 301, 302. Т. *шляхамі* (5): БВ, 17; ПБН; СНБ, 337; СБН; Т, 51.

**ШЛЯХЕЦКІ** і *разм.* **[ШЛЯХОЦКІ]** *прым.* Які мае адносіны да шляхты, належыць ёй. *Між такімі палямі – намесь – пры ручаю, На ўзгорку невялікім, у бярозавым гаі, Сьвяціў шляхцецкі хорам..* ХБ, 28. *Беларускае баярства, за польскія*

*шляхоцкія значкі і цёплыя каля трона месцы, пачало выракацца свайго роднага, беларускага і перакульвацца на старану чужую, польскую.* Нз, 14.

Адз. м. Н. *шляхецкі*: ХБ, 28. Мн. В. *шляхоцкія*: Нз, 14.

**[ШЛЯХЕЦТВА]** *н. Гіст.* Прывілеяванае саслоўе на Беларусі ў 13 – пачатку 20 ст. ст. *Палякі мелі магчымасьці перарабляць беларусаў на палякоў цэлые трыста год з лішкаю і нічога ня ўскуралі, калі ня лічыць пары сотак старога выміраючага шляхецтва.* ДК.

Адз. Р. *шляхецтва*: ДК.

**ШЛЯХОЦКІ** *гл.* **ШЛЯХЕЦКІ.**

**ШЛЯХЦІЦ** *м. Гіст.* Польскі дробнапаместны дваранін. – *Ха-ха! – цярэбіць патыліцу засьцянковы беларускі шляхціц "польскай культуры", завязываючы аборы ў лапцях.* З.

Адз. Н. *шляхціц*: З.

**ШМАТ** (38) *прысл.* 1. У вялікай колькасці, у значнай ступені; не мала, многа. *Край наш сам па сабе багаты, толькі чужыя гаспадары яго знішчылі. Зямлі маем шмат, лесу яшчэ болей..* Нз, 15. *Шмат дапамагло гэтакай пасьпешнай працы тое, што галоўнымі пайшчыкамі гэтага выдавецтва* ["Адраджэньне"] *зьяўляецца Наркамасьветы і Цэнтрабелсаюз..* ВСп, 91. // *У знач. ліч.* Няпэўна вялікая колькасць каго-, чаго-н. *У нашым краю шмат жыве палякаў, расійцаў, жыдоў, татараў.* НДН, 19. *Кожны край, што дачэсна завецца забраным, Гэткіх казак забытых шмат знае.* Ч, 326. АР; ББ, 6; ВМР; ВН; ВС (3); ДД; ДК; ЛР; Нз, 15; НДН, 18; ПЛП (2); СБНГ; Т, 20; Ун, 73; УПУВ.

2. У спалучэнні з прыметнікамі і прыслоўямі вышэйшай ступені азначае: значна, намнога. *У хаўрусе шмат лягчэй і карысьней гэта рабіць* [закупліваць збожжэ]. ВС. *Гдзе мужыкі больш свядомы и граматны, там шмат меней прапиваюць грошай и больш чытаюць книг и газэт.* УП.

3. У спалучэнні з адноснымі займеннікамі абазначае: многія, многае. [Аленка]: *Шмат хто і з нас ужо змагаецца і ўмірае не за чужое, а за сваё..* Т, 35. *І для Беларусі, як ня быў цяжкім мінулы год у яе змаганьні за сваю дзяржаўную незалежнасьць, а ўсё-ж такі ён шмат чаму навучыў, і шмат каму з беларускага грамадзянства адкрыў вочы, асьлепленые тымі ці іншымі утопіямі і абецанкамі...* СНБ. АБ, 16; Б, 18; Дз, 187; МІ, 17; Н; ПЛП; ПЧ; СБНГ; СНБ, 337; СНБ; ХБ, 30.

**[ШМАТЛІКІ]** *прым.* Які маецца ў вялікай колькасці. *Гэтая сімпатыя выказвалася нам* [дэлегатам] *і шматлікай публікай, якая падхоплівала прывітанні, прымала нас як любых*

*гасцей сваёй краіны.* ПЧ.

Адз. ж. Т. *шматлікай*: ПЧ.

**[ШМАТОК]** *м.* Кавалак, кусок. *Дынаміт і порах Запускалі ў дзела* [трацкісты-дыверсанты], *– На шматкі хай рвецца Народнае цела!* МПв, 219.

Мн. В. *шматкі*: МПв, 219.

**[ШМАТПАКУТНЫ]** *прым.* Які перанёс шмат пакут, выпрабаванняў. *Не дзіва, што многа жалю, многа смутку і жальбы было ў маіх* [Купалы] *песнях, бо незабыўнае гора, голад і смутак паланілі сэрца шматпакутнага народу.* ЖН.

Адз. м. Р. *шматпакутнага*: ЖН.

**[ШНУР]** (3) *м.* 1. Вяровачка, звітая з некалькіх кручаных нітак ці некалькіх пасмаў. *І там здань і тут здань, закружыліся ў круг, Кругам труцень у бляшках бліскучых спавіў, Усіх іх у жалезны ржавелы ланцуг, Сэрцы рве і грызе, шнурам шыі здавіў.* БН, 92.

2. *перан.* Вузкая палоска зямлі; сялянскі надзел. *Гаспадар той суважна свой шнур па святочнаму Абыходзіці будзе, красой любавацца..* ТС, 74. *Што хто ні кажэ, а мы* [сяляне] *як мага засеваймо свае шнуры.* РКр.

Адз. В. *шнур*: ТС, 74. Т. *шнурам*: БН, 92. Мн. В. *шнуры*: РКр.

**ШНУРАМ** (3) *прысл. Разм.* Адзін за адным. *Гануля, а за ёй Пані з манаткамі шнурам выходзяць.* Т, 34. *Уваходзяць шнурам з катомкамі за плячыма і з кіямі ў руках: Дама, Поп, Спраўнік і Пан.* Там жа, 37. Т, 38.

**[ШНУРЫК]** *м. Разм.*: **? Нізаць на шнурык** *гл.* нізаць.

Адз. В. *шнурык*: ЗК, 43.

**[ШНЫРАЦЬ]** (2) *незак. Разм., неадабр.* Хадзіць туды-сюды. [Аленка]: *На гэтых* [вучоных]*, дык няма ніякага ўпынку! Шныраць і шныраць, як свінні ў чужым агародзе.* Т, 39.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *шныраць* (2): Т, 39(2).

**[ШОРАХ]** *м. перан.* Успамін. *Паўзуць і сеюць шорах свой Старым парадкам цені-мары.* Кц, 192.

Адз. В. *шорах*: Кц, 192.

**[ШОСТЫ]** *ліч. парадк. да* шэсць. *Шостую вясну ўжо ён* [селянін] *сее так безнадзейна, ня ведаючы – хто сяўбу жаць будзе.* ДД.

Адз. ж. В. *шостую*: ДД.

**[ШОЎК]** (2) *м.* Ніткі з шаўковага валакна. *З далёкіх заморскіх старон – ..прыязджалі па моры і па сушы багатыя госці з багатымі таварамі – шоўкам, бісерам, янтаром ды драгацэннымі скарбамі.* Кз, 17. *Глядзіш – для яе, маладой*

[радзімы], *Ткуць кросны атласы, шаўкі..* ТП, 215.

Адз. Т. *шоўкам*: Кз, 17. Мн. В. *шаўкі*: ТП, 215.

**ШПАЛЕРЫ** (4) *толькі мн.* Папера для аклейвання сцен. *Шпалеры павыдзіраны і кускамі звісаюць к долу.* Т, 43. [Мікіта]: *Вы, меджду протчым, мамаша, прышпільвайце чым-небудзь адвіснутые матузы ад шпалераў, а я адкулю на добры бок абразы.* Т, 50.

Н. *шпалеры*: Т, 43. Р. *шпалераў* (2): Т, 48, 50. В. *шпалеры*: Т, 50.

**ШПАРКА** (2) *прысл. да* шпаркі. *Наладжанае ў красавіку мінулага году коопэрацыйнае В-ва "Адраджэньне" шпарка праявіла багатыя рэзультаты сваёй нядрэмлючай чыннасьці.* ВСп, 91. *..ні адна вялікая ідэя не пашыралася так шпарка, як ідэя нацыянальнага адраджэння беларускага народу.* ПЛП. Т, 41.

**[ШПАРКІ]** *прым.* Хуткі. *Калі ў галіне індустрыяльнага і сельскагаспадарчага .. будаўніцтва краіна .. дасьцігла нябывалых і нячуваных посьпехаў.., то ў галіне літаратуры, мастацтва гэтакіх посьпехаў і такога шпаркага разьвіцця не адчувалася.* ДНСП.

Адз. н. Р. *шпаркага*: ДНСП.

**[ШПЕГ]** *м. Польск. Тое, што* шпіён. *Не вам, інтэрвенты, шпегі, дыверсанты, На прыстані нашы Выпускаць дэсанты.* МПв, 219.

Мн. Н. *шпегі*: МПв, 219.

**ШПІГОЎСТВА** *н. Польск.* Шпіянаж. *Шкодніцтва, дывэрсія, шпігоўства, інтэрвэнцыя, – усё гэта пускаецца ў ход, каб толькі зруйнаваць такія бастыёны социялізму, як індустрыялізацыя і колектывізацыя..* АЛ.

Адз. Н. *шпігоўства*: АЛ.

**[ШПІЁН]** (4) *м.* Тайны агент. *У прыёмных нямецкіх і японскіх контрразведак трацкісцкія шпіёны і здраднікі гандлявалі нашаю крывёю і нашым нацыянальным гонарам.* ВНЗ. *Пад Вашым* [Ежова] *кіраўніцтвам совецкая зямля, у тым ліку і Совецкая Беларусь, з поспехам ачышчаецца ад германа-японскіх і польскіх шпіёнаў і дыверсантаў.* НКУС. *Параўн.* шпег.

Адз. Р. *шпіёна*: ПБН. Мн. Н. *шпіёны*: ВНЗ. Р. *шпіёнаў* (2): МП; НКУС.

**[ШПОРА]** *ж.* Сагнутая па форме абцаса металічная дужка з кольцам, якая служыць для лепшага кіравання канём. *І свой сон Сніць далей гэты царадвор, Калі надыдзе яму дзень, Ізноў пад лёзгат царскіх шпор Свой распасцерці чорны цень!* АПЖ.

Мн. Р. *шпор*: АПЖ.

**[ШПРЭХАЦЬ]** *незак. Ням., разм.* Размаўляць, гаварыць. [Мікіта]: *На якую ж халеру пацеў я столькі над шпрэхэндэйчам, калі яны* [немцы] *па-на-шаму лепей ад нас самі шпрэхаюць?* Т, 32.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *шпрэхаюць*: Т, 32.

**[ШПРЭХЭН]** *м. Ням., разм.* Маўленне. [Мікіта]: *(Пускаючы аб зямлю кнігамі). І нямецкае шпрэхэн к чорту!* Т, 32.

Адз. Н. *шпрэхэн*: Т, 32.

**[ШПРЭХЭНДЭЙЧ]** *м. Ням., разм.* Маўленне па-нямецку. [Мікіта]: *На якую ж халеру пацеў я столькі над шпрэхэндэйчам, калі яны* [немцы] *па-нашаму лепей ад нас саміх шпрэхаюць?* Т, 32.

Адз. Т. *шпрэхэндэйчам*: Т, 32.

**ШПУРЛЯЦЬ** *незак. Разм.* Кідаць, шыбаць чым-н. [Гануля]: *Спачатку ўсе здзівіўшыся глядзелі, смяяліся, а паслі давай шпурляць у яго* [Мікіту] *чым хто папала.* Т, 46.

Інф. *шпурляць*: Т, 46.

**ШПУРНУЎШЫ** *дзеепрысл. да* [шпурнуць]. Кінуўшы, шыбануўшы што-н.– *На, чытай! – закончыў ён* [рэдактар], *шпурнуўшы мне сто і адну газэту.* Ан, 19.

**ШРУБ** *м.* Вінт. *На акяніцах – шруб, а на дзьвярах – замок.* ВБЛ, 81.

Адз. Н. *шруб*: ВБЛ, 81.

**[ШРЫФТ]** *м.* Камплект друкарскіх літар пэўнага памеру і формы. *Пры вельмі цяжкіх тэхнічных варунках, бо Поліграфадзел ня мог ці не хацеў даць патрэбную колькасьць шрыфтаў і наборшчыкаў,.. – такі вынік кароткай выдавецкай чыннасьці "Адраджэньня" быў проста гэраічным.* ВСп, 91.

Мн. Р. *шрыфтаў*: ВСп, 91.

**[ШТАБ]** (2) *м.* 1. Месца размяшчэння органа кіравання войскамі. [Спраўнік]: *І вы* [Мікіта] *павінны зараз ісці са сваёй здабычай у штаб акупацыйных войск.* Т, 53.

2. *перан.* Кіруючы орган чаго-н. *Працуючы ў навуковатэрмінолёгічнай комісіі у Інбелкульце, Бан, гэтых кіруючых штабах беларускага нацыянал-дэмократызму, .. я* [Купала] *ня толькі ні разу не асудзіў іх, але наадварот, моральна падтрымліваў і дапамагаў іх рэалізацыі.* АЛ.

Адз. В. *штаб*: Т, 53. Мн. М. *штабах*: АЛ.

**[ШТАБЕЛЬ]** *м.* Што-н. складзенае. *І пакуль шукалі* [хлопчыка] *ў трупярні Паміж штабеляў сініх цел, – У прамежак ад сьмерці к спальні Скіфскі вецер з сьмехам ляцеў.* ВБЛ, 81.

Мн. Р. *штабеляў*: ВБЛ, 81.

**ШТО[1]** (336) *займ.*1. *пытальны.* Абазначае агульнае

пытанне аб прадметах, з’явах і іх прыметах, дзеянні, стане каго-, чаго-н. [Начальнік]: *Гэта што ў вас у руках?* [Мікіта]: *Гэта... Гэта... ..качарэжкі!* Т, 60. *Ах! што гэта? – Раскрылася неба й зямля, Рай і пекла зьмяшаліся ў процьму ў вадну..* БН, 91. [Янка]: *А што ж ён* [Мікіта], *па-вашаму, павінен рабіць у гэтае чыноўніцкае безрабоцце?* [Гануля]: *Што? Хоць бы ўзяў, як іншыя, ды падвучыўся боты шыць або хоць латаць.* Т, 20.

2. *пытальны. У знач. вык.* У якім стане хто-, што-н. знаходзіцца? *А тыя беззямельныя, убогія земляробы, а тыя малазямельныя вузкашнурыя вёскі і сялібы – што яны? Яныназіраюць толькі.., як гэта зямля .. пападае ў рукі лішніх і зусім непатрэбных у нашым краю людзей.* ЗС, 18. *А сёння... Сёння што? Ад рання і да рання, калышучы абняты жудасцю прастор, Плыве з Масквы жалобнае пяянне, Аж рэха далятае да Каўказскіх гор.* СК, 158.

3. *пытальны. У знач. прысл.* Чаму? па якой прычыне? *Запыталіся ў Галінкі, У малой дзяўчынкі: – Што сядзіш ты, Галя ў хаце, І не йдзеш гуляці?* Вб, 236. [Янка]: *Дзень добры, цётачка! Што вы так задумаліся?* Т, 53.

4. *пытальны. У знач. прысл.* Для чаго? Навошта? З якой мэтай? *Чаго прышоў* [чараўнік], *чаго ты хочаш, Ад гэтых жыхароў пустынь?* УрП, 51.

5. Ужываецца ў рытарычных пытаннях і воклічах, якія супадаюць па значэнню з адмоўным займеннікам “нішто”. [Гануля]: *Рэгістратар! А што цяперашнім часам рэгістратар? Адно глупства.* Т, 57. [Пан]: *Весялей жылі нашы бацькі.* [Спраўнік]: *Ды што – бацькі? Я сам як жыў? Фю-фю!* Там жа, 28.

6. *азначальны. Разм.* Вельмі многа. [Гануля]: *Стары .. маніўся кусочак зямлі з хатай купіць, але не ўспеў. А яму, свайму Мікітку, што я наталкавалася, каб з’ісціў бацькаву думку, – не паслухаў.* Т, 20.

7. *неазначальны. Разм.* Што-небудзь, штосьці. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, ці там не знойдзецца чаго пайковага закусіць?* Т, 51. [Ганна]: *Але затое татка твой* [Аленкі] *хоць свету пабачыць – пад старасць будзе мець што ўнукам расказваць.* Т, 54. // У спалучэнні з часціцай “колечы”. *Трудны цяпер час.., але ўсё ж што колечы ды можна рабіць.* ВС.

8. *указальны.* У спалучэнні з часціцай “вось” ужываецца для ўдакладнення выказвання ў значэнні: іменна гэта, наступнае. [Аленка]: *Вучыцца і навучаць, навучаць і вучыцца. Вось да чаго маё сэрца ляжыць.* Т, 29. [Мікіта]: *Мы цвёрда стаялі*

*на варце святога расійскага самаўладзтва і баранілі тутэйшую рускую народнасць ад “інародчаскага засілля”. Во яно што, меджду протчым!* Т, 21. *Сабралася многа цикавых и вот яны што пачули.* ПДз.

9. *адносны.* Ужываецца ў складаназалежных сказах з даданымі дапаўняльнымі. *Чытаў я* [Купала] *без разбору ўсё, што трапляла пад рукі ў глухой правінцыі..* ПС. *Дужыя* [дзяржавы]*, не пытаючыся, забіралі ў слабейшых усё, што маглі толькі забраць, а давалі ім, не пытаючыся тое, чаго яны не заўсёды хацелі прымаць.* НДН, 18.

10. *адносны.* Далучае дзейнікавыя даданыя сказы. *..усе тые, што асталіся дома, што не маюць магчымасьці дзяліць долю і нядолю са сваімі роднымі на полі бітвы, павінны .. дружна ісьці да працы на сваіх загонах.* РКр. *Калі тыя, што нас* [беларусаў] *аграбілі, што нашы загоны зрылі на акопы-магілы, не ідуць з дапамогай, .. то павінны мы* [беларусы] *самі за гэта ўзяцца, і ўзяцца як найхутчэй.* АБ, 16.

11. *адносны.* Далучае выказнікавыя даданыя сказы. [Мікіта]: *Рэволюцыйная самадысцыпліна... рэволюцыйная самадысцыпліна... гэта такая, меджду протчым, што мае два канцы – то яна ўсіх б’е, то яе ўсе б’юць.* Т, 40.

12. *адносны.* Далучае даданыя азначальныя сказы, выступаючы ў значэнні займеннікаў “які”, “каторы”. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, кіньце абразы і прыце хутчэй па портфэлі, што летась схавалі.* Т, 59. *Трох сыноў чараўнік на сьвет белы выводзіў, Трох сыноў, што хаваў узаперці.* Ч, 319.

13. *адносны.* Ужываецца для сувязі даданых далучальных сказаў. *..А.Талстой разам з Францам Кубкам будзе працаваць над перакладам пастаноўкі на савецкай сцэне оперы Смятаны “Праданая нявеста” – чаго не ўдалося зрабіць у часы царызму.* ПЧ. *Рэформа правапіса, – што я мушу з усёй цвёрдасцю падкрэсліць, – з’яўляецца велізарным правільным і своечасовым актам барацьбы за культуру беларускай мовы.* ШБСЯ. *Параўн.* цо.

• **Што было сном, тое стала явай. Чым чорт ня шуціць.**

◊ **Вось яно што!** *гл.* вось. **Калі што якое** – калі здараецца што-небудзь. [Дама]: *..бацюшка .. абяцаў, калі што якое мяне прыцісне, дык зробіць протэкцыю ў Прэображэнскі жаночы манастыр.* Т, 58. **На чым свет** *гл.* свет. **Не будзе за што і рук зачапіць** *гл.* зачапіць. **Ні за што ні пра што** – без прычыны, без падстаў. *У нас усё спіць, ніхто не падае голасу, ніхто не дамагаецца ад народаў, што наш край здратавалі ні за што ні пра што, каб хоць у частцы прыйшлі з дапамогай дзеля яго*

*адбудавання..* АБ, 16. **Ні пры (у) чым** – не з’яўляцца прычынай чаго-н., не мець ніякіх адносін да чаго-н. [Мікіта]: *..гэр Спічыні тут ні пры чым.* Т, 48. *А мы* [беларусы] *якбы нішто і ні у чым.* БС. **Няма чаго (што)** *гл.* няма. **Пры чым тут... ?** – якія адносіны што-н. мае да гэтага. [Мікіта]: *Не разумею, пры чым тут мой, меджду протчым, светапогляд?* Т, 36. [Спічыні]: *Пры чым тут мая навука, калі вы* [Мікіта] *самі пераблуталі “до” з “роз’ам”.* Там жа, 61. **У чым справа** *гл.* справа. **Хоць бы што** – нікольki не хвалюе. [Ануля]: *..скасавалі чыноўніцтва, застаўся* [Мікіта] *без службы і хоць бы што, ні на грош тае сталасці.* Т, 20. **Чаго добрага** *гл.* **добры. Чым хата багата** *гл.* хата. **Што будзе, то будзе** *гл.* быць**. Што вы!** – выражае спалох як рэакцыю на чае-н. словы. [Ганна]: *Калі ласка, прашу за стол.* [Гарошка]: *Што вы, сваце йка?! Я – і такія важныя персоны... яшчэ з лаўкі звалюся з перапуду.*Т, 27. **Што гаварыці** *гл.* гаварыці. **Што да чаго і к чаму** – у чым сутнасць справы. *Калі .. ўсё чыста прачытаў, добра ў сваіх думках раскалупай, каб ня зьбіўся, што да чаго і к чаму..* СП. **Што за...** (6) – у пытальных сказах абазначае пытанне пра ўласцівасць, якасць: які, якая, якія? *Будучы дагэтуль паднявольнікам і паспытаўшы, што за смак гэтае падняволле, .. нам* [беларусам] *і ў думку не прыйдзе запрагаць каго б то ні было .. у паднявольнае ярмо.* НДН, 18. [Янка]: *А гэта што ў вас за такая зацірка?* Т, 54. [Аленка]: *А гэта што за такія пілігрымы брыдуць сюды?* Там жа, 54. **Што за...** (5) – у клічных сказах выражае эмацыянальныя адносіны да ўласцівасцей каго-, чаго-н. *Што за людзі – зьвяр’ё?* БН, 92. *І давай паміж сабой* [груганы] *Гутарыць, хваліцца: Круму! Круму! Што за рай! Есьць чым пажывіцца!* Гр, 215. **Што за ліха!** *гл.* ліха. **Што я бачу** *гл.* бачыць.

Н. *што* (172): Ан, 18(2); АБ, 16; АПЖ; АР; Бц, 74; БрБ, 6(4); БВ, 16(2); БЗ (2); БН, 92(3); БС; В (3); Вб, 236; ВД; ВМ, 72; ВМР (2); ВН (2); ВСп, 90; Г, 17; Гр, 215; ДЖ (3); ЁЯ (2); ЗС, 18(3); ЗЯЗ, 89; КП, 170; КЧ; ЛПК; ЛР (2); Мц, 75; МД (2); МІ, 17(4); МП; Н; НДН, 18(2); НК (10); ОШМ (4); ПБН; ПЛП (3); ПСп (3); ПСС, 232(2); ПЧ; РКр (4); РКП; РС, 40(2); СК, 158(2); СМ; СНБ (3); СП; СС, 301(3), 303; СТ (2); СЧ; Т, 19(2), 20(2), 21, 24(2), 27(2), 28, 31(2), 32, 33, 35, 36, 37, 40(2), 42(2), 43(2), 44(3), 48, 50(2), 52, 54(2), 55, 57(2), 58(2), 59, 60(2), 61(2), 62; Тж, 16; ТП, 213, 216; ТС, 74; Х; ХБ, 28(3), 29, 30; ХЛБ (2); Ч, 319(4), 322, 323(2), 326(2); Чж, 147; ЧС, 50-51; $Ш_3$; ШБСЯ (3). Р. *чаго* (28): А, 328; БН, 92; ВМР (3); ВН; ВР; Дз, 187; Нз, 14; НДН, 18; ОШМ; ПЛП; ПЧ; РКр (2); Т, 27, 29, 32, 44, 51,

55, 56, 57(2); УрП, 51(2); ХБ, 30; Ш,. Д. *чаму* (4): СНБ, 337; СНБ; СП; Тж, 15. В. *што* (100): А, 328; Ан, 18, 19(2); АБ, 16(3); АПЖ; Бч, 9(2); БрБ, 6(2); БВ, 16; БН, 91, 92(3); БС (2); Вб, 236, 237; ВБЛ, 80 (2); ВН; ВС (3); Г, 16(2); Дз, 191, 192; ДЖ; ЕЯП; ЗК, 43; ЗС, 18; Кц, 193; МПв, 218(2); Н (2); НДН, 18; ОШМ; Пр; Пц; ПБП; РКр; СК, 158; СБНГ; Т, 20(3), 21(4), 24, 27, 28, 30(2), 32(3), 35, 36, 37, 41, 43, 44, 45, 48, 49, 50, 52, 53, 54, 57(3), 59(6); Тж, 15(3); ХБ, 28, 29; Ч, 319, 321, 322(2), 323; ЧС, 50-51(3); ШБСЯ. Т. *чым* (17): ВМР; Гр, 215; Кз, 17; МП (2); МПв, 220; ПБН; СНБ; Т, 45, 46, 48, 51(2), 53; УрП, 51(2); ЧЧШ. М. *чым* (15): БС; ПНд, 314; СЧ; Т, 33, 36, 40, 42, 43, 44, 46, 48, 52, 54, 61; ЧС, 50-51.

**ШТО[2]** (365) *злучн.* 1. *тлумачальны* (328). Падпарадкоўвае: а) даданыя дапаўняльныя сказы. *Спаў народ, і ты* [Беларусь] *спала, і ворагі верылі, Што ніхто не разбудзіць цябе, што заснула навек.* Б, 18. *..мы павінны ўсюды заяўляць, што мы – беларусы, і на фундамэнці закона дамагацца, каб рэлігii ў школах беларускіх дзяцей вучылі .. па беларуску.* ВР; б) даданыя дзейнікавыя сказы. [Мікіта]: *..здаецца, што ад нашага кватаранта бальшавіцкім духам пахне, а мне ад гэтага паху ў носе круціць.* Т, 22. *Не дзіва, што многа жалю, многа смутку і жальбы было ў маіх* [Купалы] *песнях, бо незабыўнае гора, голад і смутак паланілі сэрца шматпакутнага народу.* ЖН; в) даданыя выказнікавыя сказы. [Мікіта]: *Мітынг, меджду протчым, гэта тое, што пераліванне з пустога ў парожняе.* Т, 41. [Янка]: *..мы* [беларусы] *павінны растаптаць, зніштожыць даўгавечную ману, якая вучыць, што мы не ёсць мы, што мы нейкае нешта, якое абы накарміў, як быдлё, дык і сыты будзе.* Т, 35; г) даданыя сказы меры і ступені. *..да васеньняга акорду пачуваньняў пастаянна далучаліся сумныя ноткі, але гэты сум такі ціхі, такі нячутна далікатны, што скарэй прыемны, як балючы.* ХБ, 29. *Для беларусаў праваслаўных выкладаецца рэлігія па расейску; для католікаў – па польску. І нашым католікам так задурылі галаву, што яны зусім пагадзіліся з навучаньнем асноў веры па польску.* ВР; д) даданыя сказы спосабу дзеяння, меры і ступені. *Чые звоняць звонка косы На мурожнай сенажаці? Хто йдзе першым у пакосах Што і ветру не дагнаці?* СА, 180. [Аленка]: *Татку ж майго йзноў у абоз пагналі. Але так пагналі, што і след загінуў.* Т, 54. *Параўн.* жэ[1], іж, что[2].

А, 328; Ан, 18(4), 19(6); АБ, 16(2); АЛ (4); АПЖ (2); Б, 18(2); Бч, 9(6); БрБ (4); БВ, 16(2), 17; БС (7); БСУ (4); Вб, 236, 237(2); ВБ; ВБЛ, 80(4), 81; ВГ (3); ВМ, 72; ВМР (5); ВН (4);

ВР (5); ВС (3); ВСп, 89, 90, 91(6); ГВУ; ГЖУ; Дз, 189, 190, 191; ДД (2); ДК (9); ДНСП; ДПЛС; ЖН (7); З (3); ЗК (2); ЗС, 17, 18(4); ЗЯЗ, 89; Кз, 17(2); Кц, 194, 195(2); Н; Нз, 14(4), 15(2); НДН, 18(5), 19; НК (2); ОШМ (10); Пт; ПБН; ПЛП (9); ПС (4); ПЧ; Р; РКр; См, 91(2); СА, 180; СБНГ; СНБ, 338(2), 339; СП; СЧ (3); Т, 19(2), 20(4), 21(7), 22(2), 23(4), 24(3), 26, 29(3), 30(2), 31(4), 32(3), 33, 34(5), 35(3), 36(4), 37, 38(3), 40(6), 41, 42(4), 44(5), 45, 46(2), 49(3), 50(2), 51(3), 52, 54(6), 55(3), 56(2), 57(3), 58, 59, 60(3), 61; Тж, 15, 16; ТП, 208, 213(4), 214(2), 215(4), 216(2), 217(3); УПУВ (2); Ф; Х; ХБ, 28(2); ХЛБ; ЧЧШ.

2. *параўнальны.* (2) *Разм.* Падпарадкоўвае дадаmaking параўнальныя звароты. *Брат* [Купалы] *памёр на тыдзень раней, чым сёстры.* А, 328. // З адценнем градацыі. *І чым бліжэй да яе* [комуністычнай грамады], *тым магутней будзе папаўняцца гэты* [стаханаўскі] *рух мільёнамі працоўных.* СТ.

3. *прычынны. Разм.* Падпарадкоўвае дадаmaking сказы прычыны. *Дзядом хай нашым лёгка стане, Што вера, песьня госьце ў нас.* УрП, 50. *Журыцца дзяўчына, што Янук пакінуў...* ЕЯП. А, 328(2); АЛ; АПЖ; Бч, 9; БВ, 16; ВН; ВР; ДЖ (2); ДПЛС; ЖН (3); Н; НДп, 229; СА, 182; Т, 40, 42, 45, 48, 53, 54; ХБ, 28; ЦСБ.

4. Уваходзіць у склад састаўных падпарадкавальных злучнікаў (7): а) выніковых злучнікаў. *..кожнае жывое беларускае слова расійскі ўрад лічыў праступствам, так што нават начальнікі "вучэбных" вокругаў" рассылалі цыркуляры, каб барані Божа народныя настаўнікі не чыталі беларускай газэты "Наша ніва"..* МІ, 17. [Мікіта]: *Сучаснае рэволюцыйнае забурэнне .. падкасіла і экономічныя падваліны дабрабыту рускай інтэлігенцыі, так што калі скромная вячэра, то не па маей пэрсональнай віне.* Т, 28. б) уступальных злучнікаў. *Нягледзячы на тое, што дырэктар прымаў мяне* [Купалу] *без экзамена, бацька парашыў не аддаваць мяне ў школу, а пакінуць на гаспадарцы.* А, 328. А, 328; Т, 20, 27; УП.

• **Жыццё наша такое вясёлае, што песні самі на вусны просяцца.**

**ШТО[3]** (30) *часц.* 1. *пытальная* (3). Ужываецца ў пытальных і клічных сказах пры выказванні здзіўлення, збянтэжанасці, меркавання і пад. [Начальнік]: *А цяпер .. прашу ўсіх ісці са мной.* [Мікіта]: *Што, і мне йсці, мусье таварыш?* Т, 62. [Мікіта]: *Што, мусьі вучоныя, сэанс ужо ўвесь, меджду протчым!* Т, 27. Т, 37.

2. У складзе мадальнай часціцы "што ж" для выказвання згоды, прымірэння (5). [Янка]: *На маю думку, найлепей*

*пакуль што ехаць на вёску і там прывучаць да навукі людзей.* [Аленка]: *Ну што ж? на вёску, дык на вёску!* Т, 30. *Што-ж? – разгулівай сыты чужак, Між забраных крыжоў, курганоў,* ЧС, 50–51. З; Т, 35, 55.

3. *Тое, што* нават *у 1 знач. Але, што цікавейшыя правадыры соцыяльнай рэволюцыі – Расійскія бальшавікі, гэтые заўзятые праціўнікі праяўленьня нацыянальнага будаўніцтва, і яны змушаны былі .. ствараць .. "незалежные" рэспублікі, як напр. Беларускую, Украінскую.* СНБ.

◊ **Амаль што** *гл.* амаль. **Бадай што** *гл.* бадай. **Пакуль што** *гл.* пакуль *у 1 знач.* **Толькі што** *гл.* толькі[1] *ў 1 знач.*

**ШТОДЗЕНЬ** (3) *прысл.* Кожны дзень; з дня ў дзень. [Янка]: *Раўнапраўе то раўнапраўе, але ж яно вам* [Мікіту] *не загадвае быць штодзень за нейкага саматужнага вазюра?* Т, 45. *Ён* [сын першы] *і рад і ня рад, А пуцьця меней штодзень На тэй выбранай сьцежэцы..* Ч, 320. З. *Параўн.* штодзень.

**[ШТОДЗЁННЫ]** *прым.* Які бывае кожны дзень. *У Менску тады закіпела праца. Арганізаваўся Беларускі Нацыянальны камітэт, пачала выходзіць штодзённая беларуская газэта..* СНБ.

Адз. ж. Н. *штодзённая*: СНБ.

**ШТОДНЯ** *прысл. Тое, што* штодзень. *Аб гэтым* [няпрызнаньні права беларускага народу на яго родную мову] *штодня ідуць скаргі, жальбы, протэсты..* ОШМ.

**ШТОМАМЭНТ** *прысл. Разм.* Часта. *Рэдактар, як бура, лётае па хаце і што мамэнт п'е з бутэлькі халодную ваду.* Ан, 19.

**ШТО-НЕБУДЗЬ** (9) *займ. неазначальны.* Які-н. няпэўны ці ўсё роўна які прадмет, з'ява. [Мікіта]: *..я збегаю чаго-небудзь куплю, бо пры новай сытуацыі і гэтыя* [польскія] *грошы нічога варты не будуць.* Т, 56. [Спічыні]: *Вы* [Мікіта] *што-небудзь ведаеце аб савецкім ладзе.* Там жа, 41. *Параўн.* цось.

Адз. Н. *што-небудзь*: Т, 28. Р. *чаго-небудзь*: Т, 56. В. *што-небудзь* (4): Т, 23, 34, 41; ХБ, 29. Т. *чым-небудзь* (3): Т, 24, 36, 50.

**ШТОНОЧЫ** *прысл.* Кожную ноч. *Аж прадзедаў косьці ня ўлежаць пад крыжам, – Што ночы выходзяць з магіл.* ЗК, 43.

**ШТОРАЗ** (3) *прысл.* З кожным разам. [Мікіта]: *Раз'юшаная царская рэакцыя здабытая рабочым народам свабоды што раз болей і болей душыла сваімі змяінымі кляшчамі.* Т, 40. *Давіць мы іх* [фашыстаў] *будзем, як вошаў, Як гадкіх смярдзючых клапоў, Караць шторaз караю горшай Сягоняшніх рыцараў-псоў.* ХЛВ, 315. Т, 40.

**ШТОСЬ**[1] (8) *займ. неазначальны. Тое, што* штосьці[1]. *Супрацоўнікі прыціснуліся к сцяне і штось нібы вельмі пільна*

*пішуць.* Ан, 19. *Пабочныя-ж налогі зусім іншыя: збіраюцца яны не с таго, хто штось мае, а с таго што паступае на продаж..* ВН.

Адз. Н. *штось*: Бч, 9. Р. *чагось*: УрП, 47. В. *штось* (6): Ан, 19; БСУ (2); ВН; НД (2).

**ШТОСЬ[2]** (4) *прысл. Тое, што* штосьці[2]. [Мікіта]: *..колькі раз рабіў ужо ёй* [Насце] *асведчыны, каб, значыцца, аддала мне сваю руку, але штось не клеіцца.* Т, 23. [Янка]: *Мусіць для гэтага палітычнага чалавека вы, цётачка, і крэслы свае плюшавыя аддалі, каб мякчэй было яму сядзець, бо гэтых крэслаў штось не бачу я тут?* Т, 45. ЛПК; Р.

**[ШТОСЬЦІ][1]** (2) *займ. неазначальны.* Нешта. *Я* [беларус] *мець ад кагосьці і штосьці прывык: Ад рускага чына – Нагайку і штык.* МК. [Янка]: *Не ўдасца вам* [Мікіту] *гэта асэсарства, дадуць вам совбурства, а штосьці ды будзеце мець, бо ці ж вам не ўсё роўна?* Т, 56. *Параўн.* штось[1].

Адз. В. *штосьці*: МК; Т, 56.

**ШТОСЬЦІ[2]** (2) *прысл.* Невядома чаму, невядома з якой прычыны, чамусьці. *З беларускай марсэльезай справа стаіць як бы лепей: маемо "Адвеку мы спалі", і іншых вершаў з музыкай, называных беларускімі марсэльезамі штосьці ня чуваць.* СБНГ. [Мікіта]: *..я ўжо махнуў рукой на ўсе свабодныя прафэсіі: штосьці мне яны не шанцуюць.* Т, 46. *Параўн.* штось[2].

**ШТОХВІЛЯ** *прысл. Разм.* Кожную хвіліну. *Аленка штохвіля пырскае смехам.* Т, 33.

**[ШТУКА]** (2) *ж.* 1. Асобны прадмет, экзэмпляр з шэрагу аднародных. [Янка]: *А дзядзька Гарошка прачакаўся, мабыць, на нас? Пэўна люлек з тузін змарнаваў за гэты час?* [Аленка]: *Тузін – не тузін, а штук з сем то пэўна ж татка выпыкаў.* Т,44.

2. *перан.* Пра што-н. складанае, незвычайнае. *Панам быў дома і слаўным за домам Мой патаптаны сягодня народ; Змог ён не толькі знаць штукі з заломам – Роднаму слову ўмеў кніжны даць ход.* Н.

Мн. Р. *штук*: Т, 44. В. *штукі*: Н.

**[ШТУРМ]** *м. перам.* Рашучыя, актыўныя дзеянні. *Гісторыя Совецкай Беларусі багата сваёй героікай штурма вышынь соцыялізма..*ШБСЯ.

Адз. Р. *штурма*: ШБСЯ.

**[ШТЫК]** (2) *м. перан.* Сімвал ваеннай сілы. *Пачалася ізноў тая самая вакханалія з высылкамі пад грозьбай штыка і нагайкі.* БВ, 16. *Я* [беларус] *мець ад кагосьці і штосьці прывык: Ад рускага чына – Нагайку і штык..*МК.

Адз. Р. *штыка*: БВ, 16. В. *штык*: МК.

**[ШТЫХ]** *м. Разм.* Халодная колючая зброя ў выглядзе вялікага нажа, якая насаджваецца на канец ствала вінтоўкі. *І цяпер ў гарадзкой бальніцы, Грудзі прабіты штыхом.* ВБЛ, 82.

Мн. Т. *штыхом*: ВБЛ, 82.

**ШУКАЦЬ** (16) і *разм.* **ШУКАЦІ** (2) *незак.* 1. Старацца знайсці, выявіць што-н. *Людзі варочаюцца да сваіх хат, а не знаходзяць іх, шукаюць сваіх гоняў, а іх не відаць..*АБ, 16. *І пакуль шукалі* [хлопчыка] *ў трупярні Паміж штабеляў сініх цел,– У прамежак ад сьмерці к спальні Скіфскі вецер з сьмехам ляцеў.* ВБЛ, 81. // Займацца пошукамі чаго-н., старацца даведацца пра месцазнаходжанне каго-н. [Янка]: *..ці ня можна будзе у вас* [Ганулі] *мне з сваёй кампаніяй пераначаваць? Шукаць іншага месца для начлегу неяк не хочацца.* Т, 49. [Аленка]: *Бачыце, мы з таткам шукаем нашага настаўніка Здольніка.* Там жа, 25.

2. Дабівацца, патрабаваць чаго-н., старацца атрымаць што-н. [Гануля]: *Тады мы* [з мужам] *ўзялі і пайшлі сюды ў Менск шукаць службы..* Т, 20. *У Маскве Грыцько доўга шукаў места..* ПДз.

Інф. *шукаць* (5): А, 328; З; ОШМ; СНБ, 340; Т, 20; *шукаці* (2): Т, 49; Ч, 319. Абв. цяп. адз. 3 ас. *шукае*: Дз, 187. Мн. 1 ас. *шукаем* (2): Бч, 9; Т, 25. 2 ас. *шукаеце*: Т, 39. 3 ас. *шукаюць* (2): АБ, 16; МД. Пр. адз. м. *шукаў*: ПДз. ж. *шукала*: Н. Мн. *шукалі* (3): БрБ, 6; ВБЛ, 81; Т, 26.

**ШУМ** (9) *м.* 1. Разнастайныя гукі ад якога-н. дзеяння, руху, галасоў і пад., якія зліваюцца ў аднагалоснае гучанне. *Ніва! Як ня любіць мне* [Купалу] *таемны твой шум?* АР. *Шумам задумным карэльскія сосны, Бурнай Вуоксы-ракі вадаспады Мірныя гутаркі ў зімы і вёсны Будуць з гудкамі вясці Ленінграда.* Ф.

2. *перан.* Рух, мітусня, ажыўленне. *А глянеш на поле, на лес, на даліны, Паслухаеш гоман і шум гарадоў. Ты стала нам роднаю, наша краіна, Як родная партыя большэвікоў.* ПБН.

3. *перан.* Гучнае выражэнне незадавальнення чым-н. [Гарошка]: *Кажу свайму настаўніку, во да чаго шум і крык такі даводзіць..*Т, 44. [Гарошка]: *Наш настаўнік Янка, дык той без ніякага нічога, Як тапаром сячэ: "Пакуль .. не зробімся самі сабе гаспадарамі, датуль ніякага ладу ні складу ў нас не будзе".* [Гануля]: *Маладое піва заўсёды шуміць.* [Гарошка]: *Але найчасцей ад гэтага шуму нам, бацьком, галава баліць.* Там жа, 47.

Адз. Н. *шум* (2): АР; Т, 44. Р. *шуму*: Т, 44. В. *шум* (4): АР; ПБН; УрП, 52; Ч, 321. Т. *шумам*: Ф. Мн. В. *шумы*: ЖН.

**ШУМЕЦЬ** (16) *незак.* 1. Утвараць шум. *А сонейка будзе усходзіць, заходзіць. Плысці будуць рэчкі, шумець будзе бор.*НДп, 230. *Курна дыміцца ў хаціне лучына, Ліпа шуміць адзінока над хатай.* ВМ, 72.

2. *перан.* Гучаць, чуцца. *Дзе ні ступіць* [сын першы] – *згібаюцца краскі і травы, І пракляцьце шуміць бескарысна.* Ч, 320.

3. Лаяцца, крычаць. *Але з ёмкаю нагайкай Знае дзела Налівайка, Гайда ў шынк на пратаколе І шумі яшчэ там болей.* НД.

4. Гучна выражаць сваю незадаволенасць чым-н. [Гарошка]: *Вылез* [сын] *на вуліцу і давай на чым свет шумець і крычаць: "Зямлі і волі!".* Т, 44. [Гарошка]: *..а ён* [настаўнік] *смяецца: "Бо, кажа, твой Юрка за чужую зямлю і волю шумеў і крычаў, а не за сваю, дык нічога з гэтага і не выйшла".* Там жа, 42.

5. *Вобразн.* Пра нявольніцкі матыў (у песні). *Ночка цёмная шумела Ў паднявольных песнях.* ЗЯЗ, 89.

Інф. *шумець*: Т, 44. Абв. цяп. адз. 1 ас. *шумлю*: Н. 3 ас. *шуміць* (6): ВМ, 72; Кц, 196; СК, 158; УрП, 49(2); Ч, 320. Мн. 3 ас. *шумяць* (2): Н; ПБН. Пр. адз. м. *шумеў* (2): Т, 44(2). ж. *шумела* (2): ЗЯЗ, 89; Ч, 322. Буд. адз. 3 ас. *будзе шумець*: НДп. 230. Заг. адз. 2 ас. *шумі*: НД.

**ШУМЛІВА** *прысл. да* шумлівы. *Плыве шумліва, як рэка, Бяседа вольная такая..* Кц, 197.

**[ШУМЛІВЫ]** (2) *прым. Тое, што* шумны *ў 1 знач. Я не знаю месяца Больш за май шчаслівага, Калі пушчы цешацца З гоману шумлівага.* ПЛ. *Яркай зімою, шумлівым прадвеснем У ясныя ночкі, ў заранкі Песню ўсім сэрцам складаем аб песні – Аб Сталіне песні-вяснянкі.* СС, 301.

Адз. м. Р. *шумлівага*: ПЛ. н. Т. *шумлівым*: СС, 301.

**[ШУМНЫ]** (2) *прым.* Які стварае, робіць шум. *Нашы сасонкі шумнага бору Далі вам* [людзям чужым] *хаты, Далі загонаў нашых разоры Гонар багаты.* Чж, 146. *Ад песень ад гулкіх плывуць адгалоскі Па шумных дубровах і нівах.* ВВ, 263. *Параўн.* шумлівы.

Адз. м. Р. *шумнага*: Чж, 146. Мн. М. *шумных*: ВВ, 263.

**[ШУРШЭЦЬ]** *незак. Разм.* Шамацець, шасцець. *Шуршаць залатыя пяскі.* ТП, 215.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *шуршаць*: ТП, 215.

**[ШУФЛЯДА]** *ж.* Скрынка для захоўвання рэчаў. *Дасае* [Мікіта] *з шуфляды ў стале чыноўніцкія адзнакі і перад люстрам прымяркоўвае іх.* Т, 24.

Адз. Р. *шуфляды*: Т, 24.

**[ШУЦІЦЬ]** *незак. Руск.*: • **Чым чорт ня шуціць.**

Абв. цяп. адз. 3 ас. *шуціць*: ЧЧШ.

**[ШЧАКА]** *ж.* Частка твару ад скулы да ніжняй сківіцы. *Таўкуцца душы скамянелы, Кратовы пот цячэ са шчок..* РС, 40.

Мн. Р. *шчок*: РС, 40.

**ШЧАСЛІВЫ** (45) і **ШЧАСЬЛІВЫ** (4) *прым.* 1. Які мае, адчувае шчасце *ў 1 знач. Шчаслівы сягоння той, хто можа глядзець адкрытымі сумленнымі вачыма ў вясёлыя вочы нашай будынкі.* ЖН. *Я* [Купала] *шчасліў, што ў час малейшай трывогі беларускі народ паднімаецца як адзін на абарону совецкіх межаў.* ДЖ. // Поўны шчасця, радасці. *Шчаслівы наблізіцца век, І над чалавекам ужо Не будзе стаяць чалавек Гадзюкаю п'яўкай, смаўжом.* ТП, 215. *..у гэты шчаслівы, ганаровы для мяне* [Купалы] *час хочацца прывітаць тых, якія многа сіл і працы прылажылі для таго, каб Беларусь жабрацкая ў царскія часы стала Беларуссю калгасна-заможнай..* ЖН.

2. Які прыносіць, дае радасць, шчасце. *Новая доля, шчаслівая доля Ясна з Усходу кваціcтай дарогай Сходзіць ад пушчы, на рэкі, на поле, Сее вясёласць, зганяе трывогу.* Мц, 75. *Жыці шчаслівай доляй бясконца Будзеце знамі, з Захаду людзі.* ССА, 294.

3. *перан.* Багаты, вялікі. *Засяваць мы самі будзем нашы нівы, Збіраць самі будзем Уражай шчаслівы.* МПв, 220.

4. *перан.* Добры, прыемны. *Ты* [Сталін]*, мудры, прыйшоў, правадыр, – Апалі туманы, імгла, Па свеце і ўдоўжкі, і ўшыр Шчаслівая слава пайшла.* ТП, 214.

• **Слава творцу новага шчаслівага жыцця.**

◊ **Бывайце здаровы і шчаслівы** *гл.* бываць.

Адз. м. Н. *шчаслівы* (15): ВВ, 263; ЖН (3); МП; НДп, 229, 230; ТП, 213, 214, 215. 216(2), 217; СА, 182; ЦСБ; *шчасьлівы*: ШН. Р. *шчаслівага* (4): ПБН; ПЛ; СТ (2). Д. *шчасліваму*: ВГР. В. *шчаслівы* (3): ЖН; МП, 220; НДп, 229. М. *шчаслівым*: НДп, 230. ж. *шчаслівая* (3): ДПЛС; Мц, 75; ТП, 214. Р. *шчаслівай* (2): ПН, 324(2). Т. *шчаслівай* (2): ССА, 294; Т, 51. н. Р. *шчаслівага* (3): ДЖ; ЖН; ШБСЯ. В. *шчаслівае*: ДЖ. Т. *шчаслівым*: СС, 302. М. *шчаслівым*: ПСС, 232. Мн. Н. *шчаслівыя*: ВВ, 263. Кар. адз. м. Н. *шчасліў* (2): ДЖ (2); *шчасьліў* (3): В (3). Мн. Н. *шчаслівы* (2): Т, 35, 57. Р. *шчаслівых* (3): ПБН; ПН, 314(2).

**ШЧАСЦЕ** (25) і **ШЧАСЬЦЕ** (11) *н.* 1. Стан поўнай задаволенасці жыццём, пачуццё найвялікшай радасці і задавальнення. [Янка]: *А мы вось з Аленкай сумысля зайшліся, цётачка, да вас, каб пахваліцца перад вамі сваім шчасцем.* Т, 53. *Той, хто волю занядбае, Хоць у золаце хай сьпіць, Хоць царэўну хай кахае, – А ня будзе ў шчасьці жыць.* КЧ.

2. Удача, поспех у чым-н. *Пакуль-жа блісьне шчасьце, хоць*

*душу нягодну Зьвярні да гор лясістых, шырокіх пракосаў, што дыванамі пры Нёмне сьвецяць з-пад нябёсаў..* ХБ, 28.

3. Лёс, доля. *Не аб снах, у якіх сніцца доля, шчасце людзям, .. Мая песня сёння будзе Радасцямі ройнай – Аб любімых кандыдатах У Совет Вярхоўны.* НК. *Наперад па шчасьце! Хай злое ўсё дрогне, .. Весна ўжо на сьвеце, – Хрыстос уваскрос!* В.

◊ **На шчасце** (3) – а) каб былі поспех, удача ў каго-н. *Будзеш век жыці, Зямелька советаў, На радасць, на шчасце Працоўнаму свету.* МПв, 220; б) *у знач. пабочн.* Выражае задавальненне з выпадку чаго-н. [Ануля]: *Сцягнулі* [людзі] *гвалтам з вышак* [Мікіту] *і немаведама куды б зацягнулі. Але, на шчасце, заступілася мамзэль Наста і сяк-так выпутала з гэтай бяды.* Т, 46. *На шчасце, на радасці ўзлёт Збуцвелы разваліцца тын. Адчыняцца дзверы варот Да працы, да веды вышынь.* ТП, 216. **Пабратацца з шчасцем** *гл.* пабратацца. **Выразнай ніткай “шчасця” праходзіць** *гл.* праходзіць.

Адз. Н. *шчасце* (8): Н; НК; ПЛП; ПТ, 206; ПСС, 231; Т, 57; ТП, 214, 215; *шчасьце*: ХБ, 28. Р. *шчасця* (6): НК; ПЧ; СС, 301(2), 302; СЧ; *шчасьця* (2): Дз, 188; ЗК, 42. Д. *шчасьцю*: Ч, 323. В. *шчасце* (5): МПв, 220; ПБН; РКр; Т, 46; ТП, 216; *шчасьце* (3): В; М, 20; $Ш_3$. Т. *шчасцем* (4): ВВ, 263; Т, 53(2); Ф; *шчасьцем*: КП, 171. М. *шчасці* (2): БрБ, 6; СЧ; *шчасьці* (3): КЧ; Пр; ПН, 46.

**ШЧАСЬЛІВЫ** *гл.* **ШЧАСЛІВЫ.**

**ШЧАСЬЦЕ** *гл.* **ШЧАСЦЕ.**

**ШЧЫРА** (15) *прысл.* 1. *Прысл. да* шчыры *ў 1 знач. Начальніка Польскай дзяржавы віталі* [беларусы] *шчыра, і спадзяваліся, што справа незалежнасьці Беларусі цяпер стане на цьвёрдым грунце..* СНБ. *Пасля, Жыды, вы зрэкліся народу, Які вам шчыра даў багацьце і прыпын.* Ж. АЛ; ВМ, 72; Т, 21, 30; ШБСЯ.

2. *Прысл. да* шчыры *ў 2 знач. ..ўсім чыста, што не забыліся на мяне* [Купалу] *у гэты жудкі час, нізка кланяюся і шчыра дзякую.* ЛР. [Ануля]: *А начуйце, мае дзеткі, колькі хочаце.* [Янка]: *Шчыра дзякую!* Т, 49.

3. *Прысл. да* шчыры *ў 3 знач. Трэба, каб само нашае грамадзянства ўзялося шчыра за гэту работу.* АБ, 16. *Ды ўзяўся* [сынок] *шчыра, міла Сеяць шчасьце, гнаць бяду..* М, 20. БрБ, 6; БС; СНБ, 339; СНБ.

4. Уважліва. *Ляж* [брат-беларус], *прытуліся да зямлі, Паслухай шчыра, што гавора.* БрБ, 6.

**[ШЧЫРА-БАЦЬКОЎСКІ]** *прысл. Наватв.* Клапатлівы, уважлівы. *..нізкі паклон і дзякуй ад сэрца шлю* [Купала] *д-ру Казубоўскаму і д-ру Маліноўскаму: першаму – за апэрацыю, .. а другому за шчыра-бацькоўскі даглёд і перавязкі..* ЛР.

Адз. м. В. *шчыра-бацькоўскі*: ЛР.

**[ШЧЫРАСЦЬ]** (2) *ж.* Уласцівасць шчырага. [Янка]: *Дзякую вам* [Ганулі] *за шчырасць і ласку..* Т, 19. *Я* [Купала] *хачу з усёй шчырасцю ў гэты ўрачысты для мяне дзень падкрэсліць тую вялікую ўвагу, тыя клопаты аб маім жыцці з боку бальшэвіцкай партыі і совецкай улады.* ЖН.

Адз. В. *шчырасць*: Т, 19. Т. *шчырасцю*: ЖН.

**ШЧЫРЫ** (26) *прым.* 1. Праўдзівы, чыстасардэчны. *Хор запеяў нейкую песьню – якая азначала на афішах: “беларускі гымн”, але мелёдыя была незнаёмая, і ніхто ня ўстаў, абражаючы гэтым, якбы здавалося, гонар беларускай нацыі. І вось трэба увайці у палажэньне шчырага беларускага грамадзяніна: што такі чалавек павінен быў перацярпець у сваёй душы, бачачы гэту нібы зьнявагу.* СБНГ. *..нам застаецца толькі цешыцца, што думка шчыраго расейскаго грамадзянства дарма ня згінула і гэты* [падаходны] *налог, асновaны на справядлівасьці, знойдзе нарэшце сабе мейсцэ у Расейскім гасударстве.* ВН. // Які выражае сапраўдныя, непадробныя пачуцці, думкі. *Тыя гуманітарныя ідэі, якія йшлі з Захаду, заўсёды знаходзілі шчыры водгук на Усходзе..* Тж, 15. *Дайце народам самім будаваць сваю долю. А тады гэтыя народы скажуць сваё шчырае слова аб вашай культурнасці – ці то заходняй, ці то ўсходняй.* Там жа, 16.

2. Сардэчны, душэўны. *Кс. рэктару Абрантовічу, п. Гіркант, п. Якобіні, п. Вайтовіч прыношу* [Купала] *сваю шчырую падзяку за іх добрую апеку ў трудные дні маёй хваробы.* ЛР.

3. Старанны. *Яны* [жанчыны] *– трактарысткі, яны – брыгадзіры, З іх многа ў нашых советах старшынь... Іх тысячы стала адданых і шчырых На працы на кожнай, дзе вокам ні кінь.* ПБН. // Заядлы. *Першае – чацвёртае Жывіць сьвет сабою, Хоць – гультайка шчырая Зімавой парою.* $Ш_3$.

◊ **Ад шчырага сэрца** *гл.* сэрца.

Адз. м. Н. *шчыры*: СНБ, 336. Р. *шчырага*: СБНГ. В. *шчыры*: Тж, 15. ж. Н. *шчырая* (2): З; $Ш_3$. Р. *шчырай*: ПЧ. В. *шчырую* (2): ДД; ЛР. Т. *шчырай*: ШБСЯ. н. Р. *шчырага* (6): Т, 30; ТП, 213, 214, 215, 216, 217; *шчыраго*: ВН. В. *шчырае* (2): Т, 49; Тж, 16. Мн. Р. *шчырых* (2): ЁЯ; ПБН. В. *шчырыя* (5): ТП, 213, 214, 215, 216, 217. Т. *шчырымі*: ЛР.

**[ШЧЫТ]** *м.* Франтон. *Стрэхи саламяные: мох на их парос, шчыты вецер пазрываў..* ХЛБ.

Мн. В. *шчыты*: ХЛБ.

**[ШЧЭГУЛ]** *м. Польск.* Падрабязнасць, дэталь. [Заходні вучоны]: *Для взбогацэня нашэй ведзы польской потшэбне сон*

*ешчэ нектурэ шчэгулы о нібы вашым* [беларускім] *краю.* Т, 47.
Мн. Н. *шчэгулы*: Т, 47.

**ШЧЭГУЛОВО** *прысл. Польск. Тое, што* падрабязна. [Заходні вучоны]: *А чы не можэце, пане бялорусін, поінформоваць венцэй шчэгулово о тэм вашым "далей"?* Т, 39.

**[ШЧЭГУЛЬНОСЦЬ]** *ж. Польск.*: ◊ **В шчэгульносці** – у прыватнасці. [Заходні вучоны]: *..муй інформатор походзонцы од бялорусінов ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненця онэго "далей" наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Т, 39.
Адз. М. *шчэгульносці*: Т, 39.

**[ШЧЭПКА]** *ж.*: ◊ **Высахнуць на шчэпку** *гл.* высахнуць.
Адз. В. *шчэпку*: Мц, 75.

**ШЫВАРАТ-НАВЫВАРАТ** *прысл. Разм.* Наадварот. [Спічыні]: *Мы ўжо з вамі* [Мікітам] *прайшлі прывітанні звычайныя і ўчора пачалі так званыя прывітанні шыварат-навыварат.* Т, 49.

**[ШЫК]** (2) *м.* Форс. *Едзе, сыпе Налівайка, Едзе з шыкам і няціха, Тут рагаткай – што за ліха?* НД. *Наста Пабягунская – дзяўчына няведамых заняткаў, 23-25 г.; стараецца адзявацца з шыкам, але дез густу.* Т, 19.
Адз. Т. *шыкам*: НД; Т, 19.

**[ШЫКАВАЦЬ]** *незак. Разм.* Рыхтаваць, гатаваць. [Мікіта]: *..йдзеце* [мамаша] *дамоў і шыкуйце вячэру..* Т, 34.
Заг. мн. 2 ас. *шыкуйце*: Т, 34.

**[ШЫНК]** *м. Польск.* Невялікі пітны дом. *Але з ёмкаю нагайкай знае дзела Налівайка, Гайда ў шынк па пратаколе І шумі яшчэ там болей.* НД.
Адз. В. *шынк*: НД.

**ШЫПЕЦЬ** (2) *незак.* 1. Выдаваць глухі гук. *І пакуль у зямлю не зарылі, Хоць дух будзе шыпець у бясьсільлі, – На сваіх вісі жылах і сьмейся.* См, 91.
2. *Разм.* Гаварыць з непрыязню. *Адбіваючы тут-жа паклоны плашмя, Нейкі нехрысць крапідлам махае, пяе Ды шыпіць, як гадзюка, Хрыстова імя..* БН, 92.
Інф. *шыпець*: См, 91. Абв. цяп. адз. 3 ас. *шыпіць*: БН, 92.

**[ШЫР]** *м.* Неабсяжная прастора. *Ён* [жандар] *сніць былую моц і шыр: Цары, царыцы, цэрквы, трон, Пагромы, катаргі, Сібір...* АПЖ.
Адз. В. *шыр*: АПЖ.

**[ШЫРОКІ]** (13) *прым.* 1. Які мае вялікія памеры ў папярочніку. *Пакуль-жа блісьне шчасьце, хоць душу нягодну Зьвярні да гор лясістых, шырокіх пракосаў..* ХБ, 28.

2. Які займае сабой вялікую прастору; вялізны. *Пахавалі гора, Гора ды няволю, Як пайшлі* [трактарыстка] *з табою* [трактарам] *Па шырокім полю.* ПТ, 206. *Відна, што ніўка – маці тутка чалавеку! Відна .. з сох, што там бадзяцца па шырокіх палетках..* ХБ, 28. // *перан.* Свабодны. *Хай жыве і красуе ленінска-сталінская партыя, якая адна толькі магла вывесці Беларусь на вольны шырокі прастор шчаслівага жыцця!* ЖН. *Толькі дзякуючы Кастрычніцкай рэволюцыі разаслалася шырокае поле да новых вольных песень, да новых думак.* ЖН.

3. *перан.* Вялікі па колькасці, ступені, ахопу, размаху і пад. *Сягодня кожны, каму не атуманіла расійская і польская рэакцыя мазгоў, адчуе і разумее, які шырокі размах прыняла наша справа над адбудаваннем сваёй незалежнай бацькаўшчыны.* МІ, 17. [Мікіта]: *Так сабе – надта мілая і сімпатычная, меджду протчым, мамзэль* [Наста Пабягунская]. *На ўсе бакі вядзе шырокае знаёмства.* Т, 23.

Адз. м. В. *шырокі* (2): ЖН; МІ, 17. ж. Т. *шырокай* (2): МІ, 17; УПУВ; *шырокаю* (2): РКр; СНБ, 336. М. *шырокай*: СМ. н. Н. *шырокае*: ЖН. Д. *шырокім*: ПТ, 206. В. *шырокае*: Т, 23. Мн. Р. *шырокіх* (2): КЧ; ХБ, 28. Д. *шырокіх*: ХБ, 28.

**ШЫРЫЦЬ** *незак.* Развіваць, разгортваць. *Прыпомні* [шчасьліў, нешчасьлівы], *дай слова ня счэзнуці марна, Пачатую справу шырыць расшыраць.* В.

Інф. *шырыць*: В.

**ШЫРЭЙ** *прысл. Пар. ст. да* шырока. З большым размахам. *Гаспадарка цэлаго краю, ці аддзельных людзей павінна па сіле магчымасьці не спыняцца, аісьці далей і шырэй.* ВС.

**ШЫЦЬ** (2) *незак.* Замацоўваць, злучаць ніткай краі тканіны; вырабляць што-н. такім чынам. *І сьцібрае* [чараўнік] *на путы струхлеўшыя косьці, І пляцёнкі з асьлепленых шые.* Ч, 325. // Займацца вырабам чаго-н. як рамяством. [Янка]: *А што ж ён* [Мікіта], *па вашаму* [Ганулі], *павінен рабіць у гэтае чыноўніцкае безрабоцце?* [Гануля]: *Хоць бы ўзяў, як іншыя, ды падвучыўся боты шыць або хоць латаць.* Т, 20.

Інф. *шыць*: Т, 20. Абв. цяп. адз. 3 ас. *шые*: Ч, 325.

**[ШЫЯ]** (5) *ж.* Частка цела паміж галавой і тулавам чалавека і наземных пазваночных жывёл. *І там здань і тут здань, закружыліся ў круг, Кругам труцень у бляшках бліскучых спавіў, Усіх іх у жалезны ржавелы ланцуг , Сэрцы рве і грызе, шнурам шыі здавіў.* БН, 92.

◊ **Гнуць (гнучы) шыі** *гл.* гнуць. **Песьціць на шыі** *гл.* песьціць. **Сесці на шыю** *гл.* сесці.

Адз. В. *шыю*: ВГР. М. *шыі*: Чж, 147. Мн. В. *шыі* (3): БН,

92; Дз, 189; МД.

**[ШЭЛЕГ]** *м.* Старажытная дробная манета. [Мікіта]: *Меджду протчым, ідэя – вельмі скупая пані: ні шэлега сваім слугам не плаціць – хоча, каб на яе дарма працавалі.* Т, 22.

Адз. Р. *шэлега*: Т, 22.

**[ШЭЛЕСТ]** *м.* Лёгкае, ледзь чутнае шапаценне; шорах, шоргат. *Гаспадар той суважна свой шнур па-святочнаму Абыходзіці будзе, красой любавацца, Прыслухоўвацца шэлесту нівы няўрочнаму..* ТС, 74.

Адз. Д. *шэлесту*: ТС, 74.

**[ШЭПТ]** *м.*: Д **Шэпты-чары**: *Шэпты-чары тварыў ён* [чараўнік] *над імі* [сынамі] *на ўсходзе, – Як жыць лепей, як лепей памерці.* Ч, 319.

Мн. В. *шэпты*: Ч, 319.

**[ШЭПТАЦЬ]** (3) *незак. Руск. Тое, што* шаптаць. *За мною* [першым ганцом] *ўсьцяж, і тут, і там Іх* [людзей] *вусны бледные шэпталі: Аддайце сонцэ нашэ нам!* Ч, 194. *За мною* [другім ганцом] *ўсьцяж, і тут, і там Іх* [людзей] *вусны бледные шэпталі: Аддайце славу нашу нам!* Там жа, 195.

Абв. пр. мн. *шэпталі* (3): Ч, 194, 195(2).

**[ШЭРАНЬ]** *ж.* Белыя рыхлыя крышталікі, якія нарастаюць пры значным марозе і тумане. *У параўн. Ой, ты сіняя, ты сьцюжная зіма, Сярод лета прышла к дзеваньцы сама. Белай шэраняй пасьцель залягла, Ці-ж мая мне прастата памагла?!* ВБЛ, 82.

Адз. Т. *шэраняй*: ВБЛ, 82.

**[ШЭРАНЬКІ]** *прым. Ласк. да* шэры. *І потым .. Назад сумысьля азірнецца ён* [бежанец] *у мгле, Але яго сьвідруюць праз "цапочку" Палохлівыя шэранькія вочы...* ВБЛ, 80.

Мн. Н. *шэранькія*: ВБЛ.

**[ШЭРСЦЬ]** (2) і **[ШЭРСЬЦЬ]** *ж.*: ◊ **Па шэрсці (шэрсьці) гладзіць (пагладзіць)** *гл.* гладзіць. **Пагладзіць процi шэрсці** *гл.* пагладзіць.

Адз. Р. *шэрсці*: Т, 41. Д. *шэрсці*: Т, 41; *шэрсьці*: СП.

**ШЭСЬЦЬ** (4) *ліч. кольк.* Колькасць, якая абазначаецца лічбай 6. *Шэсьць год вайны .. выбілі ў думках беларуса хлебароба і яго супакой.., і яго шчырую веру ў лепшую долю.* ДД. *У шасьці надрукаваных за мінулы год выпусках "Вестник" удзяліў 186 старонак для беларускага пісьменства.* ВСп, 89.

• **Окупанты на шэсьць месяцаў.**

Н. *шэсьць*: ДД. Р. *шасьцёх*: ВСп. В. *шэсьць*: ОШМ. М. *шасьці*: ВСп, 90.

# Э

**Э** (4) *выкл.* 1. Выражае розныя пачуцці. [Янка]: *Э! ліха перамелецца і мука будзе.* Т, 53. [Мікіта]: *Э! Так бы і сказалі, гэр Спічыні, што я цягаў.* Т, 60.

2. Выражае нязгоду, пярэчанне. [Янка]: *Э, цётачка! Не так ужо дрэнна..* Т, 20. [Гануля]: *Э, мой сынок! Не тыя цяпер часы на падарункі.* Там жа, 20.

**[ЭВАКУАЦЫЙНЫ]** *прым.* Звязаны з эвакуацыяй. [Мікіта]: *..апошні час заняты быў эвакуацыйнымі справамі..* Т, 55.

Мн. Т. *эвакуацыйнымі*: Т, 55.

**[ЭВАКУАЦЫЯ]** (2) *ж.* Арганізаваны вываз насельніцтва з небяспечных мясцовасцей. [Дама]: *Мусье беларус, вы .. належыце, мабыць, да новай партыі стоікаў, якія не паддаюцца эвакуацыі..?* [Янка]: *Паддаецца эвакуацыі ў сягонешні час толькі той, у каго або нячыстае сумленне, або ён сядзеў тут з боку-прыпёку..* Т, 37.

Адз. Д. *эвакуацыі* (2): Т, 37(2).

**[ЭВАКУВАЦЦА]** (2) *незак. Разм. Тое, што* эвакуіравацца. [Спраўнік]: *Эвакуемся туды – на Захад..* Т, 37. [Мікіта]: *Пэўна з "царскімі"* [рублямі] *эвакуюцца* [Поп, Спраўнік]. Там жа, 38.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *эвакуемся*: Т, 37. 3 ас. *эвакуюцца*: Т, 38.

**ЭВАКУІРАВАЦЦА** *зак.* Стаць (станавіцца) эвакуіраваным. *У 1915 годзе* [Купала] *вымушан быў эвакуіравацца ў Маскву.* А, 328. *Параўн.* эвакувацца.

Інф. *эвакуіравацца*: А, 328.

**[ЭГАІСТЫЧНЫ]** *прым.* Прасякнуты эгаізмам. *Забіралі* [дужыя народы] *ў падняволеных іх дабро, забіралі іх сыноў і гналі на крывавы бой за эгаістычныя вялікадзяржаўныя мэты.* НДН, 18.

Мн. Н. *эгаістычныя*: НДН, 18.

**[ЭГЗЫСТОВАЦЬ]** *незак. Польск. Тое, што* існаваць. [Заходні вучоны]: *Пшырода на Польскіх Крэсах Всходніх назвычай буйна і богата; эгзыстуе лёнд і водозбёры..* Т, 47.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *эгзыстуе*: Т, 47.

**ЭГЭ** *выкл.* Ужываецца для выказвання здзіўлення. [Янка]: *Эгэ! І пляшку бачу.* Т, 21.

**ЭЙ** (2) *выкл. Руск. Тое, што* гэй *у 1 знач. Эй, гуляйце, чорнасотники..* ВЧ. *Эй, годзе ўжо песень маркотных, пясьняр!* Пр.

**ЭКАНАМІЧНА** *прысл. да* эканамічны. *Наша Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка .. развілася эканамічна і культурна да нечуваных размераў.* ЖН.

**[ЭКАНОМІКА]** і **[ЭКОНОМІКА]** *ж.* Народная гаспадарка; гаспадарчае жыццё. *Яшчэ ў гады грамадзянскай вайны Вы, Нікалай Іванавіч, нямала зрабілі для беларускага народа, .. умацоўваючы эканоміку..* НКУС. // Структура і фінансава-матэрыяльны стан якой-н. галіны гаспадарчай дзейнасці. ..[група нацыянал-дэмакратычных інтэлігентоў] *на працягу раду год вяла шкодніцкую .. работу амаль на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва, накіроўваючы галоўныя ўдары, аднак, па лініі культуры і зямельнай экономікі.* АЛ.

Адз. Р. *экономікі*: АЛ. В. *эканоміку*: НКУС.

**[ЭКЗАМЕН]** *м.* Праверка ведаў. *..дырэктар прымаў мяне* [Купалу] *без экзамена..* А, 328.

Адз. Р. *экзамена*: А, 328.

**[ЭКЗЭМПЛЯР]** *м.* Асобная адзінка (звычайна пра кнігу ці друкаваны тэкст). *Мае* [Купалы] *кнігі разыходзяцца ў дзесятках і сотнях тысяч экземпляраў..* А, 328.

Мн. Р. *экземпляраў*: А, 328.

**[ЭКАНАМІЧНЫ]** і **[ЭКОНОМІЧНЫ]** (3) *прым.* 1. Які мае адносіны да эканомікі. *Гіганцкімі крокамі ідзе культурнае і экономічнае будаўніцтва Беларусі.* АЛ. ..[Беламорска-Балтыйскі канал] *даў надзвычай вялікія магчымасці .. бурнага эканамічнага і культурнага развіцця.* ЦСБ.

2. Матэрыяльны, грашовы. [Мікіта]: *Сучаснае рэволюцыйнае забурэнне .. падкасіла і экономічныя падваліны дабрабыту рускай інтэлігенцыі..* Т, 28.

Адз. ж. В. *экономічную*: ВН. н. Н. *экономічнае*: АР. Р. *эканамічнага*: ЦСБ. Мн. В. *экономічныя*: Т, 28.

**[ЭКСПЛЁАТАВАЦЬ]** *незак. Разм.* Эксплуатаваць. [Мікіта]: *Да апошняга часу пролетарыят эксплёатаваў буржуазію.* Т, 40.

Абв. пр. адз. м. *эксплёатаваў*: Т, 40.

**[ЭКСПЛУАТАТАРСТВА]** *н. Разм. Тое, што* эксплуатацыя. *..хітра прыкрываючы эксплуататарства, Баця закабальвае сваіх рабочых і сістэмай сваіх сталовых, магазінаў, рабочых кватэр.* ПЧ.

Адз. В. *эксплуататарства*: ПЧ.

**[ЭКСПЛУАТАЦЫЯ]** і *разм.* **[ЭКСПЛЁАТАЦЫЯ]** *ж.* 1. Прысваенне прадуктаў працы іншых людзей. *Імперыялістычная загранічная буржуазія .. напруджвае ўсе свае сілы для таго, каб .. зьнішчыць социялістычную дзяржаву, апору .. пролетарыяту ў яго барацьбе за вызваленьне з-пад ярма рабства і эксплёатацыі.* АЛ. *Параўн.* эксплуататарства.

2. Выкарыстанне чаго-н. для практычных мэт. *Купляюць усе тыя, каму гэта зямля патрэбна толькі для эксплуатацыі яе чужой працай.* ЗС, 18.

Адз. Р. *эксплуатацыі*: ЗС, 18; *эксплёатацыі*: АЛ.

**[ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ]** *ж.* Прадпрыемства, на якім здабываецца электраэнергія. *На месцы некалі гнілых, дрыгвяных балот вырастаюць фабрыкі, заводы, электрастанцыі.* АЛ.

Мн. Н. *электрастанцыі*: АЛ.

**[ЭЛЕКТРЫЧНЫ]** *прым.*: • **Электрычная лампа** *гл.* лампа.

Адз. ж. Н. *электрычная*: ШБСЯ.

**[ЭЛЕМЕНТ]** і **[ЭЛЕМЭНТ]** (2) *м.* 1. Састаўная частка чаго-н. *..контррэволюцыйныя нацыянал-дэмократы спадцішка, але, няўхільна, падточвалі соцыялістычныя элемэнты совецкае дзяржаўнасьці..* АЛ. *Імпэрыялістычная загранічная буржуазія адзіным фронтам з рэшткамі капіталістычных элементоў у СССР напружвае ўсе свае сілы для таго, каб .. зьнішчыць соцыялістычную дзяржаву..*Там жа.

2. *мн.* Прадстаўнікі грамадства. *..адгэтуль шалёнае супраціўленне капіталістычных элемэнтаў усім пачынаньням і мерапрыемствам совецкай улады.* АЛ.

Мн. Р. *элемэнтаў*: АЛ; *элементоў*: АЛ. В. *элемэнты*: АЛ.

**[ЭЛЕМЭНТАРНЫ]** (2) *прым.* Пачатковы, прасцейшы. *Хаця ў гэтай кніжцы* [“Элемэнтарнай матэматыцы”] *і зьмешчаны тэрміны па элемэнтарнай матэматыцы, але некаторыя з паміж іх дужа не элемэнтарны..* ВСп, 89.

Адз. ж. М. *элемэнтарнай*: ВСп, 89. Кар. мн. Н. *элемэнтарны*: ВСп, 89.

**[ЭЛІН]** *м. перан.* Той, хто займае высокае становішча ў грамадстве. *У вольнай, незалежнай Беларускай дзяржаве не павінна быць “ні эліна, ні іудзея”.* НДН, 19.

Адз. Р. *эліна*: НДН, 19.

**[ЭЛЬЗАСЦЫ]** *мн.* Народ, які насяляе Эльзас. *Тое самае рабіла Нямеччына з палякамі, эльзасцамі ды ўсялякімі заморскімі калёнямі.* НДН, 18.

Т. *эльзасцамі*: НДН, 18.

**[ЭМАР]** *м. Разм.* Перамена, змена. [Мікіта]: *А гэта, меджду протчым, яна* [барада] *вырасла ў звязку з палітычнымі эмарамі на нашым Менскім горызонце.* Т, 55.

Мн. Т. *эмарамі*: Т, 55.

**[ЭНДЭК]** (6) *м. Скар.* Нацыянал-дэмакрат. *Польскія эндэкі .. накінулі нам* [беларусам] .. *"плебісцыт" і прынятую соймам "рэзолюцыю", якая недвузначна прылучае незалежную Беларусь да Польшчы.* СНБ. *Для эндэкаў нічога не знача прымер царскай Расіі..* Там жа.

Мн. Н. *эндэкі* (2): СНБ; У. Р. *эндэкаў* (4): СНБ (3); У.

**[ЭНДЭЦКІ]** *прым.* Уласцівы эндэкам. *З гэтага бачым, што эндэцкая рэакцыя якобы пачынае браць верх.* СНБ.

Адз. ж. Н. *эндэцкая*: СНБ.

**[ЭНТУЗЫЯЗМ]** *м.* Высокая ступень натхнення, захаплення. *..рабочая кляса, у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства .. з нявіданым творчым энтузыязмам і запалам будуе соцыялістычнае грамадзтва.* АЛ.

Адз. Т. *энтузыязмам*: АЛ.

**[ЭНЭКСЫЯ]** *ж. перан.* Перадача маёмасці каму-н. [Мікіта]: *(..падае грошы). Вось вам, ясне мусье немец, гэр гэрманіш, пакуль што контрыбуцыя, заўтра дам энэксыю, а там, калі не хопіць, жонак, дзяцей залажу, .. толькі .. не цягнеце ў палон!* Т, 33.

Адз. В. *энэксыю*: Т, 33.

**ЭПІЛЁГ** *м. перан.* Канец, развязка. *Яны* [бежанцы] *з абозам на усход цяклі, .. У прадчуваньні, але йшчэ ня верачы ані, Што гэта ўжо сапраўды эпілёг дасяг..* ВБЛ, 80.

Адз. Н. *эпілёг*: ВБЛ, 80.

**[ЭПОХА]** (5) *ж.* Прамежак часу ў развіцці грамадства, які вызначаецца характэрнымі асаблівасцямі. *Вялікае давер'е, аказанае партыяй да савецкіх пісьменнікаў, .. абавязвае іх апраўдаць гэта давер'е і тварыць рэчы, годныя нашае вялікае эпохі.* ДНСП. *У нашу векапомную эпоху гэраічнага змаганьня пролетарыяту за вызваленьне працоўных .. праступна ўваскрашаць мінулае..* АЛ. // Перыяд у развіцці грамадства, звязаны з дзейнасцю якога-н. чалавека. *Добра, таварышы, жыць, тварыць і змагацца ў эпоху нашага мудрага Сталіна!* ДЖ.

• **Добра жыць, тварыць і змагацца ў эпоху нашага мудрага Сталіна.**

Адз. Р. *эпохі*: ДНСП. Д. *эпосе*: ЖН. В. *эпоху* (3): АЛ; ДЖ (2).

**ЭСЭР** (2) *м.* Сацыяліст-рэвалюцыянер, прадстаўнік дробна-буржуазнай партыі ў Расіі. ..[вёска Блонь] *калісь належала да двара вядомага расійскага эсэра п. Бонч-Асмалоўскага..* МІ, 17.

**Д Эсэр-беларус**: [Мікіта]: *Ну, яна* [цётка Бадунова]*, меджду протчым, эсэр-беларус..* Т, 56.

Адз. Н. *эсэр*: Т, 56. Р. *эсэра*: МІ, 17.

**ЭТАП** *м.* Перыяд. *Але гэты этап пройдзен.* АЛ.

Адз. Н. *этап*: АЛ.

**[ЭТНАГРАФІЧНЫ]** (2) і **[ЭТНОГРАФІЧНЫ]** *прым.* Які мае адносіны да этнаграфіі. *..я* [Купала] *прачытаў амаль усе этнаграфічныя беларускія зборнікі.* ПС. [Заходні вучоны]: *..вбрэв гісторычным, еографічным, этнографічным, лінгвістычным, і дыплёматычным баданём і розправом вшэхпольскім, ойчызнэн свон бялорусіні называён Бялорусь.* Т, 26. *Параўн.* этнографічэскій.

Мн. Д. *этнографічным*: Т, 26. В. *этнаграфічныя*: ПС. М. *этнаграфічных*: НДН, 18.

**[ЭТНОГРАФІЧЭСКІЙ]** *прым. Руск. Тое, што* этнаграфічны. [Усходні вучоны]: *..вопрэкіісторычэскім, географічэскім, этнографічэскім, лінгвісцічэскім і дзіпломацічэскім всероссійскім ісследованіям і трудам, – оцечэство своё белорусы почему-то называют Белоруссія.* Т, 26.

Мн. Д. *этнографічэскім*: Т, 26.

**ЭТО** *часц. Руск. Тое, што* гэта *ў 2 знач.* [Усходні вучоны]: *Так вы* [Мікіта] *это і есць настояшчый белорус?* Т, 26.

**[ЭТОТ]** *займ. Руск. Тое, што* гэты *ў 3 знач.* [Усходні вучоны]: *Всё жэ прымечается стрэмленіе расшырыць эці граніцы на Запад.* Т, 47.

Мн. Н. *эці*: Т, 47.

**ЭХ** (3) *выкл.* Ужываецца пры выражэнні шкадавання. [Мікіта]: *Эх, каб я быў, меджду протчым, царом!* Т, 48. [Янка]: *Эх, русацяп вы* [Мікіта]*, русацяп!* Там жа, 49. $Ш_2$.

# Ю

**[ЮБІЛЕЙНЫ]** *прым.* Які выпускаецца ў гонар юбілею. *..я* [Купала] *перакладаю “Кабзара” Тараса Шаўчэнкі для юбілейнага зборніка.* МП.

Адз. м. Р. *юбілейнага*: МП.

**[ЮДА]** *м. Пагардл., лаянк.* Здраднік. *Спі, буравеснік, усмерчаны Горкі Хеўрай прадажніцкіх юдаў.* СЗГ, 252.

Мн. Р. *юдаў*: СЗГ, 252.

**ЮНАК** *м.* Малады чалавек, хлопец. *Дзяўчына, юнак малады Не зложаць без часу касцей.* ТП, 216.

Адз. Н. *юнак*: ТП, 216.

**[ЮДЭНІЧЫ]** *мн. аг. да* Юдэніч. *Цяперашнія пабеды дзянікінаў, калчакоў, юдэнічаў над бальшавікамі – гэта васкрашаючы труп расійскага самаўласця.* БВ, 17.

Мн. Р. *юдэнічаў*: БВ, 17.

**[ЮНАЦКІ]** (2) *прым.* Які мае адносіны да юнака, юнацтва. *Слава сокалу, што родам З-пад Каўказскіх скалаў, Што з Крамля праменні сее З юнацкім запалам.* СТ. *Маладой юнацкай славай .. Прамянееш ты* [камсамол] *ў сусветах.* СА, 178. *Параўн.* юначы.

Адз. м. Т. *юнацкім*: СТ. ж. Т. *юнацкай*: СА, 178.

**ЮНАЦТВА** *н.* Ранняя маладосць. *..усё маё* [Купалы] *юнацтва прайшло на чужой зямлі..* А, 328.

Адз. Н. *юнацтва*: А, 328.

**[ЮНАЧЫ]** (2) *прым. Разм. Тое, што* юнацкі. *Зтуль тваё пачуе вуха Камсамольскі гарт юначы.* ТП, 215.

Адз. м. В. *юначы*: СА, 179. Мн. Р. *юначых*: ТП, 215.

**ЮНЫ** *прым. перан.* Які нядаўна пачаўся. *Юны чэрвень молада Больш за май вяселіцца.* ПЛ.

Адз. м. Н. *юны*: ПЛ.

**ЮРАШКЕВІЧЫ** *мн. аг. да* Юрашкевіч. *..кс. Мацеевіч і яго таварышы – гэта такіе-ж заядлые ворагі беларушчыны, як Юрашкевічы, Вераксіны і Замысловскіе, дык яны і будуць дамагацца для беларусоў-каталікоў ня роднай іх, беларускай мовы, а чужой – польскай!* ВР.

Н. *Юрашкевічы*: ВР.

**[БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ БІБЛІЯТЭКА]** *ж.* Дзяржаўная бібліятэка імя Леніна, адкрытая ў 1922 г. *Бібліятэку сваю перадаю* [Купала] *Бел.<арускай> Дзярж.<аўнай> Бібліятэцы.* СЧ.

Д. *Бел.<арускай> Дзярж.<аўнай> Бібліятэцы*: СЧ.

**[БЕЛАРУСКАЯ ЗЯМЛЯ]** *ж. Тое, што* Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. *..хай пойдзе кліч па усёй Беларускай зямлі, .. што надыйшоў дзень беларускага народу, калі ён можа збройна заступіцца за сябе самога і за сваю Айчыну.* БСУ.

М. *Беларускай зямлі*: БСУ.

**"БЕЛАРУСКАЯ РАЗРАЗНАЯ АЗБУКА", РАЗРАЗНАЯ АЗБУКА** *ж.* Падручнік для школы Я. Лёсіка, выдадзены ў 1922 г. *..адзначаецца сваёй навізной першая "Беларуская разразная азбука".* ВСп, 89. *Кніг для чытаньня у школе дзьве – Лёсіка і Некрашэвіча; разразная азбука, лемантар Некрашэвіча.* Там жа.

Н. *"Беларуская разразная азбука"*: ВСп, 89; *разразная азбука*: ВСп, 89.

**[БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭСПУБЛІКА], БЕЛОРУСКАЯ СОВЕЦКАЯ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭСПУБЛІКА** (2), **БЕЛАРУСКАЯ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ САВЕЦКАЯ РЭСПУБЛІКА, БССР** (10), **НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭСПУБЛІКА, БЕЛАРУСКАЯ РЭСПУБЛІКА** (2) *ж.* Адна з саюзных рэспублік СССР. *..неяк дагаварыліся* [маскоўскія беларусы-бальшавікі] *і стварылі часовы ўрад "Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі".* СНБ, 338. *Наша Белоруская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка .. развілася эканамічна і культурна да нечуваных размераў.* ЖН. *Няхай жыве Беларуская Соцыялістычная Совецкая Рэспубліка, адзін з краявуглавых каменьняў Савецкага Саюзу!* АЛ. *..кожны сумленны грамадзянін БССР з захапленьнем прывітае новую кветку ў бясьсьмертным вянку культурнага будаўніцтва ў БССР – Беларускую Акадэмію Навук.* ГНД. *..1 студзеня (?) была абвешчана "Незалежная Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка" ў федэратыўнай сувязі з Маскоўшчынай.* СНБ, 338. [Мікіта]: *..як мне казала з пэўных крыніц мамзэль Наста, дык у вас заводзіцца нейкая, меджду протчым, Беларуская Рэспубліка.* Т, 55. *Параўн.* Айчына, Бацькаўшчына, Беларуская дзяржава, Беларуская зямля, Беларусь *у 1 знач.*

Н. *Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка*: ЖН; *Беларуская соцыялістычная савецкая рэспубліка*: АЛ; *БССР*:

АЛ; *Незалежная Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка*: СНБ, 338; *Беларуская рэспубліка*: Т, 55. Р. *Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліці*: ШБСЯ; *БССР* (6): АЛ; ГНД; НКУС; ШБСЯ (3). В. *Беларускую* [рэспубліку]: СНБ. М. *БССР* (3): ГНД; СЧ, 432; ШБСЯ.

**[“БЕЛАРУСКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ ГРАМАДА”]** *ж.* Нацыянальная партыя леванародніцкага кірунку, утворана зімою 1902–03 гг. *Шчыры голас і праца ідэёвая людзей, якія гуртаваліся спачатку каля “Беларускай сацыялістычнай грамады”, .. палажылі свае векапомныя падваліны дзеля адраджэння свайго народу..* СНБ, 336.

Р. *“Беларускай сацыялістычнай грамады”*: СНБ, 336.

**БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ** *м.* Універсітэт, заснаваны ў Мінску II.VII.1921 г. *Адзін толькі Беларускі Дзяржаўны Універсітэт а ніяк ня можа адважыцца на беларушчыну..* ВСп, 90.

Н. *Беларускі Дзяржаўны Універсітэт*: ВСп, 90.

**“БЕЛАРУСКІ ЛЕМАНТАР”** *м.* Буквар С. Некрашэвіча, выдадзены ў 1922г. *Зьвяртае на сябе ўвагу так сама “Беларускі лемантар” вельмі багата ільлюстраваны.* ВСп, 89.

Н. *“Беларускі лемантар”*: ВСп, 89.

**БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАМІТЭТ** *м.* Аддзел Народнага камісарыята па справах нацыянальнасцей РСФСР. Існаваў з лютага 1918 да сакавіка 1919 г. *Арганізаваўся Беларускі Нацыянальны камітэт, пачала выходзіць штодзённая беларуская газэта..* СНБ.

Н. *Беларускі Нацыянальны камітэт*: СНБ.

**БЕЛАРУСЬ** (107) і **БЕЛОРУСЬ** *ж.* 1. *Тое, што* Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. *Вырасла і далей бурна расце індустрыяльна-калгасная Беларусь.* ШБСЯ. *Гіганцкімі крокамі ідзе культурнае і экономічнае будаўніцтва Беларусі.* АЛ.

2. Тэрыторыя ў цэнтры Еўропы, да рэвалюцыі заходняя частка Расіі. *У замучанай царызмам Беларусі, як і ва ўсёй Расійскай імперыі, працоўныя былі пазбаўлены права ўдзельнічаць у якой-бы то ні было дзяржаўнай рабоце.* ГВУ. [Усходні вучоны]: *Необходзімо почэрпнуць от вас* [Янкі] *сведенія касацельно церрыторыяльных данных облацсі, іменуемой вашым племенем – Белорусь.* Т, 38. *Параўн.* Беларушчына, Белоруссія, Белая Русь, Бялорусь.

• **Адбудова Беларусі. Выдавецкая справа ў Савецкай Беларусі за 1922 г. Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год. Хараство Беларусі.**

Δ **Беларусь-маці**: *Знай, жаўнеры мы, Вышлі не на жарт Біцца, ваяваці; Знай, хавалі нас Поле, бор і лог Беларусі-маці!* ВД. **Мацер-Беларусь** *гл.* мацер. **Маці-Беларусь** *гл.* маці.

• **Савецкая Беларусь** (5); **Совецкая Беларусь** (9), **Беларусь Савецкая, Савецкая Соцыялістычная Беларусь**: *У Савецкай Беларусі росквіт культуры такі магутны, пра які я* [Купала] *і не мог сніць у дарэвалюцыйныя часы.* А, 328. *Гісторыя Совецкай Беларусі багата сваёй героікай штурмаў вышынь соцыялізма..* ШБСЯ. *І трэба нам помніць, што гэта вялікая, культурная і творчая беларуская праца .. зроблена ў Беларусі Савецкай і пры дапамозе Улады Савецкай.* ВСп, 91. *Усе сілы – соцыялістычнаму будаўніцтву на зацьвітаючай новымі агняцьветнымі праскамі індустрыяльна-колгаснай глебе Савецкай Соцыялістычнай Беларусі!* АЛ.

Н. *Беларусь* (23): АБ, 16; АПЖ; БВ, 16; БСУ; Бч, 9; ДЖ (2); Ж (3); ЖН; Нз, 14; ОШМ; ПЛП; СНБ, 336; Т, 26, 29, 35, 56; Тж, 16; УПУВ; ХБ, 30; ШБСЯ; *Белорусь*: Т, 38; *Совецкая Беларусь*: НКУС. Р. *Беларусі* (29): АБ, 16; АЛ (3); БСУ; ВБ; ВГР; ВМР; ВР; Ж; ЖН; Нз, 14; ПСС, 232; ПЛП (3); ПЧ; СНБ, 340; СНБ (7); СЧ; ХБ, 28; ШБСЯ (2); *Сав.<ецкай> Беларусі*: СЧ, 432; *Савецкае Беларусі*: АЛ; *Совецкай Беларусі* (5): ВГР (2); ВНЗ; ШБСЯ (2); *Совецкае Беларусі*: ВГР; *Савецкай Соцыялістычнай Беларусі* (2): АЛ (2). Д. *Беларусі* (4): АБ, 16; ВМР; ОШМ; СНБ. В. *Беларусь* (23): БВ, 16, 17; ГП, 8; ДПЛС; ДК; ЖН; ЗС, 18; НГд, 8; НДп, 229; Нз, 14(4), 15; ОШМ; Пт; СНБ, 337, 338; СНБ (3); У; ЦСБ; *Савецкую Беларусь*: СЧ; *Совецкую Беларусь* (2): ВНП; ШБСЯ. Т. *Беларуссю* (2): ЖН (2); *Беларусяй* (3): Ж; К; Пт. М. *Беларусі* (23): АБ, 16; БВ, 16; ВСп, 90, 91; ВР; ГВУ; ГП, 8; ДК (4); З; Нз, 14; ОШМ (3); ПЛП (2); СНБ, 338(2), 339, 340; ХБ, 27; *Савецкай Беларусі* (2): А, 328; ВСп, 89; *Беларусі Савецкай*: ВСп, 91.

**БЕЛАРУЧЫ** *толькі мн.* Мястэчка (цяпер вёска) ў Лагойскім раёне. *Прададзены ўжо .. двор Беларучы ў Менск.<ім> павеце, распрадаецца ўразброд вялікі двор Косіна ў Барыс.<аўскім> павеце і г. д.* ЗС, 18.

Н. *Беларучы*: ЗС, 18.

**[БЕЛАРУЦКАЕ НАРОДНАЕ ВУЧЫЛІШЧА]** *н.* Навучальная ўстанова ў в. Беларучы. *Пазней, гадоў 15-16, я* [Купала] *скончыў за адну зіму Беларуцкае народнае вучылішча.* А, 328.

В. *Беларуцкае Народнае вучылішча*: А, 328.

**БЕЛАРУШЧЫНА** (3) *ж. Тое, што* Беларусь *у 2 знач. Як жыла і жывеш, будзеш жыць, Беларушчына: Зразумеў*

*і успомніў цябе твой мільёны народ.* Б, 18. *Пачалі думаць аб беларускіх школах, газэтах: І што-ж? Беларушчына апынулася ў стане забароненага.* СНБ.

• **Беларушчына.**

Н. *Беларушчына* (3): Б, 18(2); СНБ.

**БЕЛАСТОК** *м.* Горад у Польшчы, цэнтр ваяводства, з 1939 да 1945 гг. знаходзіўся ў складзе БССР. *..калеі на такіх буйных станцыях, як Слонім, Беласток, пазарасталі травой.* ПЧ.

Н. *Беласток*: ПЧ.

**[БЕЛОРУССІЯ]** *ж. Тое, што* Беларусь *у 2 знач.* [Усходні вучоны]: *..вопрэкі історычэскім, географічэскім, этнографічэскім, лінгвісцічэскім і дзіпломацічэскім всероссійскім исследованіям і трудам, – оцечэство своё белорусы почему-то называют Белоруссія.* Т, 26.

В. *Белоруссія*: Т, 26.

**"БЕЛТРЭСТДРУК"** *м. Скар.* Выдавецтва. *Паглядзім, што зробіць у гэтай справе "Белтрэстдрук", які паўстаў ад жаніцьбы Госиздата з Поліграфам.* ВСп, 91.

Н. *"Белтрэстдрук"*: ВСп, 91.

**[БЕЛЬГІЯ]** *ж.* Дзяржава ў Заходняй Еўропе. *У Бельгіі таксама кіпіць работа ў гэтым напрамку, якой прымушаны дапамагаць немцы, – а ў нас?..* АБ, 16.

М. *Бельгіі*: АБ, 16.

**[БЕНЕШ]** *м.* Эдуард, чэхаславацкі дзяржаўны дзеяч і дыпламат. *Гэтую прыязнь да совецкае культуры, да нашае краіны .. мы* [дэлегаты] *з хваляваннем адчувалі .. на спатканні з міністрам замежных спраў п. Бенешам..* ПЧ.

Т. *Бенешам*: ПЧ.

**[БЕРАСЦЕЙСКІ]** *прым. Разм.* Брэсцкі. [Наста]: *..гэта* [Немец] *апошні з роду магіканаў, які, згодна з Берасцейскай умовай, пакідае сягоння нашы Менскія палестыны і махае свае крокі туды, адкуль прышоў.* Т, 41.

Адз. ж. Т. *Берасцейскай*: Т, 41.

**[БЕРЛІН]** і *разм.* **[БЭРЛІН]** *м.* Сталіца Германіі. [Мікіта]: *Эх, каб я быў, меджду прочтым, царом. Завёў бы я ад Азіі да Аўстраліі, ад Афрыкі да Амэрыкі і ад Смаленску да Бэрліну адзін непадзельны рускі язык..* Т, 48. [Хлопчык:] *Свайго самалёта днём, ночкай Не выпусцім, лётчык, мы з рук. Берліну заглянем у вочы, У крывавыя вочы гадзюк.* ХЛВ, 315.

Р. *Бэрліну*: Т, 48. Д. *Берліну*: ХЛВ, 315.

**БЛОНЬ** *ж.* Вёска ў Пухавіцкім раёне Мінскай вобласці. *..недалёка ад Менску, у вёсцы Блонь .. беларусы не забылі*

*ўсяго свайго роднага.* МІ, 17.

Н. *Блонь*: МІ, 17.

**БОГ** (9) *м. Рэл.* Вярхоўнае усемагутнае стварэнне, якое кіруе светам. *..забараняюць* [немцы] *бедным дзеткам чытаць і маліцца Богу у сваёй роднай мове.* ЧЧШ. *Не зналі змагаць грамадою прашкодаў І Бога хваліць грамадою; Па шчасці нязведанным грэшны народ Ўздыхаў, як канюх за вадою.* ПН, 46.

◊ **Барані Божа** – засцярога. *Жаднага прымусу ці, барані Божа, гвалту: сам народ робіць усё так, як яму жадаецца, як ён падабае.* ДК.

Адз. Н. *Бог* (3): БС; ДК; ПЛП. Д. *Богу*: ЧЧШ. В. *Бога*: ПН, 46. Кл. *Божа* (2): ДК (2). Мн. Р. *Багоў*: ПЛП. Т. *Багамі*: ПЛП.

**[БОНЧ-АСМАЛОЎСКІ]** *м.* Анатоль Восіпавіч, рэвалюцыянер-народнік, дзеяч арганізацый "Зямля і воля" і "Чорны перадзел". *..недалёка ад Менску, у вёсцы Блонь, каторая калісь належыла да двара расійскага эсэра п. Бонч-Асмалоўскага, сяляне-беларусы не забылі ўсяго свайго роднага.* МІ, 17.

Р. *Бонч-Асмалоўскага*: МІ, 17.

**[БОРШЧЫК]** (2) *м.* Прозвішча ў п'есе Я.Купалы "Тутэйшыя". [Начальнік]: *Скажэце мне: вы* [Мікіта] *ўчора грабілі кватэру грамадзяніна Боршчыка на Архірэйскім завулку?* Т, 60. [Спічыні]: *..стоячы на скверы, каля вадакачкі, бачыў, як вы* [Мікіта] *з іншымі цягалі рухомую маёмасць з кватэры таварышча Боршчыка.* Там жа, 60.

Р. *Боршчыка* (2): Т, 60(2).

**[БОСКІ]** *прым.*: ◊ **На ласку Боскую** *гл.* ласка.

Адз. ж. В. *Боскую*: ДК.

**["БОСЫЯ НА ВОГНІШЧЫ"]** *ж.* Паэма М.Чарота. *...М. Кудзелька даў паэму "Босыя на вогнішчы", зьвярнуўшую на сябе ўвагу розных крытыкаў.* ВСп, 89.

В. *"Босыя на вогнішчы"*: ВСп, 89.

**БРАХАЛКА** і **[БРЭХАЛКА]** (2) *ж. Разм.* Кафедральны пляц у Мінску. [Усходні вучоны]: *Пры опросе аборыгенов Северо-Заподного края о процяжэніі занімаемой імі церрыторыі выяснілось, что таковая включает в себе всю обласць Мінской Брэхалкі да ешчо далей...* Т, 39. *1-я, 3-я і 4-я дзеі адбываюцца ў Мікітавай хаце, 2-я дзея – на Катэдральным пляцы, называным мянчанамі "Брахалка".* Там жа, 19.

Н. *Брахалка*: Т, 19. Р. *Брэхалкі* (2): Т, 39(2).

**[БРНО]** *м., нескл.* Горад у Чэхаславакіі. *Мы* [дэлегаты] *наведалі рад прамысловых прадпрыемстваў у Оломоуце, Прасценаве, Зліне, Брно, Пільзене..* ПЧ.

**БРУСІЛАЎ** *м.* Аляксей Аляксеевіч, рускі ваенны дзеяч.

[Спраўнік]: *Кажуць, сам Брусілаў ідзе побач з нашымі новымі гаспадарамі.* Т, 57.

Н. *Брусілаў*: Т, 57.

**БРЭХАЛКА** *гл.* **БРАХАЛКА**.

**БССР** *гл.* **БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭСПУБЛІКА.**

**[БУГ]** (3) *м.* Рэкі (Заходні і Паўднёвы Буг) на Беларусі і Украіне. [Мікіта]: *Каб яго* [Начальніка] *за Буг вынесла.* Т, 61.

◊ **Ідзь до сту д'яблув за Буг** *гл.* ісці.

В. *Буг* (3): Т, 49(2), 61.

**БУЛАВА: ІГНАТ БУЛАВА** *м.* Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. *Ігнат Булава з падзякай паціснуў ім* [падрыўнікам] *рукі.* ППС.

Н. *Ігнат Булава*: ППС.

**БУРЫЯН, [ЭМІЛЬ БУРЫЯН]** *м.* Чэхаславацкі драматург і рэжысёр тэатра. *Совецкія пісьменнікі і журналісты пазнаёміліся з такімі дзеячамі мастацтва, як драматургі Гонзль, Бурыян, пісьменнікі Ольбрахт, Томан..* ПЧ. *Мы* [дэлегаты] *наведалі тэатр вядомага рэжысёра Эміля Бурыяна..* Там жа.

Н. *Бурыян*: ПЧ. Р. *Эміля Бурыяна*: ПЧ.

**[БУЦЛАЎСКАЯ ГІМНАЗІЯ]** *ж.* Навучальная ўстанова ў Буцлаве. *Прымерам гэтага можа служыць закрыццё Буцлаўскай гімназіі і інш. ..* СНБ.

Р. *Буцлаўскай гімназіі*: СНБ.

**[БЭЙЛІС]** *м.* Яўрэй, над якім у верасні-кастрычніку 1913 г. у Кіеве царскім урадам і чарнасоценцамі быў арганізаваны судовы працэс. *Урэшце, забабон у наш XXты век апляваў паскуднай сьлінай увесь культурны сьвет, кінуўшы яму у вочы процэс Бэйліса.* З.

Р. *Бэйліса*: З.

**БЭРЛІН** *гл.* **БЕРЛІН.**

**БЭРСАН** (2) *м.* У 1920 г. узначальваў камісарыят нацыянальных меншасцей у Беларусі. *На чале гэтай установы стаяў пан Бэрсан.* СНБ, 338. *І калі з Масквы прыслалі чалавека (бальшавіка) арганізаваць таксама і баларускі аддзел пры камісарыяце, то п. Бэрсан так спужаўся гэтага, што, каб не было ні вам, ні нам, скасаваў увесь камісарыят нацыянальных меншасцей.* Там жа, 338.

Н. *Бэрсан* (2): СНБ, 338(2).

**БЯДУЛЯ ЗЬМІТРОК** *м.* (сапр.: Плаўнік Самуіл Яфімавіч). Беларускі пісьменнік. *Аўтары тут – нашы старыя знаёмыя: Багушэвіч Францішак, Бядуля Зьмітрок, Гартны*

*Цішка..* ВСп, 89.

Н. *Бядуля Зьмітрок*: ВСп, 89.

**[БЯЛАЯ РУСЬ]** *ж. Польск. Тое, што* Беларусь *у 2 знач.* [Заходні вучоны]: *Можэ шановны пан поінформуе цось о пшыродзе так званэй по вашэму Бялэй Русі..* Т, 47.

Р. *Бялэй Русі*: Т, 47.

**[БЯЛОРУСЬ]** *ж. Польск. Тое, што* Беларусь *у 2 знач.* [Заходні вучоны]: *..вбрэв гісторычным, еографічным, этнографічным, лінгвістычным і дыплёматычным баданём і розпрaвом вшэхпольскім, ойчызнэн свон бялорусіні называён Бялорусь.* Т, 26.

В. *Бялорусь*: Т, 26.

# В

**ВАЛАСКОВІЧ** (3) *м.* Аўтар першага падручніка па арыфметыцы на беларускай мове, выдадзенага ў 1922 г. *Кніг для чытання ў школе дзьве – Лёсіка і Некрашэвіча; .. па матэматыцы – чатыры: Валасковіч і Лукашэвіч..* ВСп, 89. *Арэтмэтычныя задачнікі Валасковіча і Лукашэвіча – першыя задачнікі ў беларускай мове.* Там жа.

Н. *Валасковіч*: ВСп, 89. Р. *Валасковіча* (2): ВСп, 89(2).

**ВАЛЬКЕР** *м.* Іржы. Чэшскі паэт-камуніст. *Ye* [жанчыны] *сын – паэт-камуніст Валькер памёр у 1924 годзе.* ПЧ.

Н. *Валькер*: ПЧ.

**[ВАНЬКОВІЧАЎ ЛЕС]** *м.* Назва лесу ў п’есе “Тутэйшыя”. [Гануля]: *А сёлета, апрача ўсяго іншага, дык яшчэ і дровы з Ваньковічава лесу самакатам коцяць* [мянчане] *і коцяць на вяроўках.* Т, 55.

Р. *Ваньковічава лесу*: Т, 55.

**ВАРАШЫЛАЎ** (9)**, КЛІМЕНТ ВАРАШЫЛАЎ, ВАРАШЫЛАЎ КЛІМЕНТ** *м.* Клімент Яфрэмавіч, савецкі партыйны, дзяржаўны і ваенны дзеяч. *Партрэт Варашылава ўбралі дзяўчаты Ў чырвоныя кветкі-вяснянкі.* ВВ, 263. *Народ беларускі шчаслівы сягоння – Клімент Варашылаў яго дэпутат!* НДп, 229.

• **Нашым кандыдатам ў Вярхоўны Савет БССР – таварышам Сталіну, Молатаву, Варашылаву і Ежову.** НК.

Н. *Варашылаў* (3): НК (2); Ун, 73; *Клімент Варашылаў* (2): НДп, 229, 230; *Варашылаў Клімент*: ПДз, 83. Р. *Варашылава*: ВВ, 263. Д. *Варашылаву* (3): Вб, 237; ЗЯЗ, 89; НК. В. *Варашылава* (2): Вб, 237, 239.

**ВАРШАВА** (6) *ж.* 1. Сталіца Польшчы. *Кароценькая вестка, атрыманая намі учора з Варшавы .. павінна збудзіць у кожнага беларуса .. вялікае здаволеньне і сьвяточную радасьць.* БСУ. [Мікіта]: *Ваша таварыская міласць! ..пайду памагаць вам забіраць Варшаву, толькі не забірайце мяне!* Т, 62.

2. *перан.* Сімвал панска-буржуазнай Польшчы. *Масква й Варшава аплюлі вам* [жыдам] *імя I ў дзікай чэрні ненавісьць збудзілі к вам..* Ж. *Рынкам жывога тавару няслава Край ўвесь зрабіла, загнала на ўбой, Дзе ўжо лет сотні Масква і Варшава Торг гругановы вядуць між сабой.* Н.

Н. *Варшава* (3): Ж; Н; НГ. Р. *Варшавы*: БСУ. Д. *Варшаве*: Х. В. *Варшаву*: Т, 62.

**[ВАРШАВСКІ]** (2) *прым.*: **0 Варшавске смецце** – беларуская інтэлігенцыя. [Янка]: *Для вас* [Мікіты]*, як для рускага колежскага рэгістратара, яны* [інтэлігенцыя]*, можа, й чыстая, але для мяне яны – "Варшавске смецце, гразь Масквы", як сказаў вешчы Шаўчэнка.* Т, 38. **Зямля Варшаўская** – Польшча. *З далёкіх заморскіх старон – з зямлі Варшаўскай, з царства Візантыйскага .. прыязджалі па моры і па сушы багатыя госці з багатымі таварамі..* Кз, 17.

Адз. ж. Р. *Варшаўскай*: Кз, 17. н. Н. *Варшавске*: Т, 38.

**"ВЕСТНИК КОМИССАРИАТА НАРОДНОГО ПРОСВЕЩЕНИЯ С.С.Р.Б.", "ВЕСТНИК"** (5) *м.* Часопіс, орган Наркамата асветы БССР, выдаваўся з кастрычніка 1921 г. да лістапада 1922 г. *Ядыная бадай расійская краёвая часопісь, якая друкуе артыкулы й пабеларуску, гэта "Вестник Комиссариата Народного Просвещения С.С.Р.Б."* ВСп, 90. *На вартасьці надрукаванага ў "Вестнике" беларускага матар'ялу затрымлівацца ня будзем..* Там жа, 90.

Н. *"Вестник Комиссариата Народного Просвещения С.С.Р.Б."*: ВСп, 90; *"Вестник"* (3): ВСп, 90(2); Х. Д. *"Вестнику"*: ВСп, 90. М. *"Вестнике"*: ВСп, 90.

**[ВІЛЕЙСКІ ПАВЕТ]** *м.* Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў складзе Мінскай губерні. *Нарадзіўся я* [Купала] *25 чэрвеня (старога стылю) 1882 г. непадалёк ад Радашковіч былога Вілейскага павета у фальварку Вязынка.* А, 327.

Р. *Вілейскага павета*: А, 327.

**[ВІЛЕНСКАЯ ГУБЕРНЯ]** *ж.* Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка. *Другая – першая Горад у нас, Губерні Віленскай, – Чуў мо' не раз.* $Ш_5$. *Параўн.* Віленшчына.

Р. *Губерні Віленскай*: $Ш_5$.

**[ВІЛЕНСКІ УНІВЭРСЫТЭТ ІМЕНЬНЯ КАРАЛЯ СЬЦЯПАНА БАТОРАГА], ВІЛЕНСКІ БАТОРАЎСКІ**

**УНІВЭРСЫТЭТ, БАТОРАЎСКІ УНІВЭРСЫТЭТ** (2), **ПОЛЬСКІ УНІВЕРСІТЭТ** *м.* Універсітэт у Вільні, заснаваны польскім каралём Сцяпанам Баторым у 1578 г. *У гэтые дні адбылося вялікае і урачыстае сьвятло уходзін Віленскага Унівэрсітэту іменьня караля Сьцяпана Баторага.* УПУВ. *..Віленскі Батораўскі Унівэрсытэт павінен і абавязан здаволіваць духоуные культурные патрэбы гэтых усіх трох народау: палякоу, літвіноу і беларусау.* Там жа. *..рукою яе* [Польшчы] *.. збуджаны к жыцьцю, спаушый доугіе годы Батораускі Унівэрсытэт.* Там жа.

• **Уваскрашэньне Польскага Унівэрсітэту у Вільні.**

Н. *Віленскі Батораускі Універсытэт*: УПУВ; *Батораускі Унівэрсытэт*: УПУВ. Р. *Віленскага Унівэрсытэту іменьня караля Сьцяпана Баторага*: УПУВ; *Батораускага Унівэрсытэту*: УПУВ; *Польскага Універсітэту*: УПУВ.

**“ВИЛЕНСКИЙ ВЕСТНИК”** *м.* Палітычная і літаратурная газета, афіцыйны орган Паўночна-Заходняга краю, з 1903 г. – паўафіцыйнае прыватнае выданне рускага вялікадзяржаўнага кірунку. *“Gazeta Godziena”, I “Виленский Вестник” Сабраліся хэўрай, Як сьвіньні на сьметнік.* Х.

Н. *“Виленский Вестник”*: Х.

**[ВІЛЕНШЧЫНА]** *ж. Разм. Тое, што* Віленская губерня. *Па нейкім часе удалося там* [у Вільні ] *склікаць Раду Віленшчыны і Горадзеншчыны.* СНБ.

Р. *Віленшчыны*: СНБ.

**ВІЛЬНЯ** (20) *ж. Уст.* Вільнюс. *Кінуў* [Купала] *і гэтую работу і папаў у Вільню, дзе выходзіла газета “Наша ніва”.* А, 328. *На Вялікдзень палякі забралі Вільню.* СНБ.

• **Уваскрашэньне Польскага Унівэрсітэту у Вільні.**

Н. *Вільня* (3): УПУВ (3). В. *Вільню* (8): А, 328(2); СНБ, 340(2); СНБ; Т, 30(3); *Вільна* (2): СНБ, 339(2). М. *Вільні* (6): А, 328; СНБ, 339 (2), 340; СНБ; УПУВ; *Вільне*: УПУВ.

**ВІСАРЫЁНАВІЧ** *гл.* **СТАЛІН.**

**ВІСЛА** *ж.* Рака. *Я* [Нёман] *іх* [тутэйшых людзей] *не ваблю сваею ўжо красай: Вецер інакшы ім дзьме ў галаве, – Вісла адным ўсміхаецца ласа, Тыя заплюшчыўшысь пруцца к Няве.* Н.

Н. *Вісла*: Н.

**[ВІТКОВІЦЫ]** *толькі мн.* Горад у Чэхаславакіі. *Мы* [дэлегаты] *наведалі рад прамысловых прадпрыемстваў у Оломоуце, Прасценаве, Зліне, Брно, Пільзене, Вітковіцах..* ПЧ.

М. *Вітковіцах*: ПЧ.

**[ВІТКОВІЦКІ]** *прым. да* Вітковіцы. *Вылучаюцца па сваёй тэхнічнай дасканаласці заводы Шкоды, Вітковіцкія,*

*“абутковы горад” Баці ў Зліне.* ПЧ.

Мн. Н. *Вітковіцкія*: ПЧ.

**[ВОСТРАБРАМСКАЯ ВУЛІЦА]** *ж.* Назва вуліцы Вільнюса. *Прымерам гэтага можа служыць закрыццё Буцлаўскай гімназіі і інш., а пасьля візыты жандармаў у памяшканьне самой рады на Вострабрамскай вуліцы ў Вільні.* СНБ.

М. *Вострабрамскай вуліцы*: СНБ.

**ВСХОД** (2) *м. Польск. Тое, што* Усход. [Заходні вучоны]: *..край тэн посядал навэт можэ, але, завдзенчаёнц шкодлівым вплывом зэ Всходу, можэтэ пшэісточыло сень в Пінске блото.* Т, 47. [Заходні вучоны]: *..як самі твердзон* [беларусы], *маён гдзе топіць сень і бэз можа, гды повеён пшэцёнгі зэ Всходу.* Там жа, 47.

Р. *Всходу* (2): Т, 47(2).

**[ВСХОДНІЯ КРЭСЫ]**, **[КРЭСЫ ВСХОДНІЯ]** *толькі мн.* Беларусь. [Заходні вучоны]: *Падчас бадaня тубыльцув, осядлых на Всходніх Крэсах польскіх, о розмярах замешкалэго пшэз ніх тэрыторыуму зостало высветлёным, іж данэ тэрыторыум вхланя в себе цалкем провінцыен Мінскей Брэхалкі і ешчэ далей...* Т, 39. [Заходні вучоны]: *Пшырода на Польскіх Крэсах Всходніх надзвычай буйна і богата..* Там жа, 47.

М. *Всходніх Крэсах*: Т, 39; *Крэсах Всходніх*: Т, 47.

**[ВУОКСА]** *ж.*: Δ **Вуокса-рака**: *Шумам задумным карэльскія сосны, Бурнай Вуоксы-ракі вадаспады Мірныя гутаркі ў зімы і вёсны Будуць з гудкамі вясці Ленінграда.* Ф.

Р. *Вуоксы-ракі*: Ф.

**ВЯЗЫНКА** *ж.* Фальварак, дзе нарадзіўся Я.Купала. *Нарадзіўся я* [Купала] *25 чэрвеня (старога стылю) 1882 г. непадалёк ад Радашковіч, былога Вілейскага павета, у фальварку Вязынка.* А, 327.

Н. *Вязынка*: А, 327.

**[ВЯЛІКАЕ ЛІТОЎСКА-БЕЛАРУСКАЕ КНЯСТВА]** (2), **[ВЯЛІКАЕ ЛІТОЎСКА-БЕЛАРУСКАЕ КНЯЖСТВО]** *н.* Вялікае Княства Літоўскае, феадальная дзяржава на тэрыторыі Літвы, Украіны і часткі Расіі (13–16 ст.). *Беларуская дзяржаўнасць таксама мае сваю гісторыю – маю тут на ўвазе Вялікае Літоўска-Беларускае княства.* Нз, 14. *“Сьвятло, якім прамянілася гэта вучэльня захоплівало сабой ня толькі край Польска-Літоўска-Беларускі, быушае Вялікае Літоуска-Беларускае Княжство, але праменьні яго дасягалі аж да Масквы і Харкава...* УПУВ.

Р. *Вялікага Літоўска-Беларускага княства*: Нз, 14. В. *Вялікае Літоуска-Беларускае Княжство*: УПУВ.

**[ВЯЛІКАРУСЬ]** *ж. Тое, што* Расія. *..пакуль што усе дзяржавы, апрача, разумеецца, Вялікарусі, ўсімі сіламі старающца адхрысціцца ад гэтага раю.* СНБ.

Р. *Вялікарусі*: СНБ.

**[ВЯЛІКАЯ КАСТРЫЧНІЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ]**, **КАСТРЫЧНІЦКАЯ РЭВОЛЮЦЫЯ** (4), **[КАСТРЫЧНІКАВАЯ РЭВОЛЮЦЫЯ]** (2) *ж.* і **[КАСТРЫЧНІК]** (2) *м.* Першая ў гісторыі чалавецтва пераможная сацыялістычная рэвалюцыя, у выніку якой у Расіі скінута ўдада буржуазіі і памешчыкаў, знішчана эксплуатацыя чалавека чалавекам, створана дзяржава рабочых і сялян. Перамагла ў выніку ўзброенага паўстання 25.X (7.XI) 1917 г. у Петраградзе. *Сапраўдная мая* [Купалы] *творчая дзейнасць пачалася толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.* А, 328. *Толькі дзякуючы Кастрычніцкай рэволюцыі разаслалася шырокае поле да новых вольных песень, да новых думак.* ЖН. *Я* [Купала] *і пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі не адмежаваўся, як гэта належала, абкружаючага мяне нацыянал-дэмократычнага асяродзішча..* АЛ. *Я* [Купала] *шчаслівы і крыху зайздрошчу, што наша пісьменніцкая моладзь выхавалася і загартавалася ў агні вялікага Кастрычніка.* ЖН.

Н. *Кастрычніцкая рэволюцыя*: ЖН. Р. *Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі*: А, 328; *Кастрычніцкай рэволюцыі*: АЛ; *Кастрычніцкавай рэвалюцыі*: АЛ; *Кастрычнікавае рэволюцыі* (2): АЛ (2); *Кастрычніка* (2): ЖН; СС, 302. Д. *Кастрычніцкай рэволюцыі*: ЖН.

**[ВЯЛІКДЗЕНЬ]** (2) *м. Рэл.* Веснавое хрысціянскае свята ўваскрасення распятага Хрыста. *На Вялікдзень палякі забралі Вільню.* СНБ. *А уся – знаёмая: Мае панаванне У посьце прад Вялікаднят У сялянскім стане.* $Ш_3$.

В. *Вялікдзень*: СНБ. Т. *Вялікаднят*: $Ш_3$.

**[ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ БССР]**, **[СОВЕТ ВЯРХОЎНЫ]** *м.* Вышэйшы орган дзяржаўнай улады БССР. *Мая песня сёння будзе Радасцямі роўнай – Аб любімых кандыдатах У Совет Вярхоўны.* НК.

• **Нашым кандыдатам у Вярхоўны Совет БССР – таварышам Сталіну, Молатаву і Ежову.**

В. *Вярхоўны Совет БССР*: НКУС; *Совет Вярхоўны*: НК.

**[ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ СССР]** (4), **[ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ САЮЗА ССР]**, **[ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ]** (2) *м.* Вышэйшы орган дзяржаўнай улады СССР. *Не адна жанчына зойме сваё пачэснае месца сярод дэпутатаў Вярхоўнага Совета СССР.*

ГВУ. *Агульны сход пісьменнікаў і супрацоўнікаў праўлення ССП БССР .. аднагалосна вылучыў сваім кандыдатам у Вярхоўны Совет Саюза ССР Вас, Нікалай Іванавіч..* НКУС. *Наш слесар луганскі, Нарком Абароны Засядзе ў Вярхоўным Совеце ад нас.* НДп, 229.

Р. *Вярхоўнага Совета СССР*: ГВУ. В. *Вярхоўны Совет СССР*: НКУС; *Вярхоўны Совет Саюза ССР*: НКУС; *Вярхоўны Совет*: НДп, 229. М. *Вярхоўным Совеце*: НДп, 229.

# Г

**[ГАБРУСЬ]** (2) і **ГАБРУСЬКА** (2) *м.* Персанаж верша “Габруся ў жаўнерку ўзялі”. *Габруся ў жаўнерку ўзялі, Ад дамоўства адарвалі..* ГЖУ. *..Зажурыўся стары татка, Цяжка стогне, плача матка. Ой, Габруська! ой, Габруська!* Там жа.

• **Габруся ў жаўнерку ўзялі.**

Н. *Габруська* (2): ГЖУ (2). В. *Габруся* (2): ГЖУ (2).

**ГАЛАДЗЕД: [НІКАЛАЙ МАЦВЕЕВІЧ ГАЛАДЗЕД]** *м.* Партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР. *Я* [Купала] *вітаю нашых ордэнаносцаў – Нікалая Фёдаравіча Гікало і Нікалая Мацвеевіча Галавадзеда..* ЖН.

В. *Нікалая Мацвеевіча Галавадзеда*: ЖН.

**ГАЛЕНА** *гл.* **СУДНІК.**

**ГАЛЯ** (2), **[ГАЛІНКА]** (2) *ж.* Персанаж верша “Выбары”. *Запыталіся ў Галінкі, У малой дзяўчынкі: – Што сядзіш ты, Галя, ў хаце, І не йдзеш гуляці?* Вб, 236.

Δ **Галінка-дзіцянятка**: *І ў Галінкі-дзіцяняткі Ад такой гаворкі Ажно йскрацца вачаняткі, Нібы ў небе зоркі.* Вб, 237.

Н. *Галя* (2): ВБ, 236(2). Р. *Галінкі* (2): Вб, 236, 237.

**ГАМОРА** *ж.*: ◊ **Садом і Гамора** *гл.* Садом.

Н. *Гамора*: Т, 33.

**ГАНУЛЯ** (169), **ГАНУЛЯ ЗНОШЧЫХА** *ж.* Персанаж п’есы “Тутэйшыя”. *Ануля выходзіць і варочаецца, а з ёю Спічыні.* Т, 31. *Уваходзяць Ануля і Немец у вайсковай форме.* Там жа, 32. *Ануля Знoшчыха – яго* [Мікіты] *маці, у вольны час робіць панчоху.* Т, 19.

Н. *Ануля* (145): Т, 19(4), 20(8), 21(3), 22(6), 23(4), 24(4), 25(5), 27(5), 28(3), 29(2), 30, 31(6), 32(3), 33(3), 34(8), 43(3), 44(7), 45(5), 46, 48, 49(3), 50(5), 52, 53(7), 54(8), 55, 56, 57(14), 58(11), 59(10), 60, 62; *Ануля Знoшчыха*: Т, 19. Р. *Анулі* (19): Т, 21, 23, 25(3), 27(3), 28(2), 31(2), 32, 34, 44, 49, 56, 60, 62. В. *Анулю*: Т, 26. Т. *Ануляй* (4): Т, 29, 44, 57, 60.

**[ГАНУЛІН]** *прым. да* Гануля. *Пры апошніх Гануліных словах разлягаецца за вокнамі на вуліцы харавая песня.* Т, 62.

Мн. М. *Гануліных*: Т, 62.

**ГАРОШКА** (55), **ЛЯВОН ГАРОШКА** (4) *м.* Персанаж п'есы "Тутэйшыя". [Гарошка]: *Аб чым жа, тое-гэта, хацеў я сказаць?* Т, 43. *Лявон Гарошка – паважны селянін, заўсёды з люлькай, агонь да яе крэсіць крэсівам.* Там жа, 19.

Н. *Гарошка* (46): Т, 26(2), 27(3), 29(4), 30(3), 33(3), 36, 37(5), 38(3), 39(4), 43(4), 44(8), 45(2), 48, 52(3); *Лявон Гарошка* (4): Т, 19, 25(3). Р. *Гарошкі* (6): Т, 27(2), 31, 39(2), 44. В. *Гарошку* (2): Т, 25, 26. Т. *Гарошкам*: Т, 49.

**[ГАРОШКІ]** *мн.* Лявон Гарошка і яго дачка Аленка – персанажы п'есы "Тутэйшыя". *Гануля прыбірае стол, пасля ладзіць для Гарошкаў пасцель на падлозе.* Т, 31.

Р. *Гарошкаў*: Т, 31.

**ГАРОШЧЫШКА** *гл.* **АЛЕНКА.**

**ГАРТНЫ: ЦІШКА ГАРТНЫ** (3), **ГАРТНЫ ЦІШКА**, **Ц.ГАТРНЫ** *м.* Жылуновіч Зміцер Хведаравіч, беларускі савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч. *Аўтары тут – нашы старыя знаёмыя: Багушэвіч Францішак, Бядуля Зьмітрок, Гартны Цішка..* ВСп, 89. *Беларускае в-ва за граніцай на чале з т. Жылуновічам (Цішка Гартны) выпаўніла сваё заданьне як найлепей.* Там жа, 91.

Н. *Цішка Гартны*: ВСп, 91; *Гартны Цішка*: ВСп, 89; *Ц.Гартны*: СНБ, 338. Р. *Цішкі Гартнага*: ВСп, 89. Д. *Цішку Гартнаму*: ВСп, 91.

**[ГАСУДАРСТВЕННАЯ ДУМА]** *гл.* **ДУМА.**

**ГЕНРЫХ** *гл.* **СПІЧЫНІ.**

**ГІЗУЛЬСКІ** (3) *м.* Прозвішча ў п'есе "Тутэйшыя". [Гануля]: *Мікітка кажа, што гэты Гізульскі душа, а не чалавек, - надта палітычны і знае ўсялякія свабодныя профэсіі.* Т, 45. [Мікіта]: *Гэты, меджду протчым, рэдактар Гізульскі, што жыў да апошняга часу ў нашай кватэры, абяцаў мне вылатвіць "пшэпустку" на выезд, але падашукаў.* Там жа, 55.

Н. *Гізульскі* (3): Т, 45(2), 55.

**ГІКАЛО: [НІКАЛАЙ ФЁДАРАВІЧ ГІКАЛО]** *м.* Савецкі партыйны і ваенны дзеяч. *Я* [Купала] *дзякую тав. Гікало, які заўсёды ўважліва адклікаўся на мае ўдачы і няўдачы на творчым шляху.* ЖН. *Я* [Купала] *вітаю нашых ордэнаносцаў – Нікалая Фёдаравіча Гікало і Нікалая Мацвеевіча Галадзеда..* Там жа.

Д. *Гікало*: ЖН. В. *Нікалая Фёдаравіча Гікало*: ЖН.

**ГІРКАНТ** *м., нескл.* Прозвішча ў "Лісце ў рэдакцыю". *Кс. рэктару Абрантовічу, п. Гіркант, шчырую падзяку за*

*іх добрую апеку ў трудные дні маей* [Купалы] *хваробы.* ЛР.

**ГІТЛЕР** (3) *м.* Адольф, верхавод злачыннай фашысцкай (нацыянал-сацыялістычнай) партыі Германіі. *І зробім* [хлопчык і лётчык] *чуць-чуць астаноўку, Каб сцерве папасці ў папад: Для Гітлера скінем вяроўку, Хутчэй каб павесіўся кат.* ХЛВ, 316. *Ён* [Сталін] *перарэжа горла людаеду, ўбіўцу, Ён Гітлера павесіць на сухой асіне.* ПНд, 314.

Н. *Гітлер*: МПв, 218. Р. *Гітлера*: ХЛВ, 316. В. *Гітлера*: ПНд, 314.

**[ГІШПАНІЯ]** *ж. Разм.* Іспанія. *Калі ў Гішпаніі ўзбунтаваны людзі З сваёй краіны выгналі вас* [жыдоў] *напасьмех, На беларускім полі вашы грудзі Навек знайшлі дняваньне, страву і начлег.* Ж.

М. *Гішпаніі*: Ж.

**[ГОМСЕЛЬМАШ]** *м. Скар.* Гомельскі завод сельскагаспадарчага машынабудавання. *Ад саматужных майстэрняў да Сталінгрэса, да Гомсельмаша; ад мазольнай сахі да трактара і камбайна.. – вось вялікі і складаны шлях Совецкае Беларусі.* ВГР.

Р. *Гомсельмаша*: ВГР.

**ГОНЗЛЬ** *м., нескл.* Індржых. Чэшскі тэатральны дзеяч, рэжысёр. *Совецкія пісьменнікі і журналісты пазнаёміліся з такімі дзеячамі мастацтва, як драматургі Гонзль, Бурыян..* ПЧ.

**ГОРА** *м., нескл.* Ёзаф. Чэшскі паэт. *Савецкія пісьменнікі і журналісты пазнаёміліся з такімі дзеячамі мастацтва, як .. пісьменнікі Ольбрахт, Томан, Гора, Кубка і інш.* ПЧ.

**[ГОРАДЗЕНШЧЫНА]** *м. Уст.* Гродзеншчына. *Па нейкім часе удалося там* [у Вільні] *склікаць Раду Віленшчыны і Горадзеншчыны.* СНБ.

Р. *Горадзеншчыны*: СНБ.

**[ГОРАДЗЕНЬ]** *м. Уст.* Гродна. *Пасьля заняцьця польскімі войскамі Горадня, там-тэйшыя беларусы на разе прасьвятлелі.* СНБ.

Р. *Горадня*: СНБ.

**ГОРКІ[1]: А.М.ГОРКІ**, **М.ГОРКІ**, **ГОРКІ** *м.* Аляксей Максімавіч, рускі савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч. *Спі, буравеснік, усмерчаны Горкі Хеўрай прадажніцкіх юдаў.* СЗГ, 252. *З рускіх павінен адзначыць М. Горкага, які зрабіў на мяне вялікае ўражанне.*ПС.

• **Смерць забойцам А.М.Горкага.**

Н. *Горкі*: СЗГ, 252. Р. *А.М.Горкага*: СЗГ, 252. В. *М.Горкага*: ПС.

**[ГОРКІ][2]** *мн.* Горад (мястэчка) у Грузіі, дзе нарадзіўся І.В.Сталін. *Домік у Горках абвеяны хваляй, Домік – не*

*домік, – бядняцкая хата.* СД.

М. *Горках*: СД.

**[ГОСИЗДАТ]** (3) *м. Руск. Тое, што* Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. *З іншых выдавецтваў прыходзіцца ўспомніць Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва – "Госиздат"..* ВСп, 91. *Побач з Госиздатом дрэмле й наша "Палітпрасьвета"..* Там жа, 91.

Р. *Госиздата*: ВСп, 91. В. *Госиздат*: ВСп, 91. Т. *Госиздатом*: ВСп, 91.

**[ГРАЧАНІН]** *м.* Прозвішча ў п'есе "Тутэйшыя". [Мікіта]: *Калі і выходзіць у мяне такое-сякое, меджду протчым, "па", то мушу быць удзячным нашаму з Юраўскай вуліцы танцклясісту Грачаніну.* Т, 29.

Д. *Грачаніну*: Т, 29.

**[ГРОЗНЫ]: [ІВАН ГРОЗНЫ]** *м.* Рускі цар. *Ды гэта ж, людзі мае, гразь і балота такое самае, якога не было нават на Усходзе, у рабочай Маскоўшчыне за часоў Івана Грознага.* Тж, 15.

Р. *Івана Грознага*: Тж, 15.

**ГРЫБ** *м.* Прозвішча ў п'есе "Тутэйшыя". [Мікіта]: *Дык вось, паслухайце, меджду протчым: Беларусь мая старонка, Куток цемнаты, Жыве Шыла, Грыб, Мамонька, – Будзеш жыць і ты, меджду протчым.* Т, 56.

Н. *Грыб*: Т, 56.

**ГРЫГОР'ЕВІЧ** *гл.* **ЧАРВЯКОЎ.**

**ГРЫЦКО** (3) *м.* Імя салдата ў артыкуле "Прапаўшае дзіця". *Яе* [дзяўчынку] *даглядаў салдат Грыцко.* ПДз. *Нядаўна Грыцко памёр, а беднаму дзицяци прышлося исьци на вулицу..* Там жа.

Н. *Грыцко* (3): ПДз (3).

**ГРЭЦЫЯ** *ж.* Дзяржава на Балканскім паўвостраве. *Гэта не тое, што якая-небудзь там Швейцарыя, Данія, ці Грэцыя!* Нз, 15.

Н. *Грэцыя*: Нз, 15.

**[ГУБАРНАТАРСКАЯ ВУЛІЦА]** *ж.* Назва вуліцы ў Мінску. [Мікіта]: *Сустрэў іх* [вучоных] *надовечы на Губарнатарскай вуліцы, дзе шукалі праўдзівых тыпаў беларускіх.* Т, 26.

М. *Губарнатарскай вуліцы*: Т, 26.

**[ГУС]** *м.* Ян Гус, вялікі чэшскі патрыёт, выдатны дзеяч рэфармацыі ў Чэхіі, прафесар Пражскага універсітэта, з 1401 г. – сьвяшчэннік. *Забабон спаліў бязьлітасна на кастры вялікага сьветлага Гуса.* З.

В. *Гуса*: З.

**[ГЭДЫМІН]** *м.*: ◊ **Грод Гэдыміна** *гл.* горад.

Р. *Гэдыміна*: УПУВ.

**ГЭНРЫХ** *гл.* **СПІЧЫНІ.**

# Д

**[ДАВІДАЎ]** *прым. да* Давід. – *Ух-ці! – выйшаў на царкоўны дзядзінец беларускі дзяк "расійскай культуры" напханы за клірасам славянскімі псальмамі Давідавымі.* З.

Т. *Давідавымі*: З.

**[ДАГЕСТАН]** *м.* Тэрыторыя і народ на паўднёва-ўсходняй частцы Паўночнага Каўказа. *Аб людзях-героях, аб цвітучых нівах І аб сонцы ясным, што на небе йскрыцца, Былі твае песні ашуг Дагестана.* ПДС, 232.

Р. *Дагестана*: ПДС, 232.

**ДАЖБОГ** (2) *м. Міф.* Бог дажджу. *О, богі рэк, лясоў і ніваў! Дажбог, багамі сьвету дан, Пярун блыскотны і грымлівы, І ты, Купала, сьветыч тайн.* УрП, 48. *Тады ізноў пачуўся голас Даждэжбога вернага слугі.* Там жа, 49.

Н. *Дажбог*: УрП, 48. Р. *Дажбога*: УрП, 49.

**[ДАЛЁКАЎСХОДНІ ФРОНТ]** *м.* Раён ваенных дзеянняў у час грамадзянскай вайны. *Гордасцю напоўнілася маё* [Купалы] *сэрца, калі я даведаўся, што байцы доблеснага Чырвонасцяжнага Далёкаўсходняга фронта далі сакрушаючы адпор зарваўшымся самураям.* ВГ.

Р. *Далёкаўсходняга фронта*: ВГ.

**ДАНІЛА** (7) *м.* Персанаж верша "Гэй, паехаў сын Даніла..." *Гэй, паехаў сын Даніла Ваяваць на вайну, Ад нападу, ад няволі Бараніці старану.* ПСД. *Хто йшоў ззаду, а хто з боку, Азіраўся назад, А Даніла ўсюды ўперад Выступаці быў рад.* Там жа.

• **Гэй, паехаў сын Даніла...**

Н. *Даніла* (7): ПСД (7).

**ДАНІЛКА** (2) *м.* Персанаж верша "Выбары". [Бабулька:] *Што ты ведаеш, Данілка, Лепш пабудзь во ў хаце.* ВБ, 237. *Сеў Данілка, выразае Коніка з бярозкі, Адно бліскаюць у вочках Радасныя слёзкі.* Там жа, 238.

Н. *Данілка* (2): Вб, 237, 238.

**ДАНІЯ** *ж.* Дзяржава у Заходняй Еўропе. *Гэта не тое, што якая-небудзь там Швейцарыя, Данія ці Грэцыя!* Нз, 15.

Н. *Данія*: Нз, 15.

**[ДАНТАЎ]** *прым. да* Дантэ. *Сьмейся сьмехам-сычэньнем праз скрогат Перад сьмертны зубоў і расьсейся Ў гразь жыцьця, ў пекла Дантава рогат!* См, 90.

Кар. адз. н. В. *Дантава*: См, 90.

**[ДАРДАНЕЛЫ]** *толькі мн.* Праліў паміж Еўропай і Азіяй, які злучае Эгейскае і Мрамарнае мора. [Усходні вучоны]:

*О Дарданелах, о Індзійскіх морях і о какіх-лібо окошках не помышляют* [беларусы] *і помышляць не жэлают..* Т, 47.

М. *Дарданелах*: Т, 47.

**“ДЗЕЦІ СОНЦА”** *ж.* Драма А.М.Горкага. *..”На дне” і “Дзеці сонца” больш за ўсё мяне* [Купалу] *захаплялі.* ПС.

Н. *“Дзеці сонца”*: ПС.

**[ДЗЯДЫ]** *толькі мн.*: • **На Дзяды.**

В. *Дзяды*: Дз, 188.

**ДЗЯМ’ЯН** *гл.* **БЕДНЫ.**

**[ДНЕПР]** *м.* Рака, якая працякае па Беларусі, Украіне і Расіі. *З-пад пушчаў Палесся, з-над Нёмана, Сожа, З-пад Пцічы, Дняпра і Заходняй Дзвіны, З-пад стыку са светам чужым і варожым Прыйшлі мы, Совецкай краіны сыны.* ПБН.

Р. *Дняпра*: ПБН.

**[ДОМ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ]** *м.* Пабудова ў Мінску. *Людзі, якія стварылі Дом Чырвонай Арміі, змаглі гарманічна спалучыць высокую змястоўнасць будучай работы дома з мастацкім густам.* ПГ.

В. *Дом Чырвонай Арміі*: ПГ.

**ДУБРОВІН, ДУБРОВІНКА** *м.* Прозвішча ў вершы “Лямант пана Кавалюка”. *Гэй, Дубровін чарнасоцкі, Пурышкевіч, Замыслоўскі, Дайце раду, што чыніці, Як крамолу скараніці.* ЛПК.

Δ **Дубровінка-нябожа**: *Я хрысціянін, не паганін, Стварыў вобчаства “Крестьянин”.Сам Дубровінка-нябожа Пахваліцца гэткім можа.* ЛПК.

Н. *Дубровін*: ЛПК; *Дубровінка*: ЛПК.

**[ДУБРОЎКА]** (3) *ж.* Назва населенага пункта ў п’есе “Тутэйшыя”. [Ганулья]: *Лявон Гарошка... Як жа гэта так? Ці вы не з Дуброўкі?* [Гарошка]: *Але, мая мілая, з Дуброўкі!* Т, 25.

Р. *Дуброўкі* (3): Т, 25(2), 30.

**“ДУДКА БЕЛАРУСКАЯ”** *ж.* Зборнік вершаў Ф.Багушэвіча. *Гэта “Сокі Цаліны” Цішкі Гартнага і “Дудка Беларуская” і “Смык Беларускі”, якія, пасьля болей як паўвяковага працягу часу першы раз надрукаваны “гражданкай”.* ВСп, 89.

Н. *“Дудка Беларуская”*: ВСп, 89.

**[ДУМА]** (7), **[ГАСУДАРСТВЕННАЯ ДУМА]** *ж.* Выбарчая заканадаўчая або адміністрацыйная ўстанова царскай Расіі. *“Істіно-польскіе” дэпутаты ад нашаго краю падалі ў Думу запрос, чаму ў некаторых школах, дзе вучацца каталікі-беларусы, ім выкладаюць рэлігію не па польску, а па расейску?* ВР. *..праект закону аб падаходным налогу быў даўно унесены на разгляд Гасударственнай Думы.* ВН.

Р. *Гасударственнай Думы*: ВН. Д. *Думе* (2): ВР (2). В. *Думу* (2): ВР, ВЧ. М. *Думе* (3): ВР (2); СП.

**[ДЫЛА]** (2) *м.* Язэп (сапр.: Восіп Лявонавіч), беларускі савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч. *Бальшавікі займаюць Вільна, касуюць "незалежную беларускую і г. д. рэспубліку", а сваіх бальшавіцкіх беларускіх "нацыяналістаў" – Шантыра, Дылу, Фальскага .. садзяць у вастрог..* СНБ, 338. *Старшынёй урада быў назначаны Жылуновіч (Ц.Гартны), а рэшта "портфелей" былі падзелены паміж Дылам, Мясніковым, Шантырам, Яркіным ды іншымі.* Там жа, 338.

В. *Дылу*: СНБ, 339. Т. *Дылам*: СНБ, 338.

**ДЭНІКІН** (4) *м.* Антон Іванавіч, генерал царскай арміі, галоўнакамандуючы контррэвалюцыйных войск у час грамадзянскай вайны. *"Антанта .. прызнала Калчака, Дэнікіна і Юдэніча царамі Расіі.* Ан, 19. *..Антанта прызнала Пятлюру, Ульманіса, Тарыбу, навет беларускую раду і загадала ім усім скасаваць Калчака, Дэнікіна, Юдэніча, Леніна, Троцкага і Калмановіча.* Там жа.

Н. *Дэнікін* (2): Ан, 19(2). В. *Дэнікіна* (2): Ан, 19(2).

# Е

**ЕЖОЎ** (7), **НІКАЛАЙ ІВАНАВІЧ ЕЖОЎ**, **НІКАЛАЙ ІВАНАВІЧ** (5) *м.* Партыйны савецкі дзеяч. *Вы, таварыш Ежоў, адзін з любімейшых сыноў вялікай совецкай краіны..* НКУС. *Беларускі народ не першы год ведае доблеснага сталінца, вернага сына нашай партыі т.Ежова.* Там жа.

• **Народнаму камісару унутраных спраў тав. Ежову. Нашым кандыдатам ў Вярхоўны Совет БССР – таварышам Сталіну, Молатаву, Варашылаву і Ежову.**

Н. *Ежоў* (3): НК; НКУС (2); *Нікалай Іванавіч Ежоў*: НКУС; *Нікалай Іванавіч* (5): НКУС (5). Д. *Ежову* (3): НК (2); НКУС. В. *Ежова*: НКУС.

**[ЕРОХАЎ]** *м.* Прозвішча ў артыкуле "Ліст у рэдакцыю". *Не магу* [Купала] *так сама ня ўспомніць добрым словам .. Б.Тарашкевіча, Ясінскага, Ерохава і інш., што сваімі рукамі на насілках занесьлі мяне з кватэры аж у бальніцу.* ЛР.

В. *Ерохава*: ЛР.

**ЕЎРОПА** (6), **[ЕВРОПА]** і **[ЭЎРОПА]** (2) *ж.* Адна з частак свету. *І калі цяпер, хоць ваенны віхор бушуе, асабліва на ўсходзе Еўропы, шмат якія дзяржавы, перайшоўшы на мірнае жыццё, прыступілі к адбудове ваенных руін..* АБ, 16. [Усходні

вучоны]: *Вашы* [Янкі] *землякі не собіраются в будушчэм прыобрэсці себе морэ вместо утонувшего, чтобы со временем пробіць себе куда-нібудзь окошко – в Европу ілі Азію?* Т, 47. *Соцыяльная рэволюцыя, якая загарэлася крывавым пажарам на усходзе Эўропы – у Расіі, цяпер яшчэ палае усё паядаючым полымем..* СНБ.

Н. *Еўропа*: ПВ. Р. *Еўропы* (5): АБ, 16; Ан, 19; АПЖ; ДЖ; ПВ; *Эўропы*: СНБ. В. *Европу*: Т, 47. М. *Эўропе*: СНБ.

# Ж

**ЖЫВАПІСЦАВА: [Т.С.ЖЫВАПІСЦАВА]** *ж.* Таццяна Сямёнаўна, дачка Жывапісцава С.К., грамадскага дзеяча, мецэната, ветэрынарнага ўрача. *Арліныя крыллі Т.С.Жывапісцавай.* АК.

Д. *Т.С. Жывапісцавай*: АК.

**ЖЫЛУНОВІЧ** *м.* Зміцер Хведаравіч, псеўд. Цішка Гартны. *..сваіх бальшавіцкіх беларускіх "нацыяналістаў" – Шантыра, Дылу, Фальскага (Жылуновіч успеў к таму часу ўцячы) – садзяць* [бальшавікі] *у вастрог..* СНБ, 339. *Беларускае в-ва за граніцай на чале з т.Жылуновічам (Цішка Гартны) выпаўніла сваё заданьне як найлепей.* ВСп, 91.

Н. *Жылуновіч*: СНБ, 339. Т. *Жылуновічам*: ВСп, 91.

# З

**ЗАМЫСЛОЎСКІ** *м.* Прозвішча ў вершы "Лямант пана Кавалюка". *Гэй, Дубровін чарнасоцкі, Пурышкевіч, Замыслоўскі, Дайце раду, што чыніці, Як крамолу скараціці.* ЛПК.

Н. *Замыслоўскі*: ЛПК.

**ЗАПАД** (3) *м. Руск. Тое, што* Захад. [Усходні вучоны]: *..по іх* [беларусаў] *словам, і без того імеют гдзе топіться, когда повеет сквознякамі із Запада.* Т, 47. [Усходні вучоны]: *Всё жэ прымечается стрэмленіе расшырыць эці граніцы на Запад.* Там жа,47.

Р. *Запада* (2): Т, 47(2). В. *Запад*: Т, 47.

**[ЗАПАДНАЯ ВОБЛАСЦЬ]** *ж. Гіст.* Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў 1917–18 г. *Яны* [Калмановіч, Мяснікоў і Яркін] *аддзялілі ад Маскоўскай вобласці Смаленскую губерню і землі, паложаныя на захад ад Смаленшчыны і арганізавалі так званую Западную вобласць..* СНБ, 337.

В. *Западную вобласць*: СНБ, 337.

**[ЗАПАДНАЯ КАМУНА]** (2) *ж. Гіст.* Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў 1918 г., утвораная ў выніку пераіменавання Западнай вобласці. *Новы ўрад Западнай камуны, разумеецца атрымліваў усе дырэктывы з Масквы..* СНБ, 337. *Яны* [Калмановіч, Мяснікоў і Яркін] *аддзялілі ад Маскоўскай вобласці Смаленскую губерню і землі, паложаныя на захад ад Смаленшчыны, і арганізавалі так званую Западную вобласць, пераіначаную после на “Западную камуну”.* Там жа, 337.

Р. *Западной камуны*: СНБ, 337. В. *Западную камуну*: СНБ, 337.

**ЗАХАД** (12) *м.* Краіны Заходняй Еўропы. *Так, так, мой дружа, іначай бывала, – Не называўся забытым мой край; “Поўнач” не раз у ім схову шукала, “Захад” знаў сілу яго неўнарай.* Н. *Тыя гуманітарныя ідэі, якія йшлі з Захаду, заўсёды знаходзілі шчыры водгук на Ўсходзе.. Параўн.* Запад.

Н. *Запад* (3): Г, 17; Н; Тж, 15. Р. *Захаду* (5): ВМ, 72; MI, 18; ССА, 294; Тж, 15, 16. В. *Захад* (3): Т, 37, 54; Тж, 16. М. *Захадзе*: Тж, 15.

**[ЗАХАРАЎСКАЯ ВУЛІЦА]** *ж.* Назва вуліцы ў Мінску. [Гануля]: *Пайшоў* [Мікіта] *паглядзець на Захараўскую вуліцу, як там паны турбуюць жыдоўскія крамы й спальні.* Т, 57.

В. *Захараўскую вуліцу*: Т, 57.

**[ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ]** (5) *ж. Гіст.* Частка тэрыторыі Беларусі (сучасн. Брэсцкая, Гродзенская і заходняя частка Віцебскай і Мінскай абласцей). *Засвяціла ясна зорка Добраю навінай Над Заходняй Беларусяй І над Украінай.* ЗЯЗ, 89. *Мяне* [Купалу] *зусім не дзівіць тое жыццё, якое падняла супроць гэтай так патрэбнай пастановы нашага ўрада недабітая нацдэмаўшчына ў БССР і раз’юшаная зграя паслугачоў польска-нямецкага фашызма ў Заходняй Беларусі.* ШБСЯ.

• **Ты з Заходняй, я з Усходняй...**

Р. *Заходняй*: ТЗУ, 293. Т. *Заходняй Беларусяй* (2): ЗЯЗ, 89, 90. М. *Заходняй Беларусі* (2): ШБСЯ (2).

**[ЗАХОДНЯЯ ДЗВІНА]** *ж.* Рака ў паўночнай частцы Беларусі. *З-пад пушчаў Палесся, з-пад Нёмана, Сожа, З-пад Пцічы, Дняпра і Заходняй Дзвіны, З-пад стыку са светам чужым і варожым Прыйшлі мы, Совецкай краіны сыны.* ПБН.

Р. *Заходняй Дзвіны*: ПБН.

**“ЗВЕЗДА”** *ж.* Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс, орган СП СССР (выд. з 1924 г.). *На гэты нарыс зьвярнулі ўвагу, нават, у Маскве, скуль была прыслана і надрукавана т. Кнорыным антыкрытыка на гэты крытычны нарыс.* ВСп, 90.

Н. *“Звезда”*: ВСп, 90.

**[ЗДОЛЬНІК]**, **ЯНКА ЗДОЛЬНІК** (4), **ІОАН ЗДОЛЬНІКОВ**, **ЯНУШ ЗДОЛЬНІЦКІ**, **ЯНКА** (200) *м.* Персанаж п’есы “Тутэйшыя”. *Янка Здольнік – настаўнік, 25-28г.* Т, 19. [Усходні вучоны]: *Іоан Здольнікоў. Ісціно-русскій ціп Северо-Западной Обласці..* Там жа, 26. [Заходні вучоны]: *Януш Здольніцкі. Незаводне тып Всходнё-Крэсовэго поляка з немалон дозон крві познаньско-гуральской.* Там жа, 26. *Колькі хвілін Янка і Наста застаюцца на сцэне моўчкі, не ведаючы, што з сабой рабіць.* Там жа, 50.

Н. *Янка Здольнік* (4): Т, 19, 23, 26, 53; *Іоан Здольніков*: Т, 26; *Януш Здольніцкі*: Т, 26; *Янка* (187): Т, 19, 20(8), 21(11), 22(3), 23(10), 25(2), 26(4), 27(4), 29(5), 30(14), 31(5), 33(6), 34, 35(8), 36(10), 37(4), 38(5), 39(8), 44(7), 45(6), 46(2), 47(2), 48(11), 49(2), 50(8), 51(2), 52(3), 53(8), 54(5), 55(9), 56(7), 57(5), 60. Р. *Янкі* (8): Т, 23, 26, 27, 29, 35, 38, 47, 56. Д. *Янку* (2): Т, 30, 52. В. *Здольніка*: Т, 25; *Янку*: Т, 52. Т. *Янкам*: Т, 45.

**[ЗЛІН]** (3) *м.* Горад у Чэхаславакіі. *Вылучаюцца па сваёй тэхнічнай дасканаласці заводы Шкоды, Вітковіцкія, “абутковы горад” Бaці ў Зліне.* ПЧ. *Мы* [дэлегаты] *наведалі рад прамысловых прадпрыемстваў у Оломоуце, Прасценаве, Зліне, Брно..* ПЧ.

М. *Зліне* (3): ПЧ (3).

**ЗНОСАК**, **МІКІТА ЗНОСАК** (3), **МІКІТА** (331), **МІКІТКА** (14), **ЗНОСІЛОВ** (12), **НІКІЦІЙ ЗНОСІЛОВ**(3), **НІКІЦІУШ ЗНОСІЛОВСКІ**, **НІКІЦІ** (6) *м.* Персанаж п’есы “Тутэйшыя”. *Мікіта Зносак (Нікіцій Зносілов) – калежскі рэгістратар, 25-28г., у першых трох дзеях барада выгалена, у 4-й крыху барадаты.* Т, 19. [Мікіта]: *(да Чырвонаармейца). Шагам марш у палон.* Там жа, 53. [Ганупя]: *Гэта Мікітка кожны дзень гэтак на службу ездзіць.* Т, 45. [Спічыні]: *(Чытае). “Оказіцель нінейшэго Нікіціуш Зносіловскі służы пшы Комісарыяце поліцыі мяста Мінска, яко доносіцель”.* Там жа, 61. [Наста]: *Добры вечар, мусье Нікіці!* Т, 41.

Н. *Зносак*: Т, 25; *Мікіта Зносак* (3): Т, 19. 25, 48; *Мікіта* (298): Т, 21(11), 22(8), 23(7), 24(13), 25(6), 26(2), 27(7), 28(6), 29(9), 30, 31(12), 32(11), 33(6), 34(6), 35(5), 36(10), 37(9), 38(5), 39(4), 49(6), 41(10), 42(11), 43(4), 45(5), 46(3), 48(12), 49(10), 50(12), 51(7), 52(6), 53(4), 54(3), 55(9), 56(9), 57, 58(10), 59(12), 60(15), 61(7), 62(4); *Мікітка* (7): Т, 20, 45(4), 57(2); *Зносілов* (12): Т, 28(2), 29(2), 40, 41(2), 49, 50, 51(2), 61; *Нікіцій Зносілов* (3): Т, 25, 48, 60; *Нікіціуш Зносіловскі*: Т, 61; *Нікіці* (6): Т, 36, 41(2), 42(2), 50. Р. *Мікіты* (11): Т, 27(2), 29, 32, 34, 37, 39,

42, 48, 60, 61; *Мікіткі*: Т, 62. Д. *Мікіту*: Т, 62; *Мікітку*: Т, 20. В. *Мікіту* (6): Т, 24, 25, 33, 37, 58, 59; *Мікітку* (4): Т, 31, 32, 33, 57. Т. *Мікітам*: Т, 29; *Мікіткай*: Т, 20.

**ЗНОШЧЫХА** *гл.* **ГАНУЛЯ.**

**[ЗЫБІЦКАЯ ВУЛІЦА]** *ж.* Назва вуліцы ў Мінску. [Мікіта]: *Калі бег я па гэтыя, медждy протчым, пакупкі, на Зыбіцкай вуліцы спаткалі мяне два, мабыць, апошнія ўцякаючыя паны..* Т, 58.

М. *Зыбіцкай вуліцы*: Т, 58.

**ЗМІТРОК** *гл.* **БЯДУЛЯ.**

**[ЗЯМЛЯ СОВЕЦКАЯ]** *ж. Тое, што* Совецкі Саюз. *Плывуць таварыш Кіраў і таварыш Сталін, Прад імі даль Зямлі Совецкай і вякоў.* СК, 158.

Р. *Зямлі Совацкай*: СК, 158.

# I

**IВ.:IВ. <АН>** *гл.* **ЛУЦЭВІЧ.**

**IВАН** *гл.* **ЛУЦКЕВІЧ.**

**IВАНАВІЧ** *гл.* **ЕЖОЎ.**

**[IВАНОЎСКІ]** *м.* Уладзімір Мікалаевіч, рускі філосаф, гісторык філасофіі і псіхалогіі. *Не магу* [Купала] *так сама ня ўспомніць добрым словам .. проф. Іваноўскага, Б.Тарашкевіча.., што сваімі рукамі на насілках занесьлі мяне з кватэры аж у бальніцу.* ЛР.

В. *Іваноўскага*: ЛР.

**[IГАР]** *м.* Вялікі князь Кіеўскі з 912 г., пачынальнік дынастыі Рурыкавічаў. [Янка]: *Тут* [на месцы Менску] *калісь, – як сказана ў нашай песні аб паходзе Ігара, – продкаў нашых галовы снапамі на таку слаліся..* Т, 35.

Р. *Ігара*: Т, 35.

**IГНАТ** *гл.* **БУЛАВА.**

**[IГНАТОЎСКІ]**, **[У.IГНАТОЎСКІ]** *м.* Усевалад Макаравіч, беларускі гісторык і грамадскі дзеяч. *Трэцяя кніжка – гэта крытычны нарыс У.Ігнатоўскаго: “Матывы лірыкі бел. песьняра М.Чарота”.* ВСп, 89. *Кіраўніка гэтага аддзела – вядомага, паважанага беларуса, праф. Ігнатоўскага – бальшавікі па нагавору польскіх віленскіх камуністаў арыштавалі і вывезлі ў Смаленск, як заложніка.* СНБ, 339.

Р.*У.Ігнатоўскаго*: ВСп, 89. В. *Ігнатоўскага*: СНБ, 339.

**“ИЗВЕСТИЯ”** *мн.* Штотыднёвая грамадска-палітычная газета Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. – *А вось нашы*

*“Правда” і “Известия”, – дадае Іван Дамінікавіч, – у Чэхаславакіі ідуць проста нарасхват.* ПЧ.

Н. *“Известия”*: ПЧ.

**ІНБЕЛКУЛЬТ** *гл.* **ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ.**

**ІНДЫЯ** *ж.* Дзяржава ў Паўднёвай Азіі. *Як і сто лет таму назад, стогне пад ярмом Беларусь, Украіна, Арменія, Індыя і дзесяткі іншых дзяржаваў і народаў.* Тж, 16.

Н. *Індыя*: Тж, 16.

**[ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ]** (2), *скар.* **[ІНБЕЛКУЛЬТ]** *м.* Навукова-даследчая ўстанова БССР, якая існавала з 1922 да 1929 г., да пераўтварэння ў Акадэмію навук БССР. *Пераіменаваньне Інстытуту Беларускае Культуры ў Беларускую Акадэмію Наук – далейшая ступень творчага размаху нашае ўлады ў нацыянальна-культурнай галіне.* ГНД. *Працуючы ў навукова-тэрмінолёгічнай комісіі ў Інбелкульце, Бан, .. я ня толькі ні разу не асудзіў іх, але наадварот, моральна падтрымліваў і дапамагаў іх рэалізацыі.* АЛ.

Р. *Інстытуту Беларускае Культуры* (2): ВСп, 89; ГНД. М. *Інбелкульце*: АЛ.

**[“ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ”]** (2) *м.* Міжнародны пралетарскі гімн. *І ў апошнія гады я* [Купала] *ўсімі сіламі намагаўся далучыцца сваёй творчасьцю да вялікага соцыялістычнага будаўніцтва.., прыкладам творы: пераклад “Інтэрнацыяналу”, “На сьмерць С.Булата”, “Безназоўнае” .. і інш.* АЛ. *У Оломоуце сустракаўшая нас* [дэлегатаў] *публіка спявала “Інтэрнацыянал”.* ПЧ.

Р. *Інтэрнацыяналу”*: АЛ. В. *“Інтэрнацыянал”*: ПЧ.

**ІОАН** *гл.* **ЗДОЛЬНІК.**

**ІОСІФ** *гл.* **СТАЛІН.**

**[ІРЛАНДЫЯ]** *ж.* Дзяржава ў Заходняй Еўропе на аднайменным в-ве. *Таксама Англія жалезнымі абцугамі трымала пры сабе Ірландыю, афрыканскія народы і г.д.* НДН, 18.

В. *Ірландыю*: НДН, 18.

# К

**[“КАБЗАР”]** *м.* Паэтычны зборнік украінскага паэта Т.Р.Шаўчэнкі. *А між іншым, у перапынках паміж адной паэтычнай успышкай і другой – я* [Купала] *перакладаю “Кабзара” Тараса Шаўчэнкі для юбілейнага зборніка.* МП.

В. *“Кабзар”*: МП.

**[КАВАЛЮК]** *м.*: • **Лямант пана Кавалюка**.

Р. *Кавалюка*: ЛПК.

**[КАГАНЕЦ]** *м.* Карусь (сапр.: Кастравіцкі Казімір Карлавіч), беларускі пісьменнік, перакладчык, мастак. *Далей гэты самы композытар напісаў музыку да верша Каганца: “О, Божа, спасе наш!”.* СБНГ.

Р. *Каганца*: СБНГ.

**[КАЗУБОЎСКІ]** *м.* Фёдар Андрэевіч, украінскі савецкі археолаг; у 1934–36 гг. дырэктар Інстытута гісторыі матэрыяльнай культуры АН УССР. *Першым чынам нізкі паклон і дзякуй ад сэрца шлю* [Купала] *д-ру Казубоўскаму.* ЛР.

Д. *Казубоўскаму*: ЛР.

**[КАЛЕВАЛА]** *м.* Карэла-фінскі эпас. *Будзеш Суомі йсці яснай дарогай, Новага будзеш складаць Калевалу З рунаў красы, барацьбы, перамогаў.* Ф.

В. *Калевалу*: Ф.

**[КАЛІНОЎСКІ]** *м.* Кастусь Каліноўскі, беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат і мысліцель, кіраўнік паўстання 1863-1864 гг. на Беларусі і ў Літве. *..патомкі бясстрашных паўстанцаў Каліноўскага, абараняйце сваю зямлю, .. не давайце літасці ворагу!..* РКП.

Р. *Каліноўскага*: РКП.

**[КАЛМАНОВІЧ]** (4) *м.* Мацей Іосіфавіч, удзельнік барацьбы за Савецкую ўладу на Беларусі. *“ Антанта .. цяпер сядзіць у Крамлі з Леніным і Троцкім, п’е зёлкі без цукру (бо, як ведама, у Маскве няма ні гарбаты, ні цукру), цалуецца з Леніным, абымаецца з Троцкім і Калмановічам..* Ан, 19. *Там* [у Смаленску] *на чале з Калмановічам, Мясніковым і Яркіным, зрабіла* [кучка бальшавіцкіх камісараў] *маленькі ўнутраны пераварот.* СНБ, 337.

Р. *Калмановіча*: Ан, 19. Д. *Калмановічу*: Ан, 19. Т. *Калмановічам* (2): СНБ, 337.

**КАЛЧАК** (3) *м.* Аляксандр Васільевіч, адзін з лідэраў рускай контррэвалюцыі, адмірал. *“Антанта, прымаючы пад увагу ўсякія разбойствы і бясправуі бальшавікоў, прызнала Калчака, Дэнікіна і Юдэніча царамі Расіі..* Ан, 19. *.. Антанта прызнала Пятлюру, Ульманіса, Тарыбу, навет беларускую раду і загадала ім усім скасаваць Калчака, Дэнікіна, Юдэніча, Леніна, Троцкага і Калмановіча.* Там жа, 19.

Н. *Калчак*: Ан, 19. Р. *Калчака*: Ан, 19. В. *Калчака*: Ан, 19.

**[КАЛЬЦОЎ]** (3) *м.* Міхаіл Яўхімавіч, рускі савецкі пісьменнік, журналіст. *Работніцы перадалі старшыні дэлегацыі т.Кальцову букет чырвоных кветак.* ПЧ. *Не магу* [Купала] *не сказаць пра вельмі светлае ўражанне ад сяброўскага*

*яднання з членамі нашай дэлегацыі, асабліва з старшынёй дэлегацыі, т.Кальцовым.* Там жа.

Д. *Кальцову*: ПЧ. Т. *Кальцовым* (2): ПЧ (2).

**КАЛЯДА** *м. Міф.* Бог у дахрысціянскай рэлігіі ўсходніх славян. *..прозвішчы багі мелі не такія, як цяпер; называліся яны: Сонца, Пярун, Каляда ды іншыя яшчэ.* Кз, 17.

Н. *Каляда*: Кз, 17.

**[КАМАРОЎКА]** (2) *ж.* Назва мясцовасці ў Мінску. [Ганупя]: *А нашыя некаторыя мянчане, асабліва з Камароўкі і Пярэспы, гэткім спосабам апошнія гады і жывуць.* Т, 55. [Аленка]: *..вы* [Мікіта] *болей прынеслі б для сябе і для грамадзянства карысці, каб узяліся... ну хоць бы...* [Янка]: *(перабіваючы). ... на Камароўцы козы пасвіць?* Т, 36.

Р. *Камароўкі*: Т, 55. М. *Камароўцы*: Т, 36.

**[КАМІСАРЫЯТ АСЬВЕТЫ]** *м. Гіст.* Рэспубліканскі галіновы орган дзяржаўнага кіравання асветай БССР (1920–1946 гг.). *..пара ўжо "Вестнику" Беларускага Камісарыяту Асьветы абеларусіцца зусім.* ВСп, 90. *Параўн.* Наркамасьветы.

Р. *Камісарыяту Асьветы*: ВСп, 90.

**КАМІСАРЫЯТ ЗЕМЛЯРОБСТВА** *м. Гіст.* Рэспубліканскі галіновы орган дзяржаўнага кіравання БССР (1920–1946 гг.). *..наш Камісарыят Земляробства абавязан не спаць у шапку, а падумаць аб тым, каб поўнасьцю задаволіць літаратурай аб сельскай гаспадарцы нашых земляробаў – фабрыкантаў хлеба й сала.* ВСп, 90. *Параўн.* Наркомзем.

Н. *Камісарыят Земляробства*: ВСп, 90.

**[КАМІСАРЫЯТ ПАЛІЦЫІ]** *м. Гіст.* Праваахоўчы орган. [Спічыні]: *"Паказчык гэтага, Нікіцій Зносілов, служыць у Менскім Камісарыяце поліцыі даношчыкам".* Т, 61.

М. *Камісарыяце поліцыі*: Т, 61.

**[КАНСТЫТУЦЫЯ]** (3) *ж.* Асноўны закон дзяржавы. *Канстытуцыі векпомнай Слова залатое Напісаў* [Сталін] *нам добрым сэрцам, Дбалаю рукою.* НК. *Тваіх, правадыр мой, законаў асновы, Тваёй Канстытуцыі мудрыя сказы Змятуць асляпленне, пакрышаць аковы..* ТП, 216.

Р. *Канстытуцыі* (3): ГВУ; НК; ТП, 216.

**КАРЛОВЫ ВАРЫ** *толькі мн.* Горад-курорт у Чэхаславакіі. *У часе свайго падарожжа мы* [дэлегаты] *наведалі мясціны, якія прыцягваюць увагу турыстаў. Гэта – курорты Карловы вары, Марыянскія лазні..* ПЧ.

Н. *Карловы вары*: ПЧ.

**[КАРЭЛЬСКАЯ АЎТАНОМНАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ**

**РЭСПУБЛІКА]** *ж.* Карэлія; рэспубліка ў складзе РСФСР. *Я* [Купала] *віншую Карэльскую аўтаномную сацыялістычную рэспубліку, тэрыторыю якой перасек Беламорска-Балтыйскі шлях.* ЦСБ.

В. *Карэльскую аўтаномную сацыялістычную рэспубліку*: ЦСБ.

**КАСТРЫЧНІЦКАЯ РЭВОЛЮЦЫЯ** *гл.* **ВЯЛІКАЯ КАСТРЫЧНІЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ.**

**КАСТРЫЧНІКАВАЯ РЭВОЛЮЦЫЯ** *гл.* **ВЯЛІКАЯ КАСТРЫЧНІЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ.**

**КАСТРЫЧНІК** *гл.* **ВЯЛІКАЯ КАСТРЫЧНІЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ.**

**[КАТЭДРАЛЬНЫ ПЛЯЦ]** (2) *м.* Плошча ў Мінску. *Месца дзеі – кусок Катэдральнага пляца..* Т, 33. *1-я, 3-я і 4-я дзеі адбываюцца ў Мікітавай хаце, 2-я дзея – на Катэдральным пляцы..* Там жа, 19.

Р. *Катэдральнага пляца*: Т, 33. М. *Катэдральным пляцы*: Т, 19.

**[КАЎКАЗ]** (2) *м.* Тэрыторыя паміж Чорным, Азоўскім і Каспійскім марамі, што падзяляецца на Вялікі Каўказ, Прадкаўказзе (Паўночны Каўказ) і Закаўказзе. *Ці там, дзе на скалах вольнага Каўказа Днююць і начуюць арлы на свабодзе, Ці там дзе з пургою, з завірухай разам Белыя мядзведзі ля полюса бродзяць, – Песні чутна ўсюду Ў бязмежным прасторы..* ПДС, 231. *Лечачыся на сонечным Каўказе, у Кіславодску, я* [Купала] *дазнаўся з газет аб той агіднай інтэрвенцкай кампаніі, якую ўзнялі ў Заходняй Беларусі прадажныя беларускія нацыянал-фашысты з прычыны рэформы беларускага правапіса..* ШБСЯ.

Р. *Каўказа*: ПДС, 231. М. *Каўказе*: ШБСЯ.

**КАЎКАЗСКІЯ ГОРЫ** (2) *толькі мн.* Горны масіў на Каўказе. *Ад рання і да рання, Калышучы абняты жудасцю прастор, Плыве з Масквы жалобнае пяянне, Аж рэха далятае да Каўказскіх гор.* СК, 158. *Вы* [паны гандляры] *таксама бяссільны павярнуць долю народаў у той ці іншы бок, як бяссільны вецер перанесці Каўказскія ці Швейцарскія горы адны на месца другіх.* Тж, 16. *Параўн.* Каўказскія скалы.

Р. *Каўказскіх гор*: СК, 158. В. *Каўказскія горы*: Тж, 16.

**[КАЎКАЗСКІЯ СКАЛЫ]** *толькі мн. Тое, што* Каўказскія горы. *Слава сокалу, што родам З-пад Каўказскіх скалаў, Што з Крамля праменні сее З юнацкім запалам.* СТ.

Р. *Каўказскіх скалаў*: СТ.

**“КВЕТКА ПАПАРАЦІ”** *ж.* Літаратурная суполка.

*..гэта часопісь з'яўляецца органам беларускай нацыянальнай злучнасці "Кветка Папараці"..* MI, 17.

Н. *"Кветка Папараці"*: MI, 17.

**[КЕРАНСКІ]** *м.* Аляксандр Фёдаравіч, рускі буржуазны палітычны дзеяч. *Армія гэта складалася з беларусаў, але ваяваць ёй загадалі не за Беларусь, а за Расію. Генералы Керанскага іначай на гэта не глядзелі.* БВ, 16.

Р. *Керанскага*: БВ, 16.

**КІРАЎ** (3) *м.* 1. (сапр.: Кострыкаў) Сяргей Міронавіч, дзеяч Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы. *...Не стала Кірава... Без часу смерць скасіла...* СК, 158.

2. Параход, названы ў гонар Кірава. *Плывуць таварыш Кіраў і таварыш Сталін, Прад імі даль Зямлі Совецкай і вякоў.* СК, 158.

• **На смерць таварыша Кірава.**

Н. *Кіраў*: СК, 158. Р. *Кірава* (2): СК, 158(2).

**[КІСЛАВОДСК]** *м.* Горад-курорт у Стаўрапальскім краі. *Лечачыся на сонечным Каўказе, у Кіславодску, я* [Купала] *дазнаўся з газет аб той агіднай інтэрвенцкай кампаніі, якую ўзнялі ў Заходняй Беларусі прадажныя беларускія нацыянал-фашысты з прычыны рэформы беларускага правапіса..* ШБСЯ.

М. *Кіславодску*: ШБСЯ.

**КЛІМЕНТ** *гл.* **ВАРАШЫЛАЎ.**

**[КНОРЫН]** *м.* (сапр.: Кнорыныш) Вільгельм Георгіевіч, савецкі дзяржаўны і палітычны дзеяч, гісторык, публіцыст, літаратурны крытык. *На гэты нарыс зьвярнулі ўвагу, нават, у Маскве, скуль была праслана і надрукавана ў сваім часе ў расійскай газеце "Звезда" напісаная т.Кнорыным антыкрытыка на гэты крытычны нарыс.* ВСп, 91.

Т. *Кнорыным*: ВСп, 91.

**[КОЙДАНАЎСКАЯ БІРЖА]** *ж.* Назва біржы ў п'есе "Тутэйшыя". [Янка]: *Што ж гэта? па-вашаму* [Мікіты] – *гандаль на Койданаўскай біржы валютай – свабодная профэсія?* Т, 36.

М. *Койданаўскай біржы*: Т, 36.

**[КОЙДАНАЎСКАЯ ВУЛІЦА]** (3) *ж.* Назва вуліцы ў Мінску. [Мікіта]: *..схаджу на мінутку на Койданаўскую вуліцу паслухаць, як там стаіць курс на валюту.* Т, 34. [Мікіта]: *Ад заўтрашняга дня займуся свабоднай профэсіяй – буду на Койданаўскай вуліцы гандляваць нямецкімі рублямі.* Там жа, 33.

Р. *Койданаўскай вуліцы*: Т, 33. В. *Койданаўскую вуліцу*: Т, 34. М. *Койданаўскай вуліцы*: Т, 33.

**КОЛАС: КОЛАС ЯКУБ** *м.* (сапр.: Міцкевіч Канстанцін

Міхайлавіч). Класік беларускай літаратуры. *Аўтары тут – нашы старыя знаёмыя: Багушэвіч Францішак, .. Колас Якуб, Купала Янка, Чарот Міхась.* ВСп, 89.

Н. *Колас Якуб*: ВСп, 89.

**[КОЛЯ]** (2) *м.* Імя ў паэме "Яшчэ вісеў на блізкім ліхтары..." *Колю знаю па хадзе я – Вось к вакенцу падышоў.* ВБЛ, 82. *Далі волю любіць Колю, Цяпер хочуць яе ўняць..* Там жа, 82.

В. *Колю* (2): ВБЛ, 82.

**КОСІНА** (2) *н.* Вёска ў Лагойскім р-не Мінскай вобласці. *У 1883 г. ён* [бацька] *служыў у маёнтку Юзэфава ў памешчыка Багдановіча, у 1887г. – у маёнтку Косіна..* А, 328. *..распрадаецца ўразброд двор Косіна ў Барыс.<аўскім> павеце..* ЗС, 18.

Н. *Косіна* (2): А, 328; ЗС, 18.

**КРАІНА САВЕТАЎ** і **[КРАІНА СОВЕТАЎ]** *ж. Тое, што* Савецкі Саюз. *Калі ў галіне індустрыяльнага і сельскагаспадарчага социялістычнага будаўніцтва краіна Саветаў .. дасьцігла нябывалых і нячуваных посьпехаў.., то ў галіне літаратуры і мастацтва гэтыя посьпехі і такога шпаркага разьвіцьця не адчувалася.* ДНСП. *Вось гэту вялікую, заслужаную, гордую радасць пераможцаў падзяляем з усімі народамі краіны Советаў і мы, ягоныя пісьменнікі, ягоныя песняры.* ВГР.

Н. *Краіна Саветаў*: ДНСП. Р. *Краіны Советаў*: ВГР.

**[КРАМАТОРСКІ]** *м. Разм.* Краматорск, горад ў Данецкай вобласці на Украіне. *За ім* [правадыром]*, не знаючы нуды, Каналам плыў-бы Беламорскім, Ляцеў-бы вызнаць гарады – Магнітагорскі й Краматорскі.* МСП, 187.

В. *Краматорскі*: МСП, 187.

**[КРАСІНСКІ]** *м.* Зыгмунт, польскі пісьменнік. *Пэўная часьць польскага грамадзянства.. сышла з тэй дарогі, якую паляком намецілі сьвятлейшыя іх грамадзяне Міцкевічы, Красінскіе, Славацкіе і інш.* СНБ.

Мн. Н. *Красінскіе*: СНБ.

**["КРЕСТЬЯНИН"]** (2) *м.* Штотыднёвы часопіс, орган Віленскай чарнасоценскай суполкі "Селянін", які выдаваўся ў Вільні ў 1906–1915 гг. на рускай мове. *Я* [пан Кавалюк] *хрысціянін, не паганін, Стварыў вобчаства "Крестьянин".* ЛПК. *Дарма "истинен" "Крестьянин", Штось чураюцца хрысцяне..* Там жа.

В. *"Крестьянин"*: ЛПК (2).

**КРУТАЛЕВІЧ** (2) *м.* Аўтар першага падручніка па матэматыцы на беларускай мове. *Кніг для чытаньня у школе дзьве – Лёсіка і Некрашэвіча; .. па матэматыцы – чатыры:*

*Аласковіч і Лукашэвіч, Кругалевіч, Цыгельман..* ВСп, 89. *З гэтых кніг асаблівую ўвагу зьвяртаюць на сябе кнігі па матэматыцы: .. першыя задачнікі ў беларускай мове, ня тлумачаныя з чужога – і першая арыгінальная "Альгэбра" Кругалевіча.* Там жа, 89.

Н. *Кругалевіч*: ВСп, 89. Р. *Кругалевіча*: ВСп, 89.

**[КРЫВІЧЫ]** *толькі мн.* Гарадскі пасёлак ў Мядзельскім раёне. *З-пад Смаргоні, з-пад Маладзечна, з-пад Крывічоў і г.д., і г.д. абарваныя, галодныя людзі ходзяць па сваёй бацькаўшчыне і па чужынцах і просяць...* АБ, 16.

Р. *Крывічоў*: АБ, 16.

**[КРЭМЛЬ]** (6) *м.* Помнік рускай архітэктуры, месца знаходжання вышэйшых дзяржаўных органаў Расійскай федэрацыі. *Слава сокалу, што родам З-пад Каўказскіх скалаў, Што з Крамля праменні сее З юнацкім запалам.* СТ. *Засядзе народ у Крэмлі Кліч кінуць на цэлы бел-свет..* ТП, 217.

Р. *Крамля*: СТ. М. *Крамлі*: Ан, 19; *Крэмлі* (4): Бц, 74; ПДз, 83; ТП, 217; ХЛВ, 316.

**[КРЭМЛЁЎСКІ]** *прым. да* Крэмль. *Радасна жыць пад Крэмлёўскімі зорамі Сталінскай цешыцца ўвагаю, ласкаю.* ДПЛС.

Мн. Т. *Крэмлёўскімі*: ДПЛС.

**КУБКА**, **[ФРАНЦ КУБКА]** *м.* Чэшскі пісьменнік. *Савецкія пісьменнікі і журналісты пазнаёміліся з такімі дзеячамі мастацтва, як .. пісьменнікі Ольбрахт, Гора, Кубка і інш.* ПЧ. *..А.Талстой разам з Францам Кубкам будзе працаваць над перакладам пастаноўкі на савецкай сцэне оперы Сметаны "Прададзеная нявеста"..* Там жа.

Н. *Кубка*: ПЧ. Т. *Францам Кубкам*: ПЧ.

**КУДЗЕЛЬКА: М. КУДЗЕЛЬКА** *м.* Міхась Сямёнавіч (псеўд.: Міхась Чарот). *Апрача таго, М.Кудзелька даў паэму "Босыя на вогнішчы", зьвярнуўшую на сябе ўвагу розных крытыкаў.* ВСп, 89.

Н. *М. Кудзелька*: ВСп, 89.

**КУПАЛА**, **ЯНКА КУПАЛА** (5), **КУПАЛА ЯНКА**, **Я. КУПАЛА** (2) *м.* (сапр.: Луцэвіч Іван Дамінікавіч). Класік беларускай літаратуры. *О, богі рэк, лясоў і ніваў! Дажбог, багамі сьвету дан, Пярун блыскотны і грымлівы, І ты, Купала, сьветыч тайн. Зірнеце міласьцяй сваею..* УрП, 48. *Па даручэнню агульнага схода – народны паэт рэспублікі Янка Купала.* НКУС. *Аўтары тут – нашы старыя знаёмыя: .. Колас Якуб, Купала Янка, Чарот Міхась.* ВСп, 89. *Далей да верша Я.Купалы "Не пагаснуць зоркі ў небе..." улажыў*

*музыку Янчук, і так сама назваў гэта гымнам.* СБНГ.

• **Адкрыты ліст Я.Купалы.**

Н. *Купала*: УрП, 48; *Янка Купала* (4): ЛР; НКУС; ПБН; СЧ; *Купала Янка*: ВСп, 89; *Я.Купала*: ПГ. Р. *Янкі Купалы*: СБНГ; *Я.Купалы*: АЛ.

**[КУЦЦЯ]** *ж.*: • **На Куццю.**

В. *Куццю*: Кц, 192.

# Л

**ЛАЗАР** *м.* Імя ў вершы Я.Купалы "На Дзяды". *Хто ўмее слухаць – можэ Шмат пачуць чаго там* [на мяжы кургана]*; Як прычытвае нябожэ, Бы Лазар пад плотам.* Дз, 187-188.

Н. *Лазар*: Дз, 188.

**ЛАТВІЯ** (2) *ж.* Еўрапейская краіна. *..нашы суседнія дзяржавы, як Украіна, Літва, Латвія, Эстонія і іншыя, маюць ужо сваю армію.* БВ, 16. *Незалежная Польшча, Літва, Украіна, Латвія і г.д. – усе яны маюць права на гэта* [незалежнасць].. Нз, 14.

Н. *Латвія* (2): БВ, 16; Нз, 14.

**ЛЕВЫ** *м.* Адзін з псеўданімаў Івана Дамінікавіча Луцэвіча (Янкі Купалы). *"Левы".* ВЧ.

Н. *"Левы"*: ВЧ.

**ЛЕЛЯВЭЛЬ** *м.* Лялевель Іаахім, польскі гісторык, грамадскі дзеяч. *..даваў ён* [унівэрсытэт] *і Польшчы, і цэламу сьвету мудрых і слауных людзей, як напр. Адам Міцкевіч, Сьнядэцкі, Лелявэль і шмат іншых.* УПУВ.

Н. *Лелявэль*: УПУВ.

**[ЛЕНІН]** (13) *м.* (сапр.:Ульянаў) Уладзімір Ільіч, прадаўжальнік вучэння К.Маркса і Ф.Энгельса, заснавальнік першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы. *У СССР .. рабочая кляса .. рэальна ажыццяўляе заветныя ідэалы найгеніальнейшых настаўнікаў і правадыроў працоўнага люду – Маркса і Леніна..* АЛ. *Словы вялікага Леніна аб тым, што кожная кухарка павінна ўмець кіраваць дзяржавай, – здзяйсняюцца..* ГВУ.

• **Дзякую партыі Леніна-Сталіна.**

• **Краіна Леніна** *гл.* краіна. **Партыя Леніна-Сталіна** *гл.* партыя.

Р. *Леніна* (10): АЛ; Ан, 19; ГВУ; ДЖ; ДПЛС (3); НКУС; ПЧ (2). Д. *Леніну*: Ан, 19. Т. *Леніным* (2): Ан, 19(2).

**ЛЕНІНСКІ ОРДЭН** *гл.* **ОРДЭН ЛЕНІНА.**

**[ЛЕНІНГРАД]** (4) *м.* *Уст.* Горад у Расіі, зараз

Санкт-Пецярбург. *Слава нашаму Ежову, з Ленінграда родам, Што расправіўся, як следна, З дыверсанцкім збродам!* НК. *Шумам задумным карэльскія сосны, Бурнай Вуоксы-ракі вадаспады Мірныя гутаркі ў зімы і вёсны Будуць з гудкамі вясці Ленінграда.* Ф.

Р. *Ленінграда* (4): НК (3); Ф.

**ЛЁСІК** (3), **[Я. ЛЁСІК]** *м.* Язэп (Іосіф Юр'евіч), беларускі мовазнавец і пісьменнік. *Верш мой* [Купалы] *справакавалі: І.Лёсік, надрукаваўшы яго побач з артыкулам, прысвечаным Пілсудскаму..* СЧ. *Кніг для чытаньня у школе дзьве – Лёсіка і Некрашэвіча.* ВСп, 89.

Н. *Лёсік* (2): ВСп, 89; СЧ. Р. *Лёсіка*: ВСп, 89; *Я.Лёсіка*: ВСп, 89.

**ЛІМАНОЎСКІ: БАЛЕСЛАЎ ЛІМАНОЎСКІ** *м.* Польскі публіцыст, гісторык, палітычны дзеяч. *Вядомы польскі пісьменнік Балеслаў Ліманоўскі, пішучы аб вялікім праз доўгія годы асьветным значэньні Батораўскага Унівэрсытэту, паміж іншым кажа..* УПУВ.

Н. *Балеслаў Ліманоўскі*: УПУВ.

**"ЛІРНІК"** (2) *м.* Зборнік песень У.В.Тэрраўскага, выдадзены ў 1922г. *№28. Гэта – сьпеўнік Тэрраўскага "Лірнік" (92 стр., 99 песьняў).* ВСп, 90. *.."Лірнік", бязумоўна, хутка разойдзецца па Беларусі са сваімі й смутнымі й вясёлымі песьнямі.* Там жа, 90.

Н. *""Лірнік"* (2): ВСп, 90(2).

**ЛІТВА** (6) *ж.* Еўрапейская дзяржава. *..нашы суседнія дзяржавы, як Украіна, Літва, Латвія, Эстонія і іншыя, маюць ужо сваю армію.* БВ, 16. *Незалежная Польшча, Літва, Украіна, Латвія і г.д. – усе яны маюць права на гэта* [незалежнасць].. Нз, 14.

Н. *Літва* (6): БВ, 16; МД; Нз, 14; УПУВ; УП; ХБ, 30.

**ЛІТОЎСКА-БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАВА** *ж. Тое, што* Вялікае Літоўска-Беларускае княства. *Калі заглянуць у далёкую мінуўшчыну, у тыя часы, калі існавала незалежная Літоўска-Беларуская дзяржава, – мы з пэўнасьцяй ня можам цьвярдзіць – ці быў тады гымн нацыянальны, ці ня быў.* СБНГ.

Н. *Літоўска-Беларуская дзяржава*: СБНГ.

**[ЛІТОЎСКА-БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ РЭСПУБЛІКА], [ЛІТОЎСКА-БЕЛАРУСКАЯ РЭСПУБЛІКА]** (2) *ж. Гіст.* Савецкая рэспубліка на тэрыторыі Віленскай і Мінскай неакупаваных частак Ковенскай і Гродзенскай губерній у грамадзянскую вайну. *Бальшавікі займаюць Вільна, касуюць "незалежную беларускую і г.д. рэспубліку", .. ствараюць ужо Літоўска-Беларускую савецкую і г.д. рэспубліку, урад якой*

*засядае ў Вільні.* СНБ, 339. *Спачатку зрабілі* [бальшавікі] *“прылучэнне” Літ.<оўска>-Бел.<арускай> рэспублікі да Расіі..* Там жа, 340.

Р. *Літ.<оўска>-Бел.<арускай> рэспублікі*: СНБ, 340. В. *Літоўска-Беларускую савецкую рэспубліку*: СНБ, 339. М. *Літ.<оўска>-беларускай рэспубліцы*: СНБ.

**[ЛІТОЎСКА-БЕЛАРУСКІ]** (2) *прым.* Які адносіцца да Літоўска-Беларускай савецкай рэспублікі. *Дый сама савецкая Літ.<оўска>-Бел.<аруская> улада сядзела ужо як на падпаленай бочцы з порахам.* СНБ, 340. *Дні 10, 11, 12 кастрычніка г.г. астануцца на вякі не зацертымі у памяці насяленьня Літоўска-Беларускай сталіцы – Вільні.* УПУВ.

Адз. ж. Н. *Літ.<оўска>-Бел.<аруская>*: СНБ, 340. Р. *Літоўска-Беларускай*: УПУВ.

**ЛІЎШЫЦ** *м.* Мендл Нохімавіч, яўрэйскі савецкі паэт. *Шэстоў, Ліўшыц, Радэк, Пятакоў, Муралаў, – Растаптаць, як гнідаў, Вас, звяр’ё замала!* МПв, 219.

Н. *Ліўшыц*: МПв, 219.

**[ЛУГАНСК]** *м.* Горад на Украіне. *Варашылаву і кажа* [Сталін], *– Што з Луганска родам! – Час нам, браце, вызваляці З-пад ярма народы!* ЗЯЗ, 89.

Р. *Луганска*: ЗЯЗ, 89.

**ЛУКАШЭВІЧ** (3) *м.* Аўтар падручнікаў па матэматыцы, выдадзеных у 1922г. *Тут з гэтых кніг павінны мы адмеціць “Мэтодыку арытмэтыкі” Лукашэвіча і Валасковіча.* ВСп, 89. *Арэтмэтычныя задачнікі Валасковіча і Лукашэвіча – першыя задачнікі ў беларускай мове.* Там жа, 89.

Н. *Лукашэвіч*: ВСп, 89. Р *Лукашэвіча* (2): ВСп, 89(2).

**[ЛУЦКЕВІЧ]**, **ІВАН ЛУЦКЕВІЧ** *м.* Іван Іванавіч, беларускі археолаг, этнограф і грамадскі дзеяч. *Памёр М.Багдановіч, Цётка, Іван Луцкевіч і шмат інш.* МІ, 17. *..Луцкевічы, Станкевіча і т.д. служаць адзінай мэце адарваць Совецкую Беларусь ад Совецкага Саюза і кінуць яе ў падняволле..* ШБСЯ.

Адз. Н. *Іван Луцкевіч*: МІ, 17. Мн. Н. *Луцкевічы*: ШБСЯ.

**ЛУЦЭВІЧ: ІВ. ЛУЦЭВІЧ** *м.* Іван Дамінікавіч, вядомы пад псеўданімам Янка Купала. *Ів. Луцэвіч.* ВСп, 91.

Н. *Ів. Луцэвіч*: ВСп, 91.

## М

**М[1].<АКСІМ>** *гл.* **БАГДАНОВІЧ.**

**М[2].<АКСІМ>** *гл.* **ГОРКІ.**

**М[3].<АКСІМАВІЧ>** *гл.* **ГОРКІ.**

**М[4].<ІХАСЬ>** *гл.* **КУДЗЕЛЬКА.**

**М[5].<ІХАСЬ>** *гл.* **ЧАРОТ.**

**МАГДАЛЕНА** *м.* Жаночае імя. *Разгадка Шарады №4: Маг-да-ле-на.* Ш$_4$.

Н. *Маг-да-ле-на.* Ш$_4$.

**[МАГІКАН]** *м.*: ◊ **Апошні з роду Магіканаў** *гл.* апошні.

Мн. Р. *Магіканаў*: Т, 41.

**[МАГНІТАГОРСКІ]** *м. Разм.* Магнітагорск, горад ў Чэлябінскай вобласці Расіі. *За ім* [правадыром]*, не знаючы нуды, Каналам плыў-бы Беламорскім, Ляцеў-бы вызнаць гарады – Магнітагорскі й Краматорскі.* МСП, 187.

В. *Магнітагорскі*: МСП, 187.

**[МАЛАДЗЕЧНА]** (2) *н.* Горад Мінскай вобласці. *З-пад Смаргоні, з-пад Маладзечна, з-пад Крывічоў і г.д. і г.д. абарваныя, галодныя людзі ходзяць па сваёй бацькаўшчыне і па чужынцах і просяць...* АБ, 16. *Палякі занялі Вільна, пасунуліся да Маладзечна і пагражалі Менску.* СНБ, 340.

Р. *Маладзечна* (2): АБ, 16; СНБ, 340.

**[МАЛІНОЎСКІ]** *м.* Мікалай Іванавіч, савецкі вучоны ў галіне хірургіі. *Першым чынам нізкі паклон і дзякуй шлю ад сэрца д-ру Казубоўскаму і д-ру Маліноўскаму..* ЛР.

Д. *Маліноўскаму*: ЛР.

**[МАЛЬКЕВІЧ]** *м.* Прозвішча ў “Лісце ў рэдакцыю”. *Не магу так сама не ўспомніць добрым словам д-ра Малькевіча.* ЛР.

В. *Малькевіча*: ЛР.

**МАМОНЬКА** *м.* Прозвішча ў п’есе “Тутэйшыя”. [Мікіта]: *Беларусь, мая старонка, Куток цемнаты, Жыве Шыла, Грыб, Мамонька, – Будзеш жыць і ты, меджду протчым.* Т, 56.

Н. *Мамонька*: Т, 56.

**[МАРКС]** *м.* Карл, адзін са стваральнікаў вучэння аб найбольш агульных законах грамадскага развіцця, аб гістарычнай непазбежнасці сацыялістычнай рэвалюцыі. *..рабочая кляса .. рэальна ажыццяўляе заветныя ідэалы найгеніяльнейшых настаўнікаў і правадыроў працоўнага люду Маркса і Леніна..* АЛ.

Р. *Маркса*: АЛ.

**МАРЫЯНСКІЯ ЛАЗНІ** *толькі мн.* Курорт у Чэхаславакіі. *У часе свайго падарожжа мы* [дэлегаты] *наведалі мясціны, якія прыцягваюць увагу турыстаў. Гэта – курорты

*Карловы вары, Марыянскія лазні..* ПЧ.

Н. *Марыянскія лазні*: ПЧ.

**МАСКВА** (23) *ж.* 1. Сталіца Расіі. *У 1915 годзе вымушан* [Купала] *быў эвакуіравацца ў Маскву.* А, 328. *Раненаго яго* [Грыцко] *адправили ў Маскву.* ПДз.

2. *перан.* Як сімвал самадзяржаўя. *Масква й Варшава аплюлі вам* [жыдам] *імя і ў дзікай чэрні ненавісць збудзілі к вам..* Ж. *Рынкам жывога тавару няслава Край увесь зрабіла, загнала на ўбой, Дзе ўжо лет сотні Масква і Варшава Торг груганавы вядуць між сабой.* Н.

Н. *Масква* (5): АПЖ; Ж; Н; НГ; СНБ, 337. Р. *Масквы* (7): Нз, 14; СК, 337(2), 338; Т, 38; УПУВ. Д. *Маскве*: Х. В. *Маскву* (4): А, 328; Ан, 19; ПДз; ХБ, 29. Т. *Масквою*: ХБ, 29. М. *Маскве* (5): Ан, 19; ВСп, 89; ПДз (2); Т, 44.

**[МАСКОЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ]** *ж.* Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка з цэнтрам г. Масква. *Яны* [бальшавікі] *аддзялілі ад Маскоўскай вобласці Смаленская губерня і землі, паложаныя на захад ад Смаленшчыны, і арганізавалі так званую Западную вобласць..* СНБ, 337.

Р. *Маскоўскай вобласці*: СНБ, 337.

**[МАСКОЎСКІ]** *прым. да* Масква. *“Gazeta” бармоча: Нех бэндзе ён ляхам, А “Вестник” – пусьць лучша Маскоўскім прот шляхам!* Х.

Адз. м. Т. *Маскоўскім*: Х.

**[МАСКОЎШЧЫНА]** (3) *ж. Разм. Тое, што* Расія. *Калі, пасля падзелу Польшчы, Беларусь адышла к Маскоўшчыне, беларусаў гналі ваяваць, хоць аб беларускім войску ніхто не адважыўся і падумаць.* БВ, 16. *Ды гэта ж, людзі мае, гразь і балота такое самае, якога не было нават на Усходзе, у рабочай Маскоўшчыне за часоў Івана Грознага.* Тж, 15.

Д. *Маскоўшчыне*: БВ, 16. Т. *Маскоўшчынай*: СНБ, 338. М. *Маскоўшчыне*: Тж, 15.

**“МАТЫВЫ ЛІРЫКІ БЕЛ. ПЕСЬНЯРА М.ЧАРОТА”** Нарыс У.Ігнатоўскага. *Трэцяя кніжка – гэта крытычны нарыс У.Ігнатоўскага: “Матывы лірыкі бел. песьняра М.Чарота”.* ВСп, 98.

Н. *“Матывы лірыкі бел. песьняра М.Чарота”*: ВСп, 89.

**МАЦВЕЕВІЧ** *гл.* **ГАЛАДЗЕД.**

**МАЦЕЕВІЧ** *м.* Прозвішча ў артыкуле “Як вучыць рэлігіі”. *..кс. Мацеевіч і яго таварышы – гэта такія-ж заядлые ворагі беларушчыны.* ВР.

Н. *Мацеевіч*: ВР.

**МАЦОХСКІЯ ПЯШЧОРЫ** *толькі мн.* Аб’ект турызму

ў Чэхаславакіі (у межах Мараўскага Краса). *У часе свайго падарожжа мы* [дэлегаты] *наведалі мясціны, якія прыцягваюць увагу турыстаў. Гэта – курорты Карловы вары, Марыянскія лазні, гэта казачна прыгожыя Мацохскія пяшчоры.* ПЧ.

Н. *Мацохскія пяшчоры*: ПЧ.

**МАЯКОЎСКІ** *м.* Уладзімір, рускі савецкі паэт. *Павесіўся Ясенін, застрэліўся Маякоўскі, ну і мне* [Купалу] *тады за імі дарога.* СЧ.

Н. *Маякоўскі*: СЧ.

**МЕНСК** *гл.* **МІНСК.**

**МЕНСКІ ПАВЕТ** *гл.* **МІНСКІ ПАВЕТ.**

**МЕНШЧЫНА** (7) *ж. Разм. Тое, што* Мінская губерня. *Гэтак канчае сваё апісанне Меншчыны расейскі географ С.Меч.* ХБ, 30. [С.Меч:] *Ліпень, жнівень і верасень я пражыў у Меншчыне, на беразе Сьвіслачы...* Там жа, 28.

Н. *Меншчына* (2): ХБ, 29, 30. Р. *Меншчыны* (2): ХБ, 29, 30. М. *Меншчыне* (3): ХБ, 28, 29(2).

**МЕЧ: С.МЕЧ** (2) *м.* Расійскі географ. *Гэтак канчае сваё апісанне Меншчыны расейскі географ С.Меч.* ХБ, 30. *Перад намі расейская кніга "Россія. Географический сборникъ" С.Меча.* Там жа, 28.

Н. *С.Меч*: ХБ, 30. Р. *С.Меча*: ХБ, 28.

**[МІКАЛАЕЎШЧЫНА]** *ж.* Вёска Мінскай губерні. *Так у сяле Микалаеўшчыне, Мин.<скай> губ.<ерні> прапита грошай ад новага года да 1 аўгуста (за 6 мес.) 5012 руб. 94 S кап.* УП.

М. *Мікалаеўшчыне*: УП.

**[МІКАЛАІ]** *толькі мн.* Мікалай I і Мікалай II – расійскія імператары. *Таксама, як пры Мікалаях першых дзяцей беларускай зямлі гналі за трыдзесяць зямель служыць царом і іх генералам.* БВ, 16.

Мн. М. *Мікалаях*: БВ, 16.

**[МІКАЛАЙ I]** *м.* Расійскі імператар. *Яшчэ і цяпер старыя людзі вам раскажуць аб тых спакрыўджаных і спакутаваных старцах, якія ўсё жыццё сваё загубілі пад вечнымі палкамі палачнага цара Мікалая I.* БВ, 16.

Р. *Мікалай I*: БВ, 16.

**МІКІТА** *гл.* **ЗНОСАК.**

**МІКІТАВЫ** (10) *прым.* 1. Які адносіцца да Мікіты. *Гэнрых Мотавіч Спічыні – Мікітавы настаўнік..* Т, 19. *Паміж Мікітавымі гасцямі перапуд і бегатня.* Там жа, 52.

2. Які належыць Мікіту. *Мікітавы пакой выглядае збольшага – як у першай дзеі..* Т, 53. *1-я, 3-я і 4-я дзеі адбыва-*

*юцца ў Мікітавай хаце..* Там жа, 19.

Адз. м. Н. *Мікітавы* (4): Т, 19, 43, 45, 53. ж. М. *Мікітавай*: Т, 19. Мн. Н. *Мікітавы* (2): Т, 27, 54. В. *Мікітавы*: Т, 31. Т. *Мікітавымі*: Т, 52. М. *Мікітавых*: Т, 22.

**МІНСК** (9) і **МЕНСК** (44) *м.* З 1919г. сталіца Беларусі. *8 жніўня палякі ўвайшлі ў Менск, і для Беларусі пачалася новая эра.* СНБ, 340. *У 1916г. пераехаў* [Купала] *ў Мінск, з Мінска ў Полацк, а потым у Смаленск.* А, 328.

Н. *Менск* (2): НКУС; Т, 61. Р. *Менску* (8): МІ, 17; СНБ; Т, 21, 37, 43, 53, 56, 61; *Мінска* (5): А, 328(3); Т, 61(2). Д. *Менску* (2): СНБ, 340(2). В. *Менск* (13): ВМР; СБНГ; СНБ, 338(2), 340; Т, 20, 30, 31, 35, 45, 49, 50, 51; *Мінск* (2): А, 328(2). Т. *Менскам* (2): СНБ, 340; Т, 55. М. *Менску* (17): БВ, 16; СНБ, 337, 339, 340; СНБ (2); Т, 19, 24, 27(2), 28, 30, 38, 45, 50(2), 54; *Менску* (2): А, 328; Т, 27.

**[МІНСКАЕ РЭАЛЬНАЕ ВУЧЫЛІШЧА]** *н.* Навучальная ўстанова ў Мінску. *Займаўся са мной* [Купалам] *сын дырэктара Мінскага рэальнага вучылішча Самойла.* А, 328.

Р. *Мінскага рэальнага вучылішча*: А, 328.

**[МІНСКАЯ ГУБЕРНЯ]** *ж.* Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка з цэнтрам г.Мінск. *Так, у сяле Микалаеўшчыне, Мин.<скай> губ.<ерні> прапита грошай ад новага года да 1 аўгуста (за 6 мес.) 5012 руб. 94 S кап.* УП. *Параўн.* Меншчына.

Р. *Мин.<скай> губ.<ерні>*: УП.

**[МІНСКІ ПАВЕТ]** *гл.* **[МЕНСКІ ПАВЕТ].** *м. Гіст.* Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка дарэвалюцыйнай Расіі з цэнтрам г.Мінск у складзе губерні. *Прададзены ўжо (каб не быць галаслоўным) двор Беларучы ў Менск.<ім> павеце..* ЗС, 18. *Усе дзіцячыя гады і маладосць правёў* [Купала], *бадзяючыся па Барысаўскаму і Мінскаму паветах.* А, 327.

М. *Менск.<ім> павеце*: ЗС, 18; *Мінскаму павету*: А, 327.

**МІХАСЬ** *гл.***ЧАРОТ.**

**[МІЦКЕВІЧ]**, **АДАМ МІЦКЕВІЧ**, **[А.МІЦКЕВІЧ]** *м.* Польскі паэт. *Пэўная часьць польскага грамадзянства .. сышла з тэй дарогі, якую палякам намецілі сьвятлейшые іх грамадзяне Міцкевічы, Красінскіе, Славацкіе і інш.* СНБ. *..даваў ён* [унівэрсытэт], *і Польшчы і цэламу сьвету мудрых і слаўных людзей, напр. Адам Міцкевіч, Сьнядэцкі, Лелявэль і шмат іншых.* УПУВ. *Хто, прыкладам ня ведае клясычнага апісання хараства нашага краю А.Міцкевіча ў яго несьмяротнай паэме "Пан Тадэуш".* ХБ, 27.

Адз. Н. *Адам Міцкевіч*: УПУВ. Р. *А.Міцкевіча*: ХБ, 27. Мн.

Н. *Міцкевічы*: СНБ.

**МОЛАТАЎ** (3) *м.* (сапр.: Скрабін) Вячаслаў Міхайлавіч, партыйны дзеяч СССР. *Хто з нас думаў, спадзяваўся, мой ты, родны браце, Што такіх мы кандыдатаў Будзем выбіраці, Сталін, Молатаў любімы, Слаўны Варашылаў, Ды Ежоў, што дыверсантаў Загнаў у магілу!* НК. *Нашым Молатаў славуты Дэпутатам будзе, Бо дзе лепшага мы знойдзем, – Падумайце, людзі!* Там жа.

• **Нашым кандыдатам у Вярхоўны Савет БССР – таварышам Сталіну, Молатаву, Варашылаву і Ежову.**

Н. *Молатаў* (2): НК (2). Д. *Молатаву*: НК.

**МОТАВІЧ** *гл.* **СПІЧЫНІ.**

**МУРАЛАЎ** (2) *м.* Аляксандр Іванавіч, савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч. *Шэстоў, Ліўшыц, Радэк, Пятакоў, Муралаў, – Растаптаць., як гнідаў, Вас, звяр'ё, замала!* МПв, 219. *Пятакоў і Троцкі, Муралаў і Радэк пакінуць хацелі Царскі нам парадак.* Там жа, 219.

Н. *Муралаў* (2): МПв, 219(2).

**[МУРАЎЁЎ]** *м.*: **Д Мураўёў-вешацель**: [Янка]: *Для вашага* [Мікіты] *гонару падавай вам мацярынскі язык цароў, Мураўёвых-вешацеляў .. і ўсея кампаніі падобных ім..* Т, 49.

Мн. Р. *Мураўёвых*: Т, 49.

**[МУРМАН]** *м. Разм.* Мурманск. *Пачалася ізноў тая самая вакханалія з высылкамі пад грозьбай штыка і нагайкі нашых людзей на Мурман, пад Урал і г.д. ..* БВ, 16.

В. *Мурман*: БВ, 16.

**[“МЭТОДЫКА АРЫТМЭТЫКІ”]** *м.* Падручнік Лукашэвіча і Валасковіча. *Тут з гэтых кніг павінны мы адмеціць “Мэтодыку арытмэтыкі” Лукашэвіча і Валасковіча.* ВСп, 89.

В. *“Мэтодыку арэтмэтыкі”*: ВСп, 89.

**[МЯСНІКОЎ]** (2) *м.* (сапр.: Мяснікян) Аляксандр Фёдаравіч, савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч. *Там* [у Смаленску], *на чале з Калмановічам, Мясніковым і Яркіным, зрабіла* [кучка бальшавіцкіх камісараў] *маленькі ўнутраны пераварот.* СНБ, 337. *..рэшта “портфелей” былі падзелены паміж Дылам, Мясніковым, Шантырам, Яркіным ды іншымі.* Там жа, 338.

Т. *Мясніковым* (2): СНБ, 337, 338.

# Н

**“НА БЕРЕГАХ СВИСЛОЧИ”** *м.* Нарыс С.Меча, змешчаны ў яго ж кнізе “Россія. Географический сборникъ”. *На страніцы 105 ёсьць нарыс аўтара гэтае кнігі, – “На берегах Свислочи”.* ХБ, 28.

Н. *“На берегах Свислочи”*: ХБ, 28.

**[НАВІНКА]** *ж.* Назва населенага пункта ў п’есе “Тутэйшыя”. [Гарошка]: *Тое-гэта, палякі на носе, – кажуць, што ўжо Навінку забралі..* Т, 44.

В. *Навінку*: Т, 44.

**НАВУКОВА-ЛІТАРАТУРНЫ АДДЗЕЛ** (2) *м.* Назва аддзела. *Найболей пладавітымі, чыннымі й рухавымі ў падгатоўцы матар’ялу й друкаваньні .. аказаліся быўшы “Навукова-Літаратурны Аддзел пры Наркамасьвеце Беларусі і быўшае В-ва “Адраджэньне” – цяпер “Савецкая Беларусь”.* ВСп, 90-91. *Навукова –Літаратурны Аддзел на чале з сваім кіраўніком С.Некрашэвічам сабраў і зрадагаваў да двухсот з лішнім друкарскіх аркушаў рознага зместу рукапісаў..* Там жа, 91.

Н. *Навукова-Літаратурны Аддзел* (2): ВСп, 90, 91.

**[НАГАЙКАЎСКАЯ ВОЛАСЦЬ]** *ж.* Назва мясцовасці ў фельетоне “Хто к лесу, а хто к бесу”. [Адзін мужык:] *Аб якой ты гэта вярзеш слабодзе?* [Другі мужык:] *Ну, аб Слабодзе, Нагайкаўскай воласьци, Усмирыцельскаго вуезду, што недалёка ад Прыгонава и Висельнева.* ХЛБ.

Р. *Нагайкаўскай воласьци*: ХЛБ.

**“НА ДНЕ”** *ж.* П’еса М.Горкага. *“На дне” і “Дзеці сонца” больш за ўсё мяне* [Купалу] *захапілі.* ПС.

**НАЛІВАЙКА** (6) *м.* Персанаж паэмы “Нашы дэпутаты”. *З неадступнаю нагайкай Едзе, сыпе Налівайка..* НД. *У сваясях Налівайка З вернай служкаю нагайкай Сказ даюць сялянскай брацi, Як чын чына пачытаці.* Там жа.

Н. *Налівайка* (4): НД (4). Д. *Налівайку* (2): НД (2).

**НАРКАМАСЬВЕТЫ** (3) *м. Гіст., скар. Тое, што* Камісарыят Асьветы. *..галоўнымі пайшчыкамі гэтага выдавецтва зьяўляецца Наркамасьветы і Цэнтрабелсаюз.* ВСп, 91. *Найболей пладавітымі, чыннымі й рухавымі ў падгатоўцы матар’ялу й друкаваньні .. аказаліся быўшы Навукова-Літаратурны Аддзел пры Наркамасьвеце Беларусі..* Там жа, 90-91.

Н. *Наркамасьветы* (2): АЛ; ВСп, 91. М. *Наркамасьвеце*: ВСп, 90–91.

**НАРКОМЗЕМ** *м. Гіст., скар. Тое, што* Камісарыят Земляробства. *Пранікаючы і стараючыся паступова прыбіраць у свае рукі найадказьнейшыя вучасткі Савецкага дзяржаўнага апарату (Наркомасьветы, Наркомзем, БДВ і г.д.), контррэ-*

*волюцыйныя нацыянал-дэмакраты спадцішка, але няўхільна, падточывалі соцыялістычныя элементы совецкае дзяржаўнасьці..* АЛ.

Н. *Наркомзем*: АЛ.

**“НАРОДНАЕ ДЗІВАДЛА”** *н.* Тэатр у Чэхаславакіі. *Праглядалі мы* [дэлегаты] *таксама оперу кампазітара Смятаны “Прadaная нявеста” ў тэатры “Народнае дзівадла”.* ПЧ.

Н. *“Народнае дзівадла”*: ПЧ.

**“НАРЫСЫ ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРЫ”** *ж.* Кніга М.А.Янчука. *Добры ўклад у беларускую школьную літаратуру зрабіла і кніга праф. Янчука “Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры”.* ВСп, 89.

Н. *“Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры”*: ВСп, 89.

**НАСТА** *гл.* **ПАБЯГУНСКАЯ.**

**“НАША КАЛЯІНА”** *ж.* Беларускі часопіс. *..перада мною* [Купалам] *ляжыць беларуская часопісь “Наша Каляіна”.* МІ, 17.

Н. *“Наша Каляіна”*: МІ, 17.

**“НАША НІВА”** (9) *ж.* Легальная штотыднёвая грамадска-палітычная і літаратурная газета, якая выдавалася ў Вільні з 1906 г. да 1915 г. на беларускай мове. *Помніцца, калі ў рэдакцыю ў тым часе адзінай беларускай часопісі “Наша Ніва” ўрываліся жандармы і “ахраннікі”, здзекаваліся над людзьмі, працуючымі там..* МІ, 17. *З Петраграда зноў пераехаў* [Купала] *у Вільню, дзе прыйшлося рэдагаваць “Нашу ніву”.* А, 328.

Н. *“Наша Ніва”* (3): А, 328; МІ, 17(2). Р. *“Нашае Нівы”* (2): СНБ, 336(2). В. *“Нашу ніву”*: А, 328. Т. *“Нашай Нівай”*: У. М. *“Нашай Ніве”* (2): А, 328; АЛ.

**НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭСПУБЛІКА** *гл.* **БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭСПУБЛІКА.**

**[НЕКРАШЭВІЧ]** (2), **[С. НЕКРАШЭВІЧ]** *м.* Сцяпан Міхайлавіч, беларускі савецкі мовазнавец. *Кніг для чытаньня дзьве – Лёсіка і Некрашэвіча..* ВСп, 89. *Навукова-Літаратурны Аддзел на чале з сваім кіраўніком С.Некрашэвічам сабраў і зрадагаваў да двухсот з лішнім друкарскіх аркушаў.* Там жа, 91.

Р. *Некрашэвіча* (2): ВСп, 89(2). Т. *С.Некрашэвічам*: ВСп, 91.

**[НІЗКІ РЫНАК]** *м.* Назва рынку ў п’есе “Тутэйшыя”. [Мікіта]: *Добрыя людзі адчынілі склад з ёю* [патакай] *на Нізкім рынку і – бяры хто хочаш і колькі хочаш.* Т, 54.

М. *Нізкім рынку*: Т, 54.

**НІКАЛАЙ[1]** *гл.* **ЕЖОЎ.**

**НІКАЛАЙ[2]** *гл.* **ГАЛАДЗЕД.**

**НІКАЛАЙ[3]** *гл.* **ГІКАЛО.**

**[НІКАЛАЙ ДРУГІ]**, **[НІКАЛАЙ]** *м. Руск.* Расійскі імператар. *Зазвінелі яны* [соцыяльная і нацыянальная думкі] *ад Белага да Чорнага мора .. на зямлі першага рускага дваранiна Нікалая другога.* ДЖ. *Там, за мяжою.. – голад, здзекі, катаванне працоўнага народу, як і за царом Нікалаем.* ЖН.

Р. *Нікалая другога*: ДЖ. Т. *Нікалаем*: ЖН.

**НІКІЦІ** *гл.* **ЗНОСАК.**

**НІКІЦІЙ** *гл.* **ЗНОСАК.**

**НІКІЦІУШ** *гл.* **ЗНОСАК.**

**НОВАЧАРКАСК** *м.* Горад на поўдні Расіі. *..А паміж тым, у прадчуваньні рымскіх ласк, Свой разрахунак меркантыльна зьнізіў І як жанчына, ўвесь дрыжэў Новачаркаск Ад наступу дэнікінскіх дывізій.* ВБЛ, 80.

Н. *Новачаркаск*: ВБЛ, 80.

**[НОВЫ СВЕРЖЭНЬ]** *м.* Вёска ў Стаўбцоўскім рёне, на левым беразе Нёмана. *У м. Новым Сверэкэне, таго самаго вуезда, манаполька таргуе за год на 20000 руб.* УП.

М. *Новым Сверэкэне*: УП.

**[НЯВА]** *ж.* Рака. *Я* [Нёман] *іх* [людзей] *не ваблю сваею красай: Вецер інакшы ім дзьме ў галаве, – Вісла адным ўсміхаецца ласа, Тыя заплюшчыўшысь пруцца к Няве.* Н.

Д. *Няве*: Н.

**[НЯМІГА]** і **[НЕМІГА]** *ж.* Рака, прыток Свіслачы. [Янка]: *..чырвоныя берагі Нямігі не зернем былі пасеяны, а касцямі гэных жа продкаў нашых.* Т, 35. [Мікіта]: *Нех се пан не наставе, бо дастанеш по пыску і ўтонеш в Немідзе.* Там жа, 49.

Р. *Нямігі*: Т, 35. М. *Немідзе*: Т, 49.

**НЯМЕЧЧЫНА** (6) *ж. Разм.* Назва Германіі (да 1933 г.). *Толькі недахват сродкаў ня даў магчымасьці Цішку Гуртнаму надрукаваць увесь матар'ял, які павёз быў з сабой у Нямеччыну.* ВСп, 91. *Але выбухнула сусветная вайна, а за ёй рэвалюцыя ў Расіі, Нямеччыне і Аўстрыі..* СНБ, 336.

Н. *Нямеччына* (2): НДН, 18(2). Р. *Нямеччыны*: СНБ. В. *Нямеччыну* (2): ВСп, 91; Т, 35. М. *Нямеччыне*: СНБ, 336.

# О

**"О, БОЖА, СПАСЕ НАШ!"** *м.* Верш К.Каганца. *Далей гэты*

*самы композытар напісаў музыку да верша Каганца: “О, Божа, спасе наш!”..* СБНГ.

**[ОЛОМОУТ]** (2) *м.* Горад у Чэхаславакіі. *У Оломоуце сустракаўшая нас на вакзале публіка спявала “Інтэрнацыянал”..* ПЧ. *Мы* [дэлегаты] *наведалі рад прамысловых прадпрыемстваў у Оломоуце, Прасценаве, Зліне, Брно, Пільзене..* Там жа.

М. *Оломоуце* (2): ПЧ(2).

**ОЛЬБРАХТ** *м.* Іван (сапр.: Земан Каміл), чэшскі пісьменнік і грамадскі дзеяч. *Савецкія пісьменнікі і журналісты пазнаёміліся з такімі дзеячамі мастацтва, як .. пісьменнікі Ольбрахт, Томан, Гора, Кубка і інш.* ПЧ.

Н. *Ольбрахт*: ПЧ.

**[ОРДЭН ЛЕНІНА]**, **[ЛЕНІНА ОРДЭН]** *м.* Найвышэйшая ўзнагарода ў СССР. *За ўсё гэта яна* [Беларусь] *ўзнагароджана вялікай ганаровай адзнакай – ордэнам Леніна.* ЖН. *Дзякуй за годнасць паэта народнага, Дзякуй за Леніна ордэн мне радасны..* ДПЛС.

В. *Леніна ордэн*: ДПЛС. Т. *ордэнам Леніна*: ЖН.

# П

**ПАБЯГУНСКАЯ**, **НАСТА ПАБЯГУНСКАЯ** (3), **НАСТА** (72) *ж.* Персанаж п’есы “Тутэйшыя”. [Янка]: *Праўдзівая Пабягунская. Хто яна такая?* Т, 23. *Наста Пабягунская – дзяўчына няведамых заняткаў, 23-25г. ..* Там жа, 19. [Мікіта]: *Мамзэль Наста, перакульвайце задам наперад абразы.* Там жа, 52.

Н. *Пабягунская*: Т, 23; *Наста Пабягунская* (3): Т, 19, 23, 24; *Наста* (67): Т, 23(6), 24(12), 25, 27, 28(2), 41(6), 42(11), 46, 49(3), 50(7), 52(4), 55(2), 58(3), 59(5), 60. Д. *Насце* (3): Т, 41, 42(2). Т. *Настай* (2): Т, 29, 42.

**[ПАДЛЕССЕ]** *н.* Вёска ў Ляхавіцкім раёне. *Вось які выпадак здарыўся гэтымі днямі ў партызанскім атрадзе Сцяпана З. з Падлесся.* ППС.

Р. *Падлесся*: ППС.

**[ПАЛЕССЕ]** *н.* Палеская нізіна. *З-пад пушчаў Палесся, з-пад Нёмана, Сожа, З-пад Пцічы, Дняпра і Заходняй Дзвіны, З-пад стыку са светам чужым і варожым Прыйшлі мы, Савецкай краіны сыны.* ПБН.

Р. *Палесся*: ПБН.

**[ПАЛЕСТЫНА]** *ж.* Гістарычная вобласць у Сярэдняй Азіі, на ўсходнім узбярэжжы Міжземнага мора. *Ваш* [жыдоў] *ясны сьветач там, дзе Палестына, Наш* [беларусаў] *ясны сьветач – Маці-Беларусь адна..* Ж.

В. *Палестына*: Ж.

**“ПАЛІТПРАСЬВЕТА”** *ж. Скар.* Выдавецтва ў Мінску. *Побач з Госиздатом дрэмле й наша “Палітпрасьвета”..* ВСп, 91.

Н. *“Палітпрасьвета”*: ВСп, 91.

**[ПАМІР]** *м.* Горная мясцовасць ў Сярэдняй Азіі. *Маё мне сонца правадыр, Мне сцежкі знача безупынна, За ім ляцеўбы на Памір І на Эльбрус, і на Хібіны.* МСП, 187.

В. *Памір*: МСП, 187.

**ПАНГЕРМАНІЯ** *ж. Разм.* Германія. *Цяпер, кажуць, Пангерманія будзе замяняць Антанту, пакуль яна вылечыцца.* Ан, 19.

Н. *Пангерманія*: Ан, 19.

**“ПАН ТАДЭУШ”** *м.* Паэма польскага паэта А.Міцкевіча. *Хто, прыкладам ня ведае клясычнага апісання характва нашага краю А.Міцкевіча ў яго несьмяротнай паэме “Пан Тадэуш”?* ХБ, 27.

Н. *“Пан Тадэуш”*: ХБ, 27.

**“ПАРЫЖ”** *м.* Назва гасцініцы ў п’есе “Тутэйшыя”. [Мікіта]: *Усяго таго было, што я па загаду свайго, меджду протчым, начальніка насіў гэтыя рэчы яму ў гасцініцу “Парыж”.* Т, 60.

Н. *“Парыж”*: Т, 60.

**ПАСЛЯК** *м.* Найміт, які працаваў у Луцэвічаў. *Калі мы* [сям’я Купалы] *жылі ў Прудзішчах.., у нас служыў рабочы нехта Пасляк..* ПС.

Н. *Пасляк*: ПС.

**ПЕТРАГРАД** (3) *м. Уст.* 1. Санкт-Пецярбург. *З Петраграда зноў пераехаў* [Купала] *у Вільню, дзе прыйшлося рэдагаваць “Нашу ніву”.* А, 328. *У Вільні працаваў* [Купала] *у бібліятэцы і “Нашай ніве”, пасля апынуўся ў Петраградзе на агульнаадукацыйных курсах Чарняева..* Там жа.

2. *перан.* Сімвал Расіі. *“Быть по сему”, казаў Петраград, і ... было.* НДН, 18.

Н. *Петраград*: НДН, 18. Р. *Петраграда*: А, 328. М. *Петраградзе*: А, 328.

**[ПЁТР]** *м.*: ◊ **Чакай, бабка, Пятра** *гл.* чакаць.

В. *Пятра*: Т, 21.

**“ПІЛІП І Кє”** *м. Іран.* Назва віннага склада ў п’есе “Тутэйшыя”. [Мікіта]: *..самая натуральная амброзія знамянітай*

*тутэйшай фірмы – а ля самагонка, даставленая мне з вінных складаў “Пiлiп i Кє”.* Т, 28.

Н. *“Пiлiп i Кє”*: Т, 28.

**[ПІЛСУДСКІ]** (2), **[ЯЗЭП ПІЛСУДСКІ]**, **ЯЗЭП ПІЛСУДЗКІ** (2) *м.* Польскі палітычны дзеяч, дыктатар Польшчы ў 1926-35гг. *Мы так сама памятаем, што вядомая адозва Пілсудскага, як начальніка польскай дзяржавы, гаворыць пра тое, што з прыходам палякоў Беларусь атрымала волю.* ОШМ. *Была зараз жа распаўсюджана вядомая адозва Начальніка польскай дзяржавы Язэпа Пілсудскага..* СНБ, 340.

Н. *Язэп Пілсудзкі*: СНБ. Р. *Пілсудскага*: ОШМ; *Язэпа Пілсудскага*: СНБ, 340; *Язэпа Пілсудзкага*: УПУВ. Д. *Пілсудскаму*: СЧ.

**[ПІЛЬЗЕН]** *м.* Горад у Чэхаславакіі. *Мы* [дэлегаты] *наведалі рад прамысловых прадпрыемстваў у Оломоуце, Прасценаве, Зліне, Брно, Пільзене..* ПЧ.

М. *Пільзене*: ПЧ.

**ПІНСКАЕ БАЛОТА** і *руск.* **[ПІНСКАЕ БОЛОТО]** *н.* Частка тэрыторыі Прыпяцкага Палесся ў нізоўях Ясельды і Стыры з прылеглым адрэзкам Прыпяці. [Янка]: *..акупанты змяшалі яго* [мора] *з гразёй, дык засталося толькі Пінскае балота.* Т, 47. [Усходні вучоны]: *..дажэ морэ собственное імелось, на благодара врэдным клімацічэскім веяніям с Запада поіменованное морэ утонуло в Пінском болоце.* Там жа, 47. *Параўн.* Пінске блото.

Н. *Пінскае балота*: Т, 47. М. *Пінском болоце*: Т, 47.

**[ПІНСКАЕ МОРА]** *н.* Мора, на месцы якога быццам бы ўзнікла Пінскае балота. [Янка]: *Маем поле і лес, горы і даліны, рэчкі і вазёры, нават мора мелі – называлася Пінскае, – але акупанты змяшалі яго з гразёй, дык засталося толькі Пінскае балота.* Т, 47.

В. *Пінскае мора*: Т, 47.

**[ПІНСКЕ БЛОТО]** *н. Польск. Тое, што* Пінскае балота. [Заходні вучоны]: *..край тэн посядал навэт можэ, але, завдзенчаёнц шкодлівым вплывом зэ Всходу, можэ тэ пшэісточыло сень в Пінске блото.* Т, 47.

В. *Пінске блото*: Т, 47.

**[ПІРРАВЫ]** *прым.*: ◊ **Піррава пабеда** *гл.* пабеда.

Мн. Р. *Пірравых*: ПВ.

**[ПОЛАЦК]** (2) *м.* Горад Віцебскай вобласці на Заходняй Дзвіне. *У 1916г. пераехаў* [Купала] *у Мінск, з Мінска ў Полацк, а потым у Смаленск.* А, 328. *Але немцы ачышчаюць*

*Беларусь, Менск, Полацк, Барысаў і інш.* СНБ, 338.

В. *Полацк* (2): А, 328; СНБ, 338.

**ПОЛІГРАФАДДЗЕЛ** і **[ПОЛІГРАФ]** *м. Скар.* Паліграфічны аддзел. *..Паліграфаддзел ня мог ці не хацеў даць патрэбную колькасць шрыфтаў і наборшчыкаў.* ВСп, 91. *Паглядзім, што зробіць у гэтай справе "Белтрэстдрук", які паўстаў ад жаніцьбы Госиздата з Паліграфам.* Там жа, 91.

Н. *Паліграфаддзел*: ВСп, 91. Т. *Паліграфам*: ВСп, 91.

**ПОЛЬСКА** *ж. Польск. Тое, што* Польшча. [Спічыні]: *Перакулеце* [Мікіта] *на наш манер такі зварот: ешчэ Польска не згінэла.* Т, 49.

Н. *Польска*: Т, 49.

**[ПОЛЬСКА-ЛІТОЎСКА-БЕЛАРУСКІ КРАЙ]** *м. Разм.* Тэрыторыя былога Вялікага Княства Літоўскага. *Сьвятло, якім прамянілася гэта вучэльня захоплівало сабой ня толькі край Польска-Літоўска-Беларускі, быўшае Вялікае Літоўска-Беларускае Княжство, але праменьні яго дасягалі аж да Масквы і Харкава...* УПУВ.

В. *край Польска-Літоўска-Беларускі*: УПУВ.

**[ПОЛЬСКАЯ ДЗЯРЖАВА]** (5) *ж. Тое, што* Польшча. *Начальніка Польскай дзяржавы віталі шчыра..* СНБ. *Але заява Вялікага Начальніка Польскай дзяржавы – адно, а палітыка польскіх эндэкаў і жандармэрыі – другое.* СНБ.

Р. *Польскай дзяржвы* (5): СБНГ; СНБ (3); СНБ, 340.

**ПОЛЬШЧА** (23) *ж. Разм.* Еўрапейская дзяржава. *Мы ведалі, што Вільня – гэта спрэчны горад, на каторы тры дзяржавы заяўляюць свае правы – гэта Польшча, Літва і Беларусь.* УПУВ. *Залежнасць ад Польшчы змянілася залежнасцяй ад Масквы..* Нз, 14. *Параўн.* Польска, Польская дзяржава.

Н. *Польшча* (10): АПЖ; БВ, 17(2); БСУ; ВМР; ДК; Нз, 14; Т, 49; УПУВ (2). Р. *Польшчы* (6): БВ, 16; Нз, 14(3); ОШМ; СНБ. Д. *Польшчы*: УПУВ. В. *Польшчу* (2): ПЧ; СНБ. Т. *Польшчай* (4): Нз, 14(3); ОШМ.

**"ПРАВДА"** *ж.* Штодзённая масава-палітычная газета; орган ЦК КПСС. *– А вось нашы "Правда" і "Известия" .. у Чэхаславакіі ідуць проста нарасхват.* ПЧ.

Н. *"Правда"*: ПЧ.

**[ПРАГА]** (2) *ж.* Сталіца Чэхаславакіі, на р. Влтава. *Мы* [дэлегаты] *аглядалі выдатныя гістарычныя мясціны, замкі, будынкі ў Празе і іншых гарадах.* ПЧ. *У Празе мы* [дэлегаты] *наведалі "дабрачынны камбінат" імя Масарыка..* Там жа.

М. *Празе* (2): ПЧ (2).

**"ПРАДАНАЯ НЯВЕСТА"** (2) *ж.* Опера чэшскага кам-

пазітара В.Смятаны. *Праглядалі мы* [дэлегаты] *таксама оперу кампазітара Смятаны “Праданая нявеста” ў тэатры “Народнае дзівадла”.* ПЧ. *..А.Талстой разам з Францам Кубкам будзе працаваць над перакладам пастаноўкі на совецкай сцэне оперы Смятаны “Праданая нявеста”..* Там жа.

Н. *“Праданая нявеста”* (2): ПЧ(2).

**[ПРАЖСКІ]** *прым. да* Прага. *На мяжы і на Пражскім вакзале нас* [дэлегатаў] *сустракалі і бурна віталі лепшыя людзі краіны..* ПЧ.

Адз. м. М. *Пражскім*: ПЧ.

**[“ПРАКТЫЧНАЯ ГРАМАТЫКА”]** *ж.* Падручнік Я. Лёсіка, выдадзены ў 1922г. *А “Практычныя граматыкі” Я. Лёсіка ўжо зрабіліся незамененымі падручнікамі для кожнага беларускага грамадзяніна..* ВСп, 89.

Мн. Н. *“Практычныя граматыкі”*: ВСп, 89.

**[ПРАКУРАТУРА САЮЗА ССР]** *ж.* У СССР дзяржаўны орган, які ажыццяўляў вышэйшы надзор за дакладным выкананнем законаў. *Ці-ж можна маўчаць, калі радыё разносіць па ўсяму свету паведамленне Пракуратуры Саюза ССР аб жудасных, кашмарных злачынствах фашысцкай банды шпіёнаў, дыверсантаў-забойцаў..* МП.

Р. *Пракуратуры Саюза ССР*: МП.

**ПРАМЕТЭЙ** *м. Міф.* Тытан, абаронца людзей. *У краіне гордай, горы дзе пад неба, Дзе быў прыкаваны Прамётэй да скалы, Рос і гадаваўся у бядзе, без хлеба Сулейман гаротны, наш пясняр удалы.* ПСС, 231.

Н. *Праметэй*: ПСС, 231.

**[ПРАСЦЕНАВА]** (2) *ж.* Горад у Чэхаславакіі. *У Прасценаве нас* [дэлегатаў] *ля будынку ратушы сустрэў тысячны натоўп рабочых воклікамі ў гонар СССР.* ПЧ. *Мы* [дэлегаты] *наведалі рад прамысловых прадпрыемстваў у Оломоуце, Прасценаве, Зліне..* Там жа.

М. *Прасценаве* (2): ПЧ (2).

**[ПРАСЦЕНАЎСКІ]** *прым.* Які знаходзіцца ў Прасценаве. *На абедзе ў Прасценаўскай ратушы выступіла адна жанчына з хвалюючай прамовай.* ПЧ.

Адз. ж. М. *Прасценаўскай*: ПЧ.

**[ПРУДЗІШЧА]** *н.* і **[ПРУДЗІШЧЫ]** *мн.* Былы фальварак памешчыка Жаброўскага ў Бяларуцкай воласці Мінскай губерніі (зараз Лагойскі раён). *Памятаю* [Купала], *яшчэ ў Прудзішчы, калі бацька пасылаў мяне з сястрой на начлег пасвіць коней, я браў з сабой кнігі і пры свеце кастра або месяца чытаў.* ПС. *Калі мы* [сям’я Купалы] *жылі ў Прудзіш-*

*чах.., у нас служыў нехта Пасляк..* Там жа.

Адз. М. *Прудзішчы*: ПС. Мн. М. *Прудзішчах*: ПС.

**[ПРУСЫ ЗАХОДНІЯ]** *толькі мн. Разм.* Прусія; тэрыторыя на паўднёвым узбярэжжы Балтыкі. *..ў Прусах Заходніх бязбожнікі немцы вучаць дзяцей-палякоў па-нямецку..* ЧЧШ.

М. *Прусах Заходніх*: ЧЧШ.

**[ПРЫГОНАВА]** *н.* Назва мясцовасці ў артыкуле “Хто к лесу, а хто к бесу”. [Адзін мужык:] *Аб якой ты гэта вярзеш слабодзе?* [Другі мужык:] *Ну, аб Слабодзе, Нагайкаўскай воласьци, Усмирыцельскаго вуезду, што недалёка ад Прыгонава и Висельнева.* ХЛБ.

Р. *Прыгонава*: ХЛБ.

**[ПРЫМОР’Е]** *н. Разм.* Прыморскі край (цэнтр г.Уладзівасток). *Не толькі Прымор’е, Урал і Украіну трацкісцкія дыверсанты прадавалі фашыстам.* ВНЗ.

В. *Прымор’е*: ВНЗ.

**[ПРЭОБРАЖЭНСКІ ЖАНОЧЫ МАНАСТЫР]** *м.* Назва манастыра ў п’есе “Тутэйшыя”. [Дама]: *..бацюшка, які з намі ў вас* [Ганулі] *гасціў, абяцаў, калі што якое мяне прыцісне, дык зробіць протэкцыю ў Прэображэнскі жаночы манастыр.* Т, 58.

В. *Прэображэнскі жаночы манастыр*: Т, 58.

**ПУРЫШКЕВІЧ** (2) *м.* Уладзімір Мітрафанавіч, рускі палітычны дзеяч, манархіст, чарнасоценец. *Гэй, Дубровін чарнасоцкі, Пурышкевіч, Замыслоўскі, Дайце раду, што чыніці, Як крамолу скараціці.* ЛПК. [Мікіта]: *Апрача таго, нас бацька Пурышкевіч, быўшы ў Менску тут, замеціў і, ад’язджаючы, на гэту місію багаславіў.* Т, 38.

Н. *Пурышкевіч* (2): ЛПК; Т, 38.

**[ПЦІЧ]** *м.* Рака ў Беларусі, левы прыток р. Прыпяць. *З-пад пушчаў Палесся, з-пад Нёмана, Сожа, З-пад Пцічы, Дняпра і Заходняй Дзвіны, З-пад стыку са светам чужым і варожым Прыйшлі мы, Савецкай краіны сыны.* ПБН.

Р. *Пцічы*: ПБН.

**ПЯРУН** (2) *м. Міф.* Бог грому і маланкі ў дахрысціянскай рэлігіі ўсходніх славян. *..прозвішчы багі мелі не такія, як цяпер; называліся яны: Сонца, Пярун, Каляда ды іншыя яшчэ.* Кз, 17. – *Скажы: скуль ты? якому сонцу Твая паклон б’е старана? – Зьвярнуўся так да незнаёмца Прыбочнік верны Пяруна.* УрП, 51.

Н. *Пярун*: Кз, 17. Р. *Пяруна*: УрП, 51.

**[ПЯРЭСПА]** (2) *ж.* Назва мясцовасці ў п’есе “Тутэйшыя”. [Янка]: *Цікава толькі, як гэта вы* [Мікіта] *з сваім апошнім саўбураўскім становішчам дапасуецеся да самай навейшай пол-*

*ітычнай сытуацыі, што круціцца ўжо каля Пярэспы?* Т, 48. [Ганууля]: *А нашыя некаторыя мянчане, асабліва з Камароўкі і Пярэспы, гэткім спосабам апошнія гады і жывуць.* Там жа, 56.

Р. *Пярэспы* (2): Т, 48, 55.

**ПЯТАКОЎ** (4) *м.* Леанід Леанідавіч, удзельнік барацьбы за Савецкую ўладу на Украіне. *Пятакоў і Радэк, Троцкі – ўся арава – Хлёбалі, зладзюгі, З адной міскі страву.* МПв, 218. *Шэстоў, Ліўшыц, Радэк, Пятакоў, Муралаў, – Растаптаць, як гнідаў, Вас звяр'ё, замала!* Там жа, 219.

Н. *Пятакоў* (3): МПв, 218, 219(2). Р. *Пятакова*: ВНП.

**ПЯТЛЮРА** (2) *м.* Сімон Васільевіч, адзін з кіраўнікоў украінскага контррэвалюцыйнага буржуазна-нацыяналістычнага руху ў 1918-1920 гг. *"Антанта, прымаючы пад увагу, што Пятлюра, Тарыба, Дэнікін і т.д. і т.д. нічога не варты.., махнула на іх усіх рукою, узяла паехала ў Маскву..* Ан, 19. *..Антанта прызнала Пятлюру, Ульманіса, Тарыбу, навет беларускую раду..* Там жа, 18.

Н. *Пятлюра*: Ан, 19. В. *Пятлюру*: Ан, 18.

**[ПЯТРО]** *м. Рэл.* Старажытнае земляробчае свята ў славян, своеасаблівы працяг Купалля. [Янка]: *Чакай, бабка, Пятра!.. Пакуль ваша гэта становішча ўстане, то вас* [Мікіту] *саміх чэрві паточаць.* Т, 21.

В. *Пятра*: Т, 21.

# Р

**РАГОЎСКІ** *м.* Людамір Міхал, польскі кампазітар і дырыжор. *Пачатак гэтага зрабіў композытар Рагоўскі, які стварыў музыку да слоў верша Янкі Купалы: "А хто там ідзе?"..* СБНГ.

Н. *Рагоўскі*: СБНГ.

**[РАДАШКОВІЧЫ]** (4) *толькі мн.* Гарадскі пасёлак ў Маладзечанскім раёне Мінскай вобласці. *Нарадзіўся я* [Купала] *25 чэрвеня (старога стылю) 1882г. непадалёк ад Радашковіч, былога Вілейскага павета, у фальварку Вязынка.* А, 327. *Палякі занялі Радашковічы і паважна пагражалі Менску.* СНБ, 340.

Р. *Радашковіч*: А, 327. В. *Радашковічы* (3): Ан, 18(2); СНБ, 340.

**РАДЭК** (4) *м.* Дзяржаўны і партыйны дзеяч. *Пятакоў і Троцкі, Муралаў і Радэк Пакінуць хацелі Царскі нам парадак.* МПв, 219. *..няма роўнага таму здрадніцтву, якое ўвасоблена ў вобразе трацкісцкіх нягоднікаў – Пятакова, Радэка і*

*іншых..* ВНЗ.

Н. *Радэк* (3): МПв, 218, 219(2). Р. *Радэка*: ВНЗ.

**РАЗРАЗНАЯ АЗБУКА** *гл.* **БЕЛАРУСКАЯ РАЗРАЗНАЯ АЗБУКА.**

**[РАСЕЙСКАЕ ГАСУДАРСТВА]** *н. Тое, што* Расія. *І гэты налог, асնованы на справядлівасьці, знойдзе нарэшце сабе мейсцэ у Расейскім гасударстве.* ВН.

М. *Расейскім гасударстве*: ВН.

**[РАСІЙСКАЯ ІМПЕРЫЯ]** і **[РАСІЙСКАЯ ІМПЭРЫЯ]** *ж. Тое, што* Расія. *У замучанай царызмам Беларусі, як і ва ўсёй Расійскай імперыі, працоўныя былі пазбаўлены права ўдзельнічаць у якой-бы то ні было дзяржаўнай рабоце.* ГВУ. [Мікіта]: *Гэта, пане профэсар, ёсць вынікі апошняга, меджду протчым, службовага становішча і апошняй палітычнай сытуацыі, якая ўтварылася ў Расійскай, меджду протчым, імпэрыі.* Т, 48.

М. *Расійскай імперыі*: ГВУ; *Расійскай імпэрыі*: Т, 48.

**РАСІЯ** (33) і *разм.* **РАСЕЯ** (4) *ж.* Краіна і дзяржава, населеная пераважна рускімі. *Наша* [Беларусі] *незалежнасць соллю ўваччу для незалежнасці нашых суседак – Пальшчы і Расіі..* Нз, 14. [С.Меч:] *Верасень – мой любімы месяц, але ў нас (у Расеі) звычайна псуюць яго дажджы.* ХБ, 29. *Параўн.* Вялікарусь, Маскоўшчына, Расейскае гасударства, Расійская імперыя, Русь.

Δ **Матушка-Расія** *гл.* матушка.

Н. *Расія* (6): БВ, 16; ВМР; ДК; НДН, 18(2); СНБ, 336; *Расея* (2): ВР; НДН, 18. Р. *Расіі* (15): АЛ; Ан, 19; БВ, 17; ДЖ; ДПЛС; ЖН (2); ЗС, 18; Нз, 14(2); НПБ; СНБ (3); СНБ, 340. В. *Расію* (4): Ан, 19; БВ, 16; ДЖ; ОШМ. М. *Расіі* (8): Ан, 19; БВ, 16(2); З; СНБ; СНБ, 336, 337; УПУВ; *Расеі* (2): ХБ, 29(2).

**[РАСТОЎ]** (2) *м. Разм.* Горад Растоў-на-Доне. *..азьвярэлыя вятры Ад жудасьці, ад сораму і дыму Яшчэ зрывалі тэлеграму з тыну, Што ад Растова ўсе чырвоныя далёка Й няма што трасцай кідацца нялёгкай..* ВБЛ, 80. *У кажусе і ў куртцы новай Сінявокі хлопчык кадэт Ў канаве зламжыў пад Растовам За цара свае дзевяць лет.* Там жа, 81.

Р. *Растова*: ВБЛ, 80. Т. *Растовам*: ВБЛ, 81.

**“РОССІЯ. ГЕОГРАФИЧЕСКИЙ СБОРНИКЪ”** *ж.* Кніга С.Меча. *Перад намі расейская кніга “Россія. Географический сборникъ” С.Меча.* ХБ, 28.

Н. *“Россія. Географический сборникъ”*: ХБ, 28.

**РУСЬ** (5) *ж. Тое, што* Расія. *У твой ланцуг былі, о, Русь, Уплецены з усіх бакоў Украйна, Польшча, Беларусь І сотня*

*іншых языкоў”.* АПЖ. [Поп]: *Разверзіся врата адовы і сам анціхрыст со своім сонмом святой Русью завладоша, ежэлі созерцать всё творымое ныне.* Т, 28.

**Д Маці-Русь** *гл.* маці.

Н. *Русь* (4): АПЖ (3); МД. Т. *Русью*: Т, 28.

# С

**С.**[1] *гл.* **ЖЫВЫПІСЦАВА.**

**С.**[2]**: С.<ЦЯПАН>** *гл.* **НЕКРАШЭВІЧ.**

**С.**[3]**: С. <ЯРГЕЙ>** *гл.* **МЕЧ.**

**“САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ”** (2) *ж.* Выдавецтва ў Мінску. *Найболей пладавітымі, чыннымі й рухавымі ў падгатоўцы матар’ялу й друкаваньні .. аказаліся быўшы Навукова-Літаратурны Аддзел В-ва “Адраджэнне” – цяпер “Савецкая Беларусь”.* ВСп, 90-91. *Цяпер на месцы “Адраджэньня” беларускую выдавецкую справу ў складзе тых самых супрацоўнікаў і з такім-жа пасьпехам вядзе В-ва “Савецкая Беларусь”.* Там жа, 91.

Н. *“Савецкая Беларусь”* (2): ВСп, 91(2).

**САВЕЦКІ САЮЗ** (3), **[СОВЕЦКІ САЮЗ]** (11), **[САЮЗ СОВЕТАЎ]**, **[САЮЗ ССР]**, **[САЮЗ]**, **СССР** (9) *м.* Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, першая ў свеце сацыялістычная агульнанародная дзяржава ў складзе 15 нацыянальных рэспублік. *Беларуская мова з пагарджанай і паднявольнай стала раўнапраўнай і дзяржаўнай, як і мова ўсіх народаў Совецкага Саюза.* ШБСЯ. *Мае* [Купалы] *кнігі разыходзяцца ў дзесятках і сотнях тысяч экзэмпляраў, песні мае співаюцца ва ўсіх кутках вялікага Савецкага Саюза.* А, 328. *..справы такія ў нас пайшлі, што ў кожным куточку Саюза Саветаў, у любым калгасе, на любым заводзе можна заваяваць сабе сусветную славу.* ЖН. *Ці-ж можна маўчаць, калі радыё разносіць па ўсяму свету паведамленне Пракуратуры Саюза ССР аб жудасных, кашмарных злачынствах фашысцкай банды шпіёнаў, дыверсантаў..* МП. *Нас узнімае, нас натхняе гераізм, каторы мы наглядаем у любым куточку нашай Совецкай Беларусі, ўсяго Саюза.* ВГР. *Вольна ўздыхнулася, калі пераехалі мы* [дэлегаты] *праз мяжу ў СССР.* ПЧ. *Параўн.* Совецкая, Советы.

Р. *Совецкага Саюза* (8): ВГР; ДЖ; ЖН; ПЧ; ШБСЯ (4); *Савецкага Саюзу* (2): АЛ (2); *Савецкага Саюза*: А, 328; *Саюза Советаў*: ЖН; *Саюза ССР*: НКУС; *Саюза*: ВГР. В. *Совецкі Саюз*:

ПЧ. М. *Совецкім Саюзе* (2): ЖН; НДп, 229.

**САДОМ** *м.*: ◊ **Садом і Гамора** – бязладдзе. [Ганулля]: *(ходзячы па хаце і ломячы рукі). Што гэта робіцца? Садом і Гамора!* Т, 33.

Н. *Садом*: Т, 33.

**[САЛАНЕВІЧ]** *м.* Прозвішча ў п’есе “Тутэйшыя”. [Мікіта]: *Меджду протчым, не забывайце, пане беларус, што я найздальнейшы вучань акадэмікаў Скрынчанкі й Саланевіча.* Т, 38.

Р. *Саланевіча*: Т, 38.

**[САЛЯМОН]** *м.*: ◊ **Не снілась ні Фараону, ні Салямону** *гл.* сніцца.

Д. *Салямону*: Т, 41.

**САМОЙЛА** *м.* Уладзімір Іванавіч, сын дырэктара Мінскай рэальнай школы, які займаўся рэпетытарствам з Купалам. *Займаўся са мной* [Купалам] *сын дырэктара Мінскага рэальнага вучылішча Самойла.* А, 328.

Н. *Самойла*: А, 328.

**САЮЗ** *гл.* **САВЕЦКІ САЮЗ.**

**САЮЗ СОВЕТАЎ** *гл.* **САВЕЦКІ САЮЗ.**

**САЮЗ ССР** *гл.* **САВЕЦКІ САЮЗ.**

**[СЕВЕРО-ЗАПАДНЫЙ КРАЙ]** (2) *м. Гіст.* Назва ў XIX пач. XX ст. паўночна-заходняй часткі Расійскай імперыі – Віленскай, Віцебскай, Гродненскай, Ковенскай і Мінскай губерній. [Усходні вучоны]: *Пры опросе аборыгенов Северо-Западного края о процяжэніі занімаемой імі церрыторыі выяснілось, что таковая включает в себя обласць Мінской Брэхалкі да ешчо далей...* Т, 39. [Усходні вучоны]: *Прырода в Русском Северо-Западном крае веліка і обільна..* Там жа, 47. *Параўн.* Северо-Западная Обласць.

Р. *Северо-Западного края*: Т, 39. М. *Северо-Западном крае*: Т, 47.

**[СЕВЕРО-ЗАПАДНАЯ ОБЛАСЦЬ]** *ж. Тое, што* Северо-Западный край. [Усходні вучоны]: *Іоан Здольніков. Ісціно-русскій ціп Северо-Западной Обласці і безусловно з прымесью монгольско-фінской крові.* Т, 26.

Р. *Северо-Западной Обласці*: Т, 26.

**[СЕЛІШЧА]** (2) *н.* Былы засценак Гайна-Слабадской воласці Барысаўскага павета Мінскай губерніі (зараз Лагойскі р-н). *У 1891г. ён* [бацька] *зноў пераязджае на арандаваную зямлю ў фальварак Селішча.* А, 328. *Другі такі апавядальнік быў ужо у Селішчы.* ПС.

В. *Селішча*: А, 328. М. *Селішчы*: ПС.

**СЕННІЦА** (2) *ж.* Вёска ў Мінскім раёне. *У 1883г. ён* [бацька] *служыў у маёнтку Юзэфава ў памешчыка Багдановіча, у 1887г. – у маёнтку Косіна, у 1889г. – у маёнтку Сенніца памешчыка Турчынскага.* А, 327–328. *Палову адной зімы вучыўся* [Купала] *ў народнай школе ў Сенніцы..* Там жа, 328.

Н. *Сенніца*: А, 327-328. М. *Сенніцы*: А, 328.

**[СІБІР]** (2) *ж. м.* Частка азіяцкай тэрыторыі ад Урала да ўзбярэжжа Ахоцкага мора, ад Паўночнага Ледавітага акіяна да стэпаў Казахстана. *Ён* [жандар] *сніць былую моц і шыр: Цары, царыцы, цэрквы, трон, Пагромы, катаргі, Сібір...* АПЖ. *Ён* [расійскі ўрад] *беларусаў-хлебаробаў зманіваў за Урал, у Сібір, у Туркестан, а то і ў Амерыку.* ЗС, 18.

В. *Сібір* (2): АПЖ; ЗС, 18.

**[СКРЫНЧАНКА]** *м.* Прозвішча ў п’есе “Тутэйшыя”. [Мікіта]: *Меджду протчым, не забывайце, пане беларус, што я найздальнейшы вучань акадэмікаў Скрынчанкі й Саланевіча.* Т, 38.

Р. *Скрынчанкі*: Т, 38.

**СЛОНІМ** *м.* Горад у Гродзенскай вобласці на р. Шчара. *..калеі на такіх буйных станцыях, як Слонім, Беласток, пазарасталі травой.* ПЧ.

Н. *Слонім*: ПЧ.

**СЛУЦАК** 92) *м. Разм.* Слуцк, горад у Мінскай вобласці. *Слуцак – павятовы гарадок – куды яму, здавалася бы, лезці ў людзі, ды яшчэ з сваёй газэтай!* Мі, 17. *Выдана яна* [часопісь “Наша Каляіна”] *ў Слуцку!* Там жа.

Н. *Слуцак*: МІ, 17. М. *Слуцку*: МІ, 17.

**[СЛУЦКІ ПАВЕТ]** *м.* Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка дарэвалюцыйнай Расіі з цэнтрам г.Слуцк. *..сваю чыннасць пашырала* [часопісь “Наша Каляіна”] *на ўвесь Слуцкі павет і навет далей за яго межы.* МІ, 17.

В. *Слуцкі павет*: МІ, 17.

**[СМАЛЕНСК]** (8) *м.* Горад у Расіі на р. Днепр. *У 1916г. пераехаў* [Купала] *у Мінск, з Мінска ў Полацк, а потым у Смаленск.* А, 328. *..куча бальшавіцкіх камісараў, гаспадарыўшая раней у Менску, уцякла ў Смаленск.* СНБ, 337.

Р. *Смаленску* (2): Т, 48, 56. В. *Смаленск* (5): А, 328; СНБ, 337, 338, 339, 340. М. *Смаленску*: СНБ, 339.

**[СМАЛЕНСКАЯ ГУБЕРНЯ]** *ж.* Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка з цэнтрам г.Смаленск. *Яны* [кучка бальшавіцкіх камісараў] *аддзялілі ад Маскоўскай вобласці Смаленскую губерню і землі, паложаныя на захад ад Смаленшчыны..* СНБ, 337. *Параўн.* Смаленшчына.

В. *Смаленскую губерню:* СНБ, 337.

**[СМАЛЕНШЧЫНА]** *ж. Разм. Тое, што* Смаленская губерня. *Яны* [кучка бальшавіцкіх камісараў] *аддзялілі ад Маскоўскай вобласці Смаленскую губерню і землі, паложаныя на захад ад Смаленшчыны..* СНБ, 337.

Р. *Смаленшчыны*: СНБ, 337.

**[СМАРГОНЬ]** *м.* Горад у Гродзенскай вобласці каля р. Вілія. *З-пад Смаргоні, з-пад Маладзечна, з-пад Крывічоў і г.д., і г.д. абарваныя, галодныя людзі ходзяць па сваёй бацькаўшчыне і па чужынцах і просяць...* АБ, 16.

Р. *Смаргоні*: АБ, 16.

**"СМЫК БЕЛАРУСКІ"** *м.* Зборнік вершаў Цёткі. *Як навіну ў гэтых творах трэба адзначыць выхад у сьвет першага беларускага рамана – гэта "Сокі Цаліны" Цішкі Гартнага і "Дудка Беларуская" і "Смык Беларускі"..* ВСп, 89.

Н. *"Смык Беларускі"*: ВСп, 89.

**[СМЯТАНА]** (2) *м.* Берджіх, чэшскі кампазітар, дырыжор, піяніст, грамадскі дзеяч. *Праглядалі мы* [дэлегаты] *таксама оперу кампазітара Смятаны "Праданая нявеста" ў тэатры "Народнае дзівадла".* ПЧ. *..А.Талстой разам з Францам Кубкам будзе працаваць над перакладам пастаноўкі на савецкай оперы Смятаны "Праданая нявеста"..* Там жа.

Р. *Смятаны* (2): ПЧ (2).

**СНК** *м. Скар.* Савет народных камісараў. *Рэформа правапіса, праведзеная пастановай СНК БССР ад 26 жніўня 1933г., мае велізарнае палітычнае і гістарычнае значэнне.* ШБСЯ.

**"СОВБУР"** *м.* Назва пасады ў п'есе "Тутэйшыя". [Мікіта]: *..да маёй рангі рэгістратара дабавіла* [начальства] *ганаровую падрангу, якая па-нашаму завецца "Совбур".* Т, 46.

Н. *"Совбур"*: Т, 46.

**СОВЕТ ВЯРХОЎНЫ** *гл.* **ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ БССР.**

**[СОВЕТЫ]** *толькі мн. Тое, што* Савецкі Саюз. *З імем шчаслівым тваім* [Сталіна] *у Хасане Байцы самураяў тапілі, Лёталі гордыя за акіяны Советаў арліныя крыллі.* СС, 302.

Р. *Советаў*: СС, 302.

**СОВЕЦКІ САЮЗ** *гл.* **САВЕЦКІ САЮЗ**.

**[СОЖ]** *м.* Рака, левы прыток Дняпра. *З-пад пушчаў Палесся, з-пад Нёмана, Сожа, З-пад Пцічы, Дняпра і Заходняй Дзвіны, З-пад стыку са светам чужым і варожым Прыйшлі мы, Совецкай краіны сыны.* ПБН.

Р. *Сожа*: ПБН.

**"СОКАЛ"** *м.* Чэшская спартыўная арганізацыя. *У Празе*

*мы* [дэлегаты] *наведалі "дабрачынны камбінат" імя Масарыка, дом спартыўнай чэшскай арганізацыі "Сокал".* ПЧ.

Н. *"Сокал"*: ПЧ.

**"СОКІ ЦАЛІНЫ"** *м.* Раман Цішкі Гартнага. *Як навіну ў гэтых творах трэба адзначыць выхад у сьвет першага беларускага рамана – гэта "Сокі Цаліны" Цішкі Гартнага і "Смык Беларускі"..* ВСп, 89.

Н. *"Сокі Цаліны"*: ВСп, 89.

**СОНЦА** *н. Міф.* Бог у дахрысціянскай рэлігіі ўсходніх славян. *..і прозвішчы багі мелі не такія, як цяпер; называліся яны: Сонца, Пярун, Каляда ды іншыя яшчэ.* Кз, 17.

Н. *Сонца*: Кз, 17.

**СПІЧЫНІ** (61), **ГЭНРЫХ МОТАВІЧ СПІЧЫНІ**, **ГЭНРЫХ МОТАВІЧ** (4) *м.* Персанаж п'есы "Тутэйшыя". *Гануля выходзіць і варочаецца, а з ёю Спічыні.* Т, 31. *Гэнрых Мотавіч Спічыні – Мікітавы настаўнік, сярэдняга веку, бараду і вусы голіць.* Там жа, 19. [Мікіта]: *Гэнрых Мотавіч! Як жа гэта вы мяне вучылі, меджду протчым?* Там жа, 61.

Н. *Спічыні* (55): Т, 31(9), 32(3), 36, 39, 40(5), 41(5), 48(4), 49(11), 50(3), 59(2), 60(3), 61(8); *Гэнрых Мотавіч Спічыні*: Т, 19; *Гэнрых Мотавіч* (4): Т, 41, 61(3). Р. *Спічыні* (2): Т, 61(2). Д. *Спічыні* (2): Т, 32, 62. В. *Спічыні* (2): Т, 34, 56.

**СССР** *гл.* **САВЕЦКІ САЮЗ.**

**СТАЛІН** (64), **ІОСІФ ВІСАРЫЁНАВІЧ СТАЛІН** (4), **ІОСІФ ВІСАРЫЁНАВІЧ** *м.* Савецкі партыйны дзеяч. *А дружба народаў Савецкага Саюза, як сказаў таварыш Сталін, мае нават большае значэнне, чым нашы гаспадарчыя поспехі..* ЖН. *Няхай жыве на многія годы наш правадыр Іосіф Вісарыёнавіч Сталін!* НКУС. *Яшчэ хачу сказаць* [Купала] *словамі Іосіфа Вісарыёнавіча: радасна жыць, весела жыць, весела працаваць.* ЖН.

• **Аб Сталіне-сейбіту. Добра жыць, тварыць і змагацца ў эпоху нашага мудрага Сталіна. Дзякуй партыі Леніна-Сталіна. Нашым кандыдатам ў Вярхоўны Совет БССР – таварышам Сталіну, Молатаву, Варашылаву і Ежову. Пісьмо беларускага народу Вялікаму Сталіну.**

Δ **Сталін-сейбіт** (6): *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня ад сонца, ад зор залатых, Якую пяе уся наша зямля, Аб сейбіту светлы разносячы слых.* СС, 300. *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня ад казак, чароўных тых сноў, Што сталіся яваю нашага дня, Што збавілі долю ад пут, ланцугоў.* Там жа, 301.

Н. *Сталін* (18): ВГ; ЖН; ЗЯЗ, 296; МПв, 220; НКУС (4);

ПДз, 83, 89; ПН, 314(2); ПЧ; РК; СА, 178; СД; СК, 158; ХЛВ, 316; *Іосіф Вісарыёнавіч Сталін* (2): ЖН; НКУС; *Іосіф Вісарыёнавіч*: ПБН. Р. *Сталіна* (13): ВГР; ДЖ (3); ДПЛС (4); НКУС (3); СТ; ЦСБ; *Іосіфа Вісарыёнавіча*: ЖН. Д. *Сталіну* (11): Бч, 73; ВНП; ДПЛС (2); НКУС; ПБН; СБ; СС, 302; СТ; ТП, 213; ШБСЯ; *Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну* (2): ВГР; ШБСЯ. В. *Сталіна* (4); Вб, 236(2); ВВ, 263; ГВУ. Т. *Сталіным* (5): АЛ; МП; СС, 302(2); ЦСБ. М. *Сталіне* (13): ПДС, 232; СС, 300(3), 301(3), 302(2), 303; ТП, 216, 217(2).

**[СТАЛІНГРЭС]** *м. Скар.* Сталінградская гідраэлектрастанцыя. *Ад саматужных майстэрняў да Сталінгрэса, да Гомсельмаша.. – вось вялікі і складаны шлях Савецкае Беларусі.* ВГР.

Р. *Сталінгрэса*: ВГР.

**“СТАЛІНЕЦ”** (4) *м.* Назва трактара. *Паляту я* [трактарыстка]*, трактар, “Сталінец” мой слаўны, Дзе воблакі ходзяць, Плаваюць дзе плаўна.* ПТ, 207. *Трактар, мілы трактар, “Сталінец” мой слаўны, Пахавалі гора Мы з табой нядаўна.* Там жа, 207.

Н. *“Сталінец”* (4): ТП, 206, 207(3).

**СТАЛЬСКІ: [СУЛЕЙМАН СТАЛЬСКІ]**, **СУЛЕЙМАН** (2) *м.* Лезгінскі савецкі паэт-ашуг, народны паэт Дагестана. *Рос і гадаваўся ў бядзе, без хлеба Сулейман гаротны, наш пясняр удалы.* ПСС, 231. *Ды мінулі годы Бедаў і кайданаў, Прыйшла радасць, воля Ў хату Сулеймана.* Там жа, 232.

• **Памяці дагестанскага ашуга Сулеймана Стальскага.**

Н. *Сулейман*: ПДС, 231. Р. *Сулеймана Стальскага*: ПДС, 231; *Сулеймана*: ПДС, 232.

**[СТРЖАЛКОВА]** *ж.* Прозвішча памешчыцы ў аўтабіяграфіі Купалы. *Маці з дзецьмі пасля смерці бацькі пераязджае на арандаваную зямлю памешчыцы Стржалковай.* А, 328.

Р. *Стржалковай*: А, 328.

**[СУВОРАЎ]** *м.* Аляксандр Васільевіч, рускі палкаводзец і ваенны тэарэтык, генералісімус. *Патомкі вялікіх салдат Суворава, .. абараняйце сваю зямлю, змагайцеся так, як змагаліся вашы продкі, не давайце літасці ворагу!..* РКП.

Р. *Суворава*: РКП.

**СУДНІК: [ГАЛЕНА СУДНІК]** *ж.* Медыцынская сястра, якая дапамагала Купалу ў бальніцы. *Так сама дзякую* [Купала] *ад усёй душы ўсім сёстрам бальнічным, асабліва п. Галене Суднік..* ЛР.

Д. *Галене Суднік*: ЛР.

**[СУЛА]** *ж.* Рака, левы прыток Дняпра. *А там, за Сулою,*

*па той бок граніцы, Дзе звесілі дзюбы панура арлы, Клянуць сваю долю, свой лёс чужаніцы І панства фашызма крывавай імглы.* ПБН.

Т. *Сулою*: ПБН.

**СУЛЕЙМАН** *гл.* **СТАЛЬСКІ.**

**СУОМІ** *ж. Фін. Тое, што* Фінляндыя. *Будзеш Суомі йсці яснай дарогай, Новага будзеш складаць Калевалу З рунаў красы, барацьбы, перамогаў.* Ф.

Н. *Суомі*: Ф.

**СЦЯПАН З.**, **СЦЯПАН** *м.* Імя ў артыкуле “Пад прыкрыццём спадніц”. *Сцяпан падаў каманду: – Па спаднічнаму войску – агонь!* ПСп. *Вось які выпадак здаўся днямі ў партызанскім атрадзе Сцяпана З. з Падлесся.* Там жа.

Н. *Сцяпан*: ПСп. Р. *Сцяпана*: ПСп.

**[СЬВІСЛАЧ]** *ж.* Рака, правы прыток Беразіны. [С.Меч:] *Ліпень, жнівень і верасень я пражыў у Меншчыне, на беразе Сьвіслачы...* ХБ, 28.

М. *Сьвіслачы*: ХБ, 28.

**СЬНЯДЭЦКІ** *м.* Ян, польскі астраном, матэматык, філосаф-асветнік. *..даваў ён* [унівэрсытэт] *і Польшчы і цэламу сьвету мудрых і слаўных людзей, як напр. Адам Міцкевіч, Сьнядэцкі, Лелявэль і шмат іншых.* УПУВ.

Н. *Сьнядэцкі*: УПУВ.

**СЬЦЯПАН** *гл.* **БАТОРЫ.**

# Т

**Т.** *гл.* **ЖЫВАПІСЦАВА.**

**ТАЛСТОЙ: А. ТАЛСТОЙ** *м.* Аляксей Мікалаевіч, рускі савецкі пісьменнік, грамадскі дзеяч. *..А.Талстой разам з Францам Кубкам будзе працаваць над перакладам пастаноўкі на савецкай сцэне оперы Смятаны “Праданая нявеста”.* ПЧ.

Н. *А.Талстой*: ПЧ.

**ТАРАС** *гл.* **ШАЎЧЭНКА.**

**ТАРАШКЕВІЧ** (2), **[Б. ТАРАШКЕВІЧ]** *м.* Браніслаў Адамавіч, беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, філолаг. [Мікіта]: *Вы* [Янка]*, можа, параіце мне яшчэ вашага Тарашкевіча граматыку зубрыць?* Т, 48. *Не магу так сама ня ўспомніць* [Купала] *добрым словам д-ра Малькевіча, які на кватэры аказаў мне першую помач, а таксама проф. Іваноўскага, Б.Тарашкевіча..* ЛР.

Н. *Тарашкевіч*: ВСп, 89. Р. *Тарашкевіча*: Т, 48. В. *Б.Тарашкеві-*

*ча*: ЛР.

**[ТАРКВОМАДА]** *м.* Томас, кіраўнік інквізіцыі ў Іспаніі (1420-1498). *Забабон стварыў для гішпанскай інквізіцыі крыжаванага ката Тарквомаду.* З.

В. *Тарквомаду*: З.

**ТАРЫБА** *м.* Контррэвалюцыянер у час Грамадзянскай вайны. *"Антанта, прымаючы пад увагу, што Пятлюра, Тарыба, Дэнікін і т.д. нічога не варты, што яны грызуцца паміж сабой, махнула на іх усіх рукою, узяла паехала ў Маскву..* Ан, 19.

Н. *Тарыба*: Ан, 19.

**ТАСС** *м. Скар.* Тэлеграфнае агенства Савецкага Саюза. *З пачуццём найвялікшага гневу я* [Купала] *прачытаў паведамленне ТАСС аб разбойнічым нападзе японскай ваеншчыны на свяшчэнныя граніцы нашай радзімы.* ВГ.

**ТОМАН** *м.* Чэхаславацкі пісьменнік. *Совецкія пісьменнікі і журналісты пазнаёміліся з такімі дзеячамі мастацтва, як .. пісьменнікі Ольбрахт, Томан, Гора, Кубка і інш.* ПЧ.

Н. *Томан*: ПЧ.

**ТРОЦКІ** (7) *м.* Леў Давыдавіч (сапр.: Бранштэйн). Савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч. *Пятакоў і Радэк, Троцкі – ўся арава – Хлёбалі, зладзюгі, З адной міскі страву.* МПв, 218. *..абымаецца* [Антанта] *з Троцкім і Калмановічам і крычыць: "Хай жыве савет салдацкіх, работніцкіх, сялянскіх ды іншых дэпутатаў!..."* Ан, 19.

Н. *Троцкі* (2): МПв, 218, 219. Д. *Троцкаму*: Ан, 19. В. *Троцкага*: Ан, 19. Т. *Троцкім* (3): Ан, 19(2); ВНЗ.

**["ТРУДЫ"]** *м.* Зборнік навуковых артыкулаў БДУ. *Адзін толькі Беларускі Дзяржаўны Універсітэт а ніяк ня можа адважыцца на беларушчыну: выпусьціў за мінулы год два ёмкія сшыткі сваіх "Трудов", але пабеларуску ў іх ні слова.* ВСп, 90.

Р. *"Трудов"*: ВСп, 90.

**[ТУРКЕСТАН]** *м.* Тэрыторыя ў Сярэдняй і Цэнтральнай Азіі. *Ён* [расійскі ўрад] *беларусаў-хлебаробаў зманіваў за Урал, у Сібір, у Туркестан, а то і ў Амерыку.* ЗС, 18.

В. *Туркестан*: ЗС, 18.

**[ТУРЧЫНСКІ]** *м.* Памешчык маёнтка Сенніца Мінскай губерніі. *У 1883г. ён* [бацька] *служыў у маёнтку Юзэфава ў памешчыка Багдановіча, у 1887г. – у маёнтку Косіна, у 1889 г. – у маёнтку Сенніца памешчыка Турчынскага.* А, 327–328.

Р. *Турчынскага*: А, 328.

**[ТУРЭЧЧЫНА]** *ж. Разм.* Турцыя. *Ішлі беларускія сыны за Урал, ішлі ў фінскія балоты, ішлі пад Царград у Турэччы-*

*ну і пралівалі там рэкамі сваю бязвінную кроў..* БВ, 16.
В. *Турэччыну*: БВ, 16.
**[ТЭМЗА]** *ж.* Самая вялікая рака Англіі. *..Болей не будзе ён* [фінскі народ] *з торбай жабрацкай Жыць, як прыкажа з-пад Тэмзы сатрапа.* Ф.
Р. *Тэмзы*: Ф.
**[ТЭРРАЎСКІ]** (3) *м.* Уладзімір Васільевіч, беларускі савецкі харавы дырыжор, кампазітар і фальклярыст. *Хор Тэрраўскага у Менску пяе песьню: "Працуй, беларусе..." і так сама называе гэта гымнам.* СБНГ. *..у гарадзкім тэатры адбыўся спэктакль, у якім выступаў і беларускі хор Тэрраўскага.* Там жа.
Р. *Тэрраўскага* (3): ВСп, 90; СБНГ (2).

# У

**У.: У.<СЕВАЛАД>** *гл.* **ІГНАТОЎСКІ.**
**["УДАЛЫ САЛДАТ ШВЕЙК"]** *ж.* Кніга Я. Гашэка. *Мы* [дэлегаты] *наведалі тэатр вядомага рэжысёра Эміля Бурыяна, дзе праглядзелі пастаноўку "Удалага салдата Швейка".* ПЧ.
Р. *"Удалага салдата Швейка"*: ПЧ.
**[УКРАІНСКАЯ РЭСПУБЛІКА]** *ж.* Украінская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. *..яны* [расійскія бальшавікі] *змушаны былі хоць фікцыйна ствараць ільлюзіі, што яны так сама спачуваюць нацыянальным тэндэнцыям падняволіваных імі народаў, і такім чынам стваралі "незалежные" рэспублікі, як напр. Беларускую, Украінскую.* СНБ.
В. *Украінскую рэспубліку*: СНБ.
**УКРАІНА** (9) *ж.* Паўднёва-заходняя частка Расіі, населеная ўкраінцамі. *Як і сто лет таму назад, стогне пад ярмом Беларусь, Украіна, Арменія, Індыя і дзесяткі іншых дзяржаў і народаў.* Тж, 16. *Не толькі Прымор'е, Урал і Украіну трацкісцкія дыверсанты прадавалі фашыстам.* ВНЗ.
Н. *Украіна* (4): АПЖ; БВ, 16; Нз, 14; Тж, 16. Р. *Украіны*: БВ, 16. В. *Украіну*: ВНЗ. Т. *Украінай* (2): ЗЯЗ, 89, 90. М. *Украіне*: БВ, 16.
**[УКРАІНСКАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК]** *ж.* Навуковая ўстанова Украіны. *З пашанай Акадэмік Беларускай і Украінскай Акадэміі Навук Я.Купала.* ШБСЯ.
Р. *Украінскай Акадэміі Навук*: ШБСЯ.
**УЛЬМАНІС** *м.* Адзін з кіраўнікоў контррэвалюцыі ў часы грамадзянскай вайны. *..Антанта прызнала Пятлюру,*

*Ульманіса, Тарыбу, навет беларускую раду і загадала ім усім скасаваць Калчака, Дэнікіна, Юдэніча..* Ан, 19.

В. *Ульманіса*: Ан, 19.

**[УРАЛ]** (4) *м.* Горная сістэма на мяжы Еўропы і Азіі. *Ішлі беларускія сыны за Урал, ішлі ў Фінскія балоты, ішлі пад Царград у Турэччыну і пралівалі там рэкамі сваю бязвінную кроў..* БВ, 16. *Ён* [расійскі ўрад] *беларусаў-хлебаробаў зманіваў за Урал, у Сібір, у Туркестан, а то і ў Амерыку.* ЗС, 18.

В. *Урал* (4): БВ, 16(2); ВНЗ; ЗС, 18.

**[УРАНГЕЛЕЎСКІ ФРОНТ]** *м.* Раён ваенных дзеянняў у час грамадзянскай вайны. [Мікіта]: *..пры новай палітычнай сытуацыі будуць дабравольна браць маладых мусьі і дабравольна адпраўляць іх на Урангелеўскі фронт.* Т, 55.

В. *Урангелеўскі фронт*: Т, 55.

**[УСМИРЫЦЕЛЬСКІ ВУЕЗД]** *м.* Назва ў фельетоне "Хто к лесу, а хто к бесу". [Адзін мужык:] – *Аб якой ты гэта вярзеш слабодзе?* [Другі мужык:] – *Ну, аб Слабодзе, Нагайкаўскай воласьци, Усмирыцельскаго вуезду, што недалёка ад Прыгонава и Висельнева.* ХЛБ.

Р. *Усмирыцельскаго вуезду*: ХЛБ.

**[УСПЕНСКІ]** *м.* Партыйны дзеяч. *Я* [Купала] *раскажу аб слаўных чэкістах т.т. Ягодзе, Фірыне, Успенскім і інш. ..* ЦСБ.

М. *Успенскім*: ЦСБ.

**УСХОД** (6) *м., перан.* Расія. *Новая доля, шчаслівая доля Ясна з Усходу квяцістай дарогай Сходзіць ад пушчы, на рэкі, на поле, Сее вясёласць, зганяе трывогу.* Мц, 75. *Набок з дарогі, панове і гаспада з Захаду і Усходу!* НДН, 18. *Параўн.* Всход.

Н. *Усход*: Г, 17. Р. *Усходу* (3): ВМ, 72; МІ, 18; Мц, 75. В. *Усход* (2): ЖН; Т, 54.

**[УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ]** (2) *м. Гіст.* Частка тэрыторыі Беларусі (сучасныя Магілёўская, Гомельская і ўсходняя частка Віцебскай і Мінскай абласцей). *Ты з Заходняй, я з Усходняй Нашай Беларусі, Больш з табою ўжо ніколі Я не разлучуся.* ТЗУ, 293.

• **Ты з Заходняй, я з Усходняй...**

Р. *Усходняй Беларусі* (2): ТЗУ, 293(2).

**[УСЯСЛАЎ]** *м.* Брачыславіч, польскі князь. *Войска Усяслава Не ідзе ў паход На той бой крывавы За свой край, народ.* МД.

Р. *Усяслава*: МД.

## Ф

**ФАЙФР** *м.* Начальнік ваенна-паветраных сіл Чэхаславакіі. *..нас* [дэлегатаў] *сустрэў начальнік ваенна-паветраных сіл Чэхаславакіі генерал Файфр..* ПЧ.

Н. *Файфр*6 ПЧ.

**ФЁДАРАВІЧ** *гл.* **ГІКАЛО.**

**ФІНЛЯНДЫЯ** (2) *ж.* Краіна на поўначы Еўропы. *З чорнай памрокі ў праменні зарніцаў Выйдзеш, Фінляндыя, чараў краіна!* Ф. *Параўн.* Суомі.

• **Фінляндыі.**

Н. *Фінляндыя*: Ф. Д. *Фінляндыі*: Ф.

**[ФІРЫН]** *м.* Партыйны дзеяч. *Я* [Купала] *раскажу аб слаўных чэкістах т.т. Ягодзе, Фірыне, Успенскім і інш. ..* ЦСБ.

М. *Фірыне*: ЦСБ.

**[ФОРД]** *м.* Амерыканскае прадпрыемства па выпуску аўтамабіляў. *Баця мае своеасаблівую сістэму, якая вельмі нагадвае амерыканскага Форда.* ПЧ.

В. *Форда*: ПЧ.

**ФРАНЦ** *гл.* **КУБКА.**

**ФРАНЦІШАК** *гл.* **БАГУШЭВІЧ.**

**[ФРАНЦЫЯ]** *ж.* Дзяржава ў Заходняй Еўропе. *Ужо ад нейкага часу ў Францыі працуе паўмільёна людзей над адбудовай таго, што вайна разрушыла.* АБ, 16.

М. *Францыі*: АБ, 16.

## Х

**[ХАРКАЎ]** *м.* Горад на Украіне. *..праменьні яго* [універсітэта] *дасягалі аж да Масквы і Харкава...* УПУВ.

Р. *Харкава*: УПУВ.

**[ХАСАН]** *м.* Возера на паўднёвым усходзе Прыморскага края Расіі паблізу заліва Пасьета на мяжы з Карэяй. *З імем шчаслівым тваім* [Сталіна] *у Хасане Байце самураяў тапілі..* СС, 302.

М. *Хасане*: СС, 302.

**[ХІБІНЫ]** *толькі мн.* Горны масіў на Кольскім паўвостраве. *Маё мне сонца правадыр, Мне сцежкі знача безупынна, За ім ляцеў-бы на Памір І на Эльбрус, і на Хібіны.* МСП, 187.

В. *Хібіны*: МСП, 187.

**[ХМЯЛЬНІЦКІ]** *м.* Багдан Міхайлавіч, украінскі дзяржаўны і ваенны дзеяч, гетман Украіны (1648). *..патомкі*

*народных палкоў Хмяльніцкага, .. абараняйце сваю зямлю, змагайцеся так, як змагаліся вашы продкі, не давайце літасці ворагу!..* РКП.

Р. *Хмяльніцкага*: РКП.

**ХРЫСТОС** (4) *м. Рэл.* Міфічная асоба, культ якой ляжыць у аснове хрысціянскай рэлігіі. *Два сьвяты на сьвеце – ад нівы да нівы: Хрыстос уваскрос! Наступае весна!* В. *Штось срэбнікаў з трыццаць, – як піша ў законе, – Узяў за Хрыста калісь Юда...* Р.

Н. *Хрыстос* (2): В (2). Р. *Хрыста*: БН, 93. В. *Хрыста*: Р.

**[ХРЫСТОЎ]** (2) *прым да* Хрыстос. *..Нейкі нехрысьць крапідлам махае, пяе Ды шыпіць, як гадзюка, Хрыстова імя, І за золата гэта імя прадае.* БН, 92. *Тыя ў дагонцы за блескам часовым, Брацьцяў запрэглі ў нявольнічы плуг, Тыя, таргуючы імем Хрыстовым, Цемру і здраду спладзілі ўвакруг.* Г, 16. *Параўн.* Хрыстосаў.

Адз. н. Т. *Хрыстовым*: Г, 16. Кар. н. В. *Хрыстова*: БН, 92.

# Ц

**Ц.: Ц.<ІШКА>** *гл.***ГАТРНЫ.**

**[ЦАРГРАД]** *м.* Царгорад, старажытная назва Канстанцінопаля (сучасны Стамбул). *Ішлі беларускія сыны за Урал, ішлі ў фінскія балоты, ішлі пад Царград у Турэччыну і пралівалі там рэкамі сваю бязвінную кроў..* БВ, 16.

В. *Царград*: БВ, 16.

**[ЦАРСТВА ВІЗАНТЫЙСКАЕ]** *н.* Візантыя, дзяржава, якая ўтварылася ва ўсходняй частцы Рымскай імперыі ў выніку падзелу яе ў 395 г. *З далёкіх заморскіх старон – з зямлі Варшаўскай, з царства Візантыйскага і з другіх знамянітых гасударстваў і каралеўстваў прыязджалі па моры і па сушы багатыя госці з багатымі таварамі..* Кз, 17.

Р. *царства Візантыйскага*: Кз, 17.

**ЦЁТКА** *ж.* (сапр.: Пашкевіч Алаіза Сцяпанаўна) беларуская паэтэса-рэвалюцыянерка. *Памёр М.Багдановіч, Цётка, Іван Луцкевіч, шмат інш.* МІ, 17.

Н. *Цётка*: МІ, 17.

**ЦІШКА** *гл.* **ГАРТНЫ.**

**[ЦЫГЕЛЬМАН]** *м.* Аўтар падручніка па матэматыцы, выдадзенага ў 1922 г. *Па матэматыцы – чатыры: Валасковіч і Лукашэвіч, Круталевіч, Цыгельман..* ВСп, 89.

В. *Цыгельман*: ВСп, 89.

**ЦЭНТРАБЕЛСАЮЗ** *м. Скар.* Цэнтральны беларускі саюз. *..галоўнымі пайшчыкамі гэтага выдавецтва зьяўляецца Наркамасьветы і Цэнтрабелсаюз..* ВСп, 91.
Н. *Цэнтрабелсаюз:* ВСп, 91.

# Ч

**ЧАРВЯКОЎ, [АЛЯКСАНДР ГРЫГОР'ЕВІЧ ЧАРВЯКОЎ]** *м.* Савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч. [Мікіта]: *Ужо нават едзе і старшыня Беларускага Рэўкома Чарвякоў – толькі затрымаўся недзе за Менскам на папаску.* Т, 55. *Я* [Купала] *вітаю старшыню Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Советаў – Аляксандра Грыгор'евіча Чарвякова.* ЖН.
Н. *Чарвякоў*: Т, 55. В. *Аляксандра Грыгор'евіча Чарвякова*: ЖН.

**[ЧАРНЯЕЎ]** *м.* Арганізатар агульнаадукацыйных курсаў у Петраградзе. *У Вільні працаваў* [Купала] *у бібліятэцы і "Нашай ніве", пасля чаго апынуўся ў Петраградзе на агульнаадукацыйных курсах Чарняева..* А, 328.
Р. *Чарняева*: А, 328.

**ЧАРОТ МІХАСЬ** *м.* (сапр.: Кудзелька Міхаіл Сямёнавіч), беларускі савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч. *Аўтары тут – нашы старыя знаёмыя: Багушэвіч Францішак, Бядуля Зьмітрок, .. Чарот Міхась.* ВСп, 89.
Н. *Чарот Міхась*: ВСп, 89.

**[ЧОРНАЕ МОРА]** (2) *н.* Мора на поўдні Еўропы. *Зазвінелі яны* [вызваленчыя думкі] *ад Белага да Чорнага мора, і ад усходу сонца і да захаду сонца на зямлі першага рускага дваранін Нікалая другога.* ДЖ. *..для адбудавання вялікай Расіі ад Белага да Чорнага мора таксама трэба растаптаць Беларусь.* Нз, 14.
Р. *Чорнага мора* (2): ДЖ; Нз, 14.

**ЧЫРВОНААРМЕЕЦ** (9) *м.* Персанаж п'есы "Тутэйшыя". [Чырвонаармеец]: *Ці ня можна ў вас, таварышы, перасядзець, пакуль сцямнее?* Т, 52. [Мікіта]: *(вылазячы з укрыцця, да Чырвонаармейца). А, папаўся, медждху протчым, нарэшце?* Там жа, 52.
Адз. Н. *Чырвонаармеец* (5): Т, 19, 52 (4). Р. *Чырвонаармейца* (3): Т, 52(2), 53. В. *Чырвонаармейца*: Т, 53.

**[ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ]** (5), **[АРМІЯ ЧЫРВОНАЯ]** (2) *ж.* Афіцыйная назва Узброеных сіл Савецкай дзяржавы (акрамя ВМФ), устаноўленая СНК РСФСР 15.1.1918г. *У доме*

*Чырвонай Арміі мы нібы ўбачылі разумны, культурны твар камандзіра нашай роднай Чырвонай Арміі.* ПГ. *Краса нашай Арміі слаўнай Чырвонай Мы пойдзем з табою ў паходы не раз.* НДп, 229.

Р. *Чырвонай арміі* (2): ПГ; ПЧ; *Арміі Чырвонай*: НДп, 229. В. *Чырвоную армію* (2): ДЖ; ЖН. Т. *Чырвонай арміяй*: ШБСЯ; *арміяй Чырвонай*: ПДз, 83.

**[ЧЭРВЕНЬШЧЫНА]** *ж. Разм.* Чэрвеньскі раён. *Бацька мой* [Купалы] *родам з Чэрвеньшчыны..* А, 327.

Р. *Чэрвеньшчыны*: А, 327.

**[ЧЭХАСЛАВАКІЯ]** (12) *ж.* Краіна ў Цэнтральнай Еўропе. *Становішча прамысловасці Чэхаславакіі, яе сістэму лепш за ўсё характарызуе "абутковы горад" Баці ў Зліне.* ПЧ. *Сельская гаспадарка ў Чэхаславакіі вядзецца прымітыўна.* Там жа.

• **Падарожжа па Чэхаславакіі.**

Р. *Чэхаславакіі* (6): ПЧ (6). В. *Чэхаславакію*: ПЧ. М. *Чэхаславакіі* (5): ПЧ (5).

# Ш

**[ШАНТЫР]** (2) *м.* Станіслаў, мемуарыст, гісторык рэлігіі. *..сваіх бальшавіцкіх беларускіх "нацыяналістаў" – Шантыра, Дылу, Фальскага (Жылуновіч успеў к таму часу ўцячы) – садзяць* [бальшавікі] *у вастрог..* СНБ, 339. *..рэшта "портфелей" былі падзелены паміж Дылам, Мясніковым, Шантырам, Яркіным ды іншымі.* Там жа, 338.

В. *Шантыра*: СНБ, 339. Т. *Шантырам*: СНБ, 338.

**ШАЎЧЭНКА, [ТАРАС ШЭЎЧЭНКА]** *м.* Украінскі паэт, мастак, рэвалюцыянер-дэмакрат. [Янка]: *Для вас* [Мікіты], *як для рускага колежскага рэгістратара, яна* [інтэлігенцыя], *можа, й чыстая, але для мяне яна – "Варшавске смецце, гразь Масквы", як сказаў вешчы Шаўчэнка.* Т, 39. *..у перапынках паміж адной паэтычнай успышкай і другой – я* [Купала] *перакладаю "Кабзар" Тараса Шэўчэнкі для юбілейнага зборніка.* МП.

Н. *Шаўчэнка*: Т, 38. Р. *Тараса Шэўчэнкі*: МП.

**ШАЯ** *ж.* Імя ў п'есе "Тутэйшыя". [Аленка]: *Ці не час ужо, дзядзька настаўнік, пакінуць гамонку ды ісці ў заезд, а то, чаго добрага, Шая замкне браму?* Т, 39.

Н. *Шая*: Т, 39.

**[ШВЕЙЦАРСКІЯ ГОРЫ]** *мн.* Альпы ў межах Швейцарыі. *Вы* [паны гандляры] *таксама бяссільны павяр-*

*нуць долю народаў у той ці іншы бок, як бяссільны вецер перанесці Каўказскія ці Швейцарскія горы адны на месца другіх.* Тж, 16.

Мн. В. *Швейцарскія горы*: Тж, 16.

**ШВЕЙЦАРЫЯ** (3) *ж.* Краіна ў цэнтры Еўропы. *Мы* [беларусы] *крыху адсунуты ад мора, але і Швейцарыя не мае мора.* Нз, 14. *Геаграфічнае палажэнне Беларусі таксама не горшае, як у людзей, ну, хоць бы як палажэнне Швейцарыі.* Там жа, 14.

Н. *Швейцарыя* (2): Нз, 14, 15. Р. *Швейцарыі*: Нз, 14.

**[ШКОДА]** (2) *ж.* Аўтамабілебудаўнічая фірма ў Чэхаславакіі. *Вылучаюцца па сваёй тэхнічнай дасканаласці заводы Шкоды, Вітковіцкія, "абутковы горад" Баці ў Зліне.* ПЧ. *Мы* [дэлегаты] *наведалі рад прамысловых прадпрыемстваў у Оломоуце, Прасценаве, Зліне,.. аглядалі вядомыя заводы Шкоды.* ПЧ.

Р. *Шкоды* (2): ПЧ (2).

**ШПАЦЭРЗОН** (3) *ж.* Прозвішча ў п'есе "Тутэйшыя". [Спічыні]: *(чытае). "Баронэса Шпацэрзон, ганаровы член Менскай дабрачыннасці".* [Начальнік]: *Шпацэрзон... Шпацэрзон... Ну, усё роўна, – пойдзе і яна.* Т, 60-61.

Н. *Шпацэрзон* (3): Т, 60(3).

**ШЫЛА**[1] *м.* Мікалай. Беларускі грамадскі дзеяч. *Верш мой* [Купалы] *справакавалі: .. Шыла, які асвятляў Дзям'яну Беднаму гэты верш у правакацыйным сэнсе.* СЧ.

Н. *Шыла*: СЧ, 432.

**ШЫЛА**[2] *м.* Прозвішча ў п'есе "Тутэйшыя". [Мікіта]: *Беларусь, мая старонка, Куток цемнаты, Жыве Шыла, Грыб, Мамонька, – Будзеш жыць і ты.* Т, 56.

Н. *Шыла*: Т, 56.

**ШЭСТОЎ** *м.* Леў (сапр.: Леў Ісаакавіч Шварцман), рускі філосаф-экзістэнцыяліст і літаратар. *Шэстоў, Ліўшыц, Радэк, Пятакоў, Муралаў, – Растаптаць, як гнідаў, вас, звяр'ё, замала!* МПв, 218.

Н. *Шэстоў*: МПв, 218.

# Э

**ЭЛЕМЕНТАРНАЯ МАТЭМАТЫКА** *м.* Падручнік па матэматыцы, выдадзены ў 1922 г. *№17, гэта – першы выпуск Інстытуту Беларускае Культуры: Беларуская навуковая тэрміналогія. Элементарная матэматыка.* ВСп, 89.

Н. *Элементарная матэматыка*: ВСп, 89.

**ЭЛЬБРУС** (2) *м.* Самы высокі масіў Вялікага Каўказа. *І рэха ляцела дарогаю слаўнай, Ажно з-пад Эльбруса і да Беларусі.* ПСС, 232. *Маё мне сонца правадыр, Мне сцежкі знача безупынна, За ім ляцеў-бы на Памір І на Эльбрус, і на Хібіны.* МСП, 187.

Р. *Эльбруса*: ПСС, 232. В. *Эльбрус*: МСП, 187.

**ЭМІЛЬ** *гл.* **БУРЫЯН.**

**ЭСТОНІЯ** *ж.* Краіна ў паўночна-ўсходняй частцы Еўропы. *Мы бачым, што нашы суседнія дзяржавы, як Украіна, Літва, Латвія, Эстонія і іншыя, маюць ужо сваю армію.* БВ, 16.

**ЭЎРОПА** *гл.* **ЕЎРОПА.**

# Ю

**[ЮБІЛЕЙНЫ ДОМ]** *м.* Назва будынка ў п'есе "Тутэйшыя". [Спраўнік]: *Толькі што пайшоў* [Поп] *адбіраць у беларусаў ключы ад Юбілейнага дому.* Т, 58.

Р. *Юбілейнага дому*: Т, 58.

**ЮДА** *м.* Іуда Іскарыёт. Згодна біблейскай міфалогіі, адзін з 12 вучняў (апосталаў) Іісуса Хрыста, які выдаў настаўніка ў рукі іерусалімскіх улад за 30 срэбнікаў. *Што срэбнікаў з трыццаць, – як піша ў законе, – Узяў за Хрыста калісь Юда...* Р.

Н. *Юда*: Р.

**ЮДЭНІЧ** (3) *м.* Мікалай Мікалаевіч, кіраўнік контррэвалюцыі ў Расіі ў часы грамадзянскай вайны. *"Антанта, прымаючы пад увагу, што Калчак, Дэнікін і Юдэніч – царскія генералы, што яны хочуць адбудаваць у Расіі царскае самадзяржаўе і зрабіць з яе ўзноў жандарма Еўропы, – баючыся, значыцца, усяго гэтага, Антанта прызнала Пятлюру, Ульманіса, Тарыбу, навет беларускую раду і загадала ім усім скасаваць Калчака, Дэнікіна, Юдэніча..* Ан, 19.

Н. *Юдэніч*: Ан, 19. В. *Юдэніча* (2): Ан, 19(2).

**ЮЗЭФАВА** *н.* Вёска ў Барысаўскім раёне Мінскай вобласці. *У 1883г. ён* [бацька] *служыў у маёнтку Юзэфава ў памешчыка Багдановіча..* А, 327.

Н. *Юзэфава*: А, 327.

**"ЮНЫЙ ПАХАРЬ"** *м.* Назва часопіса. *Некалькі вершаў пабеларуску надрукавала і другая расійская тутэйшая часопісь "Юный пахарь".* ВСп, 90.

Н. *“Юный пахарь”*: ВСп, 90.

**[ЮРАЎСКАЯ ВУЛІЦА]** *ж.* Вуліца ў Мінску (сучасная Савецкая). [Мікіта]: *Калі і выходзіць у мяне такое-сякое, меджду протчым, “па”, то мушу быць удзячным нашаму з Юраўскай вуліцы танц-клясісту Грачаніну.* Т, 39.

Р. *Юраўскай вуліцы*: Т, 39.

**ЮРКА** (3) *м.* Імя ў п’есе “Тутэйшыя”. [Гарошка]: *Я табе* [Ганулі] *йшчэ не казаў, мая свацейка, што ў мяне апрача Аленкі быў і сын – Юрка.* Т, 44. [Гарошка]: *Як людзі казалі, і мой Юрка не адстаў. Вылез на вуліцу і давай на чым свет шумець і крычаць: “Зямлі і волі!”* Там жа, 44.

Н. *Юрка* (3): Т, 44(3).

# Я

**Я.[1]: Я<ЗЭП>** *гл.* **ЛЁСІК.**

**Я.[2]: Я<НКА>** *гл.* **КУПАЛА.**

**[ЯГОДА]** *м.* Генрых Рыгоравіч. Савецкі дзяржаўны дзеяч. *Я* [Купала] *раскажу аб слаўных чэкістах т.т. Ягодзе, Фірыне, Успенскім і інш.* ЦСБ.

М. *Ягодзе*: ЦСБ.

**ЯЗЭП** *гл.* **ПІЛСУДЗКІ.**

**ЯКУБ** *гл.* **КОЛАС.**

**ЯНКА[1]** *гл.* **КУПАЛА.**

**ЯНКА[2]** *гл.* **ЗДОЛЬНІК.**

**ЯНКА[3]** (3), **ЯНУК** (2) *м.* Персанаж верша Я.Купалы “Едзе Янка ў поле...” *Едзе Янка ў поле, Едзе ваяваці, А дзяўчына, як маліна, Выйшла праважаці.* ЕЯП. *Журыцца дзяўчына, Што Янук пакінуў...* Там жа.

• **Едзе Янка ў поле...**

Н. *Янка* (3): ЕЯП (3); *Янук* (2): ЕЯП (2).

**[ЯНКАЎ]** (2) *прым. да* Янка[2]. *Стукае* [Гануля] *ў Янкавы дзверы.* Т, 25.

Мн. В. *Янкавы* (2): Т, 25, 35.

**ЯНУК** *гл.* **ЯНКА[3].**

**ЯНЧУК** (3) *м.* Мікалай Андрэевіч, беларускі, украінскі і рускі вучоны-славіст, пісьменнік. *Далей, да верша Я.Купалы “Не пагаснуць зоркі ў небе...” улажыў музыку Янчук, і так сама назваў гэта гымнам.* СБНГ. *Добры ўклад у беларускую школьную літаратуру зрабіла і кніга праф. Янчука “Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры”.* ВСп, 89.

Н. *Янчук*: СБНГ. Р. *Янчука* (2): ВСп, 89(2).

**[ЯПОНІЯ]** *ж.* Дзяржава ў Ціхім акіяне. *..калі возьмем за прымер цяперашнія некаторыя дзяржавы, хоць бы – Англію, Японію і ім падобныя, то мы бачым адно, што гэтыя дзяржавы ў сваім імперыялістычным і мілітарным усёзнішчаючым паходзе мелі адну ярка зарысованую мэту – гэта заграбіць як найболей пад сваё каршуновае крыло чужых малых народаў..* НДН, 18.

В. *Японію*: НДН, 18.

**ЯРКІН** (3) *м.* Віктар Іванавіч, рэвалюцыянер, удзельнік барацьбы за ўладу Саветаў на Беларусі. *На чале “чразвычайкі” стаў не Яркін, вядомы ў Смаленску сваёй крывавай ненасытнасцю, а нейкая другая асоба.* СНБ, 339. *Там* [у Смаленску]*, на чале з Калмановічам, Мясніковым і Яркіным, зрабіла* [кучка бальшавіцкіх камісараў] *маленькі ўнутраны пераварот.* Там жа, 337.

Н. *Яркін*: СНБ, 339. Т. *Яркіным* (2): СНБ, 337, 338.

**ЯСЕНІН** *м.* Сяргей Аляксандравіч, рускі савецкі паэт. *Павесіўся Ясенін, застрэліўся Маякоўскі, ну і мне* [Купалу] *тады за імі дарога.* СЧ.

Н. *Ясенін*: СЧ.

**[ЯСІНСКІ]** *м.* Бруна, польскі і рускі савецкі пісьменнік. *Не магу* [Купала] *так сама ня ўспомніць добрым словам .. Б.Тарашкевіча, Ясінскага, Ерохава і інш., што сваімі рукамі на насілках занесьлі мяне з кватэры аж у бальніцу.* ЛР.

В. *Ясінскага*: ЛР.

С 48 **Слоўнік мовы Янкі Купалы.** У 8 т. Т. 8. Кн. 2: С–Я (дадатак) / склад.: У. В. Анічэнка [і інш.]; рэдкал.: У. А. Бобрык (адказны рэд.) [і інш.]; М-ва адукацыі РБ, Гомельскі дзярж. ўн-т імя Ф. Скарыны. – Гомель : ГДУ імя Ф. Скарыны, 2012. – 488 с.
ISBN 978-985-439-638-5 (Т. 8)
ISBN 978-985-439-640-8 (Кн. 2)

У восьмы том выдання ўключаны апісанні слоў з купалаўскіх літаратурна-мастацкіх і публіцыстычных твораў на беларускай мове, якія ў свой час не ўвайшлі ў сямітомны збор твораў (Мн., 1972–1976). Прыведзена частотнасць ужывання і вызначаны граматычныя формы і семантычны аб'ём кожнага рэестравага слова, пададзены стылістычныя паметы і прыклады з твораў паэта.

Папярэднія 6 тамоў выйшлі ў выдавецтве "Беларуская навука" ( Т. 1 – 1997 г., Т. 2 – 1999 г., Т. 3 – 2001 г., Т. 4 – 2002 г., Т. 5 – 2003 г., Т. 6 – 2003 г.). Том 7 выдадзены ГДУ імя Ф. Скарыны ў 2012 г.

Разлічаны на моваведаў, літаратуразнаўцаў, гісторыкаў, а таксама на ўсіх, хто шануе і паважае беларускае слова.

УДК 811.161.3'374:012 Купала
ББК 81.411.3–4